**В. У. Верціхоўская**
**М. І. Верціхоўская**

# Школьны тлумачальны слоўнік

*З рускамоўнымі адпаведнікамі*

УДК 811.161.3'374.3
ББК 81.2 Беи-4 В35

Рэцэнзент: старшы выкладчык кафедры методыкі выкладання інтэграваных школьных курсаў факультэта дауніверсітэцкай падрыхтоўкі БДПУ А. У. Саламевіч

Верціхоўская, В.У.

Школьны тлумачальны слоўнік/ В.У. Верціхоўская, М.І. Верціхоўская. — Мн. : УніверсалПрэс, 2006. — 384 с.

ISBN 985-6699-52-5

Перад вамі — школьны слоўнік-мінімум агульнаўжывальнай, у пераважнасці ўласнабеларускай, нарматыўнай лексікі.

Адметная асаблівасць гэтага выдання — спалучэнне ў ім тлумачальнага і перакладнога слоўнікаў, а таксама багаты ілюстрацыйны матэрыял да слоў і выразаў, значэнне якіх раскрываецца.

Тлумачальны слоўнік арганічна ўвабраў у сябе і кароткі беларуска-рускі слоўнік прыказак — «залацінак» народнай мовы, выкарыстаных у якасці ілюстрацый. Да пераважнай большасці прыказак пададзены адпаведнікі з рускай мовы.

Слоўнік будзе спрыяць развіццю маўлення вучняў, стане трывалым падмуркам выпрацоўкі маўленчых навыкаў. Афарыстычныя выразы і прыказкі вучні змогуць выкарыстаць пры падрыхтоўцы да сачыненняў, рэфератаў, водгукаў, а таксама ў вусных выказваннях.

Для вучняў школ, гімназій, ліцэяў, студэнтаў, выкпадчыкаў, і ўсіх тых, хто дбае пра чысціню і выразнасць роднай мовы.

УДК 811.161.3'374.3
ББК81.2 Бей-4

ISBN 985-6699-52-5

## Ад аўтараў

Аўтары паставілі перад сабой задачу скласці слоўнік-мінімум агульнаўжывальнай нарматыўнай лексікі, аддаючы перавагу ўласнабеларускім словам. У іх, як у скарбніцы, засведчаны багаты духоўны вопыт нашага народа, яго гісторыя, звычаі, традыцыі, адметнасці побыту, матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, асаблівасці нашага нацыянальнага характару і ментальнасці, прыроды роднага краю.

Адметная асаблівасць прапанаванага школьнікам выдання – спалучэнне ў ім тлумачальнага і перакладнога слоўнікаў, а таксама багаты ілюстрацыйны матэрыял да слоў і выразаў, значэнне якіх раскрываецца. Адметнасць і ў пэўным сэнсе унікальнасць (у практыцы ўкладання школьных слоўнікаў такая спроба зроблена ўпершыню) абумоўлена задачамі слоўніка.

Аўтары імкнуліся стварыць слоўнік, які найлепшым чынам паспрыяе развіццю маўлення вучняў, стане трывалым падмуркам выпрацоўкі іх маўленчых навыкаў.

Шматгадовы вопыт выкладання ў школе і арганізацыі на ўроках непасрэднай працы са школьнымі слоўнікамі пераканаў аўтараў, што слоўнікі, у якіх толькі тлумачацца словы (а тлумачацца да ўсяго, на вялікі жаль, у асноўным іншамоўныя), не спрыяюць развіццю маўлення.

Магутным сродкам развіцця маўленчай культуры вучняў з'яўляецца ўзор выкарыстання слова. Толькі ў кантэксце і маўленчай сітуацыі слова набывае пэўнае значэнне і выконвае сваю камунікатыўную функцыю. Для слоўніка такім узорам з'яўляюцца найперш фрагменты з высокамастацкіх твораў, далучэнне да якіх — увогуле адзін з эфектыўных шляхоў развіцця маўлення вучняў.

Пры адборы ілюстрацыйнага матэрыялу перавага аддавалася тым урыўкам з мастацкіх твораў (а пераважная большасць з іх — творы для дзяцей і пра дзяцей), у якіх не толькі выкарыстаны адпаведныя слоўнікавым артыкулам словы, але і тлумачыцца іх сэнс. Да прыкладу, хіба можна параўнаць словаспалучэнне тыпу «пачалася залева» ў якасці ілюстрацыі з такім вось фрагментам казкі У. Дубоўкі «А чаму куртаты заяц?»:

Тут якраз і дождж паліўся,
ды які там дождж! — залева
хлабыстала справа, злева.
На паўнеба — бліскавіцы...

Такога кшталту ілюстрацыі з'яўляюцца яшчэ і адным са спосабаў тлумачэння. Безумоўна, да кожнага слова такія ілюстрацыі падабраць

проста немагчыма. Таму наступным крытэрыем адбору мы вылучылі ўзровень афарыстычнасці, «крылатасці» прыведзеных у якасці ілюстрацый выразаў. Да прыкладу, значэнні слоў «мінулае» і «шляхетны» праілюстраваны афарызмамі Яна Баршчэўскага «Мінулае вучыць нас, якжыць сёння» і «Шляхетны той чалавек, які, жывучы на гэтым свеце, слухае адно загады Божыя» адпаведна.

Карыстальнікі слоўніка заўважаць, што аўтары аддавалі перавагу вершаваным урыўкам у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу. Тэта тлумачыцца не толькі тым, што вершаваная мова вылучаецца ўзроўнем вобразнасці і абагульнення. Мы свядома пайшлі на працаёмкі пошук менавіта вершаваных радкоў, бо ўласцівыя ім рытм і рыфма спрыяюць лепшаму запамінанню. А гэта значыць, што яны, як і прыказкі, хутчэй і лягчэй стануць здабыткам юных чытачоў і паспрыяюць узбагачэнню іх маўлення. Многія з гэтых урыўкаў, як і афарыстычныя выразы, вучні змогуць выкарыстаць пры падрыхтоўцы да сачыненняў, рэфератаў, водгукаў, а таксама ў вусных выказваннях.

Істотная адметнасць прапанаванага слоўніка — яго змест паводле ўключаных для тлумачэння слоў. Вядома, уключэнне ці неўключэнне таго ці іншага слова ў школьны слоўнік можа і, напэўна, будзе выклікаць спрэчкі і пярэчанні. Мабыць, гэта непазбежна, бо яшчэ невядомы дакладныя крытэрыі адбору ў такі слоўнік.

Адбор слоў у гэтым слоўніку абумоўлены яго задачамі, накіраванасцю і канцэптуальнасцю. Мы імкнуліся стварыць слоўнік сапраўды беларускай мовы, у якім колькасць іншамоўных слоў мінімальная.

Такая накіраванасць слоўніка зрабіла магчымым выкарыстанне ў якасці ілюстрацый «залацінак» народнай мовы — прыказак і фразеалагізмаў. У іх — душа народа, яго самабытнасць і неацэнны духоўны вопыт, яго характар і ментальнасць, генетычны код у яго сканцэнтраваным выглядзе. Прыказкі і фразеалагізмы шырока прадстаўлены ў слоўніку ў кантэксце тлумачэння слоў. І вучні пераканаюцца, што ў іх — не толькі мудрасць, але і выключная таленавітасць нашага народа. Большасць нашых прыказак — рытмізаваная, рыфмаваная, сюжэтная. Досціп, выключная вобразнасць і высокі ўзровень абагульнення дасягаецца нярэдка да ўсяго яшчэ і спалучэннем канкрэтыкі і гумару. Вывучыць такія трапныя выслоўі — не толькі ўзбагаціць сваё маўленне, але наогул узбагаціць сябе неацэнным духоўным вопытам народа.

Аўтары палічылі неабходным падаць да прыказак адпаведнікі з рускай мовы, тым самым патлумачыўшы і іх сэнс. і вынікла, што тлумачальны слоўнік арганічна ўвабраў у сябе і кароткі беларуска-

рускі слоўнічак прыказак і прымавак. Аднак галоўная мэта такой падачы ілюстрацыйнага матэрыялу — пераканальна (у кантэксце і ў комплексе з іншымі спосабамі тлумачэння слова) давесці, што пераклад трапных народных выслоўяў выключае калькаванне і патрабуе падбору адпаведнікаў з іншых моў.

Такім чынам, у слоўніку комплексна выкарыстаны наступныя спосабы тлумачэння слоў:

а) апісанні-азначэнні, у якіх коратка раскрываецца рэальны сэнс слова;

б) падбор сінонімаў, радзей — антонімаў;

в) падбор да беларускага слова аднаслоўнага адпаведніка ў рускай мове ці некалькіх слоў-сінонімаў, а ў асобных выпадках — словазлучэнняў (калі беларускаму слову няма аднаслоўнага адпаведніка ў рускай мове: буслянка — гнездо аиста; цагельня — кирпичный завод; прыгон — крепостное право; апрытомнець — прийти в сознание, очнуться от обморока; шуфляда — выдвижной ящик, багоўка — божья коровка і шмат інш.).

Да нёкаторых слоў безэквівалентнай лексікі (г.зн., якім у рускай мове няма аднаслоўнага адпаведніка) пераклад на рускую мову не падаецца ўвогуле, бо ён патр'абуе не словазлучэння, а шматслоўнага апісальнага выразу, тоеснага самому тлумачэнню слова. Да прыкладу, словы «дзядзькаванне», «Дзяды».

Зазначым, што ў нашым слоўніку не падаецца пераклад і да тых слоў, у тлумачэнні якіх ёсць словы ці сінонімы, сугучныя з рускімі. Намі ўлічваліся фактары білінгвізму і лепшага валодання большасцю школьнікаў рускай мовай у параўнанні з беларускай. Да прыкладу, не падаецца пераклад слова «шлях» у значэнні «шырокая, прыстасаваная для руху дарога», бо пераклад запатрабаваў бы менавіта слова «дорога», якое ўжо ўтрымліваецца ў азначэнні. Затое да слова «шлях» у значэнні «прастора, на якой адбываецца перамяшчэнне некага, нечага», даецца пераклад — «путь».

Аўтары клапаціліся пра тое, каб слоўнік быў зручным у карыстанні, улічвалі тое, што яго карыстальнікі — найперш юныя чытачы, школьнікі рознага ўзросту. Калі незразумелае слова сустрэнецца ў тлумачэннях або ў ілюстрацыях, то яго трэба шукаць на сваім месцы ў алфавітным парадку.

Звяртаем увагу карыстальнікаў, што ў вершаваных ілюстрацыях ёсць выпадкі адступленняў ад правіла напісання літар у і ў. Гэта абумоўлена неабходнасцю захавання рытму.

Пры карыстанні слоўнікам варта ўлічваць, што з усяго гнязда аднакаранёвых слоў для тлумачэння выбіраліся, як правіла, аднодва

найбольш ужывальныя, па якіх лягка можна вызначыць сэнс і іншых слоў гэтага кораня. Да прыкладу, тлумачацца назоўнік усведамленне, прыметнік утульны, дзеяспоў абмяркоўваць, з якіх можна даведацца і значэнне адпаведных ім аднакаранёвых: усведамляць утульнасць; абмеркаванне.

У адпаведнасці з акрэсленымі задачамі структура слоўнікавага артыкула ўключае наступныя элементы: загаловачнае слова; граматычную характарыстыку назоўнікаў і дзеясловаў, да прыслоўяў — памета «прысл.»; стылістычную характарыстыку; ілюстрацыйны матэрыял. Фразеалагічныя і іншыя ўстойлівыя словаспалучэнні пададзены асобным абзацам за знакам [♦]. Для назоўнікаў мужчынскага роду II скланення абавязкова пададзены канчатак роднага склону адзіночнага ліку. Для зручнасці карыстання пераклад слова і адпаведнікі прыказак з рускай мовы пададзены паўтлустым шрыфтам.

Усе значэнні мнагазначнага слова падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле і адзначаюцца ў радку арабскімі лічбамі з кропкай. Амонімы (словы, аднолькавыя па гучанні, але розныя па значэнні) памячаюцца арабскімі лічбамі зверху справа і падаюцца ў асобных артыкулах.

Аўтары спадзяюцца, што адметнасць слоўніка і яго скіраванасць на развіццё маўлення вучняў заўважаць выкладчыкі роднага слова і змогуць наладзіць на ўроку адпаведную працу са слоўнікам, у тым ліку і з выкарыстаннем эўрыстычных прыёмаў. У слоўніку мноства прыкладаў з твораў для дзяцей, сюжэты якіх — фантастычныя, прыгодніцкія. У прыведзеных урыўках значэнне слоў ілюструецца, аднак фрагментарнасць тэксту пры ўдумлівым яго прачытанні стварае сітуацыю, якая вымагае і чытацкай фантазіі, «дадумання» і «судумання» з пісьменнікам. У чытача непазбежна ўзнікаюць пытанні: Як такое магчыма? Што гэтаму папярэднічала? Што з гэтага вынікае? Самыя дасціпныя пажадаюць звярнуцца да твораў пісьменнікаў, каб зверыць сваю фантазію з фантазіяй аўтараў. Бо сапраўды ж цікава даведацца, што за сітуацыя вымагала ад хлопца зрабіць чаравічкі для сваёй каханай з ... пяску і ці магчыма гэта ўвогуле: Хоць і клопат быў вялікі, ўсё ж зрабіў ён чаравікі з пазлацістага пясочку на дзяўчыніны слядочкі...

Але, як трапна зазначыў У. Дубоўка, «казка любіць небыліцы, хоць і праўды не баіцца». Беларускі казачны герой зладаваў-такі чаравічкі для сваёй чараўніцы менавіта з пясочку. Прычым не фантастычным, а зусім рэальным спосабам...

Змест слоўніка паводле яго слоўнікавага складу дае вялікія магчымасці для арганізацыі слоўнікавай працы на ўроку, як калектыўнай, так і індывідуальнай. Паводле слоўніка і са слоўнікам

можна праводзіць цікавыя практыкаванні з выкарыстаннем элементаў гульні, спаборніцтва.

Мы назвалі толькі некаторыя віды працы, якія можна правесці на ўроку з дапамогай школьнага тлумачальна-перакладнога слоўніка. Але нават і яны сведчаць пра тое, што слоўнік можа даць вельмі шмат кожнаму, хто хоча авалодаць велізарным скарбам — роднай мовай.

Пры падрыхтоўцы слоўніка выкарыстаны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (у 5-і т.), школьныя тлумачальныя слоўнікі беларускай і рускай моў, БелЭн, «Словарь русского языка» С. І. Ожагава, перакладныя слоўнікі — беларуска-рускі і руска-беларускі, «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» І.Я. Лепешава, «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем» З. Санько, слоўнік «Самабытнае слова» І. Шкрабы і ішныя выданні.

Выказваем шчырую падзяку рэцэнзенту Алене Уладзіміраўне Саламевіч за парады, слушныя заўвагі і дапамогу пры падрыхтоўцы рукапісу да выдання.

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

Аа Бб Вв Гг Дд (Дждж) (Дздз) Ее Ёё Жж Зз Іі Йй Кк Лл Мм Нн Оо Пп Рр Сс Тт Уу Ўў Фф Хх Цц Чч Шш Ыы Ьь Ээ Юю Яя

### Умоўныя скарачэнні

| | | | |
|---|---|---|---|
| Абл. | абласное слова | м. р. | мужчынскі род |
| аг. р. | агульны род | М | месны склон |
| адз. | адзіночны лік | мн. | множны лік |
| ас. | асоба | н. р. | ніякі род |
| безас. | безасабовы дзеяслоў | наз. | назоўнік |
| вык. | выказнік | нар. паэт. | народна-паэтычнае слова |
| выкл. | выклічнік | | |
| высок. | высокі стыль | незак. | незакончанае трыванне дзеяслова |
| выш. ст. | вышэйшая ступень | | |
| г. | -год | неадабр. | неадабральнае |
| гг. | гады | нескл. | нескланяльнае слова |
| г.зн. | гэта значыць | н. ст. | новы стыль |
| Гіст. | адносіцца да гісторыі, | нязм. | нязменнае слова |
| | гістарычны тэрмін | пабочн. сл. | пабочнае слова |
| груб. | грубае слова | пагард. | пагардлівае |
| Д | давальны склон | памянш. | памяншальная форма |
| дап. | дапаўненне | памянш.-ласк. | памяншальна-ласкальная форма |
| дзеепрым. | дзеепрыметнік | | |
| дзеясл. | дзеяслоў | | |
| жан. | форма жаночага роду да... | Паэт. | паэтычнае слова |
| | | перан. | пераноснае значэнне |
| жарт. | жартоўнае | проціл. | процілеглае |
| ж. р. | жаночы род | пр. ч. | прошлы час |
| заг. | загадны лад | Прык. | прыказка |
| займ. | дзеяслова | прым. | прыметнік |
| | займеннік | прыназ. | прыназоўнік |

| | | | |
|---|---|---|---|
| зак. | закончанае трыванне | прысл. | прыслоўе |
| збор. | дзеяслова | Р | родны склон |
| | зборны назоўнік | Разм. | размоўнае слова |
| злучн. | злучнік | рус. | пераклад слова на |
| З нар. | з народнай творчасці | | рускую мову |
| знач. | -значэнне | спец. | спецыяльны тэрмін |
| зневаж. | зневажальнае | ст. | стагоддзе |
| іг.д. | і гэтак далей | стст. | стагоддзі |
| інф. | інфінітыў | ст. ст. | стары стыль |
| інш. | іншае | Т | творны склон |
| і пад. | і падобнае | ужыв. | ужываецца, ужыванне |
| іран. | у іранічным сэнсе | Уст. | устарэлае слова |
| Кніжн. | кніжны стыль | часц. | часціца |
| ласк. | ласкальная форма | | |

## Умоўныя знакі

◘ — знак, які аддзяляе слова і граматычную характарыстыку ад кароткага, але дастаткова зразумелага для чытача тлумачэння слова і ілюстрацыйных прыкладаў
♦ — фразеалагізм і іншае ўстойлівае спалучэнне слоў
□ -знак, які адцзяляе цытаты ад прыкладаў аўтараў дадзенага слоўніка
... — скарачэнне ў цытаце
[ ] — знак (квадратныя дужкі), які ўказвае на адноўлены з кантэксту прапушчаны член няпоўнага сказа ці неабходнае для разумения сэнсу сказа дадатковае тлумачэнне
// — адценне значэння.

## Прачытай уважліва!

Аўтары слоўніка сутыкнуліся з вялікай цяжкасцю пры размежаванні трапных народных выслоўяў на прыказкі і прымаўкі. Паколькі ў слоўніку ў якасці ілюстрацый выкарыстана значная колькасць народных выслоўяў (каля паўтысячы), то мы вымушаны патлумачыць складанасць праблемы размежавання прыказак і прымавак.

Справа ў тым, што не толькі ў размежаванні, але нават у азначэнні прыказкі і прымаўкі паміж даследчыкамі — мовазнаўцамі і літаратуразнаўцамі, аўтарамі вучэбных і даведачных выданняў — няма адзінства і паразумення. Так, да прыкладу, адны аўтары вучэбных выданняў даводзяць, што «ад прыказкі прымаўка адрозніваецца ... і тым, што яна не заключав ў сабе павучання». Другія, наадварот, робяць акцэнт на павучальны змест прымаўкі ўжо ў самім яе азначэнні: «Прымаўка — устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу»[1].

Мы сутыкнуліся з выпадкамі, калі аўтары дапаможнікаў і даведачных выданняў супярэчаць не толькі адзін аднаму, але і самім сабе, ілюструючы свае высновы прыкладамі. Вельмі часта нам трапляліся выпадкі, калі адно і тое ж народнае выслоўе ў адным выданні (падручніку, дапаможніку і нават слоўніку) падаецца як прыказка, а ў другім — як прымаўка, у трэцім — наогул з паметай «З нар.» (да прыкладу, «Каса — дзявочая краса»).

Нарэшце, ёсць выданні, у якіх вылучаюцца некаторыя адрозненні паміж прыказкай і прымаўкай, а выснова робіцца наступная: «Аднак гэтыя адрозненні носяць умоўны характар. Прыказкі і прымаўкі ўтвараюць адзіную групу ўстойлівых выразаў»[2]. А далей характарыстыка гэтых выразаў у супастаўленні з фразеалагізмамі даецца ў непарыўнай сувязі: «Прыказкі (прымаўкі)...».

Нам падаецца, што найбольш дасканалымі, вычарпальнымі і празрыстымі з'яўляюцца крытэрыі, вылучаныя і сфармуляваныя яшчэ У.І. Далем. ЁН адзначаў, што «прыказка — кароценькая прытча». Для прыказкі неабавязкова, як даводзяць некаторыя сучасныя даследчыкі, каб яна ўяўляла сабой складаны ці ўскладнены сказ. Вось нават не прытча, а цэлая паэма, і паэма трагічная, а ў ёй тольКі два словы: «Беспасажніца — безадказніца».

У. І. Даль пісаў: «Прымаўка, паводле народнага азначэння, красачка, а прыказка — ягадка; і гэта правільна». І далей ён вызначаў: «гэта адна першая палова прыказкі»[3].

Сапраўды, прымаўкі быццам друзачкі забытых ці невядомых нам вершаў: «На адзін дзень сем перамен», «Як увосень: на дзень пагод восем».

І ўсё ж нельга не пагадзіцца з наступнай высновай некаторых даследчыкаў. «Умоўны характар» адрозненняў не дазваляе ў некаторых выпадках з абсалютнай дакладнасцю вызначыць жанр

---

[1] Старычонак В.Дз. Беларуская мова: ад А да Я. — Мн.: Вышэйшая школа, 2000. —С. 222-223.
[2] Камароўскі Я., Красней В., Лазоўскі У. і інш. Сучасная беларуская мова. — Мн.: Вышэйшая школа, 1995. — С. 289.
[3] Энциклопедический словарь юного литературоведа. — М.: Педагогика, 1988.-С. 216-217.

народнага выслоўя. Мабыць, гэта тыя выпадкі, калі нельга не ўлічваць і суб'ектыўны фактар успрымання народнага выслоўя.

І сапраўды, хіба не «ўмоўны» сам крытэрый павучальнасці? Мабыць, маюць рацыю і тыя, хто ў любым народным выслоўі «чуе» павучанне ці папярэджанне. Нават у тым, у якім утрымліваецца канстатацыя негатыўных з'яў і фактаў («Які чорт да лазні, такі і пасля лазні», «У вочы з мілым тварам, а за вочы крутым варам» і інш.). Бо і народныя выслоўі, як і мастацкі твор, байка, да прыкладу, нават адмаўляючы — сцвярджаюць.

Мы палічылі слушнай такую выснову вучонага-лінгвіста І. Я. Лепешава адносна акрэсленай праблемы: «...Каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, уяўляецца найбольш лагічным, апраўданым скасаваць тэрмін «прымаўка» як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін «прыказка» для абазначэння кароткіх народных афарызмаў, якія валодаюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю»[4]. Гэтай высновай мы і кіраваліся, пазначаючы ў слоўніку народныя афарызмы.

Звяртаем увагу карыстальнікаў слоўніка, што ў канцы яго змешчаны дадатак. Усе народныя выслоўі-ілюстрацыі, да якіх падаюцца рускамоўныя адпаведнікі, зведзены ў «Малы беларускарускі слоўнік прыказак і прымавак» (у алфавітным парадку). Паўтлустым шрыфтам выдзелена тое слова, якое праілюстравана ў слоўніку дадзеным народным афарызмам.

---

[4] Лепешаў І.Я. Пра вывучэнне прыказак у курсе мовы. Бел. мова і літаратура, 2004, № 4.

# А

**Аазіс**, наз., м. р., -а. ◘ 1.Месца з крыніцай і раслінnасцю сярод пустыні.
Як адшукаць ў пустэльні выйсце, каб да вады ў аазіс выйсці? У. Д.
2. перан. Пра нейкае прыемнае выключэнне на агульным шэрым фоне. Культурны аазіс.

**Ababak**, наз., м. р., -бка. ◘ Ядомы грыб на высокай тонкай ножцы; падбярозавік.

**Абавязак**, наз., м. р., -зку. ◘ Дзеянні, якія павінны быць выкананы ў адпаведнасці з патрабаваннямі; рус. обязанность, долг. Старанна вучыцца — абавязак школьніка. Абараняць Айчыну — воінскі абавязак.

□ Няўжо ўвесь век жыць з панскай ласкі
І перад ім чуць абавязкі?
І слугаваць яму, старацца
І ў тры пагібелі згінацца. К-с.

**Абагуліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Зрабіць асабістае, уласнае калектыўным, грамадскім; рус. обобществить. Абагуліць гаспадарку. Абагуліць жывёлу.

**Абагульнённе**, наз., н. р. ◘ Агульны вывад, заснаваны на вывучэнні фактаў, з'яў; рус. обобщение. Схільнасць да абагульненняў. Вывучэнне гісторыі патрабуе абагульненняў.

**Абагульніць**, -ню, -ніш, -ніць; зак. ◘ 1. Знайсці агульнае ў розных думках, фактах, з'явах і на падставе гэтага зрабіць выснову; рус. обобщить. Вучань абагульніў прачытанае і атрымаў высокую адзнаку. 2. Знайсці ў дзейнасці людзей, прадпрыемстваў, устаноў нешта вартае пераймання і зрабіць гэта здабыткам усіх. Адміністрацыя школы абагульніла вопыт работы настаўніка па развіцці маўлення вучняў і выхаванні іх нацыянальнай самасвядомасці.

**Абазнацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Памыліцца, палічыўшы некага за другога, нешта за другое; рус. обознаться.

**Абалонка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Знешні слой; тканка, скурка, сценка, якой пакрыта нешта зверху; рус. оболочка. Зямны шар мае цвёрдую абалонку — зямную кару. Рагавая абалонка вока.

**Абалонь**, наз., ж. р. ◘ Лугавое ўзбярэжжа ракі, якое залівaецца ў разводдзе; пойма.

А па кустах, на абалоні,
Ціскі парваўшы і супоні,
І снег на кашу пабярэцца.
У як ні гне мароз, ні гладзіць,

Вада шырока разальецца,        Але нічога не парадзіць. К-с.

**Абамлець**, -ёю, -ёеш, -ее; зак. ◘ 1. Страціць прытомнасць (рус. потерять сознание). 2. Абмярцвець, знямець, збянтэжыцца ад нечаканага страху, здзіўлення. Хлопчык падышоў зусім блізка і абамлеў ад страху і здзіўлення. Я. М.

**Абанемент**, наз., м. р., -а. ◘ Права на карыстанне чым-небудзь, а таксам а дакумент на гэта права. Абанемент у тэатр.

**Абанент**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто мае абанемент. Абаненты бібліятэкі карыстаюцца ўсімі яе паслугамі.

Абаранак, наз., м. р., -нка. ◘ Булачны выраб з заварнога цеста, закручанага кольцам; рус. баранка, бублик.

І любяць дзеда Юрку ўнукі,
Яны цалуюць яму рукі,
А дзед у плечы іх цалуе
І абаранкам патрактуе. К-с.

**Абаронца**, наз., аг. р., -ы, ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -ы, Т -ай (-а/о), ж. р. ◘ Той, хто засцерагае, ратуе ад нападу, варожых дзеянняў; заступнік (рус. защитник). Мужна змагаліся абаронцы Брэсцкай крэпасці.

**Абвергнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ Не згадзіцца з нейкімі сцверджаннямі, чуткамі і даказаць іх непраўдзівасць; рус. опровергнуть.

**Абвестка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Аб'ява; рус. объявление. Абвестка пра сход.

**Абвясціць**, абвяшчу, абвесціш, абвесціць; зак. ◘ 1. Давесці да ведама ўсіх; аб'явіць. Абвясціць падзяку. 2. Афіцыйна ўстанавіць нешта, заявіць аб пачатку нейкага дзеяння, становішча. Абвясціць перамір'е. 3. Урачыста аб'явіць, узаконіць. 15 сакавіка 1994 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Канстытуцыю і абвясціў Беларусь унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай, што і засведчана ў Канстытуцыі нашай дзяржавы.

**Абгрунтаваць**, -тую, -туеш, -туе; зак. ◘ Пацвердзіць фактамі, прывесці пераканальныя доказы; рус. обосновать. Абгрунтаваць высновы.

**Абеліск**, наз., м. р., -а. ◘ Помнік у гонар нейкай падзеі або на ўшанаванне чыёй-небудзь памяці, звычайна ў выглядзе гранёнага слупа, звужанага ўверсе.

Мёртвым паставім абеліскі,
Паспачуваем тым, хто ім блізкі... А. В.

**Аберуч**, прысл. ◘ Абедзвюма рукамі. Павёў доктар пана ў лазню, пасадзіў на палок ды загадаў трымацца аберуч за жэрдку. А. Я. // у перан.

Неруш свой [мову] панясу я аберуч,
Як слязіну з матуліных воч. Р. Б.

**Абзац**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чырвоны радок, водступ управа ў пачатку радка. Пачаць пісаць з абзаца. 2. Тэкст паміж двума водступамі, які пачынае новую думку, паведамленне. Правільна падзяліць тэкст на абзацы.

**Абібок**, наз., м. р., -а. ◘ Лодар, гультай, лежабок; рус. лентяй. Абібокі — авадні на целе грамадства.

**Аблажны**, прым. ◘ У выразе: аблажны дождж — працяглы, зацяжны дождж.

**Абліваха**, наз., ж. р., ДМ -васе. ◘ Зімовы дождж, які замярзае на зямлі, дрэвах; галалёд. Усё абмярзала ў паветры. Даўно людзі не помнілі такой абліваxі. М. Л.

**Аблічча**, наз., н. р. ◘ Твар; рысы, выраз твару. А з аблічча [пра Ганну] — вылітая маці. Мележ. // Знешні выгляд. Змянілася аблічча нашай сталіцы.

**Аблога**[1], наз., ж. р., ДМ -лозе. ◘ Поле, не аранае некалькі гадоў запар; рус. залежь.

**Аблога**[2], наз., ж. р., ДМ -лозе. ◘ Акружэнне войскамі крэпасці, горада; аса да.

Аблажыла аблогай нечаканай арда.
Ніадкуль дапамогі, адусюль жа — бяда. У. Д.

**Абмеркаваць**, абмяркую, абмяркуеш, абмяркуе; зак. ◘ Калектыўна абгаварыць, прааналізаваць і зрабіць высновы; дэталёва прадумаць, усё ўлічыць; рус. обсудить; обдумать.

Такі ж і трэба сёе-тое
Абмеркаваць як мае быць,
Аб тым, аб сім пагаманіць... К-с.

**Абмовіцца**, абмоўлюся, абмовішся, абмовіцца; зак. ◘ Памыліцца пры размове, сказаць не тое, што трэба; рус. обмолвиться, оговориться. Выхаваны чалавек не папраўляе таго, хто абмовіўся.

♦ Не абмовіцца (ні адным) словам — прамаўчаць, змоўчаць, нічога не сказаць.

**Абмяркоўваць**, абмяркоўваю, абмяркоўваеш, абмяркоўвае: незак. ◘ Усім разам абгаворваць, рабіць высновы; усё прадумваць, улічваць; рус. обсуждать; обдумывать.

Мышкі склікалі нараду. Абмяркоўвалі пытанне ад паўночы да світання. У. Д.

**Абора**[1], наз., ж. р. ◘ Вяровачка, якой прымацоўваецца лапаць да нагі. Антось ды Тадора — што лапаць ды абора. Прык. (рус. Муж и жена — одна сатана). Я — Тодар, ты — Тадора, Табе -лапаць, мне — абора. З нар. песні.

**Абора**[2], наз., ж. р. ◘ Вялікае памяшканне для жывёлы; кароўнік.

**Абраз**, наз., м. р., -а. ◘ Выява, малюнак Бога або святога, прадмет рэлігійнага пакланення; ікона. Яму — пра абразы, а ён — пра гарбузы. Прык. (рус. Я про Фому, а он про Ерему). Хлапцы памыліся рупліва, І ўсе з дарэктарам пачціва Пасталі ў рад прад абразамі. К-с.

**Абражаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Крыўдзіць каго-небудзь зняважлівым учынкам, словам; рус. оскорблять. Хто другіх абражае, той ворагаў нажывае. Прык.

**Абразіць**, абражу, абразіш, абразіць\ зак. ◘ Пакрыўдзіць каго-небудзь зняважлівым учынкам; рус. оскорбить. Абразіш некага — нашкодзіш сабе.

**Абрус**, наз., м. р., -а. ◘ Пакрывала на стол; настольнік; рус. скатерть. На стол растрэсваюць мурог — На сене колісь быў Сын-Бог — І роўным пластам рассцілаюць, Сянцо абрусам закрываюць. К-с.

**Абрыдзець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Надакучыць, апрыкраць, апрацівець, апастылець; прыесціся. А хлопцу ўжо абрыдла ў хаце, Ніяк блазноце не сядзіцца, На рэчцы хоча апыніцца. К-с.

**Абрыс**, наз., м. р., -у. ◘ Малюнак прадмета адной вонкавай рыскай; контур (рус. очертание).

**Абскардзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ Падаць афіцыйную скаргу ў вышэйшую інстанцыю, пратэстуючы супраць нейкага рашэння, пастановы, супраць чыіх-небудзь дзеянняў; рус. обжаловать. Падсудны мае права абскардзіць рашэнне суда ў вышэйшай інстанцыі.

**Абслуга**, наз., ж. р., ДМ -ўзе. ◘ 1. Сістэма бытавога абслугоўвання насельніцтва; сервіс.

На вышыні абслуга там: Швейцар, парадак вельмі строгі. А. З. 2. *Службовы персанал. Уся абслуга бальніцы сумленна выконвае свае абавязкі.*

**Абставіны**, наз., адз. няма. ◘ Умовы, у якіх адбываецца нешта, знаходзіцца нехта; рус. обстоятельства. В. Быкаў многімі сваімі творамі даводзіць, што ў сітуацыі, калі абставіны мацнейшыя за чалавека, ад яго залежыць галоўнае — застацца чалавекам.

**Абсталяванне**, наз., н. р. ◘ Сукупнасць прыстасаванняў, прылад, механізмаў, прыбораў і пад., неабходных для нечага; рус. обо-рудование. Абсталяванне завода. Электрычнае абсталяванне.

**Абсяг**, наз., м. р., -у. ◘ Шырокі прастор, як акінуць вокам; абшар, далягляд.

**Абумовіць**, абумоўлю, абумовіш, абумовіць; зак. ◘ 1. Абмежаваць нешта пэўнымі ўмовамі, дамовай; агаварыць. Кампаньёны абумовілі канкрэтны ўдзел і адказнасць кожнага ў агульнай справе. 2. Стаць прычынай, матывам, умовамі для ўзнікнення нечага; рус. обусловить. Дзейнасць Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага абумовіла распаўсюджанне хрысціянства на Беларусі.

**Абурэнне**, наз., н. р. ◘ Вельмі моцнае незадавальненне, гнеў; рус. возмущение, негодование. Абурэнне несправядлівасцю.

**Абутак**, наз., м. р., -тку. ◘ Вырабы са скуры або іншага матэрыялу, прызначаныя на ногі; рус. обувь. Скураны абутак.

**Абцас**, наз., м. р., -а. ◘ Цвёрдая набойка на падэшве пад пятой; каблук. Чаравічкі на высокіх абцасах. □ Ідзе дарогаю шырокай, Абцасы ляскаюць па бруку. Прыцішылася ўсё навокал, Бо напалохаў гэты грукат. У. Д.

**Абцугі**, наз., толькі мн. ◘ 1. Прылада для выцягвання цвікоў і запекания жалеза; рус. клещи; щипцы. 2. перан. Тое, што заціскае развіццё чаго-небудзь, абмяжоўвае.

♦ Трапіць у абцугі — аказацца ва ўмовах, што скоўваюць, заціскаюць.

♦ Узяць у абцугі — стварыць некаму безвыходнае становішча.

**Абшар**, наз., м. р., -у. ◘ Неабсяжны прастор; абсяг.

На тым абшары, на шырокім,
Раскошна нівы красавалі. К-с.

**Абыякавасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Адсутнасць цікавасці да некага, нечага. 2. Раўнадушнасць да навакольнага наогул; рус. безразличие. Абыякавасць — хвароба душы.

**Абыякавы**, прым. ◘ Які не выяўляе ніякай цікавасці; раўнадушны. Нельга быць абыякавым да несправядлівасці і людской бяды.

**Абясшкодзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ Адвесці бяду, зло, шкоду; зрабіць бясшкодным; рус. обезвредить. Абясшкодзіць міну. □ Чалавек прасіў праверыць, ці абясшкодзілі тую бомбу, бо яна можа нарабіць вялікай бяды. В. Х.

**Абяцаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Дабравольна даваць слова зрабіць што-небудзь, аддаць, перадаць каму-небудзь у яго распараджэнне; рус. обещать. Сам не мае, а другому абяцае. Прык. 2. Выклікаць спадзяванні, падаваць надзеі. Глядзеў, ці хіліцца ўніз дым, — Дажджу нішто не абяцала. К-с.

♦ Абяцаць залатыя горы — вельмі многа абяцаць, не клапоцячыся пра выкананне.

**Авадзень**, наз., м. р., авадня. ◘ Насякомае, лічынкі якога паразітуюць у целе жывёл; рус. овод. А авадні, як рой пчаліны, Сляпіцай лезуць да скаціны, Гудуць драпежна, тнуць балюча, Бы крапіва тая пякуча,. Дыхнуць каровам не даюць. К-с.

**Авансцэна**, наз., ж. р, ◘ Пярэдняя частка тэатральнай сцэны. Пасля спектакля артысты выйшлі на авансцэну і пакланіліся гледачам.

**Агіда**, наз., ж. р., ДМ агідзе. ◘ Вельмі непрыемнае пачуццё, якое выклікаецца некім, нечым. П'яніцы і абібокі выклікаюць да сябе толькі абурэнне і агіду.

**Агідны**, прым. ◘ Вельмі дрэнны, брыдкі, гадкі, які выклікае агіду; рус. отвратительный, омерзительный. Агідны ўчынак.

**Аграномія,** наз., ж. р. ◘ Навука пра земляробства.

**Агрэст**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Кустовая садова-ягадная расліна; рус. крыжовник. 2. Ягады гэтай расліны. Агрэст садзіла я вясной, Ён ладзіць не хацеў са мной. Ну і было ж турботы з ім — Скалоў мне рукі ён зусім! Хоць шмат я зведала турбот, Затое смачны быў кампот. А. Дз.

**Агулам**, прысл, ◘ 1. Усе разам, гуртам; рус. сообща. Любую бяду агулам адолець лягчэй. 2. Усё адразу, цалкам (купіць, прадаць); рус. оптом. 3. Неканкрэтна, не звяртаючы ўвагі на дэталі, паасобныя факты. Абвінаваціць агулам усіх можа любы, а вось разабрацца і дапамагчы — не кожны.

**Агульна**, прысл. ◘ У агульных рысах, без падрабязнасцяў і дэталяў; рус. общо. Абмаляваць сітуацыю агульна.

**Агульначалавечы**, прым. ◘ Уласцівы ўсім людзям, усяму чалавецтву, які датычыцца ўсіх. Агульначалавечыя каштоўнасці — мір, згода, воля, сям'я, пюбоў і іншыя дабрачыннасці.

**Адаптацыя**, наз., ж. р. ◘ Прыстасаванне арганізмаў або органаў пачуццяў да навакольных умоў. Адаптацыя вока. У новым калектыве лягчэй адаптавацца памяркоўнаму, добразычліваму чапавеку.

**Адасабленне**, наз., н. р. ◘ 1. Аддзяленне, выдзяленне нечага з агульнага, цэлага; адмежаванне некага ад іншых; рус. обособление. 2. У граматыцы: выдзяленне якога-небудзь даданага члена ў гаворцы паўзамі і інтанацыяй, а на пісьме — знакамі прыпынку. Адасабленне акалічнасці, выражанай дзеепрыслоўным словазлучэннем.

**Адбітак**, наз., м. р., -тка і -тку. ◘ 1. -тка. След, што застаецца на нейкай паверхні ад іншага прадмета.

Адбіткі ног яго кладуцца,
А косы свішчуць і смяюцца. К-с.

І ткуцца здольныя пракосы,
Лажацца роўнымі радамі,
А за касцом двума слядамі

2. -тка. Водбліск, адлюстраванне; рус. отражение. Адбіткі дубоў і сасонак чарнеюць з вады. А. Л. 3. -тка. Тэкст, малюнкі і пад., адціснутыя паліграфічным спосабам; рус. оттиск. Прэс падымаюць — і на аркушы выразны адбітак і тэксту і малюнка. 4. -тку. След, адзнака нейкіх пачуццяў, уздзеянняў, уплываў і пад. Час бяжыць імкліва і на ўсё кладзе свой адбітак. 5. -тку. Тое, што з'яўляецца адпюстраваннем, перадачай нечага ў вобразах і паняццях; рус. отображение. Якуб Копас назваў мастацкі твор вобразным «адбіткам родных з'яў».

**Адвага**, наз., ж. р., ДМ -азе. ◘ Смеласць, рашучасць, бясстрашнасць. Хваліць за адвагу. Не хапае адвагі. □ Для Аленкі была вялікая спакуса прачытаць Сцёпку свой верш, але адвагі не хапала. К-с. У каго адвага, у таго й перавага. Прык. (рус. Смелость города берет).

**Адвадзіць**, адваджу, адвадзіш, адвадзіць; зак. ◘ Прымусіць перастаць што-небудзь рабіць, адвыкнуць ад чаго-небудзь; рус. отучить. Лепш не пачынаць курыць, бо потым цяжка будзе адвадзіць сябе ад гэтай шкоднай звычкі.

**Адвеку**, прысл. ◘ З даўніх часоў; спрадвеку; рус. с древних времен. Адвеку людзі ведалі: пакрыўдзіць сіраціну, калеку ці не дапамагчы ім — недаравальны грэх.

**Адвечны**, прым. ◘ Які існуе з самага пачатку, спакон вякоў; даўні, спрадвечны; рус. извечный. Адвечны бор. Адвечны закон: нельга пабудаваць сваё шчасце на няшчасці іншых.

**Адвольны**, прым. ◘ 1. Не абмежаваны ніякімі нормамі, правіламі, свабодны; рус. произвольный. Адвольная ўвага вучня на ўроку тлумачыцца цікавасцю. 2. Непераканальны, бяздоказны, беспадстаўны. Адвольнае распараджэнне. Адвольнае тлумачэнне мастацкага твора.

**Адвячорак**, наз., м. р., -чорка. ◘ Перадвячэрні час. Быў ранні адвячорак. Яшчэ недзе прыветліва свяціла сонца, а пакой ужо напоўніўся змрокам. І. Ш.

**Адвячоркам**, прысл. ◘ У хвіліны перад самым вечарам. Выйдзі адвячоркам у жытное поле І паслухай пошум спелых каласоў. В. В.

**Адгалоссе**, наз., н. р. ◘ Рэха, водгулле; рус. отзвук, эхо. Толькі рэха далятала, Звонкай песні адгалоссе. Н. Г.

**Аддадзены**, 1 .дзеепрым. ад аддаць. ◘ 2. Вернуты назад гаспадару; рус. отданный. Аддадзены доўг — як гара з плеч. 3. Перададзены, уручаны каму-небудзь. 4. Адпраўлены куды-небудзь з пэўнай

мэтай. Аддадзены на дзядзькаванне паніч вучыўся ў сялянскай сям'і любіць зямлю, шанаваць хлеб. 5. Прададзены па нейкай цане. Тавары аддадзены за бясцэнак. 6. Заплачены за нешта. За карціну аддадзены вялікія грошы.

**Адданы**, прым. ◘ Прасякнуты любоўю і вернасцю; рус. преданный. Адданы сын сваей Айчыны.

□ І выхаду шукаў
Адбіта кродных з'яў
У словах-вобразах,
У песнях-вольнаплынных. К-с.

**Адзежа**, наз., ж. р. ◘ Адзенне, вопратка; рус. одежда. Бацькава, спрадвечная, святая, Богам дадзеная адзежа душы чалавека [пра мову]. Ф. Б.

**Адзенне**, наз., н. р. ◘ Вырабы з тканіны, футра, якія надзяюць на сябе; рус. одежда. Цёплае адзенне. Дзіцячае адзенне. Перан. Растрэслі адзенне лясы, Даўно адцвілі верасы. К-с.

**Адзёр**, наз., м. р., адру. ◘ Заразная, пераважна дзіцячая хвароба з густой высыпкай на целе і гарачкай; рус. корь.

**Адзінка**, наз., ж. р., ДМ -цы. ◘ 1. Першы, самы малы цэлы лік, а таксама яго лічбавы знак «1»; рус. единица. 2. Апошняя лічба ў мнагазначных ліках. Двухзначны лік складаецца з адзінак і дзесяткаў. 3. Велічыня, прынятая для вымярэння аднародных з ёю велічынь. Адзінка вымярэння. Гоашовая адзінка ў нашай дзяржаве — рубель. 4. Самастойная частка нечага цэлага. Адміністрацыйная адзінка. 5. Кожная асобная істота, прадмет; службовае месца ў штатным раскладзе пэўнай установы, арганізацыі. Вакантная адзінка.

**Адзнака**, наз., ж. р., ДМ -цы ◘ 1. Метка, знак, пастаўленыя на нечым з пэўнай мэтай; рус. отметка. Адзнака на дрэве. 2. Знак, прыкмета, акалічнасць, па якіх можна пазнаць, вызначыць нешта; рус. признак, примета. Адзнакі хваробы. Сучасная рэчаіснасць набыла такія адзнакі, па якіх відаць, што бездухоўнасць дасягае сваей крытычнай адмеціны і пагражае трагічнымі вынікамі. 3. Асаблівасць, рыса, якімі асоба, прадмет адрозніваюцца ад іншых асоб, прадметаў; рус. отличие. Традыцыйныя адзнакі баеч~ нага жанру — алегорыя і сатырычная накіраванасць. 4. Агульнапрынятае абазначэнне ступені ведаў навучэнцаў; ацэнка. Выдатныя адзнакі — сведчанне не толькі працавітасці і разумовых здольнасцяў вучня, але і яго жыццястойкасці. 5. Ганаровы знак, ордэн, медаль і пад.

Бацька твой — баец славуты,

Гэта бацькава адзнака. П. Б.
Маці беражна з хусцінкі
Зорку з гонарам вымала.

♦ Дыплом з адзнакай — дыплом спецыяліста, які закончыў навучальную ўстанову з выдатнымі адзнакамі; рус. диплом с отличием.

**Адказ**, наз., м. р., -у. ◘ Словы, выказаныя на пытанне; рус. ответ. Пытанне даць за ўсё лягчэй, Знайсці адказ за ўсё цяжэй. У. Д.

**Адказаць**, адкажу адкажаш, адкажа; зак. ◘ 1. Сказаць, паведаміць што-небудзь у адказ на пытанне; рус. ответить. 2. Адазвацца, адгукнуцца на голас, покліч.

Выйшаў-з хаты пастушок,
І зайграў ён у ражок.
І кароўкі ўміг яму
Адказалі: «Му-му-му!..» Я. Ж.

3. Павесці сябе пэўным чынам у адказ на што-небудзь. На дабро адкажы дабром, ад зла — ухіліся і не адказвай на яго злом. 4. Быць пакараным, панесці адказнасць за словы і ўчынкі. За ўсё зробленае рана ці позна давядзецца адказаць. □ Памучыў людзей — адкажа перад Богам. Ян Б.

**Адкараскацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Пазбегнуць, пазбавіцца чаго-небудзь, ухіліцца, адчапіцца, адвязацца; рус. отделаться. Каб як адкараскацца ад надакучлівых думак, Іван хутчэй засігаў далей. В. Б.

**Адклад**, наз., м. р., -у. ◘ Перанясенне на больш позні час; рус. отлагательство. Адклад не ідзе на лад. Прык. З адкладу няма ладу. Прык.

**Адлегласць**, наз., ж. р. ◘ 1. Прастор, прамежак паміж двума пунктамі або прадметамі; рус. расстояние. 2. Адрэзак шляху пэўнай велічыні, працягласці. Мераць адлёгласць крокамі. 3. Прамежак у часе.

Адлегласць доўгую да перамогі
Гадамі давялося вымяраць. М. А.

**Адліга**, наз., ж. р., ДМ адлізе. ◘ Пацяпленне пасля марозу; рус. оттепель.

Адліга. Капае са стрэх,
І вецер дзьме вільготны з поўдня,
Счарнеў і асядае снег. С. Г.

**Адлюстраваць**, -рую, -руеш, -руе; зак. ◘ 1. Адкінуць у адваротным напрамку светлавыя прамяні; рус. отразить. Азёрная гладзь адлюстравала святло месяца. 2. Узнавіць, перадаць вобраз на люст-

ранай паверхні. 3. Увасобіць у мастацкіх вобразах; абмаляваць, паказаць; рус. изобразить. Пісьменнік адлюстраваў мінулае, без непарыўнай сувязі з якім немагчыма перспектыва будучыні.

**Адменны**, прым. ◘ 1-Незвычайна добры, цудоўны; рус. особый. Адменны настрой. Адменны падарунак. 2. Своеасаблівы, непаўторны. Вясна выпала адменная, непаўторная.

**Адметны**, прым. ◘ Не такі, як іншыя; своеасаблівы; рус. отличительный.

*Зярняты залатыя зіхцелі прамяніста, як пацеркі буйныя, знізёныя ў маніста. У. Д.*

*Даспепы гэты колас дзяўчынка і забрала. Такі ён быў адметны, якіх на свеце мала.*

**Адмовіць**, адмоўлю, адмовіш, адмовіць; зак. ◘ 1. Не задаволіць чыйнебудзь просьбы, патрабавання, прапановы; даць адмоўны адказ; рус. отказать. Бацькі ні ў чым не адмаўлялі сыну і разбэсцілі яго. 2. Абмежаваць у нечым, пазбавіць нечага. Маці дзеля дзяцей здольна адмовіць сабе ў неабходным. 3. Не даць згоды на шлюб. Калі дзяўчына выносіла сватам гарбуз, то гэта азначала, што яна адмаўляла жаніху.

**Адмоўны**, прым. ◘ 1. Які выражае нязгоду з нечым, не прызнае вартасці нечага; рус. отрицательный. Адмоўны адказ. Адмоўная рэцэнзія на рукапіс кнігі. 2. Дрэнны, варты асуджэння, ганьбы. Адмоўныя бакі жыцця. Адмоўны персанаж. 3. Меншы за нуль. Адмоўны лік. 4. У фізіцы: пра від электрычнасці, часціцамі якой з'яўляюцца электроны; проціл. дадатны. Адмоўны зарад.

**Адмыслова**, прысл. ◘ Адметна, лепш за іншыя; цудоўна, выдатна; рус. особенно, отлично. Працавалі адмыслова, неўзабаве ўсё гатова. У. Д.

**Адмысловы**, прым. ◘ Своеасаблівы, адметны, непаўторны; цудоўны, выдатны; рус. особенный. Рыбак быў дзядзька наш Антоні, Як і работнік, адмысловы. К-с.

**Аднадумец**, наз., м. р., -думца. ◘ Чалавек аднолькавых з кім-небудзь думак, поглядаў, перакананняў; рус. единомышленник. Аднадумцаў Коласа і Купалу звязвала і шчырае сяброўства.

**Аднастайны**, прым. ◘ 1. Аднолькавы, нязменны на ўсім працягу; проціл. разнастайны; рус. однообразный. Аднастайная прырода. Аднастайныя практыкаванні на ўроку хутка стамляюць вучняў. 2. Манатонны. Галасы зліваліся ў аднастайны шум. 3. Аднародны паводле складу, будовы. Аднастайная структура глебы.

**Адносны**, прым. ◘ 1. Які вызначаецца толькі пры супастаўленні, параўнанні з нечым; рэальны, правільны толькі пры пэўных

умовах; проціл. абсалютны; рус. относительный. Адносны поспех. 2. У граматыцы — які паказвае адносіны да нечага, між нечым. Адносныя займеннікі. Адносныя прыметнікі.

**Адозва**, наз., ж. р. ◘ Вусны або пісьмовы зварот да некага, да ўсіх; рус. воззвание; обращение.

**Адонак**, наз., м. р., -нка. ◘ Подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог; стажар'е; рус. подстожье.

**Адпавядаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Быць у суладнасці, стасавацца з чым-небудзь, гарманіраваць; рус. соответствовать. Настрой людзей адпавядаў урачыстасці. 2. Супадаць, быць роўным, аднолькавым з чым-небудзь. Цана адпавядае якасці тавару.

**Адпачывальня**, наз., ж. р. ◘ Спальня.

**Адпачынак**, наз., м. р., -нку. ◘ Перапынак у працы, занятку для аднаўлення сіл; рус. отдых. Летні адпачынак школьнікаў.

**Адплата**, наз., ж. р., ДМ -лаце. ◘ 1. Разлік, плата за працу, паслугу. [Міхал:]Завошта пан мяне так лае? Згарыць яна няхай, такая І служба гэта, і пасада, І гэта крыўда, й гэта здрада, І гэта панская адплата!.. К-с.

2. перан. Помета, кара за злачынства, крыўду, кепскі ўчынак; рус. расплата.

Але прыйшла адплата за гэты ўчынак дрэнны:
разбіўся ўшчэнт багаты ў праваліне каменнай. У. Д.

**Адраджэнне**, наз., н. р. ◘ 1. Аднаўленне, уздым чаго-небудзь пасля заняпаду, разбурэння; рус. возрождение. Пасляваеннае адраджэнне беларускіх сёл і гарадоў. 2. з вялікай літары. Эпоха Адраджэння — час росквіту навук і мастацтваў, які змяніў у Еўропе сярэдневякоўе; Рэнесанс. Беларускі першадрукар Францыск Скарына — тытан эпохі Адраджэння.

**Адрасант**, наз., м. р., -а. ◘ Асоба, якая пасылае ліст, тэлеграму.

**Адрасат**, наз., м. р., -а. ◘ Асоба, якой пасылаецца што-небудзь па пошце. Уверсе злева на канверце пішацца адрас адрасанта, а знізу справа — адрасата.

**Адрына**, наз., ж. р. ◘ Халодная будыніна для кармоў і гаспадарчых прылад; пуня; рус. сеновал. Збоку ў адрыне стаяла сячкарня.

**Адсутнічаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Не знаходзіцца дзе-небудзь у пэўны час; не быць у наяўнасці; рус. отсутствовать. Адсутнічаць у школе праз хваробу.

**Адсюль**, прысл. ◘ 1. З гэтага месца; ад гэтага месца; з гэтай мясцовасці; рус. отсюда.

Адсюль, з лясной паляны, На бітву і ў разведку Хадзілі партызаны. М. А. 2. З папярэдняга разважання; з гэтага. Трэба зрабіць адсюль належныя высновы.

**Адтуліна**, наз., ж. р. ◘ Адкрытае пустое месца ў нечым суцэльным; дзірка, шчыліна, праход, пройма; рус. отверстие. Замочная адтуліна.

**Адтуль**, прысл. ◘ З таго месца, з таго боку; рус. оттуда. Адтуль, з усходу, з яснай далі Чаканай веяла вясной. К-с.

**Адужаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Перамагчы, адолець, узяць верх над кім-небудзь, справіцца з нечым; рус. осилить, одолеть.

Малады яшчэ ты дужа падымаць у кузні молат.
Рамяство мае адужаць — гэта іншая размова. У. Д.

**Адужаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Набраць сіл; ачуняць пасля хваробы; рус. окрепнуть; поздороветь. Мы адлятаць гатовы ў родны край, Туды, дзе адужалі нашы крылы. Р. Б.

**Адукацыя**, наз., ж. р. ◘ 1-Навучанне, асвета; рус. образование. Кожны мае права на адукацыю. 2. Веды, набытыя ў выніку навучання. Вышэйшая, спецыяльная, еярэдняя адукацыя.

**Адумацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Падумаць, зразумець няправільнасць сваіх паводзін, намераў і адмовіцца ад іх, змяніць іх; апамятацца, схамянуцца.

**Адусюль**, прысл. ◘ З розных месцаў, з усіх бакоў; рус. отовсюду. Шмат адусюль народу прыходзіла на кірмашы ў Зэльве, якія славіліся з даўніх часоў.

**Адхіліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ 1-Адвесці ўбок; адвярнуць; рус. отслонить. Асцярожна адхіліў [Міколка] бацькаву руку ад рэгупятара. М. Л. 2. перан. Не прыняць, адвергнуць; рус. отклонить. Адхіліць прапанову. 3. перан. Не дазволіць займацца чым-небудзь; зняць; рус. отстранить. Адхіліць ад працы за невыкананне абавязкаў.

**Адхон**, наз., м. р., -у. ◘ Пахілая паверхня гары, берага; схіл; рус. склон. // Бакавая паверхня дарожнага палатна; рус. откос.

**Адцурацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Адрачыся, пакінуць прызнаваць роднае, блізкае, сваё; рус. отречься. Хто роднага краю цураецца, той і маткі сваей адцураецца. Прык. // Пакінуць верыць, перастаць прызнаваць што-небудзь за ісціну. — Чаго, кацьмак, там заваліўся? Пайшоў бы ў цэркву, памаліўся, Зусім ты Бога адцураўся: Пятнаццаць год як спавядаўся! К-с.

**Адчай**, наз., м. р., -ю. ◘ 1. Крайняя ступень безнадзейнасці; роспач; рус. отчаяние. Адчай лічыцца за вялікі грэх: ніколі не трэба

губляць надзеі на перамену да лепшага. 2. Рашучасць, адвага, безразважная храбрасць.

**Адчайны**, прым. ◘ 1. Поўны адчаю, роспачы; рус. отчаянный. Адчайны крык аб дапамозе. 2. Рашучы, адважны; небяспечны, рызыкоўны, дзёрзкі.

Але ў выпадку такім незвычайным,
Хочаш не хочаш, а будзеш адчайным. У. Д.

**Адчуваць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Пазнаваць, успрымаць органам! пачуццяў уласцівасці і з'явы навакольнага свету; рус. ощущать, чувствовать. Хворы адчуваў боль у левым баку. 2. Зведваць, перажываць нешта; рус. испытывать. Сумленны чалавек адчувае няёмкасць і сорам за непрыстойныя ўчынкі іншых. 3. Усвядоміць, зразумець; рус. понимать. Адчуваць і прызнаваць уласныя памылкі і грахі здольны не кожны.

**Адысея**, наз., ж. р. Кніжн. ◘ Падарожжа, поўнае нечаканых здарэнняў і прыгод (ад назвы паэмы Гамера, у якой апісаны прыгоды міфічнага цара Адысея ў час яго вандровак).

Ды адумалася Чапля,
Што дарма за Жураўля,
За балотнага суседа,
Яна замуж не пайшла. М. Т.

**Аер**, наз., м. р., аёру. ◘ Шматгадовая расліна з доўгім мечападобным лісцем і паўзучым карэнішчам, з адметным пахам; рус. аир. На Тройцу падлогу высцілалі аерам. □ І тут жа травы розныя: валяр'ян, цыкута, святаяннік, а за імі, зусім у вадзе, — трысцё, аер, кіёўкі. У. Д.

**Ажына**, наз., ж. р. ◘ 1. Кустовая ягадная расліна з калючымі сцяблам; рус. ежевика. 2. часцей мн. (ажыны). Чорна-шызыя ядомыя ягады гэтай расліны, падобныя да малін. [Каза:] — Але я ўсю путчу гэту Абягаю з лета ў лета. Пакажу, дзе шмат чарніц, Шмат малін, ажын, суніц. І. М.

**Ажыццявіць**, -яўлю, -явіш, -явіць; зак. ◘ Выканаць на практыцы; зрабіць рэальнасцю; здзейсніць; рус. осуществить; воплотить. Ажыццявіць сваю мару зможа працавіты, настойлівы і мэтанакіраваны чалавек.

**Азбука**, наз., ж. р., ДМ азбуцы. ◘ 1. Літары, размешчаныя ў пэўным парадку; алфавіт. 2. Дапаможнік для пачатковага навучання грамаце; буквар. 3. перан. Пачатковыя звесткі, аснова чаго-небудзь. Азбука жыцця.

♦ Азбука Морзе — сістэма ўмоўных знакаў для перадачы літар на тэлеграфным апараце.

♦ Нотная азбука — нотныя знакі для абазначэння музычных гукаў.

**Аздобіць**, -блю, -біш, -біць; зак. ◘ Упрыгожыць, пышна прыбраць; рус. украсить.

Белыя бярозкі белакурыя
Міла так аздобілі наш край. В. Ш.

**Азіміна**, наз., ж. р. ◘ Пасевы, усходы азімых збожжавых культур; рунь; рус. озимь. Зелянее азіміна.

**Азірнуцца**, -нуся, -нёшся, -нёцца; -нёмся, -няцёся; зак. ◘ 1. Павярнуўшыся, агледзецца, паглядзець назад ці вакол сябе; рус. оглянуться, осмотреться. 2. у перан. ужыв. О, як бы я хацеў спачатку Дарогу жыцця па парадку Прайсці яшчэ раз, азірнуцца, Сабраць з дарог каменні тыя, Што губяць сілы маладыя, — К вясне б маёй хацеў вярнуцца. К-с.

**Азначэнне**, наз., н. р. ◘ 1. Абагульненне, фармулёўка, якія раскрываюць змест, характэрныя рысы нечага; вывад; рус. определение. Даць азначэнне нечаму — падвесці дадзенае паняцце, предмет і пад. пад іншае, больш шырокае. Эпітэт — гэта вобразнае азначэнне. 2. Дадзены член сказа, які абазначае прымету, уласцівасць іншага члена сказа і адказвае на пытанні: які? чый? каторы? Прыдатак — гэта азначэнне, выражанае назоўнікам, напрыклад, хлопцы-равеснікі, (Зуб-велікан.

**Азярод**, наз., м. р., -а. ◘ Прыстасаванне з слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы; рус. прясло, вешало.

**Азярына**, наз., ж. р. ◘ Невялікае возера. У іх раней была намова Схадзіць у луг на азярыны І патрывожыць род тхарыны, На рэчцы загарадзь паправіць І новы буч яшчэ паставіць. К-с.

**Айчым**, наз., м. р., -а. ◘ Няродны бацька; рус. отчим.

**Айчына**, наз., ж. р. ◘ Краіна, у якой нарадзіўся чалавек і грамадзянінам якой ён з'яўляецца; бацькаўшчына; родны край, родны кут, радзіма; рус. отечество. Зямля дзяцей тваіх не кіне, Зямля — аснова ўсёй айчыне. К-с.

**Акалічнасць,** наз., ж. р. ◘ 1. З'ява, падзея, якія ўплываюць на іншыя з'явы, падзеі; рус. обстоятельство. Выпадковая акалічнасць. 2. мн. (акалічнасці). Умовы, абставіны. Трагічны збег акалічнасцяў. Акалічнасці перашкодзілі сустрэчы. 3. У граматыцы: дадзены член сказа, які паказвае час, прычыну, месца, мэту і інш. Акалічнасць спосабу дзеяння выражана прыслоўем.

**Аканіцы**, наз., адз. аканіца, ж. р. ◘ Дашчаныя або металічныя створкі, якімі закрываюць знадворку вокны; рус. ставни.

**Аканом**, аконам, наз., м. р., аканома, аконама. Гіст. ◘ Кіраўнік панскай гаспадаркі ў маёнтку; рус. управляющий. Праведаў пра цудоўную торбачку панскі аканом і расказаў пану. А. Я.

**Акаталічыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ Схіліць у каталіцкую веру.

**Акіян**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Водная прастора паміж мацерыкамі. Паўночны Ледавіты акіян. 2. перан. Што-небудзь неабсяжнае, неабдымнае.

Даставайце з вышак сані —
Гайда сцежкі праціраць
І па белым акіяне
Ўдоўж і ўпоперак гуляць! К-с.

**Акраец**, наз., м. р., акрайца. ◘ Кавалак хлеба, пірага, булкі, адрэзаны ад непачатага краю; паск, акрайчык; рус. горбушка; краюха. Жыве ў цёмным лесе спагадлівы зайчык, Каго ні сустрэне, дасць хлеба акрайчык. Граніт.

**Акрыяць**, -яю, -яеш, -яе; зак. ◘ 1. Паправіцца пасля хваробы, ачуняць, набрацца сіл, акрэпнуць; рус. оправиться. 2. перан. Ажыць душой; рус. воспрянуть духом. Іван ... чамусьці пазбыўся ўсіх сваіх ранейшых трывог і на гэтым пугавым прывоплі проста акрыяў душой. В. Б.

**Акрэсліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Дакладна вызначыць межы, аб'ём, памер чаго-небудзь; рус. определить. Акрэсліць тэрыторыю. Акрэсліць абавязкі. Аксаміт, наз., м. р., -у. ◘ Шаўковая тканіна з кароткім густым ворсам; мошаст; рус. бархат. Сукенка з аксаміту.

**Аксамітны**, прым. ◘ Зроблены з аксаміту. // Падобны на аксаміт; рус. бархатный.

І дзе на свеце ёсць такая,
Як Неман, рэчанька другая?
Тут хвалі светлы, срэбралітны,
А беражкі — ну, аксамітны. К-с.

**Актыўны**, прым. ◘ Дзейны, энергічны; проціл. пасіўны. Актыўны вучань лепш праяўляе свае здольнасці.

**Акуляры**, наз., мн. ◘ Прылада з двух шкельцаў на дужках, якая служыць для выпраўлення зроку або засцярогі вачэй; рус. очкі.

♦ Глядзець праз ружовыя акуляры — бачыць нешта ці некага ў лепшым свеце, чым ёсць у сапраўднасці.

**Акурат**, прысл. ◘ Зусім дакладна; якраз; рус. точь-в-точь. Трапіў акурат у цэль. □ Эмілія трапляла акурат на такіх людзей, з якімі можна было дагаварыцца. Я. М.

**Акцэнт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Націск у слове, а таксама знак націску. 2. Вымаўленне, уласцівае чалавеку, які гаворыць не на роднай мове. Гаварыць з акцэнтам.

♦ Рабіць акцэнт — падкрэсліваць думку, звяртаць на нешта асаблівую ўвагу.

**Акцэнтуацыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Сістэма націскаў у якой-небудзь мове. 2. Абазначэнне націскаў. Акцэнтуацыя ў слоўніках спрыяе. культуры маўлення іх карыстальнікаў.

**Аладка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ Блінок, спечаны на патэльні; блінец; рус. оладья.

З аладкі дзядзька рабіў трубку,
Каб лепш здаволіць сваю губку
І больш зачэрпнуць верашчакі. К-с.
[Бацька:]
- А па сняданні — за навуку!
І не чакаць мне на пануку,
І самі знайце свой парадак,
Каб і да кніг, як да аладак,
Таксама дружна наляталі. К-с.

**Алгарытм**, наз., м. р., -у. ◘ Сукупнасць дзеянняў, правілаў, якія вызначаюць змест і паслядоўнасць аперацый пры рашэнні задач адпаведнага тыпу, класа. Алгарытм аналізу твора спрыяе ўспрыманню яго як факта мастацтва.

**Алебарда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Старажытная зброя — сякера на доўгім дрэўку з кап'ём на канцы.

**Алей**, наз., м. р., -ю. ◘ Раслінны (сланечнікавы, кукурузны, ільняны, аліўкавы і інш.) тлушч. Смажыць на алеі.

**Алейнік**, наз., м. р., алёйніка. ◘ Спецыяліст па вытворчасці расліннага тлушчу, алею.

**Алейня**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства па вытворчасці алею.

**Алешына**, наз., ж. р. ◘ Лісцевае дрэва сямейства бярозавых; вольха; рус. ольха.

А знізу гэты лес кашлаты
Меў зелянюсенькія шаты
Лазы, чаромхі ці крушыны,
Алешын ліпкіх, верабіны. К-с.

**Алібі**, наз., н. р., нескл. ◘ Знаходжанне абвінавачанага ў момант, калі адбывалася злачынства, у іншым месцы як доказ невінаватасці. Даказаць сваё алібі. □ Сумленне, што алібі пэўна сцвярджае, тым самым на гібель сябе асуджае. А. В.

**Алігарх**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У антычныя часы — член урада. 2. Прадстаўнік буйнога капіталу.

**Алімпіяда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. У старажытных грэкаў — чатырохгадовы перыяд паміж святкаваннямі алімпійскіх гульняў, які служыў адзінкай летазлічэння. 2. Міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы на ўзор старажытнагрэчаскіх алімпійскіх гульняў. 3. Вучнёўскія і студэнцкія спаборніцтвы па розных прадметах. Абласная алімпіяда па беларускай мове.

**Алтар**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Месца ахвярапрынашэнняў у першабытных народаў. 2. Галоўная ўсходняя частка царквы, аддзеленая ад агульнага памяшкання іканастасам.

♦ Прынесці на алтар — ахвяраваць чым-небудзь у імя нечага. Кастусь Каліноўскі прынёс сваё жыццё на алтар Бацькаўшчыны.

**Альтанка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Летняя паркавая або садовая пабудова для адпачынку; сховішча ад дажджу і сонца; рус. беседка. Не так даўно расце сядзіба, А паглядзі, што ёсць у ёй: Садок, альтанка ў форме грыба, Дзе ўтульнасць знойдзеш і спакой. К-с.

**Альтруіст**, наз., м. р., -а. ◘ Высакародны чалавек, гатовы ахвяраваць для іншых сваімі інтарэсамі; гуманіст; проціл. эгаіст. Вобраз дзядзькі Антося з «Новай зямлі» — альтруіста і таленавітага чалавека — валодае вялікай сілай уздзеяння на чытача.

**Альтэрнатыва**, наз., ж. р. ◘ 1. Неабходнасць выбару паміж дзвюма магчымасцямі, адна з якіх выключав другую. 2. Кожная з гэтых магчымасцяў. Настаўнік прапанаваў вучням далучыцца да адной з дзвюх альтэрнатыў — супрацьлеглых меркаванняў літаратуразнаўцаў і абгрунтаваць свой выбар.

**Альфа**, наз., ж. р. Кніжн. ◘ Назва першай літары (a) у грэчаскім алфавіце.

♦ Альфа і амега — пачатак і канец, аснова ўсяго. [Ісус Хрыстос:] - Я ёсць альфа і амега. З Евангелля.

**Альяс**, наз., м. р., -у. ◘ Шматгадовая лекавая расліна з тоўстымі прадаўгаватымі калючымі лістамі; алоэ. На вокнах стаяў рагаты і калючы альяс. П. Б.

**Амаль**, прысл. ◘ Так, што трохі не хапае да нечага; ледзь не..., каля, прыблізна каля...; рус. почти; едва не. Амаль без асаблівых прыгод дабраліся... [дзед і Міколка] да горада. М. Л.

**Амаральны**, прым. ◘ Дрэнны, несумяшчальны з прынцыпамі маралі, нормамі паводзін. Узвесці пакпёп на чалавека лічыцца амаральным учынкам.

**Аматар**, наз., м. р., -а. ◘ Ахвотнік да чаго-небудзь; любіцель; проціл. прафесіянал. Аматар на выдумкі. Аматар музыкі. □ А ўласны човен так валяўся, Як бы ў адстаўцы той сенатар, Хоць на чаўны быў дзед аматар. К-с.

**Амшара**, наз., ж. р. ◘ Мохавае балота; імшара, імшарына.

І ажывіліся амшары,
Запахла свежаю раллёй,
Як бы сам Бог тут над зямлёю
Прайшоў і глянуў міласціва. К-с.

**Ангіна**, наз., ж. р. ◘ Хвароба; запаленне слізістай абалонкі зева і міндалін.

Без марожанага — гіну,
А з марожаным — ангіна. А. П.

**Анёл**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У рэлігійным вучэнні — Божы пасланнік, які ахоўвае і апякуе чалавека (малюецца ў вобразе крылатага юнака); рус. ангел. 2. перан. Пра чалавека станоўчага, ідэальнага, далікатнага, памяркоўнага. Анёл дабраты. □ А патрывожаныя пчолы Спяваюць хорам, як анёлы, Але кусаюць па-чартоўску. К-с.

**Аніводны**, прым. ◘ Ні адзін, зусім ні адзін. Я не чуў пра цябе, мой народ, Аніводнага слова благога. Н. Г.

**Анталогія**, наз., ж. р. ◘ Зборнік выбраных твораў, якія належаць розным аўтарам. Анталогія беларускай паэзіі.

**Антыфашыст**, наз., м. р., -а. ◘ Барацьбіт з фашызмам. Юныя антыфашысты набліжалі святы дзень Перамогі.

**Ануляваць**, -люю, -люеш, -люе; зак. ◘ Скасаваць, прызнаць несапраўдным. Ануляваць дамову.

**Ануча**, наз., ж. р. ◘ 1. Кавалак старой тканіны, зношанай адзежыны; рус. тряпка, ветошка. Здаць анучы на утыль. 2. Кавалак тканіны, якой абмотвалі ногі, перш чым абуцца; рус. портянка. Загнаўшы ў хлеў на месца статка, Насеўся Уладзя на аладкі, ~ Шпурнуўшы лапці і анучы Сярод двара ў пясок сыпучы. К-с.

**Апавяданне**, наз., н. р. ◘ 1. Вуснае паведамленне пра нейкія падзеі; рус. рассказ.

Міхал павёў апавяданне, Як выйшла першае спатканне. К-с. 2. Невялікі мастацкі празаічны твор. Апавяданне У. Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі».

**Апавядаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Расказваць, апісваць; паведамляць; рус. рассказывать, повествовать.

Цікаўны стаў апавядаць пра падарожжа і падзеі,
у чым дабро, у чым бяда, адкуль на свеце ліхадзеі. У. Д.

**Ападкі**, наз., ападкаў, мн. ◘ 1. Вільгаць, якая ападае на зямлю ў выглядзе дажджу, снегу; рус. осадки. Колькасць ападкаў перавысіпа норму. 2. Плады, што апалі з дрэў ад ветру, непагадзі; апад; рус. падалица.

**Апалонік**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікая лыжка, якой разліваюць страву; рус. поварёшка.

І апалонік то і дзела
Па дзежцы боўтаў жвава, смела
І кідаў цеста ў скавародкі,
Давала піск яно кароткі. К-с.

**Апанаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; зак. ◘ 1. Імкліва напасці, акружыць. Пчолы апанавалі. 2. Ахапіць, поўнасцю авалодаць (пра страх, сум, адчай і пад.); рус. овладеть. Сэрца адзінокае апануе сум. П. Г.

**Апантаны**, прым. ◘ Ахоплены душэўным узрушэннем, якое бурна выяўляецца; шалёны, звар'яцелы; рус. бешеный, неистовый. Убег у хату, як апантаны.

**Апастылець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Надакучыць, апрыкраць; зрабіцца нямілым, невыносным. Апастылела сварка. Апастылела звяга.

**Апенька**, наз., ж. р., ДМ -ньцы. ◘ Познаасенні жаўтаватага колеру ядомы грыб, які расце каля пнёў; рус. опёнок.

Апека, наз., ж. р., ДМ апецы. ◘ Нагляд і клопаты пра каго-небудзь. Апека над сіротамі. Узяць пад сваю апеку.

Апець, апяю, апяёш, апяё; апяём, апеяцё; зак. ◘ Уславіць, адлюстраваць у вершах, песнях; рус. воспеть.

Колькі светлых хвілін,
Незабыўных спатканняў
Гэты дзень нам прынёс, —
Не апець песняру! М. М.

**Аплік**, наз., м. р., -а. ◘ Металічны кручок для зашпільвання вопраткі; рус. крючок.

**Аповед**, наз., м. р., -у. ◘ Славеснае паведамленне пра нейкія падзеі; рус. рассказ. Аповед дзеда пра сямейную рэпіквію ўразіў хлопчыка.

**Аповесць**, наз., ж. р. ◘ Вялікі апавядальны твор; рус. повесть. У прыгодніцкай аповесці А. Федарэнкі «Шчарбаты талер» расказваецца пра пошукі скарбаў.

**Аполак**, наз., м. р., аполка. ◘ Крайняя дошка, выпуклая з аднаго боку; рус. горбыль.

А дзядзька моўчкі стаў збірацца
Дастаў сякеру і свярдзёлак,
Пад паху сунуў ён аполак

На латакі і на падстаўкі. К-с.

**Апостал,** наз., м. р., -а. ◘ 1. Кожны з дванаццаці вучняў Ісуса Хрыста, паслядоўнікаў яго вучэння. 2. перан. Прыхільнік і заўзяты паслядоўнік якой-небудзь справы, вучэння; той, у каго вучацца іншыя. Апостал дабра. Апостапам нацыі назваў Рыгор Барадулін Васіля Быкава.

**Апоўдні**, прысл. ◘ У сярэдзіне дня; рус. в полдень.

**Апоўначы**, прысл. ◘ У 12 гадзін ночы; рус. в полночь.

**Апошні**, прым. ◘ Астатні, які ў самым канцы; рус. последний. Агіошнящу госцю лыжка ў качарэжніку. Прык. Апошняму ці многа, ці нічога. Прык.

**Апраметны**, прым. ◘ Такі, як у пекле; пякельны; рус. адский. Зведаў ён [беларус] ліха апраметнага, ён не баяўся таго і гэтага. Хапала адвагі, каб з ворагам біцца, ад голаду-холаду каб бараніцца. А. В.

**Апранацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ Насіць вопратку; рус. одеваться. Апранацца па сезоне. Апранацца ў адпаведнасці з ўзростам і абставінамі.

**Апрыкраць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Зрабіцца непрыемным, прыкрым; надакучыць, абрыдзець; рус. опротиветь, надоесть. Апрыкрала бадзяцца па чужыне.

**Апрытомнець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Прыйсці да прытомнасці, зноў магчы разважаць, адчуваць, дзейнічаць; рус. прийти в себя. Гарачка спала, і хворы апрытомнеў.

**Аптыміст**, наз., м. р., -а. ◘ Жыццярадасны чалавек, які верыць у светлую будучыню, схільны бачыць добрае ў жыцці; проціл. песіміст. Аптыміст па характеры.

**Аптэка**, наз., ж. р., ДМ аптэцы. ◘ 1. Установа, дзе гатуюцца і прадаюцца лекі. 2. Набор лекаў для першай дапамогі або хатняга лячэння.

А потым кінуўся і ў лекі,
Больш з саматужнае аптэкі:
Піў зёлкі розныя і травы,
Ды не палепшваў свае справы. К-с.

**Апынуцца**, -нуся, -нёшся, -нёцца; зак. ◘ Трапіць куды-небудзь, аказацца дзе-небудзь; рус. оказаться. Добры чалавек заўсёды дапаможа таму, хто апынуўся ў бядзе.

**Араты**, наз., м. р. ◘ Той, хто апрацоўвае зямлю плугам; земляроб; аратай; рус. пахарь. Дзе араты плача, там жняя скача. Прык.

**Араць**, ару, арэш, арэ; незак. ◘ Апрацоўваць зямлю плугам; рус. пахать.

Не назваць іх гультаямі.

Працавітымі рукамі
і аралі, і касілі,
ўсё рабілі, што ў іх сіле. У. Д.

**Аркуш**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Стандартны ліст паперы, кардону; рус. лист. Аркуш ватмана. 2. Друкаваны аркуш — 16 старонак друкаванага тэксту як адзінка вымярэння аб'ёму кнігі. Кніга на дзесяць друкаваных аркушаў. Арліца, наз., ж. р. ◘ Самка арла. Арляк, наз., м. р., -у. ◘ Адзін з відаў папараці.

**Арляня і арлянё**, наз., н. р., арляняці. ◘ Птушаня арла; рус. орлёнок.

**Армяк**, наз., м. р., -а. ◘ Старадаўняя сялянская світка з саматканага сукна.

**Артыкул**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Невялікі твор у газеце, часопісе, зборніку; рус. статья. Крытычны артыкул. 2. Раздзел, частка ў дакуменце, законе. Артыкул закона. 3. Тыл вырабу, тавару; рус. Артикул.

**Арфаваць**, арфую, арфуеш, арфуе; незак. ◘ Ачышчаць арфай (сельскагаспадарчай машынай) зерне ад мякіны і смецця; рус. веять (веялкой).

Як ішла лён абіваць,
Пад нагамі цёрся жвір;
Нібы семя арфаваць, —
За мной следам брыгадзір. К-а.

**Арышт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Узяцце пад варту, пазбаўленне волі; рус. арест. Трымаць пад арыштам. 2. Забарона распараджацца нечым, якая накладаецца судовымі органамі. Накласці арышт на маёмасць.

**Арэлі**, наз., адз. няма. ◘ Гушкалка; рус. качели. На дубе вісяць арэлі — пяньковая вяроўка, заматаная канцамі за самы тоўсты сук. Б. С.

**Арэшнік**, наз., м. р., -у. ◘ Арэхавае кустоўе; ляшчыннік.

**Арэшына**, наз., ж. р. ◘ Лісцевае дрэва, на якім растуць лясныя арэхі; ляшчына.

**Асабісты**, прым. ◘ Які належыць чалавеку, асобе; якім яна карыстаецца; які ёю ажыццяўляецца; рус. личный. Асабістая бібліятэка. Асабістая думка. Асабістае шчасце. Асабісты прыклад.

**Асаблівасць**, наз., ж. р. ◘ Адметная ўласцівасць, якасць, прыкмета некага, нечага; рус. особенность. Працавітасць, гаспадарлі. васць, гасціннасць, кпопат пра дзяцей — спрадвечныя асаблівасці ментальнасці беларусаў.

**Асаблівы**, прым. ◘ Не падобны да іншых; не такі, як усе, адметны; рус. особенный. Добры сябар знойдзе асаблівыя словы, каб суцешыць гаротнага, дапамагчы яму.

**Асабовы**, прым. ◘ 1. Які ўласцівы пэўнай асобе; мае да яе дачыненне; рус. личный. Асабовая справа школьніка захоўваецца ў дырэктара. 2. Які выражае граматычную катэгорыю асобы. Асабовыя займеннікі.

**Асароміцца**, -млюся, -мішся, -міцца; зак. ◘ Зрабіць непрыгожы ўчынак і трапіць у няёмкае становішча; рус. опозориться, осрамиться. Разумны і разважлівы чалавек не асароміцца.

**Асароміць**, -млю, -міш, -міць; зак. ◘ Наклікаць сваімі ўчынкамі ганьбу і сорам на некага; рус. опозорить, осрамить. Паводзь сябе так, каб не асароміць бацькоў і школу.

**Асвер**, наз., м. р., -а. Абл. ◘ Журавель калодзежа.

Не забыць, як падвялы аер
На памытай падлозе пахне,
Як у студню цыбаты асвер
Запускае рукі пад паху. Р. Б.

**Асвета**, наз., ж. р., ДМ асвёце. ◘ Навучанне, адукацыя; рус. просвещение; образование. Санітарная асвета.

**Асветнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто пашырае веды, асвету; рус. просветитель. Полацк — радзіма першадрукара, асветніка і гуманіста Францыска Скарыны.

**Асвятліць**, асвятлю, асвётліш, асвётліць; зак. ◘ 1. Зрабіць светлым, напоўніць святлом нейкую прастору, памяшканне; рус. осветить. Ракета асвятліла плошчу. 2. Забяспечыць асвятляльнымі прыборамі; правесці электрычнае святло. Асвятліць усе вуліцы. 3. перан. Падрабязна расказаць пра нешта, растлумачыць, зрабіць агляд нечага. Інфармацыйна-аналітычная праграма «Контуры» асвятліла падзеі тыдня ў нашай краіне.

**Асілак**, наз., м. р., асілка. ◘ Герой беларускіх казак, легендаў, воін незвычайнай сілы, мужнасці і розуму; волат, магут; рус. богатырь. Выхапіў асілак Дубавік свой востры меч і адсек цмоку ўсе тры галавы. А. Я.

**Асіліць**, -пю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Перамагчы, адолець; рус. одолеть. — Не змаглі вы самі асіліць Волата, дык мы з ім расправімся, — выхваляліся замарцы. А. Пал.

**Аслупянець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Знерухомець, анямець ад страху, здзіўлення; рус. остолбенеть. На дзядзьку-кухара глядзелі, Як бы яны [дзеці] аслупянелі. К-с.

**Асоба**, наз., ж. р. ◘ 1. Чалавек сярод людзей; рус. личность. Узаеміны асобы і калектыву. Развіццё асобы. 2. Усе якасці чалавека ў іх сукупнасці; індывідуальнасць, непаўторнасць, адметнасць чалавека.

Антось жа правіў гаспадаркуг
Рабіў за двух, на сваім карку
Цягнуў ярэмца хлебароба,
Ну, словам, дзядзька наш — асоба! К-с.

3. Чалавек, які паводзіць сябе важна, з гонарам; персона. Важная асоба. 4. Граматычная катэгорыя, якая паказвае на таго, хто гаворыць (першая асоба), з кім гавораць (другая асоба), пра каго гавораць (трэцяя асоба); рус. лицо. Я працую. Ты працуеш. ён працуе. Дзеясловы першай, другой і трэцяй асобы.

**Асобны**, прым. ◘ 1. Аддзелены ад іншых, самастойны; рус. отдельный. Асобны пакой. 2. Адзінкавы, некаторы. Чуваць былі асобныя словы. М. Л.

**Асобы**, прым. ◘ Выключны, асаблівы, не падобны да іншых, адметны; рус. особый. Асобы выпадак. Асобае даручэнне.

**Асот**, наз., м. р., -у. ◘ Пустазелле з калючымі доўгімі лістамі. Мы геніяў не слухалі ніколі. Ці не таму асот гуляе ў полі І множыцца напасцяў злых клубок? З. М.

**Аспід**, наз., м. р., аспіда. ◘ І.Ядавітая трапічная змяя. 2.перан. Пра злога чалавека.

**Асталявацца**, -лююся, -люешся, -люецца; зак. ◘ З'явіўшыся, замацавацца на новым месцы, працы, кватэры і пад.; пасяліцца, асесці; рус. устроиться, обосноваться. Хутка асталявацца і прыжыцца на новым месцы лягчэй працавітаму і памяркоўнаму чалавеку, які паважае звычаі і парадкі тых людзей, з кім давядзецца жыць.

**Астатні**, прым. ◘ І.Які астаўся; іншы; рус. остальной. Найвялікшае багацце — здароўе, а ўсё астатняе нажыўное, калі працаваць і старацца. 2. Які знаходзіцца ў самым канцы шэрага прадметаў, з'яў і пад.; апошні; рус. последний. Маці намагалася з астатніх сіл, каб вывесці сына ў людзі, даць яму адукацыю.

**Астрог**, наз., м. р., -а. ◘ Турма. Хваробы бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся. Прык. Ад астрогу няма перасцярогу. Прык. (рус. От тюрьмы да от сумы не зарекайся).

**Асьміна**, наз., ж. р. ◘ 1. Старая мера аб'ёму сыпкіх цел, роўная 1/8 бочкі (каля 105 л). 2. Пасудзіна на тры пуды (каля 49 кг) збожжа. Мерац асьмінаю. □ На вербах бэры там раслі,
На соснах — гарбузы з асьміну. У. Д.

**Асяроддзе**, наз., н. р.◘ 1. Умовы, абставіны, у якіх жыве чалавек ці жывая істота; рус. среда. Спрыяльнае асяроддзе. 2. Супольнасць людзей, звязаных агульнай справай, інтарэсамі. Вучнёўскае асяроддзе. Пісьменніцкае асяроддзе.

**Атожылак**, наз., м. р., -лка. ◘ 1. Малады парастак расліны; рус. отросток.

І зноў з пупышкі выбухае ліст —
Атожылак вясновае абновы. П. М.

2. Нашчадак, патомак; рус. отпрыск. Сыны ўзмужнелі, унукі падраслі — Атожылкі няскоранай дубровы. Х. Ж.

**Атопкі**, наз., адз. атопак, -пка. ◘ Старыя зношаныя чаравікі, боты.

**Атосы**, наз., адз. *атóса*, ж. р. ◘ Драцяныя або з жалезных прутоў, рэменю цяжы ў возе, нацягнутыя ад верхняга канца аглоблі да восі пярэдняга кола для выраўноўвання ходу. Ні атос, ні калёс — воўк кабылку панёс. З нар.

Антось агледзеў тут прылады,
Калёсам добра даў «памады»...
А напамадзіўшы калёсы,
Паправіў вітыя атосы
І падлажыў у задок сена.
Вясёлы час — павозак змена. К-с.

**Атрамант**, наз., м. р., -у. Уст. ◘ Тое, што і чарніла.

**Атрута**, наз., ж. р. ◘ 1. Яд. Хваробы лечаць і атрутаю. М. Б. 2. перан. Тое, што шкодна ўплывае, уздзейнічае на каго-небудзь; рус. отрава. [Дзядзька:] -Ну ж і балота! Вось атрута!
То не работа мне -пакута. К-с.

**Атуліць**, атулю, атупіш, атупіць; зак. ◘ Агарнуць, ахінуць з усіх бакоў; рус. окутать.

Гэткім шчырым каханнем яе атуліў,
З гэткай ласкай глядзеў ў яе сумныя вочы. К-а.

**Аўторак**, наз., м. р., аўторка. ◘ Другі дзень тыдня; рус. вторник.

**Афарбоўка**, наз., ж. р., ДМ -боўцы. ◘ 1. Колер, адценне колеру нечага; рус. окраска. Пер'е сінячка мае яркую афарбоўку. 2. перан. Асаблівы сэнс, выразнае адценне нечага; рус. оттенок. Эмацыянальная афарбоўка надзвычай важная для філасофскіх вершаў.

**Афарызм**, наз., м. р., -а. ◘ Трапнае кароткае выслоўе, якое перадае змястоўную і арыгінальную думку — жыццёвае назіранне, маральную выснову, разважанне, павучанне і інш. Афарызмы маюць канкрэтнага стваральніка (пісьменніка, вучонага і інш.), выкарыстоўваюцца для вобразнай характарыстыкі з'яў і падзей.

□.Скажы ты мне, з кім ты знаёмы, і я табе скажу, хто ты, — прыводзіць пісар знаёмы афарызм. К-с.

**Ахайны**, прым. ◘ Чысты, акуратны, старанна прыбраны. Ахайны чалавек.

**Ахвяра**, наз., ж. р. ◘ 1. У старажытных рэлігіях дар Богу — прадмет ці жывая істота; рус. жертва. 2. Добраахвотнае адмаўленне ад чагонебудзь у імя, на карысць чаго-небудзь. Ахвяра ў імя Радзімы. 3. Пра таго, хто пацярпеў ад няшчасця, няўдачы, вайны. Ахвяры вайны.

**Ахова**, наз., ж. р. ◘ 1. Абарона, варта; рус. охрана. Ахова парадку. 2. Атрад, група, прызначаныя аберагаць каго-небудзь.

Азірнуліся сябры:
Слугі верныя зубровы,
Следам крадуцца звяры,
Ўсе чыны яго аховы. В. В.

**Ачуняць**, -яю, -яеш, -яе; зак. ◘ Паправіцца пасля хваробы; ажыць; рус. выздороветь.

[Ганна Міхалу:] — Ці мала людзі так хварэлі?
Хварэлі годы — не нядзелі,
Такіх здарэнняў вельмі многа,
Але ачуньвалі й нічога,
І ты, дасць Бог, на ногі станеш,
Пяройдзе ліха — ачуняеш. К-с.

**Ашукаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Падмануць, не выканаць абяцання, абысціся несумленна. Стрэў дзяўчыну паніч. Абяцаў ажаніцца. Ашукаў. М. Луж.

**Ашчадна**, прысл. ◘ Беражліва, эканомна. Не хапаючыся, не высільваючыся, ашчадна трацячы сілу... вадзіў [Васіль]касою. Мележ.

**Ашаламіць**, -ламлю, -ломіш, -ломіць; зак. ◘ 1. Аглушыць моцным ударам. 2. Вельмі здзівіць, узрушыць, уразіць; рус. потрясти, изумить. Ашаламіць нечаканай навіной, весткай.

# Б

**Бабёр**, наз.-, м. р., бабра. ◘ Грызун, які жыве каля рэк і вадаёмаў; рус. бобр. Бабры змайстравалі плаціну і запрудзілі раку.

**Бабка**[1], наз., ж. р., ДМ бабцы. ◘ 1. Матчына або бацькава маці; бабуля. Хто бабцы не ўнук? Прык. 2. Старая жанчына. Бабка спіць, а гусей пасе. Прык. (рус. Солдат спит, а служба идет). 3. Жанчына,

якая раней абслугоўвала парадзіху, дапамагала нарадзіць дзіця; рус. повитуха. Пачакай радзіць, дай па бабку схадзіць. Прык..

**Бабка**$^{2}$, наз., ж. р., ДМ бабцы. ◘ 1. Страва з дзёртай бульбы. Бабка — нацыянальная беларуская страва. 2. Здобнае печыва, булка. А пірагі, як сонца, ззялі, І ў роце бабкі раставалі. К-с.

**Бабка**$^{3}$, наз., ж. р., ДМ бабцы. ◘ Дзесяць снапоў, састаўленых разам і накрытых снапом-шапкай.

У якія роўныя шнурочкі
Цяпер пакладзены снапочкі!
І як прыгожа-слаўны бабкі!
Якія ладныя іх шапкі! К-с.

**Бабка**$^{4}$, -наз., ж. р., ДМ бабцы. ◘ Невялічкае кавадла для адбівання, кляпання кос.

За колькі дзён да касавіцы
Касцы заглянуць на паліцу,
Каб малаток знайсці і бабку:
Ідзе работа, не спі ў шапку. К-с.

**Бабоўнік**, наз., м. р., -у. ◘ Балотная расліна з сакаўным трайчастым лісцем. Тут былі снітка, асот, бабоўнік, трысцё, сітнік, дуброўнік, дзядоўнік, аер, гарпачыкі жоўтыя, лілея белая, дзьмухавец, звоночкі, ключыкі. У. Д.

**Бабраня і бабранё**, наз., н. р., бабраняці; мн. бабраняты. Дзіця бабра; рус. бобрёнок.

**Бабуля**, наз., ж. р. ◘ Ласкавае да баба, бабка (у 1, 2 знач.); рус. бабушка.

**Бабыль**, наз., м. р., -я. ◘ Адзінокі, несямейны чалавек; адзінец. У народзе кажуць: незайздросная доля — бабылём век звекаваць.

**Бавіцца**, баўлюся, бавішся, бавіцца; незак. ◘ Разм. 1. Доўга затрымлівацца недзе, марудзіць; рус. задерживаться. Маці папрасіла сына не бавіцца на рэчцы. 2. Гуляць, забаўляцца; праводзіць часу гульнях, цешыцца; рус. развлекаться, забавляться. Бавіцца з дзецьмі не кожны можа і ўмее, гэта своеасаблівы талент, якім быў надзелены, да прыкладу, коласаўскі герой дзядзька Антось.

**Бавоўна**, наз., ж. р. ◘ Паўднёвая расліна, з якой вырабляецца баваўнянае валакно і пража; рус. хлопок. Адзенне з бавоўны.

**Багадзельня**, наз., ж. р. ◘ Прытулак для бяздомных, непрацаздольных.

**Багамаз**, наз., м. р., -а. Разм. Уст. ◘ Іканапісец.

**Багародзіца**, наз., ж. р. ◘ Дзева Марыя, Маці Ісуса Хрыста, Маці Божая. Багародзіца -заступніца нябесная ўсіх хрысціян.

**Багата**, прысл. ◘ 1. Многа. 2. Заможна, у дастатку жыць. Багата жыві, жабраваць не заракайся. Прык.

**Багаткі**, наз., адз. багатка, ж. р., ДМ багатцы. ◘ Малачай, дзьмухавец; рус. одуванчик. Бралі тыя спажыўныя расліны, якія вядомы нам з маленства: белы малачай, альбо, як яго яшчэ завуць, багаткі, дзьмухавец; бралі званочкі, ключыкі, валяр'ян. У. Д.

**Багач**, наз., м. р., багача. ◘ 1.Той, хто валодае вялікім багаццем; багацей.

Вось гуляе багач, Аж палац той дрыжыць. К-а.

2. Свята, Раство Прасвятой Багародзіцы, якое адзначаецца праваслаўнымі вернікамі 21 верасня па н. ст. Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку ды сей памаленьку. Прык.

**Багна**, наз., ж. р. ◘ 1. Топкае балота; дрыгва; рус. топь, трясина. 2. перан. Застой, адсутнасць ініцыятывы. Багна абыякавасці. 3. перан. Усё, што засмоктвае чалавека і цягне ў пагібель. Наркотыкі, п'янства, блуд, злачыннае існаванне — гэта багна, з якой нямногім удаецца выбрацца, таму яе лепш абысці, каб не засмактала.

**Багоўка**, наз., ж. р., ДМ багоўцы. Абл. ◘ Насякомае чырвонага ў чорную крапінку колеру; рус. божья коровка. Багоўка ў тваёй далоні, Як кропля цёплая крыві. У. Карат.

**Бадай**, прысл. ◘ 1. Амаль; рус. почти.

Пытацца больш няма аб чым нібыта. Бадай зусім праяснілася справа. Затым і стол для юнакоў накрыты, а на стале падрыхтаваны стравы. У. Д. 2. пабочн. Выказвае магчымасць, схільнасць з нечым згадзіцца; рус. пожалуй.

Рады мы гасцям заўсёды! Гасціннасць — гэта звычай векавечны, Існуе ён ва ўсіх, бадай, народаў. У. Д.

**Бадзёры,** прым. ◘ Жыццярадасны, энергічны, жвавы, вясёлы, ажыўлены; рус. бодрый. Бадзёры настрой.

**Баечнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1.Той, хто расказвае байкі; рус. сказочник. 2. Пісьменнік, які ў сваёй творчасці выкарыстоўвае фальклорныя жанры: байкі, показкі, казкі і інш; рус. баснописец. Няма спрэчкі, што ў асобе Ядвігіна Ш. мы маем аднаго з найлепшых баечнікаў нашых часоў. М. Б.

Паназбіралі ягад за цэлы дзень багата,
у самы сонцаў захад пайшлі яны дахаты. У. Д.

**Байка**[1], наз., ж. р., ДМ байцы. ◘ 1. Кароткі павучальны сатырычны твор; рус. басня. Байка — адзін з жанраў шматграннай творчасці К. Крапівы. 2. перан. Пустыя размовы, выдумкі, плёткі; рус.

небылица. Байка з камара вырасце на вала. Прык. (рус. Делать из мухи слона).

**Байка**$^{2}$, наз., ж. р., ДМ байцы. ◘ Мяккая баваўняная тканіна з ворсам.

**Байніца**, наз., ж. р. ◘ Адтуліна ў сценах крэпасці для вядзення агню; амбразура.

**Бакоўка**, наз., ж. р., ДМ бакоўцы. ◘ Бакавы пакойчык у хаце, прыбудоўка пры чым-небудзь; рус. боковушка.

**Балагол**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Той, хто перавозіць грузы ці людзей на сваёй фурманцы; рус. извозчик. Народ таўчэцца каля конкі, . Па бруку б'юць падковы звонка, Гоымяць павозкі, буды, колы, Аж проста глушаць балаголы. К-с.

**Балея**, наз., ж. р. ◘ Вялікая нізкая драўляная ці металічная пасудзіна, у якой звычайна мыюць бялізну; рус. лохань.

**Бальшак**, наз., ж. р., -а. ◘ Вялікая дарога; шлях. Легкавік з прасёлачнай дарогі скіраваў на бальшак.

**Бамбіза**, наз., м. р. Разм. ◘ Пра высакарослага хлопца, мужчыну; рус. верзила. Абвесці нізкарослага абаронцу бамбізу Валіку было раз плюнуць... Як поршні, замільгалі яго цыбатыя ногі. А. Ф.

**Банкет**, наз., м. р., -у. ◘ Урачысты абед або вячэра з удзелам званых гасцей. Банкет на ўвесь сеет. Прык. (рус. Пир на весь мир). І госці свой банкет канчаюць, Адны другім дабра жадаюць...

- Ну, выбачайце ж, не крыўдуйце!
- Калі што кепска, то даруйце! К-с.

**Банкетаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Удзельнічаць у банкеце, гулянцы, праводзіць час на банкеце; рус. пировать.

Дзе заедзе, банкетуе
Сам ён, яго варта;
Ні старому, ні малому
Не спускае жартаў. К-а.

**Баравік**, наз., м. р., -а. ◘ Высокакаштоўны ядомы грыб; белы грыб. Чорнагаловыя, ўдалыя, Якою слаўнаю сям'ёю Баравічкі мае любыя! Вы ўстаяце перада мною! К-с.

**Баравіна**, наз., ж. р. ◘ Узвышэнне ў лесе, бары. Я помню летнія часіны І вас, грыбныя баравіны! К-с.

**Баразна**, наз., ж. р. ◘ Прарэз на глебе, зроблены плугам; рус. борозда.

[Антось:] — Як тут расло, на міласць Бога,
Калі ў зямлю не ўб'еш нарога?
Дзве баразны прайшоў — конь змогся...
Ну і народ, каб ён апрогся!
Так запусціць зямлю нядбала?

Не гаспадар быў, а завала! К-с.

**Барацьбіт**, наз., м. р., -а. ◘ Актыўны ўдзельнік барацьбы; рус. борец.

**Барва**, наз., ж. р. ◘ 1. Фарба, колер. Барвы восені. □ Калі барвы ўзяць на свеце з нашых кветак, з ясных зорак, — дык на тым чароўным цвеце больш было разоў у сорак. У. Д. Якія барвы! Сотня адценняў — ад цёмна-зялёнага да цёмнапурпуровага. У. Д. 2. Чырвань, густа-чырвоны колер; рус. багрец, багрянец.

**Барвовы**, прым. ◘ Густа-чырвоны, пурпуровы; рус. багровый, багряный.

**Бард**, наз., м. р., -а. ◘ Спявак-паэт; пясняр.

**Барклай**, наз., м. р., -я. ◘ Прылада для набівання паляўнічых патронаў. Як ціскі... ляскаў у руках Карпа барклай. У. Карат.

**Баршчэўнік**, наз., м. р., -у. ◘ Шматгадовая расліна з дробнымі белым! або жоўтымі кветкамі. Тут было ўсё, пачынаючы ад чабору, душыцы, мяты, зайцавага гарошку да... баршчэўніку. У. Д.

**Басанож**, прысл. ◘ Без абутку, босымі нагамі; рус. босиком. А як хацелася прайсціся басанож за плугам! Здаецца, акрыяў бы душой, падужэў бы цепам. Б. С.

**Бастыён**, наз., м. р., -а. ◘ Даўняе ўмацаванне па вуглах агароджы крэпасці.

Пакланюся бастыёнам
Брэсцкай крэпасці суровай. П. П.

**Батальён**, наз., м. р., -а. ◘ Вайсковае злучэнне з некалькіх рот і ўзводаў. Супрацьтанкавы батальён.

**Батлейка**, наз., ж. р., ДМ -ейцы. ◘ Папулярны ў мінулыя часы на Беларусі перасоўны лялечны тэатр; рус. вертеп, раёк. Батлейка бярэ пачатак са скамарошых лялечных прадстаўленняў.

**Бацвінне**, наз., н. р. ◘ 1. Лісце і сцябліны буракоў; рус. ботва. Так і цяпер: печ зачыніла, Работу ў хаце прыпыніла — Ідзі ў горад ты па бацвінне: Другі раз есці просяць свінні. К-с. 2. Страва, звараная з бурачнага лісця; рус. свекольник.

**Бацька**, наз., м. р. ◘ Мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей; тата; рус. отец.

Сыноў бацька сваіх кліча
А ўрачыста, як бы кліча
На нараду ў хату,
На якое свята. К-а.

**Бацькаўшчына**, наз., ж. р. ◘ 1. Краіна, дзе нарадзіўся чалавек, грамадзянінам якой ён з'яўляецца; родны куток; айчына; рус. отечество, отчизна; родина. Служыць бацькаўшчыне — сумленна працаваць. 2. Набытак бацькі, маёмасць, якая пераходзіць яго

дзецям у спадчыну; рус. отцовское наследство. І ўсё ж не бацькаўшчына гэта: Жывеш да часу, з лета ў лета, А ліха вынікне якое — Падумаць жудасна пра тое. К-с.

**Бацькі**, наз., адз. няма. ◘ 1. Бацька і маці ў адносінах да сваіх дзяцей; рус. родители. Шануй бацькоў сваіх. З Бібліі. 2. Папярэднія пакаленні, продкі. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка-далёка. Цётка.

**Бацян**, наз., м. р., -а. ◘ Бусел; рус. аист. Твае лугі, твае палеткі Вартуе ўлетку госць — бацян. А. Г.

**Бачыць**, -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ 1. Успрымаць зрокам, сваімі вачамі; уяўляць у думках; рус. видеть. Бачыць вока, ды ляжыць далека. Прык. (рус. Видит око, да зуб неймет).

Пылінку бачым у суседа,
Ды што? -ў яго іх не адна!
А ў сваім воку даўнім следам
Не заўважаем бервяна. К-а.

2. Сустракаць некага, нешта; трапляцца на вочы, сустракаць у жыцці.

А тыя ліпы і таполі!
Такіх не бачылі ніколі:
Развіслы, тоўсты, сакавіты,
Гамоняць з небам — паглядзі ты! К-с.

3. Звяртаць увагу, заўважаць. Аповесці А. Федарэнкі для дзяцей — пра цуды, якія побач з намі, якія надараюцца кожнаму, але, на вялікі жаль, не кожны іх бачыць і тым самым збядняе сябе і сваё жыццё. 4. Усведамляць, разумець, распазнаваць некага, нешта, дакладна вызначаць сутнасць асобы, з'явы, прадмета і адпаведна рэагаваць на гэта, быць здольным не памыліцца ў важным і вырашальным. Бачылі вочы, што бралі (куплялі), а цяпер ешце, хоць павылазьце. Прык. (рус. Глаза видали, что покупали). Бачыў Бог, што не даў свінні рог. Прык. (рус. Бодливой корове Бог рог не дает).

♦ Бачыць навылет (навылет); бачыць наскрозь — вельмі добра ведаць некага, нечыя намеры і не даць сябе падмануць.

♦ Далей свайго носа не бачыць — не бачыць і не разумець таго, што робіцца, і не прадбачыць кепскіх для сябе вынікаў з гэтага.

♦ За дрэвамі не бачыць лесу — за нечым дробным не заўважаць значнага, важнага, вялікага.

♦ Дай Бог чутае бачыць — пра жаданне здзяйснення таго, што некім паабяцана.

**Бездакорны,** прым. ◘ Які не выклікае папроку, заўваг, не мае недахопаў; беззаганны; рус. безупречный. Бездакорная праца.

**Бездань**, наз., ж. р. ◘ 1. Прорва; невымерная глыбіня; рус. бездна. 2. перан. Вялікая колькасць чаго-небудзь; безліч.

**Бездапаможны**, прым. ◘ Які мае патрэбу ў дапамозе; слабы; рус. беспомощный. Падтрымаць бездапаможнага чалавека — зрабіць добрую справу.

**Бездараж**, наз., ж. р. ◘ 1. Кепская дарога, бездарожжа; рус. бездорожье. 2. Час, калі дарогі становяцца непраходнымі (вясной, восенню).

Але найгоршае тут ліха —
Збірай зноў цапстрыкі, трасіся
Па каранях з дабром, з сям'ёю
У саму бездараж вясною. К-с.

**Безліч**, ліч. ◘ Незлічонае мноства, вялікая колькасць.

Хімікатаў розных безліч,
Што мы ўсе аднекуль везлі,
Будзем мець тады даволі
Ўсё ад той калійнай солі. У. Д.

**Безразважны**, прым. ◘ Такі, які не кантралюецца розумам, развагай; бяздумны; рус. опрометчивый, безрассудный. Безразважны чалавек. Безразважны ўчынак можа прывесці да бяды.

**Безумоўна**, прысл. ◘ Бясспрэчна, канечне; рус. безусловно.

**Беларускі**, прым. ◘ Які мае адносіны да беларусаў, Беларусі. Беларускі народ. Беларуская мова. Беларуская культура. Беларуская гісторыя. Беларускія звычаі, традыцыі. □ Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Ф. Б.

[Маці:]Ды яшчэ, каб лепей ведаў,
Мушу табе ўспомніць:
Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць. К-а.

**Беларусы**, наз., адз. беларус, -а, м. р.; беларуска, ДМ беларусцы, ж. р. ◘ Адзін з усходнеславянскіх народаў, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Беларусь. А хто там ідзе, а хто там ідзе У агромністай такой грамадзе? -Беларусы. К-а. [Маці:] Ўсе — і ты, і я, суседзі, Хто па-твойму, прусы? Дык жа ўцям: на Беларусі Жывуць беларусы! К-а. Жыў беларус і будзе жыць! К-а.

**Берагчы**, берагу, беражэш, беражэ; беражом, беражацё; незак. ◘ Захоўваць цэлым; вельмі эканомна, беражліва расходаваць; ашчадна карыстацца; засцерагаць ад чаго-небудзь; рус. беречь. Шанаваць і берагчы родную мову — заўсёды ўжываць яе,

размаўляць і пісаць на ей. □ Хто сам сябе сцеражэ, таго й Бог беражэ. Прык. (рус. Береженого Бог бережет).

[Маці:] — Хай беражэ цябе ад кулі
І ад варожых злых штыкоў
Святое пачуццё матулі —
Мая бязмежная любоў. П. Г.

**Берасцянка**[1], наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Каробка, сплеценая з бяросты; рус. туесок. 2. Лёгкі човен.

**Берасцянка**[2], наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Лясная пеўчая птушка; зяблік. Жыве берасцянка ў сухіх хвойных і лісцевых лясах, яна не любіць вільготных і балоцістых мясцін. В. В-і.

**Бескарыслівы**, прым. ◘ Які зроблены без жадання атрымаць выгаду, карысць; рус. бескорыстный. Бескарыслівы высакародны ўчынак.

**Бескарысны**, прым. ◘ Які не прыносіць карысці; дарэмны, марны; рус. бесполезный. Гультаю дапамагаць — бескарысная справа.

**Біблія**, наз., ж. р. ◘ Святое Пісанне, зборнік старажытных твораў (Стары і Новы запаветы). Кніга У. Ліпскага «Як Бог стварыў свет» — пераказ для дзяцей Старога запавету Бібліі. Другая частка Бібліі — Новы запавет апавядае пра зямное жыццё Ісуса Хрыста і дзеі апосталаў.

**Бібліятэка**, наз., ж. р., ДМ -тэцы. ◘ 1. Установа, якая збірае, захоўвае і выдае кнігі чытачам. У Мінску пабудавана новая Нацыянальная бібліятэка. 2. Серыя, збор кніг, прызначаных для пэўнай групы чытачоў. Серыя «Школьная бібліятэка». 3. Набор кніг, якія знаходзяцца ў чыім-небудзь карыстанні. Дома ў настаўніка таксама ёсць вялікая бібліятэка.

**Біяграфія**, наз., ж. р. ◘ 1. Апісанне жыцця і дзейнасці каго-небудзь; чыё-небудзь жыццё. Біяграфія пісьменніка. 2. перан. Гісторыя чаго-небудзь. Біяграфія нашай краіны.

**Благаславіць**, -слаўлю, -славіш, -славіць; зак. ◘ 1. Перахрысціць каго-небудзь з малітвай, пажаданнем удачы, шчасця. Добрай матчынай рукою Благаславі на трудны шлях. П. Г. 2. Ухваліць, накіраваць на што-небудзь.

**Благаславёны**, прым. ◘ Ухвалены, услаўлены. Благаславёны час той будзе, Калі я ў родным сваім людзе Куточак бацькаў прывітаю І радасць жыцця там пазнаю. К-с.

**Благі**, прым. ◘ Дрэнны, кепскі, непрыемны, непрыстойны; рус. плохой. Благая птушка свайго гнязда не пільнуе. Прык. (рус. Сколько волка ни корми, а все равно в лес смотрит). Благой благаце дрэнна і на куце. Прык. (рус. На урода все неугода).

**Блашчыца**, наз., ж. р. Абл. ◘ Клоп. Пераказваючы змест кнігі «Выхад», Ф. Скарына так піша пра 10 напасцяў, якія навёў Бог рукою Маісея на зямлю егіпецкую: «Першая напасць —ператварэнне вады ў кроў, якую нельга было піць; другая напасць — вялікае мноства жаб ва ўсіх дамах; трэцяя напасць — безліч блашчыцаў...»

**Бліжні**, прым. ◘ 1. Які знаходзіцца недалёка; самы блізкі. І на маёўку ў бліжнія бары завуць сяброўку юныя сябры. А. В-і.

2. у знач. наз. бліжні. Родны чалавек, прыяцель; наогул кожны чалавек. Любоў.да бліжняга.

□ Ім вядома — на грошы паквапіцца кат,
А павесіць ён кожнага бліжняга рад. У. Д.

**Бліскавіца**, наз., ж. р. ◘ Разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры; маланка; рус. молния. І вось жахнула бліскавіца, Як вогнямгненная крыніца. К-с. На паўнеба — бліскавіцы. Перуны такія, быццам сапраўды канец быў свету. У. Д.

**Блукаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Доўга хадзіць у пошуках некага, нечага; блудзіць; рус. блуждать, плутать. Доўга блукалі па лесе, шукаючы дарогу на вёску. 2. Бязмэтна хадзіць, гуляць; рус. бродить, шататься. 3. Перамяшчацца, знаходзіцца ў руху, узнікаць і прападаць. Блукаюць цені. За хмарамі блукае месяц. 4. Пераходзіць, пераязджаць з месца на месца ў пошуках некага, нечага; рус. скитаться. Блукаць па свеце ў пошуках лепшай долі.

**Блытаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Бязладна пераплятаць; рус. путать. Вецер блытае валасы. 2. Не цвёрда засвоіць, памыляцца, парушаць паслядоўнасць, лагічную сувязь падзей, дат і пад.; гаварыць ці рабіць не тое, што трэба. Запас маіх ведаў зусім небагаты. Гісторыю мне паўтарыць бы ізноў. Прызнацца, страшэнна я блытаю даты, Імёны ўсялякіх цароў, каралёў. А. З.

3. Прымаць адно за другое. Ад памылкі ніхто не застрахаваны, аднак нельга блытаць дабро са злом, — такі лейтматыў многіх філасофскіх вершаў А. Вярцінскага. 4. Расстройваць, разладжваць. Блытаць планы. 5. Уцягваць некага ў непрыемную справу; збіваць з панталыку, уводзіць у зман. Разумны і абачлівы чалавек не дазволіць нікому блытаць яго ў брудныя справы.

**Бляклы**, прым. ◘ Які страціў свежасць, яркасць; завялы, пацямнелы; рус. блёклый. Бляклыя фарбы позняй восені.

**Бляшанка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Банка з тонкага ліставога жалеза, з бляхі; рус. жестянка. Назбіраў Міколка чарвей у бляшанку з-пад кансерваў і пайшоў лавіць рыбу.

**Бог**, наз., м. р., Бога. ◘ 1. Паводле Свяшчэннага Пісання, Бог — найвышэйшая істота, уседзяржыцель, літасцівы Айцец,

спрадвечны і справядлівы суддзя, крыніца жыцця і красы. Паводле догмата Траістасці, адзінасутны Бог існуе ў трох асобах — іпастасях — Бога-Айца, Бога-Сына і Бога — Святога Духа.

□ Маліцеся ж вы... са слязамі! Каб даў Бог здольнасці, ахвоты Да вашай новае работы,
Панятнасць добрую і памяць
Ўсё браць на розум вам і цяміць,
І каб да кнігі вас гарнупа, —
Сказаў Міхал сынам прачула. К-с.
Не гані Бога ў лес, калі ён табе за пазуху залез. Прык. (рус. Не гневи Бога). На Бога спадзявайся, але і сам старайся. Прык. (рус. На Бога надейся и сам не плошай). 2. у клічнай форме Божа. Памажы, Божа, але й ты не ляжы, нябожа. Прык. Божа, памажы, а ты, дурню, падбяжы. Прык. (рус. На Бога надейся и сам не плошай).

**Бондар**, наз., м. р., -а. ◘ Майстар па вырабе драўлянага посуду (бочак, дзежак, цаброў і інш.); рус. бочар, кадочник. Беларусь здаўна славіцца выдатнымі бондарамі.

**Бортнік**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Пчаляр. Ды потым дзядзька прывучыўся, Да пчол зусім прызвычаіўся, І бортнік быў ён акуратны, Хоць не такі, як Кандрат, здатны. К-с.

**Бортніцтва**, наз., н. р. ◘ Лясное пчалярства, здабыча мёду дзікіх пчол; пчалярства наогул.

**Борць**, наз., ж. р. ◘ Булей у калодзе або ў дупле дрэва. Борць ён [мядзведзь] знюхаў. Палез па высокай яліне.

**Бохан**, наз., м. р., -а. ◘ Хлеб, пераважна круглай формы; рус. каравай.

А з печы бохан вымеш — ён ружовы,
Як жнівеньскага сонца дыск барвовы. У. Д.
Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан свежага хлеба пахучы. Р. Б.

**Боязна**, прысл. ◘ Страшна.

**Боязь**, наз., ж. р. ◘ Адчуванне страху, небяспекі; рус. боязнь.Яперамог у сабе боязь і ва ўмоўлены час накіраваўся да генерала. А. К.

**Бракаваць**[1], -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ 1. Прызнаваць нешта недабраякасным, заганным. Бракаваць тавар. 2. Адмаўляцца ад некага, нечага, адвяргаць нешта, некага. Маці дзякавала ўсім, што не бракуюць яе сына.

**Бракаваць**[2], безас.; незак. ◘ Не хапаць, быць у недастатковай колькасці; рус. недоставать.
[Хадыка:] — А сам я стаў слабы на ногі, Бракуе сілы мне, браточкі! Няма, мінуліся гадочкі, Калі зямлю вярнуў Хадыка Не горш вала таго ці быка. К-с.
Ехаў я цераз лес, а цяпер па лясіне. У. Д.
**Брама**, наз., ж. р. ◘ Вароты, якія закрываюць галоўны ўваход у горад, двор, завод і інш.
Зачуўшы татаў ход знаёмы, Малыя з хаты высыпалі, За брамай бацьку сустракалі. К-с.
**Брамнік**, наз., м. р., -а. ◘ Вартаўнік, дзяжурны пры браме; варатар; галкіпер; рус. привратник; вратарь. Пад'язджалі, ляпалі па плячы мужнага свайго брамніка, стукалі клюшкай аб шчыткі... А. Ф.
**Бранзалет**, наз., м. р., -а. ◘ Упрыгожанне ў выглядзе кольца, якое носяць на руцэ вышэй ад кісці; рус. браслет. Залаты бранзалёт.
**Браняносец**, наз., м. р., -носца. ◘ Вялікі браніраваны ваенны карабель з магутнай артылерыяй. Браняносец «Пацёмкін».
**Братавая**, наз., ж. р. ◘ Жонка брата.
**Браткі**, наз., адз. няма. ◘ Расліна з фіялетавымі або рознакаляровымі кветкамі; фіялка; рус. иван-да-марья; анютины глазки.
**Братэрства**, наз., н. р. ◘ Садружнасць, братні саюз; рус. братство. Братэрства — магутная сіла ў барацьбе з любымі праявамі зла, у тым ліку і з міжнародным тэрарызмам.
**Брат-сястра**, наз., ж. р. ◘ Расліна, від братаўкі; травіца-брат-сястрыца; рус. иван-да-марья.
**Бровар**, наз., м. р., -а. ◘ Піваварны або вінакурны завод; вінакурня. Пры карчме была крама і шынок, у які гарэлку прывозілі бочкамі з недалёкага панскага бровара. З. Б.
**Бросня**, наз., ж. р. ◘ 1. Плесня; рус. плесень. Смятана пакрылася слоем бросні. 2. Зялёная паверхня з водарасцяў, якой пакрываецца застаялая вада; рус. тина. Ні параходы, ні баржы, ні плыты не плылі па Дзвіне: бросняй зарасталі рачныя затокі. Т. Х. 3. перан. Атмасфера застойнасці, бездухоўнасці, праяўленне адмоўных з'яў. Д<Э самога чалавека залежыць, ці не пагрузне ён у бросні нізкіх страсцей.
**Бруд**, наз., м. р., -у. ◘ Гразь, адкіды, смецце.
**Брудна**, прысл. ◘ Нячыста, з прыкметнымі слядамі бруду, беспарадку; рус. грязно.
[Пра хату Хадыкі:] І на двары не вельмі ладна, Ўсё ней к раскідана, няскладна... І каля хаты было брудна; І нават гэта сама хата Была залішне праставата. К-с.

**Бруіцца**; незак. ◘ Цячы, пераліваючыся (пра ручай, крыніцу).

Цякла тут з лесу невялічка Травой заросшая крынічка, Абодва берагі каторай

Лазняк, ракітнік абступалі; Бруіліся ў цяньку іх хвалі. К-с.

**Брук**, наз., м. р., -у. ◘ Укладзеная каменем дарога, вуліца, плошча. Ідзе так дзядзька і па бруку Адзін за дзесяць робіць груку. К-с.

**Брукаванка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Брукаваная дарога, шаша.

**Брусніцы**, наз. ◘ Ягадная расліна і ягады гэтай расліны; рус. брусника.

Усе сухія баравіны Пакрыты завяззю брусніц. П. Г.

**Брыдка**, прысл. ◘ Непрыгожа, непрыстойна, ганебна; рус. некрасиво, стыдно.

Няхай ідзе! А хлопцам брыдка Так нападаць на дзеўку шwыдка, — Гаворыць дзядзька, бровы хмурыць І бальшуноў ён злёгку журыць. К-с.

**Брызент**, наз., м. р., -у. ◘ Грубая непрамакальная парусіна; рус. брезент. Накрыць збожжа брызентам.

**Брыль**, наз., м. р., -ля. ◘ 1. Капялюш. 2. Казырок шапкі. Тут з тратуара дзядзька верне, Ідзе, за брыль здалёк бярэцца, «Дзень добры» кажа, як вядзецца. К-с. 3. перан. Стрэшка над уваходам. На другі дзень у двор бальніцы, Дзе ганак звешвае свой брыль, Пад'ехаў, стаў аўтамабіль. К-с.

**Брыльянт**, наз., м. р., -а. ◘ Аграненьы і адшліфаваны асобым спосабам алмаз.

Там пабачыў я ў храме паміж іншымі Багамі [іконамі] аднаго з брыльянтам гэтым, найдзіўнейшым самацветам. У. Д.

**Брыльянцісты**, прым. ◘ Падобны колерам і ззяннем на брыльянт. Брыльянцістыя росы.

**Брычка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Лёгкі выязны вазок; рус. коляска, пролётка.

**Будаваць**, будую, будуеш, будуе; незак. ◘ 1.Ставіць, мураваць, рубіць дом, узводзіць будынак, збудаванне; рус. строить, сооружать. 2. перан. Ствараць, тварыць; рус. возводить, воздвигать. Мы на вахту працы сталі, Мір будуем на вякі. А. А. 3. Асноўваць, базіраваць на нечым. Будаваць абвінавачанне можна толькі на дакладных фактах. 4. Вычэрчваць нейкую геаметрычную фігуру на аснове зададзеных параметраў. Будаваць квадрат. 5. Састаўляць, складаць нешта, адбіраючы і размяшчаючы матэрыял пэўным чынам, у пэўным парадку, сістэме. Будаваць сюжэт. □ Мой метад: я не магу сесці за стол і «будаваць» з усімі «аддзелкамі» да таго часу, пакуль не маю ў галаве «сюжэтнага каркаса». І. Ш.

**Будан**, наз., м. р., -а. ◘ Буда з галля, саломы ці тонкага бярвення для часовага жылля; шалаш. Міх ал паноў кляне і лае; А ён загад з кватэры мае Сюды, ў будан, каб смачна спалі І гора бы паны не зналі, Завезці стол, услон, саломы. «Будуй ты ўсюды ім харомы...» К-с.

**Будаўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто будуе што-небудзь, працуе на будаўніцтве; рус. строитель. Імчалі па шашы грузавікі. Узводзілі палац будаўнікі. У. К.

**Будзень**, наз., м. р., будня. ◘ 1. Не святочны дзень. Гультай весяліцца і ў свята і ўбудзень. Прык. 2. перан. Штодзённае жыццё. Працоўныя будні.

**Будова**, наз., ж. р. ◘ Тое, што будуецца і пабудавана; будынак, пабудова; рус. строение. А на пажарышчы часова З'явілась новая будова — Зямлянка-будачка малая. К-с.

**Будоўля**, наз., ж. р. ◘ 1. Узвядзенне будынкаў; будаўніцтва. 2. Будаўнічы аб'ект, а таксама тэрыторыя, дзе што-небудзь будуецца; рус. стройка.
Мы Радзіму праспаўляем працай
На будоўлях, фабрыках, палях. В. Ш.

**Будучыня**, наз., ж. р. ◘ Часы, падзеі, якія прыйдуць на змену цяперашнім; рус. будущее, грядущее. Мінулае вучыць нас, як жыць, каб мець будучыню. □ А будучыня парасткам належыць. У. Карат.

**Будынак**, наз., м. р., -нка. ◘ Жылое, адміністрацыйнае ці гаспадарчае збудаванне; рус. здание, строение, постройка.
Былі тут розныя будынкі: Гуменцы, гумны і адрынкі,
Хлявы, і стайні, і аборы, Дабра, набытку былі горы. К-с.

**Буйны**, прым. ◘ 1. Які складаецца з аднародных часцінак вялікага памеру; проціл. дробны; рус. крупный. Буйныя кроплі расы. Буйныя літары. 2. Вялікі па памерах, па велічыні. Буйны горад. Буйное прадпрыемства. Буйное вайсковае злучэнне. 3. Выдатны, найбольш прыкметны сярод іншых; вялікі па значэнні, уплыве. Буйны вучоны. Буйны мастацкі твор.

**Бульба**, наз., ж. р. ◘ 1-Агародная расліна сямейства паслёнавых; рус. картофель. 2. Клубні гэтай расліны, якія выкарыстоўваюцца як харч, корм і сыравіна; рус. картошка. — З нашай бульбы тысячу, не меней, Смажаць і гатуюць розных страў! — Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем Пpower Песню ім пра бульбу праспяваў. П. П.

**Бульбоўнік**, наз., м. р., -у. ◘ Бацвінне бульбы; бульбянік; рус. картофельная ботва.

**Бульбянішча**, наз., н. р. ◘ Поле, з якога сабраны ўраджай бульбы.

**Бурачковы**, прым. ◘ Падобны колерам на бурак; лілова-чырвоны; рус. малиновый.

**Бурбалка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Паветраны шарык у вадзе або іншай вадкасці; рус. пузырь.

**Буркатаць**, -качу, -кочаш, -коча; незак. ◘ Утвараць характэрныя для галубоў гукі; лагодна і пяшчотна размаўляць; бурчаць, мурлыкаць; рус. ворковать. Голуб... нешта буркатаў галубцы. Р. С.

**Бурмістр**, наз., м. р., -а. Пет. ◘ Выбарная асоба ў магістратадміністрацыйны і судовы орган гарадскога самакіравання ў гарадах Беларусі, якія мелі магдэбургскае права ў XIV-XVIII стст. У канцы XVIII ст. царскі ўрад скасаваў на Беларусі магдэбургскае права, а бурмістраў замяніў прызначаемы ўладай гарадскі галава. БелЭн.

**Бурштын**, наз., м. р., -у. ◘ Скамянелая празрыстая смала хвойных дрэў, з якой вырабляюцца розныя аздобы, упрыгожанні; рус. янтарь.

**Бурштынавы**, прым. ◘ 1. Зроблены з бурштыну; рус. янтарный. Бурштынавыя пацеркі. 2. Колерам падобны на бурштын. Бурштынавы мёд.

□ Мох зялёны, бурштыновы Слёзы тыя ўзяў на сховы. У. Д.

**Буслянка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Буслава гняздо; рус. гнездо аиста. Амаль на кожным хляве ці на хаце — буслянка. Брыль.

**Бусляня і буслянё**, н. р., мн. бусляняты. ◘ Птушаня бусла; буслік; рус. аистенок, аистята.

А на дубах, як шапкі тыя,
Насы закідваюць угору
Чарнеюць гнёзды буслявыя,
І просяць есці ў сваю пору.
Буслы клякочуць, бусляняты
А там, дзе буслікі ўздужалі,
Пішчаць жалобна, як шчаняты,
Іх пачынаюць вабіць далі. К-с.

**Буяць**, буяю, буяеш, буяе; незак. ◘ Бурна расці, пышна красавацца. Ярына на полі буяла. К. Ч.

**Быльнёг**, наз., м. р., -нягу. ◘ Від палыну; чарнобыль, быльнік. Там [на пустцы] нават трава людская не расце. Адзін сівец з быльнягом раскашуюцца. А. Я.

**Бэз**, наз., м. р., бэзу. ◘ Дэкаратыўная кустовая расліна з блакітна-ліловымі або белымі духмянымі суквеццямі-гронкамі; рус. сирень.

**Бэсціць**, бэшчу, бэсціш, бэсціць, незак. ◘ І.Лаяць, зневажаць, ганьбіць; рус. поносить. Бэсціць іншага — зневажаць сябе і

нажываць ворага. 2. Брудзіць, псаваць, даводзіць нешта да непрыгоднасці; рус. трепать; грязнить. Бэсціць вопратку.

**Бязглуздзіца**, наз., ж. р. Разм. ◘ Тое, што пярэчыць сэнсу; глупства, недарэчнасць; рус. бессмыслица, вздор. Той, хто спачатку падумае, бязглуздзіцы не скажа.

**Бязмежны**, прым. ◘ Бяскрайні, які не мае межаў; рус. безграничный, беспредельный.

А што датычыцца дурноты...
На жаль, дурнота бязмежная амаль. А. В.

**Бязмен**, наз., м. р., -а. ◘ Ручная рычажная або спружынная вага. Данік адчыніў адрыну і ўбачыў у кутку бязмен: з булавешкай, але без кручка, на які падвешваюць тое, што важаць. Брыль.

**Бялізна**, наз., ж. р. ◘ Нацельнае адзенне пераважна светлых колераў, а таксама вырабы для бытавых патрэб; рус. белье. Пасцельная бялізна.

**Бянтэжыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца; незак. ◘ Хваляваціца, непакоіцца, губляцца; рус. приходить в замешательство; теряться, смущаться, тушеваться. З нахабства і глупства нават разумны чалавек бянтэжыцца.

**Бяседа**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Збор гасцей з пачастункам;рус. пир; застолье.

Не ядвабнымі абрусамі,
А ласкавымі прымусамі. М. Б.
Ды красна бяседа не ўзорамі,
А ласкавымі прыгаворамі,
2. Удзельнікі пачастунку. Спявала ўжо ўся бяседа. Р. С.

**Бяспека**, наз., ж. р., ДМ бяспецы. ◘ Адсутнасць пагрозы; становішча, пры якім нішто не пагражае; рус. безопасность.

♦ Савет Бяспекі ААН — асноўны пастаянны огран Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які адказвае за падтрыманне міру і бяспекі ў свеце.

Бясспрэчны, прым. ◘ Які не выкпікае пярэчанняў, спрэчак; несумненны, відавочны; рус. бесспорный, неоспоримый; безусловный, несомненный. Бясспрэчная ісціна. Бясспрэчны факт.

# В

**Вабіць**, -блю, -біш, -біць; незак. ◘ 1. Захапляючы, зачароўваючы сваім выглядам ці перспектывамі, прыцягваць да сябе; рус. манить, привлекать. Чалавека вабіць справа, у якой ён можа

рэалгзаваць свой дар. Птушку вабяць далі. 2. Падзываць птушак або звяроў, падрабляючы іх голас; рус. приманивать. Вабіць птушак свістам. Вавёрка, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Грызун з пушыстым хвастом, які жыве ў дуплах дрэў; рус. белка.

Мільганула і вавёрка. Усчынілі з ёй гаворку,
а яна сядзіць на месцы і нібы з хлапцоў смяецца. У. Д.

**Вавёрчын**, прым. ◘ Які належыць ці ўласцівы вавёрцы; рус. белкин, беличий. Вавёрчына дупло.

**Вага**, наз., ж. р., ДМ вазё. ◘ 1. Цяжар цела, які вызначаецца ўзважваннем; рус. вес. Прыбавіць у вазе. Вага пасылкі 8 кілаграмаў. 2. перан. Значнасць, сіла, уплыў, аўтарытэт. Вага асобы ў грамадстве вызначаецца найперш справай, якой ён служыць аддана ісумленна.

**Вагацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Мерна гайдацца з боку ў бок або зверху ўніз; рус. качаться, покачиваться. Пустая лодка вагалася на хвалях. Падлога вагалася. 2. перан. Змяняцца, быць непастаянным; рус. колебаться. Атмасферны ціск вагаўся на працягу сутак. 3. перан. Быць у нерашучасці, адчуваць няўпэўненасць; сумнявацца; рус. затрудняться. Вагацца пры выбары прафесіі.

**Вадасховішча**, наз., н. р. ◘ Штучны вадаём для збору і захавання вады; рус. водохранилище.

**Вадкасць**, наз., ж. р. ◘ Рэчыва, якое мае ўласцівасць цячы і набываць формы той пасудзіны, у якой знаходзіцца; рус. жидкость.

**Вадзянік**, наз., м. р., ◘ У народных павер'ях — уладар вадаёмаў, які жыве ў вадзе.

Лесуны выходзяць з нетраў і русалак карагоды.
Вадзянік і сорак ветраў там з'яўляюцца заўсёды. У. Д.

**Вадохрышча**, наз., н. р. ◘ Адно са свят праваслаўных хрысціян, якім завяршаюцца Каляды; Хрышчэнне Гасподне, Богаяўленне. Адзначаецца 19 студзеня; рус. Водосвятие. На Вадохрышча ў цэрквах асвячаюць ваду, у цудадзейную моц якой верылі з да — хрысціянскіх часоў.

**Важдацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. Разм. ◘ Доўга і цярпліва займацца з некім, нечым; корпацца, няньчыцца; рус. возиться, канителиться. Мерная справа — важдацца з гультаямі.

**Важкі**, прым. ◘ 1. Які мае значную вагу пры невялікім аб'ёме; рус. весомый. Важкі колас. 2. перан. Значны, пераканальны. Важкія словы. Важкія довады.

**Вазоўня**, наз., ж. р. ◘ Памяшканне для захоўвання вазоў. Восенню, зімой і ранняй вясной калымага стаяла ў старой вазоўні. М. М.

**Вайсковец**, наз., м. р., -коўца. ◘ Той, хто служыць у войску; рус. военнослужащий.

**Вакацыі**, наз., адз. няма. ◘ Канікулы.

**Вакол**. ◘ 1. прысл. Кругом, навокал; рус. вокруг. Вакол пануе цішыня. 2. прыназ. з Р. Кругом нечага; рус. вокруг, около. Вакол школы вучні пасадзілі ліпы і клёны.

**Ваксаваць**, -сую, -суеш, -суе; незак. ◘ Чысціць, мазаць абутак ваксай, маззю для скуранога абутку; рус. ваксить. Рэгулярна ваксаваць абутак.

**Валанцёр**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто добраахвотна паступае на вайсковую службу; добраахвотнік. Прыём вапанцёраў у войска прадугледжаны таксама і законам Рэспублікі Беларусь «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» ад 05.11.1992. Падлеткі аб'ядноўваюцца ў атрады валанцёраў, каб дапамагаць састарэлым і нямоглым. Сучасныя валанцёры — прадаўжальнікі слаўных цімураўскіх традыцый.

**Валатоўка**, наз., ж. р., ДМ -тоўцы. ◘ Курган, у якім, паводле паданняў, пахаваныя легендарныя асілкі-волаты. На магілцы-валатоўцы Зарунеюць кветак руні. К-а.

**Валацуга**, наз., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -цузе, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ 1. Бяздомны чалавек, які не мае пэўнага прыстанішча і заняткаў; бадзяга, блакуняга; рус. бомж. Па розных прычынах людзі становяцца валацугамі, але ўсе яны варты жалю і спагады. 2. Лаянкавае. Пра таго, хто любіць валачыцца, цягацца без справы; валацужнік.

**Валачобнік**, наз., м. р., -а. ◘ Песеннік, які ходзіць у велікодныя дні па дварах з віншавальнымі песнямі. Настаў Вялікдзень. Пайшоў Сымонка з іншымі хлапчукамі ў валачобнікі. З. Б.

**Валёнкі**, наз., адз. валёнак, м. р. ◘ Зімовы абутак з шэрсці.

**Валодаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Умела карыстацца чым-небудзь, быць майстрам сваёй справы; рус. владеть. 2. Уладаць, кіраваць, падпарадкоўваць сваёй волі, уладзе. Валодаць аўдыторыяй, увагай слухачоў. 3. Мець нешта, уладаць;рус. обладать. Валодаць маёнткам.

**Валока**, наз., ж. р., ДМ валоцы. Уст. ◘ Даўнейшая мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 20 га). Было зямелькі там валока, Дзе можна б моцна і глыбока Пусціць карэнні ў грунт, абжыцца — Было на чым разварушыцца. К-с.

**Валошка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Расліна, якая расце звычайна ў жыце і цвіце сінімі кветкамі; васілёк.

Ах, валошка, валошка, сястрыца рамонка! Зноў вы побач на ўцеху душы зацвілі. Як жа ў вашых імёнах пяшчотна і звонка Мова маці гучыць — голас роднай зямлі! Н. Г.

**Валошкавы**, прым. ◘ Сіні, колеру валошкі; рус. васильковый. Валошкавыя вочы.

**Валяр'ян**, наз., м. р., -у. ◘ Травяністая расліна, карэнне якой выкарыстоўваецца для лячэння; рус. валерьяна.

**Вандраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ 1. Падарожнічаць, доўга хадзіць, ездзіць дзе-небудзь; блукаць; рус. путешествовать. Трэба часцей вандраваць па роднай краіне, трэба больш вывучаць яе. В. В-і. 2. Пастаянна перамяшчацца; бадзяцца; рус. скитаться. Каб зарабіць, я летам з бацькам Па розных вёсках вандраваў. Я. Ж.

**Ванітаваць**, -туе, безас.; незак. ◘ Пра стан моташнасці, ірвоты; рус. тошнить; блевать.

**Вантрабянка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Каўбаса, зробленая з вантробы, ліверу; рус. ливерная колбаса.

**Вантробы**, наз., мн. л. ◘ Унутраныя органы чалавека ці жывёлы; рус. внутренности; требуха.

♦ Вантробы пераесці — вельмі надакучыць прыставаннем, просьбамі, кепскімі паводзінамі і пад.; рус. кишки вымотать.

**Вапна**, наз., ж. р. ◘ Рэчыва белага колеру, якое здабываецца з вапняку; рус. известь. Сцены будынкаў і платы пабялілі вапнай.

**Вапнаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ Уносіць у глебу вапну; рус. известковать. Вапнаваць падзолістую глебу.

**Вар**, наз., м. р., вару. ◘ Вада ў стане кіпення; рус. кипяток. У вочы з мілым тварам, а за вочы — крутым варам. Прык. (рус. Мягко стелет, да жестко спать).

**Варожасць**, наз., ж. р. ◘ Адносіны і дзеянні, прасякнутыя непрыязнасцю, нянавісцю; рус. вражда.

Дружыце! -1 будзе прыгожае, харошае ваша жыццё. А. В.

Варожасць — самае горшае у свеце людскім пачуццё.

**Варта**[1], наз., ж. р., ДМ варце. ◘ Група людзей для аховы; каравул; рус. охрана.

І прайшоў, пранёс ля варты,

Хоць было мне страшнавата. У. Д.

**Варта**[2], безас. у знач. вык. ◘ Неабходна, трэба, карысна; рус. стоит, следует. Пасля працы варта адпачыць.

♦ Нікуды не варта; куды гэта варта — вельмі кепска, непрыстойна.

**Варты**, прым. ◘ 1. Які заслугоўвае чаго-небудзь; які адпавядае нечаму. Варты жалю. Варты пачэснага месца. 2. у знач. наз. вартае. Тое, што мае значную вартасць..

Дзіваваліся суседзі: як няроўна ў свеце шчасце! Тых — дык з коптурам надзеліць, а каго — з маленькай часці.

Людзі ведаюць нядрэнна пра усе такія змены і гавораць нібы жартам: варты вартага і варты. У. Д.

**Варункі**, наз., адз. варунак, м. р. ◘ Абставіны, умовы; рус. обстоятельство. У XV-XVI стст., у час эпохі Адраджэння, на Беларусі склаліся асабліва спрыяльныя варункі для развіцця культуры і мастацтваў.

**Варушыцца**, -рушуся, -рушышся, -рушыцца; незак. ◘ 1. Прыходзіць у ледзь прыкметны рух ад нечага; шавяліцца. Лісце варушыцца. 2. Актыўна дзейнічаць, займацца нечым.

♦ Варушыць мазгамі (галавою) — разважаць, абдумваць. З зямлёю клопат быў вялікі, Прыйшлося ездзіць да Хадыкі Ды варушыць і галавою Над гэтай справай грашавою. К-с.

**Варыўня**, наз., ж. р. ◘ Будынак для захоўвання бульбы, гароднiны; рус. истопка.

Ды йзноў бяда: праз год вясною Згарэла хата з варыўнёю І ўвесь набытак, што быў у дому. Пажар той выбухнуў, як з грому. К-с.

**Вар'ят**, наз., м. р., -а. ◘ Хворы чалавек, які страціў розум; шалёны, дзівак; рус. сумасшедший. Толькі вар'ят не клапоціцца, не дбае пра сваю будучыню, сваіх дзяцей.

**Васпан**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Ветлівы зварот да мужчыны (да жанчыны — васпані) у шляхетным асяроддзі; ваша міласць; рус. господин, сударь.

-А скуль вы, мой васпане? І хто такі сам, ягамосцю? — Фядос пытанне ставіць госцю. К-с.

**Ваўкалак**, наз., м. р., -а. ◘ Паводле паданняў — чалавек, здольны абарочвацца ў воўка; пярэварацень; рус. оборотень. Лясы, кусты і адна хата; Тут жыць сапраўды страшнавата: Лагчыны, яміны, раўкі — Тут, пэўна, шворацца ваўкі І злыдні ходзяць, ваўкалакі!.. К-с.

**Ваяўнічы**, прым. ◘ 1.Схільны да вайны, канфліктаў; задзірысты; рус. воинственный. Ваяўнічыя плямёны. Ваяўнічы настрой. 2. Актыўны і непрымірымы ў дзеяннях, праяўленнях, катэгарычны ў меркаваннях; рус. воинствующий. Сатанізм — ваяўнічы атэізм. Не страшна, што ў свеце ёсць зло, страшна, калі зло становіцца ваяўнічым, калі яго больш, чым дабра і справядлівасці. Людзі павінны быць пільнымі, каб зло не стала ваяўнічым.

**Веды**, наз., адз. няма. ◘ Звесткі, набытыя пры навучанні; тое, што ведаюць пра жыццё, з'явы, прадметы; рус. знания. Ты веды набудзеш у школе, А веды -надзейны твой друг. К-а.

**Вежа**, наз., ж. р. ◘ І. Высокае і вузкае архітэктурнае збудаванне; рус. башня. Вежы Мірскага замка. □ На вежах стромкіх днююць зоры. У. Д. 2. Вышка для гармат і кулямётаў на танках і руднах. 3. перан. Пра нешта вельмі высокае. — Ну, дрэвы! нечага сказаць; Зямля, брат, сілы многа мае — Такія вежы выганяе! К-с.

**Века**, наз., н. р. ◘ Накрыўка; рус. крышка. Века ўзняў ён нецярпліва, а пад ім — такое дзіва! У. Д.

**Векапомны**, прым. ◘ Які будзе доўга помніцца; варты памяці; незабыўны; рус. незабываемый. Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага — векапомная падзея ў гісторыі Бацькаўшчыны.

**Велізарны і вялізарны**, прым. ◘ 1. Вельмі вялікі; вялізны; шматлікі; рус. огромный, громадный. Велізарны палац. Велізарнае войска. 2. перан. Вельмі значны па сваёй сіле, размаху, уплыве, уздзеянні; рус. величайший. Дзейнасць нашага першадрукара і асветніка Ф. Скарыны аказала велізарнае ўздзеянне на развіццё ўсёй славянскай літаратуры і культуры.

**Веліч**, наз., ж. р., Т вёліччу. ◘ Грандыёзнасць, незвычайная сіла праяўлення некага, нечага, што выклікае вялікую пашану; рус. величие. Веліч Бога. Веліч і хараство прыроды. Веліч Перамогі над карычневай чумой.

**Венцер**, наз., м. р., -а. ◘ Рыбалоўная сетка ў выглядзе мяшка, нацягнутага на абручы.

Лавіў наш дзядзька нераткамі І венцярамі і сачкамі, Ды аднаго ўсё ж бракавала: У дзядзькі чоўна неставала. К-с.

**Вепр**, наз., м. р., вёпра. ◘ Дзікі кабан; дзік.

**Веравызнанне**, наз., н. р. ◘ Прыналежнасць да пэўнай рэлігіі.

**Верагодны**, прым. ◘ Праўдападобны; магчымы; рус. достоверный.

**Верас**, наз., м. р., -у; мн. верасы. ◘ Нізкая вечназялёная кустовая расліна з дробным лісцем і лілова-ружовымі кветкамі; рус. вереск. Замоўклі птушак галасы, І пахне свежым верасам. М. Х.

**Верасень**, наз., м. р., вёрасня. ◘ Дзевяты месяц каляндарнага года; рус. сентябрь. Халодны верасень, але сыты. З нар. Уверасні адна ягада, дый то зоркая рабіна. З нар.

**Верашчака**, наз., ж. р., ДМ -чацы. ◘ Рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі праправамі; мачанка.

Тым часам маці даставала Чыгунчык з печы, лыжку брала І верашчаку налівала. К-с.

А за станом на верашчаку Падгатаўлялі ўжо атаку. К-с.

**Вербніца**, наз., ж. р. ◘ Вербная нядзеля; народная назва хрысціянскага свята ў гонар уваходу Госпада ў Іерусалім.

Вербніца адзначаецца ў апошнюю перад Вялікаднем нядзелю, да якой прымеркавана асвячэнне вярбы (адсюль назва).

**Вернік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто верыць у Бога; рус. верующий. У нашай краіне вернікі карыстаюцца свабодай веравызнання.

**Верацярпімасць**, наз., ж. р. ◘ Прызнанне права на свабоду веравызнання. Верацярпімасць — умова міру і згоды паміж людзьмі розных рэлігійных канфесій.

**Верф**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства, якое будуе і рамантуе судны. Карабельная верф.

**Верш**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Невялікі мастацкі твор, напісаны рытмізаванай, звычайна рыфмаванай мовай; рус. стихотворение. Філасофскі верш. Верш у прозе — кароткі паэтычны твор, у якім адсутнасць рыфмы кампенсуецца вобразнасцю, павышанай эмацыйнасцю, асацыятыўнасцю і філасофскай заглыбленасцю. 2. Вершаваная адзінка, вершаваны радок; рус. стих. Памеры верша -харэй, ямб, дактыль, амфібрахій, анапест.

**Веславаць**, вяслую, вяслуеш, вяслуе; незак. ◘ Грабці вёсламі. Я ў рукі ўзяў вясло, Вяслую з поўнай сілай. Я. П.

**Весніцы**, наз., адз. няма. ◘ Вароты ў двор, у агарод, у поле; рус. калитка. Звыклы сялянскі двор, з хлевушкамі, павеццю, весніцамі на прыгуменне. К. Ч. І сам пастух бяжыць, гукае І гэту заедзь праклінае; Няма за поганню парадку, Сярдуе сам і злуе статка, Барзджэй, як можа, ў хлеў пражэцца — І горш у весніцах таўчэцца. К-с.

**Веснічкі**, наз., адз. няма. ◘ Вузкія дзверцы ў плоце; варотцы.

**Ветах**, наз., м. р., -а. ◘ Месяц у апошняй квадры, на зыходзе. Ад маладзіка да ветаха.

**Веташок**, наз., м. р., -шка. ◘ Памянш.-ласк. да ветах. За ею [дарогай] веташок развітальны, двухрогі, Ранак сустрэўшы, хаваецца ў жыце. М. К.

**Ветлівы**, прым. ◘ Ласкавы, далікатны, прыветлівы, добразычлівы, прыязны; рус. вежливый.

Пан Богут ветлівым паклонам Гасцей вітае дарагіх. К-с. Калі ласка — нашай роднай мовы Шчырыя і ветлівыя словы. П. Б.

**Ветэрынар**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст, які лечыць жывёл.

**Вечнасць**, наз., ж. р. ◘ Працяг часу без пачатку і канца; бясконцасць існавання. На скрыжалях вечнасці напісаны яе законы: веруй у Бога адзінага; не забі; не ўкрадзі; не сведчы фалыиыва; шануй бацькоў сваіх... □ Без чалавечнасці не будзе і вечнасці. П. П.

**Вёска**, наз., ж. р., ДМ вёсцы. ◘ 1. Сельскае паселішча; рус. деревня. А сінячку нядрэнна ў ім [стракатым уборы]. ён не баіцца нават зім,

Пагрэцца у зімовы час Ляціць у вёску ён да нас. У. Д. 2. Сельская мясцовасць; жыхары вёскі. Паехаў працаваць у вёску. Уся веска сабралася на сход.

**Відавочны**, прым. ◘ Яўны, бясспрэчны, прыкметны, ясны; рус. очевидный. Відавочны факт.

**Відовішча**, наз., н. р. ◘ 1. Тое, што бачыцца, аглядаецца; рус. зрелище.

Было ў дарозе шмат відовішч, Малюнкаў розных, гора, слёз. К-с. 2. Паказ, прадстаўленне. Да свята рыхтавалася цудоўнае відовішча.

**Відэлец**, наз., м. р., -льца. ◘ Сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубцамі; рус. вилка.

За стол садзяцца ўсе ў парадку І прад сабой кладуць аладку, ' Відэльцы, лыжкі разбіраюць І стравы першае чакаюць. К-с.

**Візір**, наз., м. р., -а. ◘ Міністр, дзяржаўны саветнік у некаторых краінах Блізкага Усходу. Шахеразада была дачкой візіра.

**Вільгаць**, наз., ж. р. ◘ Вада; сырасць; рус. влага, влажность. Вільгаць глебы. □ З балот пацягнула цёплаю вільгаццю. К-с.

**Вільготны**, прым. ◘ 1. Насычаны, пакрыты вільыаццю; мокры; рус. влажный. Вільготнае адзенне. 2. У якім залішне вільыаці. Вільготны клімат. Вільготны склеп.

**Вільчак і вільчык**, наз., м. р., -а і -а. ◘ Верхні стык даху, страхі; канёк.

**Віншаваць**, -шую, -шуеш, -шуе; незак. ◘ Вітаць, славіць каго-небудзь з радаснай падзеяй, святам; рус. поздравлять. Віншаваць з перамогай у алімпіядзе па беларускай мове. □ — Ну, вось і дома, дзякуй Богу! — Прыйшлі у хату, ўсіх цалуюць, З святым Вялікаднем віншуюць. К-с.

**Віньетка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Аздабленне ў выглядзе малюнка на загаловачным лісце кнігі, у пачатку або ў канцы раздзела.

**Вір**, наз., м. р., -у. ◘ Кругавы, лейкападобны рух вады, які ўзнікае ад сутыкнення сустрэчных плыняў; водаварот; рус. омут. В/р управа ад лодкі ўсё бурліў і пераліваўся. А. К. Свой над вірам патрасе, але ў вір не панясе. Прык. (рус. Свои люди — сочтемся).

♦ Хоць у вір галавою — пра цяжкае безвыходнае становішча.

**Віраваць**, -руе; незак. ◘ І.Утвараць віры, круціць; бурліць. Плыт пераходзіў у пратоку, і вада клекатала, віравала. А. С. 2. перан. Бурліць; кіпець. Жыццё віруе. Страсці віруюць. Вітаць, -аю, -аеш, -зе; незак. ◘ 1. Звяртацца да некага, нечага з прывітаннем; рус. приветствовать. Усмешкі кідаюць шчасліва, — І ім [хмаркам] хацелася, відаць, Святы Вялікаднік вітаць. К-с. 2. Добразычліва, прыхільна сустракаць.

ўсе віталі Мілавіцу, тую зорку-зараніцу. У. Д.
Усе віталі там хлапчыну з васільковымі вачыма, 3. Віншаваць. 4. без дап. Заходзіць, наведвацца. Барона гонар свой збаўляе Ды зноў da сметніка вітае. К-с.

**Віхура**, наз., ж. р. ◘ Бура, завея, завіруха; рус. вьюга, буран. Дарожкі і сцежкі занесла віхура, Не знаць, дзе балота, дзе лог, дзе папар. К-с. Віхуры і мяцелі ў лютым наляцелі. З нар.

**Віціна**, наз., ж. р. Уст. ◘ Крытае судна для перавозкі збожжа па рацэ. Хадзіў на сплаў ён [Міхал], на віціны. Разоў са два схадзіў у Прусы — Куды не трапяць беларусы? К-с.

**Вобзем**, прысл. ◘ Аб зямлю, на зямлю; вобземлю; рус. оземь.

**Вобмацкам**, прысл. ◘ Датыкаючыся, абмацваючы што-небудзь; рус. на ощупь.

**Вогнішча**, наз., н. р. ◘ 1. Агонь; рус. костер. Падкідваць ламачча ў вогнішча. 2. Месца, дзе гарэў агонь; рус. кострище, огнище.

**Водар**, наз., м. р., -у. ◘ Прыемны пах, духмянасць; рус. аромат. Дым з водарам сухога ядлоўцу ахінуў-агарнуў з усіх бакоў. У. Д.
На палянах тых і водах Незлічоных кветак подых. У. Д.
Явар шле духмяны водар На паляны, цераз воды.

**Водгук**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Адбіццё гуку, водгулле, рэха. Водгук далёкага грому. 2. Пачуццё ў адказ на што-небудзь, душэўны парыў; рус. отзвук. Водгук у сэрцах людзей.
І сэрца водгук сэрца чула, І сэрца к сэрцайку гарнула... К-с.
□ Была вясна, было імкненне, І сэрца ведала тамленне,

**Водгулле**, наз., н. р. ◘ Тое, што і водгук (у 1 знач.); рус. эхо, отзвук. У пушчы воклічы усе Далека водгулле нясе. У. Д. Зварот пары, зніканне лета... То — водгулле душы паэта, То — смутны вобраз развітання, То — струн дрыгучых заміранне. К-с.

**Воддаль**, прысл. ◘ На некаторай адлегласці; рус. поодаль. Падыходзім да прыгожага вялікага дома, які стаіць воддаль. А. Б.

**Вожык**, наз., м. р., -а. ◘ Невялікі звярок, пакрыты доўгімі вострымі калючкамі; рус. еж.
Навядзе парадак вожык на дарожках, ля дарожак. У. Д.

**Войт**, наз., м. р., -а. ◘ Сельскі стараста ў часы прыгону. Уцякаў ад пана, а папаў да войта. Прык. (рус. Из огня да в полымя).

**Волат**, наз., м. р., -а. ◘ 1-Казачны герой незвычайнай сілы, мужнасці, адвагі; асілак, магут; рус. великан, богатырь. 2. перан. Чалавек выдатных здольнасцяў, геній; тытан. У гэтай хаце адбылася першая сустрэча волатаў нашай літаратуры — Янкі Купаны і Якуба Коласа. С. А. 3. перан. Пра што-небудзь надта вялікіх памераў.

Там дубы свае вяршыні ў небасхіл узносяць сіні,
а лістамі зоры крыюць нашы волаты старыя. У. Д.

**Воля**, наз., ж. р. ◘ 1. Магчымасць дзейнічаць самастойна, свядома і мэтанакіравана рэгуляваць сваю дзейнасць; свабода, незалежнасць; проціл. няволя. Воля — сонейку раўня. К-а. Мудрыя ўсіх вякоў лічылі, што ў кожнай дзяржаве пачціваму чалавеку няма нічога даражэйшага за волю. Л. С. 2. Упартае імкненне дасягнуць нечага. Воля да жыцця. Сіла волі. 3. Жаданне, патрабаванне.

Вось наша воля апошняя, наш запаветны наказ... Мір — гэта самае большае, чаго б мы хацелі для вас. „Мы лепшая памяць аб мёртвых — Ваша любоў да жывых. А. В. 4. Улада, права. Не ісці насуперак волі бацькоў. 5. Прастор, прыволле, раздолле.

Такая шыр бязмежная... Што крок, то волі знак! К-с.

**Вонкавы**, прым. ◘ Знешні, знадворны; рус. наружный, внешний. Вонкавы выгляд хаты быў бездакорны.

**Вопратка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Верхняе адзенне; рус. одежда.

Распраналі, разувалі ў спальні нашага Сымона.

Кветку Шчасця ўсё шукалі ва ўсёй вопратцы ягонай. У. Д.

**Ворыва**, наз., н. р. ◘ 1. Рыхленне глебы плугам; рус. вспашка. Працаваць на ворыве. 2. Узараная глеба, ралля; рус. пахота. Дзяўчынка бегла проста па ворыве, легка пераскокваючы з скібы на скібу. У. Кр.

**Воўна**, наз., ж. р. ◘ 1. Валасяное покрыва авечак. 2. Састрыжанае такое покрыва як матэрыял для вырабу сукна, валёнак і інш.; рус. овечья шерсть. Часаць воўну. □ На лаве стаяць тры прасніцы. Дзве з кудзеляю, а адна з воўнаю. К. Ч.

**Воцат**, наз., м. р., -у. ◘ Вадкасць з рэзкім кіслым смакам; рус. уксус. Кансерваваць гародніну можна з воцатам. Вочап, наз., м. р., -а. ◘ Шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро.

...Ды студні вочап адзінока Тырчаў над хатаю высока. К-с.

**Вочы**, наз., адз. вока, н. р. ◘ 1. Орган зроку; рус. глаза. Заплюшчыць вочы.

□ За гарамі, за даламі, за сыпучымі пяскамі

Жыў даўней адзін хлапчына з васільковымі вачыма. У. Д. 2. Зрок; здольнасць бачыць. Зоркія вочы. Чаго вочы баяцца, тое рукі зробяць. Прык.

**Вусень**, наз., м. р., -я. ◘ Чэрвепадобныя лічынкі матылька; рус. гусеница. Вусені аб'ядаюць капусту.

**Вусны**[1], наз., адз. няма._◘ Губы, рот. На вуснах мёд, а на сэрцы лёд. Прык. Вуснамі мёд разпівае, а за пазухай камень трымае. Прык.

(рус. Мягко стелет, да жестко спать). Спрадвечнай тэмы пераказ Вусны:

Не трэба слоў, не трэба фраз, — Вусны ў вусны. Р. Б.

**Вусны**[2], прым. ◘ Які вымаўляецца, не пісьмовы; не ў пісьмовай форме; рус. устный. Фальклор -вусная народная творчасць.

**Вусцішна**, прысл. ◘ Страшна, жудасна; рус. жутко. [Стары:] — І да таго стала вусцішна, апанаваў такі жах, што і выказаць вам нельга. А. Пал.

Міхалу вусцішна і жудка, І сэрца стукае ў ім пудка. К-с.

**Выбачаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Не караць за што-небудзь, дараваць; рус. прощать, извинять.

[Дзед Мароз:] — Выбачай мне за спазненне, Што ніхочаш -я ў імгненне Для цябе зраблю. К. Кір.

**Выбоіна**, наз., ж. р. ◘ Выбітае ўдарам паглыбленне на любой паверхні; яма на дарозе; калдобіна; рус. колдобина, ухаб.

**Выбух**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Імгненнае вылучэнне энергіі з моцным гукам і разбуральным дзеяннем; рус. взрыв. Выбух гарматы. 2. перан. Раптоўнае праяўленне якога-небудзь дзеяння, пачуцця. Выбух смеху. Выбух абурэння.

**Выгляд**, наз., м. р., -у. ◘ Знешні воблік некага, нечага; рус. вид.

Бо гэты човен -яго ўласны, І не цячэ ён ані-ні; Чаўнок, куды ні павярні. К-с!

А дзядзька важны выгляд мае; Замест вясла прысок трымае, А твар яго, як сонца, ясны, Выдаткі, наз., адз. выдатак, м. р. ◘ Затраты, расходы; рус. издержки, расходы. Выдаткі на вучобу абавязкова акупяцца.

**Выдатны,** прым. ◘ Вельмі добры, цудоўны; рус. отличный. А дзядзька — о, ён акуратны! Работнік дзядзька наш выдатны: Ва ўсім парадак і лад любіць І часу дарма ён не губіць! К-с.

**Выдыгаць**, -аю, -аеш, -це; незак. ◘ Дагаджаць, выказваць сваю адданасць.

Ён [Богут] перад ёю [жонкай] выдыгае, Як закаханы, малады. К-с.

**Выжал**, наз., м. р., выжла. ◘ Гончы сабака; рус. выжлец.

Мы сюды іх і запросім рассудзіць аб нашым прорсе.

У. д.

Спрэчку вырашым мы скора, каб на добрае ўсім выйшла: тут да нас бягуць два выжлы.

**Выжарына**, наз., ж. р. ◘ Выгаралы ўчастак балота, лесу; рус. пал, прогар. На выжарынах любіць расці верас.

**Вызваліцель**, наз., м. р., -я. ◘ Той, хто вызваліў ці вызваляе кагонебудзь; рус. освободитель. Беларусь вітала воінаў — вызваліцеляў ад карычневай чумы.

**Вызваліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ І.Зрабіць некага свабодным, выпусціць на волю; рус. освободить. Вызваліць вязняў з канцлагера. 2. Адваяваць захопленую ворагам тэрыторыю. Вызваліць горад ад фашысцкіх захопнікаў. 3. Выратаваць ад нечага. Вызваліць людзей з-пад абвалаў у час землятрусу. 4. Звольніць, зняць з працы, займаемай пасады.

**Вызначыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ 1. Высветліць невядомае; разабрацца ў нечым; дакладна ўстанавіць; рус. определить. Вызначыць напрамак ветру з дакладнасцю да градуса. 2. Выявіць сутнасць, раскрыць змест нечага; ахарактарызаваць; даць азначэнне. Вызначыць рамантызм як творчы метад. 3. З'явіцца прычынай нечага. Уклад сям'і, прыклад бацькоў вызначае лёс чалавека. 4. Вынесці рашэнне, пастанову; устанавіць, назначыць. Вызначыць памер пенсіі. Вызначыць меру пакарання.

**Выканаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Ажыццявіць, здзейсніць (наказ, задание); рус. выполнить. Выканаць даручэнне. Выканаць абяцанне. 2. Праспяваць, сыграць, станцаваць; рус. исполнить. Выканаць песню.

**Выкладаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Вучыць некага нечаму, перадаючы звесткі пра нешта; працаваць настаўнікам, выкладчыкам; рус. преподавать. Выкладаць родную мову. Выкладаць ва універсітэце. 2. Выказваць, тлумачыць; рус. излагать. Выкладаць свой праект.

**Выкладчык**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто выкладае вучэбны прадмет у навучальнай установе; рус. преподаватель. Выкладчык універсітэта.

**Выключны**, прым. ◘ Ч.Які з'яўляецца выключэннем з правілаў; рус. исключительный. 2. Асаблівы, незвычайны; рэдкі.

Бо свет і жыццё мнагалучны І мнагавобразны, выключны.

3. Вельмі добры. Выключнае ўздзеянне.

Таемна схованы, цікавы І разнастайны іх праявы. К-с.

**Вылучыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ 1. Адабраць з агульнай масы; выдзеліць. Уменне з усяго прачытанага вылучыць галоўнае і зрабіць адпаведныя высновы — адзін з паказчыкаў разумовай дзейнасці. 2. Адзначыць пэўным чынам; паставіць на больш адказную працу; прапанаваць для выбрання куды-небудзь; рус. выдвинуть. Аповесць В. Быкава «Знак бяды» была вылучана на атрыманне Ленінскай прэміі. Вылучыць кандыдатам у дэпутаты.

3. Прымеркаваць на пэўныя мэты; аддаць на карыстанне; рус. выделить. На сацыяльныя патрэбы, культуру, адукацыю, ахову здароўя вылучылі больш сродкаў у параўнанні з мінулым годам.

**Вымаўленне**, наз., н. р. ◘ Перадача голасам гукаў ці слоў мовы, а таксама нормы і правілы такой перадачы; рус. произношение. Вымаўленне спалучэнняў зычных. Беларускае літаратурнае вымаўленне.

**Вымова,** наз., ж. р. ◘ Пакаранне, спагнанне за адмоўныя ўчынкі, кепскія адносіны да працы, даручанай справы; рус. выговор. Суровая вымова з апошнім папярэджаннем.

**Вынаходлівасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Здольнасць знаходзіць выйсце са складанага становішча; рус. изобретательность. Прафесія разведчыка патрабуе выключнай кемлівасці і вынаходлівасці. 2. Здольнасць ствараць, вынаходзіць новае. Вынаходлівасць розуму.

**Вынаходнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто адкрыў, знайшоў нешта новае, хто займаецца вынаходніцтвам; рус. изобретатель. У сатырычнай камедыі М. Матукоўскага «Мудрамер» расказваецца пра тое, як вынаходнік Мурашка змайстраваў прыбор «дурамер», што можа з дакладнасцю вызначыць усіх «аслоў на ваяводстве» і наогул разумовыя здольнасці людзей.

**Вынаходніцтва**, наз., н. р. ◘ 1. Дзейнасць вынаходнікаў; рус. изобретательство. Займацца, захапляцца вынаходніцтвам. 2. Тое, што і вынаходства.

**Вынаходства**, наз., н. р. ◘ Вынік творчай працы вынаходніка: прыбор, машына, эфектыўны спосаб вытворчасці нечага і пад., якія адкрыты, вынайдзены; рус. изобретение. Кнігадрукаванне лічыцца і па сённяшні дзень адным з самых галоўных адкрыццяў і вынаходстваў чалавецтва.

**Вынік**, наз., м. р., -у. ◘ Канчатковы паказчык якіх-небудзь дзеянняў, плён працы, намаганняў; рус. результат, итог. Вынік працы.

**Выпадак**, наз., м. р., -у. ◘ Здарэнне; з'ява; рус. случай. Выпадак з жыцця.

**Выпраменьваць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Выдзяляць светлавую, цеплавую і інш. энергію ад пэўнай крыніцы; выдзяляць прамяністую энергію; рус. излучать. Выпрамёньваць святло. // у перан. знач. Вочы выпраменьвалі пяшчоту і каханне.

**Вырай**, наз., м. р., выраю. ◘ 1. Цёплы край, куды адлятаюць птушкі. Каб любіць Беларусь нашу мілую, Трэба ў розных краях пабываць. Разумею цяпер, чаму з выраю Жураўлі на Палессе ляцяць. А. Ст. Ажно з гоняў Беларусі Ў вырай вылецелі гусі. К-а. 2. Чарада

пералётных птушак. А ў небе ўдзень і вечарамі Высока роўнымі шнурамі Злятаўся вырай жураўліны. К-с.

**Выратавальнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто ратуе каго-небудзь; збавіцель; збаўца; рус. спаситель, спасатель. А хіба ёсць, што забываю ць Выратавальніка свайго? А. В.

**Высакародны**, прым. ◘ Крыштапьна чысты, велікадушны, сумленны; рус. благородный. Свет трымаецца на высакародных людзях.

**Высілкі**, наз., адз. высілак, м. р. ◘ Напружанне, намаганне; рус. усилия. Вучоба патрабуе высілкаў. Пераканаць упартага — марныя высілкі.

**Выслоўе**, наз., н. р. ◘ Глыбокая думка, выказаная коратка, трапна, дасціпна; афарызм; рус. изречение. Прыказкі і прымаўкі — трапныя народныя выслоўі. □ Гаворацць, чалавека стварыла праца. Звужаючы гэта выслоўе, можна сцвярджаць, што чалавек працаю ствараe свой талент. М. Луж.

**Выснова**, наз., ж. р. ◘ Вывад, заключэнне. Праанілізаваўшы прычыны гістарычнай падзеі, вучань зрабіў высновы.

**Выспа**, наз., ж. р. ◘ Невялікі востраў, часцей пясчаны. Сярод гэтых лясоў сустракаюцца выспы, абкружаныя балотамі. А. Ч.

**Вытворчасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Выраб, стварэнне ўсіх неабходных для чалавека матэрыяльных даброт: прадметаў, тавараў, прадуктаў харчавання і пад.; рус. производство. Вытворчасць сталі, машын. Вытворчасць сельгаспрадукцыі. 2. Праца па стварэнні якой-небудзь прадукцыі. Праца на вытворчасці — падмурак жыцця грамадства. Вучыцца без адрыву ад вытворчасці.

**Вытрываць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Цярпліва; стойка перанесці штонебудзь, выцерпець. Вытрываць боль.

**Выхаваны**. 1. дзеепрым. ад выхаваць. ◘ 2. прым. Які добра паводзіць сябе, ветлівы; рус. воспитанный. Выхаваны чалавек не абражае сваімі паводзінамі прысутных.

**Выхаваць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Выгадаваць, даць адукацыю, падрыхтаваць да жыцця, навучыць правілам паводзін, перадаць свой духоўны вопыт; падрыхтаваць да якой-небудзь дзейнасці; рус. воспитать. Выхаваць дзяцей. 2. Шляхам сістэматычнага

# Г

**Габляваны і габлёваны**, прым. ◘ Апрацаваны гэблем, рубанкам; гладкі, струганы.

**Гаворка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ 1. Размова; рус. разговор. [Бацька:] — Мне балюча, мне і горка весці гэтую гаворку... Вы пры мне раслі ўсе трое. Ці ж вучыў я вас на злое? У. Д. 2. Чуткі, пагалоска; рус. молва. Які Рыгорка, такая пра яго гаворка. Прык. (рус. Какова пава, такова ей и слава). Пайшла па людзях гаворка пра страшнага цмока. К-а. 3. Асаблівасць мовы ў пэўнай мясцовасці; рус. говор. Чэрвеньская гаворка істотна адрозніваецца, да прыкладу, ад слуцкай.

**Гавець,** гавею, гавееш, гавее; незак. ◘ Пасціць і рыхтавацца да споведзі.

**Гавяда**, наз., ж. р. Абл. ◘ Каровы, буйная рагатая жывёла; рус. скот. Гавяду ў многіх вёсках пасуць па чарзе.

**Гадаваць**, гадую, гадуеш, гадуе; незак. ◘ 1. Вырошчваць, выхоўваць, даглядацць; рус. воспитывать. Праца гадуе, а лянота марнуе. Прык. Нават птушкі жыць не хочуць легка — Гчёзды ўюць, гадуюць птушанят. В. Ш. 2. Адпускаць, адрошчваць. Гадаваць вусы.

**Гадавіна**, наз., ж. р. ◘ Дзень, у які спаўняецца яшчэ адзін год нейкай падзеі; рус. годовщина. 60-я гадавіна Перамогі над фашызмам.

**Гадзіна**, наз., ж. р. ◘ 1. Прамежак часу ў 60 хвілін. 2. Момант у жыцці чалавека; пара. Вольная гадзіна. Шчаслівая гадзіна. Ліхая гадзіна.

**Гадзіннік**, наз., м. р., -а. ◘ Прылада, якой вымяраецца час сутак; рус. часы. Мінскі завод «Прамень» выпускаў высакаякасныя гадзіннікі.

**Гадзіць**, -джу, -дзіш, -дзіцы, незак. ◘ 1. Псаваць, брудзіць; рус. портить, пачкать. Нельга гадзіць мэблю. 2. Шкодзіць, рабіць подласці. Гадзіш другому — чакай і самому. З нар.

**Гадзіць**, гаджу, годзіш, годзіць; незак. ◘ 1. Старацца задаволіць некага, робячы прыемнае, патрэбнае; дагаджаць; рус. угождать. Госцю гадзі, ды і сябе глядзі. Прык. 2. Садзейнічаць, спрыяць некаму, нечаму. Хто полю годзіць, у таго жыта родзіць. Прык. (рус. Доход не живет без хлопот).

**Гадунец**, наз., м. р., -нца. ◘ 1-Дзіця, якое хто-небудзь выхоўвае; гадаванец. 2. Вырашчаная, выгадаваная расліна або жывёла. На дзялянцы падрасталі гадунцы.

**Газа**, наз., ж. р. ◘ Гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перапрацоўцы нафты; рус. керосин.

**Газоўка**, наз., ж. р., ДМ газоўцы. ◘ Самаробная газавая лямпа без шкла; рус. коптилка. Пануры астрог цьмяна асвятляўся газоўкамі. К-с.

**Гаіцца**, гоіцца; незак. ◘ 1. Зажываць, залечвацца. Назбіралі пер'я, пуху, Каб шпаку цяплей было, 2. перан. Сцішацца, супакойвацца (пра душэўны боль, крыўду). Дзіцячае сэрца хутка гоіцца.

**Гаіць**, гаю, гоіш, гоіць; незак. ◘ 1. Залечваць, мець лекавыя якасці. Многімі травамі гояць раны. 2. перан. Сцішаць душэўны боль. Час — найлепшы лекар, толькі ён гоіць раны на сэрцы.

Каб было заўсёды суха,
Каб гаілася крыло. С. Г.

**Гай**, наз., м. р., гаю. ◘ Невялікі лес; дуброва; рус. роща. Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Немана. К-с.

**Гайда**, выкл. у знач. вык. Разм. ◘ 1. Ужываецца як загад або заклік ісці куды-небудзь разам; рус. айда. [Лабановіч.:] — Гайда, хлопцы, у дарогу! К-с. 2. Ужываецца для абазначэння хуткага руху, дзеяння: паспяшаўся, паехаў, пайшоў і пад. Сеў на каня ды гайда дадому.

**Гайдацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Рытмічна хістацца з боку ў бок або зверху ўніз; гушкацца; рус. качаться. Гайдацца на арэлях. 2. Мець хвалісты выгляд, пераліваецца хвалямі; рус. колыхаться, колебаться. Гайдаецца пад ветрам жытнёвае мора. □ Акіян гайдаўся на прасторы. А. З-к.

**Гайдаць**, -аю, -аеш, -ае і гойдаць, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Рытмічна хістаць некага, нешта з боку ў бок або зверху ўніз; калыхаць; рус. качать; колебать.

Любоўна ветры па загонах
Жытцо, ярынку чуць гайдалі,
Як нянька добрая ці матка
Ў калысцы гойдае дзіцятка. К-с.

**Гайдук**, наз., м. р., -а. ◘ Слуга пана, выязны лакей; лёкай.

Гайдукі ўзялі хлапчыну,
Хто за рукі, хто за ногі,
І панеслі гэткім чынам,
Як вяльможніка якога. У. Д.

**Гайня**, наз., ж. р. ◘ Зграя ваўкоў, сабак; рус. стая.

**Галган**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Галадранец, нягоднік; рус. оболтус, болван.

Пан пачынае з высокага ганка: — Як ты асмеліўся, галган пракляты, каля палаца хадзіць панібратам? У. Д.

**Галгофа**, наз., ж. р. ◘ Пагорак каля Іерусаліма, на якім катавалі і крыжавалі Ісуса Хрыста.

♦ Узысці на Галгофу — паахвяраваць сабой, прыняць пакуты за іншых.

**Галеча**, наз., ж. р. ◘ Адсутнасць сродкаў для жыцця; крайняя беднасць; рус. нужда, нищета. Гапеча ды голад пагоняць на холад. Прык. (рус. Беда всему научит).

**Галёнка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Частка нагі ад калена да ступні; рус. голень.

**Галіна**, наз., ж. р. ◘ Бакавы адростак на ствале дрэва; сук з веццем; рус. ветка. Гні галінку, пакуль маладзенькая. Прык. (рус. Куй железо, пока горячо).

**Галіна**, наз., ж. р. ◘ Асобная вобласць навукі, вытворчасці і пад.; пэўная сфера заняткаў, дзейнасці; вобласць; рус. отрасль. Машынабудаванне — галіна вытворчасці. Працаваць у галіне фізікі.

**Галіць**, галю, голіш, голіць; незак. ◘ Зрэзваць брытвай валасы; брыць.

**Галош і галёш**, наз., м. р., -а. ◘ Гумавы абутак, які адзяваецца на другі абутак для засцярогі ад вады, гразі; рус. калоша. Абуць валёнкі з галошамі.

**Галкіпер**, наз., м. р., -а. ◘ Варатар, брамнік.

**Гамонка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Гутарка, размова. Павярнуць гамонку ў іншым напрамку. 2. Гукі, гоман. Людская гамонка парушала цішыню ночы.

**Ганак**, наз., м. р., ганка. ◘ Прыбудова перад уваходам у дом; рус. крыльцо.

Выйшаў на ганак з палаца вяльможны.
Сэрца сялянскае б'ецца трывожна. У. Д.

**Ганарлівы**, прым. ◘ Горды, ганарысты, фанабэрысты, перакананы ў сваёй вартасці; рус. горделивый; спесивый. Ганарлівы ды ўпарты нічога не варты. Прык. Іван па натуры добры, не ганарлівы, з людзьмі размаўляе ахвотна і ветліва. А. Кул.

**Ганаровы**, прым. ◘ 1. Які карыстаецца пашанай; пачэсны; рус. почетный. Ганаровы грамадзянін горада. 2. Які даецца за вялікія заслугі. Ганаровае зван не народнага пісьменніка.

**Ганарысты**, прым. ◘ Які пагардліва ставіцца да людзей, лічыць сябе лепшым за іншых; фанабэрысты, самаўпэўнены; рус. высокомерный, надменный. Ганарысты чалавек сам сабе шкодзіць. □ Калісьці ў старадаўні час былі тады ўсе паны, жыў ганарысты пан у нас. але вось гэты — горшы ўсіх. Хоць ганарыстымі яны Яго празвалі — Васпан Пых. У. Д.

**Гандаль**, наз., м. р., гандлю. ◘ Дзейнасць, звязаная з купляй і продажам тавараў; рус. торговля. — і я — скажу вам па сумленню — Мае вы міленькія госці, Больш к гандлю маю нахіленне. І прадаю сваю пасаду, — Дык вось чаму я, ягамосці, Казаў Хадыка ўсё да ладу. К-с.

**Гандляр**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца гандлем; крамнік; рус. торговец. Гандляры паадчынялі свае крамы.

**Ганебны**, прым. ◘ 1. Варты асуджэння; подлы, нізкі; зняважлівы, абражальны; рус. позорный. Ганебны ўчынак. 2. перан. Такі, якога варта саромецца; бясслаўны. Ганебнае мінулае.

**Ганіць**, ганю, ганіш, ганіць; незак. ◘ Прызнаваць непрыгодным, дрэнным; асуджаць, абгаворваць.

Я не ганю землі чужыя —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе за морам ні жыіў я,
Беларусь мая сніпася мне. Г. Б.

**Ганьба**, наз., ж. р. ◘ Бясслаўнае становішча, вартае асуджэння, пагарды; рус. позор. Здаўна за вялікую ганьбу лічыліся лянота, п'янства і ліхвярства.

**Ганьбаваць**, -бую, -буеш, -буе; назак. ◘ 1. Даваць некаму ганьбу, знаходзіць заганы, недахопы; рус. поносить. Не ганьбуючы, не купіш, не хвалячы, не прадасі. Прык. (рус. Всякий купец свой товар хвалит). 2. Грэбаваць, пагарджаць; рус. пренебрегать. Не ганьбуй старым ботам, пакуль новага не пашыў. Прык. (рус. Новых друзей набывай, но и старых не забывай).

**Ганьбіць**, -блю, -біш, -біць. ◘ Ч.Зневажаць нечую годнасць; асуджаць, няславіць; рус. бесчестить, порочить. Трэба на сябе паглядзець — не станеш іншых ганьбіць. 2. Быць ганьбай для некага, нечага; няславіць сваімі паводзінамі, учынкдмі; рус. позорить. Махлярства і гультайства ганьбяць, а сумленная праца славіць. Кепскімі ўчынкамі дзеці ганьбяць сваіх бацькоў.

**Гарадавы**, наз., м. р., -ога. ◘ Ніжні чын гарадской паліцыі ў царскай Расіі.

Шукае дзядзька наш, як Бога,
Ў людской галдзе гарадавога.
А вось і ён!..
Стаіць, як той пастух над статкам,
І наглядае за парадкам. К-с.

**Гарапашнік**, наз., м. р., -а. ◘ Бядняк, гаротнік, пакутнік; рус. горемыка.

**Гарбар**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст па апрацоўцы і вырабе шкур; рус. кожевенник.

**Гарбарня**, наз., ж. р. ◘ Майстэрня па вырабе шкур; гарбарны завод; рус. кожевенный завод.

**Гарбата**, наз., ж. р. ◘ Чай. Кубак гарбаты.

**Гарбуз**, наз., м. р., -а. ◘ Агародная расліна з паўзучым сцяблом, а таксама буйны круглы або авальны плод гэтай расліны; рус. тыква.

**Гаркавы**. ◘ Трохі горкі, гаркаваты.

**Гарлач**, наз., м. р., -а. ◘ Збан з вузкім горлам; рус. кувшин. Сцюдзёнку ў гарлачах на жніва Няслі дзяўчаты ад крынічкі. М. К.

**Гарлачык**, наз., м. р., -а. ◘ Вадзяная расліна з вялікімі лістамі і белымі (рус. кувшинка) або жоўтымі (рус. кубышка) кветкамі; вадзяная лілія.

**Гармата**, наз., ж. р., ДМ гармаце. ◘ Агульная назва артылерыйскай зброі (пушка, гаўбіца, марціра і інш.); рус. орудие; пушка. З такой гаворкай да гарматы Прыйшлі яны [сябры] і важна сталі, Гармату доўга разглядалі, Гпядзелі ззаду і з бакоў, Аб ёй сказалі колькі слоў. К-с.

♦ Гарматай не праб'еш — пра ўпартага чалавека, якога нельга ньчым пераканаць.

♦ Страляць з гарматы па вераб'ях — траціць многа сіл, энергіі, сродкаў на дробязную справу.

**Гарнушак**, наз., м. р., -шка. ◘ Маленькі гаршчок; рус. горшочек. Алесь хадзіў каля крынічкі... Хадзіў, свістаў пад голас птушак, Збіраў ён ягадкі ў гарнушак. К-с.

**Гаротны**, прым. ◘ 1. Які церпіць, перажывае гора; няшчасны (пра чалавека); рус. горемычный. 2. Бедны, цяжкі; поўны гора, нястач.

Зазнаўшы зла нямала ўжыцці сваім гаротным,
дзяўчынка спагадала заўсёды ўсім гаротным. У. Д.

**Гарохавінне**, наз., н. р. ◘ Каліўе абмалочанага гароху; гарохавая салома. Раней сеннікі-матрасы набівалі гарохавіннем.

**Гартаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Рабіць цвёрдым, трывалым шляхам моцнага награвання і хуткага ахаладжэння; рус. закалять. Гартаваць сталь. 2. перан. Выхоўваць стойкасць, вынослівасць.

Мы з пароды мужнай, працавітай,
Гартавалі нас цяжкія бітвы. П. П.

**Гарусавы**, прым. ◘ Звязаны ці сатканы з баваўняных ці шарсцяных кручаных нітак. У строях кожнай беларускай жанчыны была квяцістая гарусавая хустка.

**Гарэза**, наз., аг. р., ДМ гарэзу, Т гарэзам — м. р.; ДМ гарэзе, Т гарэзай (-аю) — ж. р. ◘ Весялун, непаседа; рус. озорник, шалун; сорванец; проказник (пра мужчыну); озорница, шалунья; егоза (пра дзяцей).

Гарэзай Груню жартаўліва
Празвалі хлопцы за гуллівасць. М. А.

**Гарэзлівы**, прым. ◘ Вясёлы, жвавы, непаседлівы; рус. озорной; шаловливый. Гарэзлівая дзяўчынка.

**Гаспадар**, наз., м. р., -а. ◘ І.Уласнік, уладар чаго-небудзь; які вядзе гаспадарку; рус. хозяин. Дбайны гаспадар. □ Які гаспадар, такі і

тавар. Прык. 2. Галава сям'і, дома. Якія мы гаспадары, такія й нашы двары. Прык. 3. Той, хто мае ўладу, поўнаўладны распарадчык.

Людская праца — уладар.
Яна на свеце — гаспадар. У. Д.

**Гаспадарка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ 1. Вытворчасць; рус. хозяйство. Сельская гаспадарка. Лясная гаспадарка. 2. Абсталяванне, інвентар, пабудовы, якія належаць каму-небудзь. За гаспадарку ненарокам Міхал на новым месцы ўзяўся: Каня, кароўку расстараўся, Завёў свіней, дзве-тры авечкі. К-с.

**Гаспадыня**, наз., ж. р. ◘ 1. Жан. да гаспадар (у 1, 2 знач.); рус. хозяйка.

Юнак прывітаў гаспадыню старую, падзякаваў шчыра за ласку такую. У. Д.

...А цэлы рад збаноў на плоце
Казаў аб тым, што гаспадыня
Была ўжо ў моцнай каляіне
І што яе таксама справа
Вялася добра і рухава,
Бо тут збаны не так стаялі:
Яны за тое ўжо казалі,
Што малака было даволі. К-с.

2. Жонка гаспадара.

Хоць не шляхецкага ён [Язэп] роду, Але падтрымліваў іх моду, А гаспадыняй меў дваранку, Вельмі панадную шляхцянку. К-с.

**Гаспода**, наз., ж. р. Уст. ◘ Дом, жыллё гаспадара. Міхал злез з воза, кінуў вокам, У двор шыбуе мерным, крокам, Ідзе, гасподу разглядае. К-с.

**Гасподзь**, наз., м. р., Госпада. ◘ Назва Бога ў хрысціянскай рэлігіі — найвышэйшай істоты, Дэміурга, усёдзяржыцеля, літасцівага Айца, спрадвечнага суддзі, увасаблення праўды, дабра і красы.

**Гасціна**, наз., ж. р.◘ 1. Госці. 2. Прыём гасцей; рус. угощение. Усяго стаяла досыць для гасціны: Нават мёд быў і чмяліны і пчаліны. М. Б.

3. Знаходжанне ў гасцях, гасцяванне. Пабылі ў добрай гасціне.

**Гасцінец**[1], наз., м. р., -нца. ◘ Рэч, ласунак, якія госці або блізкія падносяць як падарунак; рус. подарок.

Ваўчком Алёнка пазірае;
Яе тут Зося абнімае,
Гасцінцам дзеўчынку трактуе,
Яе і песціць і цалуе,

Увочкі ёй гпядзіць прыветна -
Сама Яхіміха бяздзетна. К-с.

**Гасцінец**[2], наз., м. р., -нца. ◘ Вялікая бойкая дарога; шлях; рус. большак, тракт. Дарогу, па якой ездзілі госці, назвалі гасцінец. Клышка.

Крот, Мурашка і Лісіца
маршыруюць па гасцінцы.
Крочаць весела і жвава.
У дарозе ўсё цікава. У. Д.

**Гасцінны**, прым. ◘ 1. Які любіць прымаць і частаваць гасцей; рус. гостеприимный, хлебосольный. 2. Прыветны, сардэчны; рус. радушный. Гасцінная сустрэча.

**Гатенак**, наз., м. р., -нку. ◘ 1. Разрад, катэгорыя тавару па якасці, расцэнцы і інш.; рус. сорт. Сукно вышэйшага гатунку. 2. Разнавіднасць тавару. Наша «Камунарка» вырабляе цукеркі розных гатункаў:

**Гаць**, наз., ж. р. ◘ 1. Насціл з бярвення, галля для пераезду цераз балота, гразкае месца. Гаць будавалі ўсёй вёскай. 2. Плаціна; запруда.

♦ Хоць гаць гаці — вельмі многа, безліч нечага. — Па віду пан і ходзіць панам, А спіць напэўна пад парканам, Таго й глядзіць, каб што ўварваць... Такіх паноў -хоць гаці гаць! К-с.

**Гаючы**, прым. ◘ Карысны для здароўя; здольны вылечваць хваробу; рус. целебный. Гаючая крынічная вада. Гаючая сіла родных мясцін.

**Гвалт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Прымяненне фізічнай сілы; здзек; рус. насилие.

Выходзяць на бітву аршанцы,
Суровы ідзе Магілёў,
Каб помсціць фашысцкім паганцам
За гвалты, за здзек і за кроў. А. А.

2. Прымус; уціск. Псіхалагічны гвалт не менш страшны, чым фізічны. 3. Крык, шум, лямант. Узнялі гвалт.

**Гвалтоўна**, прысл. ◘ Супраць волі, жадання; сілай. 3 сэрца гвалтоўна не вырвеш кахання. А. З.

**Герой**, наз., м. р., -я. ◘ 1. Чалавек, які здзейсніў подзвіг у імя Радзімы, народа. Той герой, хто за Радзіму гарой. Прык. Хто за Радзіму гарой, той сапраўдны герой. Прык. 2. Дзейная асоба мастацкага твора; персанаж. Героі прыгодніцкіх аповесцяў А. Федарэнкі «Шчарбаты талер» і «Афганская шкатулка» — дзеці, падлеткі, нашы сучаснікі.

**Гетман**, наз., м. р., -а. Гіст. ◘ 1. Галоўны начальнік над узброенымі сіламі ў некаторых еўрапейскіх краінах у XV-XVIII стст. 2. Камандуючы войскамі ў ВКЛ. Гетман Канстанцін Астрожскі.

**Гіль**, наз., м. р., гіля. ◘ Снягір.

**Гісторыя**, наз., ж.р. ◘ 1. Жыццё ў яго развіцці. Законы гісторыі. 2. Падзеі і факты з мінулага. Беларусь увайшла ў гісторыю як краіна-партызанка, як мужны барацьбіт з фашызмам. □ Гісторыя... не толькі люстэрка жыцця грамадства, але і пэўны алгарытм яго будучыні. В. Б. 3. Навука аб развіцці грамадства. Гісторыя старажытнага свету. 4. Расказ, апавяданне. Захапляльныя гісторыі расказвала бабуля сваім унукам. 5. Здарэнне, выпадак. Здарылася дзіўная гісторыя.

**Гладыш**, наз., м. р., -а. ◘ Збан без ручкі з верхам, шырэйшым за дно; рус. кринка, крынка. Гпадыш з малаком.

**Глеба**, наз., ж. р. ◘ 1. Верхні ўрадлівы, раслінны пласт зямлі; рус. почва. Урадлівая глеба.

□ Кінь вясной у глебу зерне, — дык увосень жменю верне! У. Д.

2. Аснова, апора. Вучоныя даказалі, што сям'я — самая спрыяльная глеба для выхавання лепшых якасцяў дзіцяці і падрыхтоўкі яго да жыцця.

**Глей**, наз., м. р., глёю. ◘ Адклады на дне вадаёмаў; рус. ил. Азёрныя глеі складаюцца з арганічных і мінеральных часцінак. Прырода Беларусі. Глей шырока выкарыстоўваецца ў сельскай гаспадарцы для паляпшэння глебы.

**Глузд**, наз., м. р., -у. Разм. ◘ Розум, развага; рус. ум, рассудок; мозг. ♦ З глузду з'ехаць — страціць розум, развагу; звар'яцець; рус. рехнуться, спятить.

**Глуміць**, глумлю, глуміш, глуміць; незак. ◘ 1. Марна траціць нешта, псаваць; рус. портить; зря тратить. Не глумі траву і расліны: яны частка нашай прыроды. 2. Здзекавацца, насміхацца з каго-небудзь, чаго-небудзь; рус. издеваться. Заваёўнікі заўсёды пачыналі з таго, што глумілі нашы святыні, нашу мову.

**Глушэц**, наз., м. р., глушцё. ◘ Вялікая лясная птушка сямейства цецеруковых; рус. глухарь.

Глушэц чым далей, то ўсё болей
Дзесь на суку за тоўстай хвояй
Рассеўся важна і балбоча,
А як спявае — плюшчыць вочы,
Тады нічога ён не чуе;
Але не цягам ён такуе,
А робіць часта перарывы,

Тады ўжо чутак ён надзіва,
Тады замры і стой зацяты;
Пачне спяваць — хоць бі з гарматы. К-с.

**Гляк**, наз., м. р., -а. ◘ Гліняны посуд з выпуклымі бакамі і вузкім горлам. Гпяк сцюдзёнай вады.

□ Але ніколі не бывае так,
каб аднаму дастаўся поўны гляк. У. Д.

**Гмах,** наз., м. р., -у. ◘ 1. Вялікі вышынны дом, будынак; рус. громадина, махина. Высокі клён, Але і ён - Па пояс дому-гмаху. П. М. 2. перан. Пра нешта надта высокае. . Павее ветрык — што за пахі! Мёд разліваюць тыя гмахі [стагі], Віно найлепшае і ром, Як плата шчырая касцом. К-с.

**Гнёвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Быць у гневе; абурацца, злавацца; рус. сердиться, негодовать. Гиевацца з-за дробязі — псавацць характер. 2. Крыўдзіцца; рус. обижаться. — Ты не гневайся на мяне, Аўгінька, -ласкава сказаў Марцін. К-с.

**Годзе**, прысл. ◘ Хопіць, даволі, досыць; рус. хватит, довольно. — Ну, дзядзька, годзе ўжо смяяцца; Самім нам трудна дагадацца, Адкуль, з чаго такія гукі? К-с. Пачаў Цікаўны. піць ваду, Ніяк не можа супыніцца. Дзяўчына кажа: — Годзе піць! Усё, што ў меру толькі, добра. У. Д.

**Годнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Неабходныя маральныя якасці чалавека, а таксама ўсведамленне гэтых якасцяў; рус. достоинство.

ніхто не наносіў абраз, каб не было неабходнасці рашаць: ці біць у адказ? А. В.

...Ды я за тое, каб нас не білі ні справа, ні злева, ні ў профіль, ні анфас. Каб гордасці нашай і годнасці 2. Вартасць, прыгоднасць. Тэрмін годнасці прадукта. 3. Званне. За выдатныя дасягненні ў выхаванні моладзі Алесю Мікалаевічу Белакозу нададзена годнасць народнага настаўніка.

**Годны**, прым. ◘ 1. Патрэбны, прыгодны для нечага. Годны для выкарыстання. 2. Варты каго-небудзь, чаго-небудзь; рус. достойный.

І сыны адказ трымалі
Перад бацькам родным.
А стараўся з іх быць кожны
Свайго бацькі годным. К-а.

Гоман, наз., м. р., -у. ◘ 1. Бязладны шум, мноства галасоў; рус. галдёж.

Аж пушча ўся звінела ад гоману і смеху. У. Д.

2. перан. Пра гукі прыроды; рус. гул. Усю ноч ад рэчкі і па Неман, Ушыр, удоўж нясецца гоман Няўцямны, сцішны і таемны

І разам страшны і прыемны. К-с. Беларусам, якія не дома, Пэўна, сніцца, бароў нашых гоман. Е. Л.

**Гонар**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Тое, што выклікае павагу; рус. почет. Адвеку працавітасць і гаспадарлівасць лічыліся гонарам і вартасцю чалавека. 2. Павага, слава; рус. честь. Акуратнасць і дбайнасць, працавітасць і памяркоўнасць робяць гонар кожнаму чалавеку. □ У запек Яська йдзе, садзіцца — Да дзела ж трэба прыступіцца! Хоць і папаў ён у няволю, Але выконваў сваю ролю, Бо так і гонар ты свой згубіш. К-с.

3. Фанабэрыстасць, пыха; рус. гонор; спесь. Гонар і пыхлівасць не ўпрыгожваюць чалавека.

**Гонта**, наз., ж. р., ДМ гонце. ◘ Дахавы (рус. кровельный) матэрыял у форме дошчачак, востра састruганых з аднаго боку і з пазам — з другога; рус. гонт. Злазь з даху — не псуй гонту. Прык. (рус. Не в свои сани не садись).

І вось надарыцца часамі
Мароз над ўсімі маразамі;
Ідзе сярдзіта, пагражае,
Па даху гонтамі страляе... К-с.

**Грабар**, наз., м. р., -а. ◘ Рабочы, які выконвае земляныя работы, капае студні; землякоп. Праца грабара не менш патрэбная, чым праца аратага, сейбіта.

**Грамада**, наз., ж. р., ДМ -дзё. ◘ Група, калектыў; натоўп; рус. общество, мир. Няма грошай — не бяда, як сяброў грамада. Прык. (рус. Не имей сто рублей, а имей сто друзей). З тае пары не свеце так ідзе: цудоўны скарб увесь у грамадзе. Затым і мудрасць грамады вышэй, чым самага выдатнага з людзей. У. Д.

**Грамадзянін**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, які пастаянна жыве ў якой-небудзь краіне, карыстаецца правамі і выконвае абавязкі, устаноўленыя яе канстытуцыяй; рус. гражданин. Гоамадзянін Беларусі.

**Грамадзянскі**, прым. ◘ 1. Які вызначае прававое становішча грамадзян у дзяржаве; рус. гражданский. Гоамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь. 2. Уласцівы грамадзяніну дзяржавы. Гоамадзянская мужнасць. 3. Неваенны, цывільны. Грамадзянская авіяцыя.

**Грамадскі**, прым. ◘ 1. Які адносіцца да грамадства; рус. общественный. Гоамадскі лад. Гоамадскія адносіны. 2. Які належыць грамадству; калектыўны. Гоамадскі транспарт. Гоамадскія месцы. Паводзіны людзей у грамадскіх месцах рэгулююцца законам. 3. Звязаны з.добраахвотным абслугоўваннем патрэб калектыву. Грамадскае даручэнне. Грамадская праца.

**Грамадства**, наз., н. р. ◘ 1. Супольнасць людзей, аб'яднаных пэўнымі адносінамі (працоўнымі, культурнымі); рус. общество. Грамадства людзей. 2. Калектыў, група людзей, аб'яднаных чымнебудзь агульным. Дваранскае грамадства.

**Грамніцы**, наз. ◘ 1. толькі мн. Свята Стрэчанне, якое прыпадае на 15 лютага па н. ст. у праваслаўных і на 2 лютага ў каталікаў. Гоамніцы, або Стрэчанне, усталявана ў памяць аб сустрэчы Немаўляці Ісуса Хрыста, носьбіта Новага запавету, з прадстаўнікамі Старога запавету — старцам Сімяонам і Ганнайпрарочыцай — у Іерусалімскім храме.

□ Ужо мінулі і Грамніцы,
Аселі пругкія снягі,
І дзень на новыя граніцы
Свае заносіць берагі. К-с.

2. адз. (грамніца, ж. р.). Свечка, якую асвячаюць у царкве або касцёле на Грамніцы. Грамніца сімвалізуе повязь Старога запавету з Новым. Гоамніцай як засцярогай карустаюцца пры прыняцці нованароджанага, у вясельных і пахавальных абрадах.

□ Люблю я ўсе агні: ...і той,
Што, кніг радкі мне асвятляў зарніцай,
І нават той, які зацепліцца грамніцай. М. Т.

**Грош**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Даўнейшая медная двухкапеечная манета да 1838 г. і паўкапеечная пасля гэтай рэформы да 1917 г. Хай грошай ні гроша, абы слава хароша. Прык. 2. Грошы; рус. деньги. ...І грош стаўлішні завадзіцца, Было што есці, чым акрыцца, І быў парадах, лад у хаце. Ужо з тым кутком зжылася маці. К-с. 3. звычайна мн. (грашы). Зусім мала грошай. Атрымаць за грашы. Прадаць за грашы.

♦ Гроша ломанага не варты; грош цана ў базарны дзень — вельмі нізка цэніцца нешта ці нехта.

♦ Ні за грош — без патрэбы, зусім дарма (прапасці, загінуць і пад.).

**Грубка**, наз., ж. р., ДМ -бцы. ◘ Невялікая пакаёвая печка для абагрэву; рус. голландка. Маша прытулілася да гарачай грубкі. І. Ш.

**Груваскі**, прым. ◘ Вельмі вялікі, масіўны; рус. громоздкий. Першыя радыёпрыёмнікі былі з ладны чамадан, вялікія і груваскія. Г. Ш.

**Груган**, наз., м. р., -Ś. ◘ Вялікая чорная птушка, якая жывіцца пераважна падлай; крумкач; рус. ворон.

Косці к ім груганы
Прылятаюць збіраць. К-а.

Адны ў шар курганы — Сведкі бітваў — стаяць; 2. перан. Пра шкоднага, небяспечнага чалавека. Не пужайся, што здрадныя хмары Неба ўслалі з канца да канца, Што свае цемната ўнесла чары, Закружыўся груган над папарам: Яшчэ прыйдзе вясна! К-а.

**Грук**, наз., м. р., -у. ◘ Тое, што і грукат. .. .Але пачулі ад Антося: — Забілі зайца, не забілі, Але, брат, груку нарабілі. К-с.

**Грукат**, наз., м. р., -у. ◘ Вельмі моцны, раскацісты шум; рус. грохот. Пад шум, пад грукат навальніцы, Як бы па знаку чараўніцы, Ўстаюць, растуць на лузе копкі. К-с.

**Грунтоўны**, прым. ◘ 1. Трывалы, глыбокі; рус. основательный, крепкий. Гоунтоўныя веды. 2. Які характарызуецца глыбінёй, сур'ёзнасцю; абгрунтаваны нечым; рус. обстоятельный. Гоунтоўныя адказы. Гоунтоўныя і цікавыя літаратуразнаўчыя артыкулы М. Багдановіча.

**Групоўка**, наз., ж. р., ДМ групоўцы. ◘ Аб'яднаная група, якая адасобілася ад некага, нечага; рус. группировка. Палітычная групоўка. □ [Цім:] — Ды я проста ўпэўнены, што барадач — лідэр якойсьці злачыннай групоўкі! І трымае ў сябе чалавека, падлетка, з якім яму лягчэй спраўляцца, з мэтай выкупу! А. Ф.

**Груца**, наз., ж. р. ◘ Ячменныя крупы, а таксама каша з гэтых круп; рус. перловая крупа; перловая каша.

Пудзік хлеба з мякінай,
Груцы, бобу крыху,
Якой бульбы асьміну -
Ці ж не дос[ыщ]ь мужыку? К-а.

**Грыбніца**, наз., ж. р. ◘ Цела грыба, якое складаецца з бясколерных тонкіх ніцяў, пераплеценых паміж сабой. А ў сэрцы мрояцца баравікі. Такія шчырыя, праўдзівыя, што крэмень, Нібы браты, харошаю сям'ёй, З'яднаныя грыбніцаю, карэннем, Без чарвяточыны, пад галіной. Л. Г. Грымоты, наз., грымот і грамотаў. ◘ Раскацістыя гукі грому, бою; рус. раскаты грома.

Красавік -
Абуджэнне салодкіх трывог,
Прадчуванне грымот,
Навальніц і маланак. А. З-к.

**Грэбаваць**, -бую, -буеш, -буе; незак. ◘ Адчуваць агіду, з пагардай адносіцца да некага, нечага; рус. брезгать, гнушаться; пренебрегать. Не грэбаваць ніякай працай.

**Грэбля**, наз., ж. р. ◘ Насціл з бярвення або галля для пераезду цераз балота, гразкае месца; гаць; насыпаная дарога цераз балоцістыя мясціны; рус. гать, плотина. Пачалі браты церабіць прасекі ў

пушчы ды масціць грэблі. А. Я. Ціхая вада грэблю рве. Прык. (рус. В тихом омуте черти водятся).

**Грэх**, наз., м. р., грахуі грэху. ◘ Парушэнне законаў жыцця; заганны ўчынак, памылка, правінка; нядобра, недаравальна, недазвольна.

Хоць і казаў Антось, бывала,
Што тут, у лесе, грахоў мала;
Калі ж часамі грэх налучыць,
Аб ім забудзеш, ён не мучыць
І не пашкодзіць ў справах неба,
Але папу аддаць іх трэба. К-с.
І ўспомніў я грэх свой.
І ў гэты час з мае душы
Вылецелі асколкі чорнай скалы
І на маю душу
Паклаў Сваю руку Бог. В. Кус.

**Губіць**, гублю, губіш, губіць; незак. ◘ 1. Нішчыць, псаваць. Не губі травіцу, дрэўца, птушак. 2. перан. Дарэмна, бязмэтна траціць (час, сілы, сродкі).

Нашто губіць век малады І траціць петы без карысці? К-с. 3. перан. Рабіць няшчасным, пазбаўляць нармальнага жыцця.

Бачу я: нехта некага любіць.
Гэта іх справа, гэта іх права.
Бачу я: нехта некага губіць.
Тут і мая ўжо справа. А. В.

**Губляць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ 1. Пазбаўляцца, пакідаючы, забываючы нешта; рус. терять. Губляць ключы. Губляць грошы. 2. Марна траціць што-небудзь дарагое, каштоўнае; рус. тратить. Коцік часу не губляе, Мышку ў норку заганяе. А. А. 3. Збівацца з чагонебудзь, страчваць што-небудзь; рус. терять. Губляць дарогу. Хто рана сее, той насення не губляе. Прык.

**Гузік**, наз., м. р., -а. ◘ Металічная, касцяная зашпілька, пераважна ў форме кружка, якая прышываецца да адзення; рус. пуговица. Зашпіліць на ўсе гузікі.

**Гультай**, наз., м. р., -тая. ◘ Лянівы чалавек, лодар, лянотнік, абібок; рус. лентяй, бездельник. Сядзець табе да тых часін, пакуль ты не палюбіш працу. Гультай ты ў свеце не адзін, за розум трэба ўсім нам брацца. У. Д. Гультай не чалавек, балбатун не гаспадар. Прык. У гультая і страха цячэ і печ не пячэ. Прык.

**Гума**, наз., ж. р. ◘ Эластычны матэрыял, які атрымліваецца шляхам вулканізацыі каўчуку; рызіна; рус. резина.

**Гуманны**, прым. ◘ Дабрачынны, чалавечны, прасякнуты любоўю да людзей. Гуманны ўчынак.

**Гумар**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Здольнасць заўважаць і паказваць у дабрадушна-смешнай форме свае і чые-небудзь недахопы, слабасці; добры смех; рус. юмор. Сапраўдны гумар — як гасціннасць, У ім асновай — дабрыня. Н. Г. 2. Мастацкі прыём, заснаваны на наказе нечага ў камічнай, смешнай форме з мэтай зацікавіць чытача і ўзвысіць героя. З гумарам і любоўю выпісаны вобраз дзядзькі Антося ў паэме «Новая зямля».

**Гумка**, наз., ж. р., ДМ гумцы. ◘ Кавалачак гумы для сцірання напісанага; сцірка; рус. резинка, ластик.

**Гумор**, наз., м. р., гумору. ◘ Душэўны стан, настрой. Кругом паганкі, дробязь, мухаморы. Не злічыш пачарнелых савякоў. Размяклых ад расы і не ў гуморы, Што апусцілі капялюш далоў. Л. Г.

**Гурба**, наз., ж. р. ◘ Куча снегу, намеценая ветрам; гурбіна; рус. сугроб. Па вокны ў гурбы ўвайшлі хаты, Згубіўшы свой фасон і від. К-с.

**Гурба**, наз., ж. р. ◘ 1. Трупа, гурт; рус. гурьба, ватага. І раптам у двор уваліла гурба дзяцей: шэсць хлапчукоў і дзве дзяўчынкі. І. Ш. 2. у знач. прысл. гурбой. Гуртам, усе адразу. Гурбой справа хутчэй робіцца.

**Гурт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Група, натоўп людзей; рус. толпа; гурьба, ватага. Гурт дзяцей. 2. Статак жывёлы; рус. стадо. Гурт авечак.

**Гуртам**, прысл. ◘ Усе разам, сумесна, дружна; рус. сообща, вместе.

> Відэльцы дружна разбіраюць,
> І гуртам яйкі ачышчаюць,
> І па кусочку іх бяруць,
> Крыху падсольваюць, ядуць. К-с.

**Гурток**, наз., м. р., -а. ◘ Група людзей, з якой праводзяцца пэўныя заняткі; рус. кружок. Драматычны гурток.

**Гуслі**, наз., адз. няма. ◘ Струнны шчыпковы музычны інструмент славянскіх народаў. Іграць на гуслях. □ Гуслям, княжа, не пішуць законаў. К-а.

**Гусляр**, наз., м. р., -а. ◘ Музыкант, а таксама паэт, які спявае пад звон гусляў.

> Акалічны народ гуслі знаў гусляра.
> Песня-дума за сэрца хапала. К-а.

**Густ**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Разумение прыгожага; рус. вкус. Выхоўваць мастацкі густ. 2. Схільнасць, любоў да чаго-небудзь. Не зважаючы на розныя густы і характеры, хлопцы шчыра сябравалі. А. Я. 3. Манера, стыль. Прыбраць у хаце на свой густ.

**Гута**, наз., ж. р., ДМ гуце. Уст. ◘ Даўнейшая назва шкпозавода. Там цяпер шкляная гута. Мые ёй пясочак Неман. На ўвесь свет яна вядома. У. Д.

**Гутарка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ 1. Размова, гаворка; рус. беседа. -Ну, ты, Костусь, чытаць любіш? — Дарэктар Костуся пытае, Абы хоць гутарка якая. К-с. 2. Чутка. Таксама тут і здань здалася — Аб ёй і гутарка вялася, — Што быццам нехта на вадзе, Яшчэ нябачаны нідзе, Сядзеў і з люлькі зацягаўся Ды раптам згінуў, бы распаўся... К-с. 3. Літаратурны твор. Найбольшую мастацкую вартасць у творчасці У. Сыракомлі ўяўляе гутарка «Хадыка», бо ў творы даследуецца не толькі драма жыцця чалавека, але і эвалюцыя, уваскрэсенне яго душы.

**Гушкалка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Прыстасаванне, на якім гушкаюцца для забавы; гайдашка; арэлі; рус. качели. Прыладзіць паміж яблынь гушкалку.

**Гушкаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Рытмічна калыхаць, гайдаць, люляць; рус. качать. Гушкаць дзіця, спяваючы калыханку.

**Гушчар**, наз., м. р., -у. ◘ Густы лес; густы зараснік чаго-небудзь; рус. чаща, чащоба.

Загусцеў гушчар высозны —
Беразняк, дубы і сосны,
Ліпы, ясені, яліны,
Явары, кпяны, асіны. І. М.

**Гэбель**, наз., м. р., гэбля. ◘ Сталярны інструмент для стругання дрэва; гэблік; рус. рубанок.

# Д

**Дабрабыт**, наз., м. р., -у. ◘ Дастатак, матэрыяльная забяспечанасць; добрыя ўмовы быту, жыцця; рус. благосостояние. Дабрабыт сям'і. [Сонца:] — Табе яна [праўда] не прынясе Ні дабрабыту, ні пашаны, Павыпякае пакрысе Няўгойныя на сэрцы раны. У. Д.

**Дабравешчанне**, наз., н. р. ◘ Благавешчанне, Звеставанне, Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы; рус. Благовест. Рэлігійнае хрысціянскае свята, якое адзначаецца каталіцкай царквой 25 сакавіка па грыгарыянскім календары і праваслаўнай — 7 красавіка па юліянскім. Дабравешчанне прысвечана апісанай у Евангеллі падзеі, калі архангел Гаўрыіл паведаміў Дзеве Марыі (Багародзіцы), што яна народзіць Сына Божага — Ісуса Хрыста.

**Дабрадзей**, наз., м. р., дабрадзея. ◘ Той, хто чыніць дабро людзям, дапамагае; рус. благодетель. Людзі помняць і. шануюць сваіх дабрадзеяў.

**Дабрадзейны**, прым. ◘ Які робіць дабро; дабрачынны; рус. добродетельный.

**Дабранач**. ◘ Пажаданне добрай ночы, спакойнага сну пры развітанні; рус. спокойной ночи. — Дабранач! — паціскаючы са шчырасцю Янкаву руку, развітаўся Васіль. Ц. Г.

**Дабрата**, наз., ж. р., ДМ -аце. ◘ Спагадлівасць, чуласць, чалавечнасць; дабрыня. Самы светлы талент — дабрата. С. Г. То смех, то хітрасць з іх [вачэй] бліскае, То дабрата, але якая! ...За дзядзьку людзі просяць Бога: Каму ён толькі не спрыяе, Каго з бяды не вызваляе! К-с. Не ўсе хочуць быць добрымі, Ды хочуць усе дабраты. А. В.

**Дабрачыннасць**, наз., ж. р. ◘ Схільнасць да добрых спраў; аказанне матэрыяльнай дапамогі тым, хто мае ў гэтым патрэбу; рус. добродетель; благотворительность. Дабрачыннасць заўсёды лічылася святой справай.

**Даброты**, наз., адз. няма. ◘ Тое, што задавальняе патрэбы жыцця, дае матэрыяльны дастатак; рус. блага. Многія героі апавяданняў Я. Баршчэўскага зведалі ўсе даброты жыцця, але шчасця не мелі.

**Дабрыдзень і добры дзень**. ◘ Прывітанне пры сустрэчы днём; рус. добрый день, здравствуй(те). Якуб Колас з недаверлівасцю ўглядаўся ў твар госця, а потым праказаў толькі адно слова: - Дабрыдзень! М. Х.

**Даведка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ 1. Звесткі пра што-небудзь, дадзеныя ці атрыманыя ў адказ на запытанне; рус. справка. Атрымаць даведку па тэлефоне. 2. Дакумент з такімі звесткамі. Даведка з месца працы.

**Даведнік**, наз., м. р., -а. ◘ Кніга з кароткімі і дакладнымі звесткамі пра што-небудзь, каго-небудзь; рус. справочник. Даведнік для абітурыентаў.

**Давер**, наз., м. р., -у. ◘ Вера ў чыю-небудзь шчырасць, сумленнасць, чэснасць, прыстойнасць і заснаваныя на гэтым адносіны; давер'е. Заслужыць давер. Карыстацца даверам. Заслужыць давер цяжка, а страціць лёгка.

**Даверлівы**, прым. ◘ Які лёгка верыць у шчырасць, праўдзівасць каго-небудзь, схільны аказваць давер і сам выражае яго; заснаваны на даверы; рус. доверчивый. Даверлівы хлопчык. Даверлівыя адносіны паміж людзьмі.

**Даволі,** прысл. ◘ 1. Дастаткова, колькі трэба; досыць; рус. довольно.
Не імкнуўся я ніколі Усяго ў мяне даволі;
За багаццем хіжа гнацца.
Цэлы свет — маё багацце. П. П. 2. У вялікай меры, ступені. Даволі доўга вандраваў па свеце малодшы сын. 3. Хопіць, пара спыніць. Заглянула сонца ў вочкі, Дзень прыйшоў — даволі сну! У. Д.

**Дагадзіць**, -гаджу, -годзіш, -годзіць; зак. ◘ Задаволіць каго-небудзь, зрабіўшы прыемнае, патрэбнае; уладзіць; рус. угодить, услужить. Ліхому чалавеку дагадзіць не старайся. Ніхто яму не дагодзіць.

**Дагары**, прысл. ◘ 1. На спіне, тварам уверх. Легчы дагары. 2. Угору, уверх. Як ні ары, абы чорным дагары. Прык. (рус. Не мытьём, так катаньем).

♦ Дагары нагамі = Дагары дрыкам = Дагары дном. У пэўным беспарадку; паставіць з ног на галаву; рус. вверх тормашками.

**Даглядаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Пастаянна клапаціцца аб кімнебудзь, чым-небудзь; рус. заботиться, ухаживать. Дзеці шануюць сваіх бацькоў і даглядаюць іх у старасці.

**Дагэтуль**, прысл. ◘ 1. Да гэтага часу; рус. до этого времени; до сих пор. 2. Разм. Да гэтага месца; рус. досюда.

**Даданы**. ◘ Звычайна ў двух выразах: даданы сказ і даданыя члены сказа; рус. придаточное предложение и второстепенные члены предложения. Азначэнне, дапаўненне і акалічнасць — даданыя члены сказа.

**Дадатковы**, прым. ◘ Які з'яўляецца дапаўненнем да асноўнага; рус. дополнительный. Дадатковыя заняткі. Дадатковы рэйс.

**Дадатны**, прым. ◘ 1. Які заслугоўвае адабрэння; добры, станоўчы; рус. положительный; проціл. адмоўны. Дадатны чалавек. Дадатныя якасці. 2. У матэматыцы: большы за нуль (пра велічыню са знакам плюс). Дадатны лік.

**Дадолу**, прысл. ◘ На зямлю, далоў; да зямлі, уніз; рус. книзу; донизу. Ракіта звесіла дадолу веццe.

**Дадому**, прысл. ◘ У сваю хату, на сваю кватэру, на радзіму; рус. домой.

Бывайце здаровы, жывіце багата,
А мы ўжо паедзем дадому, дахаты. З нар. песні.

**Дадыбаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Павольна, з цяжкасцю дайсці; дацягнуцца, давалачыся; рус. добрести. Памалу, мерна, крок за крокам 9 сваім раздум'і адзінокім Дадыбаў бацька скора к дому. К-с.

**Даёнка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Вядро, у якое дояць малако; рус. подойник.

Да самых краёў сырадой
Запеніцца ў звонкай даёнцы. М. А.

**Дажынкі**, наз., адз. няма. ◘ Абрадавае свята ў гонар заканчэння жніва.

Каласы адспявалі,
Іх пажалі, сабралі,
Бараду завязалі
Ды дажынкі згулялі. П. Б.

**Дазвання**, прысл. ◘ Зусім, начыста, поўнасцю; рус. совершенно, дочиста.

- Вось як пачнеш так разважанне,
Агоркне ўсё табе дазвання,
Нарэшце маці не ўтрывала:
- Таго няма, другога мала... К-с.

**Дазвол**, наз., м. р., -у. ◘ Згода на што-небудзь; права зрабіць штонебудзь, а таксама дакумент на гэта права; рус. разрешение. Ох, жыць пад панам не салодка, На ўсё павінен быць дазвол. К-с. Нядзелька, свята — людзі вольны, Свая ахвота, свой дазвол, На рынак едуць, хто ў касцёл... К-с.

**Дазнацца**, -аюся, -аешся, -аецца, зак. ◘ Сабраць звесткі, даведацца пра каго-небудзь, што-небудзь.

[Маці.]-То-тайнасць Божжа, яго воля, Чаго мы, людзі, мо ніколі І не дазнаемся, як трэба, Бо то — вялікая вучэба.

- Чаму? дазнацца мо і можна, — Гаворыць дзядзька асцярожна, — І пэўна ведае навука, Што астраноміяй завецца. К-с.

**Дакладны**, прым. ◘ Сапраўдны, правільны, канкрэтны, не прыблізны, не агульны; такі, што не выклікае сумненняў; акуратны, зладжаны; рус. точный. Дакладны гадзіннік. Дакладныя прыборы.

**Дакляраваць**, -ўю, -ўеш, -ўе; зак. ◘ Паабяцаць, запэўніць каго-небудзь, што ён нешта атрымае; рус. обещать. Не дакляруй таго, чаго сам не маеш.

□ [Воўк:] — Я зараз з'ем цябе, і ўвесь канец...
[Паляшук:] -Дакляраваў падзякаваць ты мне! У. Д.

**Дакор**, наз., м. р., -у. ◘ Папрок, выказванне незадавальнення чымнебудзь; рус. укор, упрек.

Ніхто не йдзе з дакорамі — Такі ўжо люд рабочы. К-а.
Кіпіць работа цяжкая Ад рання і да ночы.

**Дакопкі**, адз. няма. ◘ Завяршэнне копкі бульбы.

**Дакоскі**, адз. няма. ◘ Завяршэнне касьбы.

**Дакуль**, прысл. Разм. ◘ 1. пытальнае. Да якога месца? да якога часу? як доўга?; рус. докуда? доколе? Дакуль цярпець нахабнікаў і

прайдзісветаў? 2. адноснае; далучае даданыя сказы месца і часу. Да таго месца, куды... Да таго часу, пакуль... Ідзі, дакуль можна. Трывай, дакуль зможаш.

**Дакучлівы**, прым. ◘ Назойлівы, непрыемны, абрыдпы; рус. надоедливый. Дакучлівыя авадні, камары. Дакучлівыя восеньскія дажджы.

**Далікатна**, прысл. ◘ Ветліва, лагодна, асцярожна, пачціва, паслужліва, з тонкімі манерамі ў абыходжанні з людзьмі, пры размове, у рухах; рус. деликатно, обходительно, вежливо; изысканно. Юнакі — гпядзець прыемна. Гаворацць далікатна і пачціва, напэўна, выхаваны ўсе нядрэнна. У. Д. А ўзяць паненак — ажно ззяюць І ходзяць — долу не чапаюць: Так легка, плытка, далікатна, Як бы матыль той, акуратна. Ды што рабіць дачушкам бруку? У гэтым іх уся навука. К-с.

**Далікатнасць**, наз., ж. р. ◘ Ветлівасць, лагоднасць, уважлівасць, асцярожнасць і тактоўнасць у адносінах з людзьмі; валоданне добрымі манерамі, тонкасць у манеры абыходжання, у размове; рус. утонченность; обходительность, предупредительность. Сам гаспадар з кумой Анэлькай, Руку прыгнуўшы над камзэлькай, На панскі лад мяце-вальцуе, Ўсіх далікатнасцю касуе. К-с.

**Далікатэс**, наз., м. р., -у. ◘ Рэдкая, прыемная на смак ежа. Такія па сваіх рэцэптах вынайшаў далікатэсы, Якіх не смакавалі нават каралі. Э. В.

**Далонь**, наз., ж. р. ◘ Унутраны бок кісці рукі; рус. ладонь Закрыць твар далонямі.

**Далучыць**, -лучу, -лучыш, -лучыць; зак. ◘ 1. Прыбавіць да нечага; злучыць з нечым; рус. приобщить (к чему); присоединить (к кому, чему). Далучыць дакументы да заявы. 17 верасня 1939 года Заходняя Беларусь была далучана да Усходняй Беларусі. 2. Пазнаёміць з нечым, увесці ў нешта; рус. приобщить, вовлечь. Урокі выяўленчага мастацтва далучаюць дзяцей да сусветнай культуры і дзівоснага свету мастацтва.

**Далягляд**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Уяўная лінія, мяжа паміж небам і зямной ці воднай паверхняй; гарызонт. Сонца апусцілася за далягляд. 2. Частка неба над лініяй гарызонту; небасхіл. На даляглядзе заружавела дзянніца. 3. Прастор, які можна акінуць вокам. Узышлі на пагорак — і далягляд пашырыўся.

**Дамавіна**, наз., ж. р. ◘ Спецыяльная скрыня, у якой кладуць нябожчыка пры пахаванні; труна; рус. гроб. Жывым не ляжаш у дамавіну. З нар.

**Дамагчыся**, дамагуся, даможашся, даможацца; зак. ◘ Настойлівымі намаганнямі дабіцца пастаўленай мэты.

**Дамовіцца**, дамоўлюся, дамовішся, дамовіцца; зак. ◘ Прыйсці да згоды ў выніку перамоў; дагаварыцца. Цяжка дамовіцца з неразумным чалавекам.

**Дамоў**, прысл. ◘ У сваю сям'ю; дадому, дахаты. Пасля на крылле — і дамоў, да родных дрэваў і кустоў. У. Д.

**Дамоўка**, наз., ж. р., ДМ -моўцы. ◘ 1. Хата, дом, прытулак, гаспадарка. 2. Труна, дамавіна.
Не часалі дамоўкі яму [гусляру] сталяры, Не заплакалі бліжнія вочы. К-а.

**Даніна**, наз., ж. р. ◘ 1. Натуральны або грашовы падатак, які ў старажытнасці збіраўся князем, феадалам і пад. са сваіх падданых або пераможцам з пераможаных; рус. дань. Як аднаму з буйнейшых гарадоў старажытнай Русі, у свой час, па дагавору, выплачваў даніну Полацку нават сам Царград. А. Вас. 2. Ахвяраванне. Прыняць даніну. 3. Тое, што неабходна аддаць як належнае, заслужанае. Даніна павагі. Даніна часу.

**Данос**, наз., м. р., -у. ◘ Тайнае паведамленне ўладам, начальству пра чыесьці недазволеныя дзеянні. Карыстанне даносамі — сведчанне крызісу ўлады і маральнага банкруцтва чыноўнікаў. □ Тут гэты лад быў так збудован, Што на даносах быў заснован, І мелась тут навідавоку Кусаць адзін другога збоку. К-с.

**Дапамога**, наз., ж. р., ДМ -озе. ◘ Падтрымка, садзеянне ў лячэнні, у пазбаўленні ад пакут, у вырашэнні жыццёвых праблем; рус. помощь. Медыцынская дапамога. Дапамога ў вучобе. Ніколі не трэба адчайвацца: выратавальная дапамога можа прыйсці, адкуль яе зусім не чакаеш. □ Меншы сын смяецца: — Тата! Гэта — з беднай хаты плата За маю ўсю дапамогу. У. Д.

**Дапаможнік**, наз., м. р., -а. ◘ Кніга, схемы, табліцы і пад., якія выкарыстоўваюцца пры навучанні; рус. пособие. Дапаможнік па беларускай мове для абітурыентаў. Наглядныя дапаможнікі.

**Дапасаваць**, -сую, -суеш, -суе; зак. ◘ 1. Падагнаць, прыладзіць, прымяніць. Мірону і Віктару трэба было дапасаваць ніці-стужкі «За дзірак такім чынам, каб ніводная кропля вады не пранікла. Я. М. 2. Паставіць залежнае слова ў тым самым родзе, ліку, склоне або асобе, у якім стаіць галоўнае; рус. согласовать. Дапасаваць прыметнік да назоўніка.

**Дапытацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Пытаючыся, даведацца, выведаць пра нешта, некага; рус. разузнать. Дапытацца ўлюдзей.

**Дапытаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Правесці допыт; рус. опросить. Следчы дапытаў сведкаў.

**Дапытлівы**, прым. ◘ Які імкнецца ўсё зразумець, пазнаць, даведацца; рус. любознательный. Уладзік — хлопец цікаўны, дапытлівы, ён ужо ўсё разумеў у бацькавай працы, ён прагна ўсё лавіў, прагна пазнаваў жыццё. А. М.

**Даравальны**, прым. ◘ Які можна дараваць, прабачыць; рус. простительный. Даравальная памылка.

**Дараваць**, дарую, даруеш, баруе; зак. ◘ 1. Зняць віну за што-небудзь; прабачыць; вызваліць ад якога-небудзь абавязку; рус. простить, извинить.

Пан пачынае размову такую: — Грэх твой цяжкі я на гэтым дарую. У. Д. 2. Падарыць. Доля даравала. Лес дараваў шанс выжыць у пякельнай вайне.

**Дарадзіць**, -раджу, -радзіш, -радзіцы, зак. ◘ Даць параду, параіць, дапамагчы; рус. посоветовать. Зямля не зменіць і не здрадзіць, Зямля паможа і дарадзіць, Зямля дасць волі, дасць і сілы, Зямля паслужыць да магілы... К-с.

**Дарадчык**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто дае параду; рус. советчик. Сумленне — найлепшы дарадчык чалавека.

**Дарма і дарма**, прысл. ◘ 1. Бескарысна, дарэмна, марна; рус. напрасно, зря; попусту. Дарма хадзіць — ногі адбіць. Прык. 2. Бясплатна, за нішто; рус. даром. Дарма нічога на свеце няма. Прык. (рус. Из спасиба шапки не сошьешь). Дарма і каза цераз плот не скача. Прык. Каза ваўку дарма не скача. Прык. (рус. Даром бывает только сыр в мышеловке).

**Дарослы**, прым. ◘ Які дасягнуў сталага ўзросту; рус. взрослый. Розныя бываюць і дарослыя, розныя бываюць і дзеці. У. Д.

**Дарунак**, наз., м. р., -нка. ◘ Дар, падарунак; тое, што даецца ва ўласнасць, дарма; рус. подарок.

Я прыняў дарунак мілы
Перад боем уначы
І да самае магілы
Буду шчыра берагчы. П. Г.

**Дарэктар**, наз., м. р., -а. ◘ У даўнія часы хатні настаўнік, якога наймалі за невялікую плату ў мнагадзетныя сем'і. Дарэктарам часта быў такі ж, як вучні, падлетак, які валодаў толькі пачатковай граматай. □ І бацька тут, як на паперу, Стаў вылічаць расходы, страту І кончыў тым: лепш к сабе ў хату — Не трэба й кланяцца Яхіму — Наняць дарэктара на зіму... К-с.

**Дарэмна**, прысл. ◘ 1. Марна, бескарысна, упустую. Падзякі ад бессаромнага чакаць дарэмна. 2. Бясплатна. Дарэмна і каза не спела. Прык. (рус. Даром и чирей не сядет, а все прежде почешется).

**Дарэчы**, прысл. ◘ 1. Да месца, якраз у патрэбны час; рус. кстати. Дапамога была вельмі дарэчы. 2. Ужываецца для абазначэння таго, што дадзеная фраза гаворыцца ў дадатак да толькі што сказанага.

Дарэчы кажучы, той Янка быў удалы, Не мер прывычкі доўга разважаць. У. К.

**Дарэшты**, прысл. ◘ Зусім, канчаткова, поўнасцю; рус. вконец; до конца. Дарэшты стаміцца.

**Дасведчаны**, прым. ◘ Які мае глыбокія веды ў якой-небудзь галіне; кампетэнтны; рус. сведущий, знающий. Дасвёдчаны спецыяліст карыстаецца пашанай.

**Дасвецце**, наз., н. р. ◘ Час перад світаннем, досвітак. Устань раней за сонца, на дасвецці. Бо позна спаць — і радасці не знаць. Х. Ж.

**Дасканала**, прысл. ◘ Узорна, беззаганна, бездакорна, вельмі добра; рус. совершенно, непревзойдённо. Кульгавы бачыць дасканала, а ходзіць кепска і памалу.

**Дасканалы**, прым. ◘ Узорны, беззаганны, бездакорны; рус. совершенный, непревзойденный. Дасканалая тэхніка. Дасканалая праца. Дасканалы мастацкі твор.

Сляпы хоць дужы, ногі мае, ды сцежкі сам не адшукае. У. Д.

**Дастасаваць**, -сую, -суеш, -суе; зак. ◘ Прымяніць, прывесці ў адпаведнасць з нечым. Мала ведаць правіла, трэба ўмець дастасаваць яго да рашэння задачы.

**Дасціпны**, прым. ◘ Які ўмее сказаць востра, смешна, трапна; цікаўны, дапытлівы; рус. остроумный; изобретательный.

Дзяўчына на пагрозу ўсміхнулася лагодна.
Яе дасціпны розум
падлік зрабіў грунтоўна. У. Д.

**Дасюль**, прысл. Разм. ◘ 1. Да гэтага месца; рус. досюда. Дабегчы дасюль. 2. Да гэтага часу; рус. до сих пор, доныне. Дасюль не забываюцца страты вайны, не сціхае боль за тых, хто набліжаў перамогу, але не дажыў да яе.

**Дасягнуць**, дасягну, дасягнеш, дасягне; зак. ◘ 1. Дайсці, даехаць, дабрацца куды-небудзь; рус. достичь, достигнуть. Лодка дасягнула сярэдзіны возера. 2. Дажыць да пэўнага ўзросту. Дасягнуць паўналецця. 3. Дамагчыся паспеху, набыць, атрымаць жаданае.

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, трэба слова «хачу» і «павінен» паставіць побач.

**Датуль**, прысл. Разм. ◘ Ч.Да таго месца; рус. дотуда. Дабрацца датуль. 2. Да таго часу; рус. до тех пор; до того времени. Зло датуль не пагражае катастрофай, пакуль яму ёсць супрацьстаянне, пакуль яно не стала ваяўнічым.

**Датычыць**, -чаць; незак. ◘ Мець адносіны, дачыненне да чаго-небудзь; датычыцца; рус. касаться. Справа аховы прыроды датычыць кожнага.

**Датэрміновы**, прым. ◘ Які выконваецца, заканчваецца раней за ўстаноўлены час, тэрмін; рус. досрочный. Датэрміновая здача экзамену. Датэрміновы ўвод у эксплуатацыю новай станцыі метро.

**Даўгалыгі**, прым. ◘ Высокі і худы; даўганогі; рус. долговязый. Даўгалыгі бусел вартуе балота.

**Дах**, наз., м. р., -у. ◘ Верхняя частка будынка, якая пакрывае яго і засцерагае ад дажджу, снегу; рус. крыша.

Падала і голас бляха:

Пад старым асеннім небам іржавею без патрэбы. П. Пр.

\- Я даўно ўжо знята з даху. ♦ Мець дах над галавой — мець жыллё, прытулак. Дахаты, прысл. ◘ У свой дом, хату, да сваёй сям'і; у родныя мясціны; дадому, дамоў; рус. домой. Так і вярнулася Наста дахаты, дзе нецярпліва чакаў яе mama. У. Д.

**Дачушка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Памянш.-ласк. да дачка; рус. доченька. Дзяўчынка ў адносінах да сваіх бацькоў.

\- Гора, дачушка, і скача і плача! Новую пан адшукаў нам задачу. У. Д.

**Дачыненне**, наз., н. р. ◘ Сувязь, адносіны да некага, нечага; рус. отношение, причастность. Не мець дачынення да бруднай справы.

**Дашчэнту**, прысл. ◘ Начыста, датла, ушчэнт; зусім, поўнасцю; рус. до основания, дочиста, вчистую; вдребезги; в пух и (в) прах.

Сотнікаў выпусціў дзесятак снарадаў і разнёс дашчэнту яшчэ два танкі. ВЛБ.

**Дбалы**, прым. ◘ Дбайны, старанны, руплівы, гаспадарлівы; рус. старательный, усердный. У дбалага гаспадара поле родзіць. З нар.

**Дбаць**, дбаю, дбаеш, дбае; незак. ◘ Клапаціцца, турбавацца пра каго-небудзь, што-небудзь; рус. заботиться. Хто дбае, той і мае. Прык. (рус. Кто спит весной, плачет зимой).

Хто дбае — той мае, шукаўшы, знаходзіць,<br>такі не паддасца ніякай нягодзе! У.Д.

**Дваранка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Жанчына, якая належыць да панскага роду, саслоўя.

[Язэп] гаспадыняй меў дваранку,
Вельмі панадную шляхцянку. К-с.

**Двойчы**, прысл. ◘ Два разы; рус. дважды. Скупы двойчы плоціць, а дурны двойчы ходзіць. Прык. (рус. Скупой платит дважды. Бестолковая голова ногам покоя не дает).

**Дворня**, наз., ж. р. ◘ Слугі пры панскім двары; дваровыя людзі. Прывяла гусляра з яго ніўных сяліб Дворня Князева ў хорам багаты. К-а.

**Двурушнік**, наз., м. р., -а. ◘ Няшчыры, крывадушны, двухаблічны чалавек; рус. лицемер. Двурушнік заўсёды выстаўляе сябе дабрадзеем.

**Двухрадкоўе**, наз., н. р. ◘ Страфа з двух радкоў; два радкі верша, звязаныя паміж сабой. У Багдановіча ёсць творы, напісаныя двухрадкоўем. А. Л.

**Дзедзіч і дзедзіц**, наз., м. р., дзедзіча і дзедзіца. Гіст. ◘ Уладар маёнтка, атрыманага ў спадчыну ад продкаў; наследнік дзедаўскага памесця; землеўладальнік. У тыя часы на Прыдняпроўі ў багатых дзедзіцаў заўсёды існавалі пры стайні... некалькі пакояў, штосьці накшталт мужчынскага клуба. У. Карат.

**Дзейны**, прым. ◘ Энергічны, актыўны; рус. деятельный. Дзейны чалавек. Дзейная асоба.

**Дзейсны**, прым. ◘ Які моцна ўздзейнічае на нешта; эфектыўны; рус. действенный. Дзейсныя меры. Дзейсныя лекі. Дзейсны сродак.

**Дзеля**, прыназ. з Р. ◘ Ужываецца пра абазначэнні асобы або предмета, у інтарэсах якіх, для якіх нешта робіцца; рус. ради, для; изза. -Дзеля якой вышэйшай мэты Бясцэнны клад жывой вады У акіян мы пром сусветны? Ну й перапром! А што тады? Н. Г.

**Дзесьці**, прысл. ◘ У нейкім, дакладна не вядомым месцы; рус. гдето. Пра звычку думаць, што дзесьці лепей, чым дома, у народзе кажуць: там вароты пірагом падпёрты; на Падоллі пірагі па коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі.

**Дзея**, наз., ж. р. ◘ 1. Падзея, аб якой ідзе гаворка. У даўно мінулым часе гэта дзея пачалася. У. Д.

2. Справа. Там добрая дзея, дзе два арэ, а трэці сее. Прык.

3. Частка драматычнага твора; акт; рус. действие. Камедыя ў трох дзеях.

**Дзіва**, наз., н. р. ◘ Нешта незвычайнае, тое, што выклікае здзіўленне, захапленне; рус. чудо.

Адбылося раптам дзіва: сонца ход свой прыпыліла і сваёй магутнай сілай той пясочак растапіла. У. Д.

Паглядзеў стары маўкліва. Потым кажа: — Праўда дзіва! За сваё жыццё даўгое бачу першы раз такое. У. Д.

**Дзівак**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек з незвычайнымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі; арыгінал; рус. чудак. Дзівак адзін крутнёю слоў збянтэжыць сотню мудрацоў. У. Д. -Дзівак! — між сабой гаспадыні гавораць: — Бярэ, што не трэба, патрэбнае дорыць! Е. Л.

**Дзік**, наз., м. р., дзіка. ◘ Дзікі кабан; вепр. Дзік ходзіць з дзічыхай, За ім — табун воўчы. К-а.

**Дзірван**, наз., м. р., -ў. ◘ Верхні слой глебы, пераплецены карэннем травы; дзёран.

[Дзядзька:] Зямля запушчана ў васпана; Пакрыта скураю дзірвана. Гпядзеце — пырніца якая! К-с.

**Дзічка**, наз., ж. р., ДМ дзічцы. ◘ Дзікая, непрышчэпленая груша або яблыня, а таксама іх плод.

Люблю сум дзічкі адзінокай,
Забытай ў полі пастухамі,
Якая горкія ападкі
На дол раняе заінелы. А. Л.

**Дзьмухавец**, наз., м. р., -хаўцё. ◘ Расліна сямейства складанакветных са сцяблом з малочным сокам, жоўтымі кветкамі і пушыстым семем, якое разносіцца ветрам; рус. одуванчик. На абочыне камячкамі кволага пуху стаіць дзьмухавец. Брыль.

**Дзявоцтва**, наз., н. р. ◘ Перыяд жыцця дарослай дзяўчыны да шлюбу, да замужжа; дзявочыя гады; рус. девичество. Бесклапотнае дзявоцтва.

**Дзявочасць**, наз., ж. р. ◘ Свежасць, цнатлівасць; рус. девственность. Адвеку дзяўчаты шанавалі сябе, а дзявочасць лічылася першай вартасцю нявесты. □ Ад погляду майго Лідка засаромелася. І гэта першая адзнака дзявочасці яшчэ больш красіць яе. Брыль.

**Дзядзіна**, наз., ж. р. ◘ Дзядзькава жонка. Голад не дзядзіна — з'ясі і ўкрадзена. Прык. (рус. Голод не тетка, пирожка не поднесет).

**Дзядзінец**, наз., м. р., -нца. ◘ Агароджаны пляц, двор пры якой-небудзь вялікай пабудове.

За горкай панская пасада,
Як у вяночку, каля саду
Ў глыбі прасторнага дзядзінца
Стаяла з боку ад гасцінца. К-с.

**Дзядзькаванне**, наз., н. р. Пет. ◘ Беларускі звычай у XVI-XVIII стст. аддаваць дзяцей шляхты на выхаванне ў сялянскую сям'ю. Звы-

чай дзядзькавання выкліканы жаданнем выхаваць у дзяцей працавітасць, сілу, вынослівасць, любоў да зямлі, пашану да хлеба. □ — Каб ведалі, як даецца зямля, — сказаў дзед. — Аддавалі на дзядзькаванне, бывала, як толькі чатыры гады дзіцяці. Хто на тры, а хто і на пяць год. І зусім не дапамагалі хлопскай сям'і. А потым, калі возьмуць хлопца зноў у двор — даюць мужыку пакормнае, за тое, што хлепец з'еў, і дзядзькавое, бо ўсе мы як быццам дзядзькі малому, выхоўвалі яго, розуму вучылі. У. Карат.

**Дзядоўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Пустазелле з калючым лісцем і сцяблом (дзяды), а таксама зараснікі дзядоў; бадзяк; рус. репей, репейник. Навокал буяла крапіва, рос дзядоўнік, лопух, цвіў мак-самасей. Б. С.

**Дзяды**, наз., адз. няма. ◘ 1. Продкі; людзі, якія жылі раней. Дзяды — вытокі кожнага народа. А. Л. Тым часам маці тарапліва Закон дзядоў сваіх спаўняе: Кладзе кусочак хлеба з соллю Пад красны кут у завуголле... К-с. 2. Свята ўшанавання продкаў. На Дзяды ходзяць у царкву, на могілкі, а на вячэру вараць куццю — памінаюць продкаў.

**Дзяжа і дзежка**, наз., ж. р.; ДМ -жы і ДМ -жцы. ◘ Драўляная пасудзіна з прамых клёпак (для замешвання цеста, салення і пад.). Пачэсны кут займае ў светлых хатах заквашаная хлебная дзяжа. А. А.

**Дзякаваць**, -ую, -уеш, -уе; незак. ◘ Выказваць шчырае пачуццё павагі, удзячнасці за дапамогу, падтрымку, увагу, паслугу; рус. благодарить. Дзякаваць за маральную падтрымку. □ Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш. Прык. (рус. Из спасиба шапки не сошьешь).

Дзякую табе, мама,
Што радзіла мяне рана!
Дзякую табе, мама,
Што вясёлай была хата! З нар. песні.

**Дзякуй**. ◘ Выражэнне падзякі; дзякую; рус. спасибо; благодарю.
[Ігнась:] -Дзякуй за прытулак, Дзякуй за хлеб-соль.
Сёння, мой дзядуля, Мне пайсці дазволь! З. Б.

**Дзянніца**, наз., ж. р. ◘ Ранняя зара, заранка. ...Вясна мінецца, прыйдзе лета. Тады штодня уставай дасвета, І агнявокая дзянніца, Як маладая чараўніца, Цябе сагрэе мілым смехам, Авее духам чыстым бораў, Палёў, лугоў, нябёс пراстораў... К-с.

**Дзяржава**, наз., ж. р. ◘ 1. Палітычная арганізацыя краіны, якая забяспечвае ўсталяваныя парадкі, лад; рус. государство. Прававая дзяржава — такая, у якой існуе вяршэнства закона і роўнасць усіх

перад ім. 2. Краіна ў яе межах з адпаведнай арганізацыяй усталявання парадку і ладу. Наша дзяржава — Рэспубліка Беларусь.

**Дзяржаўца**, наз., м. р., -ы. ◘ 1. Службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік, часовы ўладальнік дзяржаўнага маёнтка — дзяржавы, якая складалася з адной ці некалькіх вёсак. Дзяржаўца прызначаўся вялікім князем з шляхты, звычайна пажыццёва, і выконваў адміністрацыйна-судовыя функцыі, збіраў падаткі, наглядаў за станам гаспадарчых пабудоў, ваенных умацаванняў і інш. БелЭн. 2. Асоба, надзеленая вышэйшай палітычнай уладай у ВКЛ; уладар, валадар, правіцель; вялікі князь. ... Дзяржаўца [князь Вітаўт] Перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна Ставіў багацце духоўнае — злата дзяржавы. М. Г.

**Дзяркач**, наз., м. р., дзеркача. ◘ Стары венік без лісця; галень; рус. голик.

Алесь, Кастусь і Міхаліна...
На працу зранку выйшлі самі.
І падмялі двор дзеркачамі;
Пясочку потым накапалі
І сцежкі ім панасыпалі... К-с.

**Дзяруга**, наз., ж. р., ДМ дзярузе. ◘ 1. Тоўстая грубая тканіна. Ты вострым плугам рэзаў дзірваны, Насіў з дзяругі шытыя штаны. Ар. К. 2. Саматканая посцілка; дзяружка. Майстэрства ткаць прыгожыя дзяругі — старадаўняе на Беларусі.

**Дзясніца**, наз., ж. р. Уст. ◘ Правая рука. Божай дзясніцай дадзены дар.

**Дзяўчына**, наз., ж. р., мн. дзяўчаты. ◘ Паўналетняя незамужняя жанчына; рус. девушка. Чым дзяўчына стражэйшая, тым яна прыгажэйшая і даражэйшая. З нар.

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не паважыцца кідаць. К-а.

**Дзяцеліна**, наз., ж. р. ◘ Дзікая канюшына; дзяцельнік; дзятлавіна; рус. дикий клевер. То смолка чутна з хвою густога, то дзяцеліна салодкая ад зялёных лугоў, то ядлоўцам ды чаромхай дыхне! А. Паг.

**Дзяцюк**, наз., м. р., дзецюка. ◘ Юнак, хлопец; нежанаты малады чалавек; кавалер; рус. парень. Цяпер яго Васільком зваць было неяк няёмка — гэта быў зграбны, плячысты дзяцюк. У. Д.

♦ Цюк дзяцюк — пра каго толькі што гаварылі, а ён нечакана з'явіўся. (рус. Легок на помине).

**Днець, днее**, безас., незак. ◘-Займацца на дзень, світаць, развіднівацца; рус. брезжить, светать.

**Добразычлівы**, прым. ◘ Які жадае людзям дабра, прыхільна, спагадліва адносіцца да іншых; рус. доброжелательный.

**Добрасумлённы**, прым. ◘ Які чэсна і старанна выконвае свае абавязкі; працавіты, сумленны; дбайны, акуратны, шчыры; рус. добросовестный. Добрасумленная праца павінна высока аплачвацца.

**Дойлід**, наз., м. р., -а. ◘ Архітэктар; рус. зодчий.

**Докер**, наз., м. р., -а. ◘ Партовы рабочы.

**Доля**, наз., ж. р. ◘ 1. Частка чаго-небудзь. Падзяліць на роўныя долі. 2. Уклад у што-небудзь. Унесці сваю долю ў агульную справу. 3. Лес, становішча.

Хацелась жыць, ушыр разняцца, За долю лепшую змагацца: Узнімаліся грудзі, чулісь сілы, І Божы свет здаваўся мілы. К-с.

**Допіс**, наз., м. р., -у. ◘ Паведамленне пра нешта, нататка, дасланыя у газету ці часопіс; рус. корреспонденция. Юнкораўскі допіс пра надзённыя праблемы.

**Допыт**, наз., м. р., -у. ◘ І.Апытванне падсуднага, падследнага, сведкі і пад. для высвятлення нечага, атрымання патрэбных звестак; рус. допрос. 2. Настойлівае падрабязнае распытванне. Бацькі ўчынілі допыт сыну, бо іх вельмі ўстрывожылі яго паводзіны.

**Досыць**, прысл. ◘ 1. Столькі, колькі патрэбна; дастаткова, даволі; рус. достаточно, довольно. Чаго хацець? Ёсць хлеба досыць. З. А. 2. Загад, патрабаванне спыніць што-небудзь. Досыць трэсці бомбамі, паны! М. С.

**Драбіны**, наз., адз. драбіна. ◘ 1. Драўляная прыстаўная лесвіца. Палез Антось перш па драбінах, З драбін цярэбіцца ў галінах. К-с. 2. Сялянскія калёсы з рашотчатымі бакамі. Наклалі поўныя драбіны мурожнага сена.

**Драбніца**, наз., ж. р. ◘ Што-небудзь нязначнае, неістотнае, не вартае ўвагі; падрабязнасць, дробязь, драбяза; рус. мелочь.

Гэта, хлопчыкі, драбніца!
Ім адказвае Лісіца. -
Падраўняць знайду я сілы...
І кілбаскі адкусіла. У. Д.

**Дранік**, наз., м. р., -а. ◘ Аладка, блін з дзёртай бульбы; драчона. Паспытаеш, друг мой дарагі, Дранікі са свежаю смятанай, Клёцкі, бабкі, нават пірагі. П. П.

**Дранцвець**, -ею, -ееш, -ее; незак. ◘ Дзеравянець, нямець, страчваць адчувальнасць; рус. цепенеть. Рукі дранцвелі ад холаду.

**Драпежнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Звяры і птушкі, якія кормяцца іншымі жывёлінамі; рус. хищник. Судак — рыба-драпежнік. Лясныя жывёлы-драпежнікі — воўк, ліса, мядзведзь, а з птушак — каршуны, совы, пугачы, ястрабы. 2. перан. Прагны, хцівы, сквапны чалавек.

Ці драпежніку, ці кату будзе роўная адплата. У. Д.

**Драпежніцкі**, прым. ◘ 1. Уласцівы драпежніку і мае адносіны да яго; рус. хищнический. Драпежніцкія воўчыя звычкі. 2. Рабаўніцкі, захопніцкі. Драпежніцкая палітыка некаторых дзяржаў вядзе да войнаў. 3. Шкодны, негаспадарлівы. Драпежніцкая высечка лесу.

**Драпежны**, прым. ◘ І.Які корміцца іншымі жывёлінамі; рус. хищный. Драпежная птушка. □ У лесе жылі звяры і драпежныя птушкі: каршуны, совы, пугачы, ястрабы. К-с. 2. перан. Прагны, хцівы, сквапны (пра чалавека). Драпежная натура.

**Драсаваць**, -сую, -суеш, -суе; незак. ◘ Таптаць, вытоптваць; дратаваць.

І без жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў. К-с.

**Дратва,** наз., ж. р. ◘ Тоўстая моцная прасмаленая або навошчаная нітка для шыцця абутку. Прашыты дратвай.

**Драўляне**, наз., мн. л. ◘ Старажытнае ўсходнеславянскае племя, якое жыло ў VI-X стст. на Прыпяцкім Палессі.

**Дробны**, прым. ◘ 1. Невялікі па аб'ёме, велічыні, вартасці, колькасці; рус. мелкий. Дробны дождж. Дробныя яблыкі. Дробныя грошы. 2. З частым паўтарэннем кароткіх элементаў. Дробны стукат колаў. Адбіваць дробную чачотку. 3. З малымі матэрыяльнымі магчымасцямі; эканамічна слабы. Дробны арандатар. Дробны бізнес. Дробны гандаль. 4. Які займае невысокае грамадскае або службовае становішча. Дробны чыноўнік. Дробная шляхта. 5. Нязначны, неістотны. Дробныя крыўды. Дробныя справы. 6. Нікчэмны; бедны душой. Смяльчак не зробіць шкоды. На гэта здольна толькі дробная парода, — Мышыная душа. У. К. ♦ Дробным макам рассыпацца — лісліва дагаджаць, падхалімнічаць; рус. рассыпаться мелким бисером.

**Дробязь**, наз., ж. р., Т дробяззю. ◘ 1. Невялікія предметы; дробныя рэчы; рус. мелочь.

А маці скрыню пакавала I дробязь розную збірала. К-с. 2. Дробныя манеты. 3. Падрабязнасць, дэталь. Гэта аповесць [«Знак бяды»] сімвалічная. Сімвалічная ў вялікім і малым, у дробязі, непрыкметнай дэталі, якая між тым паслядоўна працуе на ідэю. І. А. 4. Нешта нязначнае, малаважнае, не вартае ўвагі; рус. пустяк; безделица. Не звяртаць увагі на дробязі.

♦ Разменьвацца на дробязі — траціць час, сілы, энергію на неістотнае, другараднае, не займацца галоўным, асноўным.

**Дрот**, наз., м. р., -у. ◘ Металічная гібкая ніць або тонкі прут; рус. проволока. Калючы дрот.
На галаве не косы, а дроцікі як быццам.
Праз гэта дастапося імя ёй -Драцяніца. У. Д.

**Другарадны**, прым. ◘ 1. Не асноўны, не самы важны, малаістотны; рус. второстепенный. Другарадная роля. 2. Не лепшы па сваіх якасцях; пасрэдны. Другарадны журналіст.

**Дружбак**, наз., м. р., -а. ◘ Блізкі друг, сябар; рус. закадычный друг. Кожны мае дружбака такога, Захавана ў сэрцы да якога Прыязні даўнейшай цеплыня. Ар. К.

**Дружка**, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ Таварышка нявесты ў вясельным абрадзе; шаферка. Дружкі прыбіралі маладую да шлюбу.

**Друзачка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Дробны кавалачак бітага шкла, цэглы, каменя і пад.; рус. осколок. [Костусь] ў ход тапорык свой пускаў. Лядок закашляў, заіскрыўся, На срэбра-друзачкі пабіўся; Ляцяць крупінкі ледзяныя, Бы ўлетку пырскі дажджавыя. К-с.

**Друк**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Друкаванне кніг; выдавецкая і друкарская справа. Работнікі друку. □ ...І Скарына наш друк распачаў За паўвека да Фёдарава. П. П. 2. Сукупнасць надрукаваных твораў, перыядычных выданняў. Перыядычны друк.

**Друкаваць**, -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ 1. Адціскаць, выбіваць знакі на паперы з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў. 2. Выдаваць такім спосабам ці змяшчаць у друку; рус. печатать. Моцна вучоны чалавек. Кніжкі друкуе свае, студэнтам лекцыі чытае. К. К.

**Друкарня**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства, дзе друкуюцца кнігі, часопісы, газеты; рус. типография. Рэдактар чытаў толькі што прынесеныя з друкарні палосы заўтрашняй газеты. Т. Х.

**Дрывотня**, наз., ж. р. ◘ Хлеў або павець для дроў; дрывотнік. ...І трэскі кучамі ляжалі Па ўсім двары і на дрывотні... К-с.

**Дрыгва**, наз., ж. р. ◘ Топкае балота, багністае месца; багна; рус. трясина, топь. Дрыгва ўтвараецца пры зарастанні возера чаротам, бабком, капытнікам балотным, імхамі і іншымі раслінамі і

ператварэнні яго ў нізіннае месца. У выніку асушэння дрыгва захавалася толькі на тэрыторыях запаведнікаў. БелЭн.

**Дрыжыкі**, наз., адз. няма. ◘ Сутаргавае ўздрыгванне цела (ад холаду, страху і інш.); дрыготка; рус. дрожь.

**Дрымотны**, прым. ◘ Агорнуты дрымотай, паўсонны; рус. дремлющий.

**Дрэнны**, прым. ◘ 1. Не такі, як трэба, кепскі; проціл. добры; рус. плохой. Дрэнная дарога. Дрэнныя вынікі. Дрэнны конь. 2. Нявопытны, няўмелы; няздольны, няздатны. Дрэнны гаспадар. 3. Заганны ў маральных адносінах; амаральны; непрыемны для іншых; рус. скверный. Дрэнная рэпутацыя. Дрэнны чалавек. Дрэнны характар. Дрэнныя звычкі. 4. Невясёлы, пануры; які не прадвяшчае добрага; рус. дурной. Дрэнны настрой. Дрэннае прадчуванне.

**Дубальтовы**. ◘ Які складаецца з двух аднародных прадметаў, частак; падвойны; рус. двойной. Дубальтовыя дзверы. Дубальтовыя рамы.

**Дубальтоўка**, наз., ж. р., ДМ -оўцы. ◘ Паляўнічая стрэльба з двума ствапамі; двустволка.

Міхал хватае дубальтоўку
І хоча выстраліць у воўка. К-с.

**Дубняк**, наз., м. р., -у. ◘ Малады дубовы лес. Густы лес паЧаў радзець, на змену вялікім дрэвам пайшоў дубняк. А. Вас.

**Дуброва**, наз., ж. р. ◘ Невялікі лісцевы лес; дубовы лес; гай; рус. дубрава.

Усміхнулася вясёла — заспявала ўсё наўкола: і дуброва, і крыніца — ад усмешкі Мілавіцы. У. Д.

**Дудар**, наз., м. р., -а. ◘ Музыкант, які іграе на дудцы. [Жнейкі:] — Ось, глядзеце, здольна грае, Як дудар той запраўскі! Так, галубкі, выцінае, Што рве сэрца на кускі. К-с.

**Дудка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ Народны музычны духавы інструмент у выглядзе трубкі з дрэва ці чароту. Смутак жнеек тых апране, Разагнуцца і стаяць,

**Дужа**, прысл. ◘ Надта, вельмі; надзвычай; рус. очень. Дужа прыгожая і разумная дзяўчына.

Як Сымон на дудцы стане Жальбу сэрца выяўляць... К-с.

**Дужацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ Мерацца сілай. Калі ставаў на заднія лапы, [мядзведзь] быў ужо вышэйшы за мяне, і мне забаранілі дужацца з ім, бо ён у запапе можа не суразмерыць сілы. У. Карат.

**Дужы**, прым. ◘ Здаровы, моцны; рус. сильный. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Прык. (рус. Назвался груздем — полезай в кузов).

**Дуйка**, наз., ж. р., ДМ дуйцы. Абл. ◘ Замець, завея, завіруха. У дуйку шляхціц Завальня вывешваў ліхтар на жэрдцы і ставіў свечку на падваконні, каб падарожныя не збіліся з дарогі. Ян Б.

**Дукат**, наз., м. р., -а. ◘ Старадаўняя сярэбраная, а затым залатая манета. Кожнаму брату па дукату. Прык. (рус. Всем сестрам по серьгам).

[Чорт.:] Не на скрыпцы, — на патэльні Гоаю свой напеў пякельны. Можа б, скрыпку ты прадаў мне? Будзеш мець тады дукаты... У. Д.

**Дулебы**, наз., адз. дулеб, м. р., -а. ◘ Старажытнае ўсходнеславянскае племя, якое жыло ў вярхоўях Заходняга Буга і Прыпяці.

**Думка**, наз., ж. р., ДМ -мцы. ◘ 1. Вынік развагаў, меркаванняў, роздуму; рус. мысль. Цікавая думка. Выказаць думку. 2. Намер, задума; рус. замысел. Галоўная думка твора. 3. Меркаванне; рус. мнение. Выказаць упасныя думкі пра творчасць мастака. 4. Мысліцельны працэс; мысленне. Змоўк Сымонка і прыгнуўся, Цень задумы на ім лёг; 5. Разважанне; рус. рассуждение.

Ён у думках зноў замкнуўся Ды скуб траўку каля ног. К-с.

Над Сымонкам думкі ўюцца: Што рабіць? Куды пайсці?

Ці назад дамоў вярнуцца, Ці ў свет гора панясці? К-с.

**Дуплянка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Шпакоўня з дуплаватага дрэва.

**Дурны**, прым. ◘ 1.Тупы, неразумны; наіўны, нездагадлівы. Дурны сабака і на гаспадара брэша. Прык. 2. у знач. наз. Тое, што і дурань. Лепей з разумным згубіць, чым з дурным знайсці. Прык. (рус. Услужливый дурак опаснее врага).

**Дух**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Паводле рэлігійнага веравучэння — несмяротная, нематэрыяльная Боская першаснова ў чалавеку. 2. Унутраны стан, настрой, маральная сіла; свядомасць. Не! духу волі плынь жывая Такога ладу не прымае І не прыхіліцца ніколі Да гэтай лішне простай долі... К-с. 3. Паветра.

Ён цяжка дыша, духу мала, — І ўсё адразу ясна стала. -Антоська!.. родны мой! канаю... К-с.

4. Пах. У капусту, як квасяць, для духу дадаюць антонаўку.

- ♦ Чуць дух — добра ведаць, з кім маеш справу.
- ♦ Духу баяцца — дрыжаць ад страху перад некім.
- ♦ Не падаць духам — не траціць веры ў свае сілы.
- ♦ Святым духам жыць — невядома як.

**Духоўнасць**, наз., ж. р. ◘ Уласцівыя чалавеку або супольнасці людзей якасці, каторыя вызначаюць іх маральную сутнасць, забяспечваюць існаванне жыцця і развіццё грамадства, панаванне ў ім важнейшых каштоўнасных арыенціраў: любові, цярпімасці, даравальнасці, літасці, справядлівасці, працавітасці, клопату пра дзяцей, састарэлых і нямоглых, падпарадкавання матэрыяльнага духоўнаму; проціл. бездухоўнасць. Найпершы клопат кожнай справядлівай улады — пра духоўнасць нацыі. Духоўны, прым. ◘ 1. Звязаны з унутраным, псіхічным жыццём чалавека, яго маральнымі якасцямі. Жыві і цэльнасці шукай, Аб шыраце духоўнай дбай. М. Б.

2. Нематэрыяльны, бесцялесны. Настаўнікі — сейбіты на духоўнай ніве. □ Багацце духоўнае — злата дзяржавы. М. Г. 3. Звязаны з рэлігіяй, царквой і кіраўніцтвам царкоўнымі справамі; проціл. свецкі. Духоўная семінарыя. Духоўная музыка.

**Духмяны**, прым. ◘ З моцным прыемным пахам; пахкі; рус. душистый, ароматный, благоуханный. Духмянае мурожнае сена. Душа, наз., ж. р. ◘ 1. Паводле рэлігійнага веравучэння — несмяротная, нематэрыяльная Боская першааснОва ў чалавеку. 2. Пера. жыванні, настрой, пачуцці.

Баліць ёй [жонцы] сэрца аб Міхасю; Яна адгадвае душою, У якім ён цяпер настроі. І цяжка ёй. Яна ўздыхае, Ідзе, сябе парамагае... К-с. Ды я душою ажываю, Як вокам мыслі азіраю Цябе, мой луг і бераг родны, Дзе льецца Неман срэбраводны. К-с.

3. Пачуццё захаплення, удзячнасці, надзеі, парыванняў, імкненняў, мрояў.

О край мой мілы! Усёй душою Хачу злучыцца я з табою, Ў тваіх палях пазычыць сілу, Ўтваёй зямлі сысці ў магілу... К-с.

4. Маральная сіла, моц; сукупнасць маральных якасцяў чалавека. Чалавек добрай душы.

□ Для нас — прыроды болей мілай, Чым беларуская, няма.

Яна ж усіх нас надзяліла Душой такою, як сама! То ж у яе натуры — чуласць, Гасціннасць, мяккасць, дабрыня, Гатоўнасць даць табе прытулак — Ці ты чужы, ці ты радня... Н. Г.

**Душнік**, наз., м. р., -а. ◘ Адтуліна для доступу паветра. Каб бульба прасыхала і не гарэла, у капцах паставяць душнікі. І. Н.

**Дыван**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Саматканы ўзорчаты выраб для ўпрыгожання сцен, высцілання падлогі; посцілка на ложак; кілім; рус. ковер. Беларускія жанчыны здаўна славіліся сваім майстэрствам ткаць дываны. 2. перан. Пра тое, што пакрывае зямлю. Дываны мурагу і кветак.

**Дывідэнд**, наз., м. р., -у. ◘ Прыбытак, які атрымліваюць прапарцыянальна ўкладзенаму ў прадпрыемства капіталу. Высокія дывідэнды з прыбытковага прадпрыемства.

**Дызайнер**, наз., м. р., -а. ◘ Мастак-канструктар; спецыяліст па мастацкім афармленні прамысловых вырабаў. Дызайнер-мадэльер фабрыкі «Алеся».

**Дылетант**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца навукай або мастацтвам без спецыяльнай падрыхтоўкі; чалавек, які мае павярхоўнае знаёмства з нейкай галіной ведаў. Дылетант у літаратуразнаўстве.

**Дысцыпліна**[1], наз., ж. р. ◘ Цвёрда ўстаноўлены парадак, абавязковы для ўсіх членаў якога-небудзь калектыву. ...Бо там [за сталом] парадак вельмі строгі, Там падпілуюць табе рогі, Калі парушыш дысцыпліну. К-с.

**Дысцыпліна**[2], наз., ж. р. ◘ Галіна якой-небудзь навукі; вучэбны прадмет. Гуманітарныя дысцыпліны.

**Дыялект**, наз., м. р., -у. ◘ Мясцовая разнавіднасць мовы; гаворка. // Група мясцовых гаворак, аб'яднаных агульнасцю фанетычных, граматычных і лексічных рыс. Паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты беларускай мовы.

**Дыямент**, наз., м. р., -а. ◘ Алмаз, брыльянт. Росы ў промнях ззяюць дыяментамі.

**Дэдукцыя**, наз., ж. р. ◘ Метад разважання, даследавання, пры якім асобнае, прыватнае пазнаецца на аснове ведання агульнага; проціл. індукцыя.

**Дэмакратыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Палітычны лад, пры якім вярхоўная ўлада належыць народу. 2. Спосаб кіраўніцтва з удзелам усяго калектыву.

**Дэміург**, наз., м. р., Дэміурга. Кніжн. ◘ Тварэц свету.

**Дэтэктыў**, наз., м. р., -ыва. ◘ 1. Агент, супрацоўнік вышукной установы. Прыватны дэтэктыў Шэрлак Холмс. 2. Літаратурны твор або кінафільм, у якім апісваюцца таямніцы, звязаныя са злачынствамі, следствам.
Заняты кожны сваім пасажыры.
Хто дэтэктывам, хто — булкай з сырам. Р. Б.

**Дэ-факта**, прысл. ◘ Фактычна, сапраўды, на справе; проціл. дэ-юрэ.

**Дэфект**, наз., м. р., -у. ◘ Недахоп, загана. Дэфекты вымаўлення.

**Дэфіліраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ 1. Урачыста ісці, праходзіць (на парадах, дэманстрацыях). Дэфіліраваць па подыуме. 2. Прагульвацца.

**Дэ-юрэ**, прысл. ◘ Фармальна, юрыдычна, на падставе закона; проціл. дэ-факта.

# Е

**Евангеліст**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кожны з чатырох (Матфей, Марк, Лука, Іаан Багаслаў) аўтараў Евангелля. 2. Член евангелічнай абшчыны.

**Евангелле**, наз., н. р. ◘ І.Частка Бібліі, Святога Пісання, у якой апавядаецца пра зямное жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста (ад грэч. euangślion — добрая вестка); Новы запавет. Евангелле з'яўляецца асновай хрысціянскага веравучэння. 2. перан. Кніга, твор, у якім змяшчаюцца асноўныя прынцыпы чаго-небудзь. Адна з кніг Р. Барадуліна называецца «Евангелле ад Мамы».

**Егер**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Паляўнічы-прафесіянал, які вядзе нагляд за дзікімі жывёламі, арганізуе паляванне і інш. 2. Работнік лясной аховы ў запаведніках.

**Еднасць**, наз., ж. р. ◘ Адзінства, згуртаванасць, супольнасць. Еднасць людзей — заслона вайне.

**Енк**, наз., м. р., ёнку. ◘ 1. Жаласны стогн, крык пакуты, адчаю.
Алесь заенчыў праразліва, Упаў і зноў схапіўся жыва,
2. Горкая жальба, нараканне. Енкамі ды стогнамі бяду не адолееш.

**Енчыць**, -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ Жаласна стагнаць. Вось пакута, дык пакута! Стогне, енчыць цётка Ўлюта,

**Ер**, наз., м. р., ера. ◘ Даўнейшая назва літары «ь» (мяккі знак).

**Ерась**, наз., ж. р. ◘ Рэлігійная плынь, варожая самой рэлігіі, яе догматам.
А дзеці ў плач, у енк, у слёзы, І ўсе разбегліся, як козы... К-с.
ужо канае вот-вот-вот — так схапіў яе жывот. К. К.

**Ерэтык**, наз., м. р., -а. ◘ Адступнік ад догматаў рэлігіі. У часы інквізіцыі ерэтыкоў спальвалі на вогнішчы.

**Еўгеніка**, наз., ж. р., ДМ -ніцы. ◘ Навука аб спадчынным здароўі людзей і шляхах паляпшэння яго спадчынных уласцівасцяў.

# Ё

**Ёмісты**, прым. ◘ 1. Які можа змясціць у сабе вялікую колькасць чаго-небудзь; умяшчальны; рус. вместительный. Ёмісты заплечнік. 2. перан. З багатым зместам, вялікім сэнсам; рус. емкий. Для паэзіі Купалы характэрна вобразная сімволіка, сімволіка ёмістая, пафіласофску значная і народна-каларытная. Н. П.

**Ёмкі**, прым. ◘ 1. Зручны, якім добра і легка карыстацца; рус. удобный. Ёмкія санкі. Ёмкі кій. 2. Зграбны, спрытны. Ёмкі хлопец. 3. Лоўкі, меткі, моцны. Ёмкі стрэл. 4. Вялікі, ладны. Ёмкая луста хлеба. 5. Умяшчальны. Ёмкі кубак.

**Ёр**, наз., м. р., ёра. ◘ Даўнейшая назва літары «ъ» (цвёрды знак).

**Ёўня**, наз., ж. р. ◘ Будыніна з печкай для прасушвання снапоў перад малацьбой; асець. Можа... [гумно] само загарэлася: у той вечар сушылася ў ёўні грэчка. і. С-оў.

# Ж

**Жабрак**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто просіць міласціну і жыве з яе; рус. нищий.

Поруч з ім, жабраком, у кутку, ля стала зладзяінная зграя на змове была. І надумалі: ўзяўшы з сабой жабрака, памяняць у турме на свайго дружбака. У. Д.

**Жабраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Збіраць міласціну; выпрошваць, дакучаць просьбамі. Не ўмееў шанаваць — ідзі жабраваць. Прык. Хто з маладосці не працуе, той на старасці жабруе. Прык. Добра жыві — жабраваць не заракайся. Прык.

**Жаданне**, наз., н. р. ◘ Імкненне, цяга да чаго-небудзь; хаценне; ахвота; рус. желание, страсть.

...Яшчэ казаў [дзед]: «Каліхто зможа, Пакуль не згасне служка Божжа, Задумаць што ў мамэнт бліскання, Таго ўсе споўняцца жаданні». К-с.

**Жаданы**, прым. ◘ Такі, да якога імкнуцца, якога чакаюць; любімы, дарагі; рус. желанный. Ты заўсёды мне жаданы, Мой адзіны, мой каханы, Сэрцу мілы, ненаглядны мой. Э. В.

**Жадаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Хацець нешта ажыццявіць, зрабіць, займець; рус. желать. Хто моцна жадае, той і мае. Прык. (рус. Кто ищет, тот найдет). Хто зашмат жадае, той нічога не мае. Прык. (рус. За двумя зайцами погонишься — ни одного не поймаешь. Много желать — добра не видать). Не гняві Бога, не жадай чужога. Прык. (рус. На чужой каравай рот не разевай). 2. Выказваць нейкія пажаданні; зычыць. Спаткаўся з роднаю зямлёю, Жадаю шчырым сэрцам роднай: каб больш не знацца нам з вайною, каб больш не знаць вайны ніводнай! У. Д.

**Жазло**, наз., н. р. ◘ 1. Уст. Посах, палка асобай формы як сімвал улады, ганаровага звання, становішча; рус. жезл. Піша ж у гэтых кнігах Маісей пра няволю сыноў Ізраіля, рабоў егіпецкіх, пра

нараджэнне сваё і пабег ад фараона; пра тое, як Гасподзь Бог явіўся яму ў купіне неапалімай і паслаў яго, каб вывеў людзей ізраілевых з Егіпта; пра цуды, якія чыніў ён жазлом перад фараонам... Ф. С. 2. Спец. Палачка ў руках рэгуліроўшчыка вулічнага руху. Міліцыянер махнуў паласатым жазлом — і паток машын рушыў з месца.

**Жалейка**, наз., ж. р., ДМ жалёйцы. ◘ Народны музычны інструмент: дудка з дрэва або трысця; рус. свирель. Не на гуслях звонкіх баю Аб забытым недзе краю, Хоць то сэрца к гуслям рвецца, — А на спасвенным пагорку, Углядаючыся ў зорку, Гоаю толькі на жалейцы. К-а.

**Жалоба**, наз., ж. р. ◘ 1. Смутак з прычыны чыёй-небудзь смерці, народнага гора, бедства; рус. траур. Па памерлым у сям'і — год жалобы. Вяселле спраўляць у гэты год нельга. З нар. 2. Чорнае адзенне, павязка і пад. як сімвал смутку. Насіць жалобу.

**Жалобны**, прым. ◘ Сумны, тужлівы з прычыны чыёй-небудзь смерці, народнага гора, бедства; рус. траурный. Вы, хатынцы, згарэлі, Я — хатынец жывы!

Нашу памяць жалобныя будзяць званы. С. З.

**Жаль**, наз., м. р., жалю. ◘ Пачуццё спагады, смутку, шкадавання, выкліканае чыёй-небудзь пакутай, няшчасцем, а таксама шкадаванне з прычыны чаго-небудзь; рус. сострадание; сожаление; горесть, печаль.

А Месяц як зірнуў на зоркі, увесь праняўся жапем горкім. ...Ад жалю аж змяніўся з твару. Закрыўшы сад свой цёмнай хмарай, сабраў свае ўсе кветкі-зоркі і прыхаваў іх за ўзгоркам. У. Д.

**Жальба**, наз., ж. р. ◘ 1. Смутак, туга, бедаванне; рус. скорбь. Жальба падступала да сэрца. 2. Скарга, нараканне; рус. жалоба, сетование. Жальбай і крыўдай на лес бяду не адолееш.

**Жаніцца**, жанюся, жэнішся, жэніцца (з кім); незак. ◘ Браць жонку, станавіцца жанатым, сямейным; вянчацца, уступаць у шлюб; рус. жениться (на ком). Пакуль жаніцца, загаіцца. Прык. (рус. До свадьбы заживет).

Сядзіць дома, як пужала,
Не з кім слова мовіць:
Ой, жаніся ж: часу мала,
Старасць цябе зловіць!

Пастарэеш, небарака,
Дзеўкі ўсе зракуцца,
А ты будзеш, як сабака,
Туляцца і гнуцца. К-с.

Есці -з голаду,
жаніцца — змоладу,
іначай вы ні к сялу ні к гораду. А. В.

**Жаноцкі**, прым. ◘ Характэрны для жанчыны: пяшчотны, ласкавы, прывабны; рус. женственный. Жаноцкае хараство.

**Жаночы**, прым. ◘ Які мае адносіны да жанчын, прызначаны для жанчын; які адрознівае жанчыну; рус. женский. Жаночыя рукі. Жаночы абутак. Жаночая пяшчотнасць.

**Жанр**, наз., м. р., жанру. ◘ Род твораў у мастацтве, які адрозніваецца сваімі асаблівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі. Драматычны жанр. Жанр меладрамы.

**Жарало**, наз., н. р. ◘ Глыбокая адтуліна ў чым-небудзь (вулкане, ствале дрэва, гармаце і інш.); рус. жерло; дупло. ...Стаяць [дубы], як вежы, над вадою Даўнейшых спраў вартаўнікамі І ззяюць грозна жараламі. К-с.

**Жарт**, наз., м. р., жарту. ◘ Пра тое, што робяць ці гавораць не сур'ёзна, а для пацехі, забавы; востры дасціпны выраз; рус. шутка. Пад жарты і смех абсыпалі маладых жытам, каб былі добры/и/ гаспадарамі. А. Вас.

Зірніся, дзядзька, у люстэрку: Хоць завярці вазьмі ў паперку, Хоць у сваты едзь, хоць жаніся! — Да дзядзькі жарты паняслія. К-с. Разумныя жарты пах валы варты, дурныя жарты плачу варты. Прык.

♦ Не на жарты — вельмі сур'ёзна.

Тут узлаваўся шчупак не на жарты: ўся яго хітрасць нічога не варта! У. Д.

**Жартаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Гаварыць або рабіць штонебудзь для пацехі, несуразна; рус. шутить; острить. З агнём не жартуй і вадзе не вер. Прык. Наста на гэта смяецца, жартуе: — Што ты гаруеш-бядуеш, татуля? У. Д.

**Жартаўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто любіць жартаваць, умее востра, дасціпна сказаць; рус. шутник; остроcлов. К таму ж яшчэ ён [Сымон] быў вясёлы, На байкі здатны, на язык. І словы сыпаў, як з прыполу, Жаданы ўсюды жартаўнік. К-с.

**Жах**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Моцны страх да зняменcosts; рус. ужас. Агарнуў тых сватоў проста неякі жах: Як на гэткі адказ паглядзіць падзішах? У. Д. 2. Трагічная з'ява, страшнае здарэнне. Жахі вайны.

**Жвавы**, прым. ◘ Поўны жыццёвых сіл;'бадзёры, рухавы; вясёлы, гуллівы; рус. живой, резвый. Мірон быў больш разважлівы, спакойны хлопец, а Віктар — жвавы, імклівы. Я. М.

**Жвір**, наз., м. р., -у. ◘ Буйназярністы жоўты пясок.

Ці яна ляжыць пад жвірам, Ці замыта цёмным вірам? У. Д.

Адусюль з-пад кожнай латы сыпле золата ля тэты. У. Д.

Струны плакалі і пел і... Дзе вы, струны, радасць дзелі?

**Жменя**, наз., ж. р. ◘ 1. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць і ўтрымаць што-небудзь; рус. горсть. Сыпле золата ён жменяй з кайстры, з пазухі, з кішэні. 2. Колькасць таго, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцам!. Тым жа часам Солі жменю хтось рассыпаў на каменні. Аб'яднаўшыся ў грудочак, Соль пайшла шукаць куточак. У. Д. ...Напрост кладуцца жменіжыта, Растуць снапочкі самавіта, Стаяць, бы лялечкі якія, Глядзяць, як госці дарагія, К-с.

**Жмудзь**, наз., ж. р. ◘ Даўнейшая назва літоўскага племя жэмайты (нескл.), якое ў XIII-XV стст. жыло ў заходняй частцы Літвы.

**Жнейка**, наз., ж. р., ДМ жнёйцы. ◘ 1. Ласк, да жняя. ...А спелапоўныя зярняткі Гпядзяць, як спонкі-вачаняткі, Нібы ім хочацца хутчэй як — Спаткаць-убачыць мілых жнеек. К-с.

Смела йдзе ў сонца,
Уся сама, як сонца.
Гэта жнейка наша
У нашае старонцы! К-а.

2. Жатная машына; жняярка; рус. жатка.

**Жнівень**, наз., м. р., жніўня. ◘ Восьмы месяц года, апошні летні месяц; рус. август. Жнівень дае знаць, што заканчваецца лета і набліжаецца восень. Лозка. Хто ў жніўні гуляе, той узімку галадае. Прык.

**Жняя**, наз., ж. р. ◘ Жанчына, якая жне ўручную сярпом; рус. жница.

Угрэла сонца. Жней чародкі
Ідуць паважна, як лябёдкі,
У хустках лёгкіх, кофты белы,
Іх рукі дужа загарэлы. К-с.

**Жонка**, наз., ж. р., ДМ жонцы. ◘ Замужняя жанчына ў адносінах да свайго мужа; рус. жена; супруга. Там Бог раюе, дзе жонка мужа шануе. Прык. Не плач: не будзем тут галодны; Бог дасць, сяго-таго прыдбаем, Дабра якога дачакаем, — Так разважаў ён сваю жонку. — Жывым не кінешся ў палонку! К-с.

**Жорны**, наз., адз. няма. ◘ Ручны млын з двух плоскіх круглых камянёў для пераціраання зерня ў муку або крупы; ласк, жаронцы. Даўней жорны рабілі, насякалі жарнасекі. □ У роднай старонцы самі мелюць жаронцы. Прык. (рус. У нас на Рязани и свинья в сарафане). Круці жорны пільна, то й тут будзе Вільня. Прык. (рус. Терпенье и труд все перетрут).

А гэты дарунак размолаты ў жорнах,
а гэты дарунак [праснак] і чэрствы, і чорны. У. Д.

**Жорсткі**, прым. ◘ 1-Надзвычай суровы, бязлітасны, неміласэрны; рус. жестокий. Жорсткі чалавек. 2. Цяжкі, пакутлівы (пра жыццё, лес, час).

І кветкі пахінулі да Лілі ўсе пялёсткі,
калі пазналі-ўчулі
пра лёс дзяўчынін жорсткі: У. Д.

**Жуда**, наз., ж. р., ДМ жудзё. ◘ Пачуццё страху, трывогі, прадчуванне бяды, небяспекі; жах; жудасць.

Дні міналі за днямі, не сагналі жуды.
Голад у Акермане распачаўся тады. У. Д.

**Жужаль**, наз., м. р. -я і жужалка, ж. р. ДМ -лцы. ◘ Драпежны начны жук; рус. жужелица.

Жылі жыццём звычайным павукі. Снавалі кроены, ткалі нераты, чаплялі іх на дрэвы і кусты. Лавілі жужалак, жукоў і мух, спыняючы навекі іхні рух. У. Д.

**Жуіраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Жыць толькі асалодамі, уцехамі; весці жыццё жуіра. Бесклапотная ўпэўненасць дазваляла Віктару хадзіць па зямлі гаспадаром: жуіраваць, калі быў у гуморы, абурацца, калі выходзіла не па-ягонаму. У. Кар.

**Жупан**, наз., м. р., -а. ◘ Даўнейшае верхняе мужчынскае і жаночае адзенне з каляровага сукна ў беларусаў, палякаў, украінцаў. Які пан, такі і жупан. Прык. (рус. Каков Дёма, таково у него и дома).

Пшэбора зараз па парадку Скідае вопратку сваю, Наўперад зняў канфедэратку, Як сведку польскасці ў краю, А потым важна расшпіляе Зялёны вышыты жупан. К-с.

**Жур**, наз., м. р., журу. ◘ Негусты аўсяны кісель.

**Журавіны**, наз., адз. журавіна, ж. р. ◘ Ягадная вечназялёная расліна сямейства бруснічных, якая расце на мохавых балотах; рус. клюква. Здаўна вядомы лекавыя якасці журавін.

**Журба**, наз., ж. р. ◘ Смутак, туга, маркота; журбота; рус. грусть, печаль.

Ён сказаў усё аб цудзе, як яго паспалі людзі, як знайшоў яе, дзяўчыну, а цяпер напэўна згіне, бо журба ўпадзе ў сэрца і не выйдзе аж да смерці... У. Д.

**Журботна**, прысл. ◘ Сумна, маркотна, тужліва; рус. грустно.

Пуста ў садзе і журботна, Як бы страціў нешта сад,
Нават лісцейка дрыготна Шум вядзе на смутны лад. К-с.

**Журыцца**, журуся, журышся, журыцца; незак. ◘ Сумаваць, маркоціцца, тужыць, нудзіцца; рус. печалиться, грустить.

Неўзабаве да дна [гусі]
спаражнілі карытца,

Ну, цяпер да відна
могуць спаць, не журыцца! У. Д.
З прыгожай доляй я заручаны;
Ты, маці, не журыся. Пысін.

**Жывакост**, наз., м. р., -у. ◘ Шматгадовая лекавая расліна з буйным лісцем і трубчатымі кветкамі, якая расце па сырых мясцінах; рус. окопник. [Бабка Аксіння:] — А жывакост, дзеткі, гэта значыць: жывіць косці, ажыўляе іх... А. Ч.

**Жывапіс**, наз., м. р., -у. ◘ Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў; творы гэтага віду мастацтва: карціны, фрэскі і інш.; рус. живопись. Жыватворчы і жыватворны, прым. ◘ Які дае жыццё, аднаўляе сілы, ажыўляе; рус. животворящий. Жыватворчая сіла жыцця — людская праца. // перан. Спрыяльны, дабратворны, плённы.

Ўсё зацвіло, загаманіла, Бы жыватворчая тут сіла. Ад сну прыроду абудзіла. К-с.

У тым кутку, глухім і дзікім, Стараннем дзядзькавым вялікім І цяжкай працай хлебароба Набыта розная надоба;

**Жывёла**, наз., ж. р. ◘ 1. Усякая жывая істота, акрамя раслін, у процілегласць чалавеку; рус. животное. Ні чалавек, ні жывёла не можа ступіць на гэтыя нетры Гчілога балота. К-с. 2. Свойская скаціна і птушкі; рус. скот, скотина. Другі гурток другой жывёлы, Дзесятак кур, пявун вясёлы Каля ппатоў чарвей шукалі. К-с.

**Жыгучка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Пякучая крапіва з дробным лісцем. Адзін са зборнікаў сатырычных вершаў і баек К. Крапівы называецца «Пучок жыгучкі».

**Жыраваць**, -руе; незак. ◘ Карміцца, гулліва забаўляючыся (пра звяроў, птушак, рыбу).

Рыба жыруе ў вадзе ля кусточкаў, пільна ўглядаюцца круглыя вочкі. Раптам шчупак, як віхор, міьгануў тут, рыбкі і зніклі ў тую ж мінуту. У. Д.

**Жырандоль**, наз., ж. р. Уст. ◘ Вялікі фігурны падсвечнік для некалькіх свечак. У Крошынскім касцёле каля Баранавіч ашчадна зберагаецца металічная жырандоль-люстра работы паэта і каваля Паўлюка Багрыма, аўтара шэдэўра беларускай лірыкі XIXстст. — верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

**Жыта**, наз., н. р. ◘ 1. Расліна сямейства злакавых, зерне якой скарыстоўваецца на хлеб; ласк, жытцо, жыцейка; рус. рожь.

Саломку выгнуўшы дугою, Звісае колас над зямлёю. К-с.

Цяпер увагу дайце хлебу, — Сярпок крывенькі просіць дзела, Жытцо падходзіць, пабялела. 2. Зерне гэтай расліны. Жыта вязуць на элеватар.

**Жытнёвы**, прым. ◘ Які мае адносіны да жыта; жытні, жытны; рус. ржаной.

Ходзяць хвалі, як на моры праз жытнёвыя прасторы, а ячмень раскінуу вусы на палову Беларусі... У. Д.

**Жыццё**, наз., н. р.◘ 1. Стан усяго жывога ад нараджэння да смерці; рус. жизнь. Жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. К-с. Дружыце! — і будзе прыгожае, харошае ваша жыццё. А. В. 2. Час, перыяд існавання каго-небудзь; век.

Мы красу ў жыцці далейшым павялічым і палепшым. У. Д.

Прыкра стала, горка стала: за жыццё рабіў нямала, а з пяску зрабіць не можа чаравічак ён прыгожых... У. Д. 3. Умовы і спосаб існавання каго-небудзь; быт. Заможнае жыццё. Сямейнае жыццё.

□ Адзін ён [выхад] ёсць: зямля, зямля, Свой пэўны кут, свая ралля: То — наймацнейшая аснова І жыцця першая умова. К-с.

**Жэрабя**, наз., н. р. ◘ Умоўны знак (дробная рэч, паперка), які выцягваецца наўгад пры вызначэнні чарговасці, абавязку або права на што-небудзь; рус. жребий. Цягнуць жэрабя. □ Але як гэты надзел дастаўся [Раману] па жэрабі, то і не было не каго наракаць. К-с.

**Жэўжык**, наз., м. р., -а. ◘ Свавольнік, гарэза; рус. шалунишка; пострелёнок.

І схіляе трава
Над ім [ручаём] пасмы-брыжы,
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць. К-с.

# З

**Заахвоціць**, -вочу, -воціш, -воціць; зак. ◘ Выклікаць ахвоту, жаданне рабіць што-небудзь; рус. вызвать желание, приобщить; увлечь, пристрастить.

[Пан:] — Раз ты такі незвычайны ўмека, бубен зрабі, каб ён без чалавека граў і спяваў нам усім у палацы, каб і мяне заахвоціў на танцы. У. Д.

**Забабоны**, наз., адз. няма. ◘ Вера ў тое, што некаторыя з'явы і падзеі маюць таямнічы сэнс і прадказваюць будучыню; прымхі; рус.

суеверия; предрассудки. Забабоны супярэчаць хрысціянскай веры і лічацца грахом. Забабоны — адгалосак язычніцкіх вераванняў.

**Забава**, наз., ж. р. ◘ Імкненне, цяга да чаго-небудзь; хаценне; ахвота; рус. развлечение.

Не адрозніць, дзетвара, вас
Ад тых кветак на паляне,
Дзе вы будзеце ў забавах
Разам лётаць з матылямі. М. В.

**Забараніць**, -раню, -роніш, -роніць; зак. ◘ Не дазволіць што-небудзь рабіць; не дапусціць чаго-небудзь; рус. запретить. Маці ўсім забараняла Рваць зялёныя ранеты. М. Т.

**Забаўка**, наз., ж. р., ДМ забаўцы. ◘ 1. Гульня, пацеха; тое, што забаўляе, весяліць; рус. игра, развлечение. Вучоба — не забаўка, а сур'ёзная праца. □ І навошта вырвалася тое дурное слова? Які б ні быў важны гэты паядынак, ён усяго толькі гульня, забаўка, і не такія ўжо праблемы сусветнага маштабу вырашаліся яго вынікам, каб накідвацца на чалавека. Ды яшчэ на такога, як Цім. А. Ф. 2. Рэч, якая служыць для гульні дзецям; цацка; рус. игрушка. З гліны пеўнікі-свісткі — Забаўкі для малых. П. Б.

**Забаўляцца**, -яюся, -яешся, -яецца; незак. ◘ 1. Пацяшацца, праводзіць час у забавах, гульнях; рус. развлекаться; играть. Дэльфіны любяць забаўляцца, перакочваючыся са спіны на жывот, паблізу караблёў, яхтаў. 2. Абыходзіцца з некім несур'ёзна, як з цацкай, забавай; рус. потешаться. Кожнага чалавека крыўдзіць і прыніжае, калі з ім забаўляюцца.

**Заваліцца**, -валюся, -валішся, -валіцца; зак. ◘ 1. Упасці за што-небудзь; згубіцца; уваліцца куды-небудзь; рус. затеряться. Адзін пялёстак сарваўся з агністай кветкі, упаў Яську ў правы лапаць і заваліўся за анучу. С. А. 2. Паваліцца, абваліцца, абрушыцца.
Гнілое ты не падпірай, яно заваліцца ўсё роўна. Ідзі здаровае ствара, дапамагай тварыць здаровым... У. Д. 3. Улегчыся. Сымон заваліўся на ложак і праспаў да самага вечара. А. Ч. 4. Бесцырымонна зайсці, заявіцца куды-небудзь. Калі Бешчат ... памкнуўся зашторваць акно, да яго нечакана заваліўся пан Томчак. А. Б-о.

♦ Хоць заваліся — пра поўны дастатак, мноства чаго-небудзь.

**Завея**, наз., ж. р. ◘ Снежная бура; мяцеліца, завіруха; рус. вьюга, пурга.

Люблю я зіму з маразамі,
Завеі белыя ў палях,
І снегу скрып пад палазамі,

І ціш зімовую ў лясах. К-с.

**Завітаць**, -аю, -аеш, -яе; зак. ◘ Зайсці, заехаць на кароткі час; наведацца, заглянуць. Па дарозе дадому трэба завітаць да сябра, які праз хваробу не быў у школе.

**Завіхацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Рабіць нешта вельмі старанна, рупліва. Матуля завіхалася на кухні.

**Завозна**, безас. у знач. вык. ◘ Пра вялікую колькасць прывезенага ў млын збожжа, пра вялікі завоз. Як умалотна, дык і завозна. З нар. ІІ перан. Наогул пра вялікую колькасць каго-небудзь, чагонебудзь. Па Волзе паром самаходны ідзе Насустрач вірлівай настойлівай плыні. Завозна, і вольнага месца нідзе Не адшукаеш на гэтай махіне. А. З.

**Завулак**, наз., м. р., -лка. ◘ Невялікая вуліца, якая звычайна злучае дзве іншыя вуліцы; рус. переулок. Вуліцы і завулкі роднага горада.

**Завушніца**, наз., ж. р. ◘ Упрыгожанне, якое прымацоўваецца да мочкі вуха; рус. серьга. Ззяючы завушніцамі, каралямі і бранзалетамі, увайшла высокая пышная бландзінка, Л. А. Кожнай сястрыцы па завушніцы. Прык. (рус. Всем сестрам по серьгам).

**Загад**, наз., м. р., -у. ◘ Вуснае або пісьмовае распараджэнне ўлады, начальніка ці іншых асоб, якое належыць выконваць; рус. приказ. Загад камандзіра — закон для падначаленага. □ Пачуў пра неслухмянку й Слон. Загад свой даў адразу ён: — Знайсці! Прыгнаць яе [Жабу] сюды, Калі не хоча мець бяды!.. У. Д.

**Загадаць**[1], -аю, -ёеш, -ае; зак. ◘ Аддаць загад; распарадзіцца, наказаць; рус. приказать.
На кірмаш і аднеслі адразу кілім, за яго заплацілі дыргемамі ім [злодзеям]. Так, пазнаўшы, што вязень мастак неблагі, загадалі, каб выткаў адразу другі. У. Д.

**Загадаць**[2], -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Прапанаваць загадку або пытанне для разгадкі, адказу. Загадаць загадку. 2. Задумаўшы штонебудзь, імкнуцца знайсці адказ, угадаць вынік ці верыць у здзяйсненне задуманага. Загадаць жаданне. Людзі верылі, што калі загадаеш жаданне, пакуль не згасне знічка, то яно абавязкова збудзецца. □ Падсоўвалі руку пад абрус, выбіралі наудачу даўжэйшую сцяблінку; загадвалі, ці высокі будзе наступнаю вясною лён, а паненкам прадказвалі хуткае замужжа. Ян Б.

**Загадка**, наз-., ж. р., ДМ -дцы. ◘ Кароткае апісанне нейкага прадмета, з'явы, якія трэба пазнаць, адгадаць. Нам Пятро спачатку Загадаў загадку:

**Загадкавы**, прым. ◘ Незразумелы, непазнаны, таямнічы; рус. загадочный. Легенды пра загадкавыя неапазнаныя лятальныя аб'екты.

**Загаловак,** наз., м. р., -лоўка. ◘ Назва кнігі, часопіса, артыкула; рус. заглавие. Загаловак твора ўказвае ці на падзею, апісаную ў ім, ці на галоўнага героя, ці на галоўную думку.

**Загана**, наз., ж. р. ◘ 1. Недахоп, які выклікае асуджэнне; рус. порок.
Мой кравец заўсёды колкі, Бо на ім тырчаць іголкі. С. Г.
Як ты ні падай, ні гайсай, Не пападзеш да пана ўрай... К-с.
Ці надта выслужышся ў пана? Ўсё роўна знойдзецца загана;
2. Фізічны недахоп арганізма, прыроджаны або набыты пасля хваробы ці траўмы.

**Заганны**, прым. ◘ 1. Дрэнны, няправільны, з недахопамі, заганамі; рус. порочный. Заганны метад кіраўніцтва — карыстацца даносамі і плёткамі. 2. Амаральны, непрыстойны. Заганны ўчынак.

**Загінуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Перастаць жыць, памерці гвалтоўнай смерцю; быць знішчаным; рус. погибнуть. У часе мінулай вайны загінуў кожны трэці беларус. □ Бароны ўсе адразу ў крык:
Ты [сінячок] прыкусіў бы свой язык! Не даляцець табе да хмар! Загінеш ты! Кар-р! Кар-р! У. Д. 2. Знікнуць, перастаць існаваць; рус. исчезнуть. Але ўсё ж ткі не павінна Згінуць шчырая сябрына! У. Д.

**Задавальненне**, наз., н. р. ◘ Радасць ад поспеху, ажыццяўлення задуманага, ад завяршэння і выніку чаго-небудзь; рус. удовлетворение.
Ствараючы, дабро шукай, задавальненне знойдзеш ў працы. Прыдбае рупная рука для ўсіх карыснае багацце. У.Д.

**Задаволіць**, -лю, -ліш, -ліць, зак. ◘ Выканаць, ажыццявіць нечую просьбу, жаданне, патрабаванне; рус. удовлетворить.

**Задума**. ◘ 1. Тое, што задумана, намечана зрабіць; намеры, план. Здзяйсненне задумы заўсёды радуе, хвалюе. У. Дадз. 2. Асноўная думка, ідэя мастацкага твора; замысел. У байцы «Барона і чыж» ... няма ніводнай дэталі, якая не служыла б вырашэнню аўтарскай задумы — высмеяць пустую ганарыстасць і ліслівую ўгодлівасць. Я. К.

**Задуменне**, наз., н. р. ◘ Паглыбленне ў думкі, разважанні, роздум; задумлівасць; задуменнасць; рус. задумчивость.
Соль і Скаба ў задуменні: Ужо вада цурчыць, струменіць.
Мабыць, згінула дзе ў полі наша Перакаці-Поле!.. У. Д.

**Заекатаць**, заекачу, заякочаш, заякоча; зак. ◘ Пачаць азывацца гучным голасам, плачам; енчыць, екатаць. Заекаталі ведзьмы і скочылі абедзве ад нестрыманай злосці ўздагон за прыгажосцю. У. Д.

**Зажынкі**, наз., адз. няма. ◘ Пачатак жніва. Кажуць, як зерне разломіш у пальцах — Смела выходзь на зажынкі. М. Ар.

**Зазнаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Зведаць на ўласным вопыце; перажыць, адчуць. [Чалавек] даўно ўжо не быў хлапчуком і зазнаў у жыцці, што мужнасць і пяшчотнасць -родныя сестры. У. М.

**Зайздрасць**, наз., ж. р. ◘ Незадаволенасць, злосць і раздражненне, выкліканыя перавагамі, поспехамі і дабрабытам іншых; жаданне мець тое, што маюць іншыя; рус. зависть. Біблія папярэджвае ўсіх нас, што зайздрасць — грэх самы вялікі, большы за забойства, бо яна паступова, кропля за кропляй забівае радасць жыцця і разумение таго, што дадзена чалавеку. Зайздрасць напаўняе душу неўтаймоўным жаданнем зла іншым, каму дадзена тое, што не дадзена зайздросніку. I як не прымеш чалавека? А не прымі, то небяспека: Памысліць ён табе, брат, зла, — Не любіць зайздрасці пчапа [не пачастуеш мёдам -звядуцца пчолы]. К-с.

**Зайздроснік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, кім валодае пачуццё незадаволенасці, злосці і раздражнення, выкліканыя перавагамі, поспехамі і дабрабытам іншых; хто жадае мець тое, што маюць другія; зайздросны чалавек; рус. завистник. Зайздроснік, папярэджвае нас Біблія, — жывы труп, непахаваны нябожчык, які загубіў сваю душу неўтаймоўным жаданнем зла тым, каму дадзена тое, што яму не дадзена, і сам выпраменьвае толькі зло. Зайздроснік — гэта ваўкалак, папярэджвае многімі сваімі апавяданнямі і Ян Баршчэўскі.

**Займальны**, прым. ◘ Які выклікае цікавасць, забаўны; рус. занимательный. Займальны сюжэт аповесцей А. Федарэнкі для дзяцей.

**Закаханы**, прым. ◘ Які адчувае любоў, каханне да каго-небудзь; улюблёны; рус. влюбленный.

Як закаханыя людзі на час не зважаюць,
Так падарожныя календароў не чытаюць. Ар. К.

**Закілзаць**, -аю, -аеш, -ае-, зак. ◘ Укласці каню цуглі ў рот; зацугляць; рус. взнуздать, зауздать. Закілзаць каня, каб не панёс.

**Заклік**, наз., м. р., -у. ◘ І.Прызыўны кліч, гук; рус. призыв. Звярнуцца з заклікамі да народа. 2. Запрашэнне, просьба прыйсці, з'явіцца куды-небудзь. Пачула заклік! Дачакаў ён [хлопец] сваю радасць — Мілавіцу. Прыйшла з хмар сонцава дачка, каб з ім навекі

падружыцца. У. Д. 3. Прапанова або патрабаванне дзейнічаць, паводзіць сябе пэўным чынам.

Вітаю ўсіх сардэчна я. Падзяка вам усім мая
за тое, што на заклік мой прыйшлі такою грамадой. У. Д.

**Заклікаць**, заклічу, заклічаш, закліча; зак. ◘ 1. Паклікаць, запрасіць прыйсці куды-небудзь; рус. пригласить. Заклікаць у госці. 2. Прапанаваць прыняць удзел у нейкай важнай справе; запатрабаваць паводзіць сябе налбжным чынам; рус. призвать. Заклікаць .da парадку. □ Хочацца [Сымону] закпікаць людзей на вялікую новую працу. К-с.

**Заклікаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. да заклікаць; рус. приглашать, призывать.

□ З нябесных, сініх тых палёў ён заклікаць пачаў дзяўчыну,
прасіць яе, каб з ім дамоў пайшла у родную краіну. У. Д.

**Заклінаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Імкнуцца падпарадкаваць каго-небудзь, што-небудзь сілай чараў, малітваў. Вышываючы сыну кашулю, матуля заклінала яе ад куляў. 2. Горача прасіць, маліць аб нечым. — Бацькам заклінаю — не выходзь! — крычала старая. П. М-о. 3. Моцна лаяць, праклінаць. Заклінаць вайну.

**Закляцце**, наз., н. р. ◘ Уст. 1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. Заклінаць; заклінанне.

Мая дарагая матуля, Прывет і паклон мой табе,
Тваё я закляцце ад кулі Заўсёды нашу пры сабе. А. А.

2. Клятва, абяцанне, зарок.

На гэтых завушніцах Усё, што не сказаў ёй,
Я напісаў закляцце - А ў чым хацеў прызнацца. М. Т.

**Закраса**, наз., ж. р. ◘ Тое, што дабаўляюць у ежу для лепшага смаку, паху; прыправа; рус. заправка. Мядок быў хітра дзесь заперты, — Цяпер яго насталі часы, Бо ён патрэбен для закрасы, І што кісель той без сыты У вечарок гэты святы? К-с.

**Закрасаваць**, -сую, -суеш, -суе; зак. ◘ Пачаць цвісці, пышна развівацца, квітнець.

Кідае Сонца кветкі з неба, яны лятуць на нашу глебу.
У нашых пушчах, на ўзгорках закрасавалі кветкі-зоркі. У. Д.

**Закульгаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Пайсці, ісці, нясмела прыступаючы на карацейшую ці балючую нагу; рус. захромать. 2. перан. Перастаць дзейнічаць, разумець правільна; не ўстаяць перад нейкай спакусай, выпрабаваннем.

У найлепшым самым зале стол накрылі абрусамі. І на стол... І піць, і есці, — што твая душа прымае. Ад такой вялікай чэсці самы мудры закульгае. У. Д.

**Закутак**, наз., м. р., -тка. ◘ 1. Цёмны, цесны вугал, куток. непатрэбных рэчаў трэба пазбаўляцца, а не трымаць іх у закутку. 2. перан. Глухое, аддаленае ад культурных цэнтраў месца; рус. захолустье. Пасля Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Колас працаваў у закутках на Палессі.

**Залатар**, наз., м. р., -а. ◘ Майстар па вырабе розных рэчаў з золата; ювелір. З граматы 1499 г. нам вядома, што ў гэты час сярод рамеснікаў Мінска было шмат залатароў. «Беларусь».

**Залева**, наз., ж. р. ◘ Заліўны дождж; лівень.
Тут якраз і дождж паліўся. Ды які там дождж! — залева хлабыстала справа, злева. На паўнеба — бліскавіцы. Перуны такія, быццам сапраўды канец быў свету. У. Д.

**Залетась**, прысл. ◘ Два гады назад; пазалетась; рус. в позапрошлом году. І вясна прыйшла. Такая самая, як летась, як залётась, як кожны год. Я. С.

**Залёты**, наз., адз. няма. ◘ Імкненне выклікаць увагу і прыхільнасць жанчыны, заляцанне; рус. ухаживание. Панна Людміла мае столькі кавалераў, што ў мяне і адвагі няма рабіць да яе залёты. К-с.

**Заложна**, прысл. Абл. ◘ Настойліва, упарта, бесперапынна; рус. усердно, рьяно.
Антось заложна і цярпліва У землю ўкладваў свае сілы. К-с.

**Залоўка**, наз., ж. р., ДМ -лоўцы. ◘ Мужава сястра; залвіца. На Супруновых дочак ніхто ніколі дрэннага не скажа, хай сабе гэта будзе свякроў, свёкар, дзевер, залоўка ці ятроўка, ці чужы чалавек. Я. Е.

**Замардаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; зак. ◘ 1. Змучыць, знясіліць цяжкай працай, жорсткім абыходжаннем; змардаваць; рус. изнурить, измотать. 2. Катаваннямі давесці да смерці, замучыць. У сталінскіх гулагах замардавалі многа народу.

**Замацаваць**, -цую, -цуеш, -цуе; зак. ◘ 1. Зрабіць нешта нерухомым, устойлівым, прыбіўшы, прывязаўшы, заціснуўшы і пад.; рус. закрепить. Замацаваць канат. 2. Зрабіць пастаянным, трывалым; зафіксаваць. Замацаваць веды. Выпадак замацаваў сяброўства. Замацаваць фотаздымак.

**Замежны**, прым. ◘ Які знаходзіцца за мяжой; іншаземны, зарубежны; які адносіцца да іншай краіны; рус. иностранный. Вывучэнне замежных моў узбагачае чалавека і спрыяе паразуменню і міру паміж людзьмі.

**Замінаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Перашкаджаць, быць перашкодай нечаму, некаму; рус. мешать, быть помехой. Дзень быў святы.

Яшчэ ад рання Блінцы пякліся на сняданне, І ўжо пры печы з чапялою Стаяла маці... Пад рукою Таўкліся дзеці, замінаалі Або смяяліся, спявалі. К-с.

**Замовіць**[1], замоўлю, замовіш, замовіць; зак. ◘ Зачараваць, аказаць уздзеянне магічнымі словамі, замовай; рус. заговорить. Гэта — грошы закпятыя, Іх замовіў чараўнік. К-с.

**Замовіць**[2], замоўлю, замовіш, замовіць; зак. Разм. ◘ У выразе закінуць слова. Пахадайнічаць за некага, аказаць падтрымку. Замовіць слова за сірату.

**Замежны**, прым. ◘ Матэрыяльна добра забяспечаны; багаты; рус. зажиточный.

Яшчэ счакаўшы з паўгадзіны, Язэп прыехаў з Караліны. Жыхар заможны і выдатны, Ва ўсім прыкладны, акуратны — !ў гаспадарцы, і ў банкеце, — У паноў быў нават на прымеце. К-с.

**Замоўкнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ Спыніць гаворку, спевы, крык; перастаць гучаць, раздавацца (пра гукі); рус. замолчать. І Жаба плюнула-такі, аж сліна пырснула ў бакі. Замоўклі джунглі. Гоман сціх. Кроў зледзянела ў іх [звяроў] усіх. У. Д.

**Замуж**. ◘ 1. прысл. У выразах: пайсці (выйсці, зайсці) замуж. Стаць чыёй-небудзь жонкай. Выйсці замуж — не напасць, каб толькі замужам не прапасць. З нар. -А якім рамяством уладае ўладар? Ён жа нават не здольны хадзіць ля кашар. За таго выйду замуж, хто ведае сам, А не толькі з чужога жыве рамяства. У. Д. 2. у знач. наз. замуж, м. р., -а.

**Замужжа**, шлюб. Няўдалы замуж — няшчасце для жанчыны.

**Замчышча**, наз. н. р. ◘ Месца, дзе стаяў замак. На вялікім замчышчы... узвышаюцца дзве напаўразбураныя высокія вежы, ад якіх дыхае сівой мінуўшчынай. С. А.

**Замшэлы і заімшэлы**, прым. ◘ Аброслы, пакрыты мохам. Уззянні песцяцца бярозы... І роняць сокі — шчасця слёзы — На заімшэлыя камлі. К-с.

**Замысліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Задумаць, надумаць. Антось наш дбалы, акуратны, А пры рабоце як здатны! Што ні замысліць, то ўсё зробіць... К-с.

**Занадта**, прысп. ◘ Задужа, залішне, празмерна; рус. слишком, чересчур.

Адказ ад птушак быў такі: — Занадта шлях для нас цяжкі! Не паляцім далека так! У. Д.

**Занатаваць**, -тую, -туеш, -туе; зак. ◘ Запісаць нешта для памяці, зрабіць нататку; адзначыць у памяці.

Там зярняты залатыя, а дзівосныя якія!

Казкі ў іх занатаваны ды ў куфэрак і сабраны. У. Д.

**Занудзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; зак. ◘ Засумаваць, замаркоціцца; рус. затосковать.

Занудзіўся небарака, Замаркотнела чало,
І не вытрымаў, заппакаў, Што няшчасце прыплыло. П. Б.

**Заняволіць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Пазбавіць волі, незалежнасці; падпарадкаваць сваёй уладзе; рус. поработить. Ніколі, мой народзе, ты не схіляў галавы перад тым, хто імкнуўся заняволіць цябе. К-а.

**Занядбаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Пакінуць нешта, некага без догляду, увагі; рус. запустить, забросить. Занядбаць справу.

**Занядужаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Адчуць сябе хворым, нядужым, захварэць; рус. занемочь. Занядужаў бацька і паклікаў да сябе трох сваіх сыноў, прапанаваў ім спачатку пераламаць венік, а потым развязаць яго і пераламаць па прутку... Паводле нар.

**Заняпад**, наз., м. р., -у. ◘ Збядненне; упадак; рус. разорение; расстройство. Заняпад эканомікі. Заняпад культуры.

**Занятак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Тое, чым нехта займаецца; праца, справа; рус. занятие. У сям'і кожны меў свой занятак. 2. толькі мн. (заняткі). Вучэбныя практыкаванні, урокі, лекцыі. Заняткі ў школе пачынаюцца а дзевятай гадзіне.

**Запаведзь**, наз., ж. р. ◘ 1. Выслоўе, у якім сфармулявана рэлігійна-маральнае прадпісанне, законы вечнасці і жыцця. У Бібліі расказваецца, як Бог зышоў на зямлю і даў Маісею скрыжалі — дзве каменныя дошкі. На скрыжалях Божай рукою былі запісаны дзесяць запаведзяў. Гэта найважнейшыя правілы, як жыць чалавеку. □ Нібы дзве далоні з дзесяццю пальцамі, працягнутыя да нас у вітанні... Дзве скрыжалі з дзесяццю запаведзямі, як дзве далоні тваёй рукі. І кожную з іх трэба ведаць як свае пяць пальцаў. З. Ж. 2. перан. Строга абавязковае правіла паводзін, патрабаванне. Першая запаведзь Гіпакрата ўрачу — не нашкодзь!

**Запаведны**, прым. ◘ Які знаходзіцца пад аховай; недатыкальны. Белавежская пушча -запаведная мясціна.

**Запавет**, наз., м. р., -у. ◘ Наказ, дадзены некім патомкам, паслядоўнікам; рус. завет. Продкі пакінулі нам запавет — берагчы родную зямлю як зрэнку вока.

**Запаветны**, прым. ◘ 1. Самы дарагі, блізкі сэрцу, любімы, выдатны, жаданы; рус. заветный. Запаветная мара. □ Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны, Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты. Там зязюлямі завуцца ўсе кукушкі, Гэтым краем з Кішынёва ехаў Пушкін. П. П. 2. Атрыманы ў спадчыну ад мінулых пакаленняў;

старадаўні. Запавётны звычай — будаваць хату талакой і дапамагаць таму, хто ў горы.

**Запалка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Тонкая драўляная палачка з легка загаральнай галоўкай для здабывання агню; рус. спичка. Запалкі — не забаўка. Запалка малая, ды бяда ад яе можа быць вялікая.

**Запальнічка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Кішэнная машынка для здабывання агню; запальніца; рус. зажигалка. Газавая запальнічка. Пстрыкнуць запальнічкай.

**Запамятаваць**, -тую, -туеш, -туе; зак. ◘ Забыць. Чытаючы кнігу, запамятавала Адэля, што ўжо позна.

**Запамятаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Запомніць. На пытанне фарысея, як можна запамятаць безліч правілаў і законаў жыцця, Гасподзь адказаў, што трэба запамятаць і выконваць толькі два: палюбіць Бога свайго ўсім сэрцам і ўсёй душой і палюбіць бліжняга свайго, як самога сябе, — а ўсе астатнія будуць з іх вынікаць.

**Запанаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; зак. ◘ 1. Устанавіць сваю ўладу, сваё панаванне. Небяспечным і трагічным для людзей з'яўляецца такое становішча, у якім запанавалі зладзеі і прайдзісветы. 2. Пачаць панскае, бяздзейнае жыццё. Запанавалі ў сваіх харомах. II перан. Зажыць заможна і шчасліва.

Станем самі мы людзьмі І край адбудуем. К-а.

Хутка ён заплюшчыў вочы, на абрус схіліў чупрыну. У. Д.

Блізка той дзянёк, калі Шчасна запануем, 3. Настаць, устанавіцца. Запанавала цішыня.

**Заплюшчыць**, -шчу, -шчыш, -шчыць; зак. ◘ Прыкрыць павекамі, зажмурыць (вочы); рус. закрыть (глаза). А не спаўжа ён [Сымон] уночы ні адной амаль хвіліны.

**Запрасіць**, запра**шу**, запросіш, запросіць; зак. ◘ Папрасіць прыйсці, прыехаць куды-небудзь; прапанаваць зрабіць што-небудзь; рус. пригласить.

Запрасіў ён [пан] хлопца ў госці, пасадзіў яго ў карэту. Так Сымона з ягамосцем шасцярык павёз адгэтуль. У. Д.

**Запрашаць,** -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Прасіць прыйсці, прыехаць, з'явіцца куды-небудзь; рус. приглашать.

яна запрашае, вітае, частуе. У. Д.

Прайшоўшы далей, напаткаў ён [хлопец] старую, 2. Прапаноўваць каму-небудзь зрабіць нешта. / стол тым часам накрываюць, Гасцей шумлівых запрашаюць, Садзяцца госці, ды не зразу, За стол не лезуць для паказу, Бо так шляхетнасць вымагае. К-с.

**Запусценне**, наз., н. р. ◘ Закінутасць, запушчанасць, недагледжанасць, заняпад, непарадак.

Прыгрэбнік, хата — ўсё дачыста Казала ясна, галасіста Аб непарадку, запусценні, Аб гаспадарскім нерадзенні. К-с.

**Запэўніць**, -ню, -ніш, -ніць; зак. ◘ Пераканаць некага ў правільнасці нечага; прымусіць паверыць; паручыцца за нешта; заверыць; рус. уверить. Некаторыя імкнуцца запэўніць іншых у тым, у чым тыя даўно ўпэўнены і самі.

**Зараз**, прысл. ◘ У гэты час, цяпер; зусім нядаўна; у самым хуткім часе, хутка.

Ціха, дзеці, калі ласка,
раскажу вам зараз казку. У. Д.

**Зараз**, прысл. ◘ Адразу, за адзін раз, адначасова; рус. разом.

Богут ветлівым паклонам
Гасцей вітае дарагіх
І раскрывав сваё лона,
Каб прытуліць зараз двaіх. К-с.

**Заранiца**, наз., ж. р. Паэт. ◘ Ранішняя або вячэрняя зорка; увогуле зорка; заранка.

Бачыць — човен на рацэ там. Залатым вядзе вясельцам
гэны човен Мілавіца, а сама як заранiца. У. Д.

**Зарунець**, -ее; зак. ◘ Узышоўшы, зазелянець (пра пасевы, звычайна азімыя).

Красавік прыйшоў. Палі Сонейка прыгрэла,
І на леташняй раллі Жыта зарунела. С. Г.

**Заручыны**, наз., адз. няма. ◘ Абрад аб'яўлення каго-небудзь жаніхом і нявестай; змовіны. Спраўляюцца заручыны Вясельніцы засмучанай З вясёлым жаніхом. К-а.

**Заскавытаць**, -вычу, -вычаш, -выча; зак. ◘ Пачаць жаласна павіскваць, ціха выць (пра сабаку і пад.); рус. заскулить.

Тыгр не сніў ва сне ніколі, каб яго хлапчук адолеў. Ён завыў, заскавытаў тут, нарабіў такога гвалту, што да хмар ляцела рэха. Буйвал аж папоўз ад смеху. У. Д.

**Засмактаць**, засмокча; зак. ◘ Уцягнуць, увабраць у сябе (пра багну, пясок); рус. засосать.

Аж па грудзі мяне засмактала балота.
Усё ж ткі паразумнеў я пасля тых палётаў! У. Д.

// перан. Уцягнуць у сваё асяроддзе, узяць пад сваю ўладу. Ніколі нельга нават і спрабаваць наркотыкі, бо аднаго толькі разу дастаткова, каб гэта чума знішчыла, гэта багна засмактала любога чалавека.

**Засценак**[1], наз., м. р., -нка. ◘ Жандарскія, фашысцкія і пад. Установы, дзе праводзяцца допыты арыштаваных. Маці гэтых дзяцей

была падпольшчыцай і загінула ў фашысцкіх засценках смерцю гераіні. А. Кул.

**Засценак**[2], наз., м. р., -нка. ◘ Хутар або невялікае паселішча дробнай шляхты, якая арандавала гэтыя землі.

Ідзе Міхал, прад ім сяліба,
Засценак добра так знаёмы,
І хоць няважныя харомы
Тут гэта шляхта збудавала,
Але жыве і гора мала! К-с.

**Засцерагчы**, -рагу, -ражэш, -ражэ; -ражом, -ражацё; зак. ◘ Загадзя прыняць меры, каб ахаваць некага ад бяды, небяспекі; рус. уберечь.

Цябе ў жыцці засцерагу Ад небяспек неспадзяваных. В. М.

**Засяроджаны**. 1, дзеепрым. ад засяродзіць. ◘ 2. прым. Накіраваны, звернуты поўнасцю на нешта адно, што захапляе цалкам; рус. сосредоточенный. Засяроджаны погляд. 3. Цалкам паглыблены ў свае думкі, справу. Засяроджаны выгляд.

**Затрымаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ І.Спыніць ход, рост, развіццё нечага, перашкодзіць нечаму; рус. задержать. Халады затрымалі рост яравых. 2. Не зрабіць, не аддаць у тэрмін. Затрымаць пуск атамнай электрастанцыі. Затрымаць зарплату. 3. Узяць пад варту. Затрымаць парушальніка мяжы.

**Затуліць**, -тулю, -туліш, -туліць; зак. ◘ Закрыць, засланіць нечым. Затуліць ад ветру. Затуліць ад бяды.

**Затым**, прысл. ◘ 1. Пасля гэтага, потым; рус. потом, затем. Опечатку папрацуй, затым патанцуй. З нар. 2. Уст. Таму, з гэтай (той) прычыны.

У кожнай муж быў, так сказаць, вяльможа, затым пра хлеб іх клопат не трывожыў. У. Д.

**Заўвага**, наз., ж. р., ДМ заўвазе. ◘ 1. Кароткае выказванне, меркаванне наконт нечага; рус. замечание. Слушныя заўвагі рэцэнзента. 2. Указание на памылку ці недахоп, часта з папрокам, павучаннем; вымова. Настаўнік зрабіў вучню заўвагу. 3. Дадатковае тлумачэнне да тэксту; рус. примечание.

**Заўважыць**, -жу, -жыш, -жыць; зак. ◘ Убачыць, адчуць, пачуць; разгледзець, падмеціць; рус. заметить.

Толькі ўзяць хацела ў рот, як яе заўважыў кот. У. Д.

Мышка з норкі — нюх-нюх-нюх, да гарошынкі трух-трух.

**Заўжды**, прысл. ◘ Заўсёды; рус. всегда. Ні скарынкі, ні зярнятак для маленькіх мышанятак нельга больш здабыць у хаце, бо заўжды там кот на варце. У. Д.

**Заўзяты**, прым. ◘ 1. Які пастаянна і з захапленнем займаецца чымнебудзь; рус. рьяный; усердный. Заўзяты паляўнічы. 2. Напорысты, упарты.

Яму [Уладзю] ты слова — ён другое, Заўзята юха, хоць малое. І дзядзька часам загарыцца, Гатоў няўслушніку па пысцы Праехаць шорсткім сваім пальцам, Бо што ты зробіш з падшывальцам? К-с.

**Заўсёды**, прысл. ◘ Кожны раз, у любы час, пастаянна; заўжды; рус. всегда.

Хоць вядома: не заўсёды<br>ёсць карысць з найлепшай згоды. У. Д.

**Заўтра**, прысл. ◘ 1. На наступны дзень пасля сённяшняга. Сядзем цяпер павячэраем, mama, што будзе заўтра — дазнаемся заўтра. У. Д. Сёння зробіш — заутра як знойдзеш. Прык. 2. у знач. наз., нязм. Наступны дзень за сягонняшнім, наогул будучыня. Мы тварылі ўсе ўпарта наша сонечнае Заутра, казкі ўсе пературывалі на сапраўднасць мы, на былі. У. Д.

**Заўчасны**, прым. ◘ Які адбыўся раней вызначанага часу, раней, чым трэба; рус. преждевременный. Заўчасная смерць.

**Заўчора**, прысл. ◘ Два дні таму назад; рус. позавчера.

**Захаваны і захованы**. 1. дзеепрым. ад захаваць. ◘ 2. у знач. прым. Збераджоны цэлым, не змененым, не сапсаваным; рус. Сохраненный. Захаваныя традыцыі. Захаваныя святыні. 3. Тайны, скрыты.

Сапраўды, у кожным слове [назве]<br>захаваны сэнс глыбокі.<br>Калі глянеш адмысловей<br>ды пакруціш ва ўсе бокі,<br>дык пачуеш пра такое,<br>што аж млосна ў сэрцы стане. У. Д.

**Захад**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Адзін з чатырох напрамкаў свету, процілеглы ўсходу; рус. запад. Неба на захадзе было пакрыта агромністай цёмнай хмарай. М. Л. 2. Апусканне неба за лінію гарызонту; частка гарызонту, дзе заходзіць сонца; рус. закат.

Сонца стала над ракою. Захад — хоць дастань рукою.<br>А старэйшыя братове ўжо стаяць напагатове. У. Д.

**Захапіць**, захаплю, захопіш, захопіць; зак. ◘ 1. Узяць, прыхапіць з сабою; рус. захватить. Захапіць заадно і папку з паперамі. 2. Узяць, авалодаць сілай; пазбавіць волі. Захапіць уладу.

Мяне вораг не захопіць, неба роднае паможа!.. У. Д.

□ Вось адзін знайшоўся хлопец: — Я прайду праз стан варожы! 3. перан. Вельмі зацікавіць, прымусіць аддацца поўнасцю нейкай справе. Праца ў школе захапіла мападога настаўніка. К-с.

**Захапленне**, наз., ння. ◘ 1. Незвычайны ўздым пачуццяў, найвышэйшае задавальненне чым-небудзь; рус. восхищение. Знямець ад захаппення. 2. Усхваляванасць, запал, натхненне; рус. вдохновение. 3. Павышаны інтарэс да чаго-небудзь; любімы занятак; рус. увлечение. 4. Улюбёнасць у некага. Новае захапленне здавалася мацнейшым, чым папярэдняе.

**Захворванне**, наз., н. р. ◘ Узнікненне хваробы; хвароба; рус. заболевание. Намнога лягчэй папярэдзіць захворванне,'чым потым лячыць яго.

**Захінуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Закінуць адно крысо на другое, край адзежыны на другі; рус. запахнуть. 2. Закруціць, загарнуць нешта, некага з усіх бакоў; рус. завернуть, закутать. Захінуць дзіця ў коўдру. 3. Пасунуўшы, закрыць нешта; рус. задёрнуть. Захінуць занавеску.

**Зацірка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Рэдкая страва з дробных мучных камячкоў, згатаваных на вадзе або малацэ.

...З гэтага часу дзеда старога больш не саджалі каля парога. У. Д.

-Як пастарэеце з татам абое, вас не прыму я есці з сабою. Каля карыта вас пасаджаю, поснай заціркі паналіваю...

**Зацугляць**, -яю, -яеш, -яе; зак. ◘ Тое, што і закілзаць.

**Зацюканы**, у знач. прым. ◘ Запалоханы, забіты, затуканы, прыніжаны; рус. задёрганный, затурканный. Зацюканы чалавек усяго баіцца і перастае верыць у свае сілы.

**Зачараваны**. 1. дзеепрым. ад зачараваць. ◘ 2. у знач. прым. Які знаходзіцца пад уздзеяннем чараў; заварожаны; рус. заколдованный. Зачараванае царства. II Захоплены, паланёны нечым. Мінчшына, Міншчына мілая, Я зачарован табой. В. Ш.

**Зачараваць**, -рую, -руеш, -руе; зак. ◘ Уздзейнічаць чарамі, магічнымі словамі; заваражыць; рус. заколдовать.

Ой, трыпутнічак, трыпутнік!.. Зелле-зеллейка жывое!..

Ты цвіцеш ды пры дарогах, — Зачаруй майго мілога!.. П. Т.

II перан. Падпарадкаваць, паланіць, прывабіць. Тонкая, чарнявая, з касою — Пра такіх Кабзар пісаў не раз, — Светлаю дзявочаю красою Ты тады зачаравала нас. П. П.

**Зашкліць**, -лю, -ліш, -ляць. зак. ◘ Уставіць шкло, шыбу ў раму; рус. застеклить. Зашкліць веранду.

**Зашмальцаваць**, -цую, -цуеш, -цуе; зак. ◘ Запэцкаць да бляску, працягла або неахайна карыстаючыся; рус. замусолить. Зашмальцаваць камбінезон.

**Зашпіліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Змацаваць край адзення пры дапамозе гузікаў, кнопак, шпілек; злучыць часткі засцежкі; рус. застегнуть. Зашпіліць каўнер. Зашпіліць бранзалёт.

**Заява**, наз., ж. р. ◘ 1. Пісьмовая просьба, складзеная ва ўстаноўленай форме. Падаць заяву ва універсітэт. 2. Чыё-небудзь паведамленне, звычайна катэгарычнае, рашучае. Выступіць з заявай пра неабходнасць барацьбы з тэрарызмам.

**Заядла**, прысл. Разм. ◘ Заўзята; упарта, напорыста; зацята.

...А дзеці іх даўно сачылі І на ляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі іх здорам, Стаяў асобна ў місцы скорам... К-с.

**Збан**, наз., м. р., -а. ◘ Высокая гліняная пасудзіна, якая звужваецца ўверсе і мае звычайна ручку і носік. Да пары збан ваду носіць: вушка адарвецца і збан паб'ецца. Прык. (рус. Сколько веревочке ни виться, а конец будет).

**Збанок**, наз., м. р., збанка. ◘ Невялікі збан. Вады набраўся да краёў збанок і за сабою Ліску павалок... Ой Ліска! Якжа, сапраўды, настрашыла яна збанок тады! У. Д.

**Збіцень**, наз., м. р., збітню. ◘ 1. Уст. Гарачы напітак, які гатаваўся з вады, мёду і вострых прыпраў. 2. Пра густую масу, збітую, скалочаную з чаго-небудзь. Збіць збіцень.

**Зблажэлы**, прым. ◘ Схуднелы, змарнелы; рус. исхудалый. Зблажэлы пасля хваробы.

**Зблытаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Пераплесці ў беспарадку; парушыць парадак; рус. перепутать. Зблытаць ніткі. Зблытаць лісты рукапісу. 2. Памылкова прыняць адно за другое; пераблытаць. Нічога, калі нават кортыеў орган зблытаеш з гордзіевым вузлом. Хоць блытаць іх і не варта наогул... Ды грэшна блытать дабро са злом, як кажуць, Божы дар з яешняй. Такое -нясмешна... А. В.

**Збожжа**, наз., н.р. ◘ І.Агульная назва ўсіх хлебных злакавых раслін; збажына.

А калі паспее збожжа, тут сярпамі не паможаш. Ходзяць волаты-машыны, жнуць, малоцяць, возяць імі... У. Д. 2. Зерне, насенне гэтых раслін.

[Ліса:] — Усё ж ткі проса малавата! На траіх дзяліць не варта! Аддамо таму ўсё збожжа, хто дабегчы першым зможа да тарпы праз нашы гоні. Адным словам, — хто абгоніць! У. Д.

**Збольшага**, прысл. Разм. ◘ 1.У асноўным, у галоўных рысах. Збольшага расказаў пра ўсё. 2. Часткова, не ў поўную меру. Збольшага паўтарыў увесь матэрыял.

**Зброя**, наз.,.ж. р. ◘ 1. Прылада, рэч для абароны ці нападу; рус. оружие. Агнястрэльная зброя. Кап'ё, меч, шабля, штык — халодная

зброя для рукапашнага бою. Ядзерная зброя. 2. Сродак, спосаб для дасягнення чаго-небудзь. Адказалі і звяры ўсе: — Марна ты заганарыўся!

Хоць ты дужы, хоць ты хітры, — людзі ўсё ж дужэй, чым тыгры! На твае усе пагрозы людзі маюць зброю — розум. У. Д.

♦ Бразгаць зброяй (рус. бряцать оружием) — пагражаць вайною.

♦ Скласці зброю (рус. сложить оружие) — спыніць супраціўленне; здацца; адмовіцца ад барацьбы.

♦ Узняць зброю (рус. поднять оружие) — пачаць вайну.

**Збянтэжыць**, -жу, -жыш, -жыць; зак. ◘ Выклікаць у каго-небудзь замяшанне, разгубленасць; збіць з панталыку; рус. обескуражить, смутить. Падрыхтаванага вучня складанае пытанне не збянтэжыць.

**Звадка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ Сварка; рус. ссора, склока. Звадкі руйнуюць адносіны паміж людзьмі і да дабра не прыводзяць.

**Зважыць**[1], -жу, -жыш, -жыць; зак. ◘ Вызначыць вагу некага, нечага з дапамогай вагаў; узважыць; рус. взвесить. Зважыць цукар.

**Зважыць**[2], -жу, -жыш, -жыць; зак. ◘ Зрабіць уступку каму-небудзь; уважыць. Умей зважыць старэйшаму.

**Званіца**, наз., ж. р. ◘ Вежа для званоў над будынкам царквы або пры царкве; рус. колокольня. Даўней ударам самага большага звона на царкоўнай званіцы званары апавяшчалі пра пажар, небяспеку, склікалі на сход.

**Зварот**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Вяртанне адкуль-небудзь назад, на ранейшае месца; рус. возвращение. Зварот на радзіму. 2. Просьба, заклік, выступление, накіраваныя да каго-небудзь; рус. обращение. Штогадавы зварот Прэзідэнта да беларускага народа.

**Зварухнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Прывесці ў лёгкі рух; скалыхнуць; рус. шевельнуть. І як вокам азірнуць — Збожжа, збожжа, збожжа. Нават вецер зварухнуць Каласы не можа. С.Г. 2. перан. Заклікаць да дзеяння; рус. расшевелить. Папрацавалі мы нямала, Каб зварухнуць народ. Бітэль.

**Зваяваць**, зваюю, зваюеш, зваюе; зак. ◘ 1. Перамапны, асіліць у барацьбе; рус. поработить.

Тут сходзіліся плямёны Спрэчкі сілаю канчаць, Каб багата адароны Мілы край наш зваяваць. К-с

2. перан. Асіліць нешта, пазбавіцца ад нечага; рус. победить. Цяжкіх дум, горкіх дум Зваяваць не магу. К-а.

**Зведаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Спазнаць на ўласным вопыце, перажыць; рус. испытать. Хто зведаў вайну, праклінае яе і даражыць мірам.

**Звесткі,** наз., адз. звёстка., ж. р. ◘ Паведамленне пра нешта, некага; рус. сведения. Сувязныя прыносілі звесткі партызанам.

**Звечара**, прысл. ◘ Вечарам, да надыходу ночы. Усе свае рэчы ў школу лепш падрыхтаваць звечара.

**Звод**[1], наз., м. р., -у. ◘ Выміранне, знікненне каго-небудзь, чаго-небудзь. Каб нашаму роду не было зводу. З нар.

**Звод**[2], наз., м. р., -у. ◘ Перакрыццё, што злучае сцены, апоры якога-небудзь збудавання; скляпенне. Звод аркі. □ Цяпер агледзець можна печ, як ляльку, Усе карнізы, нішы, под і звод, І той пяколак, дзе шукаць запалку. Пысін.

**Звонку**, прысл. ◘ Са знешняга боку; рус. снаружи. Памыць вокны звонку.

**Звыклы**, прым. ◘ 1. Які стаў прывычкай; рус. привычный. Машыніст звыклым рухам левай рукі пасунуў крыху рэгулятар. // Добра знаёмы, прывычны. Адны любяць выконваць звыклую работу, другія — спрабаваць сябе ў нечым новым.. 2. Які звыкся з нечым, набыў прывычку рабіць нешта; рус. приученный. Звыклыя да парадку і дысцыпліны дзеці менш стампяюцца, лепш вучацца.

**Звычай**, наз., м. р., -ю. ◘ Парадак, правіла, якое здаўна ўкаранілася ў жыцці народа або пэўнай групы людзей; рус. обычай. Спрадвечны звычай нашага народа — шанаваць хлеб, бо гэта здабыты працай цудоўны дар, які забяспечвае жыццё. □ Што ні край, то свой звычай. Прык. (рус. Что город, то и норов, что деревня, то обычай).

**Звычайны**, прым. ◘ 1. Які заўсёды бывае; пастаянны, прывычны, рус. обычный. Ісці звычайным крокам. 2. Які не вылучаецца сярод іншых, нічым не знамянальны; рус. обыкновенный. Быў звычайны будзённы дзень, і ніштo не прадказвала ніякіх прыгод. Кожны звычайны чалавек імкнецца мець дах над галавой, працу, добрую сям'ю.

**Звяга**, наз., ж-, р. ◘ 1. Надакучлівыя прыставанні з напамінамі, патрабаваннямі, прэтэнзіямі. — І не сабака страшан воўку, Калі прыйшлося сказаць к слоўку, Мой пане-браце, мой Марцяга, А непрыемна яго звяга! К-с. 2. Надакучлівы брэх (сабакі). Воўк сабакі не баіцца, але і звягі не любіць. Прык.

**Звярнуцца**, звярнуся, звернешся, звернецца; зак. ◘ 1. Накіраваць сваю дзейнасць на нешта, узяцца за нешта; рус. обратиться. Багаты вопыт у галіне сатыры дазволіў К. Крапіве звярнуцца да сатырычнай камедыі. 2. Адрасаваць некаму свае словы, просьбу. К. Каліноўскі звярнуўся з заклікам да народа падтрымаць

паўстанне супраць царскага самаўладства і нацыянальнага рабства.

**Звярынец**, наз., м. р., -нца. ◘ Спецыяльна абсталяванае памяшканне, прыстасаванае месца, дзе трымаюць дзікіх жывёл для паказу. І сам звярынец быў цікавы: Высокі, зложаны з бярвення І такі моцны — на здзіўленне! Каб воўк да коз не мог дабрацца Ні праз той верх, ні падкапацца... К-с.

**Звястун**, наз., м. р., звестуна. ◘ Той, хто прыносіць вестку, вястун; рус. вестник.

У высь з галубятні ўзняўся Крылаты звястун-паштальён. М. Т.

**Згадаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ І.Успомніць, прыгадаць. Згадаць самыя шчаслівыя хвіліны жыцця — дапамагчы сабе ў выпрабаваннях. 2. Угадаць, прадбачыць; рус. предвидеть; разгадать. Згадаць намеры саперніка.

**Згарнуць**, згарну, згорнеш, згорне; зак. ◘ 1. Скласці што-небудзь, загінаючы краі; рус. сложить. Акуратна згарнуць адзенне.

2. Зграбаючы, сабраць у адно месца; рус. сгрести. Згарнуць збожжа ў кучу.

**Згінуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Знікнуць, прапасці. Згінуў сабака. // Загінуць, памерці. Лепей згінуць у змаганні, чым жыць у няволі.

**Згода**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Станоўчы адказ, дазвол на нешта; рус. согласие. Даць згоду. 2. Узаемная дамоўленасць; дагавор. Князі тым часам між сабою Праз пасланцоў перагаворы Вядуць, каб справу скончыць згодай. Бітэль. 3. Мірныя, сяброўскія адносіны. Згода будуе, нязгода руйнуе. Прык. Няхай жа будзе між намі згода, Дружба, людзі, ад веку ў век. А. Б.

**Зграбны**, прым. ◘ Прапарцыянальна і прыгожа складзены; спрытны; рус. стройный, ловкий. Высокая, зграбная дзяўчына. Зграбныя рухі. // Зроблены з мастацкім густам; рус. изящный. Зграбны маёнтак. Зграбная статуэтка.

**Зграя**, наз., ж. р. ◘ 1. Група сабак, ваўкоў; рус. свора. Ваўкі палююць зграямі на ласёў, аленяў і казуль. В. В-і. 2. Банда, шайка. Зладзейская зграя канец свой знайшла. У. Д.

**Згуба**, наз., ж. р. ◘ 1. Смерць, гібель. Зберагчы ад згубы. □ Не баяцца болей згубы тут звяры, Пахавапі льва пад дубам ля гары. Шушк.

2. Знішчэнне.

Лес хаваў не раз мяне ад смерці, Я яго ад згубы сцерагу. Я. Н.

3. Тое, што з'яўляецца прычынай гібелі або няшчасця. Многія пісьменнікі сваімі творамі б'юць у званы, што наркотыкі — гэта чума, гэта згуба.

**Згубіць**, згублю, згубіш, згубіць; зак. ◘ 1. Зак. да губляць; рус. потерять. 2. Зак. да губіць; рус. погубить.

Там згадаецца ўсё чыста: і спатканні, і разлукі, галасоў любімых гукі... Маціродная і вёска... Бацяноў на хаце лёскат... Тое усё, што сэрцу міла, што яно даўно згубіла... У. Д.

**Згуртаваны**, 1. дзеепрым. ад згуртаваць. ◘ 2. у знач. прым. Аб'яднаны ў гурт; дружны; рус. сплоченный. Згуртаваны калектыў.

**Згуртаваць**, -тую, -туеш, -туе; зак. ◘ 1. Аб'яднаць у гурт, супольнасць; рус. объединить. Бяда згуртавала людзей. 2. перан. Аб'яднаць нечыя дзеянні, памкненні. Юнак валодаў дарам згуртаваць вакол сябе моладзь на карысныя справы.

**Здабытак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Маёмасць, уласнасць; рус. достояние. Здабытак вынішчаны пажарам. 2. Здабытая рэч, прадмет, грошы; рус. приобретение.

[Сын:] — Свой здабытак, адным словам, даў увесь ім [сіротам] на карову. У. Д.

**Здабыча**, наз., ж. р. ◘ 1.Тое, што атрымана, дасягнута намаганнямі; рус. добыча.

Калісьці тут грабежнікі-піраты Дзяліліся здабычаю багатай. А. В-і. 2. Тое, што здабыта на паляванні, лоўлі. Паляўнічы закінуў стрэльбу за плячо і падбег да здабычы. □ Фатыгі Такса не шкадуе:

Дзярэ, грызе, пішчыць, скавыча,

Бо знак дае, што ёсць здабыча [тхор]. К-с.

**Здагадлівы**, прым. ◘ Які лёгка знаходзіць правільнае рашэнне; кемлівы; рус. сообразительный. Здагадліваму чалавеку не трэба патлумачваць звычайныя рэчы.

**Здалёк і здалёку**, прысл. ◘ З далёкай адлегласці; рус. издали. Стала ясна ёй [Лісе] здалёку, што ў тых хлопцаў мала клёку. У. Д. // З далёкай мясцовасці.

Не вазіць тады [соль] здалёку, бо сваё дабро пад бокам! У. Д.

**Здань**, наз., ж. р. ◘ Створаны ва ўяўленні містычна настроеных людзей вобраз таго, чаго ў сапраўднасці няма; прывід; рус. привидение.

У іх фантазіі дзяцінай, Затканай страху павуцінай,

Устаюць начныя страхі, здані, І зыкі чуюцца пагані. К-с.

**Здарожыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца; зак. ◘ Стаміцца, змарыцца; рус. утомиться. Здарожыўся — адпачні, а стому здыме крынічная вада.

**Здарыцца**, -рыцца, зак. ◘ 1. Адбыцца; рус. случиться, произойти. А тут яшчэ здарыўся выпадак адзін, праз які страцілася ў Міколкі ўсякая вера ў дзедаву храбрасць. М. Л. 2. Нечакана з'явіцца;

трапіцца. На шчасце, здарылася якраз папутка. 3. безас. з інф. Выпасці на нечую долю. Здарыцца на вяку і па спіне, і па баку. Прык. (рус. Век долог — всем полон).

**Здарэнне**, наз., н. р. ◘ Тое, што адбылося; падзея, выпадак (звычайна нечаканыя); рус. случай. У жыцці чалавека бывав адно такое здарэнне, якое паўплывае на лес. □ Мабыць, ад самага свету стварэння першае бачыць такое здарэнне. У. Д.

**Здатны**, прым. ◘ Здольны, умелы; рус. способный.

Хоць і сама як быццам вялікая не надта,
работы не баіцца,
бо да работы здатна. У. Д.

**Здаўна**, прысл. ◘ З даўніх часоў; рус. издавна. Здаўна ў беларускіх вёсках быў такі звычай: маладая сама запрашала да сябе на вяселле.

**Здзейсніць**, -ню, -ніш, -ніць; зак. ◘ Ажыццявіць, зрабіць явай задуманае; выканаць; рус. осуществить. Здзейсніць мару зможа настойлівы і працавіты чалавек. □ Бацьку кажа: — Здзейсніў добра твой наказ! Прынёс багацце, — будзеш толькі дзівавацца! У. Д.

**Здзекавацца**, -куюся, -куешся, -куецца; незак. ◘ 1. Мучыць, катаваць каго-небудзь; рус. издеваться. Фашысты здзекаваліся з людзей. 2. Груба, зняважліва высмейваць, абражаць некага; кпіць з некага ці нечага. Ні з кога не здзекуйся, нікому не рабі таго, чаго сабе не жадаеш.

**Здзеклівы**, прым. ◘ Які выражае, заключав ў сабе зневажальную насмешку, абразу; рус. издевательский. Здзеклівымі словамі і ўчынкамі чалавек шкодзіць сабе і нават скарачае сваё жыццё.

**Здзівіцца**, здзіўлюся, здзівішся, здзівіцца; зак. ◘ Моцна ўразіцца незвычайнасцю чаго-небудзь; рус. удивиться. Аж супыніла ход свой Сонца. Яно здзівілася бясконца. У. Д.

**Здзічэць**, -эю, -эеш, -эе; зак. ◘ 1-Зрабіцца дзікім; рус. одичать. Гаспадары пакінулі сялібу, і сад здзічэў. 2. Які адвык ад людзей; нелюдзімы.

**Здолець**, -ею, -ееш, -ее **і здалець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ 1. Справіцца з нечым, змагчы зрабіць нешта; асіліць; рус. суметь, смочь. Горы і моры можаш ты [моладзь] здолець, Сэрцам расплавіць ільдзіны. К-а. 2. Змагчы зрабіць нешта пры пэўных абставінах ці наперакор ім. Сотнікаў, галоўны герой аднайменнай аповесці В. Быкава, у апошнія імгненні свайго жыцця здолеў перамагчы сябе, зразумець і даравацць Рыбаку і нават уратаваць яго ад непапраўнага, ад граху.

**Здольны**, прым. ◘ Які можа або ўмее нешта рабіць; які мае здольнасці да нечага; таленавіты; рус. способный. Жыў даўней адзін хлапчына з васільковымі вачыма. Сам высокі, спрытны, стройны, да работы ўсякай здольны. У. Д. «Няўжо гэта праўда, што [Аленка] такая здольная?» — думаў Сцепка і не хацеў даваць веры. К-с.

**Здрада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Пераход на бок ворага; вераломства; рус. предательство. 2. Парушэнне вернасці каму-небудзь, чаму-небудзь; рус. измена. Машэка цяжка перажываў здраду Наталкі. □ Народная мудрасць асуджае здраду звычаям свайго народа. Р. Ш.

**Здрадзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ 1. Перайсці на бок ворага; прадаць. Не здрадзіць Радзіме. 2. Парушыць вернасць некаму, нечаму; рус. изменить. Учыняе грэх той, хто здрадзіць сваёй сям'і, родным дзецям, бацькам.

♦ Здрадзіць сабе — зрабіць нешта насуперак сваім перакананням і сумленню.

**Здранцвець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ 1. Страціць адчувальнасць, гібкасць ад холаду або нязручнага становішча; амярцвець, здзеравянець; рус. окоченеть. Усё цела здранцвела: мусіць, гадзін пяць ляжалі нерухома. Я. М. 2. перан. Знерухомець ад моцнага страху, перажывання; рус. оцепенеть. Фішар ... так і здранцвеў у напружанай позе сполаху. В. Б.

**Здраўніца**, наз., ж. р. ◘ Установа, месца, прыстасаванае для лячэння і адпачынку. Дзіцячая здраўніца «Зубраня».

**Здымак**, наз., м. р., здымка. ◘ Адбітак, атрыманы шляхам фатаграфавання; рус. снимок. Зрабіць здымак. Рэнтгенаўскі здымак.

**З'едлівы**, прым. ◘ Схільны да едкіх, зласлівых насмешак; ядавіты; рус. язвительный. З'едлівы на язык чалавек. II Які выражае едкую насмешку, здзек. Як зрабіць, каб ... пачуць людскі шчыры, а не з'едпівы, штучны смех? К. К.

**Зелле**, наз., н. р. ◘ 1. Дзікарослыя травы; пустазелле; рус. сорняк. 2. Лекавыя травы; зёлкі; рус. снадобье. Лячыцца зеллем. /I Усё тое, чым лечаць; лякарства.

Давала хворым зелле, Каб здаравелі людзі,
Каб сэрцы не балелі, Каб не сціскала грудзі... У. Д.

**Землямер**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст па землеўпарадкаванні; каморнік.

Сажнем, лентаю мерым Мы палі, сенажаць.
Так магу землямерам Неўзабаве я стаць. К-а.

**Земляроб**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца апрацоўкай зямлі; хлебароб; рус. земледелец. Адвеку прафесія земляроба лічыцца самай пачэснай і патрэбнай людзям.

**Зеніт**, наз., -у. ◘ 1. Найвышэйшы пункт неба над галавой наглядальніка. Сонца стаяла ў зеніце. 2. Вяршыня развіцця чаго-небудзь. Зеніт славы пісьменніка.

**Зерне**, наз., н. р., мн. зёрні, -яў і зярняты, -нят. ◘ 1. Дробны плод, семя злакаў-і некаторых іншых раслін; рус. зерно. Колас, што зярнят не мае, угару лоб задзірае. Прык. (рус. Пустую бочку слышнее, чем полную). Не ралля, а пух узняты! Хутка ў ім растуць зярняты. У. Д.

2. Асобная частка, крупінка якога-небудзь рэчыва. Зерне пораху.

3. перан. Зародак, зыходны пачатак. Зерне праўды.

**Зеўраць**, -ае; незак. ◘ Быць бачным, адкрытым (пра яму, варонку і пад.). Зеўралі ямы, траншэі, зеўралі печы ў друзе — ранай адной страшэннай на целе маёй Беларусі. А. В.

**Зефір**$^{1}$, наз., м. р., -у. ◘ Паэт. Цёплы, лёгкі ветрык.

**Зефір**$^{2}$, наз., м. р., -у. ◘ Баваўняная тканіна для бялізны. Кашуля з зефіру.

**Зефір**$^{3}$, наз., м. р., -у. ◘ Сорт садавінавай пасцілы.

**Зёлкі**, наз., ж. р., адз. зёлка. ◘ Лекавыя травы; рус. зелье, снадобье. Зёлкі [у бабкі Марылі] былі ад усяго: ад кашлю, ад жывата, ад раматусу, ад галавы. Р. Н.

**Зімна**, безас. у знач. вык. ◘ Холадна. І сумна і зімна старому слану, Далёкую згадвае ён старану. А. З.

**Зірнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Кінуць позірк; глянуць, паглядзець; рус. посмотреть, взглянуть.

Прынялі яго [пана] пад рукі гайдукі, пастаўшы збоку. Ён, з вялікае навукі, не зірнуў на іх і вокам. У. Д.

2. перан. Аднесціся да некага, нечага пэўным чынам, ацаніць неяк.

Ўсё гэта часам памагае Зірнуць на справу іншым вокам І падысці да яе бокам. К-с.

**Зіхацець**, зіхачу, зіхаціш, зіхоча; незак. ◘ Ярка блішчэць, пераліваацца; вылучацца яркім або светлым колерам; рус. блестеть.

Аж зіхацяць на сонцы і косы залатыя.

Няма ва ўсёй старонцы такіх другіх, як тыя. У. Д.

**Зларадны**, прым. ◘ Які радуецца пры няшчасці, няўдачы іншых. Зларадных людзей народная мудрасць папярэджвае так: не радуйся чужой бядзе, бо свая ззаду йдзе.

**Злачынец**, наз., м. р., -нца. ◘ Той, хто зрабіў злачынства, г.зн. грамадска небяспечнае дзеянне (або бяздзеянне), хто парушыў закон; рус. преступник. Злачынец панясе заслужаную кару, адкажа перад законам.

**Зло**, наз., н. р. ◘ Усё нядобрае, шкоднае, благое; проціл. дабро. Закон вечнасці, запісаны ў Бібліі, наказвае рабіць дабро і пазбягаць зла; імкнуцца да мірнага жыцця, не парушаючы спакою іншых. Ухіліся ад зла і зрабі дабро, вучыць нас Евангелле.

**Злоснік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто жадае каму-небудзь зла і чыніць зло; зламысьнік, нядобразычлівец, вораг; рус. недоброжелатель. [Гасподзь:] — А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых, дабраслаўляйце праклёншчыкаў вашых, рабіце дабро ненавіснікам вашым і маліцеся за крыўдзіцеляў і за злоснікаў вашых. З Евангелля.

**Злоўжыванне**, наз., н. р. ◘ 1. Учынак, звязаны з незаконным выкарыстаннем нечага ў шкоду іншым; рус. злоупотребление. Злоўжыванне службовым становішчам караецца законам. 2. Ужыванне ў большай колькасці, чым трэба. Злоўжыванне спіртнымі напоямі да дабра не даводзіць.

**Злучнасць**, наз., ж. р. ◘ Еднасць, адзінства; рус. единство. Злучнасць чалавека і прыроды.

**Злыдзень**, наз., м. р., злыдня. ◘ Шкодны чалавек; ліхадзей. На аднаго мужыка злыдняў талака. Прык. (рус. Один с сошкой, а семеро с ложкой).

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі — Любі сваю ніву, свой край. К-а.

**Змагар**, наз., м. р., -а. ◘ Барацьбіт; змаганец; рус. борец. Змагар за мір. Змагар за справядлівасць.

**Змагацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Ваяваць са зброяй у руках; рус. бороться. Беларускі народ мужна змагаўся з фашызмам. 2. Спаборнічаць. Змагацца за перамогу ў алімпіядзе па матэматыцы. 3. Уступаць у сутыкненне (пра пачуцці). У душы Валіка, героя аповесці «Афганская шкатулка», змагаліся пачуцці віны перад сябрам і дакор, прыкрасць за прапушчаны ім гол. 4. Адстойваць, абараняць што-небудзь. Змагацца за мір.

**Змагчы**, змагу, зможаш, зможа; зак. ◘ Здолець зрабіць што-небудзь; рус. смочь. Валік змог перамагчы сябе і павініўся перад сябрам за грубае слова. ІІ Атрымаць магчымасць зрабіць штонебудзь.

Далёкая мілая мама, Я знаю — каб толькі змагла,
Не зёлкамі ты, а рукамі Бяду б ад мяне адвяла. А. А.

**Змарнелы**, прым. ◘ Змучаны, схуднелы; рус. изнуренный. Змарнелыя ад голаду і страху людзі. ІІ Зачахлы, звялы (пра расліны); рус. чахлый. Змарнелая бульба.

**Змарыцца**, змаруся, зморышся, зморыцца; зак. ◘ Знясіліцца, стаміцца; рус. устать. Галоўнае пры касьбе — не спяшацца, не высільвацца, каб не змарыцца да пары. Мележ.

**Зменлівы**, прым. ◘ Які легка і часта мяняецца; няўстойлівы; рус. изменчивый; неустойчивый. Зменлівае шчасце. Зменлівае надвор'е.

**Зменшыць**, -шу, -шыш, -шыць; зак. ◘ 1. Зрабіць меншым па аб'ёме, колькасці, велічыні; рус. уменьшить. Змёншыць плату. 2. Зрабіць меншым па сіле праяўлення. Змёншыць хваляванне.

**Змест**, наз., м. р., -у. ◘ Тое, пра што расказваецца, што адлюстроўваецца дзе-небудзь; тэма (кнігі, карціны); рус. содержание. Пераказаць змест апавядання. ІІ Пералік раздзелаў, частак кнігі з указанием старонак, змешчаных ў канцы ці пачатку.

**Змізарнець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ 1. Схудзець, здрабнець, асунуцца; зачахнуць. Хворы змізарнеў і з твару і з постаці. 2. перан. Страціць былую веліч, моц, значэнне; рус. оскудеть.
Калі бацька свет пакіне, будзе ў хаце калатніна:
за вуглы пачнецца сварка, змізарнее гаспадарка. У. Д.

**Змілавацца**, змілуюся, змілуешся, змілуецца; зак. ◘ Праявіць міласць, спагаду; злітавацца; рус. смилостивиться. Дд злыдня не чакай, што змілуецца.

**Змірыць**, зміру, змірыш, змірыць; зак. ◘ Памірыць; прымірыць. Дзвюх кошак у адным мяшку не змірыш. З нар.

**Змога**, наз., ж. р., ДМ змозе. ◘ 1. Сіла, магчымасць, здольнасць рабіць што-небудзь. Старацца колькі змогі. Адзін — сляпы. Другі — бязногі. Ісці далей не маюць змогі. У. Д. 2. Моцная стомленасць, поўнае бяссілле.

**Змоладу**, прысл. ◘ 1.З маладых гадоў, з маладосці. Народная мудрасць вучыць: пра сваю старасць трэба дбаць змоладу. 2. У маладосці. Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду. Прык.

**Зморшчына**, наз., ж. р. ◘ 1. Маршчына (на твары). 2. Няроўнасць, складка на чым-небудзь. Разгладзіць зморшчыны на вопратцы.

**Змрок**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Цемра. Змрок атуліў наваколле. 2. Прыцемак; рус. сумерки. У хаце гусцеў змрок. 3. перан. Безнадзейнасць, беспрасветнасць. Нават у змроку нейкіх абставін застаецца шанс на світанне, толькі не трэба адчайвацца.

**Змураваць**, -рую, -руеш, -руе; зак. ◘ Пабудаваць, узвесці нешта з каменю, цэглы і пад. Змураваць каменную сцяну. □ Людзі ўсе хаўрусам, талакой Змуравалі мост па.-над ракой. У. Д.

**Змыслы**, прым. Абл. ◘ Кемлівы, знаходлівы, здагадлівы; дасціпны.

**Змярцвець**, -ёю, -ёеш, -ёе; зак. ◘ І.Страціць адчувальнасць; здранцвець; рус. онеметь. Змярцвела нага. 2. перан. Анямець. Змярцвець ад нечаканасці. // Апусцець, заціхнуць. І палёў змярцвелі гоні, Снег, бы посцілка, ляжыць. К-с.

**Змястоўны**, прым. ◘ З багатым зместам, з вялікім унутраным сэнсам; рус. содержательный. Змястоўная кніга. Змястоўны адказ.

**Знаёміцца**, -млюся, -мішся, -міцца; незак. ◘ 1. Пачаць адносіны з кім-небудзь; рус. знакомиться. Знаёміцца з першай настаўніцай. 2. Атрымліваць звесткі, набываць веды пра нешта. Знаёміцца з горадам.

**Знак**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прадмет, метка, якія служаць для ўказання на нешта. Указальны знак. // Сведчанне, прымета чаго-небудзь. Маўчанне — знак згоды. 2. След, шрам, якія засталіся пасля чагонебудзь.

Білі моцна, білі так, каб застаўся добры знак. У. Д. 3. Рух рукой ці галавой, якім паведамляюць нешта ці папярэджваюць пра нешта. Падаць знак рукой.

♦ Пад знакам чаго — кіруючыся нейкай думкай, імкненнем. Выхаванне ішло пад знакам вялікай любові і пашаны да кнігі.

**Знакаміты**, прым. ◘ Шырокавядомы, славуты.

Шмат на свеце гарадоў Самых знакамітых,

Толькі Мінск заўжды дамоў Цягне, як магнітам. А. Б-а.

**Знамянальны**, прым. ◘ Важны, значны; рус. знаменательный. Знамянальная падзея.

**Знарок**, прысл. ◘ Спецыяльна, з мэтай, з пэўнымі намерамі; рус. нарочно. Знарок наступіць на нагу. II Назло; рус. умышленно. Знарок ісці павольна.

**Знатны**, прым. ◘ 1. Які належыць да вышэйшых слаёў пануючага класа. У Князевым палацы балявалі знатныя госці. 2. Вядомы, славуты. Знатныя інжынеры, кіраўнікі будоўлі.

**Знахар**, наз., м. р., -а. ◘ Лекар-самавучка, які лечыць травамі, замовамі і пад.; шаптун.

**Знаходка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ 1.Тое, што знойдзена, адшукана (рэч, прадмет); рус. находка. 2. Пра ўдала набытае, знойдзенае і вельмі патрэбнае. Новы друг — знаходка рэдкая, а стары — каштоўнасць. Брыль. Застаецца толькі сесці і знаходку тую [каўбасу]

з'есці. У. Д. 3. перан. Нешта новае, створанае, знойдзенае ў працэсе творчага пошуку. Тэхнічная знаходка. Паэтычная знаходка.

**Значны**, прым. ◘ 1. Вялікі памерам, колькасцю, сілай; рус. значительный. Значная частка. 2. Важны, істотны. Значныя падзеі.

**Знемагчы**, знемагу, зняможаш, знянможа; зак. ◘ Страціць сілы, аслабець; рус. изнемочь. Стаміўся ты, дружа, знямог І выбіўся з сілы. К-с.

**Знерваваны**, 1. дзеепрым. ад знерваваць. ◘ 2. у знач. прым. Даведзены да хваравіта-зласлівага, нервознага стану; нервовы; рус. издёрганный. Знерваванаму чалавеку трэба прабачыць.

**Знешнасць**, наз., ж. р. ◘ Вонкавы, знешні выгляд; рус. внешность. Прыгожая знешнасць.

**Знікнуць**, знкну, знікнеш, знікне; зак. ◘ 1. Перастаць існаваць, быць (1 і 2 ас. не ўжыв.у, рус. исчезнуть. Зніклі завірухі, К нам вясна прыйшла! Я. Ж. 2. Схавацца з поля зроку, стаць нябачным. Зніклі ў хвалях жыта вузкія сцяжынкі.

**Зніч**, наз., м. р., знічу. ◘ Святы агонь у язычнікаў. У бажніцах язычнікаў заўсёды гарэў зніч.

**Знічка**, наз., ж. р., ДМ знічцы. ◘ Зорка, якая падае. Над лесам тым у момант вока Мігнецца стужка агнявая — То знічка згасне залатая. К-с.

**Знішчыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ Згубнымі дзеяннямі спыніць існаванне каго-небудзь, чаго-небудзь; ліквідаваць; рус. уничтожить. Знішчыць ваўкоў. Знішчыць прыгнет.

**Зносіны**, наз., адз. няма. ◘ 1. Адносіны, дзелавая і сяброўская сувязь; рус. отношения; сношение. Гандлёвыя зносіны з замежнымі краінамі. Інстытут міжнародных зносін. 2. Сродкі перамяшчэння (рус. сообщение), сувязі (рус. общение). Мова — сродак зносін.

**Зноў**, прысл. ◘ 1. Яшчэ раз; ізноў; рус. снова. Вясна, вясна жаданая! Ты прыйдзеш зноў, ты вернешся. К-с.

**Знявага**, наз., ж. р., ДМ знявазе. ◘ Усё тое, што прыніжае чалавечую годнасць некага; абразлівыя паводзіны, учынкі, словы; рус. Оскорбление; унижение; бесчестье. ...І панскі дом з ласіным рогам На Міхася глядзеў астрогам, Бо тут, апроч тар знявагі, Сказаць, ад кожнага брадзягі, У стражнікоўскім сваім лесе Нічога ведаць не прыйшлося. К-с.

**Зняважаны**, 1. дзеепрым. ад зняважыць. ◘ 2. у знач. прым. Пакрыўджаны, абражаны, прыніжаны; рус. оскорблённый. Зняважаны чалавек можа адважыцца на рашучы ўчынак, каб абараніць свой гонар. II у знач. наз. Зняважаны церпіць да пары.

**Зняважлівы**, прым. ◘ Які зневажае, прыніжае, абражае ці ўтрымлівае ў сабе абразу, знявагу; рус. оскорбительный. Зняважлівая лаянка.

**Зняверыцца**, -руся, -рышся, -рыцца; зак. ◘ Страціць веру ў некага ці нешта; расчаравацца; рус. разочароваться. Шчаслівы той, хто не зняверыўся ў сябрах.

Знявечаны, 1. дзеепрым. ад знявечыць. ◘ 2. Пакалечаны; рус. искалеченный, изувеченный.

Кожны трэці быў зморaны, скалечаны і знявечаны. А. В.

Кожны чацвёрты быў мёртвы мір і спакой ім вечны! 2. у знач. прым. Прыведзены ў нягоднасць, пашкоджаны (пра рэчы, прадметы); рус. изуродованный. Знявечаны будынак школы зеўраў выбітымі вокнамі.

**Знянацку**, прысл. ◘ Раптоўна, нечакана, без папярэджання; знячэўку, неспадзеўкі; рус. врасплох; внезапно. Захапіць ворага знянацку.

**Знясілець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Стаць бяссільным; аслабець, знемагчы; рус. обессилеть. Знясілець ад хваробы.

**Знясіліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Пазбавіць сілы, зрабіць бяссільным; аслабіць; рус. обессилить. Рана знясіліла байца.

**Знясlавіць**, -слаўлю, -славіш, -славіць; зак. ◘ Распаўсюдзіць кепскія чуткі пра некага, нешта; зганьбіць, ачарніць; абняславіць; рус. опорочить, ославить; надругаться. Злоснік і ліхадзей любога чалавека знясlавіць, толькі яго самога за гэта чакае кара.

**Знячэўку**, прысл. ◘ 1. Тое, што і знянацку і не бег, а ляцеў без ніякай дарогі. У. Д.

□ Воўк знячэўку аж сеў, потым скочыў на ногі

2. Выпадкова, мімаволі, незнарок; рус. случайно. Знячэўку разліў чарніла.

**Золак**, наз., м. р., золку і золаку. ◘ Пачатак світання; досвітак; рус. рассвет. Устаць на золку. Золак зайграў над зямлёй. Золка, безас. у знач. вык. ◘ Сыра, пранізліва холадна. Золка было да дрыжыкаў.

**Золь**, наз., ж. р. ◘ Сырое, пранізліва халоднае надвор'е; рус. слякоть. Нават золь не зняла бадзёры настрой. Зорка, наз., ж. р., ДМ зорцы. ◘ 1. Нябеснае цела, па сваёй прыродзе падобнае да Сонца; уяўляецца чалавеку на начным небе зіхатлівай кропкай; рус. звезда. □ [Маці:] — Калі стваралісь Богам светы, Па зорцы светлай чалавеку Назначыў Бог святы спрадвеку. К-с. 2. перан. Шчасце, удача, лес. Я ўспомніў той выпадак і паверыў у сваю зорку. А. К. 3. перан. Пра чалавека вялікага таленту, які праславіўся сваёй

дзейнсцю. Янка Купала — зорка першай велічыні не толькі ў беларускай паэзіі, але і ва ўсім літаратурным свеце. У. Ю.

**Зразумелы**, прым. ◘ Даступны разуменню; просты, ясны; рус. понятный. Усе словы былі зразумелыя.

**Зразуметы**, дзеепрым. ◘ Засвоены, асэнсаваны; рус. понятый. Зразуметы вучнем параграф дапамог яму хутка і правільна рашыць задачу.

**Зранку**, прысл. ◘ 1. У пачатку дня, раніцай; рус. утром. Вучні першай змены ідуць у школу зранку. 2. З раніцы; рус. с утра. Запрасіла нас палянка: -Адпачніце на траве, На нагах вы сёння зранку. Н. Г-я.

**Зрок**, наз., м. р., -у. ◘ Ч.Адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога з'яўляюцца вочы; здольнасць бачыць; рус. зрение. [Сляпы бязногаму:]Тваім мы будзем бачыць зрокам, Ісці маім мы будзем крокам І наш хаўрус сяброўскі гэты Паможа нам дайсці да мэты. У. Д. 2. разм. Погляд, позірк. Аж да пят тугія косы закрасуе ўсё навокал, у дзяўчыны той дзівоснай. а калі ніяк не гляне — Толькі кіне сінім зрокам — засумуе кветка, звяне. У. Д.

**Зруйнаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; зак. ◘ Разбурыць, ператварыць у руіны; ліквідаваць, знішчыць. Ворагі зруйнавалі наш Мінск і многія іншыя гарады і вёскі, але беларускі народ здолеў адрадзіць іх.

**Зручны**, прым. ◘ 1. Такі, якім легка і прыемна карыстацца; рус. удобный. Зручны пыласос. 2. Добры; такі, які патрэбен. Зручны выпадак.

**Зрынуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ Скінуць, зваліць уніз. Вецер зрынуў буслянку.

**Зрэдку**, прысл. ◘ 1. Час ад часу, зрэдчас; рус. изредка. Зрэдку чуліся стрэлы. 2. Дзе-нідзе, месцамі. Зрэдку трапляліся баравікі.

**Зрэнка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Адтуліна ў радужнай абалонцы, праз якую пранікае святло ўнутр вока; рус. зеница, зрачок.

♦ Берагчы як зрэнку вока — ашчадна, клапатліва, дбайна. Родны кут і сваю сям'ю трэба берагчы як зрэнку вока.

**Зубраня і зубранё**, наз., н. р., мн. зубраняты. Дзіцяня зубра. Зубр — сімвал Беларусі, як сімвапічна і тое, што галоўную дзіцячую здраўніцу назвалі «Зубраня».

**Зухавата**, прысл. ◘ Фарсіста, франтавата, рус. щеголевато; молодцевато. На гэты дзень і сама хата Была прыбрана зухавата... К-с.

**Зычлівы**, прым. ◘ Які жадае дабра другому; прыхільны, спагадлівы; рус. доброжелательный. Зычлівыя людзі шчаслівыя тым, што пазбаўлены зайздрасці.

**Зычыць**, -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ 1. Жадаць. Не зыч ліха другому, каб не давялося самому. Прык. (рус. Не смейся чужой беде, своя нагряде). 2. Абяцаць, прадказваць нешта. Каханне зычыла шчасце, але падрыхтавала і выпрабаванні.

**Зябліва**, наз., н. р. ◘ Асенняе ўзворванне поля, а таксама поле, узаранае з восені пад веснавую сяўбу; рус. зяблевая вспашка; зябь. Ранняй вясной рыхтуюць зябліва да сяўбы.

**Зяблік**, наз., м. р., -а. ◘ Лясная пеўчая птушка з чырванаватым пер'ем па баках; берасцянка.

**З'ява**, наз., ж. р. ◘ 1. Усякае праяўленне нечага ў выглядзе змен; рус. явление. З'явы прыроды. 2. Падзея, факт, выпадак; рус. событие. Пачалося выданне поўнага збору твораў Васіля Быкава, якое стане з'явай у культурным жыцці нашай краіны. 3. Частка драматычнага твора — акта або дзеі, у якой склад дзейных асоб не мяняецца; рус. картина. Першая з'ява трэцяга акта.

**Зязюля**, наз., ж. р. ◘ Лясная пералётная птушка, якая звычайна не ўе гнязда, а кладзе яйкі ў чужыя гнёзды; рус. кукушка.

Кукавала зязюля У зялёным лесе,

Не згадала матуля, Што выйдзе з Алесі. К-а.

**Зямля**[1], наз., ж. р. ◘ 1. Трэцяя ад Сонца планета, якая круціцца вакол Сонца і сваёй восі (з вялікай літары). Месяц — спадарожнік Зямлі. 2. Суша. На гарызонце маракі ўбачылі зямлю. 3. Глеба, грунт; верхні слой кары нашай планеты; рус. почва. Апрацоўка зямлі. Часцей хадзі па зямлі басанож. 4. Паверхня, на якой мы стаім, па якой рухаемся. Дзяўчына ішла легка, як бы не датыкаючыся да зямлі. 5. Тэрыторыя, якая знаходзіцца ў чыім-небудзь уладанні; глеба, якая выкарыстоўваецца ў сельскагаспадарчых мэтах. Зямля лясгаса. □ Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш. Прык. — Мы ад зямлі суздром залежым — Як і яна ад нас, людзей. Завошта ж мы яе драпежым — Штораз бяздумней і люцей! Н. Г. 6. Краіна, дзяржава. Беларуская зямля -наша Радзіма і прошча.

**Зямля**[2], наз., ж. р. ◘ Даўнейшая назва літары «з».

# І

**Ігнараваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Знарок не заўважаць, пагардліва ставіцца да некага, нечага; не рэагаваць, не адказваць на нешта. Ігнараваць парадамі дасведчаных людзей — шкодзіць сабе.

**Ігумен**, наз., м. р., -а. ◘ Настаяцель мужчынскага праваслаўнага манастыра. Тытул ігумена можа надавацца настаяцелю храма, калі ён манах.

**Ігуменн**я, наз., ж. р. ◘ Настаяцельніца праваслаўнага жаночага манастыра. Полацкая князёўна, асветніца, першая беларуская святая Ефрасіння' Полацкая была ігуменняй манастыра Спаса ў Полацку.

**Ідал**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Фігура, статуя, якім язычнікі пакланяліся як бажаству.
Не веру ідалам паганым, Што выразаюць разьбяры... К-а. 2. Лаянкавае. Нягоднік.

**Ідэал**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -у. Вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі і якая кіруе іх дзейнасцю. Агульначалавечыя ідэалы — мір, згода, свабода, сям'я. 2. -у. Дасканалы ўзор чаго-небудзь. Ідэал шчасця ў кожнага свой. 3. -а. Узор годнасці, вышэйшага ўвасаблення нейкіх якасцяў. Шчаслівыя бацькі, калі яны з'яўляюцца ідэалам для сваіх дзяцей.

**Ідэальна**, прысл. ◘ Вельмі добра, дасканала, бездакорна. Вучань ідэальна справіўся з заданием настаўніка. II у спалучэнні з прым. Абсалютна, зусім. Вудзільна павінна быць моцным, пруткім і ідэальна прамым.

**Ідэнтычны**, прым. ◘ Такі самы, аднолькавы, раўназначны. Ідэнтычныя ўмовы жыцця.

**Ідэя**, наз., ж. р. ◘ 1. Асноўная, галоўная думка твора, задума, замысел чаго-небудзь. Ідэя верша. 2. Здагадка, намер, план, задума. Узнікла ідэя.

**Іерогліф**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Фігурны знак, пераважна ў старажытнаегіпецкім і кітайскім пісьме, які абазначае цэлае паняцце, склад або гук. 2. перан. Пра неразборлівы почырк. Напісана іерогліфамі.

**Ізаляваць**, -люю, -люеш, -люе; зак. ◘ 1. Аддзяліць ад навакольнага асяроддзя, абставін, умоў; змясціць асобна, пазбавіць кантактаў. З мэтай бяспекі неабходна ізаляваць злачынцу ад грамадства. Ізаляваць хворых і правесці дэзінфекцыю. 2. Пакрыць ізаляцыяй. Ізаляваць электрычны провад.

**Ізалятар**, наз., м. р. -а. ◘ 1. Рэчыва, якое не праводзіць электрычнага току, цеплыні або не прапускае гукаў. 2. Дэталь для замацавання і ізаляцыі праваднікоў. Фарфоравы ізалятар. 3. Асобнае памяшканне (у бальніцах, санаторыях і пад.) для хворых з нераспазнанымі або заразнымі хваробамі. Перавесці ў ізалятар. 4. Камера для аднаго чалавека ў турме.

**Ізгой**, наз., м. р., -я. ◘ 1. У Старажытнай Русі — чалавек, які страціў сувязь са сваім асяроддзем, напрыклад, прыгонны, які выкупіўся на волю, купец, які разарыўся. 2. перан. Чалавек, ад якога ўсе адхіліліся; адшчапенец.

**Іканастас**, наз., м. р., -а. ◘ Упрыгожаная абразамі (іконамі) сцяна ў праваслаўнай царкве, якая аддзяляе алтар.

**Іл**, наз., м. р., ілу. ◘ Вязкі асадак з арганічных і мінеральных рэчываў на дне вадаёмаў; глей; мул. У змроку, у іле пяжаць карасі, У зеллі багністым жыруюць язі. П. Г.

**Ільгота**, наз., ж. р.. ДМ ільгоце. ◘ Палёгка ці вызваленне каго-небудзь ад нейкіх абавязкаў. Для падтрымання мнагадзетных сем'яў і сірот у нашай краіне ўведзены значныя льготы.

**Ілюзіяніст**, наз., м. р., -а. ◘ Цыркавы і эстрадны артыст, які валодае майстэрствам пры дапамозе спецыяльнай апаратуры стварацць уражанне «цудаў» (знікненне або з'яўленне прадметаў, людзей і пад.). Выступленні ілюзіяністаў асабліва любяць дзеці.

**Ілюмінатар**, наз., м. р., -а. ◘ Круглае акно ў борце судна, самалёта, касмічнага карабля. Агні ілюмінатараў.

**Ілюстрацыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Малюнак у кнізе або часопісе, які суправаджае тэкст і тлумачыць змест. Характэрная асаблівасць кніг Скарыны — мноства цудоўна выкананых ілюстрацый. 2. перан. Прыклад, які дапаўняе, пацвярджае што-небудзь. У выступленні прамоўцы было шмат ілюстрацый з вопыту працы.

**Імаверны**, прым. ◘ Праўдападобны, магчымы, верагодны; проціл. неймаверны; рус. вероятный.

**Імбрычак**, наз., м. р., імбрычка. ◘ Чайнік для заваркі гарбаты. Гаспадар... паставіў пасярод стала бліскучы медны самавар з размаляваным імбрычыкам наверсе. А. Я.

**Імгненне**, наз., н. р. ◘ Вельмі кароткі прамежак часу; міг, момант; рус. мгновение.

З табою век імгненнем здасца, З табою час плыве, бы ў казцы, Сама ты - казка, дзіўны сон. А. Л.

**Імгненны**, прым. ◘ І.Які раптоўна ўзнікае. Імгненная рэакцыя. 2. Які хутка праходзіць; кароткачасовы; рус. мгновенный. Огненная радасць.

**Імжа**, наз., ж. р. ◘ Ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці; імгла, імга, імжака; рус. изморось; марево. Густая імжа, як праз сіта, сыпалася зверху.

**Імітатар**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто імітуе, г. зн. па-майстэрску пераймае каго-небудзь, дакладна ўзнаўляе што-небудзь (голас,

рухі, міміку), падрабляе што-небудзь з матэрыялу-заменніка. // Артыст, які прафесійна займаецца імітацыяй.

**Імклівы**, прым. ◘ 1. Вельмі хуткі. шпаркі; рус. стремительный. Імклівая плынь. // перан. Які хутка развіваецца, праяўляецца. Імклівае жыццё. 2. Рухавы, энергічны, жвавы (пра чалавека). Мірон быў больш разважлівы, спакойны хлопец, а Віктар-жвавы, імклівы. Я. М.

**Імкненне**, наз., н. р. ◘ 1. Хуткі рух. Вясна адрадзіла імкненні. 2. Цяга, парыў, рашучая мэтанакіраванасць; намеры, жаданні; рус. стремление. Імкненне да вучобы.

**Імпарт**, наз., м. р., -у. ◘ Увоз тавараў з-за мяжы; проціл. экспарт. Імпарт гатовай прадукцыі.

**Імператар**, наз., м. р., -а. ◘ Вышэйшы тытул манарха. //Асоба, якая мае гэты тытул; уладар, палкаводзец. Імператар Напалеон.

**Імправізацыя**, наз., ж. р. ◘ Тое, што створана (ствараецца) без папярэдняй падрыхтоўкі, у час выканання, на хаду. Музычная імправізацыя. Здольнасць да імправізацыі.

**Імпульс**, наз., м. р., -у. ◘ Унутраны штуршок да дзеяння; пабуджальная прычына. Імпульсам да творчасці з'яўляецца талент, неўтаймоўнае жаданне падзяліцца сваім багаццем з людзьмі.

**Імпэт**, наз., м. р., -у. ◘ Разгон, парывістасць, імклівасць; гарачы парыў, запал; напор; рус. порыв; пылкость. Працаваць з імпэтам.

**Імунітэт**, наз., м. р., -у. ◘ Неўспрымальнасць арганізма да заражэння хваробамі. Умацоўваць імунітэт. // перан. Здольнасць процістаяць чаму-небудзь. Стойкі імунітэт супраць зла, брыдкаслоўя, разбэшчанасці.

**Імунны**, прым. ◘ Абаронны, ахоўны. Моцная імунная сістэма.

**Імчацца**, імчуся, імчышся, імчыцца; незак. ◘ Вельмі хутка ехаць, бегчы; несціся; рус. мчаться, нестись. Цягнік імчыцца. Коні імчацца.

**Імша**, наз., ж.р. ◘ 1. Каталіцкая абедня, богаслужэнне ў касцёле. Правіць імшу. А як наш дзядзька час там бавіць!.. Ён не працуе — імшу правіць. К-с. 2. Музычны харавы твор для такой абедні, звычайна з суправаджэннем аргана і аркестра.

**Імя**, наз., н. р., імя і імені, імю і імені, імем і іменем, (аб) імі і імені; мн. імі і імёны, імяў і імён, імёнаў, імям і імёнам, імямі і імёнамі, (аб) імях і імёнах. ◘ 1. Асабістая назва чалавека, якая даецца яму пры нараджэнні. // Поўная асабістая назва чалавека з імем па бацьку, прозвішчам. // Назва прадметаў, жывёл, з'яў, паняццяў.

2. Вядомасць, папулярнасць, слава. Вучоны з імём. □ Другі баран ні «бэ», ні «мя»,

А любіць гучнае імя. К. К. // Рэпутацыя. Чалавек усё жыццё дбае, каб не зганьбіць сваё імя.

**Імяніны**, наз., адз. няма. ◘ Асабістае штогадавае свята каго-небудзь, якое выпадае на той дзень, калі царква адзначае памяць аднайменнага святога. // Разм. Дзень нараджэння і святкаванне, бяседа з гэтай нагоды. У мяне, дарэчы, імяніны: Заўтра стукне роўна ... дваццаць год. Н. Г.

**Імянны**, прым. ◘ Памечаны імем уладальніка; выдадзены на чыё-небудзь імя. Імянны пярсцёнак. // Імені каго-небудзь. Імянную стыпендыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь атрымліваюць лепшыя студенты.

**Інакш**, прысл. і злучн. ◘ 1 .прысл. Іншым спосабам, па-другому, не так; іначай; рус. иначе; по-иному. У нашым становішчы трэба разважаць інакш. Я. М. 2. злучн. супраціўны. У адваротным выпадку; а то. Трэба старацца, інакш не дасягнуць жаданага.

**Інгаляцыя**, наз., ж. р. ◘ Лячэнне верхніх дыхальных шляхоў удыханнем лекавых рэчываў (у выглядзе пары, газаў). Хвораму назначылі інгаляцыю.

**Інгрэдыент**, наз., м. р., -у. ◘ Састаўная частка нейкага злучэння або сумесі. Падрыхтаваць усе інгрэдыенты салаты.

**Індывідуальны**, прым. ◘ І.Уласцівы канкрэтнай асобе; асабісты. У кожнага чалавека ёсць свае індывідуальныя рысы. 2. Асобны, не агульны. Індывідуальная гаспадарка. Індывідуальны транспарт. 3. Які робіцца асобнымі людзьмі; не калектыўны. Індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва. 4. Асаблівы для кожнага чалавека. Індывідуальны падыход да вучня.

**Індык**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікая свойская птушка сямейства фазанавых; самец гэтай птушкі; самка — індычка; рус. индюк, индюшка.

**Ін'екцыя**, наз., ж. р. ◘ Увядзенне лякарства ў тканкі і поласці арганізма шляхам упырсквання. Ін'екцыя пеніцыліну.

**Інертны**, прым. ◘ 1.Які захоўвае стан спакою або руху, пакуль нейкая знешняя сіла не прымусіць змяніць гэты стан. Інертная маса. 2. Бяздзейны, пасіўны. Інертны чалавек.

**Інжынер**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй; рус. инженер. Інжынер-механік.

**Інжыр**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Паўднёвае пладовае дрэва сямейства тутавых; фігавае дрэва, смакоўніца. 2. -у. Салодкі мясісты плод гэтага дрэва; фіга, смоква, вінная ягада. Варэнне з інжыру.

**Ініцыялы**, наз., адз. ініцыял, м. р., -а. ◘ 1. Першая літара імені і імені па бацьку або імені і прозвішча. Падпісаць запіску ініцыяламі. 2. Спец. Вялікія літары ў пачатку кнігі, раздзела або абзаца, аздобленыя ўзорам; застаўка. Кнігі Скарыны і сёння здзіўляюць афармленнем ініцыялаў.

**Ініцыятар**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто самастойна робіць пачын, першы крок у нейкай справе, абумоўлены ўнутраным пабуджэннем да дзеяння. Ініцыятар паходу і карысных спраў. Ініцыятара злачынства чакае большая кара, чым яго саўдзельнікаў.

**Інструкцыя**, наз., ж. р. ◘ Кіруючае ўказанне, падрабязнае настаўленне або правілы карыстання прамысловым вырабам. Правесці інструкцыю перад паходам. Інструкцыя да тэлевізара.

**Інстынкт**, наз., м. р., -у. ◘ Здольнасць жывёльных арганізмаў рабіць бессвядомыя мэтанакіраваныя дзеянні ў адказ на змены асяроддзя. Самы моцны інстынкт усяго жывога — інстынкт самазахавання.

**Інтанацыя**, наз., ж. р. ◘ Ч.Тон, характер вымаўлення, якія выражаюць пачуццё таго, хто гаворыць, яго адносіны да прадмета гутаркі, стан яго душы. Зычлівая інтанацыя. 2. Меладычны лад мовы, чаргаванне павышэння і паніжэння тону пры вымаўленні. Пытальная інтанацыя. Клічная інтанацыя.

**Інтарэс**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Увага, цікавасць да некага, нечага; нешта цікавае, займальнае. Інтарэс да вучобы. 2. Карысць, выгада, сэнс, патрэбы. Дзяржаўны інтарэс.

**Інтэлект**, наз., м. р., -у. ◘ Розум, здольнасць чалавека мысліць, разважаць; узровень разумовага развіцця. Інтэлект і духоўнасць лічацца самым вялікім багаццем кожнай нацыі.

**Інтэлектуал**, наз., м. р., -а. ◘ Пра чалавека з высока развітым інтэлектам, а таксама пра чалавека разумовай працы. [Каладкевіч] — чалавек-легенда, інтэлектуал, важак, асоба ў самым высокім сэнсе гэтага слова. У. М.

**Інтэлігент**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек разумовай ці складанай творчай працы, звязанай з развіццём і распаўсюджаннем культуры.

**Інтэлігентны**, прым. ◘ 1. Які мае адносіны да інтэлігента, інтэлігенцыі. Інтэлігентная праца. 2. Адукаваны, культурны, духоўна багаты, выхаваны. Героі многіх твораў В. Быкава — інтэлігентныя людзі.

**Інтэрбачанне**, наз., н. р. ◘ Міжнароднае тэлевізійнае аб'яднанне, створанае ў 1960 г. ў Празе, а таксама перадачы па яго сетцы. У конкурсах інтэрбачання ўдзельнічаюць і беларускія артысты.

**Інфармацыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Паведамленне аб становішчы спраў у краіне, у нейкай галіне дзейнасці; звесткі. Палітычная інфармацыя. 2. Сукупнасць якіх-небудзь звестак, ведаў. Паток інфармацыі.

**Інцыдэнт**, наз., м. р., -у. ◘ Выпадак, здарэнне (звычайна непрыемнага характеру). Пагранічны інцыдэнт. Скандальны інцыдэнт.

**Іншадумец**, наз., м. р., -мца. ◘ Той, хто думае, мысліць інакш, чым хто-небудзь, мае іншыя погляды, меркаванні; рус. инакомыслящий. Цярпімасць да іншадумцаў — умова міру.

**Іншасказальны**, прым. ◘ Які мае тайны, схаваны сэнс; алегарычны; рус. иносказательный. Байкапісец гаворыць з чытачом не наўпрост, а надае твору іншасказальны сэнс.

**Іншы**. ◘ Другі, не такі, як гэты ці ранейшы; рус. иной; другой. Турбавалі іншыя клопаты. // у знач. наз. іншае. Перавесці размову на іншае. Шчаслівы чалавек радуецца з таго, што мае, і не жадае іншага.

**Іронія**, наз., ж. р. ◘ Тонкая, скрытая насмешка. Злая іронія руйнуе адносіны паміж людзьмі.

♦ Іронія лёсу — пра недарэчную выпадковасць.

**Існаваць**, існую, існуеш, існуе; незак. ◘ 1. Быць у сапраўднасці; рус. существовать. Гэты замак існаваў тут здаўна. // Служыць для нейкай мэты. Правілы існуюць для таго, каб іх выконвалі. 2. Жыць без радасці, без задавальнення. У няволі чалавек не жыве, а існуе. II Здабываць сродкі для жыцця. Існаваць на сродкі бацькоў.

**Іспыт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. звычайна мн. (іспыты). Праверка ведаў; экзамен. Здаваць іспыты. 2. перан. Выпрабаванне, праверка. Ростані — сур'ёзны іспыт для кахання.

**Істота**, наз., ж. р., ДМ істоце. ◘ 1. Жывы арганізм; чалавек або жывёліна; рус. существо. Непасрэднасць дзіцячай істоты. 2. Сукупнасць усіх фізічных і духоўных сіл і ўласцівасцяў чалавека. Міхал жахнуўся. Нейкі смутак, Ён чуе ў свеце адзіноту, Ліхіх пачуццяў цёмны скрутак Як бы варожых лёсаў сіла Яго агортваюць істоту; У вочы глянула няміла... К-с.

**Істотны**, прым. ◘ Значны, важны, асноўны; рус. существенный, Істотны недахоп у выхаванні.

**Істужка і стужка**, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ Палоска каляровай тканіны для ўпрыгожання, нашыўкі, аблямоўкі, уплятання ў касу; рус. лента. Як жар гарыць яе [Венеры] спадніца, Істужкі ўплецены ў касе. З паэмы «Тарас на Парнасе».

**Ісціна**, наз., ж. р. ◘ 1. Тое, што адпавядае сапраўднасці; праўда. Дашукацца ісціны. 2. Сцверджанне, меркаванне, якое выяўлена

навукай, праверана вопытам. Бясспрэчная ісціна: маладосць не купляецца, старасць не прадаецца.

# К

**Кабета**, наз., ж. р., ДМ -беце. ◘ Сталая жанчына, звычайна замужняя.
...Кабеты [кумы]тварамі самкнулісь
І так прыемна усміхнулісь,
Ябб бы злучыліся дзве рэчкі,
Гарохам сыплюцца славечкі. К-с.

**Каберац**, наз.., м. р., -рца. Абл. ◘ Невялікі дыван, кілім; рус. коврик. // перан. Пра ўсё, што нагадвае такі дыванок. Бо ўсё ж маркотны вы, каберцы Зімы халоднай і мярцвячай, І ласкі хочацца гарачай, Вясны душа твая жадае. К-с.

**Кабзар**, наз., м. р., -а. ◘ Украінскі народны спявак, які акампануе сабе на кобзе. ІІ перан. Той, хто апявае што-небудзь. Беларускі пясняр Янка Купала вельмі любіў творчасць украінскага кабзара Шаўчэнкі.

**Кабрыялет**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Лёгкі аднаконны двухколы экіпаж без козлаў з адным сядзеннем. 2. Кузаў легкавога аўтамабіля з адкідным верхам.

**Кава**, наз., ж. р. ◘ 1. Насенне трапічнага дрэва; парашок размолатага насення, з якога гатуюць асобы напітак; рус. кофе. 2. Напітак, прыгатаваны з гэтага парашку. Выпіць кубачак чорнай кавы.

**Кавадла**, наз., н. р. ◘ Жалезная падстаўка асобай формы для ручной коўкі маталу; рус. наковальня.
♦ Паміж молатам і кавадлам — у цяжкім становішчы, калі існуе пагроза з двух бакоў.

**Кавалак**, наз., м. р., -лка. ◘ 1. Аддзеленая (адбітая, адрэзаная, адламаная) частка нечага; кусок. Кавалак распаленага дабяла жалеза. □ Без кавалка хлеба кепская бяседа. Прык. 2. перан. Самае неабходнае. Зарабляць на кавалак хлеба.

**Кавалер**[1], наз., м. р., -а. ◘ 1. Хлопец, мужчына, які танцуе з дамай; які заляцаецца да дзяўчыны; паклоннік. Кавалер — кату па каўнер. Прык. 2. Малады чалавек; халасцяк. ...Усё падробна распісалі, Як бы яго [пана] даўно тут зналі: .../ чым выдатны і багаты, Ці кавалер ён, ці жанаты. К-с.

**Кавалер**[2], наз., м. р., -а. ◘ Асоба, узнагароджаная ордэнам. Кавалер ордэна Славы.

**Кавалергард**, наз., м. р., -а. ◘ Салдат або афіцэр асобага палка гвардзейскай цяжкай кавалерыі ў царскай арміі. У кавалергарды адбіралі толькі самых дужых, спрытных, высокіх і адважных юнакоў.

**Кавалерыя**, наз., ж. р. ◘ Конніца, коннае войска. Служыць у кавалерыі/ было ганарова, пачэсна.

**Каваль**, наз., м. р., -я. ◘ 1. Рабочы, майстар, які займаецца коўкай металу; рус. кузнец. Святыя Кузьма і Дзям'ян былі кавалямі. У народзе кажуць: без каваля не будзе і караля. 2. перан. Той, хто сваёй настойлівай працай дамагаецца жаданага. Чалавек — каваль свайго шчасця.

**Кавардак**, наз., м. р., -у. ◘ Бязладдзе, сумятня, неразбярыха; рус. бедлам.

І госць зажыў... Ды так,
Што хутка ў доме ўтварыўся кавардак,
Хоць гаспадр сам з хаты вымятайся... Э. В.

**Каварны**, прым. ◘ Які пад знешняй добразычлівасцю тоіць злыя намеры; вераломны, хітры. Каварнага ворага цяжка распазнаць.

**Кавун**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Расліна сямейства гарбузовых з вялікімі салодкімі пладамі; рус. арбуз. 2. Круглы плод гэтай расліны з салодкай мякаццю чырвонага колеру.

**Кавярня**, наз., ж. р. ◘ Кафэ, чайная. Зайсці ў кавярню перакусіць і выпіць кавы.

**Кадук**, наз., м. р., -а. ◘ Чорт, д'ябал. Чорт кадуку — родны брат. Прык. (рус. Два сапога пара).

**Кадушка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Драўляная бочка для прадуктаў; кадзь, кадка.

**Кажан**, наз., м. р., -а. ◘ Начная млекакормячая жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі; рус. летучая мышь. Кажаны селяцца ў пячорах, дуплах дрэў, на гарышчы. Утвараюць калоніі. БелЭн.

**Кажух**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Доўгая верхняя вопратка з вырабленых аўчын. Святочныя кажухі багата аздабляюць рознымі нашыўкамі і вышыўкамі гладдзю. □ ...А праз плячо паўзверх кажуха Ідзе раменны пас, бы ў зуха... К-с. 2. Пакрыццё з жалеза, цэглы, дрэва для ізаляцыі або засцярогі збудаванняў, механізмаў.

**Казак**, наз., м. р., казака і казака. ◘ 1. На Русі ў XV-XVII стст. — вольны чалавек з прыгонных сялян, гарадской беднаты, якія ўцякалі на Дон, Запарожжа, Яік. Запарожскія казакі. 2. З XVIII ст. — прадстаўнік ваеннага саслоўя — ураджэнец вайсковых абласцей (Кубанскай, Арэнбургскай), які быў абавязаны несці службу ў войску за льготнае карыстанне зямлёй. Данскія казакі. □

Не плач, казак, атаманам будзеш. Прык. 3. перан. Пра спрытнага маладога мужчыну. Па-нашаму было гэтак-хто хлопец хлёсткі і смелы, той і казак. Брыль.

**Казанок**, наз., м. р., -нка. ◘ Невялікі кацёл з круглым дном і шырокім верхам; кацялок. Гарыць над самай кручаю касцёр, Рыбацкі казанок на ім дыміцца. А. З.

**Казанне**, наз., н. р. ◘ 1. Расказ, апавяданне, прамова; размовы, гутарка. 2. Пропаведзь святара. У Нагорным казанні Ісуса Хрыста сфармулявана Залатое правіла чалавецтва: рабі іншым тое, што хочаш, каб рабілі табе.

**Казаць**, кажу, кажаш, кажа; незак. ◘ 1. Выказваць у вуснай форме нейкія думкі, меркаванні; расказваць, гаварыць. Кажы — стрыжана, а ён — голена. Прык. (рус. Я про Фому, а он про Ерёму). 2. безас. (у форме 3 ас. мн.). Пра чуткі, пагалоскі. Кажуць, што і масла хлебам мажуць. Прык. Казалі-гаварылі, што ходзіць Базыль да Марылі. Прык. (рус. Говорят, что кур доят). 3. перан. Сведчыць пра нешта, указваць на нешта. Хацелася б паверыць, але факты кажуць пра адваротнае.

**Казка**, наз., ж. р., ДМ казцы. ◘ 1. Твор вуснай народнай творчасці або літаратурны твор аб выдуманых падзеях, нарэдка з удзелам чарадзейнай, фантастычнай сілы. Быццам птушка залатая, Свет шырокі аблятае. У. Д. Казка любіць небыліцы, хоць і праўды не баіцца. 2. Пра нешта незвычайнае, дзівоснае, цудоўнае. Печаная бульба — гэта казка, Паскрабеш нажом — і калі ласка. Жоўтая скарынка, як пірог, Будзеш уплятаць яе за трох. П. П.

**Казус**, наз., м. р., -у, ◘ 1. Складаная, заблытаная справа ў судовай практыцы. 2. Незвычайны, недарэчны выпадак. Казус выйшаў.

**Казырыцца**, -руся, -рышся, -рыцца; незак. ◘ Ганарыста паводзіць сябе перад некім; фанабэрыцца, выхваляцца; рус. хвастаться. Казырацца людзі недалёкія, пустыя.

**Казытаць**, казычу, казычаш, казыча; незак. ◘ Датыкаючыся да скуры, выклікаць нервовае раздражненне, якое суправаджаецца смехам; рус. щекотать. // Выклікаць лёгкае раздражненне ў носе, горле (пра моцны дым, пах і пад.). Пах мурожнага сена быў такі моцны, што проста казытаў у горле.

**Каін**, наз., м. р., -а. ◘ Пра здрадніка, злачынцу (з біблейскага падання пра Каіна, сына Адама, які забіў свайго брата Авеля).

**Кайданы і кайданы**, наз., адз. няма. ◘ Злучаныя ланцугом жалезныя кольцы, якія надзявалі на рукі і ногі тых, хто абвінавачваўся ў цяжкіх злачынствах; рус. кандалы. Закаваць у кайданы. Адвага або мёд п'е, або кайданы трэ. Прык. // перан. Пра тое, што

пазбаўляе чалавека волі, звязвае яго. Дзяды нашы білі драпежнікаў прускіх, Не даўшы надзець на сябе кайданы. П. Б.

**Кайстра**, наз., ж. р. ◘ Дарожная торба, заплечны мяшок; рус. котомка.

Але вось малодшы брат іх падаспеў у час дахаты.
Ані кайстры, ні тарбінкі, толькі дудачка з трысцінкі. У. Д.

**Каламажка**, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ Лёгкая выязная павозка на рысорах.

Кадушка-Зося сонцам ззяе; Міхал ёй злазіць памагае.
Яна ж, як гліна, надта цяжка, Пад ёю крэхча каламажка. К-с.

**Каламбур**, наз., м. р., -а. ◘ Жарт, заснаваны на выкарыстанні розных слоў, блізкіх па гучанні, або розных значэнняў аднаго слова. Сыпаць каламбурамі.

**Каламутны**, прым. ◘ Непразрысты, мутны. Чаму вода каламутна? Чаму дзеўка ходзіць смутна? З нар. песні.

♦ У каламутнай вадзе рыбу лавіць — мець выгаду з чаго-небудзь, карыстаючыся няяснасцю абставін, чыімі-небудзь няўдачамі, цяжкасцямі.

**Каласальны**, прым. ◘ Незвычайна вялікі, велізарны. Каласальны поспех.

**Каласіцца**, -сіцца; незак. ◘ Выпускаць колас; каласавацць. Жыта буйна каласіцца, Нахіляецца чалом. П. Б.

**Калатня**, наз., ж. р. ◘ 1. Сварка ў сямі; рус. распря, ссора. Дзе калатня, там дзеці недагледжаныя. 2. Бойка, вайна. Гпядзела сонца ў засмучэнні На калатню варожых станаў — Не вырваць злу ад зла кайданаў. К-с.

**Калаўрот**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, якое прыводзіцца ў рух панажом; рус. самопрялка. 2. Прыстасаванне для пыдымання грузаў з ручкай, на які намотваецца канат або ланцуг; рус. коловорот. Трэба доўга размотваць на калаўроце ланцуг, пакуль акаванае жалезам вядро дакранаецца да сцюдзёнай вады. М. Д.

**Калгас**, наз., -а. ◘ У СССР — каапературыўная арганізацыя сялян, аб'яднаных для сумеснага вядзення буйной аграрнай вытворчасці; калектыўная гаспадарка; рус. колхоз. 2. Калектыў асоб, якія ўваходзяць у гэта аб'яднанне; калгаснікі.

**Калготы**, наз., адз. няма. ◘ Жаночыя ці дзіцячыя панчохі, вывязаныя разам са штанамі; штаны-панчохі.

**Калдуны**, наз., адз. калдун, м. р., -а. ◘ Клёцкі, начыненыя мясным фаршам.

**Калега**, аз. р., ДМ калёгу, Т калёгам, м. р.; ДМ калезе, Т калегай, ж. р. ◘ Таварыш па прафесіі, па рабоце, па вучобе. Добры калега — найлепшы сябар.

**Каледж**, наз., м. р., -а. ◘ Вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова; рус. колледж.

**Калектыў**, наз., м. р., -тыву. ◘ Трупа людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, агульнай працай, справай. Калектыў мастацкай самадзейнасці. Вучнёўскі калектыў.

**Калекцыя**, наз., ж. р. ◘ Сістэматызаваны набор аднародных прадметаў. Калёкцыя слуцкіх паясоў.

**Калеснік**, наз., м. р.. -а. ◘ Майстар, які вырабляе колы, калёсы.

**Каліва**, наз., н. р. ◘ 1. Асобна ўзятае зерне, раслінка. Каліва жыта. 2. Адно зернетка. Насенне адборнае, каліва ў каліва. 3. Пра самую малую колькасць нечага. Заўсёды ў складаным становішчы ёсць каліва надзеі.

**Калідор**, наз., м. р., -а. ◘ Праход, які злучае пакоі кватэры, часткі будынка; рус. коридор. Калідор інтэрната. II Вузкі доўгі праход, абмежаваны справа і злева. У калідоры між стромкіх скал было ціха.

**Калі ласка!** ◘ Словы ветлівасці для выражэння просьбы і суправаджэння аказанай паслугі; рус. пожалуйста. Вы пыталіся пра казку? Вось вам казка, калі ласка! У. Д.

**Калісьці**, прысл. ◘ Некалі ў мінулым, даўней; рус. когда-то; прежде. Калісьці Сонца ў небе сінім Хадзіла з Месяцам, як з сынам. Тады не зналілюдзі змроку... У. Д.

**Калматы**, прым. ◘ Пакрыты густымі скудлачанымі валасамі, поўсцю; касматы, кудлаты; рус. лохматый. Калматыя бровы. Калматы сабака.

**Калодзеж і калодзезь**, наз., м. р., -а і -я. ◘ 1. Вузкая глыбокая яма, умацаваная зрубам ці трубамі для здабывання вады; студня; рус. колодец. 2. Яма для розных патрэб. Кабельны калодзеж.

**Калоднік**, наз., м. р., -а. ◘ Арыштант, закаваны ў калодкі, драўляныя кайданы, якія надзявалі некалі на ногі, рукі і шыю, каб папярэдзіць уцёкі. Канвойныя вялі змучаных калоднікаў.

**Калона**, наз., ж. р. ◘ 1. Частка архітэктурнага збудавання ў выглядзе высокага слупа-апоры для франтонаў, унутраных частак будынка. // Помнік у выглядзе слупа. Калона Траяна. 2. У вайсковай справе — строй, парадак пастраення войск для руху выцягнутай лініяй, адзін за адным.//Група асоб або машын, трактароў і інш., якія рухаюцца выцягнутай лініяй, рад за радам. Калоны дэманстрантаў.

**Калос**, наз., м. р., -а. ◘ Статуя, калона, абеліск гіганцкіх памераў. Канос Радоскі. '

**Калупаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Падчэпліваючы нечым вострым, аддзіраць нешта; рабіць у нечым паглыбленне; корпацца ў нечым, дастаючы адтуль нешта; рус. ковырять. Ранняя птушка дзюбку канупае, а позняя вочкі прадзірае. Прык. (рус. Ранняя птичка носок прочищает, а поздняя глазки продирает).

**Калыска**, наз., ж. р., ДМ канысцы. ◘ 1. Плецены або драўляны дзіцячы ложак, які можна калыхаць, гушкаць; люлька, зыбка; рус. колыбель. Калыхала маці сына Ў калысцы ліповай. К-а. 2. Месца, дзе нешта ўзнікла і атрымала развіццё. Думкі мае... імчаць да празрыстых вод Папаты. Там, там [Понацк] калыска мае маладосці. Ян Б. О Беларусь, мая калыска, Жыццё мае, прытулак мой! П. Г.

**Калыханка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Песня, якую спяваюць, калышучы дзіця; рус. колыбельная. Матуля спявала калыханку.

**Калюжына і калюжа**, наз., ж. р. ◘ Лужына; калюга. Як на золку сонца устала, ўсю ваду павыпарала, — Соль вярнулася з калюжы, чым усцешыла іх [сяброў] дужа. У. Д.

**Каля**, прыназ. з Р. ◘ 1. Ужываецца для абазначэння асобы, предмета, месца, паблізу або вакол якіх нешта адбываецца, размяшчаецца; рус. около, возле, у. Каля пасады лесніковай Цягнуўся гожаю падковай Стары, высокі лес цяністы. К-с. 2. Ужываецца пры абазначэнні прыблізнай велічыні, меры нечага; рус. около. Дубу каля ста гадоў.

**Каляды**, наз., адз. няма. ◘ Хрысціянскае свята Раства Хрыстова, якое адзначаецца 25 снежня па старым стылі і ў наступныя дні да Вадохрышча.

**Калядкі**, наз., адз. няма. ◘ 1. Ласк, да Каляды. Хлапцам прыелася вучэба, Цяпер Калядак чакаць трэба, І думка іх не тым занята, Ўсё болей ходзіць каля свята. К-с. 2. Абрадавыя песні, якімі калядоўшчыкі ў калядныя вечары віншуюць гаспадароў са святам.

**Каляіна**, наз., ж. р. ◘ 1. Паглыбленне, след на дарозе ад колаў або палазоў; рус. колея. 2. Чыгуначны пуць, каляя. 3. перан. Звыклы ход жыцця. ...А цэлы рад збаноў на плоце Казаў аб тым, што гаспадыня Была ўжо ў моцнай каляіне І што яе таксама справа Вялася добра ірухава... К-с.

**Каляндар**, наз., м. р., календара. ◘ 1. Кніга, брашура, у якіх змяшчаецца паслядоўны пералік дзён, тыдняў і месяцаў з указанием памятных і святочных дзён. Насценны каляндар. 2. Спосаб злі-

чэння дзён у годзе. Юліянскі каляндар (старога стылю). Грыгарыянскі каляндар (новага стылю).

**Каляровы**, прым. ◘ 1. Афарбаваны ў які-небудзь колер, не чорны і не белы; рознакаляровы; рус. цветной. 2. Пра людзей з чорнай і жоўтай скурай. Каляровае насельніцтва. 3. Які мае адносіны да вытворчасці ўсіх металаў, акрамя жалеза. Каляровая металургія.

**Камбайн**, наз., м. р., -а. ◘ Складаная машына, якая адначасова выконвае работу некалькіх машын. Збожжаўборачны камбайн жне, малоціць, валкуе.

**Камель**, наз., м. р., камля. ◘ Ніжняя патоўшчаная частка дрэва; тоўсты канец бервяна; калода, адрэзаная ад ствала дрэва; камлюк. Дубовы камель.

**Камета**, наз., ж. р., ДМ камеце. ◘ Нябеснае цела ў выглядзе туманнасці з яркім ядром і светлай паласой у форме хваста. - Эх, Яська, брат, ідзе камета! Прапалі мы — сканчэнне света! — Антось гаворыць, чуць не плача. — Прапаў ты, Яська-небарача... К-с.

**Камізэлька**, наз., ж. р., ДМ -льцы. ◘ Кароткае мужчынскае адзенне без рукавоў і каўняра, якое надзяваюць пад пінжак, фрак; рус. жилетка.

**Камінак**, наз., м. р., камінка. ◘ Выемка ў печы, дзе раскладалі агонь для асвятлення ў хаце. ...Ён [бацька] там [на печы] драмаў, цяпер падняўся І сам у гутарку ўмяшаўся, Каля камінку стаўшы збоку. К-с.

**Камора і каморка**, наз., ж. р., ДМ -ры і -рцы. ◘ 1. Халоднае памяшканне хаты для захоўвання запасаў ежы і хатніх рэчаў. Як верашчака ў дно спадала, То маці есці пакідала Ды йшла ў камору па другое, Яшчэ больш смачнае, ядкое. К-с. 2. Бакоўка ў вясковай хаце, дзе звычайна спяць. 3. Даўней: кантора пры лясніцтве. У той жа дзень, праз час каторы, Прыйшоў сюды Марцін з каморы... К-с.

**Каморнік**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст па межаванні зямельных надзелаў. Панскія к'аморнікі перамервалі зямлю так, каб селяніну пры пал а паменш і самае горшае. М. Л.

**Камяніца**, наз., ж. р. ◘ І.Каменны або цагляны будынак; рус. каменное строение. На камяніцы камяніца, Не згледзіш неба край за імі І цісnуць сценамі сваімі. К-с. 2. Пра камяністую глебу. Гэта была не зямля, а пустэча, страшэнная камяніца. 1. К.

**Канапа**, наз., ж. р. ◘ Від мяккай мэблі для сядзення і ляжання са спінкай і падпакотнікамі; рус. диван.

**Канапаціць**, канапачу, канапаціш, канапаціць; незак. ◘ Затыкаць дзіркі, шчыліны пакуллем, мохам і пад. Канапаціць вокны.

**Канаць**, -аю, -ееш, -ае; незак. ◘ 1. Паміраць у пакутах, канчацца; рус. отходить. - Ой, свечку, свечку: ён канае! — На твары след пякельнай мукі, На грудзі палі яго [Міхала] рукі. К-с. 2. Набліжацца да канца; рус. угасать. Канае дзень, нікне ў рэдкай смузе.

**Канстытуцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Асноўны закон дзяржавы. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. 2. Будова арганізма, склад цела. Канстытуцыя чалавека.

**Кантраст**, наз., м. р., -у. ◘ Рэзкая процілегласць. Кантраст паміж дабром і злом.

**Кантраставы**, прым. ◘ Рэзка процілеглы. Кантраставыя колеры. Кантраставыя з'явы.

**Кантроль**, наз., м. р., -ю. ◘ 1. Праверка ці назіранне з мэтай праверкі. Кантроль за якасцю прадукцыі. 2. Установа або арганізацыя, якая кантралюе чыю-небудзь дзейнасць. Дзяржаўны кантроль ведаў.

**Кантэкст**, наз., м. р., -у. ◘ Урывак тэксту, які дазваляе вызначыць сэнс кожнага слова ці выразу, што ў яго ўваходзяць. Настаўнік прапанаваў вучням вызначыць сэнс слова ў кантэксце.

**Кантычка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Зборнік каталіцкіх царкоўных песень і кантаў (хваласпеваў урачыстага свецкага або царкоўнага зместу). ...Сядзелі згодна і набожна І спеў святы вялі заложна, Вачэй не зводзячы з кантычкі. Часамі тут былі і стычкі, Калі спеў новы зачыналі Ды ў тон агульны не траплялі. К-с.

**Канфлікт**, наз., м. р., -у. ◘ Сутыкненне процілеглых бакоў, поглядаў, сіл, сур'ёзная спрэчка, нязгода. Міжнародны канфлікт. У аснове апавядання — канфлікт паміж добрымі і злымі, праўдай і няпраўдай.

**Капа**[1], наз., ж. р. ◘ Невялікі стажок; рус. копна. А глянь на луг пад вечар, браце! Увесь, як ёсць, ва ўсім ахваце, Па ўсіх грудах аж за дарогу Устаўлен копамі мурогу... К-с.

**Капа**[2], наз., ж. р. ◘ Даўнейшая адзінка лічэння: 60 штук чаго-небудзь. Капа арэхаў. Капа снапоў.

**Капальня**, наз., ж. р. ◘ Месца падземнай або адкрытай распрацоўкі карысных выкапняў; руднік; рус. копь. Саляныя капальні пад Салігорскам.

**Капаніца**, наз., ж. р. Абл. ◘ Матыка; прылада для ручной копкі бульбы ці акучвання раслін.

**Капёж**, наз., м. р., капяжу і капяжа. ◘ 1.-у. Кроплі дажджу або талага снегу, якія падаюць са стрэх; ледзяшы на стрэхах; рус. капель. 2. -а. Ніжні край страхі, даху, які выдаецца над сцяной. У вокны дождж буйны зазвоніць І з капяжоў руччом сцякае, І снег жыўцом

ён паядае. К-с. 3. -а. Месца падзення кропель са стрэх. Кроплі звонка падаюць у капяжы.

**Капец**, наз., м. р., капца. ◘ 1. Куча агародніны, пакрытая ад марозу саломай і прысыпаная зверху зямлёй; рус. бурт. 2. Насып са слупам як межавы знак. Але праведзена граніца, На ёй пастаўлены капец, Парог палажаны — канец! К-с. 3. Насып, курган, звычайна надмагільны. Над гэтым салдацкім капцом дарагім Прашу аднагодкаў: праверце, Ці не зараслі дзе да родных магіл Сцяжыны — у полі і ўсэрцы. Н. Г.

**Капліца**, наз., ж. р. ◘ Невялікая цэркаўка без алтара; малельня; рус. часовня. У Мінску пры храме Марыі Магдаліны пабудавана капліца ў памяць усіх святых беларускіх.

**Каптур**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Дзіцячы або жаночы галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам і пакідае адкрытым толькі твар. 2. Невялікі дах, заслона, навес конусападобнай формы. 3. Верх печы ў выглядзе дзвюх сценак над ляжанкай.

**Капыл**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак; памянш.-ласк. капылочак; рус. колодка. ...Начасаў сухога клёну, абчасаў калодкі роўна і зрабіў два капылочкі на дзяўчыніны слядочкі. У. Д. 2. Адзін з кароткіх драўляных брускоў, які ўстаўляецца ў палазы саней і служыць апорай для кузава.

**Капялюш**, наз., м. р., капелюша. ◘ Галаўны ўбор з палямі і высокім верхам; рус. шляпа.

**Ка́ра**, наз., ж. р. ◘ Суровае пакаранне за правіннасць, злачынства; рус. наказание. Злачынцаў заўсёды спасцігне кара.

**Кара́**, наз., ж. р. ◘ 1. Паверхня ствала, галін, караня дрэў. Здымаць кару з ліпы. 2. Верхні цвёрды слой на нечым. Ледзяная кара лужыны.

**Карабейнік**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Даўней: дробны гандляр, які насіў па вёсках свае тавары. Пра карабейнікаў Някрасаў напісаў верш, які стаў любімай народнай песняй.

**Карабок**, наз., м. р., -бка. ◘ Каробка для запалак, алоўкаў і пад.

**Каравай**, наз., м. р., -я. ◘ Круглы пшанічны пірог, спечаны для нейкай урачыстасці. Вясельны каравай. □ На чужы каравай вачэй не парывай. Прык. (рус. Чужой обед сладок, да непрочен).

**Каравайніца**, наз., ж. р. ◘ Жанчына, якая прымае ўдзел у выпечцы і дзяльбе каравая на вяселлі. Каравайніцы ўнеслі на ручніках вялізны, якрэшата, каравай. В. В.

**Карагод**, наз., м. р., -а. ◘ Масавая народная гульня; дзіцячы танецгульня; рус. хоровод. Вадзіць карагод вакол ёлкі. □ Не

выбірай дзеўку ў карагодзе, а шукай у агародзе. Прык. (рус. С лица воду не пить).

**Карак**, наз., м. р., карка. ◘ Задняя частка шыі ў жывёлы і чалавека. Як пайшоў у сварку, то не шкадуй карку. Прык. (рус. Пустился в драку — головы не жалей.)

**Каралеўна**, наз., ж. р. ◘ Дачка караля. Справілі вяселле, і стаў сіраціна Янка мужам каралеўны. А. Я.

**Каралі**, наз., адз. караля, ж. р. ◘ Упрыгожанне з каралавых ці іншых каштоўных камянёў, якое надзяваецца на шыю; рус. бусы. // перан. Пра ўсё, што нагадвае такое ўпрыгожанне. На полымя ўпалі Дзве расінкі — дзве каралі. П. П.

**Каран**, наз., м. р., Карана. ◘ Свяшчэнная кніга мусульман. Для людзей розных веравызнанняў павінна стаць знамянальным тое, што палажэнні Карана не супярэчаць палажэяням Бібліі, як і наадварот.

**Каржакаваты**, прым. ◘ 1. Нізкі, з тоўстым сукаватым ствалом (пра дрэва); рус. коренастый. 2. Невысокі, шыракаплечы, моцны; карчавіты (пра постаць чалавека).

**Карміцелька**, наз., ж. р., ДМ -льцы. ◘ 1. Пра таго, хто корміць; пра ўсё тое, што з'яўляецца сродкам для пражыцця, крыніцай даходу. Зямля-карміцелька. 2. Жанчына, якая корміць грудзьмі чужое дзіця; рус. кормилица. Даўней дваране наймалі для сваіх немаўлят карміцелек.

**Карпарацыйны**, прым. ◘ Вузкагрупавы, адасоблены паводле прафесійных, саслоўных і пад. інтарэсаў; рус. корпоративный. Карпарацыйная вечарына.

**Карункі**, наз., адз. няма. ◘ Ажурныя, сятчатыя вырабы з ільняных, шаўковых і інш. нітак для аздобы бялізны, адзення; тое, што сваім выглядам нагадвае такі выраб; рус. кружева. Карункі на сукенцы. Карункі зімы.

**Каршак і коршак**, наз., м. р., -а і -а.◘ Драпежная птушка сямейства ястрабіных з кручкаватай дзюбай і доўгімі вострымі кіпцюрамі; ястраб. У нашых лясах водзяцца драпежныя птушкі: каршакі, совы, пугачы, каршуны.

**Каршэнь**, наз., м. р., -шня. ◘ Разм. 1. Карак, хіб; рус. шея. Назаўтра летуна з машынай адшукалі і, даўшы ў каршэнь, прагналі. У. К. 2. Удар, кухталь; рус. подзатыльник. Злодзею надавалі каршнёў. 3. Каўнер. Цягнуць за каршэнь.

**Карчма**, наз., ж. р., мн. кбрчмы. ◘ Заезны дом з начлегам у дарэвалюцыйнай Расіі (галоўным чынам на Украіне, Беларусі і Польшчы); рус. трактир; кабак. Корчмамі ды астрогамі трымалі

заваёўнікі беларускі народ у рабстве, які да іх не ведаў такой бяды, як п'янства.

**Карчомка**, наз., ж. р., ДМ -мцы. ◘ Памянш.-ласк. да карчма; невялікая карчма. Падышоў Сымон — карчомка Са стадопай і дваром. К-с.

**Каршун**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікая драпежная птушка сямейства ястрабіных з доўгімі крыламі. ♦ Каршуном налящець — раптоўна і імкліва накінуцца, напасці на некага са злосцю.

**Карыслівы**, прым. ◘ Які мае на мэце выгаду, заснаваны на карысці; рус. корыстный. Карыслівы чалавек без сваёй выгады не дапаможа другому ў бядзе.

**Карысны**, прым. ◘ Які прыносіць карысць; рус. полезный. Не трэба ігнараваць карысныя заўвагі.

**Карыстацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Выкарыстоўваць для сваіх патрэб; рус. пользоваться. Карыстацца бібліятэчнымі кнігамі. 2. Атрымліваць выгаду, карысць з нечага. Карыстацца момантам. 3. Мець нешта (аўтарытэт, павагу). Карыстацца папулярнасцю.

**Карысць**, наз., ж. р. ◘ Добры вынік; матэрыяльная выгада; рус. польза, корысть. Мець карысць з уласнай працы. □ Упартая каза ваўку на карысць. Прык. (рус. Упрямый, что лукавый: ни Богу свечка, ни черту кочерга).

**Карыфей**, наз., м. р., -я. ◘ Выдатны дзеяч у якой-небудзь галіне. Карыфей навукі.

**Карыятыда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Статуя жанчыны, якая служыць калонай, апорай перакрыцця. Палац з карыятыдамі.

**Карэкцыя**, наз., ж. р. ◘ Выпраўленне, частковае змяненне чаго-небудзь. Карэкцыя зроку. Школьны лагапед займаецца карэкцыяй вымаўлення.

**Касаваць**, касую, касуеш, касуе; незак. ◘ 1. Выкрэсліваць, закрэсліваць; рус. зачеркивать, черкать, вымарывать. Рэдактар правіў тэкст, мяняў словы і выразы, касаваў цэлыя фразы. 2. перан. ■ Уздзейнічаць, здзіўляць, ашаламляць нечым некага; рус. сражать. Касаваць усіх сваім красамоўствам.'3. Адмяняць, ліквідаваць, спыняць дзеянне нечага; рус. упразднять; расторгать. Касаваць дагавор. Касаваць шлюб.

**Касавіца**, наз., ж. р. ◘ Час касьбы; рус. сенокос. За дзень, за два да касавіцы Звіняць, гамоняць вакаліцы На ўсе лады, на ўсе галосы — Пайшлі кляпаць і ладзіць косы. К-с.

**Касавурыцца**, -вуруся, -вурышся, -вурыцца; незак. Разм. ◘ 1. Глядзець скоса, убок; касіцца. Конь недаверліва касавурыўся і

стрыг вушамі. 2. перан. Недружалюбна, падазрона, варожа ставіцца да некага; рус. косо смотреть.

**Каскад**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Вадаспад з уступамі. 2. перан. Вялікае мноства, багацце, імклівы паток нечага. У аповесцях А. Федарэнкі цэлы каскад таямніц і прыгод.

**Кастрыца**, наз., ж. р. ◘ Адходы ад пераціранне адзеравянелых частак сцябла пры мяцці і трапанні валакністых раслін (лёну, канапель і інш.). Лён трапалі церніцай, а кастрыцай потым перасыпалі зімовыя яблыкі на гарашчы.

**Кастрычнік**, наз., м. р., -а. ◘ Дзесяты месяц года; рус. октябрь. Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць. З нар.

**Касцёл**, наз., м. р., -а. ◘ Каталіцкі храм.

[Дзядзька:] — Ото, брат, горад! от дамішчы,
Ото дзе сыпалі грашышчы!
Якія вежы і касцёлы!
Як толькі іх трымаюць долы!.. К-с.

**Касцяніцы**, наз., адз. касцяніца, ж. р. ◘ 1. Лясная ягадная расліна сямейства ружакветных; касцянка; рус. костяника. 2. Ярка-чырвоныя кіслыя ягады гэтай расліны.

**Кат**, наз., м. р., ката. ◘ Той, хто ўчыняе кару; хто катуе, мучыць; жорсткі прыгнятальнік; рус. палач. Цараваў там кат пракляты, нават горшы сам за ката. Ён душыў народу многа у астрогах, без астрогаў. У. Д.

**Катаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Моцна, балюча біць, жорстка мучыць. II перан. Дакараць, прымушаць пакутаваць. Цяпер нас катуеш, можа калі і сам патанцуеш. Прык. (рус. Отольются кошке мышкины слезки).

**Катаклізм**, наз., м. р., -у. Кніжн. ◘ Нечаканы разбуральны пераварот у прыродзе або грамадстве; катастрофа. Рэвалюцыйны катакпізм.

**Катрынка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Невялікі пераносны арган у выглядзе скрынкі, на якім igралі вандроўныя музыкі; рус. шарманка. ♦ Завесці катрынку — пачаць дакучлівую размову, гаварыць адно і тое ж.

**Катурхаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Штурхаць, разварушваць некага, прымушаючы ачнуцца, прыйсці да памяці; рус. тормошить. // перан. Узбуджаць, узрушаць, актывізаваць; рус. будоражить. Катурхаць думкі і сонны спакой абыякавых людзей.

**Катух**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Маленькі хлеў або адгароджанае месца ў хляве; закуток. 2. Пра цёмны малы пакой або хату; рус. конура. Каралеўну ў такі катух не прывядзеш — рана яшчэ жаніцца.

**Катэгарычны**, прым. ◘ 1. Які не церпіць пярэчання, настойлівы ў сваіх меркаваннях, нецярпімы да чыіх-небудзь меркаванняў. Заувважай а, што катэгарычнымі бываюць недапёкія і пыхлівыя людзі. 2. Рашучы, неаспрэчны. Катэгарычнае патрабаванне.

**Катэхізіс**, наз., м. р., -а. ◘ Кніга, у якой сцісла выкладзена хрысціянскае веравучэнне ў форме пытанняў і адказаў. «Катэхізіс», выдадзены Сымонам Будным, — першая беларуская кніга на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

**Каўбаса і кілбаса**, наз., ж. р., мн. каўбасы і кілбасы. ◘ Прадукт харчавання з асоба прыгатаванага мясного фаршу ў кішачнай або штучнай абалонцы. ...Тут сыр, як першы снег бялюткі, Каўбас прыемнейшыя скруткі, Што толькі ёсць у Беларусі. К-с.

**Каўзота**, наз., ж. р., ДМ каўзоце. ◘ Слізгота; рус. скользота.

**Каўнер**, наз., м. р., -няра; памянш.-ласк. каўнёрык. ◘ Верхняя частка адзення, якая прылягае да шыі; рус. воротник. Чужы роцік не каўнерык — яго не зашпіліш. Прык. (рус. На чужой роток не накинешь платок). ♦ Браць за каўнер — прыцягнуць да адказнасці.

**Каўтун**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Хвароба скуры на галаве, пры якой валасы наліваюцца крывёй і зблытваюцца, зліпаюцца ў адзін тугі камяк; рус. колтун. Каўтун — страшная хвароба, прыкмета беднасці і галечы паднявольнага беларускага народа ў царскай Расіі, пра што пісаў яшчэ М. Някрасаў: Видишь, стоит, изможден лихорадкою, Высокорослый, больной белорус: Губы бескровные, веки упавшие, Язвы на тощих руках, Вечно в воде по колено стоявшие Ноги опухли, колтун в волосах... 2. Зблытаны, збіты пук валасоў, поўсці і пад.

**Кафейня**, наз., ж. р. ◘ Кафэ.

**Кафетэрый**, наз., м. р., -я. ◘ Кафейня з сістэмай самаабслугоўвання.

**Кафля**, наз., ж. р. ◘ Керамічны выраб для абліцоўкі сцен і печаў у выглядзе пліткі, вугла, часткі карніза; рус. кафель, изразец.

**Каханне**, наз., н. р. ◘ Вялікае сардэчнае пачуццё да пэўнай асобы процілеглага полу; рус. любовь. Той і шчаслівы, хто зведаў каханне... П. П. // Пра чалавека, які выклікае такое пачуццё. Цяжка ўздыханне — далека каханне. Прык. (рус. Не мил свет, когда милого нет).

**Кацьмак**, наз., м. р., -а. ◘ Неахайны, брудны, негаспадарлівы чалавек; лянотнік. Жылі па-свінску, кацьмакамі І ў добрай згодзе з прусакамі. К-с.

**Качарга**, наз., ж. р., ДМ качарзе, мн. качэргі (з ліч. 2, 3, 4 качаргі), качэрг і качэргаў. ◘ Жалезны прут, сагнуты на канцы, для перамешвання паліва ў печы, выграбання попелу і пад.

**Качка**, наз., ж. р., ДМ качцы. ◘ Вадаплаўная птушка з шырокай пляскатай дзюбай і кароткімі, шырока расстаўленымі лапкамі; рус. утка. Дзікая качка. ♦ Ні качка, ні швачка — пра жанчыну, не здатную ні да якой справы. ♦ Няхай яго (яе, іх, цябе, вас) качкі затопчуць (стопчуць) (жарт.) — выражае незласлівае здзіўленне, захапленне. Які ты, хлопча, нецярпячка, Няхай цябе затопча качка! — Гаворыць дзядзька на хлапчынку. К-с.

**Кашара**, наз., ж. р. ◘ 1. Загон, агароджанае месца ў полі, у лесе, дзе летам трымаюць жывёлу. На тым беразе Прыпяці, на лузе, кашара, і адтуль [на лодках] з удоем вяртаюцца даяркі. Б. С. 2. Уст. толькі мн. (кашары). Казарма.

**Кашмір і кашамір**, наз., м. р., -у. ◘ Тонкая мяккая шарсцяная, напаўшарсцяная або баваўняная тканіна. Хустку з кашміру называюць кашміроўкай.

**Каштаваць**[1], -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Мець тую ці іншую цану, грашовую вартасць; рус. стоить. Кніга каштуе дзесяць тысяч рублёў. 2. Патрабаваць пэўных намаганняў. Вызваліць з бяды, чаго б там ні каштавала. Гэта каштавала шмат здароўя.

**Каштаваць**[2], -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Спрабаваць на смак; рус. пробовать. Каштаваць страву. 2. перан. Зазнаваць, пераносіць. Каштаваць гора.

**Каштарыс**, наз., м. р., -а. ◘ Разлік выдаткаў і прыбыткаў; рус. смета. Скласці каштарыс.

**Каштоўны**, прым. ◘ 1. Які дорага каштуе, мае вялікую цану; рус. ценный. Залатаносны пясок прамываўся на аўчыне — пясок зносіла вада, а часцінкі каштоўнага металу заставаліся ў поўсці. Э. С. 2. Вельмі патрэбны; які мае важнае, істотнае значэнне. Каштоўная парада. Каштоўная якасць.

**Кашуля**, наз., ж. р. ◘ Сарочка, рубашка. Вышытая кашуля з ільнянога палатна — асноўная частка народнага адзення беларусаў.

**Кашэль**, наз., м. р., кашаля. ◘ Кош, сплецены з лазы ці карэння. Кашалі з бульбай.

**Каяцца**, каюся, каешся, каецца; незак. ◘ 1. Прызнаваць сваю віну, памылку перад кім-небудзь. 2. Усвядоміўшы сваю памылку, шкадаваць пра зробленае. 3. Прызнавацца ў сваіх грахах, спавядацца ў царкве.

**Квадра**, наз., ж. р. ◘ Кожная з чатырох фаз Месяца (маладзік, сход, поўня, ветах).

**Квактуха і квахтуха**, наз., ж. р., ДМ -тусе. ◘ Курыца, якая выседжвае або водзіць куранят; рус. наседка. Квактуха голасна квактала, А кураняткі чарадою Паслушна ўсюды йшлі за ёю. К-с.

**Кваціцца**, -плюся, -пішся, -піцца; незак. ◘ Мець жаданне, імкнуцца завалодаць нечым; рус. зариться; покушаться. Кваціцца на чужое — парушаць адну з дзесяці Божых запаведзяў. □ Не ідуць на прынаду ні воўк, ні ліс. Заяц на канюшыну не кваціцца. Я. Е.

**Кварта**, наз., ж. р., ДМ кварце. ◘ Даўнейшая мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы гарца, або прыблізна 0,7 літра. Кварта жыта. II Металічны кубак, роўны прыблізна гэтай меры. Разліць па квартах малако.

**Квартал**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чацвёртая частка года (3 месяцы). Трэці квартал — ліпень, жнівень, верасень. Выпісаць газеты на чацвёрты квартал. 2. Частка горада, абмежаваная некалькімі перакрыжаванымі вуліцамі. // Разм. Частка вуліцы паміж двума скрыжаваннямі. Прайсці два кварталы.

**Квартэт**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Ансамбль з чатырох выканаўцаў. Струнны квартэт. 2. Музычны твор для чатырох інструментаў або для чатырох галасоў.

**Кватэра**, наз., ж. р. ◘ 1. Частка жылога дома, якая складаецца з некалькіх пакояў і мае асобны выхад; жыллё наогул; памяшканне, якое наймаецца для жылля. Двухпакаёвая кватэра. Жыць на кватэры. □ А Мурашка ля кватэры Узяла ў паход сякеру. У. Д. 2. Уст. Лясніцтва, памяшканне, дзе жыў ляснічы. Міхал ступіў на двор кватэры З душою, згрызенай без меры... К-с.

**Кветка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Травяністая расліна, якая прыгожа і пахуча цвіце; рус. цветок. У Сонца кветнік быў вялікі, а кветак-зорак там без ліку. У. Д.

**Кветнік**, наз., м. р., -а. ◘ Градка, клумба або агародчык, дзе растуць кветкі; рус. цветник. І Месяц кветнік меў цудоўны, а ў ім таксама кветак поўна. У. Д.

**Квецень**, наз., ж. р., зб. ◘ Кветкі на дрэвах у час цвіцення; рус. цвет. Хаты хаваюцца ў белай квецені.

**Квітнець**, -ею, -ееш, -ее; незак. ◘ 1. Цвісці. Сады квітнеюць. 2. перан. Паспяхова развівацца; працвітаць. Квітней, дарагая наша Беларусь!

**Квіток**, наз., м. р., квітка. ◘ Афіцыйная распіска ў атрыманні ад каго-небудзь грошай або каштоўнасцяў; квітанцыя, талон. Выпісаць квіток. Паштовы квіток.

**Кволы**, прым. ◘ 1. Фізічна не развіты, хваравіты; рус. болезненный. Кволае птушаня. II Які дрэнна расце (пра расліны); рус. хилый. Кволая расада. II Маладзенькі, далікатны; рус. нежный. Кволыя лісточкі. 2. Невялікі па сіле. Кволы ветрык. 3. Нетрывалы. Кволае крэсла. 4. перан. Слабы, нязначны. Кволае спадзяванне.

**Квяцісты**, прым. ◘ 1. Пакрыты кветкамі; рус. цветистый. Квяцісты луг. 2. З узорам у кветкі; яркі, каляровы; рус. цветастый. Квяцістыя шпалеры.

**Келіх**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікая высокая чарка; рус. бокал, чаша. Келіхі з шампанскім.

**Кемлівы**, прым. ◘ Які ўсё хутка і легка разумев, засвойвае; кемны, здагадлівы, цямкі; рус. сообразительный. Кемлівы хлопец. ІІ Разумны, абдуманы. Кемлівы ход.

**Кепскі**, прым. ◘ Нядобры, дрэнны; рус. плохой.

**Кіёск**, наз., м. р., -а. ◘ Невялікая лёгкая будыніна для дробнага гандлю. Газетны кіёск.

**Кій**, наз., м. р., кія. ◘ 1. Прамая тонкая палка. Выламаць кій. ІІ Палка для апоры пры хадзьбе. Абапірацца на кій. 2. Палка для гульні ў більярд. ♦ У старца кій адабраць — забраць у беднага апошняе.

**Кілім**, наз., м. р., -а. ◘ Шарсцяны бязворсавы дыван ручной работы; рус. ковер. Навучыўся кілімы ён [падзішах] добрыя ткаць, і выходзіў з работы кілім за дзён пяць. У. Д.

**Кілішак**, наз., м. р., кілішка. ◘ Невялікая шкляная пасудзіна на ножцы; чарка; рус. рюмка.

**Кіпень**, наз., м. р., -ю. ◘ Вар, вада ў час кіпення; рус. кипяток.

**Кіпцюр і капцюр**, наз., м. р., -а. ◘ Востры загнуты рагавы прыдатак на пальцах птушак, многіх паўзуноў і млекакормячых; рус. коготь. А бедны воўк, вадой падцяты, Скрабе па лёдзе кіпцюрамі. К-с.

**Кіраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ 1. Рэгуляваць ход, рух, працу некага, нечага; рус. управлять. Кіраваць машынай. Кіраваць канем. 2. Быць на чале нечага, накіроўваць дзейнасць некага, нечага; рус. руководить. Кіраваць дзяржавай. Кіраваць гаспадаркай. 3. У граматыцы: патрабаваць пасля сябе пэўнага ўскоснага склону. Пераходныя дзеясловы кіруюць вінавальным склонам.

**Кіраўніцтва**, наз., н. р. ◘ 1. Дзейнасць па кіраванні некім, нечым; рус. руководство. Умелае і мудрае кіраўніцтва дзяржавай. 2. Адміністрацыя, кіраўнікі якой-небудзь установы, а таксама будынак, дзе знаходзіцца орган кіравання; рус. управление. Кіраўніцтва аграпрамысловага комплексу «Сноў».

**Кірза**, наз., ж. р. ◘ Заменнік скуры: шматслойная баваўняная тканіна з кручаных нітак, насычаная спецыяльным хімічным рэчывам.

**Кірзачы**, наз., адз. няма. Разм. ◘ Боты з кірзы. Ты, нявольнік, вольны выбраць путы, Пасталы змяніць на кірзачы. Р. Б.

**Кірмаш**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Вялікі святочны базар з народным гуляннем. Асеннія кірмашы сталі традыцыйнымі ў нашай краіне. 2. Выстава-продаж тавараў, што праводзіцца ў пэўную пару года ў

вызначаным месцы; рус. ярмарка. Лейпцыгскі кірмаш. Кніжны кірмаш.

**Кірпаты**, прым. ◘ 1. Кароткі і задзёрты (пра нос). 2.З кароткім і задзёртым носам; рус. курносый. Кірпаты хлопец.

**Кірунак**, наз., м. р., кірунку. ◘ 1. Лінія руху; напрамак; рус. направление. Самалёт узяў кірунак на поўнач. 2. перан. Шлях развіцця нейкага дзеяння, з'явы. Кірунак дзяржаўнай палітыкі на ўмацаванне сям'і.

**Кірыліца**, наз., ж. р. ◘ Старажытная славянская азбука, якая лягла ў аснову беларускага, рускага, украінскага і іншых алфавітаў. [Ад імя славянскага асветніка IX ст. Кірылы, які склаў гэту азбуку.]

**Кітаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Замазваць шчыліны паміж шыбай і рамай вязкім рэчывам, кітам.

**Кішэнь і кішэня**, наз., ж. р. ◘ 1. Частка адзення ў форме прышытага або ўшытага мяшочка для дробных рэчаў і грошай; рус. карман. Нагрудная кішэнь. 2. перан. Дабрабыт, багацце, грошы. [.Антось:] Купляй, заплюшчыўшы хоць вочы, Ды колькі грошай ён [Хадыка] захоча? Ці будзе, брат, нам па кішэні? Бо шчуплаваты нашы жмені... К-с.

**Клапатлівы**, прым. ◘ 1. Схільны да неспакойных думак пра нешта, паглыблены ў думкі; руплівы; рус. заботливый. Клапатлівы гаспадар. 2. Звязаны з турботамі, патрабуе турбот; рус. хлопотный. Клапатлівая справа.

**Клёцкі**, наз., адз. клёцка, ж. р., ДМ клёццы. ◘ Страва з цеста або дзёртай бульбы ў выглядзе галушачак, звараных у вадзе, супе або малацэ. ...А хто б яшчэ мог болей цяміць, Таму б адразу прыйшло ў памяць, Што дзядзька бульбу драў на клёцкі, Каб згатаваць не пажаноцку. К-с.

**Клікаць**, клічу, клічаш, кліча; незак. ◘ 1. Зваць, прасіць прыйсці або адгукнуцца. Клікаць на дапамогу. 2. Запрашаць. Клікаць у госці. 3. Называць нейкім імем, мянушкай. Аднак жа як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч. К. К. І помніцца мне першае каханне, З тых пор ніколі болей не кахаў Так шчыра і так лёгка і так сумна, Як я кахаў яе — адну дзяўчыну, Якую людзі клікалі Алесяй. Ар. К.

**Клунак**, наз., м. р., клунка. ◘ Дробныя рэчы, пажыткі, звязаныя хусткаю або складзеныя ў торбу; рус. котомка. Ходзіць восень з жоўтым клункам, Носіць дрэвам падарункі. М. Л.

**Клуня**, наз., ж. р. Абл. ◘ Будынак для складвання снапоў, сена; пуня; рус. сенной сарай.

**Клямка**, наз., ж. р., ДМ клямцы. ◘ Прыстасаванне у выглядзе рычажка, з дапамогай якога адчыняюць і зачыняюць дзверы, а так-

сама зашчапка, якая надзяваецца на прабой і прыцiскаецца замком; рус. скоба. Не забыць, як марозам злым Клямка пальцы пячэ балюча. Р. Б.

**Клясці**; кляну, клянеш, кляне; незак. ◘ Пасылаць праклёны, праклінаць. Здаўна людзі ведалі, што клясці — вялікі грэх.

**Клясціся**, клянуся, клянёшся, клянецца; незак. ◘ Даваць клятву, урачыста абяцаць. Клянемся мы — Радзімы чэсць і славу Цераз баі дастойна пранясём! А. Б-а. // Разм. Настойліва запэўніваць, пераконваць у нечым. Кляўся, што ведае дакладна.

**Кляштар**, наз., м. р., -а. ◘ Каталіцкі манастыр. Кідаліся ў вочы манастыры, кляштары, касцёлы, цэрквы, кірхі і капліцы са скульптурамі каталіцкіх святых. К-с.

**Кмен і кмін**, наз., м. р., -у. ◘ Шматгадовая расліна сямейства парасонавых з белымі або ружовымі кветкамі, а таксама насенне гэтай расліны, якое змяшчае эфірны алей (скарыстоўваецца як прыправа); рус. тмин. Хлеб з кменам.

**Кнігадрукаванне**, наз., н. р. ◘ Спосаб размнажэння кніг, заснаваны на прыціскантні паперы да пакрытай фарбай друкарскай формы, што ўзнаўляе тэкст і ілюстрацыі; рус. книгопечатание. Ф. Скарына — заснавальнік усходнеславянскага кнігадрукавання.

**Кнігарня**, наз., ж. р. ◘ Кніжны магазін.

**Кнот**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Спецыяльная стужка або ніць, якія служаць для гарэння ў газавай лямпе, свечцы, газніцы; рус. фитиль. 2. Шнур для перадачы агню на адлёгласць (пры падпальванні, узрыванні нечага). Хлопцы! Трымайцеся моцна, браточкі! Кнот запаліпі, паклалі мы ў бочку!.. У. Д.

**Княжанне**, наз., н. р. ◘ Кіраўніцтва, праўленне княствам. Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы Роскеітам княства Літоўскага, нашага краю, І называюць той век залатым. М. Г.

**Княжыч**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Малады сын князя.

**Князёўна**, наз., ж. р. ◘ Незамужняя дачка князя; рус. княжна.

**Князь**, наз., м. р., -я. ◘ Правадыр войска і правіцель вобласці ў феадальнай Русі. Полацкі князь. □ [Міхал:] Прагоніць вон -хай праганяе, А служба знойдзецца такая: Мяне сам князь у замку знае! К-с.

**Кола**, наз., н. р. ◘ 1. Круг, які круціцца на восі і прыводзіць у рух павозку, механізм; рус. колесо. 2. Група людзей, аб'яднаных нейкімі сувязямі, інтарэсамі; рус. круг. Знаецца толькі з людзьмі свайго кола.

**Колер**, наз., м. р., -у. ◘ 1-Светлавы тон нечага, афарбоўка; рус. цвет. Пунсовы колер. 2. У жывапісе — адценне фарбы, яе густата, яркасць; рус. колер.

**Колісь**, прысл. Разм. ◘ Тое, што і калісьці.

**Колькасць**, наз., ж. р. ◘ Лік, велічыня; рус. количество. Павелічэнне колькасці ападкаў.

**Комін**, наз., м. р., -а, мн. коміны і каміны. ◘ Труба для адводу дыму ўпечы.

**Комінак**, наз., м. р., -нка. ◘ Ласк, да комін. ...Над белым дахам, як карона, Красуе комінак чырвоны; Прыветна вокны пазіраюць, Бы вас у госці запрашаюць. К-с.

**Конаўка**, наз., ж. р., ДМ конаўцы. ◘ Металічная конусападобная пасудзіна з ручкай для піцця і набору вадкасці з вядра. Выпіць конаўку сырадою.

**Конік**[1], наз., м. р., -а. ◘ І.Дзіцячая цацка, падобная да каня; рус. лошадка. 2. Дзіцячая гульня — язда вярхом на палачцы. Гуляць у коніка.

**Конік**[2], наз., м. р., -а. ◘ Насякомае, якое скача і стракоча крыламі; рус. кузнечик. А на прагалінках на голых Гулянне конікаў вясёлых, І толькі ступіш там нагою — Так і заскачуць прад табою, Вось так і пырскнуць у надзем'е, Як бы сявец той сыпне сем'е. К-с.

**Конка**, наз., ж. р., ДМ концы. ◘ Гарадская рэйкавая дарога, па якой хадзілі вагоны на коннай цязе да з'яўлення трамвая; вагон такой дарогі. Праз горад хадзіла так званая конка — вагончыкі па рэйках вазілі коні. У. Д.

**Копанка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Шырокая выкапаная яма, запоўненая вадой; кар'ер, сажалка; рус. пруд.

**Корак**, наз., м. р., корка. ◘ Затычка для бутэлек і іншага падобнага посуду; рус. пробка.

**Корч**, наз., м. р., карча. ◘ 1. Пень, вывернуты з карэннем. Маўчы, як жаба ў карчы. Прык. (рус. Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами). 2. Куст бульбы, цыбулі, вывернуты з зямлі. А бульбоўнік сплёўся густа, Што ні корч — то бульбы кош. А. Б.

**Коска**[1], наз., ж. р., ДМ косцы. ◘ Памянш.-ласк. да каса (у знач. 'від дзявочай прычоскі); рус. косичка. Дзяўчынка з акуратна заплеценымі коскамі.

**Коска**[2], наз., ж. р., ДМ косцы. ◘ Памянш.-ласк. да каса (у знач. прылада працы). Ідуць касцы, звіняць іх косы, Вітаюць іх буйныя росы, А краскі ніжай гнуць галовы, Пачуўшы косак звон стапёвы. К-с.

**Коска**[3], наз., ж. р., ДМ косцы. ◘ Знак прыпынку (,), які раздзяляе ці выдзяляе словы, групы слоў і часткі складанага сказа; рус. запятая. Выдзеліць коскамі словазлучэнне.

**Коўдра**, наз., ж. р. ◘ Пасцельная рэч, якой накрываюцца; рус. одеяло.

**Коўзацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ Ссоўвацца са свайго месца, не ўтрымліваючыся на гладкай, слізкай паверхні; слізгацца, катацца; рус. скользить; кататься. [Дзядзька:] — Кажы смялей! Ну, думаць годзе, Ты ж любіш коўзацца на лёдзе!.. К-с.

**Кошт**, наз., м. р., -у. ◘ І.Вартасць нечага, выражаная ў грашах; рус. стоимость. 2. Чые-небудзь сродкі; рус. средства. На чый кошт жыць думаеш? ♦ За кошт чаго — выкарыстоўваючы нешта для нейкай мэты (рус. за счет чего).

**Кпіны**, наз., адз. няма. ◘ Злыя, абразлівыя жарты, насмешкі; рус. издевательство, насмешка. І смех там быў, былі і жарты, І кпіны едкія, і злосць. К-с.

**Кравец**, наз., м. р., краўца. ◘ Спецыяліст па шыцці адзення; рус. портной.

**Крадком**, прысл. ◘ Употай, скрытна; рус. украдкой.

**Краіна**, наз., ж. р. ◘ 1. Мясцовасць, тэрыторыя, край. Я моцна, моцна звязан з вамі, Малюнкі роднае краіны! К-с. 2. Дзяржава. Краіна Беларусь.

**Край**, наз., м. р., -ю. ◘ 1. Канцавая лінія, якая абмяжоўвае нейкую паверхню, а таксама частка паверхні, што прылягае да гэтай лініі. Край стала. Край неба. Край горада. 2. Мясцовасць, што вылучаецца нейкай адметнасцю; краіна. Палескі край. Партызанскі край. □ О, край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў! К-с. ♦ Край свету — вельмі далека.

**Краля**, наз., ж. р. Разм. ◘ Красуня, прыгажуня.

**Крама**, наз., ж. р. ◘ Магазін, лаўка. Каля адной крамы стукаюць у патэльні, каля другой звоняць косамі -пакупнікоў заклікаюць. А. Я.

**Крамяны**, прым. ◘ Цвёрды, сакавіты. Крамяны яблык.

**Кранаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Датыкацца, дакранацца да некага, нечага; рус. трогать. Крануць рукой. 2. Браць у рукі, карыстацца. Незнаемы, а тым больш падазроны прадмет кранаць нельга. 3. Парушаць чый-небудзь спакой; дакучаць, турбаваць. [Порхаўка:] Год праляжу на баку, абы мяне не краналі. І. Г. 4. перан. Хваляваць, расчульваць. Кранаюць сэрца родныя абрысы... І я з акна крычу: «Дзень добры, Мінск!» Я. П.

**Красавік**, наз., м. р., -а. ◘ Чацвёрты месяц года; рус. апрель. У красавіку дождж праходзіць, сонца грэе — тады ніхто не збяднее:

З нар. У красавіку з'яўляюцца першыя краскі-кветкі. Нездарма Ф. Скарына ў «Малой падарожнай кніжцы» для абазначэння красавіка ўжывае слова квецень.

**Красамоўны**, прым. ◘ 1. Які ўмее добра, прыгожа і пераканальна гаварыць; надзелены прамоўніцкім талентам; рус. красноречивый. 2. перан. Які пераканальна, наглядна пра нешта сведчыць. Красамоўныя лічбы. Красамоўны факт.

**Красці**, краду, крадзеш, крадзе; незак. ◘ 1. Употай браць, прысвойваць сабе чужое; рус. воровать. 2. Быць злодзеем. Лепей жабраваць, чым красці. Прык. (рус. Лучше по миру собирать, чем чужое брать). [Бацька:] — Большы — краў, сярэдні — вешаў. Хто з вас горшы, хто падлейшы? У. Д.

**Краска**, наз., ж. р., ДМ красцы. ◘ Тое, што і квётка. Эх, скошан луг, — і зніклі краскі, Бы тыя чары мілай казкі. К-с. А ў нас зямля — якую краску, Якую былку ні сарві — Кладзі да сэрца як лякарства І -здаравей, брат, і жыві! Н. Г.

**Красуня**, наз., ж. р. ◘ Прыгожая жанчына; прыгажуня; рус. красавица. Дык вось дзе жыве яна, гэта красуня! К-с.

**Кратаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Рухаць, варушыць; рус. шевелить. Ледзь кратаць параненай рукой. 2. Дакранацца да некага, нечага; чапаць; рус. трогать. Нельга кратаць незнаёмыя прадметы.

**Краты**, наз., адз. няма. ◘ Металічная рашотка на вокнах, дзвярах; агароджа з такіх рашотак; рус. решетка. ♦ За кратамі — у турме (быць, аказацца).

**Краявід**, наз., м. р., -у. ◘ Агульны выгляд мясцовасці, малюнкі прыроды; рус. пейзаж. Гарысты лагойскі краявід.

**Краязнаўства**, наз., н. р. ◘ Вывучэнне геаграфіі, гісторыі, эканомікі, культуры роднага краю, роднай мясцовасці; рус. краеведение.

**Кроза**, наз., ж. р., мн. крозы, кроз. Уст. ◘ Летуценне, мара. Ты прыпомні юнацкія крозы. Т. К.

**Крок**, наз., м. р., крбку. ◘ І.Адзін рух уперад, назад або ўбок, а таксама рух адной нагой уперад пры хадзьбе; рус. шаг. 2. Тэмп руху пры хадзьбе. Прыбавіць кроку. 3. перан. Дзеянне, учынак. Адзін толькі крок можа змяніць усё жыццё. 4. перан. Этап у развіцці чаго-небудзь. Крокі гісторыі складаюцца з чалавечых намаганняў.

**Кропка**, наз., ж. р., ДМ -пцы. ◘ 1. Маленькая круглая плямка, крапінка; метка, след ад уколу ці дакранання нечым вострым; рус. точка. Міхал ідзе, сляды чытае! Вось тут танюткі ланцужок Лёг так прыгожа на сняжок — То пара кропак, то дзве рыскі, Відаць, што мышкіны распіскі. К-с. 2. Знак прыпынку. У канцы апавядальнага

сказа ставіцца кропка. 3. Графічны значок (•) у тэлеграфным кодзе, на картах і планах, у матэматыцы, у нотным пісьме і пад. у якасці ўмоўнага абазначэння. Свішча рацыя таропка. На балонках рад у рад — І працяжнікі і кропкі: Баявы ідзе загад. П. П. 4. Месца, дзе размешчана нешта. Гандлёвая кропка. Кулямётная кропка.

**Кропля**, наз., ж. р. ◘ 1. Маленькая круглая часцінка якой-небудзь вадкасці; рус. капля. 2. перан. топькі адз. памянш.-ласк. кропелька. Самая малая колькасць нечага. Па кропельцы — рэчка, па травінцы — копка, а па копцы — стог. Прык. (рус. Копейка рубль бережет).

**Крот**, наз., м. р., крата. ◘ Невялікая млекакормячая жывёліна, прыстасаваная для жыцця пад зямлёй. Колькі крот зямлі капае, Мабыць, ён і сам не знае. У. Д.

**Кросны**, наз., адз. няма, красен і кросен, кроснаў. ◘ 1. Ткацкі станок. Ткаць на кроснах. 2. Ніцяная аснова, якая навіваецца на навой станка. Снаваць кроены. 3. Палатно, тканіна. Ткаць кроены. 4. перан., часцей памянш.-ласк. красёнцы. Павучкі наткалі павуціны Ды развесілі на сонцы Свае белыя красёнцы. К-с.

**Кругагляд**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Прастора, якую можна ахапіць позіркам; рус. кругозор. 2. перан. Аб'ём, шырыня ведаў, інтарэсаў і пад. Шырыня кругагляду настаўніка захапляла вучняў.

**Крупеня**, наз., ж. р. ◘ Крупяны суп; крупнік. Забеленая прасяная крупеня.

**Круцель**, наз., м. р., круцяля. ◘ Хітрун, махляр; рус. плут, мошенник. У народзе з пагардай ставяцца да круцялёў і прайдзісветаў. □ Бог не цяля, бачыць круцяля. Прык. (рус. Бог видит, кто кого обидит).

**Крывадушны**, прым. ◘ Няшчыры, прытворны, двудушны; рус. лицемерный.

**Крываўка**, наз., ж. р., ДМ крываўцы. ◘ Крывавы панос, дызентэрыя. Лячыцца ад крываўкі.

**Крываўнік**, наз., м. р., -у. ◘ Шматгадовая лекавая расліна з пёрыстымі рассечанымі лістамі і моцным пахам. Рыбачка падняла яго, схавала, Крываўнікам на ранах кроў спыняла. А. Л.

**Крывічы**, наз., адз. крывіч, м. р., -а; ж. р. крывічка. ◘ Усходнеславянскае племянное аб'яднанне VI-X стст., якое займала тэрыторыю верхняга цячэння Дняпра, Волгі, Заходняй Дзвіны, паўдиёвую частку басейна Чудскага возера. Полацкія крывічы.

**Крыга**, наз., ж. р., ДМ крызе. ◘ Ільдзіна на рацэ, на возеры. Бяжыць, шуміць вада ў лагчынах. І лёд уздуўся у азярынах, Дарогі ў полі ўсе псуюцца, Аб крыгі крыгі з шумам труцца. К-с.

**Крыгаход**, наз., м. р., -у. ◘ Рух лёду па цячэнні рэк вясной; рус. ледоход. На рэчцы крышацца ільдзіны, Убелай пене крыгаход. В. М.

**Крыж**, наз., м. р., крыжа. ◘ 1. Сімвал хрысціянскай рэлігії; рус. крест. З іменем Ефрасінні Полацкай звязана і стварэнне ў 1161 г. полацкім майстрам Лазарам Богшам паводле яе заказу нацыянальнай рэлікваі — крыжа. 2. Малітоўны жэст хрысціян рухам правай рукі. 3. Знак узнагароды, ордэн. Геройскі крыж. 4. перан. Пра цяжкі лес. Несці крыж пакуты.

**Крыжак**, наз., м. р., -а. ◘ Удзельнік крыжовых паходаў, які насіў на адзенні крыж з чырвонай тканіны; крыжаносец; рус. крестоносец.

**Крыніца**, наз., ж. р. ◘ 1. Натуральны выхад падземных вод на паверхню вады, а таксама вадаём, які ўтвараецца на гэтым месцы; рус. родник; ключ. Коціцца, ўецца далінкай крыніца, Б'ецца, плюскоча ў каменнях вадзіца. К-а. У крыніцу не носяць вадзіцу. Прык. (рус. В гости со своим самоваром не ходят). 2. перан. Тое, з чаго бярэцца, чэрпаецца што-небудзь і служыць асновай; рус. источник. Кніга — крыніца ведаў. Народная мова — крыніца моўных сродкаў пісьменніка. □ Не плюй у крыніцу: прыйдзеш па вадзіцу. Прык. (рус. Не плюй в колодец — пригодится воды напиться).

**Крыўда**, наз., ж. р., ДМ крыўдзе. ◘ 1. Несправядлівыя ўчынкі, паводзіны ў адносінах да некага, якія абражаюць, засмучаюць; рус. обида. Не рабі ніякай крыўды іншым. 2. Пачуццё горычы, выкліканае несправядлівасцю. Горкая крыўда падступіла да сэрца: усё пайшло на вецер. Р. Ш.

**Крыўдзіцель**, наз., м. р., -я. ◘ Той, хто крыўдзіў, крыўдзіць некага; рус. обидчик. Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун. К-а.

**Крыўдлівы**, прым. ◘ Які легка крыўдзіцца, бачыць крыўду там, дзе яе няма; рус. обидчивый. Крыўдлівы па натуры чалавек.

**Крыху**, прысл. ◘ 1. Мала, трошкі, нямнога; у невялікай колькасці. Выпіць крыху вады. 2. Чуць-чуць; у нязначнай ступені. Крыху адпачыць.

**Крышку**, прысл. ◘ 1. У невялікай колькасці; трошкі, нямнога; крыху; рус. немного. 2. У нязначнай ступені, чуць-чуць. Змрок крышку расступіўся.

**Крышталь**, наз., м. р., -я. ◘ 1. Цвёрдае цела, якое мае натуральную форму мнагагранніка; рус. кристалл. Крышталі солі. 2. Шкло высокага гатунку з асобым бляскам, якое моцна праламляе святло; рус. хрусталь. Мілавіцыны патомкі там [на шклозаводзе «Неман»] крышталь рыхтуюць тонкі. У. Д.

**Крэйда**, наз., ж. р., ДМ крэйдзе. ◘ Мяккі белы вапняк, які ужываецца для пабелкі, чысткі, пісання; мел. Пісаць крэйдай.

**Крэйсер**, наз., м. р., -а. ◘ Хуткаходны ваенны карабель з магутным артылерыйскім і ракетным узбраеннем. Крэйсер «Вараг».

**Крэмень**, наз., м. р., крэменю. ◘ Вельмі цвёрды мінерал, які раней выкарыстоўваўся для высякання агню. Цяпер крэмень выкарыстоўваецца ў керамічнай і шкляной прамысловасці. □ Пахадзіўшы ля камення, адшукаў ён моцны крэмень і нарэзаў ім узоры, а яны — зіхцяць, як зоры. У. Д.

**Крэпасць**, наз., ж. р. ◘ Умацаванне з пастаянным гарнізонам, прызначанае для кругавой абароны і доўгай барацьбы ва ўмовах аблогі. Абаронцы Брэсцкай крэпасці.

**Крэсіва**, наз., н. р. ◘ Кавалак сталі для высякання агню з крэменю; рус. огнйво.

**Крэсліць**, -лю, -ліш, -ліць; незак. ◘ Выкрэсліваць, перакрэсліваць, касаваць напісанае; рус. черкать, марать.

**Ксёндз**, наз., м. р., ксяндза. ◘ Святар у каталіцкім храме. .../ вёўразмову з такім жарам, Што бацьку ў хаце ўсе дазвання, Як бы ксяндза таго казанне, Так шчыра слухалі, маўчалі... К-с.

**Кубак**, наз., м. р., кубка. ◘ 1. Невялікая, звычайна з ручкай, парцалянавая ці іншая пасудзіна для піцця; рус. кружка. Кубак малака. 2. Каштоўная ваза, якая ўручаецца пераможцу ў спартыўным спаборніцтве як прыз. Пераходны кубак.

**Кудзеля**, наз., ж. р. ◘ Валакно лёну, канапель, падрыхтаванае для прадзення; рус. кудель. Прасці кудзелю.

**Кудысьці**, прысл. ◘ У нейкае месца, невядома куды; рус. куда-то.

**Кужаль**, наз., м. р., -ю. ◘ 1. Валокны ачэсанага лёну, а таксама ніткі з іх; рус. лён (очесанный). Прасці кужаль. Снаваць кужаль. 2. Тонкае палатно з такіх нітак; рус. холст. Ткаць кужаль.

**Кульбака**, наз., ж. р., ДМ -бацы. ◘ Палка з загнутым верхнім канцом для апоры пры хадзьбе; кульба; рус. трость.

**Кульгавы**, прым. ◘ З карацейшай ці балючай нагой. // у знач. наз. Хлуслівага лягчэй злавіць, чым кульгавага. Прык. (рус. Ложь не живуча, вранью короткий век).

**Куляць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ Валіць набок; пераварочваць, перакульваць; рус. бросать; опрокидывать. Лодку куляла з боку на бок. ♦ Чарку куляць — выпіваць.

**Кум**, наз., м. р., -а. ◘ Хросны бацька ў адносінах да бацькоў хросніка і да хроснай маці. Раі ўздужалі маладыя І мёду трохі нанасілі. Дык вось кумоў і запрасілі На гэты дзень падгледжваць пчолы. К-с.

**Кума**, наз., ж. р. ◘ Хросная маці ў адносінах да бацькоў хросніка і да хроснага бацькі. Уперавалку, як бы качка, У хату йдзе кума-сваячка. Тут гаспадыня выбягае, Ёй дзверы ў сені адчыняе. К-с.

**Кумпяк**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Бядровая частка свіной тушы; рус. окорок. Вэнджаны кумпяк. □ [Ганна:] — Ну закусеце ж, калі ласка! Вось проша сыру, проша мяска Ці кумпячка або каўбаскі... К-с. 2. Разм. Знешні бок верхняй часткі бядра; клуб. ...Япру к заможны, лапавухі Спацыраваў паміж платамі І смешна ўскідваў кумпякамі... К-с.

**Купалле**, наз., н. р. ◘ Старажытнае абрадавае свята, якое прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння, якое святкавалася ў ноч з 23 на 24 чэрвеня старога стылю. Язычніцкае свята Купалле яшчэ называюць Купала. □ Сёння Купала, заўтра Іван... З нар. песні.

**Купіна**, наз., ж. р. ◘ Грудок, кучка зацвярдзелай зямлі на нізкім або балоцістым месцы, аброслая травой, мохам; рус. кочка.

**Кураня і куранё**, наз., н. р., мн. кураняты. ◘ Птушаня курыцы; рус. цыплёнок.

**Курган**, наз., м. р., -а і -а. ◘ Высокі старадаўні магільны насып. Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, — Ўдзірванелы курган векавечны. К-а. Курган Славы — конусападобны земляны насып у гонар подзвігаў народа ў час Вялікай Айчыннай вайны.

**Куродым і курадым**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Густы едкі дым пры тленні, гарэнні без полымя; копаць, сажа. 2. Прылада для акурвання пчол дымам; дымар. Антось бярэ куродым, сіта, Глядзіць на гэты рой сярдзіта... К-с.

**Куртаты**, прым. ◘1. З кароткім хвастом (пра жывёл). Некаторыя пытаюць: «А чаму куртаты заяц?» Хто б ні быў там вінаваты, Заяц і цяпер куртаты. У. Д. 2. Недастатковага росту; малы, кароткі. Куртаты хвойнік.

**Кут**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Месца, дзе сыходзяцца ўнутраныя бакі прадмета; прастора паміж дзвюма сценамі; рус. угол. // Самае пачэснае месца за сталом на покуці. Сівой барадзе Месца на куце. Е. Л. 2. Жыллё, прыстанак, месца жыхарства («свой кут», «мець кут»). Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы! К-с. І тут у першы раз Міхала Вось гэта думка напаткала: Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, Каб з панскіх выпутацца пут... К-с.

**Куфар**, наз., м. р., куфра. ◘ Вялікая скрынка з векам і замком для захоўвання тканіны, адзення, каштоўнасцяў; рус. сундук.

**Куфэрак**, наз., м. р., куфэрка. ◘ 1. Невялікі куфар. 2. Дарожная скрынка, род чамадана, звычайна прыгожа аформленая; рус. сундучок; ларчик.

**Кухар**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто гатуе стравы; повар. А хлопцы проста збілісь з тропу І ў нейкім страсе і ў захопу На дзядзьку-кухара глядзелі, Як бы яны аслупянелі. К-с.

**Куцця**, наз., ж. р.◘ 1. Урачыстая вячэра напярэдадні Каляд, Новага года. ...Вячэру скончылі куццёю, Абы падатак той аддаць, Але ўжо елі без ахвоты, Стары звычай ушанаваць. К-с. 2. Дзень, у які адбываецца гэтая ўрачыстасць. …Снег на Куццю — грыбы на лета, Такая матчына прымета... К-с. 3. Каша з круп як традыцыйная абрадавая яда беларусаў і іншых усходнеславянскіх народаў. І вось цяпер гаршчок з куццёю, Як цар даўнейшаю парою, Ў пачэсны кут, на свой прастол, Стаўляўся з гонарам за стол. К-с.

**Кушнер**, наз., мір., кушняра. ◘ Спецыяліст па апрацоўцы шкур на футра і кажухі; рус. скорняк. Беларускія кушняры ў асноўным выраблялі аўчыны для пашыву кажухоў, паўкажухоў, шапак. БелЭн.

# Л

**Лабарант**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Навуковы ці тэхнічны супрацоўнік у лабараторыі. 2. Памочнік выкладчыка на лабараторных занятках.

**Лабараторыя**, наз., ж. р. ◘ Спецыяльна абсталяванае памяшканне для навуковых даследаванняў або вучэбных работ. Фізічная лабараторыя.

**Лабірынт**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У старажытнагрэчаскай міфалогіі: палац з мноствам пакояў і заблытаных хадоў, пабудаваны Дэдалам на востраве Крыт. 2. перан. Складанасць, заблытанасць у нечым. Лабірынты лесу.

**Лава**[1], наз., ж. р. ◘ Вялікі абшар, аднастайны масіў. Міхал падыдзе і прыстане І лаву жыцейка агляне... К-с.

**Лава**[2], наз., ж. р. ◘ Прадмет сялянскай мэблі — шырокая дошка на ножках для сядзення некалькім чалавекам. ...Памыты лавы, стол, падлога, А каля покуця святога Дзве сцены клёнамі убраны; Абрусам белым стол засланы... К-с.

**Лава**[3], наз., ж. р. ◘ Расплаўленая маса, якая вывяргаецца вулканам. Патокі лавы.

**Лава**[4], наз., ж. р. ◘ Баявы парадак конніцы для адначасовай атакі з флангаў і з тылу. Лава коннікаў.

**Лавіна**, наз., ж. р. ◘ 1. Маса снегу, лёду, якая падае з гор; снежны абвал. Грозная лавіна змятае ўсё на сваім шляху. 2^перан.

Імклівая, нястрымная маса каго-небудзь, чаго-небудзь. Лавіна разгневаных людзей — страшнае відовішча.

**Лавіраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ І.Плысці пад парусам супраць ветру, мяняючы напрамак; рухацца зігзагамі, каб абмінуць перашкоды. Сейнер умела лавіраваў паміж крыг. 2. перан. Прыстасоўвацца да абставін, умела выходзіць з цяжкага становішча, ухіляцца ад нечага. Гэты хлопец не ўмеў лавіраваць і заўсёды ішоў напралом. Л. А.

**Лага**, наз., ж. р., ДМ лазе. ◘ 1. Часовая падкладка пад што-небудзь у форме жэрдкі, нятоўстага бервяна. Перакачваць бярвенне па лагах. 2. Падваліна. Каб падлога не гніла, дошкі кладуць на лагі.

**Лагаптд**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст, які выпраўляе недахопы вымаўлення.

**Лагер**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Часовая стаянка, пасяленне. Ваенны лагер. Партызанскі лагер. Лагер лесарубаў. // Летнія загоны для жывёлы паблізу пашы. Утрыманне маладняку ў лагеры. 2. Месца ўтрымання ваеннапалонных ці зняволеных. Лагер ваеннапалонных. Канцэнтрацыйны лагер у Трасцянцы.

**Лагодны**, прым. ◘ 1. Дабрадушны, ласкавы. Лагодная мама. 2. Мяккі, прыемны, прыязны. Лагодны настрой.

**Лагчына**, наз., ж. р. ◘ Нізкае месца сярод узвышшаў; рус. ложбина. Спусціцца ў лагчыну.

**Лад**[1], наз., м. р., -у. ◘ 1. Сістэма дзяржаўных ці грамадскіх парадкаў; рус. строй. Першабытнаабшчынны лад. 2. Уклад жыцця. Тут гэты лад быў так збудован, Што на даносах быў аснован... К-с. 3. Згода, спакой, парадак. Было што есці, чым акрыцца, І быў парадак, лад у хаце. Ўжо з тым куткам зжылася маці... К-с. 4. Спосаб, манера; узор. На новы лад. На свой лад. □ ...На панскілад мяце-вальцуе, Ўсіх далікатнасцю касуе. К-с.

**Лад**[2], наз., м. р., -а. ◘ Адно з дзяленняў на грыфе струнных музычных інструментаў; клавіша гармоніка, баяна, клапан духавога інструмента. Прабегчы пальцамі па ладах.

**Лад**[3], наз., м. р., ладу. ◘ У граматыцы: форма дзеяслова, што выражае, якім з'яўляецца дзеянне — рэальным, абавязковым ці пажаданым; рус. наклонение. Абвесны лад. Загадны лад. Умоўны лад. Ладам, прысл. ◘ 1. Як трэба, парадкам. На працы ўсё ідзе ладам. 2. У згодзе, дружна. Жыць ладам. 3. Мірна, спакойна. Пагутарыць ладам.

**Ладан**, наз., м. р., -у. ◘ Пахучая смала некаторых трапічных дрэў (выкарыстоўваецца ў час рэлігійных абрадаў). ♦ Баяцца як чорт ладану — вельмі баяцца некага ці нечага.

**Ладзіць**, ладжу, ладзіш, ладзіць; незак. ◘ 1. Папраўляць, рамантаваць. Ладзь страху. □ Ладзь калёсы зімою, а сані летам. Прык. (рус. Готовь сани летом, а телегу зимой). 2. Настройваць музычны інструмент. А музыкі ў гулкай зале Ладзяць скрыпкі і цымбалы. З. Б. 3. Рабіць, ствараць; будаваць. У незалежнай краіне народ сам ладзіць свой дабрабыт. II Арганізоўваць, спраўляць. Ладзіць вяселле. □ Я люблю глядзець, як зранку, Абудзіўшы ўсе куткі, Ладзяць гульні хлапчукі. К. Кір. 4. Жыць у згодзе, міры. Гэта сапраўдны талент -умець ладзіць з людзьмі.

**Ладны**, прым. ◘ 1. Немалы, значны, досыць вялікі; вялікі па колькасці. Ладная пуста хлеба. Ладная сямейка. 2. Зграбны, стройны, прыгожы. Ладны дзяцюк. 3. Добры, спраўны. Ладная, чыста прыбраная хата. Ладны харч. 4. Дружны, зладжаны. Ладны хаўрус вялікую сілу мае. Лазня, наз., ж. р. ◘ 1. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца; рус. баня. 2. Мыццё ў такім памяшканні. Які чорт да лазні, такі і пасля лазні. Прык. (рус. Черного кобеля не отмоешь добела). 3. перан. Наганяй, суровая вымова. Калі не ліквідуем недахопы — будзе нам усім лазня. А. С. ♦ Задаць (даць) лазню — даць строгую вымову; зрабіць наганяй.

**Лазняк**, наз., м. р., -у. ◘ Кусты лазы, зараснік лазовых кустоў. Цякла тут з лесу невялічка Травой заросшая крынічка, Абодва берагі каторай Лазняк, ракітнік абступалі... К-с.

**Лайдак**, наз., м. р., -а. ◘ Лодар, гультай, абібок, лежань; рус. бездельник. Лайдакоў у народзе яшчэ справядліва называць трутнямі і дармаедамі.

**Ламавік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Перавозчык цяжкіх грузаў // Фурманка для перавозкі такіх грузаў. Абозы ламавікоў. 2. Конь-цяжкавоз. У горад селянін прыехаў на кірмаш. І вось убачыў тут асілак наш, Што грузныя ламавікі Пудоў па сто вязуць мукі. К. К.

**Ламанцы**, наз., адз. ламанец, м. р., -нца. Абл. ◘ Ежа: піражкі або кавалкі скавародніка з кіслага пшанічнага цеста, залітыя канапляным малаком і падсмажаныя. За квасам елі верашчаку, А потым блінчыкі на маку, А там ламанцы-праснакі З пшанічнай добрав мукі. К-с.

**Ламачча**, наз., н. р., зб. ◘ 1. Галлё, сучча, якія валяюцца ў лесе; рус. валежник, хворост. Лес быў чысты, без ламачча. 2. Ламаныя, непрыгодныя, непатрэбныя рэчы; рус. хлам. Усё ламачча належыць або перапрацоўваць, або вывозіць на сметнік, а не завальваць ім двары, кватэры і балконы.

**Лампада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Невялікая пасудзіна з кнотам на паплаўку і алеем, якая запальваецца перад абразамі.

**Ландшафт**, наз., м. р., -у. ◘ Агульны выгляд мясцовасці; пейзаж. Гарысты ландшафт Лагойшчыны.

**Ланцуг**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прыстасаванне для прывязвання, падымання грузаў, перадачы руху і інш., якое складаецца з металічных звёнаў, паслядоўна счэпленых адно з другім; рус. цепь. Ланцуг якара. Ланцуг веласіпеда. 2. толькі мн. (ланцугі). Аковы, кайданы. Ішлі на пошукі схаваных скарбаў у ланцугі закаваныя людзі. У. Д. // Тое, што скоўвае волю. Эх, мілы край адвечнай мукі! Пракляты будзьце, вусны, рукі, Што на цябе ланцуг кавалі І ў твар зняважліва плявалі! К-с. 3. Рад, чарада каго-небудзь, чаго-небудзь. Ланцуг аўтаматчыкаў. Ланцуг электрычных агнёў. 4. перан. Бесперапынны рад падзей, з'яў. Ланцуг падзей.

**Ланцэт**, наз., м. р., -а. ◘ Хірургічны нож, востры з двух бакоў.

**Лапушысты**, прым. ◘ Шыракалісты, падобны на лісце лопуху. Лапушыстая капуста.

**Лапушыцца**, -ыцца; незак. ◘ Пышна разрастацца, выпускаць многа лісця. Бульба лапушыцца.

**Ласавацца**, ласуюся, ласуешся, ласуецца; незак. ◘ Есці нешта смачнае, любімае; рус. лакомиться. Дзеці ласуюцца цукеркамі. II перан. Цешыцца нечым, атрымліваць асалоду; рус. наслаждаться. Ласавацца цяплом.

**Ласка**[1], наз., ж. р., ДМ ласцы. ◘ 1. Выражэнне любові, пяшчоты. Матчына ласка. 2. Спачуванне, спагада, міласць. Лечыцца трава ад спёкі ліўнямі, Людзіласкай лечацца людской. П. П. ♦ Зрабіце ласку — ужываецца пры ветлівай просьбе. ♦ Калі ласка — ветлівы зварот, ветлівая просьба, ветлівае пабуджэнне.

**Ласка**[2], наз., ж. р., ДМ ласцы. ◘ Невялікая драпежная жывёліна сямейства куніцавых з тонкім гібкім целам.

**Ласкавы і ласкавы**, прым. ◘ 1. Поўны ласкі, любові; пяшчотны. Ласкавая мама. Ласкавае слова ўсім прыемнае. 2. перан. Лагодны, мяккі. Ласкавы ветрык.

**Ласунак**, наз., м. р., -нку. ◘ Смачная, любімая ежа; прысмакі; рус. лакомство.

**Ласы**, прым. ◘ 1. Смачны, апетытны; рус. лакомый. Ласы пачастунак. 2. Схільны, ахвочы да ўсяго смачнага. Ласы да аўса конь. 3. Прагны, сквапны. Ласы на чужыя каўбасы. Прык. (рус. Берут завидки на чужие пожитки).

**Латруга**, наз., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -рузе, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Лодар, гультай; п'яніца. Нешчаслівы лес жанчыны, у якой муж латруга.

**Латынь**, наз., ж. р. ◘ Лацінская мова. Не ўратаваліЛатынь шэдэўры, створаныя на ей, — мёртвая сёння лацінская мова. □ І калі нават мова мая замаўчыць, То не зробіцца мёртвай латынню. Р. Б.

**Лаўра**, наз., ж. р. ◘ Назва найбольш буйных мужчынскіх манастыроў, якія падпарадкоўваюцца найвышэйшай царкоўнай уладзе — сіноду. У Кіева-Пячэрскай лаўры была перапахавана першая беларуская святая — Ефрасіння Полацкая.

**Лаўрэат**, наз., м. р., -а. ◘ Званне, якое прысуджаецца за выдатныя заслугі ў галіне навукі, літаратуры, мастацтва і пад., а таксама асоба, якая мае гэта званне. Васіль Быкаў — лаўрэат многіх літаратурных прэмій.

**Лахманы**, наз., адз. лахман, м. р., -а. ◘ 1. Старое, паношанае або падзёртае адзенне; рызманы; рус. лохмотья. Жабрачыя лахманы. 2. Кавалкі, абрыўкі адзення, матэрыі.

**Лашчыць**, лашчу, лашчыш, лашчыць-, незак. ◘ І.Праяўляць пяшчоту, любоў, ласку; рус. ласкать. Лашчыць сына. 2. Выклікаць прыемнае адчуванне. Добрае, спагадлівае слова лашчыць душу, гоіць раны на сэрцы.

**Лаянка**, наз., ж. р., ДМ лаянцы. ◘ 1. Абразлівыя, грубыя словы, выразы; рус. брань. Зняважлівая лаянка. 2. Сварка. Пражылі разам век без лаянкі.

**Лаяць**, лаю, лаеш, лае; незак. ◘ Называць грубымі, зневажальнымі, абразлівымі словамі; ганьбіць; рус. ругать, бранить. ...З астатніх слоў Міхася лае, З ласады выгнаць пагражае... Чаго пан гэтак раскрычаўся? Завошта пан мяне так лае? К-с.

**Лебедзь**, наз., м. р., -я. ◘ Вялікая прыгожая вадаплаўная птушка сямейства качыных з белым (радзей чорным) апярэннем, з доўгай выгнутай шыяй. Колькі качка ні мудрыся, а лебедзем не будзеш. Прык.

**Леваруч**, прысл. ◘ Злева, па левую руку, па левы бок; процір. Праваруч. Тады скажа тым, якія леваруч ад Яго [Госпада]: «Ідзіце ад Мяне ў агонь вечны, бо быў галодны Я, вы не далі Мне есці; быў сасмяглы, і вы не напаілі Мяне; быў падарожны, і не прынялі Мяне; быў раздсеты, і не адзелі Мяне; хворы і ў цямніцы, і не адведалі Мяне. Як што вы не зрабілі гэтага аднаму з меншых, дык не зрабілі Мне». З Евангелля.

**Легальны**, прым. ◘ Дазволены законам; узаконены. Легальны друк.

**Легенда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Народнае апавяданне пра гістарычныя падзеі, чалавека, асоб, не пацверджанае дакументамі, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае. Шмат злажылі казак, І легенд, і песень Людзі пра балота, Пра сваё Палессе. К-а. 2.

перан. Пра нешта выдуманае, непраўдападобнае. Няўдалая легенда.

**Легіён**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Буйное вайсковае злучэнне ў Старажытным Рыме і ў некаторых краінах. 2. перан. Вялікая колькасць, безліч. І сказаў Ісус яму [апанаванаму д'яблам]: выйдзі, дух нячысты, з гэтага чалавека. І спытаўся ў яго: як тваё імя? І той сказаўу адказ: легіён імя мне, бо нас многа. З Евангелля.

**Легітымны**, прым. ◘ Законны. Легітымная ўлада.

**Легкаверны**, прым. ◘ Які верыць усяму без разбору; залішне даверлівы. Легкаверны чалавек з часам упадае ў другую крайнасць — нікому не верыць.

**Легкавік**, наз., м. р., -а. ◘ Легкавы аўтамабіль. У нашай краіне наладжаны выпуск легкавікоў.

**Легкадумны**, прым. ◘ Несур'ёзны, безразважны; пусты, павярхоўны; рус. легкомысленный. Легкадумны балбатун. Легкадумны ўчынак.

**Ледастаў**, наз., м. р., -ставу. ◘ Замярзанне рэк, вадаёмаў; перыяд, у які назіраецца на рацэ, вадаёмах суцэльнае ледзяное покрыва. Жыць у вёсцы з вясны да ледаставу.

**Ледзь**, прысл. і злучн. ◘ 1. прысл. Чуць, злёгку, нямнога. Ледзь жывы. 2. прысл. З вялікімі цяжкасцямі. Ледзь паспяваць за некім. 3. прысл. Амаль, чуць не. Ледзь не на палову пакоя — кніжныя паліцы. 4. злучн. часавы. Ледзь разднее, трэба збірацца ў дарогу.

**Лежань**, наз., м. р., лёжня. ◘ Чалавек, які любіць доўга спаць, ляжаць; лодар, лежабок.

**Лежма**, прысл. ◘ У ляжачым становішчы; лежачы. Лежма чытаць нельга: псуецца зрок. ♦ Лежма ляжаць — доўга ляжаць; нічога не рабіць ці хварэць.

**Лезгінка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Народны танец лезгінаў (народнасць Дагестана і Азербайджана), а таксама музыка да гэтага танца.

**Лейтматыў**, наз., м. р., -тыву. ◘ 1. Асноўны матыў, які паўтараецца на працягу ўсяго музычнага твора. Лейтматыў оперы. 2. перан. Асноўная думка ці праблема, якія неаднаразова паўтараюцца, падкрэсліваюцца і ставяцца. Лейтматывам апавяданняў Яна Баршчэўскага з'яўляецца праблема шчасця.

**Лейцы**, наз., адз. ляйчына і лейчына, ж. р. ◘ Вяроўкі, рамяні для кіравання коньмі ў запрэжцы; рус. вожжи. Трымаць лейцы ў руках — мець у сваіх руках уладу, кіраўніцтва. ♦ Узяць лейцы ў рукі — узяць уладу, кіраўніцтва ў свае рукі. Дык вазьмі ж ты лейцы ў рукі! К-с.

**Лекар**, наз., м. р., -а. ◘ Доктар, урач. Лекар хвораму забараніў курыць.

**Лекі**, наз., адз. няма. ◘ Лякарства. // перан. Пра сродак, які дапамагае перажыць нешта непрыемнае. Успаміны пра шчаслівыя моманты жыцця — лекі для душы.

**Лексіка**, наз., ж. р., ДМ лёксіцы. ◘ 1. Усе словы якой-небудзь мовы. Беларуская лексіка надзвычай багатая. 2. Сукупнасць слоў, якія ўжываюцца ў якой-небудзь сферы дзейнасці. Прафесійная лексіка. 3. Слоўнікавы склад твораў якога-небудзь аўтара. Лексіка Якуба Коласа.

**Лексікон**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1.-а. Даўнейшая назва слоўніка. 2. -у. Запас слоў. Трэба імкнуцца пашыраць свой лексікон.

**Лексікограф**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст у галіне ўкладання слоўнікаў. Ф. Скарына — наш першы беларускі лексікограф.

**Лемантар**, наз., м. р., -а. ◘ Устар. Буквар.

**Ленавацца,** лянуюся, лянуешся, лянуецца; незак. ◘ Лянiва адносіцца да нечага; рус. лениться.

Да той работы і не дакрануўся.
І не таму, што ведаў ён не меў
Ці працаваць не ўмеў,
А проста ленаваўся. У. К.

**Лепей,** прысл. ◘ 1. Выш. ст. да прысл. добра; рус. лучше. У гасцях добра, а дома лепей. Прык. Лепей сем разоў змарыцца, як адзін раз пасварыцца. Прык. (рус. Худой мир лучше доброй ссоры). 2. безас. у знач. вык. Пра паляпшэнне стану хворага. Матулі стала лепей. 3. у знач. часціцы. Для падкрэслівання важнасці нейкага дзеяння. Вандраваў Бог па свеце і ўбачыў, як нейкі чалавек падплятае гнілы плот. І сказаў Бог: «Ён жа заўтра заваліцца, зрабі лепей новы!» — «А мне толькі да заўтра і трэба, бо заўтра я памру». Раззлаваўся Бог і зрабіў так, што людзі не сталі ведаць, калі памруць. Паводле нар.

**Лепта**, наз., ж. р. ◘ 1. Дробная манета ў Грэцыі і іншых старажытных краінах. 2. перан. Пасільны ўкпад у нейкую агульную справу. Нават дзеці ўносілі сваю лепту ў вызваленне ад ворага.

**Лепш**, прысл. ◘ Тое, што і лёпей. Лепш папрасі, а так не нясі. Прык. (рус. Лучше по миру собирать, чем чужое брать).

**Лесавік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек, які звычайна жыве ў лесе, займаецца лясным промыслам, паляваннем. 2. Лясун, лясны дух; рус. леший. Казка пра лесавіка.

**Лесвіца**, наз., ж. р. ◘ 1. Збудаванне ў выглядзе ступенек для пад'ёму і спуску; рус. лестница. Вінтавая лесвіца. 2. Пераноснае прыстасаванне для пад'ёму і спуску; драбіны. 3. перан. Паступовае ўзыходжанне. На лесвіцы славы. Лётаваць, -тую, -туеш, -туе; незак.

Разм. ◘ Жыць дзе-небудзь летам. Унукі штогод летавалі на вёсцы ў дзядулі і бабулі. Летам, прысл. ◘ У летні час. Летам выбежыш рана, Схопіш кошык ліповы І ляціш расхлістаны Пад знаёмыя сховы. Н. Г.

**Летапіс**, наз., м. р., -у. ◘ Пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы, а таксама кніга з такімі запісамі; хроніка, гісторыя чаго-небудзь. Летапісы мінулага.

**Летапісец**, наз., м. р., летапісца. ◘ 1. Складальнік летапісаў. 2. перан. Пра пісьменніка, у творах якога найбольш поўна адлюстраваны сучасныя яму падзеі. Якуб Колас — летапісец духоўнасці беларускага народа.

**Летась**, прысл. ◘ У мінулым годзе. Сёлета грыбоў болей, чым летась. □ Ляцяць, як і летась, у вырай З наседжаных гнёзд жураўлі. А. А. Летуцённе, наз., н. р. ◘ Мара пра жаданае, прывабнае; рус. мечтание, грёза. Жыць летуценнямі.

□ Але мроі-летуценні не згасалі ў нас ніколі.

З пакалення ў пакаленне ўсе шукалі лепшай долі. У. Д.

**Лёкай**, наз., м. р., лёкая. Уст. ◘ Лакей. Панскія лёкаі.

**Лёс**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Ход падзей, якія складаюцца незалежна ад волі чалавека; збег акалічнасцяў; рус. судьба. ...Другія думкі ў галаве, Зусім другія пачуванні, Другі настрой і разважанні. І тое, што даўней, бывала, Яго так моцна захапляла, Цяпер здавалася няўзрачным І непатрэбным і нязначным; Яго цікавіць лес уласны, Лес пагражаючы, няясны, Зацята схованы, замкнёны... К-с. 2. Доля. Людскі лес. Жаночы лес. □ ...Другі лягчэй знаходзіць жонку - Свой вечны лес, сваю красу, Чым дзядзька добрую касу. К-с. 3. Развіццё нечага; далейшае існаванне, будучыня. Лес чалавецтва вырашаецца ўзроўнем духоўнасці ў кожнай людской супольнасці.

**Лідэр**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кіраўнік партыі, арганізацыі, аб'яднання, суполкі і пад. 2. Той, хто першы ў спартыўным спаборніцтве. Лідэр шахматнага турніру.

**Лік**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Паняцце колькасці, велічыня, пры дапамозе якой праводзіцца лічэнне; рус. число. Цэлы лік. Дробавы лік. 2. Колькасць некага, нечага. Лік абітурыентаў павялічыўся ў параўнанні з папярэднім годам. 3. Састаў, склад некага, нечага. Вучань нашай школы — у ліку пераможцаў Міжнароднай алімпіяды па матэматыцы. 4. Граматычная катэгорыя, якая выражае адзінкавасць або множнасць прадметаў. Адзіночны лік. Множны лік. 5. Вынікі гульні, выражаныя ў лічбах; рус. счет. Матч закончыўся з лікам 5:4.

**Ліквідаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; зак. і незак. ◘ Спыніць (спыняць) дзейнасць чаго-небудзь ці існаванне чаго-небудзь. Ліквідаваць злачынную групоўку.

**Лінгвіст**, наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст у навуцы аб мове; мовавед, мовазнаўца, мовазнавец.

**Ліпень**, наз., м. р., -я. ◘ Сёмы месяц каляндарнага года; рус. июль. Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае. З нар.

**Ліпнёвы**. ◘ Уласцівы ліпеню, мае да яго адносіны. Ліпнёвая раніца.

**Ліпняк**, наз., м. р., -у. ◘ Ліпавы зараснік; ліпы. Уліпняку звіняць пчолы.

**Лірыка**, наз., ж. р., ДМ лірыцы. ◘ Адзін з трох асноўных родаў літаратуры, пераважна вершаваны, у якім выражаюцца думкі, пачуцці і перажыванні; параўн. эпас, драма.

**Лірнік**, наз., м. р., -а. ◘ Даўней: пясняр, музыка, які выконваў песні ў суправаджэнні ліры (скрынка з нацягнутымі струнамі, якія гучаць пры вярчэнні круга).

**Ліслівы**, прым. ◘ Які дагаджае, падлізваецца; угодлівы, няшчыры; рус. льстивый, угодливый. Ліслівы Чалавек. Ліслівы позірк. □ Хто ліслівы, той куслівы. Прык. (рус. Речами тих, да сердцем лих).

**Лістапад**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Адзінаццаты месяц каляндарнага года; рус. ноябрь. Прыйшоў лістапад — кармі скацінку, брат. З нар. У лістападзе кладзі капусту ў кадзі. З нар. 2. -у. Ападанне лісця восенню; час гэтага ападання. Залаты лістапад. Шуміць лістапад.

**Літара**, наз., ж. р. ◘ 1. Пісьмовы знак азбукі, які абазначае гук ці спалучэнне гукаў мовы; рус. буква. 2. Такі знак, выразаны на металічным бруску для друкарскага набору.

♦ Літара ў літару — вельмі дакладна, літаральна (паўтараць, пераказваць, перапісваць).

**Літаральны**, прым. ◘ Які дакладна адпавядае тэксту, размове і пад.; даслоўны; рус. буквальный. Літаральны запіс.

**Літаратура**, наз., ж. р. ◘ 1. Сукупнасць навуковых, мастацкіх і інш. твораў якога-небудзь народа або ўсяго чалавецтва; пісьменнасць. 2. Від мастацтва, якое адлюстроўвае жыццё пры дапамозе слоўвобразаў, а таксама творы гэтага мастацтва. 3. Сукупнасць друкаваных твораў якой-небудзь галіны ведаў. Тэхнічная літаратура. 4. разм. Кнігі ўвогуле. Паліцы кнігарань застаўлены літаратурай.

**Літасць**, наз., ж. р. ◘ Жаласць, спагада.^елікадушныя адносіны; памілаванне, міласць; рус. милосердие, пощада. Літасць да пераможанага ворага.

**Ліха**, наз., н. р. ◘ 1. Няшчасце, зло, бяда, гора. Ой, сыночак, мая зорка! Як цябе падгадаваць, Як ад ліха захаваць? К-с. Ліха без дабра не бывав. Прык. (рус. Нет худа без добра). 2. У фальклоры — нячыстая сіла, чорт. Адказаў хлапец паціху: — Праўду я шукаць іду, А за мною следам Ліха Водзіць Гора і Бяду. С. Г.

**Ліхадзей**, наз., м. р., -я ◘ Той, хто чыніць ліха, зло, бяду, гора; вораг; проціл. дабрадзей; рус. злодей.

**Ліхаманка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ І.Хваравіты стан: прастуда, трасца, малярыя; рус. лихорадка. 2. перан. Узбуджаны, трывожны стан; мітуслівa-нервовая дзейнасць. Біржавая ліхаманка.

- ♦ Балотная ліхаманка — малярыя.
- ♦ Крапіўная ліхаманка — крапіўніца.

**Ліхвяр**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто пазычае грошы пад вялікія працэнты і жыве з такіх прыбыткаў; рус. ростовщик.

**Ліхі**[1], прым. ◘ 1. Нядобры, злы, здольны прычыніць ліха. З ліхім чалавекам і гадзіна векам. Прык. Ліхі сабака спадцішка кусае. Прык. (рус. Речами тих, да сердцем лих). 2. у знач. наз. Ліхое ніколі не ўтоіцца. Прык. (рус. Шило в мешке не утаишь). 3. Звязаны з цяжкім жыццём. Ліхая пара.

**Ліхі**[2], прым. ◘ 1. Смелы, храбры, удалы. Ліхі камандзір. 2. Хуткі, імклівы. Ліхая язда да дабра не вывезе. II Рэзвы, гарачы. Ліхія коні.

**Ліхтар**, наз., м. р., -а. ◘ Лямпа з закрытым шклом для асвятлення двароў, вуліц; рус. фонарь.

**Ліцэй**, наз., м. р., -я. ◘ Сярэдняя або вышэйшая навучальная ўстанова. У ліцэях паглыблена вывучаюцца профільныя прадметы.

**Лічба**, наз., ж. р. ◘ 1. Знак для абазначэння ліку; рус. число. Арабскія лічбы (1, 2, 3 і г.д.). Рымскія лічбы (I, II, III і г.д.). 2. Паказчык, разлік чаго-небудзь. Высокая лічба нараджальнасці.

**Лішак**, наз., м. р., лішку. ◘ Тое, што перавышае норму, меру; рус. излишек, избыток. Лішак вады. Лішак энергіі.

**Ловы**, наз., адз. няма. Уст. ◘ Паляванне без агнястрэльнай і халоднай зброі. Ловы з беркутам. Ловы з ганчаком.

**Ложа**[1], наз., ж. р. ◘ Месца ў тэатральнай зале вышэй ад партэра для некалькіх асоб.

**Ложа**[2], наз., ж. р. ◘ Драўляная частка зброі (стрэльбы, вінтоўкі), да якой прымацоўваецца ствол. Ложа карабіна.

**Ложа**[3], наз., н. р. ◘ Паглыбленне ў грунце, па якім цячэ водны паток; рэчышча. Вось як цяпер, перада мною Ўстае куточак той прыгожа, Крынічкі вузенькае ложа... К-с.

♦ Пракрустава ложа — пра тое, што не адпавядае звыкламу і што сілком падганяюць пад нейкія стандарты. [Ад імя міфічнага

грэчаскага разбойніка Пракруста, які адсякаў або выцягваў ногі сваім ахвярам, калі яны не адпавядалі даўжыні яго ложка.]

**Ложак**, наз., м. р., ложка. ◘ Прадмет мэблі для сну; рус. кровать. Драўляны ложак.

**Лозунг**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кароткі заклік, які выражае задачу, пажаданне, патрабаванне. 2. Плакат з такім заклікам.

**Лой**, наз., м. р., пою. ◘ Авечы ці ялавічны нутраны тлушч. Авечым поем лечаць прастуду. □ Бачыць котка лой, ды не ей. Прык. (рус. Хорош кус, да не для наших уст).

**Лотаць**, наз., ж. р. ◘ Шматгадовая расліна з жоўтымі кветкамі, якая расце на болотах, берагах сажалак; рус. калужница. Расцвіла лотаць.

**Лоцман**[1], наз., м. р., -а. ◘ Невялікая марская рыба сямейства стаўрыдавых, якая суправаджае на далёкія адлегласці караблі і буйных рыб, асабліва акул.

**Лоцман**[2], наз., м. р., -а. ◘ Спецыяліст, які праводзіць судны па фарватэры. Спрактыкаваны лоцман.

**Лубін**, наз., м. р., -у. ◘ Расліна сямейства бабовых, якая высяваецца для паляпшэння глебы і на корм жывёле; рус. люлйн.

**Луг**[1], наз., м. р., -у. ◘ Сенажаць, пераважна заліўная. А пышны луг так абяздолен, Стаіць пакошан і аголен І выгляд мае засмучоны. К-с.

**Луг**[2], наз., м. р., -у. ◘ Едкі раствор, прыгатаваны з попелу, залітага варам (ужываўся для мыцця бялізны, галавы); шчолак. Зварыць луг.

**Лука**, наз., ж. р., ДМ луцэ. ◘ Дугападобны паварот ракі, а таксама затока ў рацэ ці возеры.

**Лунаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Плаўна лётаць, не махаючы крыламі; рус. парйть. Арол лунаў у паднябессі. 2. Развявацца ў паветры; рус. реять. Сцягі лунаюць над Палацам Рэспублікі. 3. перан. Знаходзіцца ў стане ўзвышаных або далёкіх ад рэчаіснасці пачуццяў; рус. витать.

♦ Лунаць у воблаках — знаходзіцца ў летуценным настроі (рус. витать в облаках).

**Лупаты**, прым. ◘ Які мае выпучаныя вочы; вірлавокі; рус. пучеглазый, лупоглазый. Лупатыя стракозы.

**Лускаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Раскусваць, разгрызаць, есці з хрустам; рус. щелкать. Лускаць сланечнік. 2. Патрэскваць, трашчаць. Мароз бярэцца, паціскае, Па лесе лускае, гуляе... К-с.

**Луста**, наз., ж. р., ДМ лусце. ◘ Адрэзаны вялікі плоскі кавалак (хлеба, сала); скіба; рус. ломоть.

♦ Адрэзаная луста (скіба) — пра чалавека, які канчаткова парваў сувязь з сям'ёй, жыве асобна.

**Лухта**, наз., ж. р., ДМ лухце. ◘ Бязглуздзіца, недарэчнасць; рус. чушь, вздор.

♦ Вярзці лухту — гаварыць без толку.

**Лучына**, наз., ж. р. ◘ Тонкая сухая сасновая шчэпка, якой даўней асвятлялі сялянскія хаты.

Дымныя лучыны
Назаўсёды згаслі. К-а.

**Лучыць**, лучу, лучыш, лучыць; незак. ◘ Злучаць, яднаць; рус. объединять. Ва ўсім цывілізаваным свеце родная мова з'яўляецца асноваю, якая лучыць усе прадметы школьнага курса, якая праходзіць праз усе яго часткі. Р. Ш.

**Лушпінне**, наз., н. р. ◘ Адходы пасля ачысткі пладоў, семя; лупіны, шалупінне, лупінне; рус. очистки. Бульбяное лушпінне.

**Лушчыць**, лушчу, лушчыш, лушчыць; незак. ◘ 1. Ачышчаць ад шалупін, якой-небудзь абалонкі. Лушчыць гарох. Лушчыць фасолю. 2. Разрываючы, ачышчаць ад шалупін; лускаць, лузгаць, лузаць; рус. щелкать.

**Лыжка**, наз., ж. р., ДМ лыжцы. ◘ Сталовы прыбор для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы; рус. ложка. Драўляная лыжка. II Колькасць рэчыва, якое можа змясціцца ў лыжцы.

**Лыка**, наз., н. р. ◘ Кара маладых лісцевых дрэў (пераважна ліпы), садраная доўгай вузкай палоскай. Лапці з лыка. Калыска з ліповага лыка.

♦ Не лыкам шыты — пра здольнага, умелага чалавека.

**Лынды**. ◘ У выразе біць лынды — хадзіць, бадзяцца без занятку, бяздзейнічаць; рус. бить баклуши.

**Лэдзі**, наз., нескл., ж. р. ◘ Жонка лорда, а таксама форма звароту да замужняй жанчыны ў Англіі.

**Любасць**, наз., ж. р. ◘ Пачуццё глыбокай прыхільнасці да каго-небудзь, чаго-небудзь, адданасці; любоў. Любасць да роднага слова. // Пачуццё пяшчоты, любавання; замілаванне. Бабуля з любасцю глядзіць на ўнукаў.

**Любіць**, люблю, любіш, любіць; незак. ◘ 1. Адчуваць глыбокую адданасць, прыхільнасць да некага, нечага. - Што значыць аддана справу рабіць? - Любіць. А. В. 2. Адчуваць сардэчную прыхільнасць да асобы супрацьлеглага полу; кахаць. - Што значыць зямное шчасце здабыць? - Любіць. А. В. 3. Мець схільнасць і цікавасць да нечага. Любіць музыку. 4. Патрабаваць найбольш

спрыяльных умоў для існавання, росту і пад. Куліку і балота родны дом. На полі яму не жыць. А жаўрук раздолле любіць. А. Ас.

**Людскасць**, наз., ж. р. ◘ Чалавечнасць, спагадлівасць. Падзякаваць за людскасць і сардэчнасць.

**Людскі**, прым. ◘ 1. Чалавечны, пачцівы. Людскае абыходжанне. 2. Прыстойны, такі, як трэба. Справіць людскае вяселле. 3. Прыгодны для нечага, добры. Гпеба камяністая, на ей нават трава людская не расце.

**Людскі**; прым. ◘ 1. Які належыць людзям. Людскія паселішчы. // Які складаецца з людзей. Людскі паток. // Які робіцца людзьмі. Людскія справы. 2. Уласцівы людзям; чалавечы. Людскі розум. Людская памяць.

**Люляць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ Рытмічна гойдаць, гушкаць, калыхаць; рус. качать, баюкать, убаюкивать. Люляць дзіця.

**Люстэрка**, наз., н. р. ◘ 1. Адшліфаваная паверхня (шкла, металу), здольная даваць адбіткі тых прадметаў, якія знаходзяцца перад ёю, а таксама спецыяльна зроблены прадмет з такой паверхняй; люстра; рус. зеркало. Стаіць люстэрка аж да столі, На сценах граюць дываны. А. Б. //перан. Спакойная, гладкая паверхня вады. Люстэрка затокі. 2. перан. Пра тое, што з'яўляецца адлюстраваннем нейкіх з'яў, працэсаў і пад.; адбітак. Становішча дзяцей і састарэлых — люстэрка краіны, яе дабрабыту і маральных устояў. Дзеці — люстэрка сям'і.

**Люты**[1], прым. ◘ 1. Злы, крыважэрны (пра жывёл). Лютыя авадні. II Жорсткі, бязлітасны (пра чалавека, яго стан). Люты вораг. Лютая нянавісць. II перан. Няшчадны. Люты бой. 2. перан. Які прычыняе нясцерпныя пакуты; невыказна цяжкі. Люты боль. Лютая расправа. 3. Вельмі моцны; сіберны (пра з'явы прыроды). Люты ўраган.

**Люты**[2], наз., м. р., лютага. ◘ Другі месяц каляндарнага года; рус. февраль. Віхуры і мяцелі ў лютым наляцелі. З нар. Завірухі і мяцелі ў лютым адгудзелі. З нар.

**Ляда**, наз., н. р. ◘ 1. Дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высечка; рус. вырубка, подсека. Старое ляда з рэшткамі струхнелых пнёў. 2. Расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або сенажаць. Засеяць ляда.

**Лядачы**, прым. Разм. ◘ Тое, што і лядашчы.

**Лядашчы**, прым. Разм. ◘ 1. Кволы, хілы, нядужы, слабы; рус. одряхлевший, тщедушный. Лядашчы конік. 2. Стары, непрыгодны; рус. ветхий. Лядашчая хатка. 3. Кепскі, нядобры, злы. Лядашчы характер.

**Лядзяк**, наз., м. р., ледзяка. ◘ Невялікі кавалак лёду; ільдзінка; лядзяш; рус. ледышка. Лядоўня, наз., ж. р. ◘ 1. Склеп з лёдам або снегам для захоўвання прадуктаў. 2. Шафа з халадзільнай устаноўкай; халадзільнік. Дастаць марозіва з лядоўні.

**Лязо**, наз., н. р. ◘ 1. Востры край прадмета, якім рэжуць ці сякуць; вастрыё. Лязо сякеры. 2. Разм. Тонкая стальная пласцінка для брыцця; рус. лезвие.

**Лялька**, наз., ж. р., ДМ лялыцы. ◘ 1. Дзіцячая цацка ў выглядзе чалавека; рус. кукла. Як маленькую сяброўку, Ляльку любіць Каця: То расчэша ёй галоўку, То памые плацце. А. Ал. 2. Разм. Пра каго-небудзь, што-небудзь вельмі прыгожае, прывабнае. Не хата, а лялька стаіць. □ Праз тыдзень Кабінет прасторны Лялькай стаў. У. К.

**Лямантаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Моцна і працягла крычаць; рус. вопить. 2. Галасіць па кім-небудзь; моцна плакаць; адчайна крычаць. Лямантаваць, як па нябожчыку.

**Лямец**, наз., м. р., -мцу. ◘ Тоўсты матэрыял, звалены з шэрсці, воўны; рус. войлок. Абабіць дзверы лямцам.

**Лянота**, наз, ж. р. ◘ Адсутнасць жадання працаваць; стан вяласці, санлівасці; рус. леность, лень. Апанавалі млявасць і лянота.

**Лясун**, наз., м. р., лесуна. ◘ У славянскай міфалогіі — жыхар лесу, лясны дух; лесавік; рус. леший.
Лесуны выходзяць з нетраў і русалак карагоды.
Вадзянік і сорак ветраў там з'яўляюцца заўсёды. У. Д.

**Лятунак**, наз., м. р., лятунка. ◘ Мара, летуценне.
Прыняла яна дарунак, што прыгожы, як лятунак.
Падала яму вясельца, аддала яму і сэрца. У. Д.

**Ляшчоткі**, наз., адз. няма. ◘ Раздвоеная з аднаго канца дошчачка для заціску чаго-небудзь; рус. зажим, лубкй. Ветэрынарныя ляшчоткі. □ У зубы клёцку, бы ў ляшчоткі, Заціснуў дзядзька і губамі Варушыць борзда, як часамі Трусок ці зайчык над капустай. К-с.

**Ляшчэўнік і ляшчыннік**, наз., м. р., -у. ◘ Зараснік, кусты ляшчыны; арэшнік.

# M

**Мабыць**, пабочн. ◘ Напэўна, бадай што, мусіць; відаць; рус. пожалуй, вероятно, видно.

**Магістраль**, наз., ж. р. ◘ Галоўная чыгуначная, водная і інш. лінія шляхоў зносін. Па магістралі ідуць калоны машын. II Цэнтральная

вуліца горада з вялікім рухам. Праспект Незалежнасці — магістраль беларускай сталіцы.

**Магутнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Вялікая сіла, моц; рус. мощь; могущество. У паэме «Песня пра зубра» М. Гусоўскі даводзіць, што магутнасць краіны залежыць ад мудрасці дзяржаўцы. 2. Таўшчыня пласта (мінералаў, паветра, вады і пад.); рус. мощность. 3. Спец. Велічыня, якой вымяраецца колькасць энергіі, выпрацаванай рухавіком за адзінку часу; рус. мощность. Магутнасць электрастанцыі.

**Магутны**, прым. ◘ 1. Вельмі дужы, здаровы; рус. сильный. Магутны зубр. 2. Вельмі вялікі, значны па сіле, велічыні; рус. мощный. Магутны ўраган. II З тоўстым ствалом, раскідзісты; рус. могучий. Магутны дуб. II Здольны аказаць уздзеянне на каго-небудзь. Магутнае роднае слова. 4. З вялікімі матэрыяльнымі і вытворчымі магчымасцямі; рус. могущественный. Магутная краіна.

**Магчы**, магу, можаш, можа] незак. ◘ Мець дастаткова сілы выканаць нешта; быць здольным здзейсніць нешта; рус. мочь. Горы і моры можаш ты [моладзь] здолець, Сэрцам расплавіць ільдзіны. К-а.

**Магчымасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Тое, што можа пры пэўных умовах адбыцца, здзейсніцца; рус. возможность. Любві магчымасць апаліла, магчымасць шчасця апякла. А. В. 2. Сродкі, умовы, неабходныя для здзяйснення нечага. Магчымасць вучыцца і працаваць. 3. толькі мн. (магчымасці). Унутраныя сілы і здольнасці. Верыць у свае сілы і магчымасці.

**Магчымы**, прым. ◘ 1. Які можа адбыцца, здарыцца; рус. возможный. І ўспамінаўся нам радок: «А шчасце так было магчыма». А. В. 2. Які можна здзейсніць. Стала магчымым тое, пра што марылі.

**Мадонна**, наз., ж. р. ◘ Божая Маці, Багародзіца, а таксама яе скульптурны ці жывапісны партрэт. Культ Мадонны шанаваны і ў каталіцызме, і ў праваслаўі.

**Маёмасць**, наз., ж р. ◘ Рэчы, прадметы, каштоўнасці, якія некаму належаць; рус. имущество. Дзяржаўная маёмасць.

**Маёнтак**, наз., м. р., маёнтка. ◘ Панскі двор, сядзіба, а таксама зямельныя ўладанні памешчыка.

**Май**, наз., м. р., мая і маю. ◘ 1. мая. Пяты месяц каляндарнага года. Май халодны, год хлебародны. З нар. Мокра ў маі — будуць пышныя караваі. Як у маі суха, то падцягвай бруха. З нар. 2. маю. Першая зелень лісцевых дрэў, якімі прыбіраюць хаты. А я маю наламаю, Сваю хату прыбяру. І. К-к.

**Майдан**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Плошча, дзе збіраюцца сходы, адбываюцца базары (у паўднёвых абласцях Расіі і на Украіне). 2. Курган, старажытная магіла.

**Майстар**, наз., м. р., майстра. ◘ 1. Спецыяліст у нейкім рамястве, галіне вытворчасці; рус. мастер. Гадзіннікавы майстар. 2. Кіраўнік асобнага ўчастка вытворчасці. Майстар цэха. 3. Чалавек, які дасягнуў высокага майстэрства ў сваёй справе. Майстар высокіх ураджаяў. ІІ Пра лоўкага, здатнага да нечага чалавека. І дзядзька майстар быў на штукі, І быў механік на ўсе рукі... К-с. 4. Званне, якое прысвойваецца выдатным спартсменам. // Асоба, якая носіць гэтае званне. Майстар спорту.

♦ Майстар на ўсе рукі — пра чалавека, які ўмее ўсё рабіць.

**Майстра**, наз., м. р., -а. ◘ Тое, што і майстар.

**Майстэрскі**, прым. ◘ Уласцівы сапраўднаму майстру; вельмі добра, дасканала, узорна выкананы; рус. мастерский, искусный. Майстэрская передача каларыту ў карціне.

**Макацёр,** наз., м. р., макатра. ◘ Гліняная пасудзіна, вузкая ўнізе і шырокая зверху, у якой звычайна труць мак; ільняное і канаплянае семя. Церці семя ў макатры.

**Маладзік**, наз., м. р., -а. ◘ Месяц у першай квадры; рус. молодой месяц. Сярпок маладзіка асвятляў дарогу.

**Маладзіца**, наз., ж. р. ◘ Маладая замужняя жанчына; маладуха. Ідуць дзяўчаты, маладзіцы, І жарты строяць, як блазніцы, Ідуць шумлівы, гаварлівы, Звініць іх голас, смех шчаслівы... К-с.

**Маладосць**, наз., ж. р. ◘ Юнацкі ўзрост, маладыя гады жыцця; рус. юность. Там, там [у Полацку] калыска маёй маладосці. Ян Б.

**Маладушша**, наз., н. р. ◘ Адсутнасць мужнасці, цвёрдасці духу; маладушнасць. Абвінаваціць у маладушшы.

**Малайчына**, наз., аг. р., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -е, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Ужываецца для выражэння пахвалы, адабрэння; маладзец; рус. молодец.

**Маланка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры, звычайна ў выглядзе звілістай лініі; бліскавіца; рус. молния. Гром. Маланка. Лівень. Гул вады. Уцякаюць пюдзі Хто куды. Пысін. 2. Невялікая насценная газета, якая выпускаецца ў тэрміновых выпадках і асвятляе неадкладныя і важныя пытанні. 3. Вельмі тэрміновая телеграма. Віншаванняў маланкі, Вітанняў лісты Лістаносцы разнесліусім адрасатам. П. П. 4. Від засцежкі. Куртка на маланцы.

**Малатарня**, наз., ж. р. ◘ Машына для абмалоту збожжа; рус. молотилка. Купіць малатарню.

**Малацьба**, наз., ж. р. ◘ Выкалочванне, выбіванне зерня з каласоў, стручкоў і інш. цапамі, малатарняй ці камбайнам; рус. молотьба.

Не малацьба, а бубнаў хоры! Здаецца б цэпам вадзіў хворы! Бічы кладуцца так рытмічна Само гудзенне іх музычна... К-с.

**Малебен**, наз., м. р., малёбна. ◘ Набажэнства за чыё-небудзь здароўе, поспехі, а таксама па нябожчыках. Малебны ксяндзы па касцёлах спраўляюць. К-а.

**Маленства**, наз., н. р. ◘ Дзіцячы ўзрост; дзяцінства; рус. детство. Нам з маленства ўсім вядома: «Што ў дарозе — то не дома». У. Д.

**Малеча**, наз., ж. р. ◘ Маленькія дзеці, жывыя істоты; дзіця; дзіцяня. Чаму не спіць малеча? Чаму з калыскі цягне ручаняткі? С. Дз.

**Малітва**, наз., ж. р. ◘ Зварот да Бога, святых з ухвалай, удзячнасцю і просьбай; маленне.

**Малодзіва**, наз., н. р. ◘ Падобная на малако вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі ў жанчын і самак млекакормячых перад родамі і некалькі дзён пасля родаў; рус. молозиво.

**Малюнак**, наз., м. р., -нка. ◘ 1. Карціна, ілюстрацыя; рус. рисунок. 2. перан. Тое, што можна ўявіць сабе ў канкрэтных вобразах.

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною! К-с.

**Маляваць**, малюю, малюеш, малюе; незак. ◘ 1. Перадаваць предметы на плоскасці ад рукі пры дапамозе графічных сродкаў: контурам!, рыскамі; рус. рисовать. Малявалі дзве рукі: Бацька пэндзлем у майстэрні, Сын алоўкам. Мастакі! Н. Г-я. 2. Расказваць пра нешта, апісваць нешта; уяўляць. Як толькі не малююць восень у вершах!

**Маляр**, наз., м. р., -а. ◘ Рабочы, які беліць, фарбуе дамы, памяшканні. На ціхі сонечны бульвар Укрэйдзе, вапне, алебастры Выходзіць з вёдрамі маляр. С. Г.

**Маляўнічы**, прым. ◘ Прыгожы, эфектны; рус. живописный. Возера Нарач ляжыць у маляўнічай катлавіне.

**Мана**, наз., ж. р. ◘ Наўмыснае скажэнне праўды, ісціны; няпраўда, хлусня; рус. ложь, враньё. Нельга мірыцца з маною.

**Манаполька**, наз., ж. р., ДМ -льцы. Уст. ◘ У дарэвалюцыйнай Расіі — назва дзяржаўнай крамы, дзе прадавалі гарэлку. Корчмамі ды манаполькамі лягчэй трымаць у ланцугах зваяваны народ. □ ...Утым была яе [хваробы] і сіла, Што незаметна налучыла, І спатайка гадоў праз колькі Яе жывілі манапольکі. К-с.

**Маністы**, наз., адз. няма. ◘ Упрыгожанне з пацерак, манет, каштоўных камянёў, якое надзяваецца на шыю; рус. монисто. Жамчужныя маністы. // у вобразным ужыв. Гараць дыяментным агнём Маністы бліскучыя зорак. К-с.

**Манускрыпт**, наз., м. р., -а. ◘ Старажытны рукапіс. У Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца 26 тысяч манускрыптаў.

**Мара**, наз., ж. р. ◘ 1. Тое, што створана фантазіяй, уяўленнем; рус. мечта. Прыгожая мара. 2. Жаданне, імкненне. Але ўсё гэта — толькі мыслі, Эх, гэта толькі мары-кралі! О, каб яны ды праўдай сталі! К-с. 3. Аб нечым незвычайна прыгожым; вышэйшая ацэнка нечага. Не чаравікі, а мара!

**Мара**, наз., ж. р. Абл. ◘ Прывід, здань, насланнё. Вось-вось пакажацца звяруга!.. Ды доўга гэта штось патуга — Няма, а быць ужо пара. Цьфу ты! Што ж гэта за мара? К-с.

**Мараль**, наз., ж. р. ◘ 1. Правілы, нормы паводзін людзей у адносінах паміж сабой. Законы маралі. 2. Павучальны вывад з нечага. Мараль байкі. 3. Павучанне, натацыі. Ты мне маралі не чытай... На сябе спачатку паглядзі. І. Ш.

**Мардаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; незак. ◘ 1. Знясільваць цяжкай працай, марыць; рус. изнурять, изматывать. 2. Разм. Мучыць, прыносіць пакуты; рус. мучить, томить. Мардавала трывога за родных.

**Марнаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ 1. Траціць без карысці сілы, сродкі, час і пад. 2. Мучыць, стамляць; рус. изводить. Нельга марнаваць ні сябе, ні іншых.

**Марнатраўства**, наз., н. р. ◘ Неразумная, марная трата нечага; рус. мотовство, расточительство. Марнатраўствам можна загубіць любую справу.

**Марнець**, -нею, -нееш, -нее; незак. ◘ Ч.Засыхаць, чахнуць, чэзнуць (пра расліны). 2. Гібець, чахнуць (пра чалавека); рус. худеть. 3. Марна прападаць; рус. приходить в упадок, хиреть. Марнее гаспадарка без дбайнага гаспадара.

**Маркотны**, прым. ◘ Сумны, тужлівы; журботны; рус. печальный; унылый. Маркотны лес.

**Мармур**, наз., м. р., -у. ◘ Цвёрдая горная крышталічная парода розных колераў, якая ўжываецца для архітэктурных і скульптурных работ; рус. мрамор. Помнік з мармуру.

**Марны**, прым. ◘ 1. Дарэмны, бескарысны; рус. напрасный. Марныя пошукі. 2. Змарнелы, чэзлы; рус. чахлый. Марны конік. □ Шнур бядак араў да поту, — Марны ж колас на саломцы, — Ні красы той, ні ўмалоту. К-а.

**Марозіва**, наз., н. р. ◘ Замарожаная салодкая ежа з малочных прадуктаў, а таксама пладова-ягаднага соку; марожанае. Сметанковае марозіва.

**Мартыралог**, наз., м. р., -а [ad грэч. martyros сведка; пазней — пакутнік + lógos слова, вучэнне]. ◘ 1. Зборнік апавяданняў пра

хрысціянскіх святых і пакутнікаў з апісаннем іх жыцця, пакут за веру і месца іх пакут. 2. Спіс ахвяр, якія без віны загінулі, пакараныя пакутніцкай смерцю. Асноўныя мэты таварыства «Мартыралог Беларусі», створанага ў Мінску ў 1988 г., — раскрыццё масавых рэпрэсій у 1920-50-я гг. у часы сталінскага генацыду, высвятленне колькасці тых, хто загінуў на Беларусі, у месцах выгнання і зняволення, увекавечанне іх памяці.

**Марудзіць**, -джу, -дзіш, -дзіцьнезак. ◘ Рабіць нешта вельмі павольна; доўга не пачынаць нейкай справы; рус. медлить. 3 сяўбой не марудзяць. //перан. Быць нерашучым. Марудзіць з адказам.

**Марудлівы**, прым. ◘ Які павольна, без паспешлівасці робіць нешта; рус. медлительный. Марудлівы бацька ніяк не збярэцца паказаць гасцінец.

**Марудны**, прым. ◘ 1. Павольны, няспешны; проціл. хуткі; рус. медленный. Марудны крок. 2. Непаваротлівы. Млявы і марудны кот. 3. Карпатлівы; рус. кропотливый. Гэта праца вельмі марудная.

**Марцыпан**, наз., м. р., -а. ◘ Ч.Цеста, прыгатаванае з працёртага міндалю або арэхаў з цукрам; кандытарскія вырабы з гэтага цеста. 2. звычайна мн. (марцыпаны). Пра нешта вельмі смачнае, адмыслова прыгатаванае. Толькі марцыпаны табе падавай!

**Марыць**, мару, марыш, марыць; незак. ◘ Думаць пра ажыццяўленне нечага вельмі жаданага; рус. мечтать. Марыць пра шчаслівую долю.

**Марыць**, мару, морыш, морыць; незак. ◘ 1. Труціць, атручваць. Марыць прусакоў. 2. Мардаваць, мучыць; даводзіць да знямогі (голадам, працай, здзекамі і пад.). Перажыванні і трывогі морацьі знясільваюць горш за любую працу.

**Масленіца**, наз., ж. р. ◘ 1. Свята провадаў зімы ў старажытных славян і іншых народаў; апошні тыдзень перад Вялікім постам у хрысціян. 2. перан. Пра добрае, прывольнае жыццё. Не жыццё, а масленіца.

**Масніца**, наз., ж. р. ◘ Дошка падлогі; дошка або бервяно ў якімнебудзь драўляным насціле; рус. половица. Масніцы зарыпелі.

**Мастак**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Творчы работнік у галіне выяўленчага мастацтва (жывапісец, графік, скульптар); рус. художник. Мастак-дэкаратар. 2. Пісьменнік. Мастак слова. 3. Пра таго, хто дасягнуў высокай дасканаласці ў нейкай справе; рус. мастак. Мастак кухарыць.

**Мастацтва**, наз., н. р. ◘ І.Творчае адлюстраванне рэчаіснасці ў мастацкіх вобразах; вобразнае адлюстраванне жыцця; рус. искусство. Творы мастацтва. 2. Галіна мастацкай дзейнасці.

Прыкладное мастацтва. 3. Дасканалае ўменне, майстэрства ў нейкай справе. Мастацтва вышыўкі гладдзю.

**Матуля**, наз., ж. р. ◘ Жанчына ў адносінах да народжаных ёю дзяцей; мама, маці (звычайна пры звароце або ў гутарцы дзяцей пра яе); рус. маменька, мамаша.

**Матчын**, прым. ◘ 1. Які належыць матцы, маці; рус. материнский. Матчына хата. Матчын голас. // Такі, як у маткі. Вочы ў дачушкі матчыны. 2. Родны; народны. Матчына мова.

**Маўклівы**, прым. ◘ 1. Які не любіць многа гаварыць; негаваркі; рус. молчаливый. Разважлівы, маўклівы чалавек. II Які маўчыць, не ўступае ў размову. Маўклівыя вартавыя. 2. Зразумелы без слоў. Маўклівая згода. II Які не суправаджаецца словамі. Маўклівае здзіўпенне.

**Маўленне**, наз., н. р. ◘ Вуснае і пісьмовае валоданне моваю; моўная дзейнасць. Выдатны ўзровень маўлення вучняў.

**Маўляў**, часц. ◘ Ужываецца пры перадачы чужой уяўнай мовы; рус. мол, дескать. Маці ганарылася сынам і: маўляў, ні ў кога няма такіх добрых дзяцей, як у яе.

**Маўчком**, прысл. ◘ Нічога не кажучы, захоўваючы маўчанне; моўчкі; рус. молча. А за сталом маўчком сядзелі, Там хлопцы гыркацца не смелі, Бо там парадак вельмі строгі, Там падпілуюць табе рогі... К-с.

**Махляр**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца махлярствам; жулік, ашуканец, машэннік; рус. мошенник, плут.

**Махлярства**, наз., н. р. ◘ Падман, ашуканства з мэтай нажывы; рус. мошенничество, плутовство.

**Маці**, наз., ж. р., РДМ маці і мацеры, В маці і мацеру, Т маці і мацерай:◘ 1. Тое, што і матуля; рус. мать. А дома з дзецьмі была маці. То каля печы, то ў полі, Яе жаночая работа І гэта вечная турбота Сказаць, не зводзіцца ніколі. К-с. 2. Пра самае роднае, дарагое, блізкае. Зямелька-маці. Маці-Радзіма.

**Мачанка**, наз., ж. р., ДМ мачанцы. ◘ Страва з сала і каўбасы, падкалочаная мукой.

Цягні мачанку, маці, з печы!
За стол, малы, за стол, старэчы! К-с.

**Маштаб**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Велічыня, якая паказвае, у колькі разоў адлегласць на чарцяжы (плане, карце) меншая або большая за адлегласць у натуры. Маштаб завода. 2. перан. Размах, значэнне. Вучоны буйнога маштабу.

**Медуніца**, наз., ж. р. ◘ Травяністая расліна сямейства бурачнікавых з дробнымі духмянымі кветкамі. І ўслед за падбелам дружна

рынуліся з зямлі чубаткі, за імі — сінія і белыя пралескі, сон, ружовыя медуніцы. В. Х.

**Межаваць**, мяжую, мяжуеш, мяжуе; незак. ◘ Мець агульную мяжу, быць сумежным; межавацца; рус. граничить. Наша Беларусь мяжуе з некалькімі краінамі. // перан. Быць блізкім да чаго-небудзь. Мяжуе гора з добрай радасцю... П. П.

**Менавіта**, часц. ◘ Ужываецца для падкрэслівання нейкага члена сказа, для ўказання на яго; азначае: якраз, іменна. Менавіта бацькі і ўклад сям'і найбольш уплываюць на пёс чалавека і яго лёсавызначальны выбар.

**Меркаванне**, наз., н. р. ◘ 1. Думка, погляд; рус. мнение, соображение. Падтрымаць меркаванне выступоўца. Выказаць меркаванне наконт таго, як палепшыць справу. 2. Вынік роздуму; рус. суждение. Розныя меркаванні літаратуразнаўцаў адносна вобраза Петрака з аповесці «Знак бяды». 3. Разлік, дапушчэнне; рус. расчет, предположение. Ішлі з тым меркаваннем, што ўдасца дамовіцца і памірыцца. Следчы выказаў меркаванне пра матывы злачынства.

**Меркаваць**, мяркую, мяркуеш, мяркуе; незак. ◘ І.Гаварыць, развагажаць, абмяркоўваючы нешта; думаць; рус. рассуждать. 2. Рабіць вывады, здагадкі. 3. Мець намер, план; рус. предполагать. Меркавалі ўзяцца за новую справу. 4. Ацэньваць нейкім чынам, рабіць заключэнне; рус. судить. Па знешнім выглядзе нельга меркаваць пра сілу чалавека.

**Месія**, наз., м. р. ◘ У іудзейскай і хрысціянскай рэлігіі — пасланнік Бога, які павінен прыйсці на зямлю і выратаваць людзей ад зла. У хрысціянстве ідэя Месіі ўвасоблена ў вобразе Ісуса Хрыста, які вёў радавод ад цара Давіда і ахвяраваў сабою для выратавання чалавецтва ад першароднага граху. II перан. Збавіцель, выратавальнік.

**Месяц**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Нябеснае цела, спадарожнік Зямлі, які адлюстроўвае сонечнае святло; рус. Луна. Палёт на Месяц. Серп месяца. 2. Дванаццатая частка астранамічнага года, у якой ад 28 да 31 дня. Уканцы жніўня месяца.

♦ Мядовы месяц — першы месяц пасля шлюбу ў маладых.

**Метафара**, наз., ж. р. ◘ Ужыванне слова або выразу ў пераносным значэнні, заснаванае на падабенстве або параўнанні; напрыклад: «ўюцца змейкай срабрыстай дарожкі, брызгі золата ў небе блішчаць». М. Б.

**Мецэнат**, наз., м. р., -а. ◘ Багаты апякун навук і мастацтва; міласнік. Мецэнатам Якубу Бабічу, Багдану Онкаву і Юрыю Адверніку

абавязаны мы тым, што наш слынны зямляк Ф. Скарына змог рэалізаваць свой дар: уславіць Бога і наш народ на векі вечныя.

**Мігатлівы**, прым. ◘ Які мігаціць; рус. мерцающий. Мігатлівыя зоркі.

**Мігацець**, мігаціць; незак. ◘ 1. Паказвацца на кароткі час і знікаць з поля зроку; рус. мерцать. 2. Свяціць, блішчаць няроўным бляскам. Неба мігацела безліччу зорак.

**Мігцець**, мігціць, незак. ◘ 1. Ледзь свяціцца, мільгацець; рус. мерцать. Мігціць газніца. 2. Свяціць няроўным бляскам. Мігцелі зоркі. 3. Хутка праносіцца, мільгаць; рус. мигать. Мігцяць верставыя слупы, прыдарожныя станцыі. 4. перан. З'яўляцца на кароткі час і зноў знікаць; рус. брезжить. Мігцела надзея на выйсце з цяжкага становішча.

**Міжнародны**, прым. ◘ 1. Які мае адносіны да знешняй палітыкі, да зносін паміж народамі і краінамі; рус. международный. Міжнароднае становішча. 2. Які існуе паміж народамі; інтэрнацыянальны. Міжнародная канферэнцыя.

**Мілагучны**, прым. ◘ Прыемны на слых; які прыемна гучыць; рус. благозвучный. Мілагучны звон ручая.

**Міласцівы**, прым. ◘ Які выказвае міласць, спагаду, прыхільнасць; даравальны; літасцівы; рус. милостивый. Міласцівы да ворага. □ Шчасныя міласцівыя, бо яны памілаваны будуць. З Евангелля.

**Міласць**, наз., ж. р. ◘ 1. Добрыя, велікадушныя адносіны. Дзякуй вам за хлеб, за кашу і за міласць вашу. З нар. 2. Ахвяраванне, дар; міласціна. Прасіць міласць.

**Міласэрнасць**, наз., ж. р. ◘ Схільнасць да спагады іншым, да літасці над некім; гатоўнасць прыйсці на дапамогу, зменшыць чые-небудзь пакуты; рус. милосердие. Сёстры міласэрнасці. Міласэрнасць — добраслаўёнае Богам пачуццё.

**Мільгаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. З'яўляцца на кароткі час і знікаць; з'яўляцца час ад часу; рус. мелькать. Мільгалі далёкія агні. Думкі мільгалі ў галаве. 2. Хутка праносіцца адно за другім. Мільгалі тэлеграфныя слупы, пералескі за акном цягніка. 3. Свяціць коратка, з перапынкамі; бліскаць; рус. мерцать. Мільгаюць зарніцы.

**Мімаходзь**, прысл. ◘ 1. Праходзячы, праязджаючы міма; мімаходам. Зірнулі [хлопцы] мімаходзь на бабровае паселішча і пайшлі далей. Я. М. 2. Між іншым, выпадкова. Спытацца нібы мімаходам.

**Мінулы**, прым. ◘ І.Які ўжо прайшоў, мінуў; рус. прошлый. Мінулая ноч была трывожнай. ІІ Які быў раней; былы. Мінулыя радасці. 2. у знач. наз. мінулае. Былое. Мінулае вучыць нас, як жыць сёння. Ян Б.

**Міраж**, наз., ж. р., -у. ◘ 1. Абман зроку, пры якім на гарызонце ўзнікаюць уяўныя далёкія наземныя прадметы (у выніку заломвання сонечных прамянёў у нераўнамерна нагрэтых слаях атмасферы). У поўдзень да нас міражы падступілі: Зялёны аазіс у моры пяскоў. А. З-к. 2. перан. Тое, што не адпавядае сапраўднасці: тое, што не можа здзейсніцца; нешта падманлівае.

А можа быць, яна — міраж І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш Да Беларусі? Н. Г.

**Місія**, наз., ж. р. ◘ 1. Адказная роля, высокае прызначэнне каго-небудзь. Місія чалавека на зямлі — рэалізаваць свой дар і свае лепшыя якасці. 2. Задание, даручэнне. На мужчыну ўскладаецца важная місія — быць аховаю сям'і, добрым мужам і клапатлівым бацькам для сваіх дзяцей. 3. Дыпламатычнае прадстаўніцтва ў другой дзяржаве на чале з пасланнікам.

**Місіянер**, наз., м. р., -а. ◘ Прапаведнік, які пасылаецца царквой для распаўсюджання веравызнання сярод іншаверцаў. Апосталы Ісуса Хрыста былі місіянерамі свету.

**Мітрэнга**, наз., ж. р., ДМ -рэнзе. Разм. ◘ Трывога, неспакой, сумятня, разлад.

**Мітусня**, наз., ж. р. ◘ 1. Хуткі і бесперапынны рух у розных напрамках, рус. суета. Гарадская мітусня. 2. Паспешлівае, неспакойнае перамяшчэнне з месца на месца. Мітусня ў вагоне. 3. Бязладнае мільганне перад вачыма. Дзіцячая мітусня.

**Млосць**, наз., ж. р. ◘ Заміранне сэрца ад моцных хваляванняў ці хваробы; крайняя вяласць, расслабленасць арганізма, якая наступав звычайна перад стратай прытомнасці, ірвотай; рус. тошнота. Непераадольная млосць.

**Млын**, наз., м. р., -а. ◘ Прадпрыемства, на якім мелюць збожжа; будынак з прыстасаваннямі для размолу; рус. мельница. Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. Прык. (рус. Язык мой — враг мой).

**Млявасць**, наз., ж. р. ◘ Тое, што і млосць.

**Млявы**, прым. ◘ 1. Пазбаўлены бадзёрасці, энергіі; вялы. Млявы пасля хваробы чалавек. 2. Які выклікае млявасць; рус. томный. Млявая парнасць. 3. Павольны; пяшчотны. Лілею млявы плёс люляе. Р. Б.

**Мова**, наз., ж. р. ◘ 1. Сукупнасць гукавых, лексічных і граматычных сродкаў для выказвання думак і ўзаемнага разумения паміж людзьмі; сродак зносін паміж людзьмі; рус. язык. Пароль неўміручасці — родная мова. П. М. 2. Прадмет вывучэння і выкладання. Урокі мовы. Выкладчык мовы. 3. Сукупнасць сродкаў выражэння ў творчасці; стыль. Мова Коласа. Мова публіцыстыкі. 4. Здоль-

насць гаварыць; рус. речь. У хворага адняло мову. 5. Сістэма знакаў (гукаў, сігналаў), якія перадаюць інфармацыю. Мова скрыпкі. Мова жывёл. Мова формул. 6. Гутарка, размова; рус. разговор. Пытаўся я ў людзей, брат, сёння Наконт зямлі каля Заблоння, — Так бацька мову расчынае... К-с.

**Модлы**, наз., адз. няма. ◘ Малітва. Маліўся дзядзька з тым разлікам, Каб кончыць модлы каля дома... К-с.

**Моладзь**, наз., ж. р. ◘ Маладое пакаленне; рус. молодежь. // Маладыя людзі; юнакі, дзяўчаты.

**Морг**[1], наз., м. р., -а. ◘ Трупярня.

**Морг**[2], наз., м. р., -а. ◘ Старая зямельная мера (0,71 га). ... Саху забраўшы і нарогі, Антось прыехаў і на грэчку Узняў маргоў са два папару. К-с.

**Моц**, наз., ж. р. ◘ 1. Трываласць; мацунак; рус. прочность. Моц жалеза. 2. Фізічная сіла. Крынічная вада вяртае страчаную моц. 3. Ступень праяўлення сілы; рус. мощь. Голасам моцы, ціха і важна Гром пракаціўся ўгары. К-с. 4. Магутнасць, аўтарытэт. Моц нашай краіны. II Здольнасць уздзейнічаць, сіла ўздзеяння. Шчыра веру я ў моц пажадання. С. Дз.

**Мошаст**, наз., м. р., -у. ◘ Аксаміт, крэп; рус. бархат.

**Мро́і**, наз., адз. мроя, ж. р. ◘ Мары, летуценні; рус. грёзы, мечты. У самых смелых і радасных мроях Не сягаў я да сённяшніх дзён. М. М.

**Мроіць**, мрою, мроіш, мроіць; незак. ◘ Уяўляць у думках, марыць; рус. мечтать. Мроіць пра славу.

**Мудрагелісты**, прым. ◘ 1. Цяжкі для разумения, выканання; складаны; рус. мудреный. Мудрагелістая задача. 2. Замысловаты, вычварны. Мудрагелістыя ўзоры.

**Мудрасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Вялікі розум; здольнасць чалавека ў пэўнай сітуацыі, а не па часе знаходзіць правільнае рашэнне, выкарыстоўваючы свой і чужы вопыт, быць прадбачлівым. Народная мудрасць. 2. Мудрыя думкі, выказванні, жыццёвы вопыт. Кажуць людзі: «Гады — не пуды». Гэтай мудрасці я не пярэчу. П. Пр. 3. Разм. Што-небудзь складанае, цяжкае для разумения. А Ўладзя толькі бровы хмурыць. -А-ей, якая мудрасць гэта: яе забыў я трэцце лета. К-с.

**Мужнасць**, наз., ж. р. ◘ Здольнасць чалавека стойка вытрымліваць выпрабаванні, не адчайвацца, не падаць духам у цяжкіх абставінах; рус. мужество. Праяўляць мужнасць. Мужнасць партызан.

**Музыка**, наз., м. р., ДМ музыку, ◘ Музыкант. Паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» прысвечана таленавітай моладзі.

**Мулкі**, прым. ◘ Які муляе, цвёрды; рус. жесткий. Хвораму і падушка мулкая.

**Муляр**, наз., м. р., -а. ◘ Рабочы, які будуе што-небудзь з каменню або цэглы; рус. каменщик. Муляр з цэглы дом кладзе, Сценка ў сценку роўныя. А. А.

**Мур**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Будынак з каменю або цэглы. На месцы халупы — Будуецца мур, Жыццё ў берагі ўлілося. Ю. Л. 2. -у. Цагляная або каменная сцяна вакол нечага. Старадаўні чырвоны мур з чатырохкутнымі вежамі і высокімі брамкамі цягнецца ад берага ракі праз увесь горад да каралеўскага палаца. В. В-і.

**Мураванка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Будынак з каменю або цэглы. Гарадскія мураванкі.

**Мурашка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Невялікае насякомае атрада перапончатакрылых, якое жыве вялікімі калоніямі; рус. муравей. Не ўсе дапаўзаюць мурашкі: Гоуз у мурашкі цяжкі. А. В.

**Муро́г**, наз., м. р., мурагу. ◘ Сухадольная трава высокай кармавой якасці, а таксама сена з такой травы; рус. мурава. Прайшоў гадок, мінуў другі, Ў касьбу запахлі мурагі. К-с.

**Мусульманства**, наз., н. р. ◘ Рэлігія, заснаваная, паводле арабскіх паданняў, у VII ст. н. э. прарокам Магаметам у Аравіі; магаметанства, іслам.

**Мусульманін**, наз., м. р., -а. мн. мусульмане. ◘ Паслядоўнік мусульманства; магаметанін.

**Мыліца**, наз., ж. р. ◘ Кастыль, кавяла. Ранены хадзіў па палаце на мыліцах.

**Мысленне і мышленне**, наз., н. р. ◘ 1, Адлюстраванне рэчаіснасці ва ўяўленнях, паняццях, суджэннях. 2. Здольнасць чалавека разважаць, супастаўляючы з'явы, факты, і рабіць адпаведныя высновы.

**Мыт**, наз., м. р., -у. Гіст. ◘ Падатак, пошліна за правоз тавараў цераз мяжу ці па тэрыторыі дзяржавы; мыта.

**Мытня**, наз., ж. р. Гіст. ◘ Установа, якая займаецца кантролем над правозам тавараў цераз мяжу і збіраннем пошлін за такі правоз; таможня; мытніца.

**Мэбля**, наз., ж. р. ◘ Прадметы хатняй абстаноўкі; рус. мебель. Пакойчык застаўлены мэбляй.

**Мэндлік**, наз., м. р., -а. ◘ Пяць снапоў ячменю, аўса, пастаўленых у кучкі для прасушкі і накрытых распасцёртым снапом зверху; бабка; рус. суслон. Мэндлікі ячменю.

**Мэта**, наз., ж. р. ◘ Тое, да чаго імкнуцца людзі, чаго жадаюць дасягнуць; рус. цель. Мэта ўрока. Дасягнуць мэты. □ Да ўсяго ж яшчэ і

босы, пілавінне ў валоссі, — і ніякае прыкметы, што дасяг ён [малодшы сын] добрай мэты. У. Д.

**Мяжа**, наз., ж. р. ◘ 1. Граніца паміж зямельнымі ўчасткамі. 2. Прыродная або ўмоўная лінія, якая дзеліць тэрыторыю сумежных дзяржаў; граніца. Сцерагчы межы нашай краіны. // перан. Пра тое, што аддзяляе адно ад другога; рус. черта. Мяжа паміж дабром і злом. На мяжы восені і зімы. 3. Норма, рубеж дазволенага, магчымага; рус. предел. Мяжа жыццёвай мары.

**Мянушка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ 1. Назва, дадзеная чалавеку жартам, у насмешку або для канспірацыі; рус. кличка, прозвище. 2. Назва, дадзеная адной жывёле ў адрозненне ад іншых. Каля хлява рух-суматоха: — Куды ты, чортава Панчоха?! — Крычыць Уладзя, свішча пужка («Панчоха» -Лысае мянушка). К-с.

**Мянціць**, мянчу, менціш, менціць; незак. ◘ 1. Вастрыць касу мянташкай (наждачнай лапаткай); рус. точить. Касцы расходзяцца па гаку, Як бы ідуць яны ў атаку, І жыва менцяць свае косы... К-с. 2. перан. Гаварыць многа і без толку, гаварыць бязглуздзіцу; трапацца, лапатаць; рус. болтать. А вы языком толькі менціце. А. Ас.

**Мярзотнік**, наз., м. р., -а. ◘ Агідны, паганы, подлы чалавек; нягоднік; рус. мерзавец. Мярзотнікам рукі не падаюць.

**Мярэжа**, наз., ж. р. ◘ 1. Сетка для лоўлі рыбы, нацягнутая на абручы; рус. мерёжа. 2. перан. Тое, што сваім выглядам нагадвае сетку. Адхінае вечар тонкія мярэжы. П. Т.

**Мястэчка**, наз., н. р. ◘ Вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада; пасёлак гарадскога тылу. Скрозь вяночкі дрэў вясёла Цэрквы, істромкія касцёлы Над мястэчкам ці сялом Вежы ўзносяць к небясом. К-с.

**Мясціна**, наз., ж. р. ◘ 1. Пэўная частка, участак якой-небудзь тэрыторыі; рус. место, уголок. У лесе кожная мясціна — Лужок, палянка, баравіна — Асобны твар і выраз мае... К-с. 2. Якая-небудзь мясцовасць; рус. место. Балоцістыя мясціны. Гпухія мясціны. // Край, раён, акруга. Пласкадонка ў гэтых мясцінах называецца чайкай. Брыль.

**Мясцовасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Частка зямной паверхні; рус. местность. Нізкая вільготная мясцовасць. 2. Край, раён, акруга. Вызваленая ад акупантаў мясцовасць.

**Мячэць**, наз., ж. р. ◘ Малітоўны дом у мусульман.

# Н

**Наадварот**, прысл. ◘ 1. У адваротным напрамку; рус. наоборот. Прачытаць слова наадварот. 2. Зусім інакш, не так, як трэба. Часам жадаеш зрабіць як найлепш, а выходзіць наадварот. 3. у знач. пабочн. У процілегласць таму, што сказана. Некаторых цікавіць адно, а іншых, наадварот, другое.

**Набакір**, прысл. ◘ Ссунуўшы, ссунуўшыся на адзін бок, на вуха (пра манеру насіць галаўны ўбор); рус. набекрень. Зухавата ссунутая набакір фуражка.

**Набалелы**, прым. ◘ 1. Вельмі балючы ад працяглага болю; вельмі адчувальны ад доўгіх пакут; рус. наболевший. Крык набалелай душы. 2. Які даўно наспеў і патрабуе неадкладнага вырашэння. Набалелая праблема. 3. у знач. наз. набалелае. Расказаць пра набалелае.

**Набат**, наз., м. р. ◘ 1. -у. Сігнал трывогі з выпадку нейкага бедства, які падаецца пры дапамозе звона. б. Быкаў не раз даводзіў, што талент — гэта вечавы звон, набат, а не жалейка і не свісцёлка. 2. -а. Вялікі барабан у войсках старажытнай Русі.

**Набрыняць**, -яе; зак. ◘ 1. Набраўшыся вільгаці, вадкасці, павялічыцца ў аб'ёме; рус. набрякнуть. Дзверы набрынялі ад сырасці. Лёд на рацэ набрыняў. Бінт набрыняў крывёю. 2. Стаць гатовым, каб распусціцца, прарасці; набухнуць; рус. набухнуть. Набрынялі пупышкі.

**Набытак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Маёмасць, уласнасць; рус. пожитки; приобретение. Набытак сям'і. 2. Усё тое, што набыта, прыдбана ў выніку жыцця, вучобы; рус. достояние. Творчыя набыткі. Духоўны набытак.

**Набыць**[1], -буду, -будзеш, -будзе; зак. ◘ 1. Стаць уладальнікам нечага; купіць; раздабыць; рус. приобрести. Набыць машыну. 2. Атрымаць, засвоіць. Набыць спецыяльнасць. 3. Стаць, зрабіцца якім-небудзь. Гаворка набыла тую лёгкасць, калі не трэба шукаць слоў. Л. Г-н.

**Набыць**[2], -буду, -будзеш, -будзе; зак. ◘ Прабыць, пабыць дзе-небудзь доўга. Ужываецца звычайна з адмоўем «не». Доўга начальнікам не набыў.

**Наваколле**, наз., н. р. ◘ Мясцовасць, якая прылягае да нечага або знаходзіцца навокал некага, нечага; ваколіца; рус. окрестность, округа. Рака разлівалася вясной ізатапляла наваколле.

**Навала**, наз., ж. р. ◘ 1. Нашэсце ворага; напад. Тое ж было і з народам маім. Сякера ваеннай навалы прайшлася бязлітасна па ім, і -прагалы, прагалы. А. В. 2. Бяда, няшчасці; непрыемнасці; усё тое, што навальваецца магутнай сілай. Ратавацца ад навалы.

**Навалач**, наз., ж. р., Т навалаччу. ◘ Разм., пагард. Няпрошаныя прышэльцы; нікчэмныя людзі, зброд. Фашысцкая навалач.

**Навальніца**, наз., ж. р. ◘ 1. Непагадзь з маланкай, громам, дажджом або градам і моцным ветрам; рус. гроза. Зірні на луг прад навальніцай, Калі крыжастай бліскавіцай Устрасе твар ахрысціць хмара... К-с. 2. перан. Бурныя, грозныя падзеі; бяда, небяспека. Няхай цябе мінуць усе навалы, Каб ты не ведала ніякіх навальніц. У. Д.

**Нават**, часц. ◘ 1. Ужываецца для вылучэння і ўзмацнення сэнсу таго слова, да якога адносіцца; рус. даже. Нават старыя і малыя падняліся на барацьбу'з ворагам. 2. у знач. злучн. Далучае член сказа і сказ, які ўдакладняе што-небудзь. Прырода сціішылася, нават лісцік не зварухнецца.

**Наведаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Пабываць недзе, у некага, прыйсці або прыехаць да некага; рус. навестить. Навёдаць хворага сябра.

**Наведвальнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто наведвае некага, нешта; прыходзіць некуды, да некага; рус. посетитель. Пачаўся прыём наведвальнікаў у юрыдычнай кансультацыі.

**Навела**, наз., ж. р. ◘ Кароткая аповесць ці апавяданне з нечаканай развязкай і вострым сюжэтам. Навела З. Бядулі «Пяць лыжак заціркі».

**Навідавоку**, прысл. ◘ Так, што ўсе бачаць; у зручным месцы, побач. [Хадыка:] — А пацікуйцеся: тут блізка; Зямля, бы ў мацеры калыска, Навідавоку, пад рукамі... К-с.

**Навобмацак**, прысл. ◘ Пры дапамозе дотыку, абмацваючы; рус. на ощупь. Шукаць навобмацак.

**Наводдаль**, прысл. ◘ На некаторай адлегласці; не вельмі далека; рус. поодаль.

**Навокал**, прысл. ◘ 1. Усюды, з усіх бакоў; навакол; рус. вокруг. Нада мною блакітны шацёр, А навокал лясы і лясы. А. А. // Кругом. Агледзецца навокал. 2. прыназ. з Р. Вакол хаты — прысады.

Навошта, прысл. ◘ З якой мэтай, для чаго, нашто; рус. зачем. Навошта глуміць прыроду? Навошта сячы сук, на якім сядзіш?

**Навука**, наз., ДМ -вуцы. ◘ 1. Сістэма ведаў пра заканамернасці развіцця прыроды і грамадства; праца ў той ці іншай галіне ведаў. Займацца навукай. 2. Асобная галіна гэтых ведаў. Астраномія — навука пра нябесныя целы. 3. толькі адз. Навыкі, уменне, веды;

вопыт. Бяда ды мука — тая ж навука. Прык. (рус. Беда всему научит). Купіць касу — о, гэта штука! Яшчэ больш важная навука - Умець дагнаць касу да ладу І даць ёй выклепку, асаду. К-с. 4. толькі адз. Навучанне, настаўленне. Помніць усё жыццё навуку дзеда. 5. толькі адз. Навучанне, вучоба. Дык трэба грунт мець пад нагамі, Каб не бадзяцца батракамі. Які ж то грунт? Зямля, навука, Але не панская прынука. К-с. Навука хоць намучыць, але жыць навучыць. Прык. (рус. Грамоте учиться — всегда пригодится).

**Навуковец**, наз., м. р., -оўца. ◘ Разм. Чалавек, які займаецца навукай. Вядомы навуковец Ф.М. Янкоўскі быў таксама і таленавітым празаікам, пра што сведчаць некалькі яго кніг абразкоў.

**Навучэнец**, м. р., -нца. ◘ Той, хто вучыцца ў старшых класах сярэдніх школ, тэхнікумах, вучылішчах, ліцэях, гімназіях; рус. учащийся. Навучэнцы ліцэя.

**Нагадаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Напомніць некаму пра нешта. Заспявалі пеўні, як гарністы, Нагадалі, што ўставаць пара. У. С. 2. Паказацца падобным да некага, нечага. Раззлаваны чалавек нагадваў раз'юшанага пеўня.

**Нагляд**, наз., м. р., -у, ◘ 1-Назіранне за некім, нечым для аховы, кантролю, вывучэння і пад.; рус. наблюдение. Усе зубры ў Белавежскай пушчы знаходзяцца пад навуковым наглядам. 2. Дагляд, клопат; рус. присмотр, попечение. Дзеці павінны быць nad наглядам бацькоў і настаўнікаў.

**Нагода**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Прычына, выпадак. Выдалася нагода наведаць сябра юнацтва.

**Нагрувасціць**, -ашчу, -асціш, -асціць; зак. ◘ 1. Бязладна накласці, наваліць адну рэч на другую; рус. нагромоздить. Нагрувасціць кучу цэглы. 2. перан. Перапоўніць чым-небудзь. Нагрувасціць цытат.

**Надакучыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ Зрабіцца сумным, непрыемным сваёй аднастайнасцю, паўтарэннямі, перастаць цікавіць каго-небудзь; апрыкраць; рус. надоесть. Надакучыць пытаннямі.

**Надалей і надалей**, прысл. ◘ На будучы час, на потым. Падпісаць дамову надалей.

**Надарыцца**, -рыцца; зак. ◘ Выдацца, выпасці; рус. случиться. І вось надарыцца часамі Мароз над усімі маразамі... К-с.

**Надворак**, наз., -рка. ◘ Частка двара каля хаты, дома; рус. двор. Прасторны надворак.

**Надвор'е**, наз., н. р. ◘ Стан прыроды ў пэўны час, у пэўным месцы; рус. погода. Дажджлівае надвор'е.

**Надвячорак**, наз., м. р., -рка. ◘ Пара перад самым вечарам; рус. предвечернее время. Ціхі надвячорак пасля спякотнага дня.

**Надвячоркам**, прысл. ◘ Перад самым надыходам вечара. Паліваць градкі надвячоркам.

**Надзея**, наз., ж. р. ◘ 1. Чаканне чаго-небудзь добрага, якое спалучаецца з упэўненасцю ў тым, што яно збудзецца; рус. надежда. Не страціць надзеі. 2. Той або тое, на каго, на што можна спадзявацца, апірацца; рус. упование. Бацька і маці выхоўвалі сына. Сын быў уцехай, надзеяй адзінай. У. Д.

**Надзённы**, прым. ◘ Які мае важнае жыццёвае значэнне; неабходны; актуальны; рус. насущный; злободневный. Надзённыя патрэбы.

**Надзіманы**, прым. ◘ І.Які надзімаецца паветрам або газам; рус. надувной. Надзіманая лодка. 2. перан. Поўны пыхі; важнасці; ганарысты; рус. важный, надутый. І праўда, пан быў злы, паганы І звераваты, надзіманы... К-с.

**Надта**, прысл. ◘ 1. Звыш меры, празмерна. Здаралася не раз, што есці надта хацелася, а мамка не прыносіла. Я. Ш. 2. Вельмі; рус. очень. Надта моцны мароз.

**Наедак**, наз., м. р., наедку. ◘ Тое, чым можна наесціся; пажыўнасць яды. Яблыкі — не вялікі наедак. Які з цукерак наедак?

**Нажытак**, наз., м. р., нажытку. ◘ Тое, штонажыта, набыта; набытак. Мне свой набытак і нажытак Паказваў добры гаспадар. А. Б.

**Назаляць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ Часта прыставаць да некага, турбаваць, дакучаць; рус. надоедать. Не назалящь суседзям.

**Назапасіць**, -пашу, -пасіш, -пасіць; зак. ◘ Нарыхтаваць, загатаваць вялікую колькасць нечага. Назапасіць сена. Вавёрка назапасіла на зіму арэхаў.

**Назаўсёды**, прысл. ◘ На ўвесь час, на ўсё жыццё, назусім; рус. навсегда. Назаўсёды запомніць урокі дзядулі.

**Назва**, наз., ж. р. ◘ Абазначэнне словам чаго-небудзь, найменне чаго-небудзь; рус. название, наименование. Ведаць назвы ўсіх птушак, кветак, дрэў — ведаць прыроду роднай зямлі. II Загаловак твора, кнігі. Назва аповесці.

♦ Адна (толькі) назва — аб тым, што не адпавядае свайму прызначэнню. Якая там дапамога! Адна назва.

**Назіраць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Глядзець збоку, не ўмешваючыся; рус. наблюдать. 2. Бачыць, наглядаць. Назіраць за работай станка. 3. Даследаваць, вывучаць. Назіраць зацьменне Сонца. 4. Пільнаваць, каб не здарылася чаго-небудзь дрэннага; сачыць; рус. присматривать. Назіраць за куранятамі, каб не схапіла варона.

**Назіркам**, прысл. ◘ Не спускаючы з вачэй (ісці, бегчы); рус. не теряя из виду. Данік назіркам рушыў за сястрой. І. Ш. // Паглядаючы час ад часу. Назіркам сачыць за ўваходам.

**Назнарок**, прысл. ◘ Спецыяльна, з нейкай мэтай; знарок; назло некаму; рус. умышленно, нарочно.

**Наканаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; зак. ◘ Наперад, загадзя вызначыць нешта; рус. предначертать. Лес наканаваў Багдановічу кароткі век.

**Наканаванасць**, наз., ж. р. ◘ Тое, што наперад, загадзя абумоўлена, вызначана некім ці нечым; наканаванне; рус. предначертание; судьба, рок. Наканаванасць лесу.

**Наконт**, прыназ. з Р. ◘ Абазначае: адносна каго, чаго (пра каго, што) выказваецца думка, паведамленне; рус. насчет. [Бацька:] Пытаўся я ў людзей, брат, сёння Наконт зямлі каля Заблоння... К-с.

**Накшталт**, прыназ. з Р. ◘ Выражае параўнальныя адносіны; рус. вроде. Пятляла рэчка тут накшталт вужакі. М. М.

**Належны**, прым. ◘ Такі, які павінен быць; патрэбны, неабходны; рус. надлежащий. Зрабіць належныя высновы. II у знач. наз. належнае. Успрыняць як належнае.

**Налета**, прысл. ◘ Будучым летам, у наступным годзе. Добра падрыхтаваўшыся, Алесь налета зноў будзе паступаць ва універсітэт.

**Наліснік**, наз., м. р., -а. ◘ Вельмі тонкі блін з пшанічнай муКі; рус. налистник. Выпякаць наліснікі.

**Намаганне**, наз., н. р. ◘ Моцнае напружанне ўсіх сіл, накіраванае на нешта; рус. усилие. Хворы з вялікім намаганнем устаў і пайшоў.

**Намагацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ Сіліцца, старацца нешта зрабіць; нечага дасягнуць. Дзіця намагалася ўстаць і зноў падала.

**Намер**, наз., м. р., -у. ◘ Жаданне, задума нешта зрабіць; рус. намерение. Добры намер.

**Намітка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ 1. Тонкае саматканае кужэльнае палатно; рус. повойник. Іконы ахіналі наміткамі. 2. Даўней: жаночы галаўны ўбор. На яе галаве красуецца намітка з вышытымі канцамі. К-с.

**Нанач,** прысл. ◘1. З наступленнем ночы; на ўсю ноч. Некаторыя кветкі нанач згортваюць свае пялёсткі. 2. На начлег, каб пераначаваць. Падарожны папрасіўся нанач.

**Наогул**, прысл. ◘ 1.У большасці выпадкаў; рус. вообще. Наогул гэта правільна, але бывав і інакш. 2. Заўсёды, пры любых умовах. Хлусіць наогул не ўмее і не можа. 3. Нешта абагульняючы. Кажу не пра цябе, а наогул, як бывае сярод людзей.

**Напавер**, прысл. ◘ У доўг, у крэдыт; рус. взаймы. Даць грошы напавер.

**Напад**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Хуткае дзеянне, накіраванае на захоп, забойства і пад.; рус. нападение. Напад на фашысцкую аўтакалону.

2. Абвінавачванні, прыдзіркі, папрокі, з якімі выступаюць супраць некага, нечага; нападкі. Напад крытыкаў быў беспадстаўны.

**Напалохаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Выклікаць у некага страх, трывогу; спалохаць; рус. испугать.

Ой, дзядзька, цётка! — ён [Яська] галосіць,
І нейкі рух яго аж носіць: -
Ідзеце, борздзенька ідзеце.
Там штось грыміць, ну, паглядзеце! -
І так завойкаў, так завохаў,
Што ўсіх у хаце напалохаў. К-с.

**Напамін**, наз., м. р., -у. ◘ Словы, паведамленне, зварот, якія прымушаюць нешта ўспомніць; напамінак; рус. напоминание. Напамін пра неабходнасць выканаць даручаную справу. У добрай справе не чакай напаміну.

**Напаткаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Ідучы або едучы, сустрэць некага; выпадкова сустрэць, натрапіць на некага, на нешта; рус. Встретить. Напаткаць неруш баравікоў. 2. перан. Здарыцца, спасцігнуць (пра бяду, непрыемнасць, рашэнне, думку і пад.); рус. Постигнуть, постичь.

**Напрадвесні**, прысл. ◘ Перад самым наступлениeм вясны; ранняю вясною. Неба было сіняе, якім яно бывав толькі напрадвесні. // у знач. прыназ. Пры абазначэнні года (у форме роднага склону). Напрадвесні 1999 года.

**Напрамак**, наз., м. р., -мку. ◘ 1. Лінія руху; кірунак; рус. направление. Шукаць іншы напрамак. 2. перан. Шлях развіцця нечага; накіраванасць. Напрамак у працы. 3. Грамадская, навуковая, літаратурная і інш. плынь, групоўка. Рэалістычны напрамак у літаратуры. 4. Участак фронту. Баі ішлі на Віцебскім напрамку.

**Напрасткі**, прысл. ◘ Самым кароткім шляхам, па прамой лініі; нацянькі; рус. напрямик. Пайшлі не па дарозе, а напрасткі, поплавам.

**Напрыклад і да прыкладу**, пабочн. ◘ Для прыкладу; рус. например. На ўроках мовы праводзяцца розныя віды работ, напрыклад: дыктоўкі, сачыненні, пераказы.

**Напэўна**, прысл. ◘ 1. Беспамылкова, з разлікам; без рызыкі; рус. наверняка. Дзейнічаць напэўна, не працаваць абы-як. 2. у знач. пабочн. Мабыць, хутчэй за ўсё; рус. наверное. Пачалі браты сварыцца, — Ашукаеш ты, напэўна! Як зусім чужыя быццам. - Ды і ты дзялец няпэўны! У.Д.

**Напярэдадні**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. Непасрэдна перад нейкім днём, нейкай падзеяй; рус. накануне. Напярэдадні выпаў снег. 2.

прыназ. з Р. Ужываецца пры ўказанні на з'яву, падзею, перад якімі нешта адбываецца. Госці прыехалі напярэдадні Каляд.

**Наравісты**, прым. ◘ І.Упарты, з норавам; натурысты, капрызны; рус. привередливый, своенравный. Ой, такі ўжо наравісты, Хоць ты падай прад ім лістам! К-с. 2. у перан. ужыв. Наравісты Неман.

**Нарада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Пасяджэнне для сумеснага абмеркавання якога-небудзь пытання, праблемы, а таксама ўдзельнікі гэтага пасяджэння; рус. совещание. Міжнародная нарада. Назаўтра рана чуць разднела, Чуць-чуць на ўсходзе пасвятлела, Была кароткая нарада, Каму вясці якога пана. К-с.

**Нарыс**, наз., м. р., -а. ◘ Невялікі літаратурны твор, у якім апісваюцца рэальныя факты, падзеі, жыццё цікавых людзей; рус. очерк.

**Нарэшце**, прысл. ◘ 1. Пасля ўсяго, напаследак; рус. наконец. Нарэшце дрыгва скончылася. 2. у знач. пабочн. сл. Апроч усяго, яшчэ. Цудоўна адпачыць можна, нарэшце, і на Беларусі.

**Насельніцтва**, наз., н. р. ◘ Сукупнасць жыхароў на ўсёй Зямлі, на кантыненце, у краіне, горадзе і пад.; рус. население. Насельніцтва Беларусі.

**Насенне**, наз., н. р. ◘ Зярняты, прызначаныя для сяўбы; расліны, прызначаныя для пасеву; рус. семена. Рыхтаваць насенне. Пакінуць бульбы на насенне. □ Якое карэнне, такое і насенне. Прык. (рус. Каково семя, таково и племя).

**Наскі**, займ. Разм. ◘ Наш, свой. У любімай мове, роднай, наскай, Ах, якія словы! «Каліласка!..» П. Б.

**Наскрозь**, прысл. ◘ 1. Праз усю таўшчыню; з аднаго краю да другога, з канца ў канец; рус. насквозь. Прамокнуць наскрозь. Прайсу лес наскрозь.

♦ Бачыць наскрозь — добра ведаць чые-небудзь думкі, намеры.

**Настаўнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Асоба, якая выкладае ў школе, вучыць і выхоўвае дзяцей; рус. учитель. Калі рос, бывала, харошы хлопчык, добра вучыўся, што пра яго казалі дарослыя? Вырасце — настаўнікам будзе. І гэта была найлепшая пахвала. В. Б. 2. Той, хто наогул з'яўляецца натхніцелем, хто выхоўвае, настаўляе на дабро. Прыхілен дзядзька быў да дзетак. Ён быў настаўнікам, суддзёю, Калі, бывала, між сабою Паспорацъ дзеткі ці паб'юцца, Дык да каго тады звярнуцца, Як не да дзядзькі, да Антося? Ох, слаўна з дзядзькам ім жылося! К-с.

**Настаяцель**, наз., м. р., -я. ◘ 1. Кіраўнік мужчынскага манастыра, ігумен. 2. Старшы святар у праваслаўным храме.

**Настольнік**, наз., м. р., -а. ◘ Тое, што і абрус.

**Настрой**, наз., м. р., -ю. ◘ Унутраны, душэўны стан; рус. настроение. Цудоўны настрой. □ Куды ні глянь — усё ў настроі І ў добрай згодзе між сабою; Само паветра жыва, дыша, Бы ў ім хтось хвалы жыццю піша... К-с.

**Наступны**, прым. ◘ 1. Бліжэйшы па чарзе; рус. следующий. Наступны раз будзе па-іншаму. 2. у знач. наз. наступнае. Тое, пра што гаворыцца далей; вось што. А наверсе тым часам адбывалася наступнае. Па лесе ішла велізарная жывёліна... Я. М.

**Насуперак**, прысл. і прыназ. Разм. ◘ 1. прысл. Наперакор. Гаварыць насуперак. 2. прыназ. з Д. Спалучэнне з прыназоўнікам «насуперак» указвае на асобу, прадмет, з'яву, наперакор якім нешта адбываецца; рус. вопреки. Здаўна лічылася, што пайсці насуперак волі бацькоў — не мець шчасця і ўдачы ў той справе, на якую не было бацькоўскага благаславення.

**Насустрач**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. У напрамку, процілеглым таму, у якім рухаецца нехта ці нешта; рус. навстречу. Імклівая, захапляючая ляцела насустрач дарога. М. Л. Насустрач падымалася зара. М. Т. 2. прыназ. з Д. Ужываецца для ўказання на прадмет ці асобу, да якіх нехта ці нешта рухаецца спераду ці наперарэз. Гэрой пайшоў насустрач танкам.

**Нататка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Кароткі запіс пра нешта; кароткае пісьмовае або друкаванае паведамленне; артыкул; рус. заметка. Пісаць нататкі ў газеты для падлеткаў.

**Натоўп**, наз., м. р., -у. ◘ Вялікае, звычайна хаатычнае зборышча людзей; рус. толпа. Бунт натоўпу і паніка ў натоўпе — вельмі страшныя і небяспечныя з'явы.

**Натурлівы**, прым. Разм. ◘ Наравісты, з норавам; упарты; натурысты; рус. норовистый, своенравный. Пра натурлівага чалавека кажуць: ні грозьбамі, ні просьбамі не возьмеш.

**Натхненне**, наз., н. р. ◘ Ч.Стан творчага ўздыму; рус. вдохновение. Пісаць у хвіліны творчага натхнення. 2. Душэўны ўздым, захапленне. Я тут усхапіўся і з натхненнем Песню ім пра бульбу праспяваў. П. П.

**Наўздагон**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. Услед за тым, хто аддаляецца, адыходзіць; рус. вдогонку. Бегчы наўздагон за сябрам. 2. прыназ. з Д. Ужываецца пры абазначэнні асобы ці прадмета, якія аддаляюцца і ўслед за якімі хто-небудзь, што-небудзь пасылаецца. Гукаць наўздагон брату, каб той вярнуўся.

**Наўмысна**, прысл. ◘ З намерам, свядома; рус. умышленно. Наўмысна пазбягаць сустрэчы.

**Наўпрост**, прысл. ◘ Тое, што і напрасткі.

**Наўрад і наўрад ці**, прысл. ◘ Малаверагодна; рус. вряд ли. Конна наўрад ці можна праехаць цераз балота.

**Наўсцяж**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. На ўсёй прасторы, ва ўсіх напрамках; навокал; рус. вокруг. / ўся зямля наўсцяж — Законны наш спажытак. К-с. 2. прыназ. з Р. Спалучэнне прыназоўніка «наўсцяж» ужываецца пры ўказанні на прадмет, уздоўж па лініі якога нешта размяшчаецца, рухаецца; рус. вдоль. Наўсцяж дарогі — жытнёвыя палеткі. Самалёты ляцелі наўсцяж гасцінца на захад.

**Наўцёкі**, прысл. ◘ Бягом, уцякаючы ад некага, нечага; рус. наутёк. Кінуліся наўцёкі.

**Нахабны**. ◘ Бесцырымонны, бессаромны; рус. наглый. Надта нахабны хлопец. II Які выражае нахабства. Нахабны тон.

**Нахіліцца**, -хілюся, -хілішся, -хіліцца. ◘ Нагнуцца. Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца. Прык. (рус. Без труда не вынешь и рыбку из пруда).

**Націск**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Моцны напор. Магутны дуб стаіць пад націскам вятроў. 2. Імклівы напад, рашучае, энергічнае дзеянне; рус. давление. Паліцэйскія ледзь стрымлівалі націск натоўпу. 3. Вылучэнне склада або слова сілай голасу ці павышэннем тону, а таксама значок над літарай, які абазначае такое вылучэнне; рус. ударение. У слове «выпадак» націск на першым складзе. Лагічны націск.

**Нацкаваць,** -кую, -куеш, -куё; зак. ◘ 1. Падахвоціць сабак да нападу на некага; рус. науськать. На музыку ў цёмным лесе нацкавалі зграю воўчу Ён, запрошаны ў госці, цераз лес ішоў аднойчы. У. Д. 2. перан. Падбухторыць да варожых дзеянняў супраць некага. Нацкаваць натоўп на ахвяру.

**Нацыя**, наз., ж. р. ◘ Супольнасць людзей, якая склалася гістарычна на аснове агульнасці іх тэрыторыі, мовы, эканамічных сувязяў, культуры, звычаяў, традыцый, характеру, псіхічнага складу. Беларуская нацыя.

**Нацыяналізм**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Распальванне нацыянальнай варожасці пад лозунгам абароны нацыянальных інтарэсаў, абвяшчэнне перавагі, выключнасці адных нацый перад другімі. Прапаганда нацыяналізму забаронена ва ўсіх цывілізаваных краінах, бо ён вядзе да войнаў і кровапраліццяў. 2. Нацыянальны рух у прыгнечаных краінах за незалежнасць народа супраць іншаземных прыгнятальнікаў.

**Нацянькі**, прысл. ◘ Самым кароткім шляхам; напрасткі, наўпрост; рус. напрямик. Як пойдзеш нацянькі, то праходзіш тры дзянькі.

Прык. (рус. Не зная броду, не суйся в воду). [Тыгр:] Недалёка маладому Збегаць нацянькі дадому! У. Д.

**Начлежнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек, які часова начуе дзе-небудзь. Прыняць начлежнікаў. 2. Той, хто пасе коней ноччу. Начлежнікі-канапасы расклалі вогнішча.

**Начніца**, наз. ◘ 1. ж. р. Кажан; рус. летучая мышь. Устаюць начныя страхі, здані, І зыкі чуюцца пагані Чараўніка і чараўніцы, І лопат крыллямі начніцы. К-с. 2. м. іж. р. Той, хто доўга не кладзецца спаць, бадзяецца начамі. Па вуліцы прайшла начніца, Абцасам колючы асфальт. В. М. 3. Начная зорка. Зара за ўзгоркамі начніцы замыкала І косы вешала на росныя гаі. Т. К.

**Нашча**, прысл. ◘ Да прыняцця ежы; нічога не еўшы; рус. натощак. Нашча карысна выпіць сырадою.

**Нашчадак**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек у адносінах да еваіх продкаў; рус. потомок. Я — сын зямлі, нашчадак хлебаробаў. Р. Б. 2. толькі мн. нашчадкі. Людзі будучых пакаленняў. Нашчадкамі героі не забыты: На плошчы манументы ім стаяць. Х. Ж.

**Нашэсце**, наз., н. р. ◘ 1. Напад ворага; навала; рус. нашествие. Фашысцкае нашэсце. 2. перан. Нечаканы прыход, з'яўленне вялікай колькасці людзей. ♦ Мамаева нашэсце — пра нечаканы прыход непажаданых людзей.

**Наяўнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Прысутнасць, знаходжанне, існаванне; рус. наличие. Праверыць наяўнасць шкодных рэчываў у паветры, вадзе. 2. Колькасць нечага ў дадзены момант (пра грошы, тавары і пад.); рус. наличность. Інкасатары знялі касавую наяўнасць.

**Неабвержны**. ◘ Такі, які немагчыма абвергнуць; бясспрэчны, рус. неопровержимый. Няўмольныя і неабвержныя ісціны: не забі, не ўкрадзі, шануй бацькоў сваіх.

**Неабходны**, прым. ◘ Такі, без якога цяжка ці нельга абысціся; патрэбны; рус. необходимый. Неабходны дапаможнік. II Абавязковы, непазбежны. Неабходныя меры для прафілактыкі захворвання.

**Неадчэпны**, прым. ◘ Які не дае спакою, неадступны; назойлівы; рус. неотвязный. Неадчэпныя думкі.

**Неахайны**, прым. ◘ 1. Неакуратны, брудны; які не захоўвае парадку, чысціні. Неахайная гаспадыня. Неахайны пакой. 2. Зроблены абы-як. Неахайная праца.

**Небарака**, наз., аг. р., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -рацы, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Няшчасны, варты спачування чалавек; рус. бедняга. Папаўся ён тут, небарака! А лес пануры і страхлівы. Дарэктар наш быў палахлівы; Няма ні веры, ні надзеі На вельмі добрыя падзеі, Эх, цяжка жыць тут будзе, цяжка! К-с.

**Небасхіл**, наз., м. р., -у. ◘ Частка неба над лініяй гарызонту; небакрай; гарызонт. На далёкім небасхіле паказалася хмара.

**Небяспека**, наз., ж. р., ДМ -пецы. ◘ Пагроза некаму таго, што можа прычыніць няшчасце, зло, шкоду; рус. опасность. Пра небяспеку п'янства для нашай нацыі біў трывогу яшчэ К. Вераніцын у XIX ст. у паэме «Два д'яблы».

**Небяспечны**. ◘ Які пагражае злом, няшчасцем, можа прычыніць шкоду; рус. опасный. Небяспечнае становішча. Небяспечная хвароба.

**Неверагодны**, прым. ◘ 1. Немагчымы; фантастычны; рус. невероятный. Неверагодныя гісторыі. ІІ Незвычайны, дзіўны; рус. странный. У неверагоднай позе. 2. Надзвычай вялікі, незвычайны па сіле, хуткасці і пад.; неймаверны. Хуткасць ракеты неверагодная — 40 кіламетраў за секунду. Гамолка.

**Невук**, наз., м. р., -а. ◘ Неадукаваны, недасведчаны чалавек; рус. невежда, неуч. Невук на высокай пасадзе — вялікае зло.

**Невымерны**, прым. ◘ Які не паддаецца вымярэнню; вельмі вялікі; рус. неизмеримый. Невымерная глыбіня. Невымерная жальба.

**Невычэрпны**, прым. ◘ Які немагчыма вычарпаць, выкарыстаць поўнасцю; вельмі багаты; невычарпальны; рус. неисчерпаемый. Невычэрпная крыніца. Сваёй назвай Салігорск абавязаны невычэрпным скарбам калійнай і каменнай солі.

**Недарэка**, наз., аг. р., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -рэцы, Т -ай (-аю), ж. р. Разм. ◘ Някемлівы, няўмелы, нязграбны, няспрытны чалавек; няўмека; недалуга; рус. недотёпа. У недарэкі рукі калекі. Прык. (рус. Лентяй за дело — мозоль за тело).

**Недарэчны**, прым. ◘ 1. Сказаны неўпапад, зроблены не да месца; рус. неуместный. Недарэчнае пытанне. Недарэчная выхадка. 2. Неразумны, бяссэнсавы; рус. нелепый. Недарэчны выпадак. 3. Няўклюдны, няскладны; рус. несуразный.

**Недатыкальны**, прым. ◘ 1. Які ахоўваецца законам ад усякіх замахаў з боку каго-небудзь; рус. неприкосновенный. Пасол — недатыкальная асоба. 2. Які нельга расходаваць; непарушны. У кожнай краіне ёсць недатыкальны запас.

**Недахоп**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Памылка, хіба; недасканаласць; рус. недостаток. Паказваць на недахопы, вядома, лягчэй, чым выпраўляць іх. І. Ш. // Адмоўная рыса ў каго-небудзь. Людзей без недахопаў няма. Змагацца трэба не з чужымі, а з уласнымі недахопамі. 2. Адсутнсць патрэбнай колькасці чаго-небудзь. Недахоп сродкаў. Недахоп вільгаці.

**Недзе**, прысл. ◘ 1.У невядомым месцы; дзесьці; рус. где-то. 2. Ужываецца ў выпадках, калі дакладна не вызначаецца час дзеяння. Убачымся недзе на наступным тыдні.

**Незалежнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Самастойнасць, свабода, адсутнасць падначалення. Незалежнасць характеру. 2. Самастойнасць у міжнародных адносінах; суверэнітэт; рус. независимость. Ніхто з беларускіх паэтаў пачатку мінулага стагоддзя з такім запалам, мужнасцю, таленавітасцю і так паслядоўна не адстойваў, не бараніў ідэю нацыянальнага адраджэння і незалежнасці, як Янка Купала. □ І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу. К-а.

**Нездарма**, прысл. ◘ Не без прычын, не без падстаў; рус. недаром. Нездарма людзі кажуць: не выбірай жонку ў карагодзе, а шукай у агародзе. ІІ З намерам, не так сабе; рус. не зря, неспроста. Прыйсці нездарма.

**Некалі**, прысл. ◘ 1. Калісьці, даўно; рус. когда-то. Жылі некалі ў адным краі людзі ў згодзе ды ў ладзе. А. Я. 2. Калі-небудзь у будучыні. Некалі апамятаемся, што натварылі з прыродай, але каб не было позна.

**Нельга**, безас. у знач. вык. ◘ 1. Немагчыма; рус. невозможно. Нельга даць другому таго, чаго не маеш, чым не валодаеш сам. Сілай можна адабраць, але даць нельга. 2. Забаронена, не дазваляецца; рус. нельзя. Нельга смяяцца, калі побач нехта плача. Нельга рабіць другому таго, чаго не жадаеш сабе.

**Немаўля**, наз., н. р., мн. немаўляты. ◘ Малое дзіця; рус. младенец. Не ведаю велічы большей, чым маці, Што цешыцца ўсмешкай свайго немаўляці. Н. Г.

**Ненаўмысны**, прым. ◘ Які зроблены або адбываецца без намеру; выпадковы; рус. неумышленный. Ненаўмысны ўчынак.

**Непагадзь**, наз., ж. р. ◘ Зацяжная непагода; рус. ненастье. Асенняя нёпагадзь.

**Непазбежны**, прым. ◘ Якога нельга пазбегнуць; немінучы; рус. неизбежный. Непазбежная расплата за злачынства.

**Непарушны**, прым. ◘ Які нельга парушыць, разбурыць; моцны; рус. нерушимый. Непарушным павінна быць адзінства людзей розных нацыянальнасцяў, якія жывуць на Беларусі.

**Непахісны**, прым. ◘ І.Такі, што нельга пахіснуць; стойкі; рус. не, поколебимый. Непахісны барацьбіт за волю. 2. Які ўласцівы цвёрдаму, стойкаму чалавеку. Непахісная воля.

**Непрыемнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Пачуццё незадавальнення, прыкрасці; рус. досада. Зморшчыцца ад непрыемнасці. 2. Кепскае здарэнне, паведамленне; рус. неприятность. Ад непрыемнасцяў ніхто не застрахаваны, але трэба ведаць, што яны абавязкова мінуцца.

**Нерат**, наз., м. р., -а. ◘ Рыбалоўная снасць у выглядзе конусападобнай сеткі, нацягнутай на абручы; рус. мерёжа. Ды дзядзька борздзенька схваціўся, Знячэўку ён ашаламіўся, Як той шчупак, папаўшы ў нерат. Не знае ён, дзе зад, дзе перад. К-с.

**Неруш**, наз., -у, ДМ -у, Т -ам, м. р.; РДМ -ы, Т -шшу, ж. р. ◘ Штонебудзь некранутае (дзікі лес, грыбы і пад.). А як надарыцца часамі Нага ні разу не ступала Табе, вандруючы лясамі, І вока іх не зазірала! Найсці на неруш, дзе ніколі Зірнеш і страчваешся ты: Ніякай Тэклі ці Аўдолі Сядзяць грыбы, як капыты. К-с. // Вобласць дзейнасці, у якой амаль нічога не зроблена; духоўны скарб, знойдзены некім; творчае адкрыццё. Неруш ранішні — роднае слова, Мне шукаць цябе, покуль гляджу... ...А пашчасціць — натрапіцца неруш, — Зазвіняць недзе промні наўзбоч. Р. Б.

**Неспадзяваны**, прым. ◘ Нечаканы, непрадбачаны; рус. неожиданный. Неспадзяваны госць. II Раптоўны; рус. внезапный. Неспадзяваная здагадка.

**Нетры**, наз., мн. ◘ 1. Глыбіні зямлі, а таксама тое, што знаходзіцца пад зямной паверхняй; рус. недра. Праца кіпіць несціхана, Пласт падразае ствол: «Вось яна, доўгачаканая, Ўнетрах схаваная соль!» А. З-к. 2. Непраходныя, глухія мясціны; густы лес; рус. дебри, чаща. У час цяжкі ў лясныя нетры Радзіма склікала сыноў. М. А.

**Неўзабаве**, прысл. ◘ Хутка, у хуткім часе; рус. вскоре. Неўзабаве ўсё сціхла.

**Неўжывальны**, прым. ◘ Які не выкарыстоўваецца; рус. неупотребительный. Неўжывальнае слова.

**Неўладкаваны**, прым. ◘ 1. Не прыведзены да ладу, неўпарадкаваны; рус. неустроенный. Неўладкаванае асабістае жыццё. 2. Не забяспечаны ўсім неабходным; рус. неблагоустроенный. Неўладкаваны пакой.

**Неўміручы**, прым. ◘ 1. Які жыве вечна, не паддаецца смерці; несмяротны; рус. бессмертный. Неўміручы наш Мінск. 2. Які застанецца назаўсёды ў памяці людзей; які не забываецца. Радзіма! У сонечных далях тваіх Жыве неўміручы Купала! В. М.

**Нехта**, некага, нёкаму, некага, нёкім, аб нёкім, займ. ◘ Нейкі чалавек, нейкая істота; невядома хто; хтосьці; рус. кто-то; некто.

**Нечакана**, прысл. ◘ Раптоўна, неспадзявана; рус. неожиданно. Ведаюць здаўна на свеце пра тое — смех памагае знішчаць нам

ліхое. Так адбылося і тут нечакана: смех закрануў нешта людскае ў пана. У. Д.

**Нешта**[1], нёчага, нечаму, нешта, нечым, аб нечым, займ. ◘ Нейкі прадмет, з'ява, пачуццё і пад.; штосьці; рус. что-то. Нешта трывожыць, вярэдзіць дуйіу.

**Нешта**[2], прысл. ◘ Чагосьці, чамусьці, невядома чаму; рус. что-то. Нешта нездаровіцца.

**Неяк**, прысл. ◘ 1. Нейкім чынам; рус. как-то. Пашанцавала неяк уратавацца ад няшчасця. 2. Аднойчы; рус. однажды. Паклікаў неяк адзін мудры чалавек сваіх суседзяў на раду.

**Нібы**, злучн. і часц. ◘ 1. злучн. Як быццам; усё роўна як; як бы; рус. будто, как будто, словно. Застыў пан Богут нерухома, Нібы прыбіў яго пярун. К-с. 2. часц. Быццам; нібыта. ЁСЦЬ людзі, якім што ні кажы, яны нібы і не чуюць.

**Ніцма і ніц**, прысл. ◘ Тварам уніз; рус. ничком.

**Нішчымніца**, наз., ж. р. ◘ 1. Посная ежа. Сквапны чалавек нават сябе і сям'ю трымае на нішчымніцы. 2. Бясхлебіца, голад. Дзецям вайны давялося зведаць сіроцтва і нішчымніцу.

**Нішчымны**, прым. ◘ 1.Не прыпраўлены скаромным, без скаромнага; посны. Нішчымны крупнік. 2. Без нічога. Нішчымны хлеб.

**Нораў**, наз., м. р., нораву. ◘ 1. Характар, сукупнасць псіхічных якасцяў; рус. нрав. Круты нораў. Але капае дол у горах І страшна пеніцца, бушуе, І грунт каменны там свідруе. К-с. □ На што вада, але і тая Не ўсюды роўны нораў мае: Спакойна ў ямах і заторах, 2. мн. (норавы). Звычай, уклад жыцця; звычка; рус. нравы. У Ліпава пайсці з ім! Божа! І хто ўстаяць прад гэтым зможа! Ды гэта ж — свята, ягамосці! Набок тут норавы і злосці! К-с.

**Носьбіт**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто валодае нечым і можа быць выразнікам, прадстаўніком нечага; рус. носитель. Настаўнік — носьбіт культуры і духоўнасці, сейбіт разумнага, добрага, вечнага.

**Нуда**, наз., ж. р., ДМ -дзё. ◘ Непрыемны душэўны стан, выкліканы нематымасцю здзейсніць свае надзеі, жаданні; сум, туга; паныласць, маркота; рус. тоска, скука. Маладыя гады, Маладыя жадання! Ні жуды, ні нуды, Толькі шчасце кахання. М. Б.

**Нырка**, наз., ж. р., ДМ ныркы. ◘ Орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл; рус. почка. Блукаючая нырка *захворванне, якое праяўляецца ў ненармальнай яе рухомасці.

**Ныркаваць**, -цую, -цуеш, -цуе; незак. ◘ Поўнасцю апускацца ў ваду; рус. нырять. Хлопцы ўсе наперагонкі, хто «вінтом», хто «на сажонкі». Хто на дно ныркуе з маху, роўна з рыбкамі, без страху. У. Д.

**Нябожчык**, наз., м. р., -а. ◘ Мёртвы чалавек; рус. покойник, усопший. У абрадзе пахавання нябожчыка галоўнае месца належыць малітвам пра супакой, спачын душы памерлага.

**Нябыт**, наз., м. р., -у. ◘ Адсутнасць жыцця, існавання; рус. небытие. ♦ Адысці ў нябыт — спыніць існаванне.

**Нявыкрутка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Цяжкае або бязвыхаднае становішча. Калі ж нявыкрутка і ледзьве трон не падаў, — Спраўлялі тут жа ладзьбавання пір, Жанілі тут жа родных мілых чадаў, І, як пасаг, давалі ў роднасць мір. А. Б-а.

**Нядбальства**, наз., н. р. ◘ Абыякавыя, нядобрасумленныя адносіны да сваіх абавязкаў, справы; нядбайства; лянота, гультайства, неруплівасць; рус. нерадивость, беспечность, халатность. Праз гультайства, праз нядбальства Шмат чаго гублялі мы... К-а.

**Нядзеля**, наз., ж. р. ◘ Сёмы дзень тыдня, дзень адпачынку; ласк. нядзелька; рус. воскресенье. Няма яму нядзелькі, свята — Ідзе ды йдзе ён [бацька], як закляты; У шчэпку высах з той хады, Ад сну адбіўся, ад яды. І хто ўжо спужыць гэтак дбала? К-с.
♦ Вербная нядзеля — назва нядзелі за тыдзень да Вялікадня.

**Няёмка**, прысп. ◘ 1. Нязручна; рус. неудобно. Няёмка сядзець у нізкім крэсле. 2. Сорамна, непрыемна; рус. неловко. Няёмка прыйсці без гасцінцаў. Заўсёды няёмка, калі прысутнічаеш пры сварках іншых людзей.

**Нязломны**, прым. ◘ Непераможны; вельмі моцны; рус. несгибаемый; несокрушимый. Няхай грыміць на белым свеце слава Пра мужны і нязломны наш народ. А. А.

**Нястомны**, прым. ◘ Які не ведае стомы; вынослівы; настойлівы, упарты; рус. неутомимый. Нястомны ў пошуках новага.

**Няўрымслівы**, прым. ◘ Які не можа супакоіцца, доўгі час не спыняе сваёй дзейнасці; непаседлівы; рус. неугомонный. Няўрымслівы праўдашукальнік. ІІ Уласцівы такому чалавеку. Няўрымслівы характар. □ Як сказалі, так зрабілі, узняліся, як на крыллі, і пайшлі лясной дарожкай іх няўрымслівыя ножкі. У. Д.

**Няўхільны**, прым. ◘ І.Пастаянны, нязменны; рус. неуклонный. Няўхільны рост вытворчасці. 2. Цвёрды, непахісны; рус. непоколебимый. Галадай заўжды ведаў, чаго хацеў, і быў няўхільны ў сваіх намерах. В. Б. 3. Непарушны, нязменны; абавязковы; рус. непреложный. Няўхільны закон жыцця: за ўсё давядзецца плаціць. 4. Які непазбежна вынікае з абставін; немінучы; рус. неотвратимый. Няўхільны і няўмольны лёс.

**Няўцям**, прысл., у знач. вык. Разм. ◘ Незразумела; не прыйшло ў галаву; рус. невдомёк.

# О

**Одум**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Стан разважання, паглыблення ў свае думкі; рус. раздумье. Чалавек, апанаваны одумам. 2. Змена рашэння, паводзін і пад. у выніку разважання і ўсведамлення іх заганнасці, памылковасці. Прыйсці да одуму, адумацца, спыніцца, адмовіцца ад ранейшых намераў здольны не кожны.

♦ Сваім одумам жыць = жыць сваім розумам — прытрымлівацца сваіх поглядаў, быць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках.

# П

**Паабапал,** прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. З абодвух бакоў; абапал; рус. с обеих сторон. Паабапал — хаты ў квецені садоў: 2. прыназ. з Р. Ужываецца для абазначэння прадмета, з абодвух бакоў якога нешта знаходзіцца або адбываецца; абапал; рус. по обеим сторонам. Паабапал шляху — прысады ясакараў і ліп.

**Паасобку**, прысл. ◘ 1. Не разам; па адным; рус. отдельно. Пагаварыцьз кожным паасобку. 2. Асобна; рус. врозь. Жыць паасобку.

**Паасобнік**, наз., м. р., -а. ◘ Экземпляр чаго-небудзь; асобнік. Кніга выйшла накладам у пяць тысяч паасобнікаў.

**Пабагацець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Стаць багацейшым. Пабагацеем на дбайнасць і дабрыню.

**Пабачыцца**, -чуся, -чышся, -чыцца; зак. ◘ Убачыцца, сустрэцца з некім; рус. увидеться. Пабачыцца з сяброўкай.

**Пабачэнне**, наз., н. р. ◘ У выразе: да пабачэння — словы, якія гаворацца пры развітанні; рус. до свидания.

**Паблажлівы**, прым. ◘ 1. Нястрогі, непатрабавальны; рус. снисходительный. Паблажлівая дапамога настаўнікаў. 2. Мяккі, велікадушны, даравальны; рус. покровительственный. Паблажлівыя адносіны да сябра. Паблажлівы лес.

**Пабольшаць**, -аю, -аеш, -ае. ◘ 1. Стаць большым па колькасці. Людзей на вуліцы пабольшала. 2. Стаць большым памерам, па велічыні; рус. увеличиться. Дзень пабольшаў. // Падрасці. Дзеці пабольшалі. 3. Стаць большым па сіле; рус. увеличиться. Неспакой пабольшаў.

**Павага**, наз., ж. р., ДМ -вазе. ◘ Пачцівасць, пашана да некага; рус. уважение, почтение. Карыстацца павагай. Гаварыць з павагай.

**Паважаны**, прым. ◘ Які выклікае пачуццё павагі; шаноўны; рус. уважаемый; почтенный. Паважаны прафесар.

**Паведамленне**, наз., н. р. ◘ 1. Тое, аб чым даводзяць да ведама; рус. сообщение. Важнее паведамленне. // толькі мн. паведамленні. Звесткі; рус. известия. Апошнія паведамленні. 2. Невялікі даклад, інфармацыя. Зрабіць паведамленне на канферэнцыі. 3. Дакумент, які ўтрымлівае звесткі пра нешта; рус. уведомление. Паведамленне на пасылку.

**Паверх**, наз., м. р., -а. ◘ Памяшканні будынка, размешчаныя на адным узроўні; рус. этаж. Чацвёрты наверх.

**Павет**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Беларусі і на Украіне да 1924 г., якая ўваходзіла ў склад губерні; рус. уезд.

**Паветка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Пляцоўка пад страхой на слупах; павець. А пад паветкаю прылады: Вазок, калёсы, панарады... К-с.

**Паветра**, наз., н. р. ◘ 1. Сумесь газаў, якая складае атмасферу Зямлі; рус. воздух. Чыстае паветра. 2. Свабодная прастора над зямлёй.

**Павінен, павінна,** у знач. вык. ◘ 1. Абавязан, вымушан што-небудзь рабіць; рус. должен. У кожнай справе галава павінна кіраваць рукою. У. Д. 2. Пра тое, што абавязкова адбудзецца. Зацьменне месяца павінна быць у 11 гадзін.

**Павініцца**, -нюся, -нішся, -ніцца; зак. ◘ Прызнацца, пакаяцца ў сваёй віне. Здольнасць пабініцца сведчыць пра духоўную сілу чалавека.

**Паводзіны**, наз., адз. няма. ◘ І.Спосаб жыцця, дзеянні; манера трымаць сябе, рабіць нешта; характер учынкаў; рус. поведение. Раней па паводзінах чалавека вызначалі самавітасць яго роду. 2. Выкананне правілаў распарадку ў пэўных абставінах. Правілы паводзін у школе.

**Паводка**, наз., ж. р., ДМ -дцы. ◘ Разліў ракі ад раставання снегу або ад вялікіх дажджоў; рус. половодье; наводнение. Антось тут сам пачаў тлумачыць: — Была паводка гэта, значыць, Вада па лузе разлілася, А потым лёдам занялася... К-с.

**Паводле**, прыназ. з Р. ◘ Адпаведна з нечым, згодна з нечым; рус. согласно. Апісанне Палесся падаецца паводле Я. Коласа. Тэкст паводле І. Мележа.

**Павольны**, прым. ◘ Няспешны; марудны; спакойны, размераны; рус. медленный и медлительный. Павольная хада. Павольны чалавек.

**Павуціна**, наз., ж. р. ◘ 1. Сетка або тонкая нітка, утвораная з клейкага рэчыва, якое выдзяляюць павукі. На ніцях белай павуціны Прывозяць восень павучкі. К-с. 2. перан. Тое, што

падобна на такую сетку. Павуціна правадоў. 3. перан. Тое, што падпарадкоўвае сабе, аблытвае некага. Павуціна страху.

**Павярхоўны**, прым. ◘ Які не аналізуе сутнасць справы; несур'ёзны; рус. поверхностный. Павярхоўны чалавек. Павярхоўны аналіз твора.

**Пагадзіцца**, -гаджуся, -годзішся, -годзіцца; зак. ◘ 1. Згадзіцца; рус. согласиться. Усе пагадзіліся ісці пехатою. 2. Памірыцца з некім; рус. помириться. Пагадзіцца з сябрам пасля разладу. 3. Прымірыцца з нечым, прывыкнуць да нечага; рус. примириться. Камандзір усё не мог пагадзіцца, што людзей яму далі без выбару. В. Б. 4. Дамовіцца. Пагадзіліся працаваць супольна.

**Пагалоска**, наз., ж. р., ДМ пагалосцы. ◘ Чуткі; рус. молва. І хутка па вёсцы пайшлі пагалоскі: Вярнуўся Кастусь Каліноўскі! П. Б. Паганы, прым. ◘ Мярзотны, подлы (пра чалавека, характер); кепскі, дрэнны. Паганае надвор'е. Паганая дарога. II у знач. наз. паганы. Ды гэта ж — свята, ягамосці! Набок тут норавы і злосці! І мяккім робіцца паганы — Хоць ты кладзі яго да раны. К-с.

**Пагарджаны**, прым. ◘ Той, каго не паважаюць, з каго здзекуюцца; рус. презренный. А чаго ж, чаго захацелась ім, Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? — Людзьмі звацца. К-а.

**Пагардлівы**, прым. ◘ Які адносіцца да некага зневажальна; без павагі, без увагі; рус. презрительный, пренебрежительный. Пагардлівая ўсмешка. Людзі, пагардлівыя да слабейшых за сябе, ліслівыя і прыніжаныя перад моцнымі.

**Пагорак**, наз., м. р., -рка. ◘ Невялікая ўзвышанасць; узгорак; рус. пригорок, холм, бугор. Дарога ўзнімалася на пагорак.

**Пагроза**, наз., ж. р. ◘ 1. Абяцанне зрабіць некаму зло, непрыемнасць; злосць; рус. угроза. Не баяцца ніякіх пагроз. 2. Небяспека, якая тоіцца ў нечым, і тое, што яе стварае. Там кракадзілы плаваюць у ржах і не баяцца нават чалавека... Ні снегу там не знаюць, ні марозу, спякота — там найбольшая пагроза. У. Д.

**Паданне**, наз., н. р. ◘ Вуснае апавяданне пра мінулае, якое жыве ў народзе і перадаецца з пакалення ў пакаленне; рус. предание; сказание. Ёсць цудоўнае паданне, як на свята, на Купалле, ад паўночы да світання Кветку Шчасця ў нас шукалі! У. Д.

**Падарунак**, наз., м. р., -нка. ◘ Рэч, якая даецца некаму дарма ў знак пашаны, любові; рус. подарок. Сват хадзіў з рэшатам і збіраў падарункі маладым.

**Падатак**, наз., м. р., -тку. ◘ Абавязковы дзяржаўны збор з прадпрыемстваў і насельніцтва; рус. налог. Падатакз прыбытку.

**Падбухторыць**, -ру, -рыш, -рыць; зак. ◘ Падгаварыць некага да нейкага дзеяння; настроіць супраць некага; рус. подбить; подстрекнуть. Падбухторыць да бунту.

**Падваліна**, наз., ж. р. ◘ Брус, на які насцілаецца падлога, памост. Пакласці падваліны. // Аснова якой-небудзь справы. Сям'я — падваліна выхавання лепшага ў чалавеку і падрыхтоўкі яго да жыцця.

**Падворак**, наз., м. р., -рка. ◘ Двор каля хаты, дома; надворак, падвор'е. Пад'ехалі да брамы падворка.

**Падвячорак**, наз., м. р., -рка. ◘ Яда і ежа паміж абедам і вечарам; рус. полдник.

**Падзвіжнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Святы, які ў імя служэння Богу ахвяруе сабой. Хрысціянскія падзвіжнікі. 2. Самаадданы слуга нейкай справе; руплівец. Падзвіжнік навукі.

**Падзея**, наз., ж. р. ◘ 1. Здарэнне, выпадак; тое, што парушае звычайны парадак, звыклую плынь жыцця; рус. событие. // Важная з'ява, вялікае здарэнне. Паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага — самая яркая і трагічная падзея мінулага. Няма ні веры, ні надзеі На вельмі добрыя падзеі. К-с.

**Падзішах**, наз., м. р., -а. ◘ Тытул манарха ў некаторых усходніх краінах, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. Падзішах апрануў на сябе лахманы, Каб яго непазнаным зрабілі яны. У. Д.

**Падзяка**, наз., ж. р., ДМ падзяцы. ◘ Словы або іншы знак выражэння ўдзячнасці за нешта добрае (працу, паслугу, дапамогу); рус. благодарность. А прынясеш што — без падзякі Ужо не выпусціць, заплаціць, А на дарэмшчыну не квапіць. К-с. Не чакай падзякі ад прыблуднага сабакі. Прык. (рус. Сколько волка ни корми, все равно в лес смотрит).

**Падкрэсліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ 1. Правесці лінію, рыску пад радком, літарай; рус. подчеркнуть. Падкрэсліць галосныя. 2. Звярнуць увагу на нешта важнае, значнае; выдзеліць голасам, інтанацыяй важнае месца. Падкрэсліць думку канкрэтнымі прыкладамі.

**Падлетак**, наз., м. р., -тка. ◘ Хлопчык або дзяўчынка ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў; рус. подросток.

**Падлога**, наз., ж. р., ДМ падлозе. ◘ 1. Дашчаны, паркетны або іншы насціл, па якім ходзяць у памяшканні; рус. пол. Паркетная падлога. □ Ціха стала пад падлогай. Памаўчалі мышкі доўга. Памаўчаўшы, усе ціхутка паўцякалі ў норкі хутка. У. Д.

**Падмацавацца**, -цуюся, -цуешся, -цуецца; зак. ◘ Паесці, каб надаць сабе сілы, падсілкавацца; рус. подкрепиться.

**Падмога**, наз., ж. р., ДМ падмозе. ◘ Дапамога, падтрымка; рус. помощь. [Хадыка:] Няма сыноў — няма падмогі, А сам я стаў слабы на ногі, Бракуе сілы мне, браточкі! К-с.

**Падмурак**, наз., м. р., -рка. ◘ 1. Каменная або цагляная кладка пад будынак; фундамент. Домік стаіць на высокім падмурку і зухавата пазірае да бляску прамытымі акенцамі. Бяг. 2. Апора, аснова нечага. Праца -падмуракжыцця.

**Падпарадкаваць**, -кую, -куеш, -куе; зак. ◘ Прымусіць слухацца некага; узяць пад сваю ўладу; рус. подчинить. Падпарадкаваць сваё жаданне галоўнай задачы.

**Падручнік**, наз., м. р., -а. ◘ Кніга, па якой вывучаюць нейкі прадмет; рус. учебник. Напісаць добры падручнік — сапраўдны подзвіг слова. А. Б-аў. Падручнікі, напісаныя Сімяонам Полацкім, Мялеціем Сматрыцкім і Лявонам Магніцкім, Ламаносаў назваў «варотамі вучонасці».

**Падтрымаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Не даць упасці, паваліцца; рус. поддержать. Падтрымаць воз. 2. Аказаць маральную і матэрыяльную дапамогу, спрыяць нечаму. Колас умеў заслужена пахваліць, падтрымаць маладых таленавітых пісьменнікаў. 3. Выказаць згоду, адабрэнне. І хто цябе тут падтрымае? Каму паскардзіцца і дзе? Хто гэту крыўду адвядзе? К-с. 4. Захаваць, не даць прапасці, знікнуць. -Я, сыночку, уміраю, Я ў табе надзею маю: Падтрымай наш род, сынок. К-с.

**Падтэкст**, наз., м. р., -у. ◘ Унутраны, прыхаваны сэнс нейкага тэксту, выказвання. Сапраўдны чытач той, якіўмее чытаць падтэкст.

**Падшывалец**, наз., м. р., -льца. ◘ Хлапчук-падлетак; падшыванец; рус. сорванец, оголец. І дзядзька часам загарыцца, Гатоў няўслушніку па пысцы Праехаць шорсткім сваім пальцам, Бо што ты зробіш з падшывальцам? К-с.

**Пажаданне**, наз., н. р. ◘ І.Выказанае словамі жаданне добрага, адрасаванае некаму; рус. пожелание. Пажаданне поспеху. 2. Прапанова, патрабаванне. Выказаць пажаданні і прапановы. Пажарышча, наз., н. р. ◘ Месца, дзе быў пажар; рус. пепелище. А на пажарышчы часова З'явілась новая будова — Зямлянка-будачка малая, У адно акенечка, крывая, Але да часу добра й гэта. К-с.

**Пазбыцца**, -збудуся, -збудзешся, -збудзецца; зак. ◘ Вызваліцца ад некага, нечага; пазбегнуць нечага; пазбавіцца; рус. избавиться. Пазбыцца хачаш ты бяды і хочаш праўду бачыць вокам? У. Д. Пазіцыя, наз., ж. р. ◘ 1. Месцазнаходжанне; распалажэнне некага, нечага. Антось пазіцыю займае, Шчаслівых вынікаў чакае, Кал і зайцоў пужнуць няждана, І трохі чуе ў сабе пана, К-с. 2. перан.

Пункт погляду, думка, прынцыповыя адносіны да некага, нечага. Пазіцыя пісьменніка выяўляецца ў канцэптуальнасці твора.

**Пазыка**, наз., ж. р., ДМ -зыцы. ◘ Выдача ў доўг на пэўных умовах грошай, рэчаў, а таксама грошы, рэчы, узятыя ў доўг; рус. заём, ссуда. Вясковая бедната, атрымліваючы пазыку ад банка і не маючы магчымасці расплаціцца, часта траціла зямлю і маёмасць. «Весці».

**Пазычаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Даваць некаму нешта напавер; рус. одолжать. 2. Браць у некага нешта напавер, у доўг. Пазычай — як умееш, аддавай — хараша. Прык. (рус. Долг платежом красен).

**Пазяхаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Міжвольна глыбока ўздыхаць і адразу выдыхаць паветра шырока адкрытым ротам (пры жаданні спаць, пры стоме); рус. зевать.

**Пакаёўка**, наз., ж. р., ДМ -ёўцы. ◘ Служанка, якая прыбірае пакоі і выконвае некаторыя іншыя работы; рус. горничная. Здарылася так, што Максім пакахаў пакаёўку. М. М.

**Пакаленне**, наз., н. р. ◘ І.Сваякі адной ступені роднасці ў дачыненні да іх агульнага продка. 2. Людзі блізкага ўзросту, якія жывуць у адзін час. Маладое пакаленне. З пакалення ўпакаленне пераходзіла паданне: той, хто здзейсніць летуценне, — дасць нам вечнае світанне. У. Д.

**Пакарабаціць**, -бачу, -баціш, -баціць; зак. ◘ Зрабіць карабатым; пагнуць, пакрывіць; рус. искорёжить. Ад спёкі пакарабаціла бляху.

**Пакаранне**, наз., н. р. ◘ Мера ўздзеяння за зробленае злачынства, правіннасць; кара; рус. наказание. Раманам «Злачынства і пакаранне» Ф. Дастаеўскі даводзіць, што ўсведамленне чалавекам сваіх грахоў і пакуты сумлення валодаюць вялікай ачышчальнай сілай уваскрэсення душы.

**Пакараць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Падвергнуць кары, пакаранню; рус. наказать. Пакараць за злачынства.

**Пакарыць**, пакару, пакорыш, пакорыць; зак. ◘ 1. Сілай, прымусам падпарадкаваць сваей уладзе; заваяваць. Лютым ворагам не ўдасца Ланцугамі, чорнай здрадай Пакарыць, закуць навекі Слаўных сокалаў Элады. М. Т. 2. перан. Моцна ўздзейнічаць, выклікаць сімпатыю, давер. Беларуская дзяўчынка Ксенія Сітнік на конкурсе «Еўрабачанне-2005» пакарыла ўвесь свет сваей шчырасцю, талентам і дзіцячай непасрэднасцю.

**Паклёп**, наз., м. р., -у. ◘ Ілжывае абвінавачанне; рус. клевета, кляуза. Паклёп караецца законам.

**Пакровы**, наз. ◘ Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 14 кастрычніка. Прыйшлі Пакровы — дай сена карове. З нар.

**Пакунак**, наз., м. р., -нка. ◘ Нешта загорнутае ў паперу, тканіну і пад.; рус. сверток. З крамы вярнуліся з пакункамі.

**Пакута**, наз., ж. р., ДМ пакуце. ◘ Вялікая фізічная або душэўная мука; мучэнне. Далёка-далёка, ля зімняга мора, жыла удава у пакуце і горы. Адна толькі ўцеха: сыноў мела трое. Як вырастуць дзеці — мінецца благое. У. Д.

**Палахлівы**, прым. ◘ Баязлівы; які выражае баязлівасць; рус. пугливый. Палахлівая сарна. Пазіраць палахлівымі вачыма. □ А лес пануры і страхлівы. Дарэктар наш быў палахлівы. К-с.

**Палац**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікі, раскошны будынак; замак; будынак, дзе пастаянна жыве цар, кароль; рус. дворец. Мазалёваю працай не набудзеш палацаў. Прык. (рус. От трудов праведных не наживешь палат каменных). Расцерабіўшы сабе пляц, Як горды пан, стаяў палац. К-с. Стаіць палац. Але які! — прыгожы дужа, спраўны надта. Відаць, рабілі мастакі, якіх і ў нас цяпер багата. У. Д.

**Палетак**, наз., м. р., -тка. ◘ Поле, якое выкарыстоўваюць пад пасевы; рус. клин. Красна вясна кветкамі, а восень палеткамі. Прык. На палеткі пойдзе калій, што з глыбінь зямлі дасталі. У. Д.

**Паліва**, наз., н. р. ◘ Рэчывы (дровы, нафта, вугаль і пад.), якія, згараючы, даюць цяпло і энергію; рус. топливо. Вадкае паліва.

**Паломнік**, наз., м. р., -а. ◘ Вернік, які вандруе па святых месцах, каб пакланіцца ім і маліцца. Месца лічыцца святым. Кожны год сюды прыходзяць сотні тысяч людзей. Паломнікі. М. Ст.

**Палон**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Няволя, у якую трапляе чалавек, захоплены ворагам; рус. плен.

Мы акружэнне прабівалі двойчы, Пасля, кантужаны, я трапіў у палон. М. С. 2. перан. Стан залежнасці ад некага, нечага. Дзе ты, шчасце, дзе прапала? Дзе твой радасны палон? К-с.

**Палонка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Незамерзлы або расталы ўчастак ледзяной паверхні вадаёма, ракі; рус. полынья. У месцах асабліва хуткага цячэння або выхаду крынічных вод застаюцца палонкі, якія не замярзаюць нават і ў суровыя зімы. «Прырода Беларусі» 2. Дзірка, прасечаная ў лёдзе возера, ракі; рус. прорубь. А то насілі козам сена — Ўзвярынцы козы зімавалі — І ім палонкі прасякалі. К-с.

**Палымнець**, -ею, -ееш, -ее; незак. ◘ 1. Ярка гарэць, палаць; рус. пламенеть. Палымнелі вогнішчы. 2. Свяціцца яркім святлом. Будуецца горад, Заўсёды начамі Увесь палымнее Электраагнямі.

М. К. 3. Вылучацца колерам полымя, ярка-чырвонай афарбоўкай. Палымнее рабіна.

**Палымяны**, прым. ◘ 1. Колеру полымя, ярка-чырвоны; рус. пламенный. Палымяны захад. 2. перан. Палкі, страсны. Палымяная прамова. □ Заспявай мне песню тую, Што з палёў збіраеш, Што ў сэрцы палымяным Для мяне хаваеш. А. Р.

**Пальчатка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Рукавіца з аддзяленнямі на кожны палец; рус. перчатка. Скураныя пальчаткі. Паляванне, наз., н. р. ◘ Высочванне і пераслед дзікіх звяроў або птушак з мэтай знішчэння ці лоўлі; занятак паляўнічага; рус. охота. Цяпер размовы павяліся Наконт паноў і палявання. Ох, дасць Ракоўскі залівання,

**Паляшук**, наз., м. р., палешука. ◘ Жыхар Палесся. І паляшук ім даў не ўраз на запытанне свой адказ: — Калі глядзець з усіх старой, Мароз дужэйшы! Майстар ён! У. Д. Калі панам не пашанцуе І сам глушца не запалюе... К-с.

**Памацаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Вызначыць, распазнаць нешта, дакранаючыся рукой; рус. потрогать. Нупрэй памацаў рукою Панаса. — Ён жывы яшчэ. Ён толькі абамлеў. К-с. 2. Пашукаць вобмацкам; рус. пощупать. Сеў [Віця] у трамвай, памацаў у кішэнях — грошай ні капейкі. А. Я.

**Памер**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Велічыня нечага ў нейкім вымярэнні; рус. размер. Палац вялікіх памераў. 2. Ступень развіцця, велічыня, маштаб нейкай з'явы, здарэння і пад. Вялізны памер наступления войскаў.

**Памылка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Няправільнасць у дзеяннях, учынках, напісанні, думках, выказваннях і пад.; рус. ошибка. Мы пазналі без памылкі, Што пад сховай цемнаты Нам даставілі пасылкі, Тэлеграмы і лісты. П. Г. Галоўнае — не страціць усведамлення ўласных памылак. К-с.

**Памяранец**, наз., м. р., -нца. ◘ Субтрапічнае вечназялёнае цытрусавае дрэва з аранжава-чырвонымі пладамі, а таксама гаркаваты араматычны плод гэтага дрэва.

**Памяркоўны**, прым. ◘ 1. Падатлівы, цярпімы, уступчывы, талерантны, які легка прыстасоўваецца да іншых; рус. покладистый. Беларусаў называюць памяркоўнымі людзьмі. 2. Які выяўляе мяккасць, цярпімасць, добразычлівасць. Гарохам сыпле Богут словы, А самы тон яго прамоў, То памяркоўны, то суровы. К-с.

**Пан**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Уладальнік маёнтка, памешчык, чыноўнік у дарэвалюцыйнай Беларусі. Завошта ж ім, спытаць, пашана? Навошта Бог трымае пана? Дзеля таго, каб панавалі, І нашым

братам папіхалі? Ці ласку ў Бога заслужылі, Каб іх тут песцілі, тулілі?.. К-с. 2. Гаспадар, начальнік у адносінах да сваіх слуг. Як з пана пан, то аддасць валы, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы. Прык. (рус. Из грязи да в князи). На іх увагі не звярнулі, Як бы не людзі то стаялі. К-с. А пан Абрыцкі з леснікамі Скланіліс нізка прад панамі. Паны чуць-чуць ад но зірнулі, 3. Форма ветлівага звароту. -А мо наўперад, пан Хадыка, Калі фатыга невяліка, Нам паказаў бы сваё поле? — Сказаў Міхал. — Што ж? Ваша воля! К-с. Сам сабе пан (гаспадар, галава) — самастойны, незалежны ні ад кога чалавек. Пан над самім сабою і над сваей душою. Прык. (рус. Своя рука владыка = Сам себе хозяин).

**Панадзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; зак. ◘ 1. Прывучыцца, прызвычаіцца да недазволенага; рус. повадиться. Панадзіўся журавель да нашых канапель — паспытае аглабель. Прык. (рус. Повадился кувшин по воду ходить — там ему и голову сломить).

**Паненка**, наз., ДМ -нцы. ◘ Незамужняя дачка пана; дзяўчына з панскай або інтэлігентнай сям'і; рус. барышня. І люду мноства тут хадзіла, Найболей моладзь гарадская, Ды худасочная, благая, Ўсё панічы-зухі, паненкі, А станік іх, бы ўвосак, ценкі... К-с.

**Паніч**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Сын пана; малады нежанаты пан; рус. барич. Сядзіць як сыч і думав, што паніч. Прык. (рус. Шишка на ровном месте). А панічы снуюць стрыжамі, Ў паненак цэляцца вачамі, Так от і льнуць, як рой да грэчкі, Як матылі на тыя свечкі. К-с. 2. Спешчаны чалавек; беларучка; рус. барчук.

**Панчохі**, наз., адз., панчоха, ж. р., ДМ панчосе. ◘ Трыкатажны выраб, які надзяваецца на ўсю нагу; рус. чулки.

**Паншчына**, наз., ж. р. ◘ Дармавая прымусовая праца сялян на пана; прыгон. Адбываць паншчыну.

**Папар**, наз., м. р., -у. ◘ Поле, пакінутае на адно лета незасеяным для атрымання большага ўраджаю на наступны год; рус. пар. Антось прыехаў і на грэчку Узняў маргоў са два папару. І ажывіліся амшары, Запахла свежаю раллёю... К-с.

**Папарацъ**, наз., ж. р. ◘ Шматгадовая травяністая расліна з буйнымі рассечанымі лістамі, якая расце ў цяністых вільготных месцах; рус. папоротник. Гаварылі, што на свята [Купалле] дзесьці папарацъ красуе. Пекла ўсё тады паднята, каб не даць нам кветку тую. У. Д.

**Папас**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Месца, дзе пасецца жывёліна, паша. 2. Прыпынак у дарозе, каб пакарміць коней, падсілкавацца, адпачыць; папаска. Праз вёску са сваёй дружынай Баярын гэты ехаў раз, І ля Натальчынай хаціны Ён затрымаўся на папас. К-а.

**Папаска**, наз., ж. р., ДМ папасцы. ◘ Тое, што і папас (у 2 знач.). — Заходзьце ў хату, калі ласка, Бо ўжо гатова і папаска, — Гасцей Хадыка сустракае І на сняданне заклікае. К-с.

**Папера**, наз., ж. р. ◘ 1. Матэрыял для пісьма, друку, выраблены з дрэва ці іншай валакністай масы; рус. бумага. Па левым беразе ў шнурочак Зялёных дрэў пралёг радочак, Як стрэлка, роўненька, пад меру, Як тыя буквы на паперу. К-с. 2. Афіцыйны пісьмовы дакумент, паведамленне. Без паперы ня-

**Паперня**, наз., ж. р. Уст. ◘ Папяровая фабрыка.

**Паплечнік**, наз., м. р., -а. ◘ Таварыш па справе, саўдзельнік, хаўруснік; саратнік; рус. сподвижник.

**Папракаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Выказваць дакор, нездавальненне нечым, дакараць некага; абвінавачваць у нечым, асуджаць за нешта; рус. упрекать, укорять. Папракаць у няўдзячнасці.

**Папруга**, наз., ж. р., ДМ -рузе. ◘ 1. Раменны пояс; рус. ремень. На ім [бацьку] кучомка, верх зялёны, Кажух кароценькі, чырвоны, А стан шырокая папруга Сціскае спрытна, лоўка, туга... К-с. [Бацька:] — Знайду лякарства я ад лені! А будзе йсці навука туга, Падгоніць бацькава папруга. К-с. 2. Шырокі рэмень у сядле, які зацягваецца пад жывот каню; рус. подседельник. Шэмет злез з каня, аслабіў папругу і пусціў каня папасвіцца. М. Л-н.

**Папытацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Спытаць; рус. спросить. Папытацца ў бацькоў дазволу на шлюб.

**Папярэджанне**, наз., н. р. ◘ Заўвага або паведамленне з мэтай засцерагчы каго-небудзь ад чаго-небудзь; рус. предупреждение. Да разумнага папярэджання заўсёды трэба прыслухацца.

**Парабак**, наз., м. р., -а. ◘ Наёмны рабочы ў памешчыка; рус. батрак.

**Парада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Прапанова, павучанне, падказка, як дзейнічаць; рус. совет. Добрая парада дарагога варта. З нар.

**Парадак**, наз., м. р., -дку. ◘ 1. Правільна наладжанае жыццё, праца і пад. Навесці ў хаце парадак. □ І быў парадак, лад у хаце. Ужо з тым кутком зжылася маці. К-с. 2. Устаноўлены лад, сістэма кіравання. Ці ж гэта лад? ці ж то парадак? Згрызот нямала, многа звадак. І як ні біся, ні старайся, Хоць на кавалкі разрывайся, Прычэпку знойдзе і аблае... К-с. Тут сёння партызаны — Паплечнікі, сябры Расклалі на паляне Высокія кастры. П. П. 3. Пэўная паслядоўнасць, устаноўленая чарговасць. У алфавітным парадку. 4. Звычай; правілы паводзін, якія склаліся дзенебудзь. Таксама ў Стасечкі і ў Даткі Свае захоўвалі парадкі: Сядзелі згодна і набожна І спеў святы вялі заложна, Вачэй не зводзячы з кантычкі. К-с. 5. Звычай; закон. На першы дзень святых Калядак

— Такі ўжо быў стары парадак — Збіралі сена са стала, Кармілі ім каня, вала І ўсіх жывёлін, хоць па жмені... К-с.

**Парадзіць**, параджу, парадзіш, парадзіцы, зак. ◘ Падказаць, як дзейнічаць; рус. посоветовать. Цяжка стала жыць усім на зямлі у часе тым. Што парадзіць? Што рабіць? Як пакуту ім пазбыць? У. Д..

**Парадокс**, наз., м. р., -а. ◘ Думка, меркаванне, выснова, якія рэзка разыходзяцца з агульнапрынятымі меркаваннямі, супярэчаць (часам толькі на першы погляд) разумнаму сэнсу. Пушкін назваў генія другам парадоксаў.

**Параіцца**, параюся, параішся, параіцца; зак. ◘ І.Папрасіць парады ў некага; рус. посоветоваться. Параіцца з мамай. 2. Абмяняцца думкамі. Сябры параіліся між сабой.

**Параіцца**, параіцца; зак. ◘ Утварыць новы рой (пра пчол). Пчолы параіліся — працы ў пчаляра паменшала.

**Па-ранейшаму**, прысл. ◘ Так, як і раней; рус. по-прежнему. Жылі па-ранейшаму: згодна і дружна.

**Парасон**, наз., м. р., -а. ◘ Прыстасаванне для засцярогі ад дажджу і сонца, а таксама тое, што па форме нагадвае такое прыстасаванне; рус. зонтик. ...Як бы шляхцянка засцянкова, Што ў дзень святы каля касцёла, Чуць-чуць падняўшы край падола, Так важна ходзіць з парасонам... К-с.

**Парастак**, наз., м. р., -тка. ◘ 1. Маладая галінка ці сцябло расліны ў самым пачатку свайго развіцця; флянс; рус. побег, отросток. 2. перан. Пачатак нечага; зародак. Крыўды ў дзяцінстве не праходзяць бясследна, яны пакідаюць у душы парасткі, якія потым нішчаць яе.

**Параўнаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Супаставіць, каб вызначыць падабенства ці розніцу або перавагу аднаго над другім; рус. сравнить. А нос... я глянуць мушу ў неба, Бо не патраплю, як пачаць І з чым нос дзядзькаў параўнаць, Каб выйшаў ён такі, як трэба: Ну, нос кароткі і таўсматы, Ды досыць спрытны, хоць кірпаты. К-с. 2. Зрабіць аднолькавым, падобным, зраўняць. Час паказаў, што спробы параўнаць, параўнаваць усіх людзей у адным калгасе да добрых вынікаў не прывялі.

**Парафраза**, наз., ж. р. ◘ Пераказ сваімі словамі літаратурнага твора, а таксама выклад (адаптацыя) вялікіх мастацкіх твораў. Прыкладам парафразы можна лічыць кнігу У. Ліпскага «Як Бог стварыў свет».

**Паркаль**, наз., м. р., -ю. ◘ Лёгкая баваўняная аднаколерная або з набіўным малюнкам тканіна; рус. ситец. Лясы цяністыя, воды

светлыя, пагоркі быццам золатам абсыпаны, лугі, як паркаль дарагі, разнастайнымі кветкамі стракацяць. А. Паг.

**Паркан**, наз., м. р., -а. ◘ Агароджа з бярвёнаў, штыкецін або мураваная; рус. забор. Галлё спусціўшы над парканам, Расла тут грушка з тонкім станам. К-с.

**Парнас**, наз., м. р., -а. Кніжн. (з вялікай літары). ◘ Пра ўсё, што звязана з паэзіяй; свет паэзіі (ад назвы гары ў Грэцыі, на якой, паводле павер'яў старажытных грэкаў, жылі музы — багіні мастацтваў).

♦ Узысці на Парнас — стаць знакамітым пісьменнікам. Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі, Гогаль шпарка каля нас Прайшлі, як павы, на Парнас. Паэма «Тарас на Парнасе».

**Партрэт**, наз., м. р., -а. ◘ Вобраз якога-небудзь чалавека на карціне, фатаграфіі або ў мастацкім творы. Вось як жывога дзядзьку бачу, Я тут партрэт яго зазначу. Ён невысок, не надта ёмак, Ды карчавіты і няўломак, А волас мае цёмна-русы... К-с.

**Парука**, наз., ж. р., ДМ паруцы. ◘ Пацвярджэнне чаго-небудзь; гарантыя. Але ці ёсць, ці ёсць парука, Што будзе сэнс мець гэта мука? Ці дасць зямля табе збавенне Ад злога панскага насення? К-с.

**Парэнчы**, наз, адз. парэнча, ж. р. ◘ Агароджа з бруском на трапах, пры дзвярах вагона, па краях лесвіцы, моста і лад., за які трымаюцца пры яздзе, спуску, пад'ёме; поручні; рус. перила. Пасажырам неабходна трымацца за парэнчы ў час руху аўтобуса.

**Парэчкі**, наз., адз. парэчка, ж. р., ДМ -чцы. ◘ Кустовая ягадная расліна сямейства агрэставых, а таксама кіславата-салодкія ягады чырвонага, жоўтага або чорнага колеру гэтай расліны; рус. смородина.

**Парэчча** — слаўная мясціна, А колькі ягад і парэчак! Куток прыгожы і вясёлы: Як пахне мёдам поле грэчак, Як мора — лес, як неба — долы, Капі пачнуць яны цвісці!.. К-с. Зіхціць у кветках лугавіна...

**Пасаг**, наз., м. р., -у. ◘ Маёмасць, якую давалі бацькі маладой, калі тая выходзіла замуж; рус. приданое. Рыгор ... дачцэ ў пасаг даў дзесяць дзесяцін зямлі. П. Г.

**Пасада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Месца на службе, звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў; рус. должность. Ад злосці больш яшчэ чарнее [ляснічы], З астатніх слоў Міхася лае, З пасады выгнаць пагражае. К-с. 2. Сядзіба; рус. усадьба. Каля пасады лесніковай Цягнуўся гожаю падковай Стары, высокі лес цяністы. К-с.

**Пасаромецца**, -меюся, -меешся, -меецца; зак. ◘ 1. Адчуць сорам за свае паводзіны, дзеянні; рус. постесняться. Пасаромецца людзей. 2. Не адважыцца зрабіць нешта, праявіць сарамлівасць у нечым.

Рукі яе не пацалаваў. Гэта мая цемната, прастата вясковая. Пасаромеўся. Ф. Я.

**Пасвіць**, пасу, пасеш, пасе і пасу, пасвіш, пасвіць] незак. ◘ Наглядаць за жывёлай, птушкай на пашы; рус. пасти. Пасвіць коней і кароў разам нельга.

**Пасека**, наз., ж. р., ДМ пасецы. ◘ 1. Высечаная, выкарчаваная дзялянка лесу. Пасеку раскарчоўвалі і на ёй засявалі жыта, ярыну. К-с. 2. Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі; пчальнік.

**Паселішча**, наз., н. р. ◘ 1. Веска, сяло, пасёлак; рус. селение. 2. Месца, дзе жывуць або будуюць сабе жыллё некаторыя віды дзікай жывёлы; рус. поселение. Новыя паселішчы баброў у пой ме Бярэзіны.

**Пасівець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Стаць сівым, сівейшым; рус. поседеть. Скроні пасівелі.

**Паспытаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Пакаштаваць, паспрабаваць на смак. 2. перан. Разм. Перажыць, зведаць у жыцці, на практыцы; спазнаць, адведаць.

♦ Паспытаць на сваёй скуры — пераканацца ў нечым на сваім вопыце.

**Пасталы**, наз., адз. пастол, м. р.; -а. ◘ Скураныя лапці. Нязносныя пасталы! Дзякуй таму чыгуначніку, што трапіўся яму з касой ля пуцявой казармы... І той буркнуў «Чакай», а сам вярнуўся ў казарму і хутка вынес кавапачак чэрствага хлеба з агурком і гэтыя пасталы... В. Б. Дзе вялікія выборы, там пасталы і аборы. Прык. (рус. Много выбирать — женатым не бывать).

**Пастар**, наз., м. р., -а. ◘ Пратэстанцкі святар. Духоўны пастар.

**Паства**, наз., ж. р., зб. ◘ Вернікі якой-небудзь царквы; парафіяне.

**Пастка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ 1. Прыстасаванне для лоўлі звяроў і птушак; рус. капкан. 2. перан. Месца, адкуль нельга выйсці; бязвыхаднае становішча; нечаканая небяспека, засада. Вяртаючыся з задания, партызаны трапілі ў пастку.

**Паступова**, прысл. ◘ Без рэзкіх змен, не адразу; рус. постепенно.

**Паступовы**, прым. ◘ Які адбываецца паслядоўна, без рэзкіх змен, не адразу; рус. постепенный. Паступовы ход падзей.

**Пастыр**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ 1. Пастух. Пастыр стадка ў поле гоніць і пяе. Дзе ж кароўкі, валы, коні, Дзе мае? К-а. 2. Святар, кіраўнік паствы. Верыць свайму пастыру.

**Пастыр**, наз., м. р., -а. ◘ Пастух. На небе месяц, як пастыр, на плечы ўскінуўшы сярмягу, зганяе хмары ўсе ў Мазыр, каб паратунак даць на смагу. У. Д.

**Патоля**, наз., ж. р. ◘ 1. Спагада, спачуванне; рус. сочувствие. Знайсці апору і патолю. 2. Задаволенасць, супакаенне, радасць; рус. удовлетворение. Прайдзі ты, браце, цэлы свет: пры хлебе ласка і патоля. Пачаў ён [Цікаўны] гатаваць абед: ад клад не йдзе на лад ніколі. У. Д.

**Патрабавальны**, прым. ◘ 1. Настойлівы ў сваіх патрабаваннях; з высокімі запатрабаваннямі; рус. требовательный. Патрабавальны настаўнік. Патрабавальны чытач. 2. Які патрабуе да сябе асаблівых умоў. Гоэчка патрабавальная да цяпла ў першыя фазы развіцця.

**Патрапіць**, -плю, -піш, -піць; зак. ◘ 1. Папасці, пацэліць. Патрапіць у мішэнь. 2. Дагадзіць некаму; рус. угодить. У старасці ўсім патрапіць немагчыма. 3. Змагчы, здолець зрабіць нешта, даказаць нешта; рус. суметь. Я б патрапіў сказаць, Што і мне гаравацъ Што і я чалавек, Надаела ўвесь век. К-а.

**Патроіць**, патрою, патроіш, патроіць; зак. ◘ Павялічыць у тры разы; рус. утроить. Браты падаспелі да нас на падмогу, З'ядналіся разам, патроілі сілы. П. Б.

**Патрыёт**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, які аддана любіць сваю Радзіму, свой народ.

**Патрэба**, наз., ж. р. ◘ Неабходнасць нечага, патрэбнасць; рус. надобность. Ды ўзяць хоць нас, не тое сама? І мы, як тая багна-яма, Ўвесь век варушымся, збіраем, Канца ж патрэбам тым не знаем. К-с.

**Патураць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Нястрога, паблажліва адносіцца да некага, да нечага, не перашкаджаць рабіць нешта шкоднае; рус. потворствовать, потакать. — За кнігі заўтра і за ўказку, Бо грошы бацькавы — не смецце, Каб мне вучыліся старанна! Не патураць ім анізвання! — Міхал звярнуўся к «дарактору». К-с.

**Патыліца**, наз., ж. р. ◘ Задняя частка галавы; рус. затылок. ♦ Чухаць патыліцу — быць заклапочаным чым-небудзь.

**Патыхаць**, -ае; незак. ◘ 1. Слаба дзьмуць, веяць. І на той час, як ён [мароз] пануе, Па небе хмарка не вандруе, І ўсе стварэнні занямеюць, І патыхаць вятры не смеюць. К-с. 2. Пахнуць. А з бору цёплая сасна Жывіцай патыхала. У. К-к.

**Патэльня**, наз., ж. р. ◘ Круглая плыткая металічная пасудзіна, на якой смажаць, пякуць; скаварада. Давала піск яно [цеста] кароткі, Льючыся з шумам на патэльні, І ў жар стаўлялася пякельны... К-с.

**Паўстанак**, наз., м. р., -нка. ◘ Невялікая чыгуначная станцыя; рус. полустанок. Цягнік прыпыніўся на глухім паўстанку.

**Паўстанне**, наз., н. р. ◘ Масавае ўзброенае выступленне; рус. восстание. Паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага — трагічная старонка ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. □ Усе рабочыя, сяляне падняліся на паўстанне, і далі панам вяльможным больш, чым вытрываць ім можна. У. Д.

**Паўстаўляць**, -яю, -яеш, -яе; зак. ◘ 1. Уставіць усё, многае. Паўстаўляць шыбы ў вокны. □ На трэці дзень прыйшлі падводы. Ўсе сваякі папрыязджалі, І двор вазамі паўстаўлялі. К-с. 2. у перан. ужыв. А хлопцы нават паўставалі, У чыгунчык вочы паўстаўлялі, Гпядзяць, не моргнуць яны вокам: Эх, мусіць смачны клёцкі з сокам! К-с.

**Пахіснуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; зак. ◘ 1. Страціўшы раўнавагу, закачацца, пахіліцца; рус. пошатнуться. Пахіснуцца ад слабасці. 2. перан. Стаць менш трывалым, устойлівым; адчуць сумненне, няўпэўненасць. Пахіснуўся аўтарытэт. Не пахіснуцца духам.

**Паходня**, наз., ж. р. ◘ Пераносная свяцільня ў выглядзе ліхтара на доўгай палцы або наматанага на канец палкі прасмоленага пакулля; факел.

**Пацвердзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ Прызнаць правільнасць нечага; рус. подтвердить. Пацвердзіць словы таварыша. // З'явіцца доказам правільнасці. Дыягназ пацвердзіў кепскія прадчуванні.

**Пацеркі**, наз., адз. пацерка, ж. р., ДМ -рцы. ◘ Упрыгожанне з невялічкіх прадметаў (дрэва, шкла, бурштыну і пад.), нанізаных на нітку; каралі; рус. бусы.

**Пацеры**, наз., адз. няма. ◘ Малітва, модлы. А дзядзька мерна йдзе з-за кладкі, Ідзе без шапкі, круціць носам — Гаворыць пацеры з засосам; Для смешак твар яго зацяты... К-с.

**Пацыент**, наз., м. р., -а. ◘ Хворы, якога лечыць урач. Доктар выпісаў пацыенту рэцэпт.

**Пачакальня**, наз., ж. р. ◘ Пакой для чакання; чакальня; рус. приемная. Дырэктарская пачакальня.

**Пачатак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Месца, з якога нешта пачынаецца; проціл. канец; рус. начало. 2. Першы момант нейкага дзеяння, з'явы. Пачатак жніва. 3. Аснова, крыніца, сутнасць нечага. У творчай спадчыне Францыска Скарыны — пачаткі ўсіх нашых пачаткаў, бо ён і філосаф, і філолаг, і гісторык, і пісьменнік, і педагог, і батанік, і медык.

**Пачастунак**, наз., м. р., -нку. ◘ Ежа, пітво, якімі кормяць і пояць гасцей; частаванне; рус. угощение. Найпершы пачастунак -яешня.

**Пачвара**, наз., ж. р. ◘ 1. Казачная, страшная істота; страшыдла; рус. чудовище. Зло ў творах Яна Баршчэўскага паказана не толькі ў

вобразах агідных пачвар, цмокаў, карузлікаў, але вельмі часта яно надзвычай прывабнае, зманлівае, зіхотнае; яно вабіць, захапляе, бярэ ў палон, нішчыць волю і пачуцці. 2. перан. Пра жорсткага, агіднага чалавека, вылюдка.

**Пачуванне**, наз., н. р. ◘ 1. Адчуванне; рус. самочувствие. Без пачуванняў, імкненняў, страсцей Сталі б каменнымі сэрцы ўлюдзей. Н. Ч. 2. Пачуццё. ...І пачуванне адзіноты, Пустэчы цёмнае, тускноты Яго [Міхала] прыгнула, прыдушыла. І стала ўсё яму няміла. К-с.

**Пачуццё**, наз., н. р. ◘ Здольнасць пачуць, зразумець, адчуць, зведаць, успрыняць нешта з навакольнага жыцця і адпаведна на яго рэагаваць, перажываць; рус. чувство. Зведаць пачуццё замілавання. Пачуццё захаплення. Пачуццё жалю. Пачуццё спагады. Пачуццё ўласнай годнасці. Пачуццё трывогі і страху. Пачуццё гумару. Пачуццё нацыянальнай гордасці. □ Пачуццё справядлівасці, годнасці ўласнай, мабыць, разам з жыццём нам прырода дае. А. В.

**Пачціва**, прысл. ◘ З павагай, пашанай, добразычліва; рус. почтительно. Ім насустрэчу паважнай хадою, крочыць барсук той жа сцежкай лясною. Ён павітаўся з лісіцай пачціва, ліска яму расказала пра дзіва. У. Д.

**Пачцівы**, прым. ◘ 1. Паважны, шаноўны, паважаны, добразычлівы; рус. почтительный. Пачцівы і памяркоўны чалавек. 2. Які выказвае лавагу, пашану да некага. Сустрэць пачцівым паклонам.

**Пачэсны**, прым. ◘ 1. Які карыстаецца павагай, пашанай; ганаровы; рус. почетный. Пачэсныя госці. 2. Які робіць некаму гонар. А на пачэсным гэтым месцы Садзіўся госць — і то не кожан; А як цяпер кут быў парожан, То там Алесь прымайстраваўся... К-с.

**Пашана**, наз., ж. р. ◘ Павага, якая аказваецца некаму людзьмі; рус. почёт; почтение. І чуў Міхал нутром, душою — Не мае грунту пад сабою Вось лад такі на гэтым свеце: Адны ў пашане, тыя ў смецці... К-с.

**Пашкодзіць**, пашкоджу, пашкодзіш, пашкодзіць; зак. ◘ 1. Зрабіць шкоду; рус. навредить. Ганарлівасць і зухаватасць могуць пашкодзіць у жыцці. 2. Сапсаваць нешта; нанесці шкоду здароўю. Пашкодзіць руку. 3. Перашкодзіць; рус. помешать. Нішто не пашкодзіць сустрэчы.

**Паштоўка**, наз., ж. р., ДМ -тоўцы. ◘ Паштовая картка для адкрытага пісьма; паштовая картка з нейкім малюнкам, звычайна віншавальнага зместу; рус. открытка. Паштоўка з выявамі Мінска.

**Пашча**, наз., ж. р. ◘ 1. Рот звера, рыбы; рус. пасть. 2. перан. Цёмнае паглыбленне ў нечым; рус. зев. Вогненная пашча домны.

**Пашчасціць**, -ціць; безас; зак. ◘ Пра спрыяльны збег акалічнасцяў для некага; пашчасліўіцца. А пашчасціць -натрапіцца неруш. Р. Б.

**Певень**, наз., м. р., пёўня. ◘ 1. Свойская птушка, самец курыцы; рус. петух. У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца. Прык. (рус. Богатому черти деньги куют). 2. перан. Задзірысты чалавек.

**Пейзаж**, наз., м. р., -у і -а. ◘ Л.-у. Агульны выгляд мясцовасці; краявід. Пейзаж ранняй восені. 2. -а. Малюнак прыроды ў жывапісе, літаратуры. Пейзаж выхоўвае любоў да роднай прыроды, вучыць бачыць і адчуваць яе красу.

**Пекла**, наз., н. р. ◘ 1. Паводле рэлігійна-містычных уяўленняў — месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы грэшнікаў; рус. ад. Ім музыка вельмі шкодзіць: ад грахоў людзей адводзіць Зажадалі ў пекле чэрці памагчы яму памерці. У. Д. 2. перан. Месца, дзе адбываюцца небяспечныя падзеі. Пекла вайны. // Нясцерпныя ўмовы жыцця. Вера Харужая выстаяла ў астрожным пекле і засталася непераможнай.

Пекната, наз., ж. р., ДМ пекнаце. ◘ Прыгажосць. Пушча там не мае краю, пекната ж у ёй такая, што нідзе няма на свеце, хоць усюды сонца свеціць. У. Д.

**Пекны**, прым. ◘ Прыгожы. Пекныя ўзоры Тчэ кляноў задумны лістапад. Ар. К.

**Перабольшыць**, -шу, -шыш, -шыць; зак. ◘ Падаць нешта ў павялічаных памерах, чым ёсць у сапраўднасці; надаць празмерна важнае значэнне нечаму; рус. преувеличить. Перабольшыць свае магчымасці.

**Перавага**, наз., ж. р., ДМ -вазе. ◘ 1. Тое, што выгадна адрознівае адно ад другога; рус. преимущество. Ёсць адна дзіўная перавага ў старых гаспадынь. Яны вельмі хутка накрываюць на стол. П. Б. 2. Выключнае права на нешта; прывілея. Пераможцы алімпіяд карыстаюцца перавагай пры паступленні ва універсітэт.

**Пераважна**, прысл. ◘ Галоўным чынам, у большасці; рус. преимущественно. У тутэйшых мясцінах лес пераважна хваёвы.

**Перайманне**, наз., н. р. ◘ Наследаванне; імітацыя, падробка; рус. перенимание; подражание. Вопыт варты пераймання. Перайманне чужых звычак. Перайманне галасоў птушак.

**Пераканальны**, прым. ◘ Які пераконвае, прымушае паверыць у правільнасць, праўдзівасць нечага; рус. убедительный. Пераканальныя факты. Пераканальныя адказы.

**Перакананы**, прым. ◘ Цвёрда ўпэўнены ў нечым; непахісны, паслядоўны ў сваіх поглядах; рус. убеждённый. Скарына быў перакананым абаронцам беларускай мовы і літаратуры. М. Ал.

**Пераконанасць**, наз., ж. р. ◘ Цвёрдая, непахісная ўпэўненасць у нечым; перакананасць; рус. убежденность. Захапіць усіх сваёй пераконанасцю.

**Перакрыжаванне**, наз., н. р. ◘ Месца, дзе перасякаецца, перакрыжоўваецца нешта; рус. скрещение; перекресток. На перакрыжаванні вуліц устанавілі святлафор.

**Перакрыжавацца**, -жуецца; зак. ◘ 1. Размясціцца накрыж; скрыжавацца; рус. скреститься. Перакрыжаваліся прамяні. Перакрыжаваліся вуліцы. 2. перан. Сутыкнуцца, пераплесціся. Перакрыжаваліся інтарэсы.

**Перамагчы**, -магу, -можаш, -можа; зак. ◘ 1. Дасягнуць перамогі ў змаганні; разбіць праціўніка; выйграць у спаборніцтве; рус. победить. Перамагчы фашызм. Перамагчы ў алімпіядзе. 2. Пераадолець цяжкасці, дасягнуць поспеху; перасіліць нейкае жаданне, пачуццё. Найцяжэй перамагчы самога сябе.

**Перамога**, наз., ж. р., ДМ -мозе. ◘ Поспех у змаганні, у ажыццяўленні нечага, у пераадоленні нейкіх перашкод, цяжкасцяў; рус. победа. І на палях варожых бой Мы перамогаю закончым. М. Т. На міг ахопіць трывога, І зло ляціць пад адхон. Ляціць усё подлае, пошлае, сумненне стукне ў скронь: коснае... Хто каго?! ці будзе ян а — перамога? Наша слова апошняе: — Агонь! Агонь! Агонь! Агонь! Агонь! Агонь! Агонь! А. В.

**Перапынак**, наз., м. р., -нку. ◘ 1. Адпачынак у працы; часовае спыненне нейкай працы; рус. перерыв. Школьны перапынак. Абедзенны перапынак. 2. Пропуск у нейкім працэсе. Працавалі з перапынкамі.

**Перацяць**,ператну,ператнеш,ператне; зак. ◘ 1. Перасячы, перакусіць і пад. Дрот з вяроўкай не зраўняць, дрот лісе не перацяць. А. А. 2. Туга перавязаць, сціснуць. Перацяць сноп перавяслам.

**Перашкода**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1.Тое, што перагароджвае шлях, перапыняе, затрымлівае рух; рус. преграда. Але ж кажуць, што бядзе перашкод няма нідзе. У. Д. 2. перан. Тое, што затрымлівае ажыццяўленне нечага; цяжкасць. Вясёлы [дзядзька] робіцца, жывы, ! ўсе прыгоды, ўсе нягоды, І ўсе парогі-перашкоды Пачне апісваць сакавіта... К-с.

**Пернік**, наз., м. р., -а. ◘ Печыва на мёдзе, патацы з духмянымі прыправамі; рус. пряник. Напячы пернікаў.

**Персона**, наз., ж. р. Кніжн. ◘ Асоба, чалавек. // Важная, значная асоба (часцей у іранічным сэнсе). Не ляжыць да яго, пэўна, сэрца яе, Але ж бацька хлапца не малая персона. І дзяўчына надзею хлапцу падае. А. Вял.

**Перш**, прысл. ◘ Спачатку, раней; рус. прежде, сперва.
♦ Перш-наперш — спачатку, перш за ўсё; рус. прежде всего. А гэта хата вось якая: Перш-наперш, выгляд добры мае; Стаіць пры рэчцы ці крыніцы, На ёй дзве дымніцы-блізніцы З чырвонай цэглы і фарсісты. К-с.

**Перыфраз**, наз., м. р., -а і перыфраза, наз., ж. р. ◘ Выраз, які з'яўляецца апісальнай перадачай іншага слова, своеасаблівая моўная загадка (напрыклад, «цар птушак» замест «арол», «лясныя рыцары» замест «партызаны», «інжынеры чалавечых душ» замест «пісьменнікі»).

**Песціць**, пешчу, песціш, песціць; незак. ◘ 1. Любоўна даглядаць, гадаваць некага; ствараць для жыцця некага вельмі спрыяльныя ўмовы; рус. баловать. Песціць дзяцей. II Патураць усім жаданням некага, балаваць. 2. перан. Жадаць здзяйснення нечага прыемнага; рус. лелеять. Песціць мару. Песціць надзею.

**Пехатой і пехатою**, прысл. ◘ Сваімі нагамі, пяшком, пеша, пешкам, пешкі. Дабрацца пехатою.

**Півоня**, наз., ж. р. ◘ Дэкаратыўная расліна сямейства півоневых з вялікімі чырвонымі, ружовымі ці белымі кветкамі; рус. пион. У агародчыку раслі мальвы, півоні.

**Пілігрым**, наз., м. р., -а. ◘ Паломнік, вандроўны багамолец. // перан. Вандроўнік, падарожны.

**Піліпаўка**, наз., ж. р., ДМ -цы. ◘ Шасцітыднёвы перадкалядны пост; Піліпаўскі пост. УПіліпаўку дзень да палудня. З нар. // Адпаведны час перад Калядамі. На Купалле там птушка садзіцца, пяе, У Піліпаўку воўк нема вые... К-а.

**Пільнаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ 1. Наглядаць, назіраць, вартаваць, сцерагчы; рус. стеречь. Пільнуй гаспадаркі — будуць у гаршку скваркі. Прык. (рус. Доход не живет без хлопот). 2. Падсцерагаць, сачыць; рус. караулить. Аднаго разу чатыры чалавекі па чарзе пільнавалі выдру шэсць тыдняў і не маглі злавіць. Я. М.

**Пільны**, прым. ◘ І.Які патрабуе неадкладнага выканання, неабходны, тэрміновы, рус. срочный. Пільная работа. 2. Старанны, руплівы, дбайны. Пільны гаспадар. Праявіць пільную цікавасць да навукі.

**Пінжак**, наз., м. р., -а. ◘ Частка касцюма ў выглядзе курткі; рус. пиджак. Зашпіліць пінжак.

**Пісьменнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто піша кнігі; той, для каго літаратурная дзейнасць з'яўляецца прафесіяй; рус. писатель. Максім Багдановіч належыць да ліку выдатнейшых пісьменнікаў — класікаў беларускай літаратуры.

**Пісьменнасць**, наз., ж. р. ◘ Тое, што і пісьменства.

**Пісьменнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Умение чытаць і пісаць; рус. грамотность. 2. Адсутнасць граматычных і стылістычных памылак. Пісьменнасць сачынення заслугоўвае пахвалы.

**Пісьменства**, наз., н. р. ◘ 1. Сукупнасць пісьмовых сродкаў у нейкай мове; рус. письменность. Старажытнае беларускае пісьменства. 2. Сукупнасць пісьмовых помнікаў народа. Шырока адзначаецца ў нашай краіне свята Беларускага пісьменства і друку.

♦ Прыгожае пісьменства — мастацкая літаратура, белетрыстыка (рус. изящная словесность). Калі цяпер я чытаю ў сяго-тагоз нашых улаўраных майстроў прыгожага пісьменства пра «іванчай», «маць-і-мачаху», «іван-да-мар'ю», пачынае здавацца, што безліч такіх прыгожых, трапных ды непаўторных беларускіх назваў красак і траваў ведаем ужо адно мы з сястрою. У. А.

**Планаваць**, -ную, -цуеш, -нуе; незак. ◘ Складаць план ажыццяўлення нечага; намячаць нешта зрабіць, мець намер; рус. планировать. Планаваць будаўніцтва школы. Планаваць экскурсію.

**Планіраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Плаўна зніжацца на самалёце, планёры; паступова і плаўна зніжацца (пра птушак). Каршун плануе, карыстаючыся нябачнымі струменямі паветра.

**Плашчаніца**, наз., ж. р. ◘ Хрысціянская рэліквія, святыня, якая ўяўляе сабой тканіну з выявай (адбіткам цела і твару) Ісуса Хрыста пасля зняцця Яго з крыжа на Галгофе. Турынская плашчаніца. Адна з копій Турынскай плашчаніцы перададзена на вечнае захоўванне ў Чырвоны касцёл Сымона і Алены. □ Кабеты, дзеўкі, маладзіцы Ідуць-плывуць да плашчаніцы Ухустках белых і чырвоных, Набожна хрысцяцца, уздыхаюць І лбом данізу прыпадаюць. К-с.

**Плён**, наз., м. р., -у, ◘ 1. Садавіна, гародніна, зерне і пад.; ураджай; рус. плоды. Не злічыць у садзе плёнаў: грушаў, яблыкаў і сліў. М. М. 2. перан. Вынік старанняў; дасягненне. Радасна бачыць плён сваёй працы.

**Плённы**, прым. ◘ І.Які дае плён; рус. плодотворный. Пленная зямля. 2. перан. Выніковы. Плённыя дні. Плённыя справы.

**Плётка**[1], наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Раменны, вяровачны і пад. бізун; рус. плеть, кнут. Плёткамі пасечанае цела; Да плячэй кашуля прыкіпела, Ды жывы Данілка. А.В.

**Плётка**[2], наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Неправераная або лжывая чутка, якая шкодзіць чалавеку; рус. сплетня.

♦ Плёткі старой цёткі — беспадстаўныя чуткі, нагаворы (рус. бабушкины сказки).

**Плойма**, наз., ж. р. ◘ Мноства; безліч, процьма; рус. уйма; скопище. Плойма камароў і мошак. □ Яно-то праўда: ў панскай ппойме, Сказаць, не будзе недастачы, Ды гора ў тым — адзін лядачы, Другі без клёпкі, трэці злосны, Несправядлівы, безлітосны... К-с.

**Плынь**, наз., ж. р. ◘ 1. Рух вады ў рэчышчы; рус. течение. Павольная плынь. 2. Маса некага, нечага; рус. поток. Людская плынь. Абозы ішлі няспыннай плынню.

**Плыт**, наз., м. р., -а. ◘ Бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву; рус. плот.

**Плыткі**, прым. ◘ 1. Неглыбокі, мелкі. Плыткі ручаёк. 2.З мелкім дном, з невысокімі берагамі. Плыткая талерка.

**Плюскат**, наз., м. р., -у. ◘ Шум, які атрымліваецца ад удару чым-небудзь па вадкасці або ад перакату вадкасці; рус. плеск. Плюскат хваль.

**Плюхота**, наз., ж. р., ДМ плюхоце. ◘ Дрэннае, дажджлівае надвор'е, слота; хлюпота; рус. слякоть. Ссохлі травы, ўсё павяла, Эх, скарэй бы закрывала Слоць, плюхота, холад, цьма. Зямлю чорную зіма! К-с.

**Плюшчыць**[1], -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ Закрываць вочы. Плюшчыць вочы ад дыму.

**Плюшчыць**[2], -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ Удараючы або ціскаючы, рабіць нешта пляскатым, тонкім. Молатам плюшчыць распаленае жалеза.

**Плявузгаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Гаварыць абы-што, пустое, без толку; рус. молоть чушь, трепаться. Плявузгаць пра розныя дробязі.

**Пляма**, наз., ж. р. ◘ 1. Знак, брудны след нечага; рус. пятно. Чарнільная пляма. ІІ Частка паверхні, якая нечым выдзяляецца. Узгоркі ляжаць чорнымі плямамі. 2. перан. Нешта ганёбнае. Пляма ў біяграфіі.

**Пляменнік**, наз., м. р., -а. ◘ Сын брата або сястры. Наўкол пляменнікі сядзелі, На дзядзьку пільна ўсе глядзелі... К-с.

**Пляскаты**, прым. .◘ 1. Без звычайнай пукатасці, прыплюснуты; рус. плоский. Пляскаты лоб. 2. Які мае невялікую вышыню або таўшчыню пры прамой і роўнай паверхні. Пляскаты камень.

**Пляткар**, наз., м. р., плеткара. ◘ Той, хто любіць рабіць плёткі, разносіць неправераныя або лжывыя чуткі, якія звычайна шкодзяць

чыёй-небудзь рэпутацыі; рус. сплетник. Плеткароў трэба выводзіць на чыстую ваду: яны баяцца галоснасці.

**Пляц**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Зямля пад сядзібай; сядзіба. Паставіць дом на сваім пляцы. Мець свой пляц. 2. Плошча. Жывой гамонкай да світання Пляцы і вуліцы гулі. А. А.

**Пляцоўка**, наз., ж. р., ДМ -ўцы. ◘ 1. Роўнае месца на зямлі, прызначанае для пэўных мэт; рус. площадка. Пасадачная пляцоўка. Падрыхтаваць пляцоўку для здачы пад мантаж. 2. Вольнае месца паміж лесвічнымі маршамі. 3. Пярэдняя або задняя частка вагона. Пасажыр стаяў на задняй пляцоўцы.

**Пляшка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Шкляная пасудзіна з вузкім горлам для захоўвання вадкасці; бутэлька; рус. бутылка.

**Побач**. ◘ 1. прысл. Адзін каля аднаго, у суседстве; рус. рядом. Ісці разам, побач. 2. прыназ. Указвае на размяшчэнне блізка каля некага, нечага. Побач чыгункі.

**Побыт**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Умовы штодзённага існавання, сродкі і спосабы задавальнення матэрыяльных і духоўных патрэб; быт. Побыт беларусаў вылучаецца сваімі адметнымі асаблівасцямі. 2. Парадак. Укожнай сям'і свой побыт.

**Погляд**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Накіраванасць зроку на некага, нешта; позірк; рус. взгляд. Перавесці погляд на госця. 2. Выраз вачэй, манера глядзець. І чуць калі што вынікала, Што тыя ў лаву баязліва То бацька кідаў так, бывала, Траха са страху не ўпаўзалі, На хлопцаў погляд выразліва, Бо гэты погляд добра зналі. К-с. 3. Пункт гледжання, меркаванне, пазіцыя. Кожны чалавек мае сваю асобную мерку да шчасця і свой асобны погляд на самое шчасце. З. Б.

**Подых**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Лёгкі парыў (ветру); рух паветра; рус. дуновение. Подых ветру. 2. Пра набліжэнне, наступление нечага. Подых навальніцы. Подых восені.

**Пожня**, наз., ж. р. ◘ 1. Зжатае хлебнае поле; іржышча. 2. Абл. Луг, сенажаць.

**Позірк**, наз., м. р., -у. ◘ Накіраванасць зроку на некага, нешта; погляд; рус. взор, взгляд.

**Покуць**, наз., ж. р. ◘ Вугал, кут у хаце, дзе вісяць абразы і стаіць стол, за які садзяць паважаных гасцей; красны кут. Першы сноп жыта ставяць на покуць.

**Помнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Архітэктурнае або скульптурнае збудаванне ў знак ушанавання памяці нейкай асобы або падзеі; рус. памятник. 2. Твор ці прадмет культуры мінулага. «Слова пра

паход Ігаравы» — помнік старажытнай усходнеславянскай літаратуры, які ўвайшоў у залаты фонд сусветнай культуры.

**Помслівы**, прым. ◘ Схільны да пометы; рус. мстительный. Злапомны і помслівы чалавек. ІІ Які выражае помету. Помслівая ўсмешка.

**Помста**, наз., ж. р., ДМ -сце. ◘ Адплата за прычыненае зло; жаданне расквітацца за прычыненае зло; рус. месть. Міхал аб помеце строіць планы. К-с. Найбольш супярэчыць рэлігіі і агідная Богу — помета. Ёю не супакоіш пакуты. Ян Б.

**Поп**, наз., м. р., папа. ◘ Святар у праваслаўным храме; бацюшка. Маленне бацька-поп канчае, Ідзе з крапідлам і махае. К-с.

**Поплаў**, наз., м. р., -аву. ◘ Луг у пойме ракі; рус. заливной луг. Насі «катла», кажы ім [дзецям] казкі, Ідзі на поплаў з імі ў краскі, Давай адказы на пытанні, Тлумач ты ім усё дазвання... К-с.

**Поплеч**, прысл. ◘ У непасрэднай блізкасці з некім, плячо з плячом, поруч, побач; рус. рядом, рука об руку. Камбат поплеч з байцамі ішоў у атаку.

**Попыт**, наз., м. р., -у. ◘ Патрабаванне на тавар, рабочую сілу; патрэба, неабходнасць; рус. спрос. Вечарам заходзіць яўрэйскае свята — шабас. У такі час на рыбу надзвычайны попыт. К-с.

**Порсткі**, прым. ◘ Хуткі, жвавы; рус. резвый, живой. З лесу прыйшоў летась ласы на садавіну вожык, прыйшоў ды, зладзіўшы ў ямцы непадалёк кубло, так і застаўся ў садзе зімаваць — порсткі колкі клубочак. У. А.

**Поруч**, прысл. ◘ Тое, што і поплеч. Каб палучыць дзве палавіны, Каб разам шчасце здабываць І поруч долю падзяляць. К-с. Каб дапісаць партрэт Антося, Скажу: на свеце не знайшлося Ні ўдоўкі-любкі, ні дзяўчыны,

**Порхаўка**, наз., ж. р., ДМ -ўцы. ◘ Шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў пыл; рус. дождевик. І вынік ён [пісарчук] перад сябрамі, Як тая порхаўка часамі Па цёплым дождждычку з зямлі. К-с.

**Поспех**, наз., м. р., -у. ◘ Удача ў дасягненні нечага; добрыя вынікі ў працы, вучобе; рус. успех. Нізка ў пояс схіляецца жыта, Сінім морам вітаюць ільны. Беларускі народ працавіты, Тваe поспехі свету відны. А. А.

**Постаць**[1], наз., ж. р. ◘ Стан, фігура. Постаць уцекача знікла ў вірлівым натоўпе.

**Постаць**[2], наз., ж. р. ◘ Палоска збажыны, занятая адной жняёй у час жніва. Мы, жонкі, ўдовы і дзяўчаты, Пры доўгай постаці стаім. К-а.

**Поўдзень**[1], наз., м. р., поўдня. ◘ 1. Адзін з чатырох напрамкаў свету; супрацьлеглы поўначы; рус. юг. Стаўшы тварам да сонца, легка вызначыць для сябе захад, поўнач і поўдзень. 2. Мясцовасць, краіна з цёплым кліматам. Птушкі паляцелі на поўдзень. А ў нас - ціў лесе ты, ці ў полі — Садзіся смела, дзе стаіш: Не бойся — сцёгны не паколеш, Як на падушцы, пасядзіш! Н. Г. □ Я ж быў у тых краях на поўдні, Дзе ўсюды горы навакол. Хадзіў па полі і запомніў: Які няўтульны, жорсткі дол!

**Поўдзень**[2], наз., м. р., пбудня. ◘ Сярэдзіна дня; рус. полдень. Ўжо снедаць час, і поўдзень скора, Ды з гэтым бацькам адно гора! Як пойдзе ён у пес той зрання, Як цукар у вадзе растане... К-с.

**Поўнач**, наз., ж. р. ◘ 1. Адзін з чатырох напрамкаў свету, супрацьлеглы поўдню; рус. север. 2. Мясцовасць, краіна з халодным кліматам.

**Поўня**, наз., ж. р. ◘ Фаза Месяца, калі відзён увесь яго дыск; рус. полнолуние. Якраз была поўня, ночы стаялі відныя. У. Ш.

**Поўсць**, наз., ж. р. ◘ Шэрсць; падшэрстак. Наскубці ў трускі жменю поўсці.

**Пошасць**, наз., ж. р. ◘ Хвароба, эпідэмія. Ліквідацыя пошасці тыфу. // Напасць, насланнё; рус. зараза, мерзость. Наркаманія і СНІД - жахлівая пошасць нашага часу.

**Пошук**, наз., м. р., -у. ◘ Высілкі, намаганні з мэтай набыць жаданае; рус. поиск. У пошуках шчасця. Давесці пошук да канца.

**Пошчак**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Пералівісты дрыжачы гук; трэль. Салаўіны пошчак. 2. Водгук, рэха. Скрыпка тая, як жывая, якжывая, вымаўляе. Аж да неба высіць пошчак З неба ён, як дробны дожджык, высяваецца па лесе. У. Д.

**Прабачыць**, прабачу, прабёчыш, прабачыць; зак. ◘ 1. Зняць віну за нешта, не лічыць за віну; рус. извинить. 2. заг. прабач(це) — выказванне шкадавання за прычыненыя турботы ці для выражэння нязгоды з нечым. Прабачце мне!

**Прабачэнне**, наз., н. р. ◘ Дараванне віны, паблажлівасць за правіннасць.

♦ Прашу прабачэння — прабач(це).

**Праведнік**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, які жыве па Божых запаведзях; той, хто ў сваіх учынках кіруецца сумленнем. Свет уратуецца праведнікамі. Паводле біблейскага падання, Бог не знішчыў бы Садом і Гамору, калі б у іх было хоць некалькі праведнікаў.

**Праведны**, прым. ◘ Сумленны, правільны, справядлівы; які не парушае Божых запаведзяў. Жыць праведным жыццём.

**Правінцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Гіст. Заваяваная старажытнымі рымлянамі тэрытотыя. 2. Краіны-калоніі царскай Расіі. 3. Мясцовасць, аддаленая ад сталіцы; перыферыя.

**Праворны**, прым. ◘ Рухавы, спрытны; шпаркі, хуткі. ...Пакуль мароз не засярдуе І сілу зноў ён не пачуе, Каб закаваць раўчук праворны За розум надта непакорны. К-с.

**Прага**, наз., ж. р., ДМ празе. ◘ 1. Жаданне, патрэбнасць піць; смага; рус. жажда. Точыць смага, прага піць. А. Ал. 2. Моцнае жаданне нечага. Прага да жыцця. Прага да нажывы і прага пометы руйнуюць само жыццё.

**Прагавіты**, прым. ◘ 1. Які вельмі моцна хоча нечага; прагны да нечага. Прагавіты да жыцця. □ Не быў прагавіты на срэбра І жыў беднавата, дзівак. П. П. 2. Ненасытны, скупы, жадлівы. А колькі гэтай вал а кіты! І ўсе на грошы прагавіты: Таму рубель, таму дваццатку, А ўсё няма ладу-парадку. К-с.

**Прагал**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Не зарослае дрэвамі месца ў лесе; прагаліна; палянка. Вы бачылі лес, дзе прагал скразны? Скажыце, вы бачылі бор той, дзе кожнай другой няма сасны ці сама меней — чацвёртай? А. В. 2. Голае, вольнае месца паміж нечым. Выкашаныя прагаліны. Шэрае з сінімі прагалінамі месца.

**Прагляд**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Азнаямленне з нечым; беглае прачытанне нечага; рус. просмотр. Прагляд фільмаў на міжнародным кінафестывалі «Лістапад» у Мінску. 2. Памылка ў нечым, недагляд; рус. недосмотр.

**Прадбачыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ 1. Убачыць наперад, угадаць тое, што павінна адбыцца; рус. предвидеть. 2. Вывучаючы, аналізуючы факты, зрабіць правільны вывад пра далейшы ход падзей. Так здараецца часам, што нават мудрэц не прадбачыць, які яму будзе канец... У. Д.

**Прадвесце**, наз., н. р. ◘ Знак, з'ява, прыкмета, якія прадказваюць, вяшчуюць наступление нечага. Прадвесце нечага трывожнага.

**Прадзед**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Бацька дзеда або бабулі. Бацька, дзед і прадзед умелі іграць на скрыпцы. М. Гар. 2. мн. (прадзеды). Продкі. Мудрасць прадзедаў служыць і праўнукам.

**Прадмова**, наз., ж. р. ◘ Уступ з папярэднімі заўвагамі аўтара ці рэцензента да кнігі ці твора; рус. предисловие. Прадмовы Ф. Скарыны да Бібліі — сведчанне пісьменніцкага, публіцыстычнага і пеэтычнвге дару першадрукара.

**Прадчуванне**, наз., н. р. ◘ Няяснае пачуццё чакання нечага, што можа здарыцца; рус. предчувствие. Прадчуванне шчасця.

**Празрысты**, прым. ◘ 1. Які прасвечваецца, прапускае святло; тонКі, праз які відаць іншыя прадметы; рус. прозрачный. Празрыстая вада. Празрыстая тканіна. 2. перан. Які можна лёгка разгадаць; ясны. Празрысты намёк.

**Прайдзісвет**, наз., м. р., -а. ◘ Пранырлівы, лоўкі, хітры чалавек; рус. проходимец; пройдоха. Літаратурныя прайдзісветы Над сексуальным сюжэтам ішачаць. Моладзь ім не выхаваць, Характеры не выкаваць... А для чалевецтве Нередзілі Ушечы Добрых пеэтеў І Васіля Быкаве. П. П.

**Праклён**, нез., м. р., -у. ◘ Крайняе асуджэнне, якое суправаджаецца злавесным пажаданнем, прадказаннем; пракпяцце. У неродзе ведаюць: праклён — вялікі грэх.

**Пралеска**, наз., ж. р., ДМ пралёсцы. ◘ Расліна з сіне-фіялетавымі кветкамі, якія зацвітаюць адразу пасля раставання снегу; рус. подснежник. Красавік - Гэта першыя краскі вясны. Некранутая сінь Танканогай пралескі. А. З-к.

**Пралік**, нез., м. р., -у. ◘ Памылка, промах, няўдача; рус. просчет. Зрезумець прычыну свеіх прелік**ву** — десягнуць у будучыні жеденых вынікеў.

**Пральня**, наз., ж. р. ◘ Установа бытавога абслугоўвання для мыцця і апрацоўкі бялізны; рус. прачечная. Здаць бялізну ў пральню.

**Праменне**, наз., зб. ◘ Прамяні; рус. лучи. Эх, луг шырокі! Як жывы, ты, Праменнем сонейка зеліты, Увесь стаіш перад вачыма, Ты міл і смуцен, як радзіма, Як наша ціхая стеронке... К-с.

**Прамень**, наз., м. р., -я; мн. прамёні і прамяні. ◘ Тое, што і промень. Прамова, наз., ж. р. ◘ Публічнае выступленне; рус. речь. Выступіць з прамовай. □ — І самі знайце свой парадак, Каб і да кніг, як де аладак, Таксама дружна наляталі, - Дарэктар, хлопцы - ўсе маўчалі, Схіліўшы ўдумныя галовы, Пакуль цягнуліся прамовы. К-с.

**Пранікнёны**, прым. ◘ Хвалюючы, шчыры, сардэчны, перакананы; рус. проникновенный. Пранікнёная адданасць сваёй справе.

**Прапанова**, наз., ж. р. ◘ Заява аб гатоўнасці, жаданні дапамагчы, зрабіць паслугу, мець адносіны з некім; рус. предложение. Прапанова сустрэць Новы год разам — спадабалася. У. Ш.

**Прарок**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Пасланнік Бога, выканаўца волі Бога. У Бібліі расказваецца, як Бог загадаў прароку Маісею вывесці іудзеяў з егіпецкага рабства і даў яму скрыжалі, на якіх былі напісаны Божыя запаведзі для ўсіх людзей. 2. Прадказальнік будучыні, вяшчун. Сапраўдны паэт надзелены дарам прарока. Ён

павінен папярэджваць свой народ, «дзе патоп, дзе пажар, дзе вораг на межах» (У. Някляеў).

**Праснак**, наз., м. р., -а. ◘ Тоўсты блін з прэснага цеста; рус. опреснок. Маці цеста тады ўчыніла з вадой, праснакоў нарабіла з чаромхай лясной. У. Д.

**Прасніца**, наз., ж. р. ◘ Прыстасаванне, на якое прымацоўваецца кудзеля для прадзення; рус. прялка. І маці прасніцу да печы Таксама ставіць, прысланяе, На двор за імі выпаўзае. К-с.

**Прасцяг**, наз., м. р., -у. ◘ Свабодны, вялікі прастор; шыр. Жытнёвыя прасцягі.

**Прасякнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Пранікнуць некуды праз нешта; рус. пропитаться, просочиться. Шчодрыя восеньскія дажджы здолелі прасякнуць і напаіць глебу. 2. перан. (звычайна ў форме дзеепрым.). Напоўніць нейкім пачуццём, ідэяй; рус. проникнуть. Уся творчасць Я. Купалы прасякнута ідэяй незалежнасці краіны і абуджэння нацыянальнай годнасці беларуса.

**Прафесія**, наз., ж. р. ◘ Занятак, праца, якая патрабуе пэўнай падрыхтоўкі. Прафесія настаўніка, як і хлебароба, адвеку лічыцца адной з самых пачэсных і ганаровых на зямлі.

**Праца**, наз., ж. р. ◘ Дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне дабрабыту, на забеспячэнне жыцця; рус. труд. Хараство ўсё ідзе ад працы, пабудавала праца і палацы. У. Д. 2. Вынік творчай, разумовай дзейнасці; твор. Друкаваная праца. 3. Служба на прадпрыемстве ці ва ўстанове. Мець добрую працу.

**Працавітасць**, наз., ж. р. ◘ Ахвота, шчырасць, любоў да працы; рус. трудолюбие. У працы выяўляецца ўся сіла і прыгажосць чалавека, рэалізуюцца лепшыя яго якасці і талент, бо працавітасць — сама па сабе ёсць талент чалавека і сведчанне яго жыццястойкасці, нязломнасці, цягавітасці, моцнага інстынкту самазахавання.

**Працавіты**, прым. ◘ Які многа, ахвотна, шчыра працуе 1 любіць працаваць; рус. трудолюбивый. - Дык бяры ж тады Яніну — Працавітую дзяўчыну! З нар. песні.

**Праціўнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек, які адмоўна ці варожа адносіцца да некага, нечага. Праціўнік суцэльнай прыватызацыі. 2. Чалавек, які імкнецца перамагчы другога (у спрэчцы, сутыкненні, бойцы); сапернік. О, дзядзька спосабаў меў многа Данящь праціўніка малога! Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу, Або паехаць у сялібу... К-с. 3. Вораг. Перамагчы праціўніка.

**Працоўны**, прым. ◘ 1. Звязаны з працай, заснаваны на працы, атрыманы за працу; рус. трудовой, рабочий. Працоўны дзень. Працоўны стаж. Працоўныя даходы. 2. Які жыве сваёй працай.

Працоўны народ. 3. у знач. наз. працоўны; рус. трудящийся. Адпачынак працоўных.

**Працяг**, наз., м. р., -у. ◘ Тое, што прадаўжаецца, прадаўжэнне. Гісторыя мела нечаканы працяг.

**Працяць**, пратну, пратнёш, пратнё. ◘ 1. Пракалоць, праткнуць нечым калючым, вострым наскрозь; прарэзаць; рус. пронзить. Працяць штыком. 2. перан. Пранізаць усю істоту (пра вецер, холад, боль і пад.). 3. перан. Моцна, раптоўна падзейнічаць, зрабіць глыбокае ўражанне. Сказаныя добрыя словы працялі наскрозь радасцю і вярнулі надзею.

**Праява**, наз., ж. р. ◘ 1. Незвычайнае здарэнне. Ўсё гэта — дрэннае злучэнне, Праявы страшнай абвяшчэнне... К-с. 2. З'ява, праяўленне; рус. явление. Вялікі навакольны свет, поўны прыгажосці і сілы, праяў і падзей. М. Тк.

**Продак**, наз., м. р., продка. ◘ 1. Папярэднік у сям'і, родзе, племені; родапачынальнік якога-небудзь віду або роду жывёл і раслін. 2. толькі мн. продкі. Людзі, якія жылі задоўга да цяперашняга часу. Пакінем спадчыну мы для патомкаў Інакшую ад той, Што ўзялі мы ад продкаў на абломках Гісторыі сваёй. К-а.

**Прозвішча**, наз., н. р. ◘ Найменне, агульнае для ўсёй сям'і, якое дзеці атрымліваюць звычайна па бацьку, а жонка па мужу; рус. фамилия. [Міхал:] — Пастой, пан, прозвішча знаёма! Ну, так: я чуў аб ім, вядома... Дык пан Ракоўскі! Ну, віншую! Пакажа нам, дзе рак зімуе! К-с.

**Промень**, наз., м. р., променя; мн. промені і промні. ◘ Вузкая паласа святла, якая ідзе ад нейкай крыніцы святла або прадмета, што свеціцца; прамень; рус. луч. 2. перан. Праяўленне нечага, пробліск. Промень надзеі. □ Бо так на службе дапяклі, Што гэта думка аб зямлі Запала ў сэрца назаўсёды, Як промень волі і свабоды. К-с.

**Прорва**, наз., ж. р. ◘ 1. Вельмі глыбокі, стромкі абрыў, глыбокая расколіна; бездань; рус. пропасть. 2. Карэннае, прынцыповае разыходжанне ў нечым паміж некім, нечым. На просьбу багацея пасляць да яго бедняка Лазара, каб той змачыў яго вусны, суцішыў боль і пакуты, Аўраам адказаў: «Паміж вамі вялікая прорва, і нікому не дадзена яе перайсці: ні яму да цябе, ні табе да яго». Паводле Евангелля. 3. Разм. Вельмі вялікая колькасць некага, нечага; мноства; процьма; рус. прорва. Цяжка адной накарміць такую прорву людзей.

**Проці**. ◘ 1. прыназ. На процілеглым баку ад некага, нечага; прама перад некім, нечым; супраць; рус. напротив. І наш асёл за працу

ўзяўся шчыра: Як можна, вушчы свае шырай Ён растапырыў, распрастаў І процi сонца стаў. К. К, 2. прысл. Наперакор; насуперак некаму, нечаму; супраць; рус. против. На чым сядзіш, таго глядзі ты! Казаў Міхал не раз сярдзіта: — Маўчы, калі ёсць хлеб у роце! — І што сказаць на гэта процi. К-с.

**Працівага**, наз., ж. р. ◘ І.Груз, які прымяняецца для ўраўнаважвання сілы цяжару, інерцыі; рус. противовес. 2. перан. Пра тое, што ўраўнаважвае нешта або працідзейнічае нечаму. Узнікла вострая неабходнасць стварыць працівагу кепскаму ўплыву вуліцы на падле тка.

**Працілеглы**, прым. ◘ 1. Размешчаны насупраць; які вядзе ў адваротным напрамку; рус. противоположный. На працілеглым беразе. 2. Які супярэчыць нечаму, поўнасцю не супадае з нечым. Працілеглыя погляды.

**Працьма**, наз., ж. р. Уст. ◘ І.Вялікае мноства, безліч; рус. уйма. Працьма грыбоў. Працьма думак. 2. Бездань, прорва. Бяздонная працьма.

**Прошча**, наз., ж. р. ◘ Месца (крыніца, камень і пад.), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, надпрыроднай, надзвычайнай сілай. Родныя мясціны, родны кут, бацькава хата з'яўляюцца прошчай для кожнага чалавека.

**Пругкі**, прым. ◘ 1.Які пасля сціскання або згінання хутка прымае першапачатковую форму ці зусім не мяняе яе; пруткі; рус. Упругий. Пругкі мяч. Пругкая ад крухмалу бялізна. 2. Лёгкі, спружыністы (пра рух); пруткі; рус. пружинистый. Пругкая хада.

**Прусак**[1], наз., м. р., -а. Уст. ◘ Рыжы таракан. Было відаць, што тут ліпелі Рабіць парадку не хацелі, Да часу людзі і не дбалі, Жылі пасвінску, кацьмакамі Гоазі ніколі не знімалі, І ў добрай згодзе з прусакамі. К-с.

**Прусак**[2], наз., м. р., -а. ◘ Ураджэнец або жыхар Прусіі; паўночнаўсходні немец.

**Прусы**, наз., адз. прус, м. р., -а. ◘ Група балтыйскіх плямён, якія насялялі паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем рэк Віслы і Нёмана і былі заваяваны ў XIII ст. нямецкімі рыцарамі.

**Прыахвоціць**, -вочу, -воціш, -воціць; зак. ◘ Выклікаць у некага ахвоту да пэўнага занятку; рус. приобщить, пристрастить. Прыахвоціць да чытання.

**Прыблудны**, прым. ◘ Які прыстаў да чужога статка, двара, хаты і пад. Прыблудны сабака. ІІ Які далучыўся да некага, прыстаў да нейкага месца. Ты тут чужы, прыблудны! Маўзон.

**Прыбытак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Даход; рус. прийыль. Прыбытак прадпрыемства. 2. Даход, які атрымліваецца ад нейкай дзейнасці. Прыбытак фермера. 3. Карысць, выгада. (Міхал:]-А што за шчасце тут, спытаем? Які прыбытак мы тут маем? К-с.

**Прывабны**, прым. ◘ 1. Які вабіць, прыцягвае да сябе; прыемны з выгляду, прыгожы; рус. соблазнительный. Прывабная паненка. 2. Які выклікае цікавасць; рус. привлекательный. Прывабная прапанова. Прывабная прафесія.

**Прыватны**, прым. ◘ 1. Асабісты, уласны, недзяржаўны, не калектыўны, не грамадскі; рус. частный. Прыватная ўласнасць. 2. Адзінкавы, не агульны, не тыповы, выключны. Прыватны выпадак.

**Прывід**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Нешта нерэальнае, падманнае; здань; рус. привидение. 2. Тое, што здалося, уявілася; рус. призрак.

**Прывілея**, наз., ж. р. ◘ Выключнае права, якога не маюць іншыя; рус. привилегия. Карыстацца прывілеямі.

**Прыгадаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Узнавіць у памяці, прыпомніць. Прыгадаць дзяцінства.

**Прыгаршчы**, наз., адз. няма. ◘ 1. Абедзве далоні з прыгнутымі пальцамі, складзеныя такім чынам, каб імі можна было нешта набраць, зачэрпнуць, трымаць; рус. пригоршня. Набраць у прыгаршчы. 2. Колькасць нечага, якая ўмяшчаецца ў складзеныя такім чынам далоні. Прыгаршчы ягад.

**Прыгнёт**, наз., м. р., -у. ◘ Жорсткі ўціск, эксплуатацыя; рус. угнетение, гнет, иго. Нацыянальны і класавы прыгнет вынішчае нацыю, яе самабытнасць і культуру.

**Прыгода**, наз., ж. р., ДМ прыгодзе. ◘ 1. Нечаканы выпадак, падзея, здарэнне; рус. приключение. 2. звычайна мн. (прыгоды). Цікавыя, незвычайныя або рызыкоўныя здарэнні. Прыгоды Міколкі і дзеда Астапа, апісаныя М. Лыньковым, сталі любімай дзіцячай кнігай.
□ — Хай першай скажа Ружа пра ўсе свае прыгоды. Здаволеная дужа сваім мінулым годам. У. Д. 3. Тое, што парушае звычайны парадак жыцця; рус. происшествие. Будзе нейкая прыгода, Ходу, хлопча, падбаўляй, - Ці не пройдзе дождж, глядзі ты: Млявасць чуецца, цяжар. К-с.

**Прыгон**, наз., м. р., -у. ◘ Грамадскі лад, пры якім памешчык меў права на прымусовую працу, маёмасць і жыццё сялян, што належалі яму; паншчына; рус. крепостное право. Гэта калісьці было за прыгонам: пан для сялян быў вышэйшым законам. Мог і прадаць, і забіць селяніна, хоць бы ён быў ані ў чым непавінен. У. Д.

**Прыгрэбнік**, наз., м. р., -а. ◘ Прыбудоўка перад уваходам у склеп. А збоку, ў полі, недалёка Стаяў прыгрэбнік адзінока, Пахілкам, горкім сіратою, У дол упёршыся страхою. К-с.

**Прыдбаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Набыць, займець нешта; нажыць; рус. приобрести. І так паціху ды памалу Прыдбалі трохі капіталу, Каб хоць пачатачак зрабіць І першы камень залажыць На грунце вольнае зямелькі. К-с.

**Прыемны**, прым. ◘ 1. Які прыносіць радасць, задавальненне; рус. приятный. І звон аб прыпек скавародны, Так блізкі сэрцу, так ім родны... Такі прыемны, мілагучны, У той прыемнасці выключны. Ён разліваўся па ўсім целе' І ўмомант іх знімаў з пасцелі. К-с. 2. Які выклікае сімпатыю; прывабны. Прыемны чалавек.

**Прыказка**, наз., ж. р., ДМ -зцы. ◘ 1. Устойлівае афарыстычнае вобразнае народнае выслоўе звычайна павучальнага зместу, якое носіць абагульняльны характар, вызначаецца глыбінёй філасофскай думкі, лагічнай і сэнсавай завершанасцю; рус. пословица. Прыказка — кароценькая прытча. Даль. І ёсць жа прыказка такая: «Кляні ты пана — пан сычае!» К-с. «Ліслівае цяля дзве маткі ссе». Вы гэту прыказку напэўна чулі ўсе. К. К. 2. Прыгаворка, зачын казкі; рус. присказка.

**Прыклад**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Учынак, паводзіны або з'ява, якія служаць яркім узорам для некага, а таксама чалавек, які можа быць узорам для іншых; рус. пример. Уся са свету прыгажосць, што ў нас была ці, можа, будзе, у сонечным палацы ёсць, з яе каб прыклад бралі людзі. У. Д. 2. Канкрэтны выпадак, факт, які прыводзіцца для доказу нечага. Трэба ілюстраваць свае высновы прыкладамі. 3. Матэматычнае практыкаванне, якое патрабуе рашэння. Рашаць матэматычныя прыклады.

**Прыклад**, наз., м. р., -а. ◘ У вінтоўцы: пашыраная частка ложа, якая служыць для ўпору ў пляче пры стральбе. «Ну, брат Міхась, не дай жа маху!» Ён брамкі ў стрэльбе адчыняе, Прыклад падносіць да пляча; «Не так дасі ты стракача!» — Міх ал паціху разважае. А воўкляціць. Вось ён на Нёмне... К-с.

**Прыкра**, прысл. ◘ Непрыемна, крыўдна, невыносна; рус. досадно. Прыкра стала, горка стала: за жыццё рабіў нямала,

**Прылада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Прыстасаванне, механізм, пры дапамозе якіх выконваецца нейкая праца; рус. приспособление. Прылады працы. 2. часцей мн. (прылады). Камплект, набор прадметаў для выканання нейкага працэсу; рус. принадлежности. Канцылярскія прылады. Спартыўныя прылады.

**Прымаўка**, наз., ж. р., ДМ прымаўцы. ◘ Устойлівае трапнае выслоўе з незавершанай думкай і звычайна без павучальнага зместу; рус. поговорка. Прымаўка, паводле народнага азначэння, красачка, а прыказка — ягадка; і гэта правільна. [Прымаўка] гэта адна першая палова прыказкі. Даль. У нас нават прымаўка пайшла ў народзе: шавец заўсёды без ботаў. К. Ч.

**Прымета**, наз., ж. р., ДМ прымёце. ◘ 1. Адметная рыса, па якой пазнаецца прадмет; прыкмета; рус. признак. Прымета восені — адлёт птушак у вырай. 2. Знак, які нешта вяшчуе, прадказвае. Снег на Куццю — грыбы на лета, Такая матчына прымета, а з пяску зрабіць не можа чаравічак ён прыгожых... У. Д. А сцежкі чорны - ягад многа; Ну, і за гэта хвала Богу. К-с.

**Прымус**, наз., м. р., -а. ◘ Награвальны прыбор з помпай, якая падае газу (керасін) у гарэлку. Згатаваць ежу на прымусе.

**Прымус**, наз., м. р., -у. ◘ Уздзеянне з мэтай дамагчыся выканання нечага; уціск, прыгнет; рус. принуждение. Вучыцца без прымусу. □ — І прымушаць гасцей да місы — Як і жадаць ім зла-бяды! — О, бачна рос далека-дзесьці! А ў нас судзіла так сяло: «Было ўсяго — І піць, і есці, Але прымусу не было!..» Н. Г.

**Прынада**, наз., ж. р. ◘ 1.Тое, чым прымушаюць птушак, рыб, звяроў наблізіцца; рус. приманка, наживка. ... Цяпер зайцы ў лясах гуляюць, Іх упалюеш без прынады. К-с. 2. Тое, што прыцягвае, прываблівае. Свая зямля, свая пасада!.. Ці ёсць мацнейшая прынада? К-с. Каханне -лёгкая прынада Для сэрцаў чуткіх, маладых. К-а.

**Прынамсі**, пабочн. ◘ Ва ўсякім разе; рус. по крайней мере. Такія паводзіны, прынамсі, хоць можна зразумець.

**Прыпек**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Месца, пляцоўка перад чалеснікамі печы; прыпечак. Недарма ж дзядзька іх, бывала, Каб пабудзіць каго з іх жвава Пагнаць каровак ранічкою, У прыпек быў скаварадою. К-с. 2. Дашчаны насціл каля печы, на якім можна сядзець або ставіць нешта; прымурак.

**Прыпол**, наз., м. р., -у. ◘ Ніжні пярэдні край сукенкі, спадніцы; падол; памянш.-ласк. прыполік. — А, дзядзька! дзядзечка, саколік! Насып мне ягад у прыполік! -Дай мне дубец! -А мне дай вуды! — Крычаць малыя шалапуды... К-с.

**Прыпынак**, наз., м. р., -нку. ◘ 1. Месца, дзе спыняюцца аўтобусы, трамваі, тралейбусы, а таксама прамежак паміж такімі месцамі; рус. остановка. На прыпынку людна. Праехаць два прыпынкі. 2. Месца, дзе можна знайсці прытулак, прыстанішча. Знайсці прыпынак на чужыне.

**Прысады**, наз., адз. няма. ◘ Дрэвы, пасаджаныя вакол, каля нечага (дарогі, вуліцы, будынка). Рэспублікі сталіца, Любімы горад-сад! Палацы, камяніцы У зелені прысад. А. Ст.

**Прысак**, наз., м. р., прыску. ◘ Гарачы, распалены попел. У прыску пячэцца бульба. □ Ражэнчык свой узяўшы ўраз і нанізаўшы сала нізкай, Цікаўны спёк ў добры час яго над тым гарачым прыскам. У. Д.

**Прысвятак**, наз., м. р., -тка. ◘ 1. Невялікае свята; звычайны рабочы дзень, названы ў гонар гістарычнай духоўнай асобы і адлюстраваны ў фальклоры, быце (Марк, Варвара і інш.). Кожны прысвятак ці свята У Сцяпана поўна хата — Сват і кум і так знаёмы Чуюць тут сябе, як дома. К. К. 2. Перадсвяточны дзень.

**Прысвяціць**, -свячу, -свеціш, -свеціць. ◘ 1. Прызначыць некаму, нечаму; рус. посвятить. Прысвяціць жыццё мастацтву. Прысвяціць сябе сям'і. 2. Зрабіць, стварыць нешта ў гонар некага, прызначыць нешта (звычайна мастацкі твор) як знак павагі, пашаны да некага. Прысвяціць кнігу памяці бацькоў. □ Усім, хто лёс Айчыны адзінай мае мэтай і з ёй заўжды адзіны, — твор прысвячаю гэты. У. Д.

**Прысмакі**, наз., адз. прысмак. ◘ 1-Ласункі, салодкае; смачныя, асабліва прыгатаваныя стравы; рус. лакомства. У мяне няма прысмакаў, Ані мёду, ані маку, Ні цукерак, ні пячэння, Ні піражных, ні варэння. І. М. 2. Прыправа.

**Прыстанак**, наз., м. р., -нку. ◘ Месца, дзе можна прыстаць, прыпыніцца, прытуліцца; часовае жыллё; прыстанішча. Знайсці добры прыстанак, каб адпачыць з дарогі.

**Прыстасаванец**, наз., м. р., -нца. Неадабр. ◘ Чалавек, які прыстасоўваецца да абставін, утойваючы свае погляды, намеры; рус. Приспособленец. Бадай што ні да аднаго са сваіх адмоўных персанажаў В. Быкаў не быў такім непрымірымым, як да прыстасаванца і нягодніка Антона Галубіна з аповесці «Пайсці і не вярнуцца». □ А як ачысціць муць? Скажы, якімі фільтрамі? Жывуць і ў вус не дзьмуць Прыстасаванцы хітрыя! П. П.

**Прыстасаваць**, -сую, -суеш, -суе; зак. ◘ 1. Зрабіць прыгодным для выкарыстання, прымянення; прыладзіць з нейкай мэтай; рус. приспособить. Прыстасаваць пыласос для пабелкі сцен і столі. 2. Прымеркаваць да нечага ў часе; рус. приурочить. Прыстасаваць вяселле да святочнай даты.

**Прыстойны**, прым. ◘ 1. Які адпавядае прынятым нормам; добра выхаваны, сумленны, не здольны на дрэнныя ўчынкі; рус. приличный; порядочный. Прыстойны чалавек. 2. Дастаткова добры;

такі, якім належыць быць; дастатковы па велічыні, памерах. Прыстойны асабняк. Прыстойны касцюм. Прыстойны ганарар.

**Прыступка**, наз., ж. р., ДМ -пцы і прыступак, наз., м. р., -пка. ◘ 1. Ступенька, па якой можна ўзысці куды-небудзь; падножка для ўваходу ў аўтобус, тралейбус, трамвай і пад. Прыступка лесвіцы. 2. перан. Асобны этап у развіцці нечага, у нейкай справе. У «апошнія хвіліны» жыцця Сотнікава В. Быкаў узводзіць свайго героя на самую высокую прыступку Лесвіцы Жыцця — праяўленне Боскай любові да людзей і дараванне ім за тое, што не змаглі зрабіць так, як ён.

**Прысценак**, наз., м. р., -нка. ◘ Бакавая прыбудова. Кватаранты жылі ў прысценку.

**Прыткі**, прым. ◘ 1. Хуткі, імклівы; вёрткі, спрытны. Прыткая хада. Прыткія дзеці. 2. Які прагне хутчэй дасягнуць нечага, зрабіць нешта. Які ты прыткі! Не ўсё так хутка робіцца.

**Прытомнасць**, наз., ж. р. ◘ Стан, у якім чалавек здольны ўсведамляць, успрымаць навакольны свет (звычайна ў словазлучэннях: страціць прытомнасць, прыйсці да прытомнасці і пад.); рус. сознание. Страціць прытомнасць ад вострага болю.

**Прытулак**, м. р., -лку. ◘ Месца, дзе можна схавацца ад некага, нечага, адпачыць, жыць прыстойна, па-людску; рус. приют. Але куды? дзе твой прытулак? Нагатавалі табе булак? Каму ты міл, скажы, ў бядзе? Эх, не прыхілішся нідзе! К-с.

**Прытча**, наз., ж. р. ◘ Іншасказальнае апавяданне, у аснове якога сітуацыя выбару і павучальны вывад. Прытча пра блуднага сына. □ У прамове былі і цытаты з Бібліі, і цэлы псалом, і дарэчы прыведзеная прытча. М. Л.

**Прыхільны**, прым. ◘ І.Які мае схільнасць да нечага; рус. приверженный. Трапляюцца й прыхільныя да пляшкі. У. К. 2. Добразычлівы, спагадлівы, спачувальны; рус. доброжелательный. Тлумач ты ім усё дазвання: Адкуль, з чаго дзе што бярэцца, Вось гэта, тое як завецца І чаму так, чаму не гэтак? Прыхілен дзядзька быў да дзетак. К-с.

**Прыцемак**, наз., м. р., -мку. ◘ 1. Паўзмрок, паўцемра адразу пасля заходу сонца або перад усходам; на прыцемку; рус. сумерки. У ранішнім прыцемку... [дарога] нагадвала рэчышча. Мележ. 2. Паўзмрок, паўцемра ў дрэнна асветленым памяшканні, месцы; рус. полумрак, полутьма. Афішу прачытаць у прыцемку было цяжка.

**Прычыніцца**, прычынюся, прычынішся, прычыніцца; зак. ◘ Стаць прычынай нечага; пасадзейнічаць нечаму; рус. поспособствовать. Думка... [Рыгора] гэтакая, што гэта Мікалай прычыніўся да раз-

валу яго сям'і. К. Ч. Самаадданая праца Сапунова прычынілася да развіцця краязнаўства, беларусазнаўства ў нашай краіне.

**Прыязны**, прым. ◘ 1. Прасякнуты сяброўскімі адносінамі, даверам, дружалюбнасцю; рус. дружелюбный. Прыязная гутарка. Прыязныя адносіны. 2. Добразычлівы, спагадлівы. Прыязны чалавек.

**Прэзідэнт**, наз., м. р., -а. ◘ Выбарная асоба, якая стаіць на чале дзяржавы. Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка — першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

**Прэлюдыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Уступ да музычнага твора. 2. перан. Тое,што гаворыцца, робіцца перад нечым галоўным у якасці ўступу. Прэлюдыя размовы.

**Прэм'ера**, наз., ж. р. ◘ Першая пастаноўка новага спектакля. Прэм'ера «Паўлінкі» адбылася ў Вільні 27 студзеня 1913 года.

**Прэса**, наз., ж. р. ◘ Агульная назва перыядычнага друку; журналісты. Бел ару екая прэса.

**Прэстыж**, наз., м. р., -у. ◘ Аўтарытэт, перавага, якімі карыстаецца нехта, нешта. Прэстыж прафесіі. Прэстыж навукі.

**Прэтэнзія**, наз., ж. р. ◘ 1. Дамаганне, патрабаванне нечага; скарга. Прэтэнзія да прадпрыемства-вытворцы за няякасны тавар. 2. імкненне прыпісаць сабе якасці, якіх няма. Чалавек з прэтэнзіямі на інтэлігентнасць.

**Псаваць**, псую, псуёш, псуё; незак. ◘ Рабіць непрыгодным, непрыдатным; наносіць шкоду; рус. портить. Псаваць прадукты. □ Цукеркі дзеду — не, не любы, Няхай іх качкі: псуюць зубы, Дык лепш не знаць іх, ну іх к ляду, Гэту дзявочую прынаду! К-с. 2. Рабіць непрыемным, непрыгожым; пагаршаць. Псаваць адносіны. Псаваць выгляд. 3. Кепска ўплываць на некага; прывіваць дрэнныя схільнасці. Бязмежным патураннем бацькі псуюць сваіх дзяцей.

♦ Псаваць кроў — злаваць, раздражняць некага.

♦ Псаваць сабе кроў — злавацца, раздражняцца з прычыны нечага.

**Псалом**, наз., м. р., псалма. ◘ Кожны з хрысціянскіх хваласпеваў Богу, які мае таксама і маральна-павучальны змест. А пакі кончыць ён [дзядзька] маліцца, То можна ў Свержні апыніцца: Псалмоў адкоціць з паўдзесятка, Ды так выразна, ды так гладка, Што дзяк і той не ўсякі зможа, Як рэпу грыз, — даруй грэх, Божа! К-с.

**Псалтыр**, наз., м. р., -а. ◘ Адна з біблейскіх кніг Старога запавету, якая складаецца з псалмоў. Псалтыр — першая друкаваная кніга ўсходніх славян, выдадзеная Ф. Скарынам у 1517 годзе ў Празе.

**Псярня**, наз., ж. р. ◘ 1-Памяшканне для сабак; сабакарня; рус. псарня. 2. зб. Мноства сабак. І неўзабаве цэлая псярня акружыла воз. А. Я.

**Псяюха**, наз., аг. р., ДМ -юху, Т -ам, м. р.; ДМ -се, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Лаянкавае. Пра таго, хто выклікае агіду, нянавісць. «...Няхай адно кране за вуха: Як выйдзе ён [дарэктар] на двор, псяюха, Адзін без нас, як цёмна стане, Тады што скажаш нам, Іване?» К-с.

**Птах**, наз., м. р., -а. ◘ Вялікая птушка. Ды ўзяў туды Ной і птах і звяроў, Каб не звёўся іх род з зямлі. Ды не плыў к яму з мора сіняга Страцім-лебедзь — горды, моцны птах. М. Б.

**Птушаня і птушанё**, наз., н. р.; мн. -няты. ◘ Дзіцяня птушкі; рус. птенец. Птушыныя гнёзды даўно апусцелі — Расправілі крылы свае птушаняты. С. Г. // Пра маладога, нявопытнага чалавека. — Так нечакана ўсё, падумаць Мушу я, — Якуб павольна з крэсла ўзняўся, — Я жу навуцы птушаня, А вы заслужаны машыназнаўца. А. З.

**Публіцыстыка**, наз., ж. р., ДМ -тыцы. ◘ Грамадска-палітычная літаратура на тэмы сучаснага жыцця; жанр такой літаратуры. Лепшым узорам беларускай публіцыстыкі дарэвалюцыйнага часу з'яўляюцца пісьмы К. Каліноўскага, што друкаваліся ў яго газеце «Мужыцкая праўда». А. Макар.

**Пульхны**, прым. ◘ Мяккі, пухлы, пухкі; рус. пышный; пушистый. Пульхная ралля. А з пшанічнае мукі І выходзіць хлеб такі, Белы, нібы вата, Пульхны, наздраваты. С. Г.

**Пунсовы**, прым. ◘ Ярка-чырвоны; рус. алый. Пунсовыя ветразі.

**Пуня**, наз., ж. р. ◘ Вялікая халодная будыніна для захоўвання сена; адрына; рус. сенной сарай. Хлопцы начавалі покатам на сене ў вялікай пуні. С. Г.

**Пустадомак**, наз., м. р., -мка. ◘ Безгаспадарны, абыякавы, нядбайны чалавек. [Апанас:] — Жывеш, як пустадомак: ні калёс, ні атос, а кабылу чорт панёс. А. Ч.

**Пустазелле**, наз., н. р. ◘ Дзікарослая расліна, якая засмечвае пасевы культурных раслін; сукупнасць такіх раслін; рус. сорняк; сорняки. У нядбайнай гаспадыні пустазелле заглушае агарод.

**Пустка**, наз., ж. р., ДМ пустцы. ◘ Пусты, без расліннасці, закінуты ўчастак зямлі, спустошаная зямля; рус. пустырь. На былой пустцы пачалі будаўніцтва завода.

**Пустэльня**, наз., ж. р. ◘ Вялікая, звычайна бязводная прастора з беднай расліннасцю або без яе; пустыня. Мне так казалі — у пустэльні, бязводнай і спякотнай вельмі, сустрэліся два чалавекі, два гарацешныя калекі. У. Д.

**Пчаляр**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца развядзеннем пчол; рус. пчеловод. Выйшаў з хаты з дымаром Дзед, пчаляр заўзяты. К-с.

**Пырнік**, наз., м. р., -у. ◘ Вельмі шкоднае пустазелле; шматгадовая расліна сямейства злакавых; рус. пырей. [Антось:] — Зямля запушчана ў васпана; Пакрыта скураю дзірвана. Гпядзіце — пырніца якая!.. А дзе ўжо пырнік завядзецца, Змаганне трудна з ім даецца! К-с.

**Пырскі**, наз., адз. пырска, ж. р. ◘ Кроплі вадкасці, якія разлятаюцца ад удару, усплёску; дробныя часцінкі нечага, што разлятаюцца ў розныя бакі; рус. брызги. Распранаючыся з ходу, хлопцы ўсе палезлі ў воду. Паляцелі ў неба пырскі ў залатым праменні бліскаць. У. Д.

**Пытанне**, наз., н. р. ◘ 1. Зварот да некага, які патрабуе тлумачэння, адказу; рус. вопрос. -А вось і я пытанне маю! Чакайце ж, я вас запытаю, — Да старшых Костусь прамаўляе, І гнеў ён бацькаў адхіляе. К-с. 2. Задача, якая патрабуе вырашэння; праблема. Абмеркаваць надзённае пытанне.

**Пых**, наз., м. р., -у. ◘ Фанабэрыстасць, ганарыстасць; пыха; рус. спесь, надменность. Мароз — мастак і; пыху поўны, Узносіць слуп на неба роўны, Высокі, вогненны, крывавы! Той слуп — і страшны і цікавы — Гарыць злавесна, ўвесь чырвоны. К-с.

**Пышка**, наз., ж. р., ДМ пышцы. ◘ Круглая пульхная булачка. Працаўніку — мядовыя пышкі, а гультаю -яловыя шышкі. З нар.

**Пэндзаль**, наз., м. р., пэндзля. ◘ Пучок шчаціння, валасоў або шэрсці, прымацаваны да ручкі, які служыць для нанясення фарбы, клею на паверхню; рус. кисть. Макаць пэндзаль у фарбу.

**Пэцкаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Забруджаваць, вымазваць; рус. пачкать. Не пэцкаць рук. 2. Рабіць нешта няўмела, неахайна. Не малюе, а пэцкае.

**Пякарня**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства, дзе выпякаюць хлеб; хлебазавод.

**Пякельны**, прым. ◘ 1. Такі, як у пекле; рус. адский. І вось пачалося змаганне Дабра і прадвечнага зла, Світальнай пары і змяркання, Пякельнай начы і святла. М. Т. 2. Вельмі цяжкі, нясцерпны; пакутлівы. Пякельныя дні вайны. Пякельны боль. Пякельная спёка. Пякёльны разлад у душы.

**Пялёстак**, наз., м. р., -тка. ◘ Асобны лісток з вяночка кветкі; рус. лепесток. Пялёсткі пальмнеюць, зіхцяць і зырка свецяць. Не вечарэе — днее, здаецца, у белым свеце. У. Д.

**Пянька**, наз., ж. р., ДМ пяныцы. ◘ Канаплянае валакно. Звіць вяроўку з пянькі.

**П'янкі**; прым. ◘ Які прыводзіць да стану мройнасці, лутуценнасці; хмельны, ап'яняльны, п'янлівы; рус. пьянящий. У бары -п'янкая духмянасць і прахалода.

**П'янлівы**, прым. ◘ Тое, што і п'янкі. Дождж прайшоў — І водарам п'янлівым Пацягнула з маладога бору. Н. Г.

**Пярсцёнак**, наз., м. р., -нка. ◘ Абадок, звычайна з дарагога металу і з каштоўнымі камянямі, які носіцца на пальцы як упрыгожанне ці як сімвал шлюбу; рус. перстень, кольцо.

**Пярун**, наз., м. р., перуна. ◘ Аглушальны ўдар грому. І гром-пярун сталёвым бічам, Бы нейкі звер страшэнным лычам Арэ, трасе, калоціць хмары, Зямлю, надземныя абшары, ■ Бушуе доўга, абурліва, Над лесам коціцца гняўліва. К-с. Хто сябе хваліць, няхай таго пярун спаліць. Прык. (рус. Кто сам себя хвалит, в том пути не бывает).

**Пярэбары**, наз., адз. няма. ◘ Переезд, перасяленне. Пярэбары з Сухоншчыны ў Альбуць ... кладуць выразную мяжу ў маім жыцці. К-с.

**Пярэдадзень**, наз., м. р., пярэдадня. ◘ Час, які непасрэдна папярэднічае нейкай даце, з'яве, падзеі; рус. канун. У пярэдадзень Новага года.

**Пярэсты**, прым. ◘ З плямамі, палосамі рознага колеру; стракаты, рознакаляровы; рус. пёстрый. Пярэстая карова. Пярэстая тканіна.

**Пярэчыць**, -чу, -чыш, -чыць. ◘ 1. Не згаджацца, прыводзіць доказ супраць нечага; рус. возражать. Бацькі не пярэчылі сыну ў выбары нявесты. 2. Не адпавядаць нечаму; рус. противоречить. Прапанова пярэчыла асабістым планам.

**Пясняр**, наз., м. р., песняра. ◘ 1. Пра выдатнага народнага паэта, вершы якога перакладаюцца на музыку, становяцца песнямі. 2. перан. Той, хто апявае, праслаўляе Радзіму і народ, з'яўляецца яго летапісцам, выразнікам яго дум і спадзяванняў. Дзень добры, друг, Наш бацька Колас — Народа нашага пясняр! П. Пр-а.

**Пяцісценка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Вялікая хата, падзеленая на дзве часткі капітальнай сцяной. Хату, бачылі ўсе, [Васіль] стаўляў не абы-якую — пяцісценку, на два пакоі! Мележ.

**Пяцярня**, наз., ж. р. ◘ Далонь з-пальцамі; кісць.

**Пячайка**, наз., ж. р., ДМ -йцы. ◘ Адчуванне пякучага болю ў страваводзе; пякотка; рус. изжога. Маме зноў было нядобра, зноў балеў жывот і пякла пячайка... А. Вас.

**Пячкур**, наз., м. р., печкура. ◘ Невялікая рачная рыба сямейства карпавых; рус. пескарь. Печкуры капашыліся ў пяску.

**Пячонік**, наз., м. р., -а. ◘ Печаная бульбіна. Напячы ў прысаку пячонікаў.

**Пячора**, наз., ж. р. ◘ 1. Пустая прастора пад зямлёй, у горным масіве, утвораная дзеяннем падземных вод або вулканічных працэсаў, якая мае выхад на паверхню; грот; рус. пещера. Пячора першабытнага чалавека. 2. Нара, падземны ход. Такія глыбокія хады і пячоры выкапваюць у глінянай сцяне абрыву сваімі маленькімі дзюбкамі і лапкамі гэтыя мілыя, прывабныя ластаўкі. В. В-і.

**Пяшчотны**, прым. ◘ 1. Вельмі ласкавы, поўны замілавання, адданасці; які выяўляе ласку, любоў; рус. нежный. Пяшчотнае сэрца. Пяшчотная мама. 2. Мяккі, лагодны; вельмі прыемны. Пяшчотны голас. Пяшчотны ветрык.

# Р

**Рабаваць**, -бую, -буеш, -буе; незак. ◘ 1. Сілай, разбоем забіраць у некага нешта; рус. грабить. Акупанты рабавалі набытак у людзей. 2. Разараць падаткамі, паборамі.

**Рабак**, наз., м. р., -а. Разм. ◘ Гліст. [Бабулька.:] У яго рабакі. Дайце яму бярозавага дзёгцю. Ад сэрца і адыдзе. У. Д.

**Рабалепны**, прым. ◘ Якому ўласціва рабскае нізкапаклонства. Рабалепнае пакланенне перад моцнымі заслугоўвае пагарды.

**Рабаўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто разбоем, сілай адбірае нешта ў некага; грабежнік; рус. грабитель. Рабаўнікоў і катаў чакае справядлівая расплата.

**Рабацінне**, наз., н. р. Разм. ◘ 1. Вяснушкі. Твар, як канапляным насеннем, абсеяны рабацiннем. II Ямкі, шчарбіны на скуры пасля воспы; рус. конопатость. Пабіты рабацiннем твар. II Пра рабую афарбоўку нечага. На дне гнязда ляжала пяць блакітных яечак, абсыпаных рабацiннем. М. Кап. 2. Рабізна на паверхні вады; рус. рябь. Вецер пусціў па люстэрку вады рабацінне.

**Рабінзанада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Літаратурны твор пра падарожжа з прыгодамі; сюжэт такога твора. 2. Пра жыццё ў бязлюдным месцы з прыгодамі, падобнымі на тыя, якія здарыліся з Рабінзонам.

**Рабінзон**, наз., м. р., -а. ◘ Пра чалавека, вымушанага жыць у бязлюдным месцы і самому здабываць сабе ўсё неабходнае для жыцця. [Ад імя галоўнага героя рамана Д. Дэфо «Рабінзон Круза».]

Аповесць Я. Маўра «Палескія рабінзоны» — выдатны твор для дзяцей.

**Работа**, наз., ж. р., ДМ рабоце. ◘ 1. Ажыццяўленне якой-небудзь дзейнасці; праца. Скрыпяць калодзежы, вароты, Пайшла разгульвацца работа. К-с. Гультай за работу — мазоль за руку. Прык. (рус. Лентяй за дело — мозоль за тело). Сушыць не работа, а згрызота. Прык. 2. Справа, круг заняткаў, абавязкаў; пэўны род заняткаў. Работы — непачаты край. Разумовая работа. Фізічная работа. 3. Праца, служба ва ўстанове, на прадпрыемстве. Юнакі і дзяўчаты маюць магчымасць сумяшчаць работу на вытворчасці з вучобай ва універсітэце. 4. Прадукт працы, выраб, твор. Выстава работ майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Рабунак**, наз., м. р., -нку. ◘ Гвалтоўны захоп чужой маёмасці; грабеж. Рабунак, гвалт, пагромы і здзекі — праявы разладу, бяды і несправядлівасці ў грамадстве.

**Рабы**, прым. ◘ 1. Не адной масці, колеру; пярэсты; рус. пестрый. Рабая свіння. □ Або рабое. Прык. (рус. Два сапога пара). У зялёным гушчары, Дзе мох сцелецца рабы, Паспрачаліся грыбы. М. Т. 2. З рабаціннем; рус. веснушчатый. Нават на руках рабацінне, — от да чаго... [Лявон] быўрабы! А. Ч.

**Равеснік**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек аднаго ўзросту (або блізкі па ўзросце) з некім; аднагодак. Для фарміравання характеру падлетка неабходна асяроддзе равеснікаў.

**Рагатаць**, рагачу, рагочаш, рагоча; незак. ◘ Гучна, нястрымана смяяцца; рус. хохотать. А колькі здзеку ў гэтым смеху! Каму бяда, каму пацеха... І ўсё рагоча, усё рагоча, дапамагчы ніяк не хоча. Пасля ўраз лопнуў ён [Пузыр] са смеху і скончыў так у сю пацеху... У. Д.

**Рагуля**, наз., ж. р. Разм. ◘ 1. Рагуліна. Яблыні падперлі рагулямі, каб не абламаліся галіны. 2. Ласкавая назва каровы. На рог пастуха адгукнуліся рагулі і лысухі.

**Рада**, наз., ж. р., ДМ радзе. ◘ 1. Парада, павучанне, як нешта зрабіць; рус. совет. Але для ўсіх у дзеда Адказ і рада ёсць. М. Луж. 2. Сродак, паратунак, выйсце; рус. выход. Часам няма іншай рады, як змірыцца з абставінамі. 3. Сумеснае абмеркаванне нейкіх пытанняў; нарада; рус. совещание. Без ніякага адкладу кліча ён сыноў на раду. Пасадзіў усіх на лаве і пачаў казаць аб справе. У. Д. 4. Народны сход, а таксама савет прадстаўнікоў у розныя гістарычныя перыяды на Беларусі, Украіне, у Літве, Польшчы. Рада Вялікага княства Літоўскага вырашала самыя складаныя і важныя для дзяржавы пытанні.

**Радавод**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Гісторыя роду, генеалогія; радаслоўе; рус. родословная. Радавод літоўскіх князёў. 2. Пералік пакаленняў аднаго роду, які ўтрымлівае паходжанне і ступень роднасці. Кожны самавіты чалавек вывучае і вед ае свой радавод — такая галоўная думка аповесці У. Арлова «Мой радавод да пятага калена».

**Радаўніца**, наз., ж. р. ◘ Дзень на першым тыдні пасля Вялікадня, калі памінаюць нябожчыкаў; дзень ушанавання памяці памерлых. На Радаўніцу моляцца ў царкве, наведваюць магілы родных, успамінаюць сваіх продкаў.

**Радзіма**, наз., ж. р. ◘ 1. Краіна, якая належыць пэўнаму народу; бацькаўшчына, айчына; рус. родина. Наша Радзіма — Беларусь. □ Ніколі не выракайся роднай мовы, тым болей жывучы на Радзіме. Заўсёды вусна і пісьмова ўжывай яе. М. Е. // Месца нараджэння каго-небудзь. «З слаўнага горада Полацка», — менавіта так Ф. Скарына, падпісваючы свае кнігі, неаднаразова сведчыў пра свае вытокі, сваю радзіму, якая была для яго прошчай. 2. Месца ўзнікнення, паходжання чаго-небудзь. Італія — радзіма Рэнесансу.

**Радзімічы**, наз., адз. радзіміч, м. р., -а. ◘ Групы ўсходнеславянскіх плямён, якія жылі ў першым тысячагоддзі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па цячэнні ракі Сож і яе прытокаў.

**Радзімка**, наз., ж. р., ДМ -мцы. ◘ Прыродная плямка на скуры чалавека; рус. родинка.

**Радзіны**, наз., адз. няма. ◘ Нараджэнне дзіцяці, а таксама сямейнае святкаванне з нагоды нараджэння дзіцяці. Спраўляць радзіны. Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Прык. (рус. Смерть за воротами не ждет).

**Радзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; незак. ◘ Даваць параду; прапаноўваць зрабіць нешта пэўным чынам; рус. советовать. Народная мудрасць гаворыць, што радзіць трэба ў тым выпадку, калі пра гэта просяць.

**Радзюжка**, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ Тое, што і дзяруга (у 2 знач.)] дзяружка. Завуць радзюжкамі дзяружкі У нас здавён. А. Л.

**Радовішча**, наз., н. р. ◘ Прыроднае скопішча карысных выкапняў; залежы, паклады. Радовішча калійнай солі пад Салігорскам нацбуйнейшае ў Еўропе.

**Радок**, наз., м. р., радка. ◘ 1. Памянш. да рад у значэнні: сукупнасць прадметаў або асоб, размешчаных адзін каля аднаго ў адну лінію. Роўныя радкі маладых груш і яблынь. 2. Частка тэксту або асобныя словы, літары, знакі, напісаныя або надрукаваныя ў адну

лінію; рус. строка. Радок верша. 3. Разм. Прабор у валасах, рад. Валасы, расчэсаныя на радок.

♦ Радок у радок — літаральна, даслоўна (пераказаць, спісаць і лад.).

♦ Чытаць паміж радкоў — здагадвацца пра схаваны сэнс напісанага.

**Радоўка**, наз., ж. р., ДМ радоўцы. Разм. ◘ Чыя-небудзь чарга рабіць нешта; рус. очередь. Двое сыноў і маці пасвілі ў полі вясковы статак — адбывалі радоўку. М. Т.

**Радыё**, наз., нескл. ◘ 1. Спосаб перадачы і прыёму без правадоў электрамагнітных хваль для наладжвання сувязі, вяшчання, тэлебачання і пад. Вынаходца радыё Папоў. 2. Тое, што перадаецца пры дапамозе радыёхваль; радыёперадача. Слухаць радыё. 3. Разм. Апарат для прыёму радыёвяшчальных перадач; рэпрадуктар. Уключыць радыё. 4. Ужываецца замест некаторых складаных слоў, першай састаўной часткай якіх з'яўляецца радыё... (радыёвяшчанне, радыёкропка, радыёсувязь, радыётэхніка і лад.). Працаваць на радыё. Разбірацца ўрадыё.

**Радыятар**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прыстасаванне для ахаладжэння вады або масла, паветра ў маторах аўтамабіляў, самалётаў і пад. Заліць ваду ў радыятар. 2. Награвальны прыбор цэнтральнага ацяплення, які ўяўляе сабой сістэму труб з гарачай вадой або парай унутры.

**Радыяцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Выпрамяненне электрамагнітных хваль. Сонечная радыяцыя. Радыяцыя зямлі. 2. Электрамагнітныя хвалі, выпрамененыя якой-небудзь крыніцай. Доза радыяцыі. Першай ахвярай радыяцыі стала даследчыца атама Марыя Складоўская-Кюры: нябачны агонь апёк ёй рукі.

**Разамлелы**, прым. ◘ Расслаблены, вялы; рус. разомлевший. Разамлелае цела.

**Разбараніць**, -раню, -роніш, -роніць; зак. ◘ Разняць, развесці тых, хто ўступіў у бойку. Развар'яцелых ворагаўудалося разбараніць.

**Разблытаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Расплесці, разматаць нешта зблытанае; рус. распутать. Разблытаць вуды. 2. перан. Зрабіць ясным, зразумелым нешта; дабрацца да сутнасці нечага. Разблытаць складаную справу змог вопытны дэтэктыў.

**Разборлівы**, прым. ◘ І.Такі, які лёгка разабраць, зразумець; рус. разборчивый. Разборлівы почырк. 2. Патрабавальны, строгі ў выбары або ацэнцы некага, нечага. Чалавек, разборлівы ў выбары сяброў, выклікае павагу.

**Разбурыць**, разбуру, разбурыш, разбурыць; зак. ◘ 1. Разбіць, паламаць, разваліць, ператварыць у руіны; рус. разрушить. Фашысты разбурылі нашы гарады і вёскі. // перан. Давесці да поўнага

развалу. Нядбайнасць і нязгода разбураюць, а праца і згода ствараюць. II перан. Парушыць, прымусіць распасціся. Разбурыць сям'ю праз п'янства. 2. перан. Загубіць, знішчыць, расстроіць. Ідэалы і веру ў дабро лёгка разбурыць несправядлівасцю.

**Разбэсціць**, разбэшчу, разбэсціш, разбэсціць; зак. ◘ 1. Прывучыць да дрэнных звычак, маральна распусціць; рус. развратить. У аповесцях В. Быкава «Аблава», «Знак бяды» пераканальна паказана, як бальшавіцкая ўлада разбэсціла абібокаў, злодзеяў і зайздроснікаў, а самых працавітых і гаспадарлівых вынішчыла, астатніх запалохала. 2. Зрабіць непаслухмяным; разбалаваць. Разбэсціць дзяцей вельмі лёгка, намнога складаней і цяжэй прывучыць да парадку і дысцыпліны.

**Развага**, наз., ж. р., ДМ -азе. ◘ 1. Думка, меркаванне, вывад, якія з'явіліся ў выніку роздуму, разважання; рус. рассуждение. Цікавыя развагі пра людзей, іх характары, тэмпераменты. 2. Цвярозы розум, разважлівасць, абдуманасць; рус. рассудительность. Развага ўзяла верх над пачуццямі. □ Па часе будзе і развага, Калі ў лоб стукне табе шляга! К-с.

**Разважаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Мысліць, рабіць вывады; меркаваць, лічыць; рус. размышлять. Здольнасць разважаць сведчыць пра высокі ўзровень разумовага развіцця. 2. Выказваць свае думкі, меркаванні, гаварыць пра нешта; абмяркоўваць нешта, весці гутарку; рус. рассуждать. Разважаць пра будучы ўраджай. Правільна разважаць.

**Разважлівы**, прым. ◘ Такі, які любіць падумаць, перш чым нешта зрабіць; дзейнічае правільна і разумна, робіць падумаўшы; рус. рассудительный, благоразумный. Разважліваму чалавеку цяжэй зрабіць выбар, затое яму лягчэй зрабіць правільны выбар.

**Развіднець**, -ее, безас., зак. ◘ Пра наступление віднаты, дзённага святла; рус. рассвести. Зоркі на небе зніклі, як толькі крыху развіднела.

**Развітацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ І.Абмяняцца развітальнымі словамі, пацісьнуць адзін аднаму рукі і пад. пры расставанні; рус. попрощаться. 2. перан. Расстацца з нечым, пакінуць нешта надоўга; вызваліцца ад нечага назаўсёды; рус. распроститься. Карагод яны [мышы] вадзілі, у званок яны званілі і спявалі дружным хорам: «Развітаемся мы з горам!» У. Д.

**Разводдзе**, наз., н. р. ◘ Веснавая паводка; паводка ад дажджоў; рус. половодье.

**Разгарнуць**, разгарну, разгорнеш, разгорне; зак. ◘ 1. Раскрыць штонебудзь складзенае, закрытае. Разгарнуць класны журнал. Разгар-

нуць кнігу. II перан. Зрабіць даступным зроку, як бы разаслаць перад вачамі. А Дняпро з лясоў дрымучых Праз мой родны край плыве. Увабраўшы нашы рэкі, Разгарнуў блакітны плёс. А. Б. 2. Расправіць, расцягнуць нешта ў даўжыню або шырыню; рус. развернуть.

Столькі выткала маці кроснаў,
Што калі разгарнуць іх на травах росных,
То яны б увесь свет абнялі. А. Ас.

3. Вызваліць ад абгорткі; зняць тое, чым было нешта загорнута, закрыта; рус. открыть. Разгарнуць пакунак. 4. Выпрастаць, расправіць, развёўшы ў процілеглыя бакі; рус. распрямить; раскрыть. Разгарнуць плечы.

□ Дзень добры, новая мясціна! Спаткай ты нас, як маці сына
Па часе доўгае разлукі, І разгарні прыветна рукі... К-с.

5. Ажыццявіць у шырокіх маштабах. Разгарнуць будаўніцтва.

**Разгубіцца**, разгублюся, разгубішся, разгубіцца; зак. ◘ Страціць на нейкі час рашучасць, здольнасць разумець, дзейнічаць; збянтэжыцца; рус. растеряться. Разгубіцца ад страху і хвалявання. Разжывацца, -аюся, -аешся, -аецца. незак. да разжыцца. ◘ Нажывацца, багацець, станавіцца матэрыяльна забяспечаным; раздабываць штосьці. [Ляснічы:] — Пакуль я жыў, і ты не згінеш, Свае сям'і, нябось, не кінеш — Куды ты дзенешся? трымайся, Жыві і з Богам разжывайся. К-с.

**Раззброіць**, -рою, -ро́ш, -роіць; зак. ◘ 1. Адабраць у некага зброю; пазбавіць некага сродкаў узбраення; рус. разоружить. Партызаны раззброілі нямецкі канвой, і палонныя разбегліся па лясах.

2. перан. Пазбавіць магчымасці змагацца, пярэчыць і пад.; уціхамірыць; абяззброіць; рус. обезоружить. Раззброіць нядобразычліўца шчырасцю і дабратой.

**Разлад**, наз., м. р., -у. ◘ Адсутнасць гармоніі, згоднасці; нязгода, нелады, раздор. Душэўны разлад.

□ Разлад. Развод. Сіроцтва ўсё часцей. І ходзяць беспрытульна па дарозе Мільёны нашых страчаных дзяцей. П. П.

**Разлік**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Падлік пэўных дадзёных у нечым; рус. расчёт. Гаспадарчы разлік. Разлік кошту будаўніцтва. 2. Плата за работу, паслугі, па рахунках і пад. Узяць разлік на заводзе.

3. Намер, меркаванне; спадзяванне на нешта. Разлік на давер'е і шчырасць у выхаванні дзяцей — эфектыўны прыём. 4. Выгада, карысць, карыслівыя намеры.

А сам я мяркую: разліку няма,
каб праца мая прападала дарма. А. В-і.

5. Беражлівасць, ашчаднасць. Ты любіш ціха, добра жыць — З разлікам і выгодай. П. Б.

6. Група байцоў, якая абслугоўвае гармату, кулямёт і пад. Артылерыйскі разлік рыхтаваўся да бою.

**Разлог**, наз., м. р., -у. ◘ Шырокая, вольная прастора; абшар; раздолле. На прастор, на шырокі разлог Выхадзі, мой народ, грамадою! К-с.

**Разлога**, наз., ж. р., ДМ разлозе. ◘ Тое, што і разлог. Адным крылом звярынец гэты Сюды выходзіў на дарогу. Займаў ён цэлую разлогу: І лес, і луг, і часць крыніцы. К-с.

**Размаіты**, прым. ◘ Якому ўласцівы розныя прыкметы; неаднолькавы, разнастайны. У фантастычных апавяданнях Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня...» паказаны размаітыя праявы зла: несправядлівасць, зайздрасць, хцівасць, помслівасць...

**Размежаваць**, -мяжую, -мяжуеш, -мяжуе; зак. ◘ 1. Раздзяліць, правёўшы межы. Размежаваць палеткі. 2. перан. Аддзяліць, адмежаваць адно ад другога; рус. разграничить. Здольнасць размежаваць дабро і зло фарміруецца ў дзяцінстве.

**Размеркаваць**, -мяркую, -мяркуеш, -мяркуе; зак. ◘ 1. Раздзяліць, падзяліць паміж некім, прызначыўшы кожнаму пэўную частку; вызначыць месцы для кожнага, размясціць; рус. распределить. Размеркаваць запасы на тыдзень. Размеркаваць студэнтаў-выпускнікоў на працу. 2. Размясціць нешта ў пэўнай паслядоўнасці. Размеркаваць дзень так, каб зрабіць запланаванае. 3. Мяркуючы, падлічыць, вырашыць. Ідуць у лес. Антось зарання Размеркаваў усё дазвання: Адкуль, якую зоймуць лаву, І як вясці самую справу, Куды і як зайцоў зганяць, І дзе ён будзе сам стаяць. К-с.

**Размова**, наз., ж. р. ◘ 1. Слоўны абмен звесткамі, думкамі; гутарка; рус. разговор. Ідзе-цячэ ў хлапцоў размова — І Яська зрэдку ўставіць слова, Пра сёе-тое распытае — Размова ладная, жывая! К-с. // толькі мн. (размовы). Чуткі, пагалоскі. Размовы — не перуны, двор не запаляць. З нар. 2. Разм. Мова, гаворка, вымаўленне. Па размове чалавека можна вызначыць, з якой ён мясцовасці.

**Размоўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Дапаможнік для вывучэння замежнай мовы, які змяшчае ўзоры гутаркі на розныя бытавыя тэмы; рус. разговорник. Французскі размоўнік.

**Разнастайны**, прым. ◘ Неаднолькавы, з іншымі прыкметамі; рус. разнообразный. Разнастайныя гукі неўгамоннага жыцця. □ Жыве разнастайны ў мястэчку народ: Рамеснікі, цеслі, сяляне. П. Г.

**Разняволіць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Выбавіць з няволі, прыгнёту, прымусу; рус. раскрепостить. К. Каліноўскі паставіў перад паўстанцамі мэту: разняволіць звяяваны народ.

**Разора**, наз., ж. р. ◘ Ч.Доўгая канаўка, паглыбленне, зробленае плугам або лапатай у час ворыва ці для сцёку вады; рус. борозда. Навучыцца праганяць першую разору. Ісці разораю, каб не паламаць капусту. 2. Прадаўгаватае паглыбленне ў нечым. ...Абодва берагі каторай [крынічкі] Лазняк, ракітнік абступалі; Бруіліся ў цяньку іх хвалі І ў луг чуць значнаю разорай Ішлі спакойна між чаротаў... К-с.

**Разумець**, -ею, -ееш, -ее; незак. ◘ 1-Спасцігаць розумам сэнс, змест і пад.; усведамляць; асэнсоўваць; рус. понимать. Усё разумець павінны самі! — І бацька ўсіх абвёў вачамі, 2. Разбірацца ў думках, паводзінах, учынках, намерах некага. Разумець людзей — вялікі дар.

Кіўнуў выразна на аборку. На тым і кончылі гаворку. К-с.

□ Дзяцей пісьменнік той не меў і іх не разумеў ніколі.

Таму ў творах не было ніводнай кропелькі жывога. У. К.

3. Быць дасведчаным, кампетэнтным у нечым; разбірацца ў нечым і мець свой пункт гледжання, сваё меркаванне. Разумець музыку. Любіць і разумець літаратуру вучыць многае, але найперш — добры настаўнік у школе. □ Я так каханне разумею: Калі кахаеш сапраўды, ідзеш да любай у завею, А глянеш -расцвітуць сады. П. Пр.

**Разумовы**, прым. ◘ Звязаны з дзейнасцю розуму, свядомасцю; які патрабуе напружанай працы розуму, думкі; рус. умственный. Разумовыя здольнасці. Разумовая праца.

**Разынкі**, наз., адз. разынка, ж. р., ДМ -нцы. ◘ Сушаныя ягады вінаграду; рус. изюм. На Вялікдзень пякуць пірагі з разынкамі.

**Разьбяр**, наз., м. р., -а. ◘ Майстар мастацкай разьбы па дрэве, косці і інш.; рус. резчик. Да крыжа была прыбіта фігурка Хрыста, зробленая з дрэва невядомым разьбяром. К-с.

**Раз'юшаны**. 1. дзеепрым. ад раз'юшыць. ◘ 2. у знач. прым. Які ашалеў ад злосці, раз'ятраны, разлютаваны; шалёны, неўтаймаваны; рус. рассвирепелый; разъярённый. Раз'юшаны звер. Раз'юшаны вецер.

**Раз'яднаць**, -аю, -аеш, -ае. ◘ 1. Аддзяліць адзін ад другога; рус. разъединить. Раз'яднаць правады. 2. перан. Зрабіць далёкімі, чужымі адзін аднаму. Раз'яднала непаразуменне. Вайна раз'яднала і абяздоліла сотні тысяч людзей.

**Раіць**, раю, раіш, раіць. ◘ Даваць некаму параду; радзіць; рус. советовать. [Антось:] — Я так бы раіў: выбраць час І аглядзець усё зараз, А там сама пакажа справа, Ці варта шумуўся аблава... К-с.

**Раіцца**, раюся, раішся, раіцца. ◘ Прасіць парады ў некага; абменьвацца думкамі; радзіцца; рус. советоваться. Раіцца з настаўнікам. Раіцца, раіцца. ◘ І.Утвараць новы рой (пра пчол, вое, чмялёў). Пчаляру найбольш работы, калі пачынаюць раіцца пчолы. □ [Міхал:] — ...Няхай раяцца добра пчолы, І самі будзем мы вясёлы; За год дай Божа дачакаць Здаровым новы год спаткаць. К-с.

2. Лятаць, збірацца роем. Мухі раіліся каля гнойных вачэй каня.

3. Паяўляцца адразу ў вялікай колькасці (пра думкі, пачуцці, сны). Розныя думкіраіліся ў галаве старога. М. Л.

**Рай**, наз., м. р., -ю. ◘ 1. Паводле рэлігійных уяўленняў — месца, дзе знаходзяць шчасце душы праведнікаў пасля іх смерці. Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць. Прык. Добрая жонка — дома рай, благая — хоць ты цягу дай. Прык. (рус. Хорошая жена — веселье, а худая — злое зелье). Ды мала што: ніхто ніколі Не бычыў светлай райскай долі, Але той рай мы так малюем, Што асалоды яго чуем. К-с. 2. перан. Пра месца, дзе можна шчасліва і прывольна жыць; пра добрыя жыццёвыя ўмовы наогул. Заблуд і прымхаў вымеў смецце, Мне смешна чуць пра нейчы рай: Для ўсіх і кожнага — на свеце Найпрыгажэйшы родны край! Н. Г. .З мілым па душы — рай і ў шалашы. Прык. (рус. С милым рай и в шалаше).

**Рака**, наз., ж. р., ДМ рацы. ◘ Грабніца, у якой захоўваюцца мошчы святых. У1910 г. рака з мошчамі Ефрасінні Полацкай была перанесена з Кіева-Пячэрскай лаўры ў Полацк.

**Ракіта**, наз., ж. р., ДМ ракіце. ◘ Дрэва або вялікі куст сямейства вярбовых. Кусты чырвоных ракіт.

**Ракітнік**, наз., м. р., -у. ◘ Зараснік ракіты, кусты ракіты. Цякла тут з лесу невялічка Абодва берагі каторай Травой заросшая крынічка, Лазняк, ракітнік абступалі... К-с.

**Ракурс**, наз., м. р., -у. ◘ 1.У жывапісе, кіно: передача фігуры або прадмета ў перспектыве з ілюзорным скарачэннем аддаленых ад пярэдняга плана частак. Смелыя пошукі незвычайных ракурсаў. 2. Пункт погляду, з якога нешта разглядаецца; аспект. Батальны і псіхалагічны ракурсы адлюстравання вайны. Падаць праблему ў розных ракурсах.

**Ралля**, наз., ж. р. ◘ Узаранае поле; рус. пашня. Запахла поле зноў раллёю; Гоакі, вароны чарадою За свежай ходзяць баразною. К-с. Не ралля, а пух узняты! Хутка ў ім растуць зярняты. У. Д.

**Рамазан**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Дзевяты месяц мусульманскага месячнага календара. 2. Пост у мусульман у гэтую пару.

**Раман**, наз., м. р., -а. ◘ Літаратурна-мастацкі твор, звычайна ў прозе, са складаным і развітым сюжэтам. Гістарычны раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

**Раманс**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Невялікі вакальны твор для голасу з інструментальным суправаджэннем; невялікая музычная п'еса меладычнага характару. 2. Невялікі лірычны верш, часта пакладзены на музыку. Узорам беларускага раманса з'яўляецца «Зорка Венера» М. Багдановіча. А. Макар.

**Рамантызм**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Напрамак у літаратуры і мастацтве канца XVIII — першай паловы XIX ст., які ўзнік у процівагу класіцызму і ў барацьбе з ім. Прынцыпы рамантызму вымагаюць ад пісьменніка звароту да гісторыі, фальклору, увагі да ўнутранага свету герояў — асобаў незвычайных, моцных, якія выпрабоўваюцца незвычайнымі, экстрэмальнымі сітуацыямі выбару. Паводле рамантызму, пісьменнік не столькі адлюстроўвае рэчаіснасць, колькі выяўляе свае пачуцці і адносіны да яе. 2. Творчы метад у літаратуры і мастацтве, прасякнуты аптымізмам і імкненнем у яркіх вобразах паказаць высокае прызначэнне чалавека. Узорам рамантызму ў беларускай літаратуры з'яўляюцца паэмы Янкі Купалы «Бандароўна», «Магіла льва», «Курган» і інш.

**Рамантык**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прыхільнік і паслядоўнік рамантызму (у 1 і 2 знач.). Пісьменнік-рамантык Ян Баршчэўскі. 2. Той, хто схільны да летуценнасці, да ідэалізацыі рэчаіснасці. Рамантыкі з аптымізмам глядзяць у будучыню.

**Раматус**, наз., м. р., -у. Разм. ◘ Рэўматызм. Хворы на раматус.

**Рамеснік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек, які валодае якім-небудзь рамяством і займаецца саматужным вырабам чаго-небудзь; рус. ремесленник. 2. Той, хто працуе без творчай думкі, шаблонна.

**Рамізнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Устар. Фурман наёмнага экіпажа. 2. Экіпаж з фурманам. [Зося:] — Два агенты гестапа везлі мяне на рамізніку па горадзе. І. Ш.

**Рамонак**, наз., м. р., -нку і -нка. ◘ 1 .-нку. Травяністая расліна з адзіночнымі кветкамі, у якіх пялёсткі белыя, а сярэдзіна жоўтая; рус. ромашка. Зараснік пахкага рамонку. 2. -нка. Кветка гэтай расліны.

**Рамяство**, наз., н. р., мн. рамёствы. ◘ 1. Вытворчасць якіх-небудзь вырабаў ручным саматужным спосабам з дапамогаю простых прылад; рус. ремесло. Ганчарнае рамяство. 2. Прафесія, занятак. А яна тым сватам запытанне дае: - А якім рамяством уладае ўладар? Ён жа нават не здольны хадзіць ля кашар. За таго выйду замуж; хто ведае сам, А не толькі з чужога жыве рамяства. У. Д.

**Ранак**, наз., м. р., ранку. ◘ Пачатак дня; раніца; рус. утро. З самага ранку. Ад ранку да вечара. Жнівеньскі ранак.

**Ранет**, наз., м. р., -у. ◘ Сорт каштоўнай яблыні, а таксама плод гэтай яблыні, кіславаты на смак. Стомлены вяртацца будзеш летам Па дарозе той, — Асвяжыш душу сваю ранетам, Бэрай залатой. П. П.

**Раніцай і раніцой**, прысл. ◘ У ранішні час, ранішняй парою; у пачатку дня; ранкам; рус. утром. Радасць жыцця асабліва адчувальная раніцай.

**Рант**, наз., м. р., -а. ◘ Палоска скуры па краях абутку, да якога прышываюцца адначасова падэшвы і верх абутку. Боцікі з рантамі.

**Ранцье**, наз., м. р., нескл. ◘ Той, хто жыве на працэнты ад рэнты, г.зн. ад даходу, не звязанага з прадпрымальніцкай дзейнасцю, а з аддадзенага ў пазыку капіталу, з даходу ад акцый, аблігацый і пад.

**Раптам**, прысл. ◘ Знянацку, нечакана, неспадзявана; рус. вдруг. Раптам успомніў. Раптам заўважыў.

**Раптоўна**, прысл. ◘ Раптам, нечакана; рус. внезапно. Яна і рот раскрыла, каб дар схапіць цудоўны, ды ў рот нячыстай сілы зваліўся нож раптоўна. У. Д.

**Рарытэт**, наз., м. р., -а. ◘ Рэдкая рэч, якая ўяўляе сабой музейную каштоўнасць; рэдкасць. Скарынінскія выданні — рарытэты, якія ашчадна захоўваюцца ў некаторых бібліятэках свету.

**Раса**[1], наз., ж. р. ◘ Група людзей, якая склалася гістарычна і аб'ядноўваецца агульнасцю паходжання і спадчынных фізічных прымет (колерам скуры, валасоў, формай галавы, разрэзам вачэй, паставай і інш.). Белая, чорная іжоўтая расы.

**Раса**[2], наз., ж. р. ◘ Верхняе доўгае, з шырокімі рукавамі адзенне праваслаўных святароў; рус. риза.

**Расізм**, наз., м. р., -у. ◘ Рэакцыйная фашысцкая тэорыя аб няраўнацэннасці чалавечых рас, аб тым, што адна раса павінна панаваць над іншымі. Прапаганда расізму ва ўсіх краінах забаронена законам.

**Раскашаваць**, -шую, -шуеш, -шуе; незак. ◘ 1-Жыць у раскошы, мець усяго ў дастатку; дазваляць сабе нешта лішняе, звыш патрэбы; рус. роскошествовать, роскошничать. 2. Расці буйна, на прыволлі. Раскашавала мокрая лаза. У. Кар.

**Расквеціць**, -квечу, -квеціш, -квеціць і расквяціць, -квячу, -квяціш, -квяціцы, зак. ◘ Убраць нешта ў яркія колеры, зрабіць рознакаляровым; рус. расцветить. Ракеты расквяцілі неба гіганцкімі букетамі.

**Расквітацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ 1. Расплаціцца за нешта, аддаць доўг некаму; рус. рассчитаться. Расквітацца за дапамогу. 2. Адпомсціць за ўчыненае зло, крыўду; рус. свести счеты. 3. Расстацца з некім, нечым назаўсёды, лакінуць, вызваліцца, пазбавіцца ад некага, нечага; рус. распроститься. Назаўсёды расквітацца з жахлівым і ганебным мінулым і пачаць новае жыццё.

**Расклад**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Графік заняткаў ці працы (з указанием часу, месца і паслядоўнасці выканання); рус. расписание. Расклад урокаў. 2. Размеркаванне нечага. Расклад работы ва ўстанове.

**Раскладанка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Лёгкі раскпадны ложак; раскладушка. Спаць на раскладанцы.

**Раскоша і роскаш**, наз., ж. р. ◘ 1. Празмерны дастатак, багацце; празмернасць у выгодах, камфорт; рус. роскошь.

І для каго ўся роскаш гэта?
Антосю стала чагось смутна.
Ці гэта роскаш так атрутна,
Што голас зайздрасці ўзбудзіла
І свой адбітак палажыла? К-с.

2. Пышнасць, велічнае хараство прыроды.

**Расліна**, наз., ж. р. ◘ Арганізм, які, атрымліваючы пажыўныя неарганічныя рэчывы з глебы і паветра, ператварае іх у арганічныя; з'яўляецца адной з найбольш пашыраных формаў існавання жывой матэрыі; рус. растение. Ёсць расліна ў нас такая, як ніякая другая: яна у стэпе ўзрастае, звонку выгляд шара мае... У. Д.

**Распарадчык**, наз., м. р., -а. ◘ Асоба, якая адказвае за даручаную справу і непасрэдна кіруе ёй; рус. распорядитель. Распарадчык суда.

**Распасцерці**, -стру, -стрэш, -стрэ, -стрэм, -страце, -струць; зак. ◘ 1. Шырока раскінуць, развесці (рукі, крылы). 2. перан. Пашырыць сферу дзеяння; ахапіць некага, нешта ўплывам; рус. Распростереть. Вялікае княства Літоўскае распасцерла сваю ўладу ад Балтыі да Чорнага мора.

**Распаўсюдзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ 1. Пашырыць дзейнасць і ўплыў на некага, нешта; рус. распространить. Распаўсюдзіць свае ідэі. 2. Зрабіць нешта вядомым, даступным многім. Распаўсюдзіць плёткі. 3. Раздаць, прадаць многім. Распаўсюдзіць латарэйныя білеты.

**Распяразаць**, -перажу, -пяражаш, -пяража; зак. ◘ Зняць папругу, рэмень, развязаць пояс і пад.; рус. распоясать. Распяразаць фартух.

**Расплюшчыць**[1], -шчу, -шчыш, -шчыць; зак. ◘ Раскрыць, адкрыць вочы; разамкнуць павекі.

**Расплюшчыць**[2], -шчу, -шчыш, -шчыць; зак. ◘ 1. Моцна націснуўшы, ударыўшы нечым, зрабіць пляскатым. 2. Раструшчыць сваім цяжарам, ударам; рус. разбить. Была пагроза, што шлюпку расплюшчыць аб скалу.

**Распрануць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ Зняць з сябе ці некага верхняе адзенне; рус. раздеть. Распрануць пінжак. Распрануць дзяцей.

**Распуснік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Той, хто паводзіць сябе амаральна, разбэшчана; рус. развратник. 2. Разм. Свавольнік.

**Распяцце**, наз., н. р. ◘ Крыж з фігурай распятага Ісуса Хрыста, а таксама фігура распятага Ісуса Хрыста; рус. распятие.

**Расцугляны**. 1. Дзеепрым. ад расцугляць. ◘ 2. у знач. прым. Без цугляў, вызвалены ад цугляў; рус. разнузданный. Расцугляны конь. 3. перан. Разбэшчаны, распушчаны, нічым не стрыманы. Яму давялося быць сведкам самага расцуглянага хабарніцтва, якое тварылася вакол. К-с.

**Расцугляць**, -яю, -яеш, -яе; зак. ◘ Выняць з рота каня цуглі, адшчапіўшы ад аброці; рус. разнуздать.

**Расчараванне**, наз., н. р. ◘ Пачуццё, стан незадаволенасці ад няздзейсненых спадзяванняў, надзей, мараў; страта веры ў некага, нешта; рус. разочарование. Шчаслівы той, хто не зведаў расчаравання ў сябрах, блізкіх людзях.

**Расчуліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ Выклікаць пачуццё ўсхваляванасці, замілавання, жалю; рус. взволновать, тронуть, умилить. Клопаты сына расчулілі маці.

**Расчуліцца**, -люся, -лішся, -ліцца; зак. ◘ Паддацца пачуццю хвалявання, замілавання, жалю; рус. расчувствоваться. Расчуліцца да слёз ад нечаканай ласкі і дабрыні.

**Расчыніць**, -ню, -ніш, -ніць; зак. ◘ Адчыніць нешта зачыненае; расхінуць (палавінкі, дзверцы і пад.); рус. раскрыть, растворить, распахнуть. Расчыніць вокны і дзверы.

**Ратны**, прым. Уст. і высок. ◘ Ваенны, баявы. Мы так яе [магілу] і называем — братняй. Гаворыць звычай, даўні і святы, што паўшыя на полі ратным і разам пахаваныя — браты. А. В.

**Ратонда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Круглая пабудова (будынак, павільён, зала), звычайна акружаная калонамі і ўпрыгожаная купалам. Альтанка ў выглядзе ратонды. 2. Верхняе жаночае цёплае адзенне ў выглядзе доўгай накідкі без рукавоў, распаўсюджанае ў канцы XIX — пачатку XX ст. Футравая ратонда.

**Ратунак**, наз., м.р., -нку. ◘ І.Матымасць, сродак пазбавіцца ад небяспекі, пагрозы, гібелі, непрыемнага; рус. спасение. І няма такой злыбеды на свеце, на якую б не ўсміхнуўся неспадзеўны, нечаканы ратунак. М. Гар. 2. Дапамога, абарона, выручка. Пузыр сяброўству даў прысягу, Цяпер ён зрокся гэтых думак, казаў: «За вас касцямі лягу». стаіць на беразе, рагоча, Пузыр павінен даць ратунак. дапамагчы сябрам не хоча. У. Д.

**Ратуша**, наз., ж. р. ◘ Орган самакіравання ў гарадах феадальнай Еўропы, а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся. У 2003 годзе ў Мінску закончена адн**ву**ленне гарадской ратушы.

**Ратыфікаваць**, -кую, -куеш, -куе; зак. ◘ Канчаткова зацвердзіць органамі вышэйшай дзяржаўнай улады міжнародны дагавор, заключены прадстаўнікамі ўлады дзвюх або некалькіх дзяржаў. Ратыфіквцыя хельсінскіх пагедненняў у парламенце Рэспублікі Белерусь.

**Раўнадушша**, наз., н. р. ◘ Абыякавыя, безудзельныя адносіны да некага, нечага; абыякавасць; рус. равнодушие. А моладзь — наш народ. Яны не госці. Я раўнадушша зноў кляну са злосцю, Звяртаюся да вас, нераўнвдушных: Хутчэй ретуйце маладыя душы. П. П.

**Раўчук**, нез., м. р., -а. ◘ Невялікі ручай. ...Пакуль мероз не засярдуе І сілу зноў ён не пачуе, Каб закаваць раўчук праворны За розум надта непакорны. К-с.

**Рахманы**, прым. ◘ 1. Які не баіцца чалавека; спакойны, нязлосны (пра жывёлін, звяроў); рус. ручной. Рахманы конь. II у перан. ужыв. Вецярок такі рахманы, Нібы рунь палёў і травы Прыляцеў ён калыхаць. Х. Ж. 2. Памяркоўны, згаворлівы; дабрадушны, добры, лагодны, чалавечны; рус. покладистый. Без ніякага сумнення меншы брат дастана меней. Ён рахманы вельмі хлопец, больш аддасць, чым сам дзе схопіць. У. Д.

**Рахуба**, наз., ж. р. Разм. ◘ 1. Падлікі, разлікі; рус. подсчет. Рехубе не згубе. Прык. 2. Карысць, выгада, сэнс. Няме рехубы трымецце гэтага месца і гэтай прецы.

**Рахунак**, нез., м. р., -нка і -нку. ◘ 1. -нка. Дакумент, дзе вызначана сума грошай, якая павінна быць заплачана за нешта (тавар, працу і пад.); рус. счёт. Зеплеціць па рахунку. Атрымаць на свой рахунак. 2. Дакументы, якія служаць для бухгалтарскага ўліку фінансавых аперацый, а таксама самі фінансавыя аперацыі. Асабовы рахунак. Адкрыць рахунек у банку. 3. -нку. Звычайна мн. (рахункі). Падлік прыходаў і расходаў у гаспадарцы; грашовыя падлікі. Ну, вось кабеціна дзіўная! — Міхал на жонку нападае. —

Ці ж мы зямлю сваю збываем? Мы не рахункі прыкідаем. К-с. 4. Падлік нечага. Лічым: кожны чацвёрты. А той рахунак прыблізны, а той рахунак няцвёрды, а ўрон яшчэ больш вялізны. А. В.

**Рахункавод**, наз., м. р., -а. ◘ Служачы бухгалтэрыі, спецыяліст па бухгалтарскім ўліку, вядзенні ўліку аперацый па рахунках; рус. счетовод. Калгасны рахункавод.

**Рацыяналізатар**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца рацыяналізацыяй, г.зн. удасканаленнем, паляпшэннем вытворчасці і вытворчых працэсаў, хто вынаходзіць найбольш мэтазгодныя, рацыянальныя і эфектыўныя спосабы якой-небудзь дзейнасці. Атрымаць дыплом рацыяналізатара.

**Раць**, наз., ж. р. Уст., паэт. ◘ 1. Войска. За справу святую свабоды і чэсці Ідзе незлічоная, дужая раць. П. Б.

2. перан. Разм. Пра вялікі натоўп, пра вялікую колькасць некага, нечага. Раць дужых касцоў.

**Рашучы**, прым. ◘ 1. Які прымае рашэнні смела, без хістанняў^і не спыняецца перад цяжкасцямі ў іх выкананні; рус. решительный. Смелы, рашучы, высакародны капітан Нэма стаў кумірам многіх падлеткаў. 2. Дзейсны, эфектыўны, моцны. Рашучыя меры. 3. Найбольш важны, вызначальны; рус. решающий. Рашучы бой.

**Рашчыніць**, -чыню, -чыніш, -чыніць; зак. ◘ Прыгатаваць рошчыну, развёўшы муку вадою ці малаком з дражджамі; рус. растворить. Рашчыніць цеста.

**Ровар**, наз., м. р., -а. Абл. ◘ Веласіпед. Прывёз хлапец на ровары Курэй і мёду збан. Р. Б.

**Род**[1], наз., м. р., -у. ◘ 1. У першабытным грамадстве: саюз некалькіх сем'яў, якія звязаны адносінамі сваяцтва і агульнасцю гаспадаркі. Племя падзяляецца на ... роды і сем'і. В. В-і. 2. Рад пакаленняў, якія паходзяць ад аднаго продка. Нашаму роду няма пераводу. Прык. 3. Сваякі, сям'я. Няма роду без выроду. Прык. (рус. В семье не без урода). 4. Паходжанне, прыналежнасць да пэўнай сацыяльнай групы, саслоўя. Хоць і дуж ты, і багаты, Ды панскага роду. К-а.

**Род**[2], наз., м. р., -у. ◘ 1. Спосаб, характар, напрамак дзейнасці. Род заняткаў. 2. У навуцы: група, якая аб'ядноўвае некапькі блізкіх відаў. Розныя дзікія кошкі ўтвараюць род кошак.

**Род**[3], наз., м. р., -у. ◘ У граматыцы: катэгорыя, якая аб'ядноўвае тры разрады слоў (мужчынскі, жаночы і ніякі род).

**Роздум**, наз., м. р., -у. ◘ Паглыбленасць у свае думкі; ваганні, выбар рашэння; раздум'е; рус. размышление. Роздум над кнігай. Трывожныя роздумы.

**Розніць**, -іць; незак. ◘ Быць асаблівасцю, якая вылучае, робіць непадобным да іншых; адрозніваць; рус. отличать. Ва ўсім сышліся мы, адно нас розніць: Я вершамі пішу, а сябра -прозаю. Н. Г.

**Розум**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць, асэнсоўваць навакольную рэчаіснасць; інтэлект; рус. ум. Розум прыходзе па шкодзе. Прык. (рус. Задним умом крепок). Буйвал тыгру кажа: — Дружа! Чалавек малы, нядужы, ды на розум ён багаты, з нас і робіць памагатых... У. Д. 2. Разумовыя здольнасці чалавека. [Пан:] — Я і праверу, які ў яе розум. Дзень ёй і ночка даюцца на роздум. Папераджаю: задача цяжкая, літасці хай ад мяне не чакае! У. Д.

♦ Ад (з) вялікага розуму — здуру, па дурасці.

♦ Кароткі розум — пра слабы, невялікі розум.

♦ Розум за розум зайшоў — пра стан, калі чалавек не можа разумна разважаць, дзейнічаць.

**Роля**, наз., ж. р. ◘ 1. Вобраз, які ўвасабляецца акцёрам на сцэне, у кіно і пад.; рус. роль. Паўліна Мядзёлка — першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Янкі Купалы. 2. Работа, занятак; праяўленне ў якасці некага.

Звычайна ён [Абрыцкі] спаўняў тры ролі:
Або смяшыў усіх да болі,
Калі ў смяхотным захапленні
Апісваў розныя здарэнні,
Ці пераймаў таго-другога,
Або маўчаў зацята-строга... К-с.

3. Значэнне, ступень удзелу, мера ўплыву ў нейкай справе, падзеі. Нельга перабольшыць ролю Ф. Скарыны ў развіцці нацыянальнай культуры.

**Роспач**, наз., ж. р. ◘ Пачуццё крайняй безнадзейнасці, упадку духу, выкліканае нейкім няшчасцем, непрыемнасцю; адчай; рус. отчаяние. Ніколі не трэба ўпадаць ў роспач, бо воляй лёсу, выпадку і намаганнямі чалавека ўсё можа змяніцца да лепшага.

**Ростань**[1], наз., ж. р. ◘ 1. Расставание. Сустрэчы і ростані закаханых. 2. Час, праведзены далека ад блізкіх. І ростань доўгая здаецца хвіляю. Каму сказаць мне слова, што табе бярог? Р. Б.

**Ростань**[2], наз., ж. р. ◘ Месца перакрыжавання дарог. Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся, Бывай, смуглявая, каханая, бывай. Стаю на ростанях былых, а з паднябесся Самотным жаўранкам звініць і плача май. Ар. К.

♦ На ростанях — у стане вагання, выбару далейшага шляху (рус. на перепутье).

**Роўнасць**, наз., Ж. р. ◘ 1. Аднолькавасць, поўнае падабенства (па велічыні, колькасці, якасці і пад.); рус. равенство. Роўнасць сіл і магчымасцяў. 2. Становішча ў грамадстве, пры якім усім забяспечваюцца аднолькавыя палітычныя і грамадскія правы. Роўнасць народаў і нацый. Роўнасць усіх перад законам.

**Рохкаць**, -ае; незак. ◘ Утвараць гукі «рох-рох» (пра свіней); рус. хрюкать. А парасяткі, яе дзеці, Усяму дзівіліся нясканчона, Бо надта рохкалі здзіўлёна. К-с.

**Рубам**, прысл. ◘ Вузкім краем або вузкім бокам уверх; вертыкальна; рус. ребром. Клумбу абкладзілі цаглінамі, пастаўленымі рубам.

♦ Ставіць пытанне рубам — заяўляць, гаварыць прама, з усёй рашучасцю.

**Рубікон**, наз., м. р., -а. ◘ Пра мяжу, рубеж нечага, перашкоду, якія цяжка пераадолець. [Ад старажытнай назвы ракі Рубікон, якую перайшоў Юлій Цэзар насуперак волі сената і гэтым самым пачаў грамадзянскую вайну.] Крызіс прайшоў, чалавек, з дапамогай медыцыны, мінуў смяротны рубікон. Я. Е.

♦ Перайсці Рубікон — прыняць беспаваротнае рашэнне, зрабіць адказны, рашучы крок.

**Рубрыка**, наз., ж. р., ДМ -ыцы. ◘ Загаловак раздзела ў газеце, часопісе.

**Ружа**, наз., ж. р. ◘ Дэкаратыўная расліна сямейства ружакветных з пахкімі кветкамі разнастайнай афарбоўкі, з калючым сцяблом, а таксама кветкі гэтай расліны; рус. роза. Па сваёй каханай сумаваў я дужа, Наламаў букет ёй Самых яркіх ружаў. Ю. С.

**Ружанец**, наз., м. р., -нца. ◘ Шнурок з нанізанымі на ім пацеркамі для адлічэння прачытаных малітваў або паклонаў у часе мальвы; рус. четки. Маліцца, перабіраючы ружанец.

♦ Ні да танца, ні да ружанца — пра няўмелага, ні на што не здатнага чалавека.

**Ружовы**, прым. ◘ І.Які атрымліваецца ад змешвання чырвонай фарбы з белай (пра колер); светла-чырвоны; рус. розовый. Ружовыя астры. 2. З румяным, здаровым колерам твару (пра чалавека). Ружовыя шчочкі. 3. перан. Нічым не азмрочаны, радасны, светлы. Ружовыя мары.

♦ У ружовым святле — ідэалізавана, лепш, чым на самай справе (бачыць, падаваць).

**Руйнаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ Ператвараць у руіны; разбураць; знішчаць. Бывае і так, што руйнуе Плаціну вада; у гэту пору Струяцца апошнія хвалі І сох не няшчасны ставок. М. Б.

**Рукавіцы**, наз., адз. рукавіца, ж. р. ◘ Адзенне на кісці рук з аддзелам для вялікага пальца; рус. варежки. Бабуля звязала ўнукам рукавіцы.

**Рукаво**, наз., н. р. Абл. ◘ Рукаў. Мундзір, скамечаны без жалю, Вісіць, спусціўшы рукаво. К-с.

**Рум**, наз., м. р., -у. ◘ Месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты. Румам у нас называюць тое месца, куды вывозяць зімою калоды з лесу, каб вясною збіць іх у плыты і сплаўляць па рэчцы. К-с.

**Рунь**, наз., ж. р. ◘ Усходы, пасевы азімых. Зелянее рунь.

**Рупець**, рупіць, безас., незак. ◘ Пра неадольнае жаданне нешта рабіць; хацецца; карцець. Яшчэ зірнуць з акна вагона Мне рупіць на цябе хоць раз. М. С.

**Руплівасць**, наз., ж. р. ◘ Дбайнасць, працавітасць, клапатлівасць, стараннасць; рус. радение. Назаўтра раненька дасвету Руплівасць матку падымае. Яна ўстае, крыху ўздыхае, Работа розная чакае, Ірух находзіць на кабету... К-с.

**Руплівец**, наз., м. р., рупліўца. ◘ Пра дбайнага, адданага нейкай справе чалавека; рус. радетель. Рупліўцы на ніве духоўнасці.

**Руплівы**, прым. ◘ Які імкнецца зрабіць як мага больш і лепш; дбайны; рупны; рус. радетельный. Руплівы гаспадар. □ У яго [дзядзькі] душы сціхаюць громы, Ён зноў такі, як нам вядомы: Лагодны, добры, клапатлівы, На ўсё спагадны і руплівы. К-с.

**Рухавік**, наз., м. р., -а. ◘ Машына, якая ператварае які-небудзь від энергіі ў механічную; машына, якая прыводзіць у рух нешта; рус. двигатель. Дызельны рухавік.

**Рухавічок**, наз., м. р., рухавічка. ◘ Памянш. да рухавік. Невялікі рухавік; рус. движок.

**Рухавы**, прым. ◘ Хуткі ў рухах; поўны энергіі; няўрымслівы, жвавы; рус. подвижный. Рухавы хлопчык.

**Рухацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Перамяшчацца, перасоўвацца; рус. двигаться. Калоны машын рухаліся па бальшаку. 2. перан. Развівацца ў нейкім напрамку. Рухацца па шляху капіталістычнага развіцця. 3. Рушыцца з месца; ісці. Трэба рухацца далей.

**Рухнуць**, -ну, -неш, -не; зак. ◘ 1. Абваліцца, упасці. Сцяна рухнула. 2. перан. Перастаць існаваць, знікнуць. Рухнулі ранейшыя ідэалы.

**Рухомы**, прым. ◘ 1. Здольны рухацца (аб прыстасаваннях, механізмах), пастаянна змяняцца, не знаходзіцца на адным месцы; проціл. нерухомы; рус. подвижной. Рухомы чыгуначны састаў. Рухомы лазарэт. Рухомы мост. Рухомая артылерыя. 2. Які можа змяняцца

ў залежнасці ад умоў; рус. подвижный. Стыль пісьменніка і літаратурныя працэсы — з'явы рухомыя. Рухомы націск (рус. подвижное ударение).

**Ручнік**, наз., м. р., -а. ◘ Вузкая доўгая паласа кужэльнай ці баваўнянай тканіны, гірызначаная для выцірання твару, цела, посуду; рус. полотенце.

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі. Вярба.

**Ручыцца**, ручыцца, незак. Разм. ◘ Весціся, добра гадавацца, пладзіцца. Дзе гаспадар мучыцца, там жывёла ручыцца. Прык. (рус. Доход не живет без хлопот).

**Рушыцца**, -шуся, -шышся, -шыцца] зак. і незак. ◘ 1. зак. Скрануцца з месца, пачаць рух; накіравацца куды-небудзь; рус. тронуться. Рушыцца з месца. Рушыцца ў паход. 2. незак. Тое, што і рухацца. 3. 1 і 2 ас. не ўжыв.; незак. Раздзяляцца, распадацца пад уздзеяннем нейкай сілы; абвальвацца; рус. рушиться. Рушацца абгарэлыя бэлькі. 4. незак.; перан. Знікаць, парушацца, разбурацца (пра планы, надзеі, традыцыі, устоі і пад.); рус. рушиться. У гады бальшавіцкага тэрору рушыліся спрадвечныя законы духоўнасці, людскасці.

**Рыдван**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ Вялікая дарожная карэта.

**Рыдлёўка**, наз., ж. р., ДМ -ўцы. ◘ Ручная прылада для капання; лапата. Што ты зробіш без машыны тут рыдлёўкамі аднымі? У. Д.

**Рыззё**, наз., н. р. ◘ Старое, падзёртае адзенне; лахманы; рызманы, транты; рус. лохмотья. З азёрнае крыніцы ваду насіла Ліля, каб ногі Драцяніца ды Ягавіца мылі. Давалі ёй аб'едкі, з рыззя адзенне шылі, з таго, што іх суседкі за плот у роў насілі. У. Д. Рыззём трасе, а пятак на гарэлку нясе. Прык. (рус. Пьяница так сведет домок, что не нужен и замок).

**Рызыка**, наз., ж. р., ДМ рызыцы. ◘ 1. Магчымая небяспека, пагроза чаму-небудзь; рус. риск. На вайне на кожным кроку рызыка. 2. Дзеянне, небяспечны ўчынак у нейкай справе з надзеяй на шчаслівы канец. Пасля спеваў, пасля танцаў пачалі яны [мышы] пытацца: Хто кату званок прывяжа, сваю рызыку пакажа? У. Д.

**Рызыкант**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Смелы, адважны чалавек. Рызыканты здзяйснялі подзвігі на вайне. 2. Неабачлівы, неразумны, але азартны чалавек, які ідзе на рызыку дзеля вострых адчуванняў ці пахвалы. — Бач ты яго, рызыканта! Перад машынай дарогу перабягаць. А. К.

**Рыса**, наз., ж. р. ◘ 1. Вузкая палоска, лінія; рус. черта. Правесці рысу. 2. Лінія, якая раздзяляе нешта, рубеж. За гарадской рысай. 3.

перан. Уласцівасць, асаблівасць некага, нечага. Рысы характеру. 4. мн. (рысы). Формы твару. Дарагія рысы блізкага чалавека.

**Рыска**, наз., ж. р., ДМ рысцы. ◘ Памянш. да рыса. [Бацька:] -Другое дзела — воласць блізка. І то не дробная, брат, рыска; Там школка ёсць, а дзецям трэба Даўно навука і вучэба, А то растуць на лес вось глядзя... К-с.

**Рысора**, наз., ж. р. ◘ Пруткая частка ў экіпажы, аўтамабілі, вагоне і пад. (звычайна спружына), якая знаходзіцца паміж восямі і кузавам і служыць для змякчэння штуршкоў пры яздзе; рус. рессора. Брычка на рысорах.

**Рыхтаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Рабіць нешта годным для выкарыстання, прыводзіць нешта ў стан гатоўнасці; рус. готовить. Ёсць насенне! Зараз трэба Рыхтаваць для проса глебу! У. Д. 2. Рабіць запас нечага; набываць нешта загадзя, наперад. Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой. Прык. (рус. Готовь летом сани, а зимой телегу). 3. Варыць ежу; гатаваць. Гаспадыня пачастунак для памочніка гатуе. У. Д. 4. Збірацца, намервацца зрабіць нешта, задумваць нешта. Вядзе іх ляснічы Праз дзікі гушчар; Ідуць партызаны, Рыхтуюць удар. У. Д.

**Рыштаванне**, наз., н. р. ◘ Часовае збудаванне з дошак або металічных трубак, якое ўстанаўліваецца ўздоўж сцен, будынка для правядзення будаўнічых работ; рыштунак; рус. леса. Разабралі рыштаванні — і людзям адкрыўся велічны, дзівосны па сваёй архітэктуры будынак-алмаз новай Нацыянальнай бібліятэкі.

**Рэагаваць**, -гую, -гуеш, -гуе; незак. ◘ І.Рабіць пэўным чынам у адказ на нешта; рус. реагировать. Рэагаваць на скаргу. Правільна рэагаваць на заўвагі — прызнаваць свае памылкі і выпраўляць іх. 2. Адказваць на знешні раздражняльнік. Рэагаваць на святло. Сэрца рэагуе на псіхічныя і фізічныя нагрузкі. 3. Уступаць у хімічныя рэакцыі.. Вокіслы цяжкіх металаў з вадой не рэагуюць.

**Рэалізм**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Напрамак у літаратуры і мастацтве, які мае на мэце праўдзівае адлюстраванне аб'ектыўнай рэчаіснасці ў яе тыповых рысах. Рэалізм Коласа. 2. Здольнасць цвяроза ацэньваць сапраўдныя ўмовы, магчымасці. Рэалізм у планаванні вытворчасці.

**Рэгуляваць**, -люю, -люеш, -люе; незак. ◘ І.Уносіць парадак, сістэму ў нешта; рус. регулировать. Законы рэгулююць паводзіны людзей у грамадстве і ўзаемаадносіны паміж людзьмі. 2. Прыводзіць нешта ў неабходны для работы стан. Рэгуляваць рухавік.

**Рэдагаваць**, -гую, -гуеш, -гуе; незак. ◘ 1. Чытаць, правяраць і выпраўляць тэкст, рукапіс, рабіць іх літаратурную апрацоўку; рус.

редактировать. 2. Кіраваць выданнем нечага, быць рэдактарам. Пятрусь Броўка рэдагаваў БелСЭ.

**Рэжысёр**, наз., м. р., -а. ◘ Мастацкі кіраўнік, пастаноўшчык спектакля або кінафільма. Фільм «Знак бяды» паводле аднайменнай аповесці В. Быкава зняты выдатным беларускім рэжысёрам Міхасём Пташуком.

**Рэзананс**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Спец. Узбуджэнне ваганняў аднаго цела ваганнямі другога з той жа частатой. 2. Здольнасць павялічваць сілу і працягласць гукаў, уласцівая некаторым памяшканням. Залы філармоніі і Вялікага тэатра оперы і балета маюць добры рэзананс. 3. перан. Водгук, водгалас. Артыкулы журналісткі А. Малочка звычайна маюць шырокі грамадскі рэзананс.

**Рэзгіны**, наз., адз. няма. ◘ Прыстасаванне для заплечнай пераноскі сена, саломы, зробленае з сагнутых пруткоў і вяровачнай сеткі; рус. рёзвины.

**Рэзерв**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Запас нечага на ўсякі выпадак. Трымаць у рэзерве. Полк Андрэя Балконскага стаяў у рэзерве. 2. Крыніца, адкуль бяруцца новыя сілы, сродкі. Навучэнцы прафесійна-тэхнічных навучальных установ — асноўны працоўны рэзерв.

**Рэзідэнцыя**, наз., ж. р. ◘ Месца, дзе пастаянна знаходзіцца Прэзідэнт, урад або асобы, якія займаюць высокія пасады. Рэзідэнцыя Прэзідэнта Беларусі.

**Рэзюме**, наз., н. р., нескл. ◘ Кароткі выклад зместу, сутнасці артыкула, прамовы і пад.; кароткі вывад са сказанага. Зрабіць рэзюме даклада.

**Рэй**. ◘ У выразе: весці рэй — быць завадатарам, ініцыятарам, кіраваць нечым, браць на сябе ўсю адказнасць за нейкую справу.

-Антоська!.. родны мой! канаю...
Перагарэў, адстаў, знікаю...
Вядзі ж ты рэй, вядзі... адзін...
Як лепшы брат, як родны сын. К-с.

**Рэйка**, наз., ж. р., ДМ рэйцы. ◘ 1. Вузкі стальны брус, які замацоўваецца на шпалах; рус. рельс. Ў два рады між палёў Роўна рэйкі ляглі. К-с. 2. Вузкая і тонкая драўляная дошка ці брусок; рус. планка. Прыладзіць рэйкі да карты.

**Рэканструкцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Каранная перабудова нечага з мэтай паляпшэння, удасканалення. Рэканструкцыя завода. 2. Аднаўленне нечага па апісанні ці рэштках, якія захаваліся. Рэканструкцыя Траецкага прадмесця ў Мінску. Рэканструкцыя крыжа Ефрасінні Полацкай зроблена брэсцкім мастаком М. Кузьмічом у 1997 г.

Крыж пасля рэканструкцыі быў асвячоны і перададзены ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр у Полацку.

**Рэквіем**, наз., м. р., -а. ◘ Мастацкі твор жалобнага характару. Рэквіем Моцарта. Верш А. Вярцінскага «Рэквіем па кожным чацвёртым».

**Рэквізіт**, наз., м. р., -у. ◘ Рэчы, неабходныя для пастаноўкі спектакля ці здымкаў кінафільмаў. Дэкарацыі і рэквізіт падрыхтаваны да спектакля.

**Рэлігія**, наз., ж. р. ◘ Адна з формаў грамадскай свядомасці, якая грунтуецца на веры ў Бога. Іудзейская, хрысціянская і мусульманская рэлігіі належаць да ліку самых старажытных. □ У духоўным жыцці чалавека цяжка знайсці фактар, які адыгрываў бы больш важную ролю, чым рэлігія. Мень.

**Рэліквія**, наз., ж. р. ◘ 1. Прадмет пакланення, які мае цудадзейную сілу; святыня. Згублены скарб, рэліквія беларускага народа крыж Ефрасінні Полацкай з благаславення мітрапаліта Філарэта быў адноўлены ў 1997 г. і перададзены на вечнае захаванне ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. 2. Прадмет, які беражліва захоўваецца як памяць пра мінулае і дарагое. Сямейная рэліквія.

**Рэмінісцэнцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Успаміны; з'ява, якая наводзіць на супастаўленне з нечым. 2. Мастацкія запазычанні з іншых твораў на ўзроўні матываў, вобразаў, сюжэтаў, мастацкіх сродкаў і інш.; адбітак уплыву чыёй-небудзь творчасці ў літаратурным, музычным і пад. творы. Утворах В. Быкава відавочны евангельскія рэмінісцэнцыі.

**Рэпутацыя**, наз., ж. р. ◘ Агульная думка, якая склалася пра некага, нешта. Рэпутацыя завода. Мець добрую рэпутацыю.

♦ Падмачыць рэпутацыю — знізіць аўтарытэт, выставіць з нядобрага боку.

**Рэстаўрацыя**, наз., ж. р. ◘ Аднаўленне і ўмацаванне старых ці пашкоджаных помнікаў мастацтва, гісторыі і культуры. Завершана рэстаўрацыя помніка старажытнай архітэктуры — Камянецкай абарончай вежы.

**Рэсурсы**, наз., адз. рэсурс, м. р., -у. ◘ Запасы, крыніцы нечага; грашовыя сродкі. Прыродныя рэсурсы. Падлічыць рэсурсы.

**Рэтраград**, наз., м. р., -а. ◘ Праціўнік новага, прыхільнік старога.

**Рэтраспекцыя**, наз., ж. р. ◘ Зварот да мінулага, агляд мінулага. Рэтраспекцыя кінафільма на тэлеэкране. Рэтраспекцыі ў творах І. Шамякіна.

**Рэферат**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кароткае паведамленне зместу кнігі, артыкула. 2. Даклад, заснаваны на аглядзе кніг, артыкулаў і пад. Вучнёўскі рэферат. Студэнцкі рэферат.

**Рэфлексія**, наз., ж. р. ◘ І.Роздум, поўны сумненняў, хістанняў; аналіз сваіх учынкаў, думак, перажыванняў; аналіз фактараў поспеху і прычын няўдач у нечым. 2. Аналіз сваёй дзейнасці і яе выніковасці. Рэфлексія этапаў урока. Рэха, наз., н. р. ◘ 1. Адбіццё гуку ад пэўнай перашкоды; рус. эхо. Спявалі, зразумела, ім туравала рэха. У. Д. 2. перан. Водгалас, водгук. Рэха [багушэвічаўскай] «Дудкі» каціласся па шырокіх абшарах беларускай зямлі, яно абуджала народ ад векавечнага сну... С. А.

**Рэцэнзія**, наз., ж. р. ◘ Аналіз і ацэнка навуковага або мастацкага твора. Рэцэнзія на кінафільм. Станоўчая рэцэнзія на новую кнігу. Рзч, наз., ж. р. ◘ 1. Усялякі неадушаўлёны прадмет; рус. вещь. У акуратнага чалавека кожнай рэчы — свае месца. □ Я яму пра рэч, а ён мне пра печ. Прык. (рус. Я про Фому, а он про Ерему). 2. Факт, з'ява, справа. Тут кожна рэч аб тым казала, Што маладая гаспадарка Ішла ўпярод паспешна, шпарка І большы круг яна займала. К-с. 3. Штосьці значнае, важнае, каштоўнае. Дываны? Гэта — рэч. Усходняй казкай вее. П. П.

**Рэчаіснасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Тое, што сапраўды існуе; рэальнасць; рус. действительность. Мара стала рэчаіснасцю. 2. Умовы жыцця людзей; жыццё. Мастацтва — вобразнае адлюстраванне рэчаіснасці.

**Рэчыва**, наз., н. р. ◘ Тое, з чаго складаецца фізічнае цела; матэрыя; рус. вещество. Арганічнае рэчыва. Выбуховае рэчыва.

**Рэчышча**, наз., н. р. ◘ Паглыбленне на паверхні зямлі, па якім цячэ рака; рус. русло. У часы буры, вялікіх навальніц рэчка можа памяняць ранейшае рэчышча, якое ў народзе называюць *стáрыцай*, старыкам.

**Рэшта**, наз., ж. р., ДМ рэшце. ◘ 1. Частка нечага, якая засталася нявыкарыстанай; астача, астатак. Рэшта групы. Рэшта дарогі. □ Ды страшна смерць, усім жыць міла! Ён [воўк] рэшту сіл ізноў збірае, Мацней на лапыналягае, Ды іх няма за што зацяць; Яны слабеюць, слізгацяць І толькі скробаюць па лёдзе... К-с. 2. Лішак грошай, які вяртаецца пры разліку; рус. сдача. Прадаўшчыца падала рэшту.
♦ У рэшце рэшт — у канчатковым выніку, нарэшце.

# С

**Сабекошт**, наз., м. р., -у. ◘ Грашовыя выдаткі на выраб прадукцыі, якія складаюцца з затрат на сродкі вытворчасці і заработную плату; рус. себестоимость. Рацыяналізацыя вытворчасці павышае заработную плату рабочых і адначасова зніжае сабекошт прадукцыі.

**Сабор**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Галоўная царква ў горадзе ці ў манастыры. Кафедральны Святадухаў сабор у Мінску. 2. -у. Даўней: сход службовых ці выбарных асоб, на якім выращаліся розныя пытанні арганізацыі і кіравання. Земскі сабор. 3. -у. З'езд, сход прадстаўнікоў вышэйшага духавенства хрысціянскай царквы.

**Саган**, наз., м. р., -а. ◘ Чыгунны кацёл для стравы. Пеніцца сярдзіта, бульба закіпае Снежнаю завеяй ў чорным сагане. М. Т.

**Садавіна**, наз., ж. р. ◘ Плады садовых дрэў; рус. фрукты. У буру з навальніцай абтрэсла ўсю садавіну, паламала колькі дрэў.

**Саджанец**, наз., м. р., -нца. ◘ Маладая дрэвавая расліна, вырашчаная з сеянцаў або чаранкоў у гадавальніку і прызначаная для пасадкі. Купіць саджанцы яблынь, груш, вішняў, сліў.

**Садзейнічаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Падтрымліваць, дапамагаць, спрыяць; рус. содействовать. Садзейнічаць развіццю нацыянальнай культуры.

**Садом**, наз., м. р., -у. ◘ Бязладдзе, сумятня, крык, распуста і пад.

♦ Садом і Гамора — тое, што і садом (ад назваў двух гарадоў старажытнай Палесціны, якія, паводле Бібліі, былі знішчаны Богам за грахі жыхароў).

**Саета**, наз., ж. р., ДМ саеце. Уст. ◘ Тонкае высокагатунковае сукно. Вашы скарбы не ў ядвабнай Магнацкай саеце, А ў сярмязе непавабнай, Старшай на ўсім свеце. К-а.

**Сажалка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Штучны вадаём; стаў; рус. пруд. Дзеці лавілі карасёў у сажалцы.

**Сажань**, наз., м. р., сажня. ◘ Старая мера даўжыні, роўная 2,134 м. І так ён падсвінака грызянуў, Што той на сажняў пяць адскочыў. Парсюк не надта быў ахвочы Гпядзецца праўдзе ў вочы. К. К.

**Сакавік**, наз., м. р., -а. ◘ Трэці месяц каляндарнага года; рус. март. Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе. З нар. Няма ў сакавіку вады, няма ў красавіку травы. З нар. Сучасная беларуская назва трэцяга месяца года і першага месяца вясны паходзіць

ад слова «сок», бо ў гэтую пару сок пачынае цячы з дрэў. □ Сакавік — з сакатаннем і сокам. П. П.

**Сакавіты**, прым. ◘ 1. Які змяшчае шмат соку; сакаўны; рус. сочный. Лясоў багатыя дары: Малін[а], зорныя суніцы, Тугіх парэчак шрот буйны І сакавітыя чарніцы З прыемным водарам лясным. Х. Ж. 2. Апетытны, смачны, не сухі. Сакавіты кавалак падсмажанага мяса. 3. Яркі, свежы, поўны (пра вусны, рот). Сакавітыя вусны. 4. перан. Каларытны, насычаны спалучэннямі яркіх фарбаў. Сакавітыя фарбы вясны. 5. перан. Трапны, вобразны (пра мову, словы і пад.). Размаўлялі на сакавітай беларускай мове.

**Сакавіцкі**, прым. ◘ Які мае адносіны да сакавіка; які адбыўся ў сакавіку. Сакавіцкі вецер самы пранізлівы і небяспечны для схільных да прастудных захворванняў, бранхіту.

**Сакатаць**, -качу, -кочаш, -коча; незак. ◘ 1. Кудахтаць, утвараць сокат (пра курэй); стракатаць (пра насякомых, птушак). 2. перан. Хутка, не сціхаючы, гаварыць; балбатаць; рус. тараторить. Сакоча, як сарока.

**Саколік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Памянш.-ласк. да сокал. 2. (звычайна ў звароце). Нар.-паэт. Ласкавая назва юнака, дзіцяці, мужчыны. — Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй!. Янка, мой саколік, памажы хутчэй! Вярба.

**Саколка**[1], наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ 1. Разм. Сакаліха. 2. (звычайна ў звароце). Ласкавая назва жанчыны.

**Саколка**[2], наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Трыкатажная майка без каўняра і рукавоў. Надзець саколку.

**Салата**, наз., ж. р., ДМ салёце. ◘ 1. Агародная расліна, лісты якой сырымі ўжываюцца ў ежу. Нарваць салаты, радыскі і цыбулі. 2. Страва з лісця гэтай расліны з воцатам, смятанай і пад. 3. Халодная страва з сырой або варанай гародніны, часам рыбы, мяса, палітых соусам, маянэзам, смятанай і пад.; усякая агароднінная прыправа да мясной стравы; рус. салат.

**Сальнік**, наз., м. р., -а. ◘ І.Тлушчавая складка брушыны, якая засцерагае органы брушной поласці. 2. Гандляр салам. [Хадыка:] — Хачу прадаць сваю пасаду, А сам за гандаль я засяду, Мае вы родненькія братцы, — Хачу я сальнікам заняцца. К-с.

**Самабраны**, прым. ◘ У выразе: самабраны абрус — у казках: чарадзейны абрус, на якім сама сабой з'яўляецца жаданая яда. Што ў куфэрку, вось цікава! Можа шапка-невідзімка? Самабойная дубінка? Ці настольнік самабраны? Ці кілім самалятальны? У. Д.

**Самабытны**, прым. ◘ Арыгінальны, не падобны да іншых; своеасаблівы. Слоўнік безэквівалентнай лексікі (слоў, якія ў рускамоўным

дачыненні не маюць аднаслоўнага адпаведніка, пераклад якіх вымушае перадачы не словамі, а словазлучэннямі рускай мовы) склала Ірына Шкраба, і называецца ён «Самабытнае слова».

**Самавіты**, прым. ◘ 1. Паважны, удумлівы, самастойны, упэўнены, спакойны; рус. солидный. Самавіты чалавек дбае пра сваю рэпутацыю і ніякімі бруднымі справамі сябе не пэцкае. 2. Поўны хараства, прыгажосці, самабытнасці. Зірнеш — дальбог жа, возьме ўцеха, І не стрымаешся ад смеху: Яны [бабкі жыта] так мілы, так прыветны, Так самавіты, так фацэтны І пазіраюць так прыхільна, Прыгледзься толькі да іх пільна! К-с. 3. Мажны, дзябёлы. Плячысты, самавіты асілак.

**Саматужны**, прым. ◘ 1. Зроблены ўручную, не фабрычным спосабам. Саматужныя вырабы. 2. Недасканалы, прымітыўны. А потым кінуўся і ў лекі, Больш з саматужнае аптэкі: Піў зёлкі розныя і травы, Ды не палепшваў свае справы. К-с.

**Самлець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ 1. Страціць прытомнасць; рус. потерять сознание. Чалавек самлеў: здарыўся сардэчны прыступ. 2. Анямець ад нечаканага страху, здзіўлення. Храснуў леташні сухі чаротнік. Самлелі хлопцы, затаілі дыханне, прыслухаліся — нічога. Я. М. 3. Здранцвець, страціць адчувальнасць. Самлела рука. 4. Знясілець ад стомленасці, спёкі.

**Самота**, наз., ж. р., ДМ самоце. ◘ 1. Адзінота; рус. уединение. Некаторыя любяць заставацца ў самоце. 2. Смутак, туга; журба. Самота выльецца слязамі, Якхмара цёмная — дажджамі. Е. Л.

**Сапраўдны**, прым. ◘ 1. Праўдзівы, не фальшывы; рус. настоящий. Сапраўднае імя. 2. Які адпавядае нашым уяўленням пра кагонебудзь, што-небудзь; такі, які павінен быць; ідэальны. Сапраўднае шчасце. Сапраўдны чалавек. Сапраўднае каханне. □ Сапраўднаму паэту трэба мець Уласны курс і вугал свой атакі. У. С.

**Саф'ян**, наз., м. р., -у. ◘ Мяккая, добра выробленая, звычайна яркага колеру авечая скура, якая ідзе на кніжныя пераплёты, абутак, абіванне мэблі. Чаравічкі з саф'яну.

**Саха**, наз., ж. р., ДМ сасё. ◘ 1. Драўляны плуг з металічным наканечнікам. Сохі і драўляныя бароны сёння ўбачыш толькі ў музеі. 2. Рогі лася. Лось скінуў свае сохі.

**Сачыць**[1], сачу, сбчыш, сочыць; незак. ◘ 1. Назіраць за нечым; глядзець на некага, нешта, не зводзячы вачэй; пазіраючы, падглядваць; рус. следить. Пільна сачыць. 2. Цікавячыся нечым, быць у курсе справы; назіраць за развіццём, станам, ходам нечага, каб правільна зразумець, не ўпусціць нечага. Сачыць за

падзеямі ў краіне. Сачыць за размовай. 3. Назіраць за нечым, некім з мэтай кантролю, аховы; рус. наблюдать. Сачыць за паказаннямі прыбораў. Сачыць за парадкам. 4. З нецярплівасцю чакаць. А дзеці іх даўно сачылі І на ляту блінцы лавілі, Заядла мазалі іх здорам. К-с. 5. Адшукваць па слядах, падпільноўваць звера; рус. выслеживать, Ды ў той жа дзень наказ быў даны Ісці Міхалу пад. буданы Сачыць ваўкоў. К-с.

**Сачыць**[2], сачу сочыш, сочыць; незак. ◘ Выцякаць па кроплі, струменіць, цячы; выдзяляць пах. А сосны сочаць і струменяць Густы, духмяны пах смалы. К-с.

**Сваволіць**, -лю, -ліш, -ліць; незак. ◘ 1. Гарэзіць, дурэць; рус. озорничать, баловаться. Дзеці сваволяць. 2. Бушаваць (пра стыхію). Хто спявае ў чыстым полі Між аўсяных ніў, далін? Гэта вецер там сваволіць, Ліст страсаючы з калін. Я. П. 3. Рабіць у адпаведнасці са сваёй воляй, не зважаючы ні на што; рус. своевольничать. На Беларусі сваволілі слугі закона, царскія сатрапы.

**Сварка**, наз., ж. р., ДМ сварцы. ◘ Спрэчка, якая суправаджаецца крыкам, шумам, лаянкай, абразлівымі словамі і выразамі; рус. ссора. Пра нешта сварка ў іх ідзе. А прыказка ж ёсць у людзей: «У самай лепшай сварцы — гразь, Ніколі ў сваркі не залазь». У. Д.

**Сварыцца**, сварuся, сварышся, сварыцца; незак. ◘ Спрачацца, крычаць, лаяцца з некім; рус. ссориться.

**Сваяўство і сваяцтва**, наз., н. р. ◘ 1. Адносіны паміж людзьмі, якія маюць агульных продкаў; рус. родство. Сваяўство па матчынай лініі. 2. Роднасць не па крыві, а па шлюбе (адносіны паміж роднымі тых, хто жаніўся); рус. родня. Сем'і жылі ў добрым сваяўстве і ладзе. 3. Падабенства, блізкасць па змесце, прыкметах і ўласцівасцях. Сваяўства па духу, думках, поглядах, мове.'

**Сведчыць**, -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ 1. Пацвярджаць правільнасць, сапраўднасць нечага; быць у ролі сведкі, дасведчанай асобы; рус. свидетельствовать. Расказы відавочцаў сведч'ылі пра наўмыснае злачынства. 2. Даказваць нешта, пацвярджаць нешта. Багацце лексікі беларускай мовы сведчыць пра яе самабытнасць.

**Сверб**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Нервовае раздражненне ад пачухвання, ад укусу каго-небудзь, дотыку чаго-небудзь; рус. зуд. Нясцерпны сверб ад жыгучкі. 2. перан. Жаданне нечага, імкненне да нечага, турбота. Аўтарскі сверб падзяліцца з чытачом сваёй творчасцю.

**Светапогляд**, наз., м. р., -у. ◘ Сістэма поглядаў чалавека на жыццё, прыроду і грамадства, якая рэалізуецца ў дзейнасці чалавека; рус. мировоззрение. Але ён [твор] не можа існаваць без пэўнай канцэптуальнасці, таго адметнага аўтарскага светапогляду і

светаўспрымання, у якіх павінна знайсціся месца і для адлюстравання «движения страстей» і для «избыточной человечности». В. Б.

**Свёкар**, наз., м. р., свёкра. ◘ Бацька мужа. Звялі маладзіцу са свету сямейнікі. Свёкар быў звер і скупеча... А сынок — яшчэ горшы. Брыль.

**Свідравіна**, наз., ж. р. ◘ Адтуліна ў глебе, зробленая бурам; рус. скважина. Нафтавая свідравіна.

**Свіран**, наз., м. р., -рна. ◘ Халодны будынак для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў; рус. амбар. Кладзі гной густа, не будзе ў свірне пуста. Прык.

**Свірэпа**, наз., ж. р. ◘ Пустазелле з жоўтымі кветкамі; рус. сурепа, сурепка. Спрэе жоўтыя плямы свірэпы.

**Світанне**, наз., н. р. ◘ 1.Час перад усходам сонца, калі пачынае віднець; самы пачатак раніцы; світанак; рус. рассвет. На світанні, на зары У зялёным гушчары, Дзе мох сцелецца рабы, Паспрачаліся грыбы. М. Т. 2. перан. Пачатак, ранні перыяд нечага. Даўно мінула мае світанне. Мінае мой поўдзень, мінае мой дзень. А. В.

**Своеасаблівы**, прым. ◘ 1. Які мае адметныя ўласцівасці, якасці, прыметы; не падобны да іншых, незвычайны, арыгінальны; рус. своеобразный. Своеасаблівы ўклад жыцця. Своеасаблівы характер. 2. Які сваімі рысамі, асаблівасцямі нагадвае нешта. Дрэвы алеі ўтварылі своеасаблівы тунель.

**Своечасовы**, прым. ◘ Які адбываецца, выконваецца ў належны, у вызначаны час; рус. своевременный. Своечасовая дапамога.

**Свойскі**, прым. ◘ 1. Не дзікі, выгадаваны чалавекам; рус. домашний. Свойскія жывёлы. □ Яблыня была свойская, а стала не свойская. Здзічэла. І. Ч. 2. Прыручаны чалавекам; ручны; рахманы, спакойны. Свойскі мядзведзь. 3. Не куплены, свайго вырбу; прыгатаваны дома (пра харчы). Свойскія тварог, смятана, масла, каўбаса. 4. Характэрны, пашыраны на пэўнай тэрыторыі. Асенняй раніцою, Па нашай звычцы свойскай, Нас цэлай грамадою Праводзілі у войска. П. Г.

**Свядомы**, прым. ◘ 1. Разумны, здольны мысліць і разважаць; перакананы ў правільнасці сваіх поглядаў, дзеянняў; рус. сознательный. Свядомы чалавек. 2. Які вызначаецца свядомасцю. Свядомая дысцыпліна. 3. Зроблены з пэўным намерам, наўмысна. Свядомы ўчынак. Свядомае супрацьстаянне абставінам.

**Свякроў**, наз., ж. р., РДМ свекрыві. ◘ Маці мужа. Прыязным, шчырым і самаахвярным адносінам нявесткі да свекрыві прысвечана адна з біблейскіх кніг — «Руф».

**Свята**, наз., н. р. ◘ 1. Урачысты дзень у гонар або памяць нейкай выдатнай падзеі ці святога; нерабочы дзень або некалькі дзён з прычыны такіх падзей; рус. праздник. Майскія святы. Прыйшла Вялікая субота, І вельмі сталая развага Даўно прыпынена работа, Ўвесь гэты дзень тут панавалі. І ўжо пад вечар сама хата І блізкасць свята шанавалі Была прылучана да свята: Старыя, дзеці і падросткі... К-с. Лагоднасць, згода і павага 2. Урачыстасць, наладжаная ў гонар нейкай падзеі. Са смакам елі і багата - На тое ж даў Бог людзям свята. К-с. 3. Пачуццё задавальнення, радасці, асалоды, зведанае некім, выкліканае поспехам, удачай і пад. А для дзяцей найбольша свята Абы наесціся багата. К-с. 4. Спадзяванне на лепшае ў будучыні, на перамогу над нечым, некім. Будзе, mama, і на нашай вуліцы свята. Прык. (рус. Будет и на нашей улице праздник).

**Святатацтва**, наз., н. р. Кніжн. ◘ 1. Зневажанне царкоўнай святыні; рус. кощунство. Паводле хрысціянскага веравучэння, святатацтва і самазабойства Богам не даруюцца. 2. перан. Зневажанне нечага дарагога, паважанага. Людзі, якія не шануюць памяць і магілы сваіх продкаў, чыняць святатацтва.

**Святаяннік**, наз., м. р., -у. ◘ Травяністая расліна з жоўтымі кветкамі; рус. зверобой. Гарбата са святаянніку.

**Святыня**, наз., ж. р. ◘ 1. Прадмет або месца пакланення вернікаў. Жыровіцкі манастыр і Свята-Успенскі сабор — беларускія святыні. 2. перан. Што-небудзь асабліва дарагое, любімае, шанаванае. Святыні ў ахвяру не прыносяцца. Святынямі з'яўляецца ўсё тое, 'што чалавеку даецца з жыццём, ад самага нараджэння, як кажуць, ад Бога, г.зн. усё тое, што чалавек сам не выбірае: Радзіма, бацькі, мова, а пазней для кожнага чалавека святыняй стане ўжо і яго ўласная сям'я, дзеці. □ ...Святыня народа, бяссмерце яго [пра родную мову]. М. Т.

**Сейбіт**, наз., м. р., -а. ◘ Ч.Той, хто сее зерне, засявае зямлю несением; сявец; рус. сеятель. 2. перан. Той, хто распаўсюджвае сярод людзей веды, дабрыню і пад. Настаўнік — сейбіт разумнага, добрага, вечнага.

**Селянін**, наз., м. р., -а. ◘ Жыхар сельскай мясцовасці, асноўным заняткам якога з'яўляецца апрацоўка зямлі; рус. крестьянин. Пан адразу кветку ў рукі, а Сымонку — вон з палаца. Зноў пайшло — панам без мукі, а сялянам — толькі з працы. У. Д.

**Сені**, наз., адз. няма. ◘ Памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковай хаце. Хто вырас у вёсцы, ніколі не забудзе" прахалоду сяней у бацькавай хаце. □ Уперавалку, як бы качка, У

хату йдзе кума-сваячка.Тут гаспадыня выбягае, Ёй дзверы ў сені адчыняе... К-с.

**Сенцы**, наз., мн. ◘ Невялікія сені.

**Серада**, наз., ж. р., ДМ -дзё. ◘ Трэці (пасля нядзелі) дзень тыдня; рус. среда.

Серафім, наз., м. р., -а. ◘ У іудзейскай і хрысціянскай рэлігіях — шасцікрылы анёл вышэйшага рангу.

**Сёлета і сяголета**, прысл. ◘ У гэтым годзе; цяпер. Хлопчык сёлета пойдзе ў школу. Сёлета ўраджайны год.

**Сёрбаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Есці вадкую страву, піць, прысмоктваючы; рус. хлебать. Мараканцы ў кафэ гучна сёрбаюць мятны чай і прыцмокваюць з вялікім задавальненнем. В. В. 2. Утвараць у час яды характэрныя гукі сёрбання; рус. причмокивать. Таццяна ўмее трымаць кубачак і не сёрбае так, як Марынка. У. Ю.

**Сіберны**, прым. ◘ 1. Крайне суровы; бязлітасны, жорсткі. Сіберны характер. 2. Вельмі моцны, рэзкі, люты (пра вецер, мароз і пад.).

**Сівавbooронка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Пералётная птушка з яркім зеленавата-блакітным апярэннем; сіваграк; рус. сизоворонка. Кал і яна [сіваваронка] раскрывала сваё крылле ў палёце, здавалася, што ляціць нейкая казачная райская птушка: усе колеры вясёлкі зіхацелі ў яе падкрыллі. У. Д. У дубах крычаць сіваваронкі, І свіст над лугам рэзкг, звонкі Каршун маркотна так раняе І нейкі смутак закідае. К-с.

**Сівізна**, наз., ж. р. ◘ 1. Сівыя валасы; рус. седина. 2. Пра старасць. Сівізна ў бараду, а чорт у галаву. Прык. (рус. Седина в бороду — бес в ребро). 3. перан. Шаравата-белы колер, афарбоўка нечага. Сасонкі адліваюць сівізной. 4. перан. Даўніна, старажытнасць. Сівізна мінуўшчыны. Сіраціна, наз., аг. р. Разм. ◘ 1. Дзіця або падлетак, які застаўся без аднаго або без абодвух бацькоў; сірата. Слёзы сірацiны не на камень падаюць, а на галаву крыўдзіцеля. З нар. 2. Чалавек без родных, блізкіх; адзінокі чалавек. Адзін ён цяпер, сірацiна: Ні маткі няма, ні сястры. К-с.

**Скаба**, наз., ж. р. ◘ 1. Рабрына. 2. у перан. ужыв. Нехта недзе, з'еўшы мяса, Узлаваўшыся без меры, да якога ён быў ласы, на дыбкі яна ўстала скабу выкінуў за дзверы. і пайшла ў свет памалу. У. "Д.

**Скавытаць**, -вычу, -вычаш, -выча; незак. ◘ 1. Жаласна павісквацъ, ціха выць (пра сабаку, звера, вецер і пад.); рус. скулить. Шчаня жаласна скавытала. Вецер выў, скавытаў. 2. перан. Ныць, назаляць, скардзіцца. Слюнцяй, не скавычы! Не можаш памагчы, Дык лепей памаўчы! К. К.

**Скарадзіць**, -раджу, -родзіш, -родзіць і скародзіць, -роджу, -родзіш, -родзіць; незак. ◘ Разрыхляць бараной зямлю; апрацоўваць пры дапамозе бараны ўсходы пасеянага, пасаджанага; рус. боронить. Час скарадзіць бульбу, пакуль не перарасла.

**Скарб**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Грошы, каштоўнасці. 2. Багацці прыроды, зямныя нетры; рус. богатство. Скарбы зямлі. 3. звычайна мн. (скарбы). Духоўныя і культурныя каштоўнасці; рус. ценности. Бедны той, хто, апрача грошы, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее, гэта любоў да бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы. Цётка. 4. перан. Пра тага (тое), што мае асаблівую вартасць; пра вельмі дарагое, каштоўнае. Добрая жонка — найдаражэйшы скарб. Ян Б. 5. Каштоўнасці, схаваныя, закапаныя недзе; клад; рус. сокровище. Сюжэт прыгодніцкай аповесці А. Федарэнкі «Тры талеры» пабудаваны на тым, як падлеткі шукаюць скарб, схаваны афіцэрам напалеонаўскага войска. 6. Разм. Пажыткі, хатнія рэчы, Снавалі дзеці і мужчыны, З сяней, з каморы скарб сцягалі І на вазы яго складалі. К-с.

**Скарбнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Асоба, якая загадвае дзяржаўнымі або грамадскімі каштоўнасцямі; хавальнік дзяржаўнага скарбу; рус. казначей. 2. у перан. ужыв. Пра пісьменнікаў, гісторыкаў, фалькларыстаў, архівістаў; рус. хранитель. Скарбнікі вечнасці.

**Скарбовы**. ◘ 1. Гіст. Фінансавы. Скарбовая канцылярыя. 2. Уст. Казённы; дзяржаўны. Скарбовая зямля. □ Прагнаць! за што? Украў, ці што, ты? За лес спраўляеш сабе боты? Ці прапіваў дабро скарбова? Не будзе гнаць цябе за слова: Няма прычын. К-с. Дзед Юрка быў рыбак скарбовы, Скарбовай чайкай карыстаўся, А ўласны човен так валяўся... К-с.

**Скарбонка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Скрыначка для збірання, назапашвання грошай, для збору ахвяраванняў (у царкве, на відовішчах); рус. копилка. 2. Запас грошай; рахунак эканоміі сродкаў. Скарбонка ашчаднасці. 3. Культурныя і духоўныя каштоўнасці; скарбніца; рус. сокровищница. Беларусы ўнеслі значны уклад у сусветную духоўную скарбонку. 4. Невычэрпная скарбніца нечага. Біблія — невычэрпная скарбонка ідэй, матываў, вобразаў, сюжэтаў для творцаў усяго свету.

**Скарга**, наз., ж. р., ДМ скарзе. ◘ 1. Незадавальненне, нараканне з прычыны якіх-небудзь непрыемнасцяў; рус. жалоба. Скаргі на цяжкія пакуты. 2. Афіцыйная заява аб незаконным або няправільным дзеянні, рашэнні якой-небудзь асобы, установы, арганізацыі.

**Скарыначка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Памянш.-ласк. да скарынка (у 1 знач.); рус. корочка. Яна сказала: -Я не маю хлеба... Датла спаліла сонца нашу глебу. А можа, хоць скарыначку дасцё вы? Бабуліны іх не кранулі словы. У. Д.

**Скарынка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Цвёрды вонкавы слой хлеба, пірага і пад.; рус. корка. Жоўтая скарынка, як пірог, - Будзеш уплятаць яе [бульбу] за трох. П. П. 2. Пра ежу, харч, сродкі для існавання. І ўспомніў дзядзька, куды едзе І што яму ў той Вільні трэба. Эх, цяжка ты, скарынка хлеба! Пакуль пачуеш кроплю сілы, То банк мо выматае жылы... К-с. 3. Верхні зацвярдзелы слой нечага. Снегавая скарынка. Скарыстаць, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Знайсці прымяненне некаму, нечаму ў нейкай справе; выкарыстаць некага, нешта ў сваіх інтарэсах; рус. использовать. Квапіць на чужое — не скарыстаць сваё.

**Скасаваць**, -сую, -суеш, -суе; зак. ◘ 1. Адмяніць, ліквідаваць, прызнаць нешта незаконным. Скасаваць шлюб. Скасаваць дагавор. 2. Апратэставаць рашэнне суда; спыніць судовую справу. Падаваць прашэнне, каб скасаваць прыгавор.

**Скасавурыцца**, -руся, -рышся, -рыцца; зак. Разм. ◘ Паглядзець скоса, скрыва; рус. скоситься. Сквапны, прым. ◘ 1. Прагны да багацця, хцівы, скупы; прагавіты да нечага; рус. жадный. Сквапны да багацця. 2. у знач. наз. Сквапны двойчы плоціць, а дурны двойчы ходзіць. Прык. (рус. Скупой платит дважды. Бестолковая голова ногам покоя не дает).

**Скварка**, наз., ж. р., -рцы. ◘ Падсмажаны, звараны або сыры кавалачак сала. Дурны, дурны, а скварку любіць. Прык. А пападалася там [у верашчацы] скварка, Была між імі чуць не сварка: — Бяры, Антось! -Я намакаўся, Бяры, брат, ты, ты больш цягаўся, — І спрэчку тым яны канчалі, Што гэту скварку разразалі. К-с.

**Скеміць**, скемлю, скеміш, скеміць; зак. ◘ Зразумець, разабрацца, сцяміць; рус. сообразить. Хлопчык скеміў адразу тое, што яму нават не сказалі. □ Скеміў хутка пан вучоны, што на ўсё свае прычыны, і надумаў на Сымона ўласнымі зірнуць вачыма. У. Д.

**Скіба**, наз., ж. р. ◘ 1. Тонкі кавалак, луста хлеба; рус. ломоть. Калі бацька свет пакіне, будзе ў хаце калатніна: за вуглы пачнецца сварка, змізарнее гаспадарка, як акраец, на тры скібы перакроіцца сядзіба. У. Д. 2. Пласт узаранай зямлі і наогул пласт чаго-небудзь. Скібы зямлі. Скіба дзёрну.

**Сківіца**, наз., ж. р. ◘ 1. Кожная з дзвюх костак твару з зубамі; верхняя або ніжняя частка твару ці морды жывёліны, звера, дзе знаходзіцца гэта косць; рус. челюсть. І ўжо к канцу таго снядання

Хлапцы здаволілі жаданне, І ад мужчын яны адсталі. Павольней сківіцы жавалі, Крышылі страву, як нарокам. К-с. 2. Пласцінка з штучнымі зубамі. 3. перан. Дэталь механізма, якая служыць для захоплівання або раздраблення нечага.

**Склад**[1], наз., м. р., -а. ◘ Спецыяльнае месца, памяшканне для захоўвання тавараў, матэрыялаў і пад.

**Склад**[2], наз., м. р., -у, ◘ 1. Сукупнасць частак, якія ўтвараюць адзінае цэлае; састаў. Лексічны склад мовы. 2. Сукупнасць людзей, якія ўтвараюць нейкі калектыў, арганізацыю; рус. состав. Падсудны не пярэчыў супраць складу суда. 3. Постаць, фізічны выгляд; рус. стать; телосложение. Атлетычнага складу чалавек. 4. Асаблівасці розуму, думак, характеру; манера, спосаб выказвання думкі, гаварыць, пісаць; стыль. Ёсць людзі, да якіх бруд не ліпне, бо склад іхняй душы, намеры, імкненні высокія. У. Кар. Колас — мастак эпічнага складу, а Купала — рамантычнага. 5. Зладжанасць; парадак, сэнс. У гэтай сям'і -лад і склад.

♦ Ні складу, ні ладу — ніякага толку, парадку, ніякай сувязі.

**Склад**[3], наз., м. р., -а. ◘ Гук або спалучэнне гукаў у слове, якія вымаўляюцца адным штуршком паветра; рус. слог. У слове «радзіма» — тры склады.

**Складаны**, прым. ◘ 1. Які складаецца з некалькіх частак, Элементаў; састаўны; рус. сложный. Ф.М. Янкоўскі настойліва даводзіў, што складаныя словы не ўласцівы нашай мове: навошта нам калькі-калекі «хлебазавод», «шклозавод», «пчолагадавальнік», «пчалавод», калі ў нас ёсць добрыя і трапныя — пякарня, гута, пасека, пчаляр. 2. Мудрагелісты па сваёй будове, форме, змесце і пад.; рус. мудрёный. Складаны арнамент. Складаная камбінацыя. 3. Цяжкі для разумения, ажыццяўлення, рашэння; рус. сложный. Складаны алгебраічны прыклад. Складаная аперацыя.

**Склеп**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Спецыяльнае, паглыбленае ў зямлі, памяшканне для захоўвання прадуктаў, віна і пад.; пограб; рус. подполье, подвал. Бульбу ссыпалі ў склеп. 2. Закрытае падземнае памяшканне, у якім устанаўліваюцца дамавіны з нябожчыкамі. Радавы княжацкі склеп.

**Скляпенне**, наз., н. р. ◘ 1. Дугападобнае перакрыццё, якое злучае сцены, апоры пэўнага збудавання; рус. свод, сводчатый потолок. Здзіўляе і ўражвае вышыня скляпенняў Сафійскага сабора ў Полацку. 2. Падвальнае памяшканне; пограб; склеп.

**Скнара**, наз., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ -ы, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Надзвычай скупы, прагавіты чалавек; скупеча; рус. скряга, жадина, скареда;

скопидом. Пра скнару ў народзе скажуць: скнарыца і за трэску пасварыцца.

**Скорам**, наз., -у. ◘ Скаромная (мясная або малочная) ежа; скароміна; скаромніна. Стаяў асобна ў місцы скорам Сяго-таго для верашчакі. Хоць невялікія прысмакі - Цыбуля, перчык, ліст бабкоў Ды сальца некалькі брускоў. К-с.

**Скрозь**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. Усюды, кругом. Скрозь людзі жывуць, і скрозь, дзе няма вайны, жыць можна. 2. прыназ. з В. Праз, цераз нешта; рус. сквозь. Скрозь хмары прабіваўся серп месяца.

**Скронь**, наз., ж. р. ◘ 1. Бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці; рус. висок. Моцна балела галава ў скронях. 2. Валасы, якія растуць на бакавых частках чэрапа. Хоць скроні мае пабялелі, Стаю прад табой [мамай] я малым. Г. Б.

**Скруха**, наз., ж. р., ДМ скрусе. ◘ Туга, маркота; жаль, шкадаванне; рус. печаль, тоска. Бацька думаў, бацька слухаў і пачаў з вялікай скрухай: Вы пры мне раслі ўсе трое. Ці ж вучыў я вас на злое?...У. Д.

**Скрыгат**, наз., м. р., -у. ◘ Рэзкі гук, які ўзнікае пры моцным трэнні прадметаў адзін аб адзін; рус. скрежет. Скрыгат зубоў.

**Скрыгатаць**, -гачу, -гочаш, -гоча; незак. ◘ 1. Утвараць гукі скрыгату; рабіць скрыгат нечым; рус. скрежетать. Скрыгатаць зубамі ад болю. 2. Выказваць нездавальненне, злосць. Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі — Любі сваю ніву, свой край. К-а.

**Скрыжаванне**, наз., н. р. ◘ Месца, дзе скрыжоўваюцца дарогі, вуліцы і пад.; наогул месца, дзе перасякаецца нешта нечым; рус. перекрёсток; пересечение.

**Скрыня**, наз., ж. р. ◘ 1. Вялікая чатырохвугольная (звычайна драўляная) пасудзіна для складвання ці ссыпання нечага. Зерне засыпалі ў скрыню. 2. Драўляная пасудзіна з вечкам і замком для захоўвання рэчаў, каштоўнасцяў; куфар; рус. сундук. А маці скрыню пакавала І дробязь розную збірала. К-с.

**Скрыжаль**, наз., ж. р. Кніжн. ◘ 1. Дошка, пліта з напісаным на ёй тэкстам. У Бібліі расказваецца, як Бог явіўся прароку Маісею і даў яму дзве каменныя пліты — скрыжалі, на якіх былі напісаны дзесяць запаведзяў, дзесяць законаў вечнасці для ўсіх людзей. 2. звычайна мн. (скрыжалі, -яў). перан. Пра тое, што захоўвае, куды занесены памятныя падзеі, даты, імёны і пад. І славу тую, што ўпісалі мы ў гістарычныя скрыжалі, наш горад панясе ў вякі. М. М. Таемны вы, зямлі скрыжалі! Чаго ў сябе вы не ўлісалі! К-с.

**Скрыпень**, наз., м. р., -ю. ◘ Высокая травяністая расліна з мяцёлкай пурпурна-ружовых або белых кветак і пушыстым насеннем; рус. иван-чай. Гэта здрыжнічкі, -казала бабуля, — гэта ястрэц, а вунь, на выжарыне, скрыпень зацвітае. Гэта во драсён, а гэта братаўка... У. А.

**Скупеча**, наз., м. і ж., -ы. Разм., неадабр. ◘ Скупы чалавек. А шчодры, сабраўшы бяседу, Суседзяў частуе; Скупеча пакажа суседу Кішэню пустую. Я. Н.

**Славуты**, прым. ◘ Агульнавядомы, праслаўлены; папулярны; рус. знаменитый, известный. Славуты фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфераў вучыўся ў школе № 42 г. Мінска.

**Сланечнік**, наз., м. р., -у. ◘ Аднагадовая травяністая расліна з буйным жоўтым суквеццем на высокім сцябле, а таксама насенне гэтай расліны, якое ядуць як ласунак; рус. подсолнечник. Са сланечніку вырабляюць алей.

**Слодыч**, наз., ж. р. ◘ 1. Салодкі смак; рус. сладость. Слодыч вінаграду. 2. перан. Прыемнае адчуванне; асалода, задавальненне; рус. наслаждение. І здаецца ім, што слодыч разліваецца на сэрцы. І нічога ім не шкода, бо цяжкое ўсё мінецца [пра ігру мызыкі]. У. Д.

**Слоўнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Кніга, у якой сабраны і размешчаны ў алфавітным парадку словы з тлумачэннем або перакладам на іншую мову; рус. словарь. Тлумачальны слоўнік. Арфаграфічны слоўнік. 2. Сукупнасць слоў, якія выкарыстоўваюцца некім або недзе; лексіка. Узбагачэнне слоўніка дзяцей. Паэтычны слоўнік Коласа. □ Якіх толькі Не навыдавалі слоўнікаў. ...А да гэтага часу Не маем слоўнікаў Рэк, азёр, Лясоў, звяроў, Птушак, рыб Можа, таму Паміж імі і намі Столькі Нявырашаных спраў, Прыкрых непаразуменняў І трагічных памылак. М. Т.

**Слуп**, наз., м. р., -а. ◘ Бервяно або брус, умацаваныя вертыкальна; рус. столб. Тэлеграфны слуп. ♦ Стаяць слупам (як слуп) — знаходзіцца ў здранцвенні ад нечаканасці; назаляць нерухомасцю (звычайна з бяздумным выглядам).

**Слушны**, прым. ◘ Разумны; абгрунтаваны; карысны; рус. дельный. Слушная прапанова. Слушная парада. □ Каб слушную даць параду, Трэба ведаць, Хто і з кім будзе абедаць. А. В-і.

**Смага**, наз., ж. р., ДМ смазе. ◘ Моцнае жаданне піць; рус. жажда. [Газель:] — Ніякі лямант нам не дапаможа. Мы маем капыты ці кіпцюры і працаваць нядрэнна імі можам. Нам трэба выкапаць вялікі стаў. Bada і.з'явіцца, спатоліць смагу. У. Д.

**Смажыць**, -жу, -жыш, -жыць; незак. ◘ Гатаваць на агні (мяса, рыбу, грыбы і пад.); рус. жарить, поджаривать. Смажыць яечню, мяса.

**Смак**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Адчуванне, якое ўзнікае ў выніку раздражнення слізістай абалонкі языка рознымі рэчывамі; рус. вкус. Здольнасць успрыняць ежу на смак — адно з пяці знешніх пачуццяў.

□ Дастаўшы праснак, са смакам ён з'еў
што матуля паклала, яшчэ ладны кавалак. У. Д.

2. Якасць, уласцівасць ежы, якая адчуваецца ў час яды.

- Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?
- Паскудства, брат, і не пытайся! К-с.

3. Задавальненне, ахвота; цікавасць, схільнасць да нечага; сэнс, сутнасць нечага. Працуем і смак чуем. Прык. (рус. Умелые руки не знают скуки).

Сказаў Міхал нібы гняўліва: — Ось возьмем стрэльбы, пойдзем жыва Ды хоць у смак папастраляем І ўсіх глушцоў паразганяем! К-с.

**Смактаць**, смакчу, смокчаш, смокча; незак. ◘ 1. Губамі і языком уцягваць у рот нейкую вадкасць праз вузкую адтуліну; рус. сосать. Касманаўты смакталі з трубкі вадкую ежу. 2. Карміцца мацярынскім малаком, уцягваць яго ў рот з грудзей (пра дзіця.) ці вымені (пра дзіцяня жывёліны). Бездапаможныя медзведзяняты смакталі мацярынскае малако. 3. Узяўшы нешта ў рот, рабіць смактальныя рухі языком і губамі. Смактаць соску. Мядзведзь зімой смокча лапу. 4. Выклікаць тупы боль ва ўнутраных органах. Смактаў голад. Смактала пад грудзьмі. 5. перан. Прыносіць пакуты, мучыць. Крыўда смокча сэрца. Смактала туга па радзіме.

**Смалярня**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства, на якім здабываюць смалу, шкіпінар, вугаль з драўніны хваёвых дрэў пры награванні без доступу паветра; смалакурня. Калісьці тут была смалярня.

**Смачны**, прым. ◘ Прыемны на смак, апетытны; рус. вкусный. Замерлі хлопцы, а ні зыку: Мінута важна і вяліка; Глядзяць на дзядзьку і чакаюць І дзядзьку поглядам пытаюць: «Ну як? ці смачны? ці салодкі?» К-с. 2. Які прыносіць задавальненне, прыемны (пра сон); рус. сладкий. Сон быў смачны, салодкі і глыбокі. 3. перан. Каларытны, сакавіты. Смачнае, трапнае слова.

**Сметнік**, наз., м. р., -а. ◘ Месца, куды выкідаюць смецце, непрыгодныя і непатрэбныя рэчы; рус. свалка. Кожны певень на сваім сметніку гаспадар. Прык. Варона гонар свой збаўляе, Ды зноў да сметніка вітае... К-с. ♦ Выкінуць грошы на сметнік — змарнаваць,

дарэмна патраціць. ♦ Капацца ў сметніку — займацца разборам нейкай непрыемнай справы.

**Смецце**, наз., н. р. ◘ 1. Дробныя адкіды, рэшткі нечага, якія забруджваюць дамы, вуліцы ; пад.; рус. мусор, сор. Адзін мудрэц шукаў добрую жонку для свайго гаспадара і аб'явіў, што будзе мянящь слівы на смецце... 2. Нешта непатрэбнае, лішняе, шкоднае. Трэба за розум брацца і выкінуць смецце з галавы. У парахні дабра няма, заўсёды смецце будзе смеццем. У. Д.

♦ Выносіць смецце з хаты (дому) — рабіць вядомым тое, чаго не павінны ведаць іншыя.

**Смуродны**, прым. ◘ Які дрэнна пахне, смярдзіць; рус. смрадный.

Расліна не такая,
як добрыя ўсе зёлкі:
смуродная, брыдкая,
а смак атрутны, ёлкі.

Да нашых дзён яе ўсе
завуць цыкутай людзі.
Хто б толькі ні наеўся -
жывым ужо не будзе. У. Д.

**Смутак**, наз., м. р., смутку. ◘ Пачуццё суму, маркоты, жалю; рус. грусть, печаль, тоска, кручина.

**Смуткам** бядзе дапаможаш ты мала. Вось і махнуў ён на смутак рукою. Добрай вячэрай сябе супакоіў. У. Д.

**Снеданне**, наз., н. р. ◘ 1. Ранішняя яда; сняданак; рус. завтрак. I чуць што толечкі разднела, У маткі снеданне ласпела, Але яе ўсе падганяюць, Барзджэй рассыпацца жадаюць, Каму куды і ў чым хто здольны — Дзянёк прыдасца часам вольны. К-с. 2. Ежа, прызначаная для ранішняй яды; рус. завтрак. [Ліса Льву:] — Я так і падзялю, як вучыць звычай даўні: ка'зу тваю даю табе я на сняданне. А зайца — на абед, аленя — на вячэру. У. Д.

**Снежань**, наз., м. р., снёжня. ◘ Дванаццаты месяц каляндарнага года; рус. декабрь. Снежань зіму пачынае, а год канчае. З нар. Мароз у снежні і снег вышэй хаты — будзе год багаты. З нар. Снежань сцюжны з зімою дружны. З нар.

**Сорам**, наз., м. р., -у. ◘ Пачуццё моцнай збянтэжанасці, няёмкасці, хвалявання ад усведамлення непрыгожасці свайго ўчынку; рус. стыд. Сорам не воран — вочы не выдзеўбе. Прык. (рус. Стыд не дым, глаза не выест). Сорамна, прысл. ◘ 1. Брыдка, няёмка; рус. стыдно. Сорамна выракацца свайго, роднага. 2. безас. у знач. вык. Стала сорамна усім, як дазналіся аб тым, што увесь пачаўся бой ад гарошынкі малой... У. Д.

**Спаборніцтва**, наз., н. р. ◘ Імкненне перамагчы ў спорце ці іншай дзейнасці, выявіць перавагу над некім у працы, у дасягненні нечага; рус. соревнование.

**Спавядацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ Быць на споведзі ў царкве, прызнаваць свае грахі і шчыра каяцца ў іх; рус. исповедоваться. Мужчыны загадзя пабрыліСь, Вадою цёплаю памыліСь, Бо трэба ж ім было сабрацца Паехаць ў цэркву спавядацца. К-с.

**Спагада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Спачуванне некаму ў сувязі з нечым; добразычлівыя адносіны да некага, маральная падтрымка; спагаданне; рус. сочувствие. [Дзяцел Саве:] — Ты заспявай, дазнаюся цяпер, чаму няма спагады да цябе. У. Д. 2. Літасць да некага; спагаданне. Спагада ворагу, літасць да былога крыўдзіцеля ёсць найвышэйшае праяўленне чалавечнасці.

**Спадабацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ І.Выклікаць пачуццё сімпатыі да сябе; рус. понравиться. А дзяўчына жыта жала Ды на Яся паглядала. Ці ты Ясь, ці ты не? Спадабаўся ты мне. З нар. песні. 2. Быць даспадобы. Абед сладабаўся. Прафесія настаўніка спадабалася.

**Спадарожнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Чалавек, які ідзе або едзе разам з некім, знаходзіцца разам у дарозе; рус. попутчик. Гаваркі спадарожнік. 2. Той, хто разам з некім ідзе жыццёвай дарогай; рус. спутник. Выбар спадарожніка жыцця, бадай, самы складаны для кожнага чалавека. 3. Нябеснае цела, якое рухаецца вакол планеты, зоркі. Спадарожнік Зямлі — Месяц.

**Спадзяванне**, наз., н. р. ◘ 1. Чаканне нечага, што павінна адбыцца, здзейсніцца, надзея на нешта; спадзеў; рус. надежда. Спадзяванне на лепшае ратуе чалавека ў цяжкія моманты жыцця. □ Міхал пытае, а ў самога Купіць зямлю ахвоты многа, І вочы поўны спадзявання, Што ім тут будзе панаванне. К-с. 2. Пра чалавека, на якога ўскладаюць свае надзеі. Дзеці — спадзяванне бацькоў.

**Спадзявацца**, спадзяюся, спадзяёшся, спадзяёцца; незак. ◘ Мець надзею, спадзяванне, разлічваць на нешта, чакаць нечага. Не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца. Прык. (рус. Человек предполагает, а Господь располагает).

**Спадкаемец**, наз., м. р., -мца. ◘ 1. Асоба, якая атрымала спадчыну або мае права на яе; наследнік; спадчыннік. 2. перан. Той, хто працягвае чые-небудзь традыцыі, справу. Скарынавы спадкаемцы С. Будны і В. Цяпінскі.

**Спадніца**, наз., ж. р. ◘ Жаночае адзенне, а таксама частка сукенкі ад таліі ўніз; рус. юбка. Насіць кофту і спадніцу.

**Спадчына**, наз., ж. р. ◘ 1. Маёмасць, гаспадарка, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць ва ўласнасць нашчадкаў ці іншых наследнікаў; рус. наследство. [Бацька:] — Зарабіў ты добрай справай Мець і спадчыну па праву. Вось затым усё, што маю, Я

табе і даручаю! У. Д. 2. Наогул пра ўсё тое, што пераходзіць ад папярэдніх пакаленняў да наступных; айчына, бацькаўшчына, радзіма. Ад прадзедаў спакон вякоў Мне засталася спадчына. Паміж сваіх і чужакоў Яна мне ласкай матчынай. К-а. 3. Пра ўласцівасці, схільнасці, пачуцці, справу, майстэрства, якія перадаюцца папярэднікамі. З песняй той да Радзімы любоў Назаўжды дасталася мне ў спадчыну. У. Н. Сваё будаўнічае майстэрства цесляры звычайна перадавалі ў спадчыну нашчадкам. «Помнікі.» 4. Здабыткі культуры і мастацтва, якія ўспрыняты ад папярэдніх дзеячаў, ад мінулых часоў. Багатая спадчына Купалы, Коласа, Багдановіча — наша нацыянальная класіка.

**Спагнаць**, -ганю, -гоніш, -гоніць; зак. ◘ 1. Прымусіць заплаціць; атрымаць нешта ад некага прымусова; рус. взыскать. Спагнаць доўг. 2. Атрымаць задавальненне ад нечага дасягнутага; рус. удовлетворить, утолить. Спагнаць голад. 3. Атрымаць задавальне'нне, выліўшы свой гнеў, кепскі настрой на некага; рус. выместить, сорвать. Спагнаць злосць на нявінным і безабаронным чалавеку — забрудзіць сваю душу, учыніць грэх.

**Спажывец**, наз., м. р., -ўца. ◘ 1. Асоба абр арганізацыя, якія спажываюць нешта (прадукты вытворчасці, энергію, сыравіну і пад.); рус. потребитель. Замежныя спажыўцы прадукцыі Салігорскага калійнага камбіната. 2. Пакупнік. Абарона правоў спажыўца.

**Спажытак**, наз., м. р., -тку. ◘ 1. Рэчы, маёмасць; харчаванне, ежа; рус. питание, пища. Тры сыны былі у мамы, тры сыны былі у таты. Разумелі ўжо і самі, што пара шукаць занятак. Бо адкуль бацькі старыя будуць браць для іх спажытак? У. Д. 2. перан. Карысць, каштоўнасць; рус. польза. Спажытак ад мастацтва, сцвярджае «Апокрыфам» М. Багдановіч, — такая ж рэальная рэч, нібы карысць ад хлеба. А. Л. 3. Карыстанне. «На добры спажытак, на добрае здароўе!» — так скажуць на Беларусі, даючы ці прадаючы нешта.

**Спазнаць**, -знаю, -знаеш, -знае; зак. ◘ 1. Ахапіць розумам, асэнсаваць нешта; рус. постичь. Спазнаць усе складанасці навукі. 2. Адчуць, пазнаць нешта на ўласным вопыце, перанесці, перажыць; рус. изведать. Людзі спазналі гора ў гады акупацыі.

**Спазненец**, наз., м. р., -нца. ◘ Той, хто прыйшоў, прыехаў, з'явіўся пазней, чым трэба; хто не паспеў зрабіць нешта своечасова; рус. опоздавший. Ужо ішло пытанне аб самай лепшай зёлцы. Аж раптам на паляне з'явіліся спазненцы. Стакротка і Шыпшына

прыйшлі на сход з Чаборам. Уся да іх сябрына звярнулася з дакорам... У. Д.

**Спазніцца**, спазнюся, спознішся, спозніцца; зак. ◘ 1. Прыйсці, прыехаць, з'явіцца пазней, чым трэба; рус. опоздать. Цягнік спазніўся. 2. Настаць, надысці, пачацца са спазненнем. Вясна сёлета спазнілася. 3. Не паспець зрабіць нешта своечасова. І дзядзька зараз абудзіўся, У вокны глянуў — мо спазніўся.

- Ой, трэба ж борзда абувацца
І з малацьбою паспяшацца... К-с.

**Спакваля**, прысл. ◘ Паступова, патроху; марудна, павольна; спадцішка; рус. исподволь. Хвароба налучыла спакваля.

**Спакуса**, наз., ж. р. ◘ Прывабнае, прынаднае, што выклікае неадольнае жаданне карыстацца, уладаць ім і што з часам уладарыць самім чалавекам; рус. соблазн. Кожнаму чалавеку, а маладому асабліва, намнога лягчэй вытрымаць выпрабаванне нягодамі, чым спакусамі. Незвычайнай духоўнай сілай валодае той, хто прайшоў каля спакусаў і вытрымаў выпрабаванне імі — не паддаўся ім. □ Гора свету ад спакусаў ... гора таму чалавеку, праз якога спакусы праходзяць. З Евангелля. ... Міх ал ужо разгладжваў вусы. - Асцерагайся ж ты спакусы: Прыйдзі хоць раз дадому ў часе! — Звярнулась жонка да Міхася. К-с.

**Спакушаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Прывабліваць нечым прынадным, прыемным; адыгрываць ролю спакусы, захапляць, браць у палон; рус. соблазнять. Спакушаць раскошай, багаццем, лёгкім жыццём.

□ А русалкі, стаўшы ў кола, спакушаюць хлопца, зводзяць, свой дзівосны і вясёлы карагод ля хлопца водзяць. У. Д. 2. Падгаворваць, падбіваць на нешта нядобрае. І што яшчэ горш, спакусіў на благі ўчынак і легкадумнага таварыша свайго — Барадатага. М. Л.

**Спакуснік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто спакушае некага на нешта кепскае; звадыяш; рус. соблазнитель.

**Спалатнелы**, прым. ◘ Які стаў бледным, падобным на палатно (ад страху, здзіўлення і пад.); рус. побледневший, как полотно.

**Спалатнець**, -ею, -ееш, -ее; зак. ◘ Стаць бледным, падобным на палатно (ад страху і пад.); рус. побледнеть, как полотно. Аж спалатнеў вяльможны Пых. А сто рублёў даў — залатых. У. Д. Потым дастала кіёчак з паркана: ехаць на ім яна будзе да пана. Зайца ад бацькі ўзяла і — пад паху. Бацька стаіць, спалатнеўшы ад страху. У. Д.

**Спалох і сполах**, наз., м. р., -у. ◘ Раптоўнае адчуванне страху; гіерапалох, агульная трывога, хваляванне; рус. испуг, переполох. Узняўся спалох, пачалася паніка.

**Спалохаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ Выклікаць у некага пачуццё страху, прымусіць баяцца нечага; рус. испугать. Смелага пагрозамі не спалохаць.

**Спалучыць**, -лучу, -лучыш, -лучаць зак. ◘ Аб'яднаць, злучыць адно з другім; сумясціць; рус. сочетать, совместить. Нельга спалучыць неспалучальнае: дабро і зло, праўду і няпраўду, высакароднае і мярзотнаё.

**Спапяліць**, -лю, -ліш, -ліць; зак. ◘ 1. Спаліць дашчэнту, поўнасцю;ператварыць у попел; рус. сжечь дотла. Славуты домік песняра Фашысты спапялілі. А. Ал. 2. у перан. ужыв. Спапяліў бы душу чырванцом тваім я! Гуслям, княжа, не пішуць законаў. К-а.

**Спарыш**, наз., м. р., -а. ◘ 1.Два спараныя прадметы (пра плады, арэхі, расліны і пад., якія зрасліся). Два арэхі, што зрасліся, два каласы, што выраслі на адной сцябліне, называюць спарышамі. 2. Два гліняныя гаршчочкі, злучаныя агульнай ручкай, у якіх бралі яду ў поле. У адной руцэ спарышы — снеданне дзеду. У другой — пучок вярбы. М. Л.

**Спас**, наз., м. р., Спаса. ◘ 1. Збавіцель, адна з назваў Ісуса Хрыста; абраз з вобразам Хрыста, а таксама царква ў імя Хрыста-Збавіцеля. 2. Назва кожнага з трох асенніх хрысціянскіх свят. Першы Спас — Мядовы; другі — Яблычны; трэці — Нерукатворны; адзначаюцца адпаведна 14, 19 і 29 жніўня. □ Тым часам Спас святы мінуўся, І лес у чырвань апрануўся. Дрыжаць у золаце асіны, І гнуцца кісці верабіны. К-с.

**Спасылка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Цытата, вытрымка аднекуль або ўказанне крыніцы, на якую спасылаюцца ў тэксце; рус. ссылка. . Цытата заўсёды суправаджаецца спасылкай на аўтара.

**Спатканне**, наз., н. р. ◘ І.Сустрэча з некім, нечым пры руху з супрацьлеглых бакоў; рус. встреча. 2. Сустрэча з некім у час яго прыходу, прыезду. Сяброўскае спатканне. □ Рашалі розныя пытанні Наконт сяброўскага спаткання... К-с. 3. Сустрэча з некім, хто знаходзіцца ў турме, бальніцы; рус. свидание. Пакой для спатканняў. 4. Сустрэча закаханых па ранейшай дамоўленасці. Запрасіць на спатканне.

**Спаткацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ 1. Трапіцца некаму насустрач; сысціся з некім, рухаючыся з розных бакоў; рус. встретиться. 2. Сысціся для сумеснага правядзення часу, па справе і

пад.; убачыцца з некім. Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам. Прык. (рус. Нашла коса на камень).

**Спахапіцца**, спахаплюся, спахопішся, спахопіцца; зак. ◘ 1. Раптоўна ўспомніць пра нешта; раптам заўважыць памылку, недагляд; схамянуцца; рус. спохватиться. 2. Падхапіцца. Спахапіцца ад стуку ў акно.

**Спатоліць**, спатолю, спатоліш, спатоліць; зак. ◘ Заспакоіць, задаволіць (патрэбы, смагу, голад, жаданне і пад.); наталіць; рус. утолить. Слатоліць смагу. Спатоліць голад.

**Спачатку**, прысл. ◘ 1.У першы момант; рус. сначала. Спачатку любая справа здаецца складанай, але, як у народзе кажуць, чаго вочы баяцца, тое рукі зробяць. 2. Перш за ўсё, папярэдне, раней. Пачынаем дзень спачатку Фізкультурнаю зарадкай. Раз — напева, два — направа, Крок наперад, крок назад. А. Ал. 3. Яшчэ раз; зноў. Не атрымалася -пачні спачатку!

**Спачуванне**, наз., н. р. ◘ Спагадлівыя адносіны да чыйго-небудзь гора, няшчасця; спагада, падтрымка; рус. сочувствие. ЁН [Міхал]хоча сцішыць жудасць тую, Ён прагне чуць душу жывую… А вочы просяць спачування, Жывога слова, спагадання. К-с.

**Споведзь**, наз., ж. р. ◘ 1. Пакаянне ў сваіх грахах перад святаром і дараванне, адпушчэнне ім грахоў; рус. исповедь. Споведзь і святое прычасце, як і хрышчэнне, — важнейшыя элементы хрысціянскай веры. 2. перан. Шчыры расказ пра ўласнае жыццё; прызнанне сваіх грахоў і памылак.

**Сподак**, наз., м. р., -дка. ◘ Невялікая талерка, на якую ставіцца кубак або шклянка; рус. блюдце. Сунічнае варэнне падалі на сподку.

**Справа**, наз., ж. р. ◘ 1. Праца, занятак, работа; рус. дело. ...І шчыра руціцца пра тое, каб жыць ціха, рабіць сваю справу і працаваць сваімі ўласнымі рукамі. З Евангелля..Якая справа, такая і слава. Прык. (рус. По труду и честь). 2. Дзейнасць (насуперак думкам, словам); учынак. Раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» — гэта гімн чалавеку справы — працаўніку. Настойліва даводзіць пісьменнік-філосаф, што чалавек па сваёй прыродзе прагне справы, што ў справе ён рэалізуе сябе, свой прыродны талент і стварае ўмовы для годнага жыцця, што справа і толькі справа выратуе душу чалавека ад злому і вынішчэння ў самыя крытычныя моманты. 3. Пытанні, якія патрабуюць вырашэння; нейкая патрэба. [Антось:] — Рабіць тут трэба — адно слова, Не то, што — цуп-луп! — і гатова, Бо гэта справа — не пустая; Людскі ж язык касцей не мае. К-с. 4. Загадка, таямніца, схаваны сэнс; прычына нейкай з'явы, здарэння, якая патрабуе высвятлення.

Адразу хлопцы схамянулісь, Што ў нечым моцна абманулісь, І стала болей ім цікава, У чым тут сіла тая, справа. К-с. 5. Абставіны, становішча, стан некага, нечага; рус. положение. Да дактароў ужо па часе Вазілі хворага Міхася... К-с. Піў зёлкі розныя і травы, Ды не палепшваў свае справы. 6. Праблема.

...Усё гэта часам памагае
Зірнуць на справу іншым вокам
І падысці да яе бокам.
І стала ясна з той размовы,
Якія цяжкія ўмовы -
Няхай іх людзі лепш не знаюць -
Прадаць зямельку прымушаюць. К-с.

7. Рэч, факт.

Наогул хата — справа дробна,
Абы зямля была ўпадобна.
Міхал яшчэ раз кінуў вокам.
Э, хата — глупства: лес пад бокам. К-с.

♦ Ваша справа — вам вырашаць, гэта вас датычыцца.

♦ Вядомая справа — зразумела, бясспрэчна.

♦ Такая справа — вось у чым справа, у чым сэнс, сакрэт, разгадка.

-А справа, бачыце, такая, — Антось тут сам пачаў тлумачыць, — Была паводка гэта, значыць... К-с.

♦ Зробіць (сваю) справу — прывядзе да выніку, поспеху, мэты і пад.

Казка хутка робіць справу, пра музыку ходзіць слава. У. Д.

**Справаздача**, наз., ж. р. ◘ Пісьмовае або вуснае афіцыйнае паведамленне кіраўніку ці арганізацыі пра сваю працу, выкананне задания, вынік даследавання нечага і пад.; дакумент аб выкарыстаных сродках; рус. отчет. Для рапартоў і справаздачы, Угнуўшы хвост той па-сабачы, Ішлі аб'ездчыкі асобна Пра ўсё паведаміць падробна: Якія дзе былі здарэнні, Ці непарадкі, папушчэнні: Як леснікі, яго падпаскі, Свае спраўлялі абавязкі, Дзе і ў каго былі парубкі, Каб мець прычыну дзеля ўзлупкі. К-с.

**Спрадвеку**, прысл. ◘ З даўніх часоў, здаўна; заўсёды; рус. спокон, издавна. Было спрадвеку, слова, ты Крыніцай цудадзейнай сілы. Р. Б. Неаднолькавыя дзеці, неаднолькава ішчасце. Так спрадвеку ўсё на свеце падзялялася на часці. У. Д.

**Спрадвечны**; прым. ◘ Які ідзе здаўна, ад вякоў, не перастае існаваць; старадаўні; адвечны; рус. извечный. Адно з самых недаравальных злачынстваў сталіншчыны — ліквідацыя традыцыйнай

хрысціянскай маралі, спрадвечнай сістэмы ... жыццёвых правілаў. В. Б.

**Спраўны**, прым. ◘ 1. Які не мае пашкоджанняў; прыгодны для выкарыстоўвання; рус. исправный. Спраўны матор. 2. Старанны, добрасумленны; рус. ловкий, расторопный. Спраўная гаспадыня. 3. Удалы, прыгожы, здаровы; рус. видный, представительный. Спраўны хлопец. 4. Зручны ў карыстанні; рус. удобный. Спраўны таўкачык.

**Спрачацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Весці спрэчкі; пярэчыць некаму, даказваючы нешта; выступаць супраць нечага, не згаджаючыся з нечым; рус. спорить.

Я спрачацца не бяруся, — шмат азёр на Беларусі,

але лепшае, чым Кромань, мне, папраўдзе, невядома... У. Д.

2. Сапернічаць з некім, нечым, не ўступаць у нечым. Азёры, бары, Хоць ты з раем Спрачайся, Партызанскі мой край! Р. Б.

**Спроба**, наз., ж. р. ◘ 1. Намер, намаганне зрабіць, ажыццявіць нешта без упэўненасці ў поспеху; рус. попытка. Спроба — не хвароба. Прык. (рус. Попытка не пытка, а спрос не беда). І дзядзька наш стаў прыглядацца, Ў каго б дарогі запытацца, Бо ён зрабіў адну ўжо спробу, Спытаў чумазую асобу, Ды тая так яму сказала, Што лепш бы ёй няхай зарвала! К-с.

2. Праверка, выпрабаванне; рус. испытание. Спроба новай аўтаматычнай лініі.

□ Агледзеў дзядзька ўсю аздобу, Тады зрабіў павозцы спробу. Калёсы легка закруціліс, З вясёлым гукам пакаціліс, Пайшлі ў хаду раўнютка, гладка, Як з маслам першая аладка. К-с.

3. Праверыць даследаваннем, дакрананнем, на смак і пад.; рус. проба. Узяць ваду на спробу.

□ І паглядзець было цікава, Як дзядзька шчыра і ласкава Касу на рынку выбірае! Якіх ён спроб там не ўжывае! К-с.

**Спрытны**, прым. ◘ 1. Лоўкі, паваротлівы; які валодае ўменнем у нейкай справе. Сам высокі, спрытны, стройны, да работы ўсякай здольны. Ён [хлапчына] у лесе ці у полі гультаём не быў ніколі... У. Д. 2. Пра рукі, пальцы. Спрытныя рукі мацнейшыя за дужыя. 3. Акуратны, зграбны, прывабны, прыгожы. ...Ну, нос кароткі і таўсматы, Ды досыць спрытны, хоць кірпаты. К-с. 4. Добры, зручны ў карыстанні (пра рэчы, предметы). Спрытны парасон.

**Спрыяць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ 1. Садзейнічаць, дапамагаць; праяўляць добразычлівасць да некага. За дзядзьку людзі просяць Бога: Каму ён толькі не спрыяе, Каго з бяды не вызваляе! К-с.

2. Садзейнічаць развіццю, узнікненню нечага; быць прычынай нечага; рус. способствовать. Станаўленню светапогляду юнага чалавека спрыяюць любоў блізкіх людзей, прыклад бацькоў і дарослых. Надвор'е спрыяе ўраджаю.

**Спрэчка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ 1. Абмеркаванне нечага паміж дзвюма або некалькімі асобамі, у часе якога кожная з іх адстойвае сваё меркаванне; рус. спор. Спрэчка — не сварка: у спрэчкі ёсць свае законы і правілы. 2. Разм. Сварка, разлад; рус. ссора. Яны [агонь, вада, вецер] ўступілі трое ў спрэчку між сабою, крычаць, шумяць, трасуцца ды за чубы бяруцца. А. Дз. 3. Публічнае абмеркаванне нейкіх пытанняў; рус. прения. Выступіць у спрэчках па дакладзе.

**Спытаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Задаць некаму пытанне, каб даведацца пра нешта; звярнуцца да некага з пытаннем; папытацца; рус. спросить. «Высцерагайся ты дарогі блізкай», — не раз казаў нам наш мудрэц індыйскі. Я лепш прайду суседнім пераходам. Спытаўшы броду, я палезу ў ваду... У. Д. 2. Папрасіць нешта; звярнуцца з нейкай просьбай. - Скажы, паночку, як далека Зямельны банк? — Пан кінуў вока На дзядзьку скрыва так і строга: - Спытай аб тым гарадавога! К-с.

**Спякота**, наз., ж. р., ДМ спякоце. ◘ Высокая тэмпература паветра, нагрэтага сонцам; спёка, гарачыня; рус. жара. Калісьці ў Афрыцы была бяда: гарачыня нязвычная, спякота. З крыніц і рэчак знікла ўся вада. Павысыхалі нават і балоты. У. Д.

**Сродак**, наз., м. р., -дку. ◘ 1. Прыём, спосаб дзеяння, захады для дасягнення мэты; рус. средство. Для дасягнення абсалютнай, высокай мэты — захаваць жыццё, уратавацца — Рыбаком, героем аповесці В. Быкава «Сотнікаў», прапаноўваліся несумяшчальныя з мэтай сродкі. Сотнікаву не менш, чым Рыбаку, хацелася жыць, але ён разумеў, што мэта і сродкі несумяшчальныя. 2. Прадмет, прыстасаванне, лекі, медыкаменты, неабходныя для ажыццяўлення пэўнай дзейнасці ці лячэння. Транспартныя сродкі. Казінае малако лічылася найлепшым сродкам пры лячэнні сухотаў, кашлю, болю ў грудзях і наогул ратункам ад усякай знямогі. З нар. Медыцыны. 3. толькі мн. (сродкі, -аў). Грошы, капітал, матэрыяльныя каштоўнасці. Сродкі існавання. Жыць не па сродках.

**Ставок**, наз., м. р., стаўка. ◘ Невялікая сажалка, запруда. Бывав, вада перапоўніць Ставок і праз бераг памкнецца; Калі ж з яго выбежыць лішак, Дык далей вада не бяжыць. М. Б. Які млын, такі і ставок, які бацька, такі і сынок. Прык. (рус. Яблоко от яблони недалеко падает).

**Стагоддзе**, наз., н. р. ◘ Прамежак часу ў сто гадоў; век; рус. столетие. І цяпер, праз сем стагоддзяў, памінаем мы аленя. Не згасаюць у народзе успаміны пра здарэнне. У. Д.

**Стадола**, наз., ж. р. ◘ 1. Уст. Канюшня на заезным двары. Пры гасцінцы стаяла карчма са стадолаю. 2. Хлеў, канюшня. 3. Пра вялікае, няўтульнае памяшканне, жыллё. Але не ў хаце сэнс і сіла. Бо хаце можна раду даць І на свой густ пабудаваць, І хата стане больш вясёла, А не такая, вось, стадола... К-с.

**Стайня**, наз., ж. р. ◘ Канюшня.

♦ Аўгіевы стайні (канюшні) — пра вельмі забруджанае памяшканне, а таксама пра справы, у якіх пануе поўнае бязладдзе, блытаніна (ад грэчаскага міфа пра стайні цара Аўгія, што не чысціліся 30 гадоў і былі вычышчаны за адзін дзень Гераклам, які дадумаўся пусціць праз іх раку).

**Сталы**, прым. ◘ 1. Які дасягнуў паўналецця, дарослы; рус. взрослый. 2. Самастойны, сур'ёзны. Сталы падлетак. 3. Вопытны, які дасягнуў майстэрства ў нечым; рус. маститый. Маладыя і сталыя паэты. 4. Які вылучаецца грунтоўнасцю, майстэрствам. Сталыя вершы.

**Стаміцца**, стамлюся, стомішся, стоміцца; зак. ◘ Адчуць зморанасць; замарыцца, знясіліцца; рус. устать. Стаміліся рукі, абліўся ён потам, а ўсе ж не пакінуў цяжкое работы. У. Д.

**Становішча**, наз., н. р. ◘ 1. Знаходжанне, размяшчэнне некага, нечага ў прасторы; рус. положение. Геаграфічнае становішча Беларусі — у цэнтры Еўропы. 2. Абставіны, умовы. Надзвычай цяжкае становішча беларускага народа ў царскай Расіі. 3. Месца ў грамадстве, роля ў грамадскім жыцці. Сацыяльнае становішча. Сямейнае становішча.

**Станоўчы**, прым. ◘ 1. Які выражае адабрэнне, згоду; рус. положительный. Станоўчая рэцэнзія на спектакль. Станоўчы адказ на пращэнне. 2. Які заслугоўвае адабрэння, мае дадатныя якасці, уласцівасці. Станоўчы прыклад. Станоўчая роля. Станоўчыя рысы.

**Старадаўні**, прым. ◘ Які існуе з далёкіх часоў; які быў характэрны для мінуўшчыны; рус. старинный. Я помню звычай старадаўні: Калі каго ў сяле хавалі, Таму любімыя прылады Заўсёды ў дамавіну клалі. М. Т.

**Старажытны**, прым. ◘ 1. Які даўно прайшоў, мінуў (пра час); рус. древний. Старажытная Беларусь. 2. Які створаны, узнік у далёкім мінулым і захаваўся да нашага часу. Старажытныя паданні. Старажытны Мірскі замак. 3. Вельмі стары. Не, не спіць, не дрэмле Старажытны бор: Ён вартуе землі, Даўні свой прастор. К-с.

**Старанны**, прым. ◘ Дбайны, руплівы; рус. прилежный. Старанны вучань.

**Старац**, наз., м. р., старца. ◘ 1. Тое, што і жабрак. Старцу пажар не страшны. Прык. (рус. Голому разбой не страшен). 2. Стары. Пытае бура старца-дуба: — Чаму цябе я не зламлю? К-с. 3. Манах, духоўны настаўнік вернікаў. Папрасіць парады ў старца.

**Старонка**[1], наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ 1. Адзін з двух бакоў ліста паперы (у кнізе, сшытку і пад.); рус. страница. 2. перан. Перыяд, этап у жыцці, гісторыі, у развіцці нечага. Слаўныя старонкі нашай гісторыі. □ І я тут сам за дзядзьку мушу Назад старонку адгарнуць І аб вясне яго ўздыхнуць, І добрым словам яго душу Яшчэ раз шчыра памянуць. К-с.

**Старонка**[2], наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Памянш.-ласк. да старана. Краіна. Люблю наш край — старонку гэту, Дзе я радзілася, расла, Дзе першы раз пазнала шчасце, Слязу нядолі праліла. К. Б.

**Старшы**, прым. ◘ 1. Вышэйшы па званні, пасадзе, службовым становішчы. Старшая медыцынская сястра. Старшы выкладчык. 2. у знач. наз. старшы. Начальнік. Паставілі старшым на аб'екце. 3. Такі, які блізкі да выпуску, да заканчэння вучобы (пра клас, курс і пад.). Вучні старшых класаў. Студэнты старшых курсаў.

**Старыца**, наз., ж. р. ◘ Старое перасохлае рэчышча; старык. Бурым чаротам цямнее старыца — даўняе, парослае лазой рэчышча ракі. М. Р.

**Старэйшы,** прым. ◘ 1.Той, якому больш гадоў у параўнанні з некім. Старэйшы брат дапамог атрымаць вышэйшую адукацыю: штомесяц прысылаў грошы, каб толькі сястра вучылася і не ведала іншых клопатаў. 2. Які даўно ўзнік, утварыўся. Старэйшы тэатр. 3. Які даўно нечым займаецца; вопытны, спрактыкаваны. Старэйшы вучоны. 4. у знач. наз. старэйшы. Дарослыя, не дзеці. Хлопцы падрасталі і дапамагалі старэйшым.

**Статак**, наз., м. р., -тка. ◘ 1. Жывёлы, якія пасуцца або ўтрымліваюцца разам; рус. стадо. Чалавек адзін нядрэнны меў сады і дом каменны, меў жывёлы рознай статак. Словам — добры меў дастатак. У. Д. 2. Наогул вялікая колькасць якіх-небудзь звяроў, птушак; чарада; рус. стая.

**Статут**, наз., м. р., -а. ◘ І.Звод правілаў, палажэнняў, якія вызначаюць і рэгулююць парадак і прынцыпы дзейнасці, выканання чаго-небудзь; рус. устав. Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. 2. У некаторых краінах Еўропы XIV-XVIII стст. — закон, звод законаў; рус. конституция. Змест Статутаў 1529, 1566 і 1588 гг. Вялікага княства Літоўскага красамоўна сведчыць пра высокі ўзровень

юрыдычнай думкі на Беларусі. Трэці Статут, які канчаткова замацаваў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага, — першая еўрапейская канстытуцыя. Статут перакладаўся на польскую, нямецкую, лацінскую, французскую мовы, выкарыстоўваўся на Русі пры падрыхтоўцы Саборнага ўлажэння 1649 г., у судах Эстоніі і Латвіі.

**Стаў**, наз., м. р., става. ◘ Вялікая сажалка, запруда. — Не будзе стаў вялікі тут для вас, прынамсі, будзе сажалка малая. У. Д.

**Стаўленне**, наз., н. р. ◘ Адносіны да некага, нечага; погляд на нешта; разумение некага, нечага; рус. отношение. Мужчына вызначаецца стаўленнем да жанчыны, да сваёй справы.

**Стварыць**, ствару, створыш, створыць; зак. ◘ 1. Набыць, здабыць працай; напісаць мастацкі ці навуковы твор; скласці; рус. создать. Стварыць добры ва ўсіх адносінах падручнік — здзейсніць подзвіг слова. 2. Пакласці пачатак, падрыхтаваць нешта, зрабіць нешта магчымым. Стварыць умовы для годнага жыцця. 3. Арганізаваць, сфарміраваць; выклікаць з'яўленне нечага, стаць прычынай нечага. Дзяды і бацькі нашу мову стваралі, Каб звонка звінела, была, як агонь. П. Б.

**Столь**, наз., ж. р. ◘ Верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе; рус. потолок. Яна хату бяліла І чароўнай рукой Сцены, столь абвадзіла Васільковай каймой. М. Т.

**Стос і стус**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Роўна складзеныя адзін на адзін рады нечага; штабель. Стос дошак. 2. Пакладзеныя адзін на адзін прадметы; рус. кипа, стопка. Стос паперы. Стос сшыткаў.

**Страва**, наз., ж. р. ◘ 1. Прыгатаваныя для яды прадукты харчавання; яда; рус. пища. Гаворка моўкне, смех сціхае: Цяпер мінуціна другая, Бо ўсіх займае міска стравы; Другія моманты, праявы, Усе пафукваюць ды студзяць І верашчаку тую вудзяць. К-с. 2. Адзін з відаў яды, які падаецца на снеданне, абед ці вячэру; рус. блюдо. Да куцці на Каляды гатуюць яшчэ адзінаццаць страў.

**Стракаты**, прым. ◘ 1. Такі, паверхня якога пакрыта ўзорамі, палосамі, кветкамі, плямамі розных колераў; рознакаляровы; рус. Пестрый. Стракатая тканіна. Стракаты луг. 2. Разнашэрсны, плямісты (пра масць жывёл;) рознага апярэння (пра птушак). Не называлі б людзі так, каб іншы колер меў сіняк! Цяпер, па памяці старой, застаўся ўсё жён з назвай той, хоць многа колераў на ім, хоць стаў стракаты ён зусім... У. Д.

**Страта**, наз., ж. р., ДМ страце. ◘ 1. Знікненне некага, згуба нечага; рус. потеря. Страта апетыту. Убраць ураджай без стратаў. 2. Урон у сувязі са смерцю блізкага, дарагога ці вядомага чалавека. Памёр

ляснічы наш! - Да можа?! — Міхал ускочыў — моцны Божа!.. То пойдзем, браце, Паплачам хоць па сваёй страце. К-с. 3. звычайна мн. (страты, страт). Пра ўрон у час вайны. Помнім бопі і страты свае. Памяць шуміць, як чароты. 4. Прапажа, выдаткі. Страта знайшлася. У гаспадарцы без страт не бывае. О, як нам вас не стае — Кожны чацвёрты! А. В.

**Страўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Орган стрававання чалавека і жывёл; рус. желудок. Памятай, што ў страўніка няма зубоў: старанна перажоўвай ежу.

**Страха**, наз., ж. р., ДМ страсё. ◘ Верхняя частка будынка, звычайна саламяная, якая пакрывае яго і засцерагае ад дажджу, снегу і пад.; рус. крыша. Саламяная страха. □ Бусел, сторaж хаціны, Склаў гняздо на страсе. У. Д.

**Стромкі**, прым. ◘ 1. Круты, абрывісты. Стромкі бераг. 2. Роўны і высокі. Стромкія сосны і яліны.

**Стронга**, наз., ж. р., ДМ -нзе. ◘ Прэснаводная рыба сямейства ласосевых, якая водзіцца пераважна ў горных рэчках і азёрах; рус. форель. Бо ў возеры — вугры, А стронга — у рэчцы. П. П. На Беларусі ў крынічных рачулках захавалася стронга — рэдкая рыба для нашых мясцін.

**Струмень**, наз., м. р., -я. ◘ 1. Вузкі паток вады або нейкай вадкасці; рус. струя. -Я пакажу табе струмень вады гаючай і сцюдзёнай. Каб не спаліў цябе прамень, яна паслужыць абаронай... У. Д. 2. Паток сыпкіх рэчываў. Струмень пяску. У бункеры сыплецца струмень залатога зерня.

**Стрыечны**, прым. ◘ Сын дзядзькі або цёткі; дваюрадны. Стрыечная сястра — дачка дзядзькі або цёткі.

**Стрыманы**, прым. ◘ 1. дзеепрым. ад стрымаць. 2. у знач. прым. Які ўмее валодаць сабой, не выяўляць свае пачуцці; рус. сдержанный. Стрыманы чалавек. 3. Спакойны, тактоўны, не рэзкі (пра рухі, мову, голас).

**Стрымаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Спыніць, запыніць на хаду; затрымаць, запаволіць рух, ход, дзеянне. А вось папробуй на цікавасць Стрымай службовую рухавасць, Служы спусціўшы ракавы І выкінь службу з галавы, — Такія ў лесе выйдуць справы — Пажар, парубкі і патравы — Не адкараскацца ад ліха. К-с. 2. Вытрымаць нейкі цяжар, націск; процістаяць ім; рус. сдержать. Стрымаць раз'юшаны натоўп немагчыма. 3. Утрымаць сябе ад праяўлення нейкіх пачуццяў, ад здзяйснення нейкіх намераў. Стрымаць хваляванне. Стрымаць гнеў.

♦ Стрымаць слова — выканаць абяцанне.

**Стрэмка**, наз., ж. р., ДМ -мцы. ◘ 1. Вострая, тонкая трэска, востры асколак шкла, металу, які залез пад скуру; рус. заноза. 2. перан. Пра надакучлівага і прыдзірлівага чалавека. Ну ж і стрэмка!

**Студзень**[1], наз., м. р., -я. ◘ Першы месяц каляндарнага года; рус. январь. Студзень — году пачатак, а зіме — сярэдзіна. З нар. Студзень пагодны — будзе год плодны. З нар.

**Студзень**[2], наз., м. р., -ю. ◘ Страва з загуслага пры ахаладжэнні мяснога або рыбнага адвару з дробнымі кавалачкамі мяса або рыбы; халадзец; квашаніна.

**Студня**, наз., ж. р. ◘ Калодзеж. Выцягнуць вады са студні. □ Не тады студню капаць, як трэба смагу прагнаць. Прык. (рус. Не тогда собак кормить, как на охоту идти). У студню вады не льюць, а ў лес дроў не вязуць. Прык. (рус. В гости со своим самоваром не ходят).

**Стхарыцца**, стхаруся, стхорышся, стхорыцца; зак. Абл. ◘ Прытаіцца. Каля хаты зяць стхарыўся. Вуха к дзірцы прылажыў. Слухаў ён, не варушыўся, Што цесць жонцы гаварыў. К-с.

**Стэнаграма**, наз., ж. р. ◘ Запіс прамовы, лекцыі і пад. пры дапамозе стэнаграфіі. Стэнаграма даклада.

**Стэнаграфія**, наз., ж. р. ◘ Спосаб хуткага запісу вуснай мовы пры дапамозе асобых знакаў і скарачэнняў.

**Суб'ектыўны**, прым. ◘ 1. Пазбаўлены аб'ектыўнасці, аднабаковы; уласцівы толькі дадзенай асобе. Цэнтралізаванае тэставанне зводзіць да мінімуму суб'ектыўны фактар пры ацэнцы ведаў. 2. Які мае адносіны да суб'екта, чалавека, да яго асобы, дзеяння, паводзін. Суб'ектыўных прычын непрыемнасцяў і няўдач можна пазбегнуць, калі ўсвядоміць свае памылкі і змяніць свае паводзіны.

**Суверэнітэт**, наз., м. р., -у. ◘ Незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яе ўнутраных справах і міжнародных адносінах. Носьбіт вярхоўнай улады з'яўляецца першым ахоўнікам суверэнітэту як найвялікшай каштоўнасці краіны.

**Сугучча**, наз., н. р. ◘ 1. Унутраная адпаведнасць, адзінства, гармонія; рус. созвучие. Сугучча пачуццяў. 2. Паўтарэнне ў вершах падобных спалучэнняў тукаў; падобнае гучанне канцоў вершаваных радкоў; рыфма. Сугучча слоў.

**Суздром**, прысл. Абл. ◘ Зусім, цалкам; начыста, дашчэнту; рус. полностью, до основания, вчистую, дотла. Мы ад зямлі суздром залежым, Як і яна ад нас, людзей... Н. Г.

**Сукенка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Жаночае адзенне, верхняя частка якога (кофта) складае адзінае цэлае з ніжняй (спадніцай); сукня; рус. платье. Шлюбная сукенка.

**Сумленне**, наз., н. р. ◘ Ацэнка сваіх дзеянняў і ўчынкаў, пачуццё адказнасці за свае паводзіны перад людзьмі, сям'ёй; рус. совесть. І калі талент — ад Бога, дык сумленне ... ад нашае чалавечае волі. В. Б. Сумленне — заўсёды на лаўцы падсудных. Само сябе садзіць, само сябе судзіць. Тым самым ратуе яно сваю сутнасць. А. В.

♦ З чыстым сумленнем — пра таго, хто зрабіў другому так, як хацеў бы, каб яму зрабілі людзі. Ты, мой сыне самы меншы, скарб прынёс найдаражэйшы: не каштоўнае каменне, але чыстае сумленне. У. Д.

**Сумота**, наз., ж. р., ДМ сумоце. ◘ 1. Пачуццё смутку, жалю, душэўнай горычы; журба; сум; рус. печаль. 2. Душэўная трывога ў спалучэнні са смуткам, маркотай; нуда; туга; рус. тоска. Псалмы ўсялякія хваробы душы і цела лекуюць, душу сэнсам асвятляюць, гнеў і ярасць утаймоўваюць, мір і спакой чыняць, су моту адганяюць, людзей у прыязнасць вяртаюць, ласку і міласць мацуюць, бесаў адганяюць, анёлаў на дапамогу заклікаюць. Ф. С.

**Суніцы**, наз., адз. суніца, ж. р. ◘ Травяністая ягадная расліна з белым! кветкамі і духмянымі ружова-чырвонымі ягадамі, а таксама ягады гэтай расліны; рус. земляника. Адцвілі суніцы. Збанок суніц.

**Суполка**, наз., ж. р., ДМ -лцы. ◘ Група людзей, якія ставяць сабе нейкія агульныя задачы і разам іх вырашаюць, робяць адну справу; арганізацыя; аб'яднанне. Выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». □ Муж і жонка — найлепшая суполка. Прык. (рус. Муж и жена — одна сатана).

**Супрацоўнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Той, хто працуе разам з кімсьці; калега; рус. сотрудник. 2. Той, хто працуе ў нейкай установе; служачы. Супрацоўнікі інстытута.

**Супрацоўнічаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Працаваць сумесна з некім; рус. сотрудничать. Супрацоўнічаць з рэдакцыяй часопіса. 2. Быць супрацоўнікам нейкай установы або органа друку.

**Супрацьлеглы**, прым. ◘ 1. Размешчаны насупраць; які вядзе, ідзе ў адваротным кірунку; рус. противоположный. Супрацьлёглы бераг. 2. Які супярэчыць нечаму, адрозніваецца ад нечага, не сумяшчальны з нечым. Розум і подласць -панянцці супрацьлеглыя.

**Супярэчлівы**, прым. ◘ У якім няма адпаведнасці, узгодненасці; у якім адно выключае другое (пра пачуцці, думкі, учынкі, якасці чалавека і яго самога); рус. противоречивый. Супярэчлівая натура. Супярэчлівыя пачуцці. Супярэчлівыя паказанні.

**Сурвэтка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ 1. Кавалак тканіны або паперы для засцеражэння вопраткі ў час яды, стрыжкі і пад.; рус. салфетка. 2. Невялікі абрус. Заслаць сурвэткай стол.

**Суродзіч**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Сваяк, радня; член аднаго з некім роду; рус. сородич. 2. Жывёла, расліна аднаго віду. 3. Той, хто належыць да адной з некім народнасці, нацыянальнасці або з'яўляецца ўраджэнцам адной з некім мясцовасці; зямляк. Сустрэць суродзіча на чужбіне.

**Сурочыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ Паводле прымхаў і забабонных уяўленняў — прынесці няшчасце, хваробу, пашкодзіць некаму паганым (ліхім) вокам ці пахвалой, прадказаннямі нечага; рус. сглазить. Сурочыць дзіця.

**Сусвет**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Увесь свет, бясконцы ў часе і прасторы і бясконца разнастайны па формах; рус. вселенная. Пазнаваць таямніцы сусвету. 2. Зямны шар, Зямля з усім, што на ёй існуе; планета. Людзі сусвету.

**Суседні**, прым. ◘ 1. Які знаходзіцца паблізу, побач, недалёка, размешчаны ў суседстве; рус. соседний. Я лепш прайду суседнім пераходам. Спытаўшы броду, я палезу ў воду. У. Д. 2. Які жыве ў суседстве з некім. Аднойчы гуляў пан у карты і выйграў у суседняга пана маёнтак. А. Я.

**Суседскі**, прым. ◘ Які належыць суседу; рус. соседский. Пачнеш араць — глядзі, каб незнарок суседскі не кранунь шнурок. А. В-і.

**Сутнасць**, наз., ж. р. ◘ Самае галоўнае, істотнае ў нечым, унутраны змест нечага; рус. сущность. Гаварыць па сутнасці справы.

**Сухмень**, наз., ж. р. ◘ Сухое, гарачае надвор'е; рус. сушь. Нечуваная сухмень — усе сенажаці, палеткі павыгаралі.

**Сухоты**, наз., адз. няма. ◘ 1. Інфекцыйная хвароба, пры якой пашкоджваюцца лёгкія, кішэчнік, косці, суставы і інш.; туберкулёз; рус. чахотка. 2. перан. Пра адсутнасць грошай. Сухоты ў кішэнь упалі. Прык. (рус. Болеть карманной чахоткой = В кармане — вошь на аркане). 3. Разм. Клопат, непрыемнасць. Не рабіць некому сухотаў.

**Суцешыць**, -шу, -шыш, -шыць; зак. ◘ Спачуваннем, угаворамі аблегчыць чыё-небудзь гора, перажыванне; прынесці некаму супакаенне, палёгку; заспакоіць; рус. утешить. Ніхто так не зразумее, не падтрымае, не суцёшыць, як мама.

**Суцішыць**, -шу, -шыш, -шыць; зак. ◘ 1. Супакоіць; прымусіць некага весці сябе ціха; уціхамірыць; рус. успокоить. Суцішыць натоўп. 2. Паменшыць, зрабіць менш адчувальным; прыглушыць нейкае пачуццё; рус. унять. Суцішыць боль, пакуты. Суцішыць голад. □ І цяжка мне суцішыць і стрымаць пачуцці. С. Дз. 3. Затрымаць, прыцішыць (ход, рух і пад.); рус. замедлить. Суцішыць бег.

**Суцэльны**, прым. ◘ Які цягнецца без прамежкаў, перапынкаў, займае сабой нейкую прастору; рус. сплошной. Суцэльная дрыгва. 2. Які

не мае ў сабе нічога іншага, без дабаўлення нечага; які цалкам складаецца з нечага аднаго. Не жыццё, а суцэльная рызыка. 3. Зроблены з аднаго кавалка; рус. цельный. Ёсць храмы, высечаныя з суцэльнай скалы.

**Сучаснік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто жыў ці жыве ў адзін час з некім; рус. современник. Большаць твораў І. Шамякіна — пра нашых сучаснікаў.

**Сучасны**, прым. ◘ І.Які мае адносіны да цяперашняга часу, да сваёй эпохі; рус. современный. Сучасная беларуская мова. Сучасная моладзь. 2. Які знаходзіцца на ўзроўні свайго часу і адпавядае яго патрабаванням. Сучасныя педагагічныя тэхналогіі. 3. Важны для цяперашняга моманту; актуальны. Спрадвечная праблема бацькоў і дзяцей з'яўляецца надзвычай сучаснай. 4. Які адбываецца цяпер, у дадзены час; цяперашні. Сучаснае жыццё. 5. у знач. наз. сучаснае. Цяперашні час; падзеі, якія адбываюцца цяпер. Толькі непарыўная сувязь мінулага з сучасным дапаможа нам разумна распарадзіцца будучыняй і мець яе ўвогуле — такі лейтматыў усіх быкаўскіх твораў.

**Схаваць**, -аю, -аеш, -ае; зак. ◘ 1. Пакласці ў патаомнае месца, каб нельга было знайсці; рус. спрятать. 2. Утаіць нешта, зрабіць нябачным для іншых. Схаваць трывогу. 3. Даць прыстанішча таму, хто ратуецца. Схаваць параненага салдата.

**Схамянуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; зак. ◘ 1. Раптам успомніць пра нешта; раптоўна заўважыць памылку, недагляд; апомніцца. 2. Выйсці са стану нерухомасці, задуменнасці, падхапіцца; здрыгануцца. І тут Іван трывожна схамянуўся — толькі цяпер да яго свядомасці дайшоў трывожны сэнс цішыні. В. Б. 3. Набыць здольнасць разважаць. Схамянуцца, апамятацца, спыніцца і перагледзець свае ўчынкі — перамагчы сябе, а такая перамога самая цяжкая, але і самая дастойная чалавека.

**Схіліцца**, схілюся, схілішся, схіліцца; зак. ◘ 1. Нахіліцца; крыху пакланіцца. Пакланіліся ўсе тату, брат схіліўся перад братам, а пасля з вясёлым спевам, хто — направа, хто налева. У. Д. 2. перан. Пакарыцца, падпарадкавацца некаму, нечаму. [Хмара:] -Дужэй за ўсіх на свеце я, бязмежна ў свеце моц мая! Схіліся, чалавеча, ніц! Я ўся саткана з навальніц! У. Д. 3. Павярнуцца, змяніць рух, думкі, разважанні. Месяц схіліўся за лес. Схіліцца da думкі, што поспех магчымы.

**Схільнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Імкненне, цяга да нейкіх заняткаў, дзейнасці; рус. склонность. Схільнасць да паэзіі. 2. Задаткі (фізічныя, разумовыя), нахіленне. Схільнасць да прастуды. Схільнасць

да працы. 3. Слабасць; шкодныя звычкі; прыхільнасць да нечага. Калі да чаркі схільнасць маеш, То грошы, браце мой, нідзе ты не схаваеш Сам ад сябе. У. К.

**Сход**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Месца, па якім спускаюцца. Стромкі сход. 2. -у. Дзеянне паводле дзеяслова сходзіць. Сход лавін адбыўся раптоўна. 3. -у. Сумеснае пасяджэнне, збор членаў калектыву, арганізацыі для абмеркавання нечага, а таксама ўдзельнікі збору; рус. собрание. У старадаўнім часе было апавяданне, як сход адзін збіраўся пад восень на паляне. Штогод з усёй краіны ішлі сюды ўсе кветкі, пакінуўшы даліны ці родныя палеткі. У. Д. 4. -у. Збор, скліканне з нейкай мэтай. Бандарэнка сходы кліча, Ўсім аб крыўдзе кажа. К-а.

**Сцверджанне**, наз., н. р. ◘ Палажэнне, выказванне; рус. утверждение. Сцверджанне літаратуразнаўцы не супярэчыць канцэпцыі твора, яго зместу.

**Сцвярджаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Упэўнена выказваць нешта; настойліва гаварыць, даводзіць, пераконваючы ў нечым; рус. утверждать. А толькі адно вам сцвярджаю сягоння, Што ў кузні ён з ранку да вечара звоніць, Што хлопец прынадны, Што майстра сапраўдны! П. Б.

**Сцвярджэнне**, наз., н. р. ◘ Пацвярджэнне нечага; рус. подтверждение.

Сцежка, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ 1. Вузкая дарожка; рус. тропа. На Палессі сцежак многа, і дарожак там не меней. З часу даўняга, былога з іх адну завуць — Аленняй. У. Д. 2. перан. Кірунак, шлях жыцця, дзейнасці. Нават камень рассыпаўся б дробнай жарствой, каб прайшоў ён па сцежцы жыццёвай тваёй. У. Д.

**Сцерагчы**, -рагу, -ражэш, -ражэ; незак. ◘ І.Ахоўваць, вартаваць нешта; рус. охранять. Сцерагчы межы краіны. Кожная птушка сваё гняздо сцеражэ. 2. Уважліва сачыць, назіраць за некім; рус. караулить. Ніхто не ведае, дзе каго бяда сцеражэ. 3. Захоўваць, клапатліва аберагаць; рус. беречь. Мудры чалавек сцеражэ сваю сям'ю.

**Сціжма**, наз., ж. р. Абл. ◘ Вялікая колькасць, мноства нечага, некага; рус. уйма, тьма. Неяк у Рыме пры сціжме людзей незлічонай Сведкам відовішча быў я — бою быкоў на арэне. М. Г.

**Сціплы**, прым. ◘ 1. Які не любіць падкрэсліваць свае заслугі, хваліцца сваімі справамі; пазбаўлены ганарыстасці; рус. скромный. А быў у нас хлапец адзін — звычайны, сціплы селянін. У. Д. 2. Стрыманы, памяркоўны ў паводзінах, прыстойны. 3. Просты, звычайны, без прэтэнзій на раскошу. Справілі сціплае вяселле. 4. Невялікі,

сярэдні. Сціплая зарплата. □ — Каб не меў каму аддаць я свайго сціплага багацця, лепш спаліў бы ўсё ў хвіліну, але вам [двум сынам] бы не пакінуў... У. Д.

**Сцiслы**, прым. ◘ 1. Выкладзены коратка, у нямногіх словах; лаканічны; рус. сжатый. Зрабіць сціслы пераказ зместу твора. 2. Кароткі ў часе. Сціслыя тэрміны.

**Сцюдзёны**, прым. ◘ Вельмі халодны, ледзяны (пра ваду, паветра, вецер і пад.) Пад'еў, як належыць, а потым з крыніцы празрыстай, сцюдзёнай напіўся вадзіцы. У. Д. Калі ж разліўся ў роднай шыры Сцюдзёным сполахам усход, Ужо над пожнямі ў вырай Вандроўнік-жораў вёў свой род. К. Кір.

**Сцюжа**, наз., ж. р. ◘ 1. Моцны холад, мароз; завеі, мяцеліцы. 2. перан. Жыццёвыя нягоды, цяжкасці. Шчасце наша прайшло праз сувеі і сцюжы. В. В.

**Сцяг**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Умацаванае на дрэўку палотнішча рознай афарбоўкі, з надпісамі, сімваламі і пад., якое служыць эмблемай дзяржавы, арганізацыі ці вайсковага злучэння; рус. знамя, флаг. 2. перан. Ідэя, якая аб'ядноўвае групу людзей ці народ; светапогляд, праграма. Мова — сцяг народа. ...Калі полк страчвае свой сцяг, ён перастае існаваць. Калі народ страчвае сваю мову, ён таксама перастае існаваць. М. Е.

**Счарсцвелы**, прым. ◘ Які страціў першапачатковую мяккасць і свежасць; зацвярдзелы; рус. зачерствелый. Счарсцвелыя грудкі зямлі. □ А бедны ў тарбінцы акрайчык меў счарсцвёлы, бо пры сухой скарынцы і ўся сям'я сядзела. У. Д.

**Сшытак**, наз., м. р., -а. ◘ Сшытыя, у вокладцы, лісты чыстай паперы для пісьма, малявання і пад.; рус. тетрадь. Сшытак для малявання.

**Сыроватка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Вадкасць, якая атрымліваецца пры адтопліванні, адстойванні малака; рус. сыворотка. Сыроваткай лечаць страўнік.

**Сыты**, прым, ◘ 1. Які здаволіўся ядой і не адчувае голаду; які жыве ў дастатку, раскошы. 2. у знач. наз. Галодных сыты зразумець не можа, пакуль самога лес не патрывожыць. У. Д. 3. Ускормлены, тлусты. Сыты твар. 4. Сытны. Застаўляе [пан Патоцкі] стол дубовы Сытаю ядою, Мёд, віно ў жбанах б'е пенай, Як бы мора тое. К-а.

**Сэнс**, наз., м. р., -у. ◘ Ч.Унутраны змест нечага, які спасцігаецца розумам; значэнне; рус. смысл. Часта сэнс твора—у яго назве. □ [Дзядзька.:] — Замыславатая то штука, А вось як будзеце вучыцца, То можна сэнсу і дабіцца. К-с. 2. Мэта, прызначэнне. Сэнс жыцця кожны разумев па-свойму. □ Калі б ды так! Калі б ды кожны З

маленства думаў, з першых лет: Які — ці светлы, ці прыгожы — Пакіне ў памяці ён след! Ды дзе там! Вучымся з пагардай На сэнс жыцця глядзець — няўцям, Што жыць адно тады і варта, Калі рабіць дабро людзям. Н. Г. Ну, адным словам, — гора-хата Сваім прыгожствам не хіліла, Але не ў хаце сэнс і сіла. Бо хаце можна раду даць І на свой густ пабудаваць... К-с. 3. Карысць, толк, выгада. Мудры дзяржаўца князь Вітаўт добра разумеў сэнс культуры, духоўнасці і таму «перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна ставіў багацце духоўнае — злата дзяржавы» (М. Гусоўкі).

**Сябар**, наз., м. р., сябра. ◘ 1.Той, хто звязаны з некім агульнымі інтарэсамі, духоўнай блізкасцю; сябра, прыяцель, друг. Не той сябар, хто паспачувае тваёй бядзе, а той, хто парадуецца твайму шчасцю. 2. Прыхільнік, абаронца. 3. Член нейкай арганізацыі, суполкі. Сябар Таварыства беларускай-мовы.

**Сяброўства**, наз., н. р. ◘ Адносіны паміж некім, якія грунтуюцца на агульнасці інтарэсаў, духоўнай блізкасці, псіхалагічнай сумяшчальнасці, узаемнай прыхільн'асці, разуменні і падтрымцы; дружба. Прыгодніцкая аповесць для дзяцей А. Федарэнкі «Афганская шкатулка» — гэта гімн сяброўству, мастацкае сцвярджэнне таго, што сяброўства -сапраўдны скарб, каштоўнасць. □ Хоць лес пакрыўдзіў іх [сляпога і бязногага], затое ён даў багацце ім другое: сяброўства шчырае, бадзёрасць, з якімі можна ўсё агорацць. У. Д.

**Сябрына**, наз., ж. р. Разм. ◘ 1. Кола, асяроддзе сяброў, аднадумцаў. Між людзьмі быў добры лад: так жылі, як з братам брат. Ані сварак, ані кпін, аніякіх калатнін — не бывала ў іх здаўна. Адным словам — сябрына. У. Д. 2. Сяброўская бяседа з пачастункам.

**Сявенька**, наз., ж. р., ДМ -ньцы. ◘ Лубянка для ручной сяўбы. Прайшоў Вялікаднік свяценькі. Бяруцца людзі за сявенькі, За плуг, за бораны, за сохі, Пайшлі разгульвацца патрохі. К-с.

**Сягоння і сёння**, прысл. ◘ 1. У гэты дзень; рус. сегодня. 2. у знач. наз. сягоння і сёння. Цяперашні дзень; сучаснасць. Да сягоння жыве памяць Аб злым гэтым дусе На ўсёй чыста Украіне І на Беларусі. К-а.

**Сядзіба**, наз., ж. р. ◘ 1. Жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, агародам, якія складаюць адну гаспадарку; рус. усадьба. - Вось, сыны, надумаў што я: вас усіх, вядома, трое, а сядзібы, нашай хаты на траіх і малавата... У. Д. 2. Цэнтр сельскагаспадарчага прадпрыемства і наогул любой установы. Сядзіба аграпрамысловага комплексу «Сноў».

**Сякач**[1], наз., м. р., секача. ◘ Прылада для раздраблення; сячэння буракоў, бульбы, мяса і пад.

**Сякач**[2], наз., м. р., секача. ◘ 1. Дарослы самец дзіка, марскога коціка. 2. Зуб дзіка; кабана.
Дзе трушком, а дзе наўскач,
Выскаліўшы зуб-сякач,
Бег стары кабан надворны. В. В.

**Сякера**, наз., ж. р. ◘ Прылада, якой сякуць і склюдуюць, у выглядзе насаджанага на тапарышча кліна з лязом з аднаго боку і абухом з другога; рус. топор. Каваль без сякеры, а шавец без ботаў. Прык. (рус. Сапожник без сапог).

**Сяліба**, наз., ж. р. ◘ Пасёлак, сяло, веска. Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу, Або паехаць у сялібу Ці ў млын малоць на хлеб збажынку — Ўсё гэта квапіла хлапчынку. К-с.

**Сямейнік**, наз., м. р., -а. ◘ Член сям'і. У любой нягодзе першая надзея — на сваіх сямейнікаў.

**Сям'я**, наз., ж. р. ◘ 1. Група людзей, якая складаецца з мужа, жонкі, дзяцей і іншых сямейнікаў, якія жывуць разам. Сям'я — падмурак Царквы. Сям'я — першая Хрыстова Царква. З Евангелля. Мы — тройчы дзеці ў вечным крузе: Мы — дзеці роднае сям'і, І — дзеці Маці-Беларусі, І — дзеці Матухны-Зямлі. Н. Г. 2. перан. Група, арганізацыя людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, дзейнасцю, дружбай. Кожны народ сам сабе пан; І беларус можа змясціцца Ўсям'і нялічанай славян. К-а.

**Сярмяга**, наз., ж. р., ДМ сярмязе. ◘ Верхняе адзенне з саматканага сукна. Сярмяга — не знявага, а жупан — не вялікі пан. Прык. (рус. Бедность — не порок). Ды дзядзьку страшна прыступіцца, Спытаць людзей ён тут баіцца, Бо ўсе такія надзіманы, І хоць бы твар адзін рахманы Або свой брат, мужык-трудзяга — Нідзе не свеціцца сярмяга. К-с.

**Сярмяжка**, наз., ж. р., ДМ -жцы. ◘ Тое, што і сярмяга. Свая сярмяжка нікому не цяжка. Прык. (рус. Своя ноша не тянет). Сярмяжнік, наз., м. р., -а. ◘ У дарэвалюцыйнай Расіі — вясковы бядняк. - Сядай, мой мілы, мой харошы, Бо за «пастой» не плацяць грошы, — Сказаў сярмяжнік дабрадушна, На лаўку дзядзька сеў паслушна, Ўздыхнуў, падзякаваў суседу... К-с.

**Сяўба**, наз., ж. р. ◘ 1. Пасеў збожжавых. 2. Пара, калі сеюць. І вось пад восень прад сяўбою, Парадзіўшыся між сабою, Міхал з Антосем воз прыбралі, Каня запрэглі, пастаялі У нейкім смутным разважанні... К-с.

**Сячы**, сяку, сячэш, сячэ; сячом, сечацё, сякуць; пр. сек, -ла; незак. ◘ 1. Удараючы з размаху нечым вострым, раздзяляць на часткі, здрабняць; рассякаць; рус. рубить. Сячы дровы. Сячы бульбу

секачом. 2. Падсякаць, валіць на зямлю, аддзяляць ад асновы; ссякаць. Лес не сякуць языкамі. К. К. Лес сякуць, і ад стуку сякер далей уцякаюць птушка і звер. А. В. 3. Біць, караць (розгамі, бізуном і пад.); рус. сечь. 4. Ліць моцна, струменямі; рус. хлестать. А дождж сячэ, і ўсё цячэ. А. В-і. 5. Хвастаць, ударацць нечым. Вецце секла ў твар.

♦ Сячы ў вочы — адкрыта гаварыць праўду.

♦ Сячы з пляча — гаварыць праўду, не думаючы пра наступствы.

\- Зноў языку ты волю даў? Вунь, 'пасівелі твае скроні, А розуму ніяк не нажывеш, У сё з пляча сячэш... Э. В.

# Т

**Таварыскі,** прым. ◘ І.Уласцівы таварышу; шчыры, прыязны, сяброўскі; рус. товарищеский. 2. Кампанейскі, згаворлівы.

**Таварыства**, наз., н. р. ◘ 1. Таварыскія адносіны; рус. товарищество. Прайшоўшы дарогаю мужных, Пазнаўшы і радасць і сум, Цану таварыству і дружбе Я ў сэрцы трывалым нясу. А. 3. 2. Арганізацыя раўнапраўных удзельнікаў; рус. общество. Акцыянернае таварыства.

**Таемна**, прысл. ◘ 1. Скрыта, непрыкметна для іншых; рус. тайно. 2. Загадкава, таямніча; рус. таинственно. А елкі хмурымі крыжамі Высока ў небе выдзяляліся, Таемна з хвалямі шапталіся... К-с.

**Тактоўны**, прым. ◘ 1. Які валодае тактам,, г.зн. пачуццём меры ў паводзінах, далікатнасцю ў адносінах да некага, нечага; выхаваны, прыстойны. Тактоўны чалавек не задасць лішняга пытання, не будзе весяліцца, калі побач нехта сумуе. 2. Які выконваецца з тактам. Тактоўны ўчынак.

**Талака**, наз., ж. р., ДМ талацэ. ◘ 1. Узаемадапамога пры выкананні нейкай вялікай працы. Усяе талакі — свае дзве рукі. Прык. (рус. Один-одинёшенек). Дом будавалі талакой... Дом будаваць — такая праца, што лепей аднаму не брацца, адзін не справішся з якой. І вось, як пальцы ў кулаку, сыходзімся у талаку. А. В. 2. у знач. прысл. талакёй. Сумесна, гуртам, усе разам. Каб сцены сталі навакол — патрэбна ўзяцца талакой. А. В.

**Талант**, наз., м. р., -а. ◘ Адзінка вагі і грашовая адзінка ў Старажытнай Грэцыі, Егіпце, Персіі і інш. У евангельскай прытчы расказваецца, я к строгі гаспадар раздаў сваім рабам таланты. Першы атрымаў пяць талантаў і памножыў іх; другі — два і так-

сама памножыў; а трэці, спалохаўшыся строгага гаспадара, закапаў атрыманы талант, каб не згубіць...

**Талент**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -у. Надзвычайныя прыродныя здольнасці; рус. талант. Рэалізаваць свой талент — паслугаваць бацькаўшчыне і народу. Сапраўдным гімнам роднаму краю, яго красе і багаццям, галоўнае з якіх — таленты, з'яўляющца верш П. Панчанкі «Край паэтаў». 2. -а. Чалавек з надзвычайнымі здольнасцямі. Колькі талентаў звялося, Колькі іх і дзе ляжыць, Невядомых, непрызнаных, Не аплаканых нікім... К-с.

**Талер**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Старадаўняя манета. 2. Грашовая адзінка: у Вялікім княстве Літоўскім быў роўны капе (60 грошам). Талер маленькі, а даражэнькі. Прык. (рус. Мал золотник, да дорог).

**Талерантнасць**, наз., ж. р. ◘ Цярпімасць. Талерантнасць, памяркоўнасць, добразычлівасць, гасціннасць, працавітасць — рысы характеру і ментальнасці беларускага народа.

**Талерантны**, прым. ◘ Цярпімы.

**Талерка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Сталовая пасудзіна круглай формы з шырокім дном і прыўзнятымі краямі; колькасць стравы, якая ўмяшчаецца ў такую пасудзіну; рус. тарелка.

**Тальмах**, наз., м. р., -а. ◘ Палоска матэрыі, перакінутая цераз плячо, для падтрымання параненай або пашкоджанай рукі. Чырвонаармеец з рукой на тальмаху.

**Тамада**, наз., ж..р., ДМ -дзе. ◘ Асоба, якая вядзе банкет, вяселле. Тамада абвяшчае тост.

**Тамтам**, наз., м. р., -а. ◘ Ударны музычны інструмент, разнавіднасць гонга. Трывожныя і пагрозлівыя гукі тамтама.

**Тандэтны**, прым. ◘ Нізкай якасці, недабраякасны. [Зорын:] - Зразумейце, нарэшце, што я тандэтнай работы не пацярплю! І. Г.

**Танны**, прым. ◘ 1. Які мала каштуе; недарагі; рус. дешевый. Прыгажэйшае — даражэйшае, а што заганнае, тое таннае. Прык.. (рус. Дорого, да мило, дешево, да гнило). 2. перан. Які не мае каштоўнасці, пусты. Танная слава.

**Тапелец**, наз., м. р., -льца. ◘ Чалавек, які ўтапіўся або топіцца; рус. утопленник.

**Тапчан**, наз., м. р., -ś. ◘ 1. Нізкі ложак з дошак на козлах. 2. Пакаёвая шырокая лаўка, звычайна са спінкай. На куце пад абразамі Стол стаіць, як пан; Дзве пры ім таўстыя лаўкі І адзін тапчан. К-а.

**Тарка**, наз., ж. р., ДМ тарцы. ◘ Кухонны прадмет — металічная пласцінка з дзіркамі для раздраблення, расцірання бульбы і гародніны; рус. тёрка. Наўкол пляменнікі сядзелі, На дзядзьку пільна ўсе

глядзелі, Як ён, рукавы закасаўшы, Па тарцы шоргаў, шапку зняўшы. К-с.

**Таркаваць**, таркую, таркуеш, таркуе; незак. ◘ Церці бульбу на тарцы.

**Тарпа**, наз., ж. р., мн. торпы і торп, наз., м. р., -а, мн. тарпы. ◘ Вялікая сціpта снапоў або саломы, складзеная для захавання пад адкрытым небам. З лесу крочыць тут і Ліска, да тарпы падходзіць блізка. - Ай, сяброчкі! Ай, героі! Як вам дзякаваць за тое?! У. Д.

**Тартак**, наз., м. р., -а. ◘ Лесапільны завод. Жыў я на Далёкім Усходзе. Траляваў з тайгі бярвенне на тартак. У. Д.

**Тата**, наз., м. р. ◘ Бацька; рус. папа.

-Чаго баяцца? нічагутка!
Закінем іх [кнігі] у снег ціхутка,
А ты маўчок! ні шэп! ні слова,
І ўсё, брат, пойдзе адмыслова.
-Не, брат Алеська, не рабі ты,
Бо тата наш такі сярдзіты! К-с.

**Таўкач**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Прылада ў выглядзе качалкі з патоўшчаным круглым канцом, якой таўкуць нешта; рус. пест. Мак, пацёрты таўкачом. 2. у казках. Цыкута ў ступу села ды таўкачом па боку. Не ехала, ляцела ці блізка, ці далека. У. Д.

**Таямніца**, наз., ж. р. ◘ 1. Тое, што яшчэ не пазнана, не стала вядомым, зразумелым; рус. тайна. Трэба многа ўсім вучыцца, Трэба многа ведаў мець, — Можна свету таямніцы Толькі з імі зразумець. К. К. 2. Пра тое, што вабіць сваёй загадкавасцю, неразгаданай прыгажосцю; рус. таинственность. Таямніца ночы. □ [Джулія] ... зрабілася зусім інакшаю ў сваёй палахлівай дзявочай сціпласці, поўнай таямніцы і хараства. В. Б.

**Таямнічы**, прым. ◘ 1-Непазнаны, невядомы, загадкава-незразумелы; рус. таинственный. Таямнічы свет. Таямнічы чалавек.

2. Недасягальны, незвычайны. Таямнічая сіла родных мясцін.

3. Які мае цудадзейную сілу. Таямнічая сіла малітвы. 4. Тайны, сакрэтны. Таямнічы голас.

**Твань**, наз., ж. р. ◘ 1. Дрыгва, багністае месца. 2. Гразь; ціна. Тванню пакрытая сажалка.

**Твар**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Пярэдняя частка галавы чалавека; рус. лицо. У вочы з мілым тварам, а за вочы крутым варам. Прык. (рус. Мягко стелет, да жестко спать). 2. перан. Індывідуальнае аблічча, выгляд, рысы некага, нечага. Твар горада.

**Тварыць**, твару, творыш, творыць; незак. ◘ Рабіць нешта; здзяйсняць; пісаць мастацкія творы. У чалавека ёсць два жыцці: адно

творыць ён сам, а другое не залежыць ад яго і часта выходзіць за межы яго волі... К-с.

**Твор**, наз., м. р., -а. ◘ Вынік творчай працы (раман, карціна, скульптура і пад.); рус. произведение.

**Творчасць**, наз., ж. р. ◘ Дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў, а таксама вынік гэтай дзейнасці; рус. творчество. Творчасць народных умельцаў.

**Тканіна**, наз., ж. р. ◘ 1. Выраб, атрыманы ў выніку працы на ткацкім станку; матэрыя, матэрыял; рус. ткань. Дзяўчаты слуцкія тады на ручнікі, на паясы, Ды ўсе дзяўчаты у краіне на дарунковыя кашулі, узораў дзіўныя рады каб не зракаліся красы, кладуць на белыя тканіны, . да самай глыбіні адчулі. У. Д. 2. Тое, што складае аснову, змест мастацкага твора; тканка. Тканіна сюжэта.

**Тлум**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Адурэнне, замарачэнне. Тлум найшоў. 2. Шум, гоман, сумятня; шумлівая плынь людзей. Улюдскім тлуме.

**Тлумачыць**, -чу, -чыш, -чыць; незак. ◘ 1. Раскрываць сэнс, сутнасць нечага; каменціраваць твор; рус. толковать. Тлумачыць слова. 2. Асвятляць нейкае пытанне; рус. объяснять. І стала болей ім цікава, У чым тут сіла тая, справа. Антось у хату йдзе, рагоча, Тлумачыць зразу ён не хоча... К-с.

**Тлусты**, прым. ◘ 1. Які ўтрымлівае шмат тлушчу; які атрымаўся ад тлушчу; рус. жирный. Тлустая страва. Тлустая пляма. 2. Тоўсты, укормлены, сыты. Тлусты падбародак. 3. перан. Насычаны карыснымі рэчывамі. Тлустая глеба.

**Тлушч**, наз., м. р., -у. ◘ Жывёльнае ці раслiннае масляністае рэчыва, нерастваральнае ў вадзе; рус. жир. Рыбін тлушч.

**Тоесны**, прым. ◘ Зусім падобны, аднолькавы, такі ж; рус. тождественный. Тоесныя паняцці.

**Тора**, наз., ж. р. ◘ У іудзейскай рэлігіі — першая частка Біблії, Пяцікніжжа Маісеева, а таксама пергаментны скрутак з гэтым тэкстам, які захоўваецца ў сінагозе.

**Торба**, наз., ж. р. ◘ Невялікі мяшок; кайстра; рус. сума.

Старэйшага сына
сабрала ў дарогу,
у торбу дала
праснакоў на падмогу. У. Д.

А на кіёчку за плячамі
Вісела торба з кутасамі;
У торбе хлеб, кавалак сала,
З кішэні люлька пазірала... К-с.

♦ Давесці да торбы — прывесці да беднасці, жабрацтва; разарыць.

**Торны**, прым. ◘ 1. Наезджаны, гладкі, роўны (пра дарогу, шлях); рус. Проторённый. 2. перан. Адкрыты, шырокі; даступны (пра жыццёвы шлях).

**Травень**, наз., м. р. ◘ Устарэлая назва месяца мая. У травень мужык управен. З нар.

**Травесці**; наз., нескл. ◘ 1. Тэатральнае амплуа (мужчынская або дзіцячая роля выконваецца пераадзетай жанчынай, радзей — жаночая роля выконваецца мужчынам). Ірына Ждановіч доўга іграла травесці. 2. Від гумарыстычнай паэзіі, блізкай да пародыі, які характарызуецца тым, што сур'ёзны змест увасабляецца ў камічнай форме. Геніяльныя нацыянальныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат» — травесці.

**Традыцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Звычаі, погляды, нормы паводзін, густ і пад., якія пераходзяць ад папярэдняга да наступнага пакалення. Шанаваць традыцыі свайго народа. 2. Парадак, няпісаны закон, што ўстанавіўся ў паводзінах, быце. Увайсці ў традыцыю.

**Трайня**, наз., ж. р. ◘ Падоўжны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй; рус. дрога. Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! Там многа яблынін на лыжкі, Там ёсць ігруша і кляніна, Якая хочаш дравяніна: Гоабільны, коссі, клёпкі, восі... Няма трайні — йдзі да Антося. К-с.

**Траляваць**, -пюю, -люеш, -люе; незак. ◘ 1. Падцягваць, падвозіць драўніну ад месца нарыхтоўкі да дарогі ці месца сплаву; перавозіць нешта ў вялікай колькасці. Траляваць лес. Траляваць шпалы. 2. Ісці, рухацца. Ідуць у лес, крычаць, гукаюць, Як вучні, вырваўшыся з школы, І ўсе давольны і вясёлы — А дзядзька ўперадзе тралюе... К-с.

**Трапіць**, -плю, -піш, -піць' зак. ◘ 1. Пацэліць у нешта, метка кінуўшы, стрэліўшы; паразіць цэль; рус. попасть. 2. Дасягнуць нечага; угадаць нешта, трапна, дарэчы сказаць нешта. 3. Увайсці, пранікнуць некуды. Трапіць у хату. 4. Апынуцца ў нейкіх умовах, абставінах. Трапіць у бяду. Трапіў, жучку, у панскую ручку. Прык. Трапіў, дзедку, у клетку. Прык. (рус. Попался, который кусался). 5. Уладкавацца на працу, вучобу і пад.; стаць некім. Трапіў у авіяцыю. 6. Аказацца дзе-небудзь у патрэбны момант. Трапіць у добрую сям'ю. 7. Папасці, надарыцца. Шчаслівы той, каму трапіла сустрэць свой лес, сваю палавіну.

♦ Трапіць на след — атрымаць звесткі, якія дапамагаюць выявіць, знайсці нешта, некага, зразумець нешта.
А хлопцы галавы ўскруцілі, Ўхаду ўсе спосабы пусцілі, Найсці прычыну тую квапяць, Але на след ніяк не трапяць. К-с.

**Трапіцца**, -плюся, -пішся, -піцца; зак. ◘ І.Выпадкова сустрэцца, надарыцца; дастацца. Трапіўся добры чалавек у дарозе. Трапіліся

добрыя суседзі. 2. Выпасці на нечую долю; прыйсціся. Трапіцца на вяку варыць капусту ў гляку. Прык. (рус. Век долог — всем полон). А на стале тым -рай ды годзе, Румяна-белая пампушка, Што рэдка трапіцца ў народзе, Чырвона зверху, сакаўнай, Ляжала шынка, як кадушка, Як бы агонь у ёй палае... К-с.

♦ Трапілася чарвяку на вяку — пра вельмі рэдкую ўдачу, шчаслівы выпадак.

**Трапкач**, наз., м. р., -а. ◘ Ручнік з доўгімі махрамі. Трапкач — адзін з прадметаў побыту беларусаў.

**Трапны**, прым. ◘ 1. Які пападае ў цэль; рус. меткий. Трапны стрэл. 2. Які дакладна і востра выражае, перадае сутнасць з'явы, сітуацыі і пад. Трапнае слова. Трапны жарт.

**Трасца**, наз., ж. р. Разм. ◘ 1. Тое, што і ліхаманка, малярыя; рус. лихорадка. Ведаю добра гэта сяло. Чаго толькі тут пры цару не было! У кожнай хаціне — на печы сядун, У кожнай сялібе — трасца, каўтун, П. Б.2. Пра нешта няпэўнае, невядомае, нядобрае. Праз нейкую трасцу ўсчалася сварка.

♦ Трасца не бярэ — нічога не здараецца.

**Трата**, наз., ж. р., ДМ траце. ◘ Расход, выдатак. Падлічыць траты. Непатрэбныя траты. Тратуар, наз., м. р., -а. ◘ Дарожка для пешаходаў (з дошак, пліт, асфальту) па баках вуліцы, плошчы, звычайна вышэй ад праезджай часткі; ходнік. Снуе народ, як на пажары, Пад ім аж гнуцца тратуары. К-с.

**Траўнік**, наз., м. р., -а. ◘ І.Лекар травамі. 2. Кніга, якая змяшчае апісанне лекавых траў.

**Траха**, прысл. ◘ Чуць, амаль. ... І так у брук бядак загасіў, Траха манеркі не расквасіў. К-с.

**Трацяк**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Цяля, жарабя ва ўзросце трох гадоў. Конь-трацяк. 2. Трэцяя частка нечага (ураджаю, сенакосу). Былі там пасекі. Штогоду Тут сотні блізшага народу Дзялянкі лесу карчавалі І на трацяк іх засявалі — Капу да скарбу, дзве дадому... К-с.

**Трашчотка**, наз., ж. р., -тцы. ◘ 1. Ударны музычны інструмент, які складаецца з набору драўляных дошчачак. 2. Прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараюць трэск, шум, стук, лёскат. — Эх, шкода, брат: няма клякотак! Ну, хоць бы з парачку трашчотак! — Гаворыць дзядзька: — Ну, нічога, І так мы зробім шуму многа... К-с. 3. перан. Разм. Той (тая), хто многа, не сціхаючы, гаворыць; балбатун.

**Труна**, наз., ж. р. ◘ Тое, што і дамавіна; рус. гроб.

**Трунак**, наз., м. р., -нку. Абл. ◘ Алкагольны напой. Прыемна ў дом зайсці з дарогі, Дзе рады вам гаспадары, Дзе вас частуюць, што ёсць змогі, Дзе трунак знойдзецца стары. К-с.

**Трус**[1], наз., м. р., -а. ◘ Невялікі свойскі грызун сямейства заечых; футра гэтага грызуна; рус. кролик.

**Трус**[2], наз., м. р., -у. ◘ Ваганне зямлі; землятрус; р/с. землетрясение.

**Труціць**, тручу, труціш, труціць; незак. ◘ Знішчаць атрутай; рабіць шкоду нейкімі атрутнымі рэчывамі; рус. травить. Труціць мух.

**Трывалы**, прым. ◘ 1. Моцны; рус. прочный. Трывалая драўніна. 2. Надзейны, устойлівы. Трывалы падмурак. Трывалы човен. 3. Добра засвоены; грунтоўны. Трывалыя веды. 4. перан. Сапраўдны, правераны часам. Трывалае шчасце. Трывалая сям'я. 5. Сыты, пажыўны (пра яду). Трывалае снеданне.

**Трываць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ І.Цярпліва пераносіць боль, непрыемнасці, здзекі да пэўнага часу; рус. терпеть. Я цярплю, цярплю, трываю, Але хутка загукаю: — Стрэльбы, хлопчыкі, бяры! К-с. 2. Трымацца, выконваць сваё прызначэнне; рус. выдерживать. Людзі ўзносяць маеты над вялікай вадой, Каб трывалі яны пад цяжкою хадой. У. Д.

**Трывіяльны**, прым. ◘ 1. Пазбаўлены арыгінальнасці; звычайны. Трывіяльная п'еса. 2. Пошлы, вульгарны. Трывіяльны флірт. Трызна, наз., ж. р. ◘ Пахавальны і памінальны абрад, памінкі па нябожчыку.

**Трызненне**, наз., н. р. ◘ 1. Бяссэнсавая гаворка хворага, які знаходзіцца без памяці; рус. бред. Трызненне раненых. 2. Пазбаўленая сэнсу балбатня, бязглуздзіца. 3. Мары, думкі пра некага, нешта.

**Трымаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ І.Мець сілы, магчымасць, навыкі рабіць нешта, карыстацца нейкай прыладай, інструменіам; рус. держать. Трымаць молат. Трымаць гаспадарку. Трымаць дзіця на руках. □ Будынкі цесна ў рад стаялі, Як бы адны другіх трымалі У часе нейкай небяспекі І асталіся так навекі. К-с. 2. Абараняць ад непрыяцеля. Трымаць абарону. 3. Прымушаць дзе-небудзь знаходзіцца, не выпускаць. Трымаць у палоне, у турме. Трымаць пад арыштам. 4. Мець у сваёй уладзе, у сваім падпарадкаванні. Трымаць у руках уладу. Трымаць народ у паслушэнстве і страху. Трымаць дзяцей у строгасці. 5. Захоўваць у парадку. Трымаць дом у чысціні. 6. Рухацца ў нейкім напрамку. Трымаць кірунак на бальшак. 7. Паводзіць сябе адпаведным чынам. Умець трымаць сябе ў людзях. □ Трымай язык на прывязі. Прык. (рус. Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами).

**Трыместр**, наз., м. р., -а. ◘ Частка навучальнага года працягпасцю ў тры месяцы.

**Трыснёг**, наз., м. р., -нягу. ◘ Вадзяная ці балотная шматгадовая расліна з раскідзістай мяцёлкай і каленчатым пустацелым або губчатым сцяблом; рус. тростник. Дудачка з трыснягу.

**Трысцё**, наз., зб. ◘ Трыснёг. Над поймай ціхай, дзе трысцё ў лазе, Стаіць бусліха на адной назе. Пысін.

**Трыумфаваць**, -фуе, -фуеш, -фуе; незак. Разм. ◘ 1. Атрымліваць перамогу, браць верх. Над краем шыбеніц, астрогаў Трыумфаваў каронны кат. К-а. 2. Радавацца, весяліцца з нагоды перамогі над некім, поспеху ў нечым. Стары хітрун трыумфаваў у душы. М. З

**Трэба**, у знач. вык. ◘ Неабходна; рус. нужно, необходимо, надо. Трэба жыць, як набяжыць. Прык. (рус. Плыви, мой челн, по воле волн). Як не стала хлеба, дык і нож не трэба. Прык. (рус. Снявши голову, по волосам не плачут). Сапраўднаму паэту трэба мець Уласны курс і вугал свой атакі. У. С.

**Трэска**, наз., ж. р., ДМ трэсцы. ◘ Тонкі кусок дрэва,_адчасаны ад бервяна, палена; рус. щепка. Скнарыца і за трэску пасварыцца. Прык. (рус. Скупой из блохи голенище кроит).

**Туга**, наз., ж. р., ДМ тузё. ◘ Пачуццё, выкліканае бяздзейнасцю або немагчымасцю ажыццявіць задуманае; смутак, маркота, журба; рус. тоска. Праз нейкі час сямейка ў зборы, Тут маці сходзіць да каморы, Нясе збанішча тварагу, Каб скрасіць дзядзькаву тугу. Залье туды яшчэ смятаны, І дзядзьку хоць кладзі да раны! К-с.

**Тужыць**, тужу, тужыш, тужыць; незак. ◘ Сумаваць, маркоціцца, нудзіцца; рус. тосковать. Але касьба — пачатак лету. О, колькі ў ім яшчэ прывету! Прыгод усякіх так багата — Тужыць аб леце ранавата. К-с.

**Тузін**, наз., м. р., -а. ◘ Дванаццаць аднолькавых прадметаў; камплект з дванаццаці прадметаў; рус. дюжина. Марынка выпарала рыжык, Ірынка — з тузін казлякоў, Максімка -жоўты грузд, Што выйшаў На свет адзін без дружбакоў. М. К.

**Тук**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Мінеральнае ўгнаенне. Глебу добра заправілі тукамі. 2. Растоплены тлушч. Духмяны тук цячэ са скваркі на хлеб.

**Туляга**, наз., ДМ -у, Т -ам, м. р.; ДМ тулязе, Т -ай (-аю), ж. р. ◘ Чалавек, які туляецца, пазбягае сустрэчы; бадзяга. Там ходзіць страшны воўк-бадзяга, Разбойнік крадзецца, туляга, З акрываўлёнаю рукою І з страшнай цяжкай булавою. К-с.

**Туравацць**, турую, туруеш, туруе; незак. ◘ 1. Выконваць другую партыю пры спяванні ці ігры на музычным інструменце; рус. вто-

рить. 2. Паўтараць нечыя словы, гукі. Спявалі, зразумела, ім туравала рэха. У. Д.

**Турбота**, наз., ж. р., ДМ -оце. ◘ Клопаты, неадольнае жаданне ажыццявіць нешта; пастаянная руплівасць; рус. забота. Тут пайшла ўжо не работа, А вялікая турбота. ... Задала яна задачу! Хлопец ледзьве не заплача. У. Д.

**Тыдзень**, наз., м. р., тыдня. ◘ Адзінка вылічэння часу ад панядзелка да наступнай нядзелі ўключна; адрэзак часу ў сем дзён, які адлічваецца з любога дня; сямідзённы тэрмін; рус. неделя. Тыдзень з алеем, а тыдзень галеем. Прык. (рус. Перебиваться с хлеба на квас). Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень. Прык.

**Тыдняваць**, -нюю, -нюеш, -нюе; незак. ◘ Займацца нечым на працягу тыдня. Чарга тыдняваць на пашы.

**Тымпан**, наз., м. р., -а. ◘ Старадаўні ўдарны музычны інструмент — род медных талерак або літаўры.

**Тынкаваць**, -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ Пакрываць сцены, столь тынкам (растворам з сумесі вязкіх рэчываў: вапны, цэменту, гліны, пяску), каб зрабіць паверхню гладкай; рус. штукатурить.

**Тыпавы**, прым. ◘ Які адпавядае пэўнаму тыпу, мадэлі, узору; стандартны; рус. типовой. Тыпавы пяціпавярховы жылы дом шасцідзесятых гадоў.

**Тыповы**, прым. ◘ І.Які мае характэрныя асаблівасці, уласцівыя пэўнаму тыпу людзей, прадметаў, з'яў; рус. типичный. Тыловая беларуская веска. Тыповы вобраз. 2. Які часта сустракаецца, звычайны. Тыповыя ўмовы жыцця. Тыповы выпадак.

**Тыран**, наз., м. р., -а. ◘ 1.У Старажытнай Грэцыі, Рыме — правіцель, які захапіў уладу сілай. 2. Правіцель, улада якога заснавана на дэспатызме і гвалце. Капайце яму, далакопы, Каб у яе халодны жвір Упаў навек тыран Еўрыпы, Крывавы прывід і вампір! К-с. 3. Жорсткі чалавек, мучыцель.

**Тытунь**, наз., м. р., -ю. ◘ Травяністая расліна сямейства паслёнавых, лісце якой багата нікацінам і ідзе на курэнне; табака. Тытунь шкодны для здароўя.

**Тэза**, наз., ж. р. ◘ Палажэнне, правільнасць якога павінна быць раскрыта і абгрунтавана; тэзіс.

Вызначым першую тэзу: Раз воўк не можа без зграі,
воўк не можа без лесу. глядзіць з тугою ў лес,

Для воўка выць ці не выць — тэза ўзнікае другая: тое, што «быць ці не быць». карміць яго які сэнс? А. В.

**Тэлефанаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ Званіць па тэлефоне. Тэлефанаваць сябру..

**Тэрміновы**, прым. ◘ 1. Які патрабуе неадкладнага, хуткага выканання, вырашэння; спешны; рус. срочный. Тэрміновыя меры выратавання людзей. Тэрміновая медыцынская дапамога. 2. Абмежаваны вызначаным часам, тэрмінам, разлічаны на пэўны час. Тэрміновы уклад.

**Тэст**, наз., м. р., -а. ◘ Стандартнае задание, якое прымяняецца ў адукацыі, псіхалогіі, педагогіцы для вызначэння ўзроўню ведаў, разумовых здольнасцяў, валявых якасцяў чалавека і іншых бакоў яго асобы. Тэсты, прапанаваныя для цэнтралізаванага тэставання, зацвярджаюцца Інстытутам кантролю ведаў.

**Тэўтоны**, наз., адз. тэўтон, м. р., -а; тэўтонка, ДМ -нцы, ж. р. ◘ 1. Старажытныя плямёны германскага паходжання. 2. Рыцары тэўтонскага ордэна (крыжакі).

# У

**Убогі**, прым. ◘ 1. Бедны, няшчасны, варты жалю і спагадання; які мае калецтва. Убогі чалавек. 2. Які сведчыць пра беднасць. Убогая веска. Убогая хаціна. Убогае ўбранне. Убогі выгляд. 3. у знач. наз. убогі, м. р.; убогая, ж. р. Усцешыўся вельмі юнак з перамогі, усіх бедных сабраў ён, сірот і ўбогіх. 4. Бедны зместам; абмежаваны духоўна. Які мізэрны і ўбогі Той недалёкі чалавек, Што цягне да сваёй бярлогі Набыткі розныя ўвесь век. П. П. Аддаў ім і пашу, і статкі аленяў, каб вынішчыць беднасць да самых карэнняў. У. Д.

**Убранне**, наз., н. р. ◘ Адзенне, убор, строі; аздабленне нечага. Жанчына ў шыкоўным ўбранні. Мароз на небе ставіць троны, Вянцы на месяц ускладае, Па снезе зоркі рассылав, І так прыгожа, так старанна Бярозе белай тчэ ўбранне, Бы той дзяўчыне лад вянчанне. К-с.

**Увага**, наз., ж. р., ДМ увёзе. ◘ 1. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху на нечым; накіраванасць спраў і думак на нешта; рус. внимание. Увага ёсць адна з прыкмет разумовых здольнасцяў чалавека. □ І так, заціхлі сенажаці, Пайшла каса адпачываці... Цяпер увагу дайце хлебу, — Сярпок крывенькі просіць дзела, Жытцо падходзіць, пабялела. К-с. 2. Клапатлівыя, чулыя адносіны да некага, нечага; цікавасць да некага, нечага. Вы паўшымі даражыце. Ды першая ўвага - жывым. Адзін аднаго беражыце дружыце адзін з адным. А. В.

**Увагнаць**, уганю, угоніш, угоніць; пр. ч. увагнаў, увагнала; зак. ◘ 1. Прымусіць увайсці; загнаць. Увагнаў кароў і авечак у хлеў. 2. З

сілай убіць, уткнуць у нешта. Увагнаць кол у зямлю. 3. Давесці некага да непрыемнага стану. Увагнаць у расходы. Увагнаць у слёзы?

♦ Увагнаць у магілу (у труну, у дамавіну) — знішчыць, звесці са свету, давесці да смерці, загубіць. Ногі просяцца ўстаць, Яны стомы ў дарозе не чулі, Ды ўвагналі ў магілу іх сілу Варожыя кулі. Ар. К.

**Уважлівы**, прым. ◘ 1. Які адносіцца да нечага, робіць нешта з увагай (у 1 знач.); рус. внимательный. Уважлівы вучань. 2. Які праяўляе ўвагу (у 2 знач.); чулы, спагадлівы, клапатлівы. Трэба быць больш уважлівым да чалавека, хто б ён ні быў. К-с. 3. Дастатковы для апраўдання; рус. уважительный. Уважлівыя прычыны спазнення.

**Увасабленне**, наз., н. р. ◘ 1. Пераняcенне рыс жывой істоты ці чалавека на прадметы і з'явы, напрыклад: «А косы свішчуць і смяюцца»; рус. олицетворение. 2. Ажыццяўленне, праяўленне нечага ў канкрэтным вобразе, форме. Коласаўскія героі з паэмы «Новая зямля» — увасабленне лепшых якасцяў беларускага народа.

**Уваскрэслы**. ◘ 1. у знач. наз. Паводле рэлігійных вераванняў, які ўваскрэс, вярнуўся да жыцця; рус. воскресший. Нягодніка перайначыць нельга: такія і ўваскрэслага не паслухаюць. 2. у знач. прым. Які зноў узнік, ажыў; які праявіўся з новай сілай. Усведамленне чалавекам свайго граху, пакаянне і раскаяние — сведчанне ўваскрэслай душы.

**Увасобіць**, -блю, -біш, -біць; зак. ◘ 1. Адлюстраваць нешта ў вобразе жывой істоты; рус. воплотить. Ядвігін Ш. у вобразах байкі «Дачэсныя» ўвасобіў розныя праявы зла: несправядлівасць, чорную няўдзячнасць, ашуканства, дыктатуру... 2. Выразіць у нейкай канкрэтнай форме. Увасобіць у творах гераічныя падзеі.

**Уваходзіны**, наз., адз. няма. ◘ Перасяленне на новае мёсца і ўрачыстая вечарына з гэтага выпадку; уходзіны; улазіны, наваселле. Уваходзіны — свята сям'і.

**Увачавідкі**, прысл. ◘ 1. Хутка, на вачах; імгненна; рус. воочию. І там з яго [цвета] ўжо ўвачавідкі Пякліся гладзенькія пліткі Блінцоў, спаднізу наздраватых, У гору пышна, пухла ўзнятых... К-с. 2. Сваімі вачамі, асабіста; наглядна. Увачавідкі ўпэўніцца ў карысці справы.

**Уверсе**, прысл. ◘ У верхняй частцы нечага; угары; у вышыні; проціл. унізе; рус. вверху.

**Увечар**, прысл. ◘ У вячэрні час, вечарам; увечары. Не пытайся ўвечар, Не сварыся ўранку: Маладым не вечна Хадзіць на гулянку. Н. Г.

**Увішны**, прым. ◘ Жвавы, спрытны; хуткі, вёрткі. Увішны ў працы. Увішныя сняжынкі.

**Увогуле**, прысл. ◘ 1. Разглядаючы цалкам, не звяртаючы ўвагі на дробязі; рус. вообще. Справы ўвогуле ідуць добра: 2. Заўсёды, ва ўсіх выпадках; зусім. У спёку ўвогуле забаранілі хадзіць у лес. 3. у знач. пабочн. У цэлым, у выніку. Увогуле, сітуацыя праяснілася.

**Уводзіны**, наз., адз. няма. ◘ 1. Уступная, пачатковая частка нечага; уступ; рус. введение. Уводзіны да падручніка. 2. Увядзенне парадзіхі з дзіцем у царкву і ўрачыстасць у сувязі з гэтым. Свята Уводзіны ў храм Прасвятой Багародзіцы адзначаецца вернікамі 4 снежня.

**Увосень**, прысл. ◘ Восенню; рус. осенью. Увосень на дзень пагод восем. З нар.

**Угнаенне**, наз., н. р. ◘ Рэчыва, якое ўносіцца ў глебу для павелічэння ўраджаю; рус. удобрение. Мінеральныя ўгнаенні.

**Угодкі**, наз., адз. няма. ◘ 1. Урачыстасць, прысвечаная гадавіне нейкай падзеі; юбілей. Грамадскасць усяго свету адзначала 500-я ўгодкі з дня нараджэння Ф. Скарыны. 2. Гадавіна з дня смерці некага.

**Угоднік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Святы, які дагадзіў Богу сваім бязгрэшным жыццём і слугаваннем людзям. У. Караткевіч у рамане «Каласы пад еярпом тваім» выкарыстаў паданне, у якім вытлумачваецца, чаму святы Мікола-ўгоднік ушаноўваецца царквой і людзьмі двойчы на год, а Касьян — толькі раз на чатыры гады. 2. Разм. зневаж. Той, хто імкнецца дагадзіць некаму; угодлівы чалавек.

**Удава**, наз., ж. р. ◘ Жанчына, у якой памёр муж; якая не выйшла замуж пасля смерці мужа. Па слоўку ўроняць два служакі. — Няма ў нас пана, небаракі! — Міхал гаворыць. — Так, няма. Жыві ўдава цяпер сама, — Сказаў Ксавэры задуменна. К-с.

**Удалы**, прым. ◘ 1. Які завяршаецца ўдачай; паспяховы; рус. удачный. Удалае падарожжа. 2. Здатны на ўсё; спрытны, умелы; рус. ловкий. Удалая гаспадыня. 3. Смелы, адважны, храбры; хвацкі; рус. удалой. Хлопец удалы.

**Удзел**, наз., м. р., -у. ◘ Сумесная дзейнасць; супрацоўніцтва; дачыненне да нечага; рус. участие. Удзел у падрыхтоўцы спектакля.

**Удзячнасць**, наз., ж. р. ◘ Пачуццё ў адказ за зробленае дабро; падзяка; рус. благодарность. Шчырая удзячнасць за падтрымку.

**Уежна**, безас. у знач. вык. ◘ Багата, дастаткова ежы. Пра жыццё гультая і лянотніка ў народзе скажуць: хоць не ўежна, дык улежна. □ Мядзведзю на сонцы ўлежна, Уежна каля раёў. Р. Б.

**Ужытак**, наз., м. р., -тку. ◘ Прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці; рус. обиход. Рэчы хатняга ўжытку.

**Узаемаадносіны**, наз., адз. няма. ◘ Узаемныя адносіны паміж некім, нечым; рус. взаимоотношение. Праблема ўзаемаадносін народа і інтэлігенцыі — цэнтральная праблема трылогіі Я. Коласа «На ростанях».

**Узаеміны**, наз., адз. няма. ◘ Узаемныя зносіны, лучнасць паміж людзьмі; сяброўская ці дзелавая сувязь паміж некім; рус. общение. Экзюпеpы пісаў, што існуе адзіная раскоша — раскоша чалавечых узаемін.

**Узаемны**, прым. ◘ Які праяўляецца ў адносінах адзін да аднаго; рус. взаимный. Узаемная падтрымка.

**Узбоч**, прысл. і прыназ. ◘ 1. прысл. Збоку, на нейкай адлегласці ад нечага, некага. Узбоч расла хвоя. 2. прыназ. з Р. Указвае на размяшчэнне некага, нечага ў баку некага, нечага. Узбоч дарогі — сядзіба.

**Узбраенне**, наз., н. р. ◘ 1. Зброя і боепрыпасы, прызначаныя для вайны, бою; рус. вооружение. 2. Забеспячэнне зброяй.

**Узбуджаны**. 1. дзеепрым. ад узбудзіць. ◘ 2. у знач. прым. Які знаходзіцца ў нервовым стане; усхваляваны, узрушаны' які выражае такі стан; рус. возбужденный. Узбуджаныя людзі. Узбуджаны голас.

**Узвышша**, наз., н. р. ◘ Узгорыстая або высокая мясцовасць; рус. возвышенность. Царква стаяла на ўзвышшы.

**Узгадніць**, узгадню, узгодніш, узгодніць; зак. ◘ Выпрацаваць адзіную думку, погляд наконт нечага; атрымаць згоду, дазвол на нешта; рус. согласовать. Узгадніць план дзеяння.

**Уздзеянне**, наз., н. р. ◘ Дзеянне, накіраванае на некага, нешта; уплыў; рус. воздействие. Уздзеянне тэмпературы. Аказваць добрае ўздзеянне на равеснікаў.

**Уздым**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Рост, развіццё нечага; рус. подъём. Прамысловы ўздым. 2. Натхненне, прыліў энергіі; рус. воодушевление. Душэўны ўздым.

**Узлесак**, наз., м. р., -ску. ◘ Край лесу, узлессе; рус. опушка. На ўзлеску - хата лесніка.

**Узмежак**, наз., м. р., узмёжка. ◘ Край мяжы; мяжа. На ўзмежках палеткаў чырванеюць буйныя ягады шыпшыны. Брыль.

**Узмужнелы**, прым. ◘ Які дасягнуў поўнага фізічнага развіцця, стаў дарослым, сталым; загартаваны; рус. возмужавший. Узмужнёлы сын. // у перан. знач. Перайначылі мясціны Працавітыя гады: Горда высяцца яліны, Узмужнелыя дубы. В. М.

**Узнагарода**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ 1. Плата, дар за нейкія заслугі, учынак і пад.; рус. награда. У народзе кажуць, што добрыя дзеці — узнагарода ад Бога. 2. Ганаровы знак, ордэн, медаль, якімі адзначаюцца чые-небудзь заслугі. Медаль Францыска Скарыны — адна з самых высокіх узнагарод у нашай краіне.

**Узнёслы**, прым. ◘ 1. Прыўзняты, урачысты; рус. торжественный. Узнёслая прамова. Узнёслы настрой. 2. Поўны вялікага, глыбокага значэння, высакародных пачуццяў; рус. возвышенный.

**Узор**, наз., м. р., -у. ◘ 1-Малюнак, у якім спалучаюцца ў пэўным парадку лініі, колеры, фігуры і пад. Срэбныя марозныя ўзоры на шыбах. 2. Паказальны прадмет, паказальны прыклад; рус. образец. Якуб Колас паказаў узор творчага падыходу да выкарыстання народнай мовы.

**Узорны**, прым. ◘ 1. Які можа служыць прыкладам для іншых; паказальны, дасканалы; рус. образцовый. Узорная чысціня. 2. Аздоблены ўзорамі, з узорамі; узорысты; рус. узорчатый. Узорныя фіранкі. Узорныя кілімы.

**Узрушыць**, -шу, -шыш, -шыць; зак. ◘ Вельмі моцна ўсхваляваць; устрывожыць. Аповед маці ўзрушыў. Мелодыя ўзрушыла. Падзеі 11 верасня 2001 года ў ЗША ўзрушылі свет.

**Узыходжанне**, наз., н. р. ◘ 1. Хада па нечым увышыню, уверх, звязаная з перашкодамі, намаганнямі, вынікам якой з'яўляецца дасягненне вяршыні; рус. восхождение. Узыходжанне турыстаў па крутой гары. 2. у перан. ужыв. Пра эвалюцыю душы чалавека, у выніку якой чалавек перамагае сябе, узвышаецца над абставінамі і дасягае вяршыні духу — Боскай любові да людзей. У назве фільма Л. Шапіцькі «Узыходжанне» па аповесці В. Быкава «Сотнікаў» дакладна выяўлены і сфармуляваны філасофскі сэнс твора і ідэя галоўнага вобраза.

**Уквэцаць**, -аю, -аеш, -ае; зак. Разм. ◘ Вымазаць, у штосьці ўсунуўшы; упэцкаць. Уквэцаць рукаво ў фарбу.

**Укладальнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто займаецца ўкладаннем нечага; рус. составитель. Укладальнік слоўніка. Укладальнік хрэстаматыі.

**Укленчыць**, -чу, -чыш, -чыць; зак. ◘ Стаць на калені, на калена. Укленчыць перад іконай.

**Улагодзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; зак. ◘ 1. Дагадзіць некаму, задобрыць. У народзе так раяць улагодзіць нядобразычліўца: заткні рот злосніку пірагом. 2. Супакоіць, суцешыць, прывесці ў добры настрой. Найлепш улагодзіць матулю добры пёс яе дзіцяці.

**Улада**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ І.Кіруючыя дзяржаўныя органы; урад, а таксама асобы з такімі паўнамоцтвамі; рус. власть. 2. Права і

магчымасць распараджацца, кіраваць дзеяннямі, паводзінамі, лесам некага. Вылез пан з карэты задам, каб не кланяцца народу, бо няправедная ўлада да людзей спіной заўсёды. У. Д. 3. перан. Сіла, моцны ўплыў нечага. Улада пачуццяў. Улада вясны. □ І не дарма ж на Палессі Чуў ад сталых я галоў, Што ў жыцці мы, як у лесе, Пад уладай нейкіх слоў. К-с.

**Уладальнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто ўладае, валодае нечым; рус. владелец. Уладальнік маёнтка. Уладальнік кватэры.

**Уладар**, наз., м. р. -а. ◘ 1. Той, хто валодае нечым, гаспадар нечага; уладальнік. Уладар маёнтка. 2. Той, хто карыстаецца неабмежаванай вярхоўнай уладай; той, каму ўсе падначальваюцца; рус. властелин. [Падзішах:] -Я — уладар і жывых і ўсіх нежывых, Я магу ўсё зрабіць, што надумаю, з іх. Гаспадар я на скарбы ва ўсёй старане, Дык на ліха яшчэ рамяство для мяне? У. Д. 3. Той, хто робіць моцны ўплыў на некага; рус. властитель. Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы, Цяпер беларускай я песні ўладар. К-а.

**Уладкаваць**, -кую, -куеш, -куе; зак. ◘ 1. Прывесці ў належны парадак, наладзіць; давесці да канца нейкую справу; упарадкаваць. Уладкаваць усе неадкладныя справы. 2. Прымірыць, урэгуляваць непаразуменні, канфлікты; рус. уладить. Уладкаваць адносіны з сямейнікамі. 3. Стварыць неабходныя ўмовы для жыцця; рус. устроить. Уладкаваць асабістае жыццё. 4. Дапамагчы паступіць на працу, вучобу. 5. Зручна размясціць, пакласці, паставіць. Уладкаваць рэчы ў пакоі інтэрната.

**Уладыка**, наз., м. р. ◘ 1. Архірэй, мітрапаліт. Уладыка Філарэт. 2. Тое, што і ўладар. Уладыка свету — Праца. М. Ч. Уладычыца, наз., ж. р. ◘ І.Адзін з эпітэтаў Прасвятой Багародзіцы. 2. Жан. да ўладыка (у.2 знач.); уладарка.

**Уласнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Той, хто мае нейкую маёмасць, валодае нечым; рус. собственник. 2. Чалавек, які прагне цалкам уладаць нечым, не дзелячыся з іншымі. Закаранелы ўласнік.

**Уласніцкі**, прым. ◘ Уласцівы ўласніку (у 2 знач.); рус. собственнический. Уласніцкая псіхалогія.

**Уласны**, прым. ◘ 1. Які належыць некаму, нечаму як уласнасць, здабытак; рус. собственный. Уласная гаспадарка. □ Першымі сярод усходніх славян уласнае кнігадрукаванне атрымалі беларусы. Л. Ш. Не чыёй якой мовай, але сваёй уласнай правы пісаныя маем і кожны раз пры неабходнасці для адпору ўсялякай крыўды ведаць можам. Л. С. 2. Свой, аеабісты. Шчаслівы час, калі прыходзіць роздум І ты ва ўладзе толькі ўласных дум. Р. Т. 3. Які робіцца самім. Па ўласнай волі.

**Уласцівасць**, наз., ж. р. ◘ Характэрная адметнасць, асаблівасць, рыса, прыкмета, якасць нечага, некага; рус. особенность, свойство. Свае ўласцівасці ўсе людзі маюць. Адны рыбалку паважаюць... У. К.

**Улегцы**, прысл. ◘ Разм. Без паклажы; паражняком; рус. нелегке.Ад бацькоў студэнты едуць нагружаныя, дадому — улегцы.

**Улежаны**, прым. ◘ І.Які асеў, ушчыльніўся ад доўгага ляжання. Улежанае сена. 2. Які ўляжаўся і стаў гатовым для ўжывання. Улежаныя яблыкі вельмі смачныя. Улётку, прысл. ◘ Летам, у летні час. Каласіцца на палетку Жыта ды пшаніца; Так на ўзмежку добра ўлетку Пад іх шэпты спіцца. К. К.

**Улічыць**, улічу, улічыш, улічыць; зак. ◘ 1. Прыняць пад увагу, прыняць у разлік; рус. учесть. Улічыць заўвагу. 2. Устанавіць нешта шляхам падліку; падлічыць; рус. сосчитать. Яшчэ мы не ўлічылі тых, што лячылі раны, раны не залячылі, рана памiралі. А. В.

**Улонне**, наз., н. р. ◘ 1. Уст. Грудзі ці чэрава маці; сімвал мацярынства, пяшчоты, ласкі; лона. [Сын Буры:] — Несканчоныя слёзы і нараканні маці маёй, калі быў яшчэ ў яе ўлонні, паўплывалі на ўсю маю натуру. Я нарадзіўся з адзнакай няшчасця на чале. Ян Б. 2. перан. Паверхня ці нетры вады, зямлі. Блішчэла шырокае ўлонне Дняпра. У. Карат. ♦ На ўлонні (лоне) прыроды — сярод прыроды, на адкрытым паветры.

**Улучыць**, улучу, улучыш, улучыць; зак. ◘ Знайсці, выбраць зручны час для нечага; рус. выбрать. Улучыць момант і зрабіць неадкладнае.

**Улюбёны**, прым. ◘ 1. Закаханы ў некага; зачараваны, захоплены некім, нечым; рус. влюблённый. Коласаўскія героі — людзі, улюбёныя ў зямлю. 2. Такі, якому аддаецца перавага; аблюбаваны. Улюбёная страва. Улюбёнае месца. Улюбёная тэма паэзіі Броўкі.

**Умацаваць**, -цую, -цуеш, -цуе; зак. ◘ І.Зрабіць нешта больш устойлівым, трывалым; рус. укрепить. Умацаваць плаціну. 2. перан. Надаць сілу (пачуццям, думкам). Умацаваць адносіны.

**Умова**, наз., ж. р. ◘ І.Пісьмовая або вусная дамоўленасць; рус. условие. Выканаць умову. 2. часцей мн. (умовы). Абставіны, у якіх нешта адбываецца. Кліматычныя ўмовы. Жыллёвыя ўмовы. 3. Тое, ад чаго залежыць існаванне, ажыццяўленне нечага. Мір — самая першая ўмова жыцця.

**Умоўны**, прым. ◘ 1. Вызначаны паводле дамоўленасці, умовы; рус. условленный. Сустрэцца ва ўмоўным месцы. 2. Абмежаваны нейкімі ўмовамі; рус. условный. Умоўнае асуджэнне тэрмінам на

два гады. 3. Адносны. Шчасце — паняцце ўмоўнае, бо ў кожнага сваё разумение шчасця. 4. Які не існуе насамрэч, а ўяўляецца, дапускаецца ў думках; уяўны. Умоўны праціўнік. Умоўная мяжа дазволенага. 5. У граматыцы — які мае значэнне ўмовы. Умоўны лад дзеяслова. Дадзены ўмоўны сказ.

**Унадзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; зак. ◘ Панадзіцца, прывучыцца рабіць нешта непажаданае; стаць часта наведваць некага, хто гэтага не жадае; рус. повадиться. Унадзілася свінка ў ніўку: ці ніўку сажні, ці свінку забі. Прык. (рус. Повадился кувшин по воду ходить — там ему и голову сломить).

**Унаймы**, прысл. ◘ У часовае карыстанне за пэўную плату; рус. внаём. Здаць пакой унаймы.

♦ Ісці ўнаймы — наймацца на работу, ісці ў парабкі, на службу.

**Унікальны**, прым. ◘ Вельмі рэдкі, адзіны ў сваім родзе; выключны. Унікальны рукапіс. Унікальнае здарэнне.

**Унісон**, наз., м. р., -у. ◘ У выразе ва унісон. Сугучна спяваць, гучаць і пад.; зладжана рабіць нешта, дзейнічаць.

**Унітарны**, прым. ◘ Аб'яднаны, які ўтварае адно цэлае. Унітарная дзяржава. Унітарнае прадпрыемства.

**Унук**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Сын дачкі або сына; рус. внук. Вестка -унук нарадзіўся -прыйшла. От жа сэрца і рвецца: Як там? Што там у іх? Каб магла Паляцела б, здаецца. Н. Г. 2. Нашчадкі. А нас цяжка ў сэрца раніць Пад прыгон узяць навек, Нашы скарбы апаганіць, Душу вынесці на здзек,

**Упарты**, прым. ◘ 1. Вельмі настойлівы, паслядоўны ў дасягненні мэты; рус. упорный. Каб у віры той ашукі Знішчыць нашы ўсе спяды, Каб не ведалі і ўнукі, Хто такія іх дзяды. К-с. Яна гаварыла: — Сынок, будзь упарты! Братоў тваіх прыклад нічога не варты. У. Д. 2. Які ажыццяўляецца з вялікай вытрымкай і стойкасцю; рус. упорный. Пара вам выходзіць, сыны, на змаганне. Упартаю працай знішчайце насланне. У. Д. 3. Незгаворлівы, які робіць нешта па-свойму, наперакор некаму; рус. упрямый. Упарты чалавек — сам сабе вораг. 4. перан. Зацяжны, непрымірымы. Упартая, бязглуздая вайна суседзяў.

**Упершыню**, прысл. ◘ Першы раз; рус. впервые. Сустрэцца ўпершыню.

**Упікаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Папракаць некага, выказваць неадабрэнне, нездавальненне за нешта; рус. упрекать, укорять, корить. Найгоршыя пакуты, калі за ўчыненае ўпікаеш сам сябе, калі мучыць сумленне.

**Уплыў**, наз., м. р., уплыву. ◘ І.Уздзеянне на некага, нешта; рус. влияние. Бацькі маюць уплыў на сваіх дзяцей. 2. Сіла аўтарытэту, улады. Узяць пад свой уплыў.

**Упоравень**, прысл. ◘ 1. На адной лініі, вышыні, глыбіні і пад.; рус. вровень. Сланечнік упоравень са страхой. Вада ўпоравень з бартамі. 2. На адным узроўні, у роўным становішчы, умовах і пад. Упоравень з лепшымі сусветнымі творамі.

**Употай**, прысл. ◘ Скрытна, тайком, цішком; употайкі; употайку; рус. втайне, тайком, украдкой. Употай выцерці слязу.

**Управа**, прысл. ◘ У правы бок; проціл. улева; рус. вправо.

**Управа**, наз., ж. р. ◘ 1. Раней установа, якая кіравала грамадскімі і адміністрацыйнымі справамі, а таксама будынак, дзе яна размяшчалася. Земская ўправа. Гарадская ўправа. 2. Сіла ў працівагу іншай сіле (свавольству, дэспатызму, несправядлівасці і пад.). Нашто зямля іх, катаў, носіць? Ой, хто ж ад іх не загалосіць? А дзе ж на іх шукаць управы, Бо суд «праўдзівы», суд «ласкавы» Паноў за здзекі не карае? К-с. .

**Упрыгажэнне і упрыгожанне**, наз., н. р. ◘ Прадмет для аздаблення некага, нечага; мастацкае аздабленне нечага (барэльеф, роспіс, вышыўка і пад.); рус. украшение. На пані было шмат упрыгожанняў.

**Упрыгожыць**, -жу, -жыш, -жыць; зак. ◘ Надаць некаму, нечаму прыгожы, яркі выгляд; аздобіць; рус. украсить. А колькі розных стужак, грабянёў, Хусцінак яркіх, завушніц прыгожых! Якіх яны красуняў упрыгожаць! М. Т.

**Упэўненасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Перакананасць у нечым, цвёрдая вера ў нешта; рус. уверенность. Упэўненасць надае сілы. 2. Усведамленне сваёй сілы, магчымасцяў.

**Уражанне**, наз., н. р. ◘ Вобраз, след, які застаецца ў свядомасці ад убачанага, пачутага, перажытага; рус. впечатление. Дзіцячыя ўражанні.

**Уразіць**, уражу, уразіш, уразіць; зак. ◘ 1. Зрабіць вялікае Уражанне, моцна ўсхваляваць, устрывожыць; рус. поразить, потрясти. Сустрэча ўразіла. Прачытаная кніга ўразіла. 2. Балюча закрануць, пакрыўдзіць некага, нешта; рус. оскорбить, задеть. Тактоўны чалавек не ўразіць чулае сэрца дзіцяці.

**Урачыстасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Святкаванне нейкай выдатнай падзеі, юбілейнай даты і пад.; рус. торжество. Сямейная ўрачыстасць. 2. Урачыстыя абставіны; стан прыўзнятасці, захаплення; хараство ў прыродзе; рус. торжественность. Урачыстасць ночы. Радасць і урачыстасць у душы.

**Урок**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Вучэбны час (звычайна 45 хвілін), прысвечаны асобнаму прадмету, а таксама задание, якое дае настаўнік вучню. Урок літаратуры. Вывучыць урокі. 2. перан. Вопыт, веды, набытыя ў працы, жыцці.

Ад нашых першых крокаў,<br>ад крокаў самых першых,<br>аб звычаях даўнейшых.<br>З іх самы быў галоўны —<br>бо гэты дар цудоўны<br>нам Працай здабываны. У. Д.

**Урочышча**, наз., н. р. ◘ Частка мясцовасці, якая нечым вылучаецца, адрозніваецца ад навакольнай тэрыторыі і звычайна мае сваю назву. Урочышча Дразды ў Мінску здзіўляе сваёй прыгажосцю і прыродным рэльефам.

**Усведамленне**, наз., н. р. ◘ Поўнае і да канца разумение таго, што раней з нейкіх прычын было незразумелым ці не ўспрымалася (пра памылкі, радасць жыцця, шчасце і пад.); рус. осознание. З усведамлення ўласных памылак да іх выпраўлення доўгі і пакутніцкі шлях, але ён сведчыць пра духоўнае сталенне чалавека, пра эвалюцыю яго душы. □ ...Нацыянальнае абуджэнне народа бярэ свой пачатак з усведамлення ім вялікага значэння роднай мовы як свайго сцяга, ідучы пад якім ён знойдзе сваю волю і шчасце. М.Е.

**Усмак**, прысл. ◘ 1. Са смакам, з апетытам. Снедаць усмак. 2. Удосталь, да поўнага задавальнення; рус. всласть. Пагаварыць усмак. Паспаць усмак.

**Усмешка**, наз., ж. р., ДМ -шцы. ◘ Міміка твару, выраз вачэй, якія паказваюць схільнасць да смеху або выражаюць радасць, задавальненне; рус. улыбка. Калі ўсміхаецца жанчына, Што тоіцца ва ўсмешцы той, Якая думка і прычына, І сэнс, і мара, і настрой? А. Л.

**Усміхацца**, -аюся, -аешся, -ееццa; цезак. ◘ Выражаць усмешкай радасць, іронію, пагарду і пад.; усмешкай выражаць свае адносіны да некага, адказваць на нешта; рус. улыбаться. Прыветна ўсміхацца.

**Успамін**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Узнаўленне ў думках таго, што захавалася ў памяці; рус. воспоминание. Аддацца ўспамінам. 2. толькі мн. успаміны. Запіскі, аповеды пра мінулае, перажытае. Пісаць успаміны. Веч ар успамінаў.

**Успрыманне**, наз., н. р. ◘ Здольнасць разумець, засвойваць атрыманую органамі пачуццяў інфармацыю і рэагаваць на яе пэўным чынам; рус. восприятие. Успрыманне новага. Непасрэднасць успрымання.

**Установа**, наз., ж. р. ◘ Грамадская ці дзяржаўная арганізацыя, якая кіруе пэўнай галіной гаспадаркі і занята адпаведнай дзейнасцю; рус. учреждение, заведение. Вышэйшыя і сярэдне-спецыяльныя навучальныя ўстановы. □ Ва ўстановах часам ёсць Здэцца, робяць яны штосць, Вось такія бабы: Але справы слабы. К. К.

**Устрымацца**, -аюся, -аешся, -аецца; зак. ◘ Стрымаць сябе ад нейкіх дзе.янняў, ухіліцца, адмовіцца ад нечага; рус. воздержаться. Устрымайся, ухіліся ад зла і зрабі дабро. 3 Евангелля.

**Усход**, наз., м. р., -у. ◘ 1. З'яўленне над гарызонтам нябеснага свяціла, зары; час, калі сонца ўзыходзіць, падымаецца над лініяй гарызонту; рус. восход; частка гарызонту, дзе ўзыходзіць сонца; рус. восток. Усход жыве, гарыць, палае, Слупы-праменні падымае, Бы тыя рукі блаславення У часе шчырага малення. І вось яна, жыцця крыніца, Сама багіня-чараўніца, Ўзышла на небе і міргнула; Расу ў брыльянты абярнула. К-с. 2. Адзін з чатырох напрамкаў свету, процілеглы захаду; рус. восток. 3. (з вялікай літары). Краіны, размешчаныя ў гэтым напрамку і супрацьпастаўленыя Заходняй Еўропе. Блізкі Усход, Далёкі Усход.

**Утрымліваць**[1], -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Ч.Трымаючы, не даваць упасці некаму, нечаму; стрымліваць рух некага, нечага; рус. Удерживать. Утрымліваць вясло. 2. Стрымліваць праяўленне нейкіх жаданняў, пачуццяў, учынкаў. Цяжка ўтрымліваць таго, хто ляціць у бездань сваіх мярзотных страсцей. 3. Прымушаць застацца недзе; не адпускаць. Утрымліваць у камеры. 4. Вылічаць, не выплачваць. Аліменты ўтрымлівалі з зарплаты.

**Утрымліваць**[2], -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Забяспечваць сродкамі для існавання, карміць; рус. содержать. Утрымліваць усю сям'ю на сваіх плячах. 2. (1 і 2 ас. не ўжыв.). Мець у сваім складзе. Кара яліны ўтрымлівае таніды, з якіх здабываюць дубільныя экстракты.

**Утаймаваць**, -мую, -муеш, муе; зак. ◘ 1. Уціхамірыць, супакоіць некага; падпарадкаваць сваёй волі чые-небудзь дзеянні, учынкі; падпарадкаваць дзікую або непаслухмяную жывёлу; рус. укротить. 2. Змёншыць, аслабіць або суцішыць боль, хваляванне, гнеў і пад.; справіцца з нейкімі стыхійнымі з'явамі; рус. обуздать. Утаймаваць гнеў. Утаймаваць пажар.

**Утрапенне**, наз., н. р. ◘ Неўтаймаванае праяўленне нейкіх пачуццяў; стан чалавека, які знаходзіцца ва ўладзе нейкага моцнага пачуцця; рус. одержимость; неистовство.

**Утруска**, наз., ж. р., ДМ утрусцы. ◘ Змяншэнне вагі сыпучага рэчыва пры перавозе, перасыпанні. // у іран. ужыв. Калі ў краме ёсць

нястача, Дык «усушка» там, няйначай, Ці «утруска», ці мо «мышы» — Так заўсёды ў актах піша. К. К.

**Утульны**, прым. ◘ 1. Упарадкаваны, у якім прыемна знаходзіцца, жыць; рус. уютный. Утульны пакой. 2. Выгодны, зручны. Утульнае крэсла. 3. Зацішны, укрыты ад некага, нечага. Утульнае месца.

**Ухіл**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Пэўны напрамак дзейнасці, спецыялізацыі, інтарэсаў; рус. уклон. Школа з мастацкім ухілам. 2. перан. Адхіленне ад нейкага напрамку; разыходжанне ў поглядах, палітыцы. Бальшавікі бязлітасна вынішчалі правыя і левыя ўхілы — усіх, хто не пагаджаўся з іх палітыкай. 3. Нахіленая, спусцістая паверхня; схіл, адхон. Перад ухілам машына набрала хуткасць.

**Уцёкі**, наз., адз. няма. ◘ 1. Хуткі, беспарадкавы адыход; адступленне; рус. побег. Уцёкі фашыстаў. 2. Самавольнае знікненне з месца абавязковага знаходжання. Піша ў гэтых кнігах Майсей пра няволю ізраільцян, егіпецкіх рабоў; пра сваё нараджэнне і ўцёкі ад фараона; пра тое, як Гасподзь Бог явіўся яму ў купіне неапалімай і загадаў выводзіць ізраільцян з Егіпта... Ф. С.

**Уцячы**, уцяку, уцячэш, уцяча, зак. ◘ 1. Паспешліва пайсці аднекуль; рус. убежать. Уцячы з дому. 2. Тайком збегчы аднекуль, схавацца, ратуючыся ад некага, нечага. Уцячы з палону. 3. Пазбавіцца, вызваліцца ад нечага. Ад сябе і сваіх дум не ўцячэш.

**Учынак**, наз., м. р., учынку. ◘ Дзеянне, учыненае некім; тое, што здзейснена некім; рус. поступок. Пра ўсе свае ўчынкі, пра добрае ці злое павінны без затрымкі сказаць часінай тою За дрэнны ўчынак ганяць, за добры ўзносяць славу, было на той паляне прыгожа і цікава. У. Д.

**Ушчуваць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Уздзейнічаць на некага, папракаючы за нешта; рус. укорять. Маці ўшчувала сына за кепскі ўчынак.

**Ушчэнт**, прысл. ◘ Поўнасцю, зусім, дарэшты, нашчэнт; рус. совершенно; вдребезги; дочиста, дотла. Цяпер яго [тырана] сонца ад сонца загінула ўшчэнт спапяліла, гадава сіла. У. Д.

**Уявіць**, уяўлю, уявіш, уявіць; зак. ◘ 1. У думках стварыць вобраз нечага, некага, узнавіць розумам, фантазіяй; рус. представить. Мне цяпер уявіць немагчыма — Нікне розум, маўчыць уяўленне. С. Дз. 2. Палічыць, дапусціць. Цяжка нават уявіць, што брат можа пайсці на брата, бацькі могуць кінуць сваіх дзяцей, дзеці адмовіцца ад бацькоў.

**Уяўленне**, наз., н. р. ◘ 1. Стварэнне ў думках вобраза некага, нечага; узнаўленне ў свядомасці атрыманых раней успрыманняў; рус. представление. Мець уяўленне пра магчымыя выпрабаванні. 2.

Псіхічны працэс стварэння новых вобразаў на аснове ўжо наяўных шляхам іх пераўтварэння; рус. воображение. Развіццё ўяўлення — важны элемент і адна з задач выхавання творчай моладзі. 3. Разумение, веданне нечага, заснаванае на вопыце; рус. понятие. Многія героі апавяданняў Яна Баршчэўскага пераасэнсоўваюць свае ранейшыя ўяўленні пра шчасце.

**Уяўны**, прым. ◘ 1. Які існуе не ў сапраўднасці, а ва ўяўленні; рус. мнимый. Уяўная небяспека. 2. Тэарэтычна мажлівы, патэнцыяльны. Уяўная лінія. Уяўны лік.

# Ф

**Фабула**, наз., ж. р. ◘ Паслядоўны паказ падзей, здарэнняў; кароткі змест, пераказ чаго-небудзь. Фабула — элемент сюжэта.

**Фавор**, наз., м. р., -у. ◘ Прыхільныя адносіны знатнай асобы да некага. Быць у фаворы ў самога імператара. ♦ У фаворы быць — быць пад апекай, заступніцтвам некага.

**Файны**, прым. ◘ Разм. Добры, прыгожы; рус. хороший; красивый. Файная брошка. Файная дзяўчына.

**Фактар**, наз., м. р., -у. ◘ Істотныя абставіны ў нейкай з'яве, працэсе. Прыклад бацькоў — найважнейшы фактар у выхаванні дзяцей.

**Фальварак**, наз., м. р., -рка. ◘ Невялікая панская сядзіба, хутар. Жыў у фальварку Язэп панам І гаспадарку вёў умела. К-с.

**Фальклор**, наз., м. р., -у. ◘ Вусная народная творчасць. Фальклор — невычэрпная крыніца майстэрства для кожнага пісьменніка.

**Фальш**, наз., м. р., -у. ◘ Ч.Падман, ашуканства; падробка. Прадаваць без фальшу. 2. Няшчырасць, прытворства, крывадушнасць. У ласкавасці адчуваўся фальш. 3. Адсутнасць натуральнасці, адпаведнасці праўдзе. Нішто не бывав такім прыкрым у мастацкім творы, ва ўсякім друкаваным слове, як фальш, непісьменная сухая штучнасць. К. Ч.

**Фанабэрысты**, прым. ◘ Пыхлівы, ганарысты, пагардлівы; уласцівы такому чалавеку; рус. кичливый, чванливый, спесивый, надменный. Цішка Гартны не любіў фанабэрыстых людзей і, калі заўважаў гэтую прыкрую хваробу, імкнуўся жорстка высмеяць яе. М. Х.

**Фанабэрыя**, наз., ж. р. ◘ Пыхлівасць, зазнайства, ганарыстасць; рус. кичливость, чванство, высокомерие, спесь. Фанабэрыя і пыха да дабра не даводзяць.

**Фарба**, наз., ж. р. ◘ 1. Рэчыва, што надае той ці іншы колер прадметам, якія яно пакрывае; рус. краска. 2. Памада, туш і іншыя

касметычныя сродкі. 3. звычайна мн. (фарбы, -аў). Барва, колер, тон. Дрыгучы блеск вакол гуляе, І фарбаў розныя гатункі І цьму адгэтуль адганяе, Па тоўстых хвоях раскідае, І піша здольныя малюнкі, Дзівоты чараў выяўляе. К-с. 4. перан. Выразныя сродкі мовы, музыкі; яркасць апісання ў мастацкім творы. Багдановіч узбагаціў беларускую паэзію новымі матывамі і фарбамі.

**Фарбаваць**, -бую, -буеш, -буе; незак. ◘ 1. Пакрываць, насычаць фарбай; надаваць колер, афарбоўку; рус. красить. Маляр фарбуе дах. 2. Падмалёўваць сабе вусны, бровы і пад.; перафарбоўваць у іншы колер. Фарбаваць валасы.

**Фармаваць**, -мую, -муеш, -муе; незак. ◘ Надаваць нечаму адпаведную форму. Фармаваць цэглу.

**Фарміраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ 1. Выхоўваць, выпрацоўваць у некага адпаведныя рысы характару, светапогляду і пад. Праца фарміруе чалавека. 2. Арганізоўваць, ствараць нешта. Фарміраваць урад.

**Фарсіць**, фаршу фарсіш, фарсіць; незак. ◘ Франціць; выхваляцца, выстаўляючы нешта напаказ.

**Фарсун**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто любіць фарсіць.

**Фартуна**, наз., ж. р. ◘ Удача, поспех; шчаслівы лес. Мудрыя людзі кажуць, што фартуна не любіць сквапных, злосных і зайздросных.

**Фаталіст**, наз., м. р., -а. Кніжн. ◘ Чалавек, які верыць у непазбежнасць лесу.

**Фата-маргана**, наз., ж. р. ◘ Разнавіднасць міражу. Фата-маргана — міраж у пустыні, пры якім уяўляюцца абрысы прадметаў, што ляжаць за мяжой небасхілу. Гаўрусёў.

**Фатум**, наз., м. р., -у. Кніжн.◘ Няўхільны, немінучы лёс; наканаванне лёсу.

**Фатыга**, наз., ж. р., ДМ -ызе. ◘ Турботы, клопат. Паказаўён [музыка] чорту фігу за частунак і фатыгу. У. Д.

**Фауна**, наз., ж. р. ◘ Сукупнасць усіх відаў жывёл пэўнай мясцовасці ці пэўнага геалагічнага перыяду.

**Фашызм**, наз., м. р., -у. ◘ Тэрарыстычная дыктатура, якая абапіраецца на сілы шавінізму і расізму і імкнецца да знішчэння дэмакратыі і развязвання захопніцкіх войнаў. Фашызм — карычневая чума. Прапаганда фашызму забаронена ва ўсім свеце.

**Фашына**, наз., ж. р.; спец. ◘ Звязка галля, чароту для ўмацавання насыпаў, плацін, дарог. Умацаваць фашынай рэчышча, кранутае плывуном.

**Феерверк**, наз., м. р., -у. ◘ Каляровыя агні ў паветры, якія атрымліваюцца пры спальванні парахавых сумесяў у час урачыстасцяў, свят. Святочны феерверк.

**Феерверкер**, наз., м. р., -а. ◘ У царскай арміі — унтэр-афіцэр артылерыі.

**Фельчар,** наз., м. р., -а. ◘ Медыцынскі работнік, які мае сярэднюю спецыяльную адукацыю; рус. фельдшер. Абавязкі фельчара.

**Феномен**, наз., м. р., -а. ◘ Рэдкая, незвычайная, выключная з'ява. Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» -літаратурны феномен нашай нацыянальнай культуры.

**Фестон**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Аблямоўка круглай ці зубчастай формы на краях сукенкі, фіранкі і пад. Спадніца з фестонамі. Абажур з фестонамі. 2. Ляпная аздоба ў архітэктурных збудаваннях.

**Фетыш**, наз., м. р., -а. ◘ 1.У першабытных народаў: прадмет, які абагаўляўся. 2. перан. Тое, што карыстаецца бясспрэчным прызнаннем, чаму слепа верацьі пакланяюцца. Зрабіць сабе фетыш з нечага.

**Фігляр**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Уст. Фокуснік, штукар, акрабат. 2. перан. Разм. Штукар, крыўляка. Знайшла каго пакахаць! Фігляр нейкі, пустельга... М. Вад.

**Фігурант**, наз., м. р., -а. Уст. ◘ 1. Танцоўшчык у масавых балетных сцэнах. 2. Драматычны акцёр, які іграе ролі без слоў.

**Філалогія**, наз., ж. р. ◘ Сукупнасць навук, якія вывучаюць літаратуру і мову. Акадэмік Я.Ф. Карскі з'яўляецца заснавальнікам беларускай філалогіі.

**Філамат**, наз., м. р., -а. ◘ Член тайнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое існавала ў 1817-1823 гг. і аб'ядноўвала моладзь з Беларусі, Літвы і Польшчы. [Ад грэч. philomathes — аматар ведаў.]

**Філантроп**, наз., м. р., -а. ◘ Дабрачынец, гуманіст; проціл. мізантроп.

**Філармонія**, наз., ж. р. ◘ Установа, якая займаецца арганізацыяй канцэртаў і прапагандай музычнай культуры. У 1932 годзе адкрыліся кансерваторыя, вялікі сімфанічны аркестр пры радыёкамітэце, філармонія і інш. «Беларусь».

**Філарэт**, наз., м. р., -а. ◘ Член тайнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое ўзнікла ў 1820 г. [Ад грэч. philaretos — аматар дабрачыннасці.]

**Філія**, наз., ж. р. ◘ Адцзяленне буйнога прадпрыемства, нейкай установы ці арганізацыі; філіял. Філіі «Маладняка», што ўзніклі ў многіх гарадах Беларусі, мелі адпаведныя друкаваныя органы і выданні. І. Н.

**Флегматычны**, прым. ◘ 1. Які характарызуецца марудлівасцю, спакоем, ураўнаважанасцю, слабым праяўленнем эмоцый (пра тэмперамент). 2. З такімі ўласцівасцямі; які выказвае непарушны спакой, раўнадушша; апатычны. Флегматычны чалавек. // у пе-ран. ужыв. ...І з гэтай прычыны яна [Прыпяць] такая павольная і флегматычная. К-с.

**Флігель,** наз., м. р., -я. ◘ Жылая прыбудова пры галоўным будынку, а таксама невялікі дом на двары вялікага будынка. Асабняк з флігелем.

**Флірт**, наз., м. р., -у. ◘ Какецтва, лёгкае заляцанне. Не каханне, а звычайны флірт.

**Флора**, наз., ж. р. ◘ Сукупнасць усіх відаў раслін нейкай мясцовасці ці геалагічнага перыяду. Флора Беларусі надзвычай багатая і разнастайная.

**Форзац**, наз., м. р., -а. ◘ Падвойны ліст паперы, які злучае пераплёт з самой кнігай. Форзацы скарынінскіх выданняў па-мастацку аформлены.

**Фортка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ 1. Шкляныя дзверцы ў акне для праветрывання памяшкання; акенца ў дзвярах, сцяне; фортачка. 2. Невялікія дзверы ў варотах, агароджы; веснічкі. Зайшоў [дзед] праз фортку на двор і сам адчыніў браму. А. Я. 3. Разм. Свабодны ўрок у настаўнікаў; акно. У Святланы Мікалаеўны пасля першага ўрока — «фортка».

**Фрывольны**, прым. ◘ Не зусім прыстойны, брыдкі. Фрывольныя паводзіны.

**Фундатар**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто засноўвае нешта або дае грошы на заснаванне нечага. Фундатарамі выдавецкай справы Ф. Скарыны былі гетман ВКЛ Канстанцін Астрожскі, найстаршы бурмістр Вільні Якуб Бабіч, купцы Багдан Онкаў і Юрый Адвернік.

**Фурман**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, які кіруе конямі ў запрэжанай фурманцы; фурманшчык; рус. кучер.

**Фурманка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Падвода для перавозу грузаў.

**Фурор**, наз., м. р., -у. ◘ Шумны публічны поспех; бурнае праяўленне захаплення некім, нечым. Зрабіць фурор сваім выступлением на канцэрце.

**Футарал**, наз., м. р., -а. ◘ Скрынка ці чахол, куды кладзецца нейкая рэч, каб захаваць яе ад пашкоджанняў або псавання; футляр. Футарал для акуляраў. Футарал для скрыпкі.

**Футра**, наз., н. р. ◘ 1. Валасяное покрыва на целе жывёл; шэрсць. Шэрае футра вавёркі. 2. Выраблены шкура пушнога звера; рус. мех. За каштоўнае футра бабра замежныя камерсанты плацілі

чыстым золатам. 3. Зімовая вопратка з вырабленых шкур авечкі ці пушнога звера; рус. шуба. Футра з каракулю.

**Футэрка**, наз., н. р. ◘ 1. Кароткае футра. У футэрку з лісы. 2. Памянш. да футра. Купілі футэрка хлопчыку.

**Фэст**, наз., м. р., -у. ◘ Свята з кірмашамі і пагулянкамі. На фэсце выступілі фальклорныя ансамблі.

# Х

**Хабар**, наз., м. р., -у. ◘ Грошы або рэчы, што даюцца ўплывовай асобе з мэтай атрымання пэўнай выгады; барыш; рус. взятка. Пры гэтым дзядзька асцярожна Прыгнуўся к Донісу, замяўся, Ды Доніс зразу дагадаўся, Што за патрэбу мае сябар, — Дык ці не можна б мне ...за хабар Крыху паехаць на машыне ? К-с.

**Хабарнік**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто бярэ хабар. Хабарнік — злачынца, а хабарніцтва караецца законам.

**Хадайнічаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ Звяртацца з афіцыйнай просьбай пра нешта; рус. ходатайствовать. Маці хадайнічала, каб сына дэмабілізавалі.

**Хадульны**, прым. ◘ Залішне напышлівы, ненатуральны, пазбаўлены арыгінальнасці. Хадульная прамова. Хадульны пафас. Хадульны вобраз.

**Хайлук**, наз., м. р., -а. Абл. ◘ Вавёрчына гняздо. Вавёрка перанесла ў свой хайлук грыбы, што сушыліся пад страхою.

**Халадзёнка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. Абл. ◘ Халодная вада. Нанасіць халадзёнкі ў лазню.

**Халадэча**, наз., ж. р. ◘ Моцны холад; рус. холодина.

**Халуйства**, наз., н. р. Пагард. ◘ Угодлівасць, рабалепства, падхалімства. Зноў нас хваляць! І зноў — за халуйства! І мы ўдзячна прымаем хвалу... Н. Г. На памылках ці трэба вучыцца? Імі трэба, як зеллем, лячыцца Ад зласлівасці, ганарлівасці, Ад халуйства і ад ліслівасці. А. Гр.

**Хапун**, наз., м. р., -а. ◘ Той, хто хапае; прагны да нажывы; хабарнік, злодзей, хапуга. І ўсё, што толькі хоць якую Прыгоднасць мае і цану, Яно ўжо там не павякуе, Пяройдзе ў рукі хапуну. К-с.

**Харашун**, наз., м. р., -а. ◘ Ч.Прыгожы мужчына; прыгажун; рус. красавец. Мікіта вычакаў хвіліну, Пакуль заціх-улёгся шум, Устаў паважна, нос закінуў, Як перад люстрам харашун. Н. Г. 2. Аб некім, нечым прыгожым. Певень-харашун. Дуб-харашун.

**Харугва**, наз., ж. р. Уст. ◘ 1. Баявы сцяг войска. А вецер калыша харугвы палкоў ды чэша бароды маскоўскіх паслоў. А. Вял. 2. Царкоўны сцяг, палотнішча на доўгім дрэўку з вобразамі святых.

**Харч**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Тое, што спажываюць, чым жывяцца; прыгатаваная страва; рус. пища. 2. Корм для жывёлы. Харч каровам на зіму.

**Харчавацца**, -чуюся, -чуешся, -чуецца; незак. ◘ І.Есці; рус. питаться. Вегетарыянцы харчуюцца расліннай ежай. 2. Карміцца, жывіцца (пра жывёл). 3. Сталавацца дзе-небудзь. Харчавацца ў сталовай.

**Харчэўня**, наз., ж. р. ◘ Сталовая, закусачная.

**Хата**, наз., ж. р., ДМ хаце. ◘ 1. Жылая сялянская пабудова, зрубленая з бярвення. Ў двары, дзе колісь была хата, Цяпер работа йшла заўзята, І цесляры ўжо зруб канчалі, Гірш з Моўшам дошкі пілавалі... ...Прайшла нядзеля і другая — Час не стаіць і не чакае, Ужо хата новая гатова, Прыбраны трэскі ўжо і дровы... К-с. 2. Унутраная частка такой пабудовы; жылое памяшканне. — Хоць хату добрую, а маем, — Не тое цеснае скляпенне! — Казала маці ў здавальненні. — Чысцютка, светла, бы ў пакоі! — Прыемна пахла тут смалою... К-с. 3. Падлога. Не хітруе і лісіца, Ёй таксама не ляжыцца: Як мятлой, хвастом пушыстым Падмятае хату чыста. І. М. Дзе багата гаспадыняў, там хата нямеценая. Прык. (рус. У семи нянек дитя без глаза). 4. Асобны сялянскі двор; асобная сям'я. Збіраліся хатамі і рабілі граблю.

**Хатуль**, наз., м. р., -я. Разм. ◘ Вялікі клунак рэчаў, звязаных у хустку, пасцілку, які звычайна носяць за спінай. Ішла Сава дарожкаю лясной, на плечы пачапіўшы клунак свой... [Дзяцел:] — Куды ты пацягнула хатулі? Нядрэнна па суседстве мы жылі... У. Д.

**Хаўрус**, наз., м. р., -у. Разм. ◘ 1. Група людзей, звязаных агульнымі мэтамі, інтарэсамі; саюз, садружнасць. [Сляпы бязногаму:] - І наш хаўрус сяброўскі гэты паможа нам дайсці да мэты. У. Д. 2. у знач. прысл. хаўрусам. Сумесна, гуртам, усе разам. Людзі ўсе хаўрусам, талакой змуравалі мост па-над ракой. У. Д.

**Хаўтуры**, наз., адз. няма. ◘ І.Абрад пахавання нябожчыка; рус. похороны. Вяселле слаўна песнямі, хаўтуры — плачам. Прык. 2. Жалобны стол, абед па нябожчыку; памінкі.

**Хваліцца**, хвалюся, хвалішся, хваліцца; незак. ◘ Гаварыць, расказваць усім пра свае поспехі, заслугі, учынкі, дасягненні; абяцаць зрабіць нешта; рус. хвастать. Хваліцца — не касіць, рука не забаліць. Прык. (рус. Хвастать — не колеса мазать). Хвалілася Ганна, што выйдзе за пана. Прык. (рус. Хвасталась овца, что у нее хвост, как у жеребца).

**Хвальба**, наз., ж. р. ◘ Празмернае расхвальванне сваіх вартасцяў, заслуг, учынкаў; рус. хвастовство. Паны ў хвальбе не зналі меры, Самім сабе не мел і веры... К-с.

**Хваля**, наз., ж. р. ◘ 1. Вадзяны вал, які ўтвараецца гайданнем паверхні вады; рус. волна. Да ракі, на Прыпяць, выйшаў, вецер хвалі ў ёй калыша. У. Д. 2. перан. Пра тое, што сваім рухам, хуткацечнасцю і няспыннасцю нагадвае хвалі; пра незваротнасць мінулага. І гэтай думкай, як бы хваляй, Падхвачан дзядзька, чэша далей З узгорка ўніз, ізноў на ўзгорак, Як бы па хвалях лёгкі корак. К-с. 3. у перан. ужыв. Назад не прыйдзе хваля тая, Што з быстрай рэчкай уплывав. К-с. 4. перан. Праяўленне нейкага пачуцця. Сэрца захліснула цёплая пяшчотная хваля. Хваля злосці. Хваля пратэсту.

**Хвалявацца**, хвалююся, хвалюешся, хвалюецца; незак. ◘ 1. Знаходзіцца ў руху, ад якога ўтвараюцца хвалі ці падобная на іх паверхня нечага; рус. волноваться. Мора хвалюецца. □ Хвалююцца морам зялёным Ільны на палескім балоце. М. К. 2. Быць у нервовым узбуджэнні ад страху, трывогі, радасці і пад. Маці хвалюецца за сваіх дзяцей. Падсудны хваляваўся. 3. Выказваць незадаволенасць нечым, пратэст супраць нечага. Натоўп хваляваўся. Зала хвалявалася.

**Хваравіты**, прым. ◘ І.Які часта хварэе, схільны да захворвання; рус. болезненный. Хваравітае дзіця. 2. Які сведчыць аб хваробе, нездаровым стане. Хваравіты голас. 3. перан. Перабольшаны, празмерны, ненармальны; рус. болезненный. Хваравітая рэўнасць.

**Хвароба**, наз., ж. р. ◘ Парушэнне нармальнай жыццядзейнасці арганізма; рус. болезнь. Хвароба сваёй хаты не мае, а па людзях ходзіць. Прык. Праз нейкі час, ужо пад зіму, І гора ў тым: хвароба гэта Міхал у моцным быў абніму Даўно цягнулася, не з лета, Хваробы цяжкай і паганай, І ў тым была яе і сіла, Неспадзяванай, негаданай. Што незаметна налучыла. К-с.

♦ Як хваробе кашаль — ніколькі, зусім (не патрэбен, не дапамог). (рус. Как мертвому припарки).

♦ Што за хвароба? — пра нешта незвычайнае, неспадзяванае, непрыемнае, незразумелае.

Глядзіць Міхал... што за хвароба? Ён не адзін — іх дзве асобы: Адзін Міхал — нядошлы, млявы, Другі — здоровы і рухавы! Адзін ляжыць, другі вандруе, Ідзе па лесе, ў вус не дуе... К-с.

**Хвацкі**, прым. ◘ 1. Удалы, бойкі, спрытны; маладзецкі; рус. ухарский. 2. Вельмі добры, слаўны; вясёлы. Дарэктар сам з свае ахвоты І да работы страх сярдзіты, У гумно любіў рабіць налёты, Хоць быў

яшчэ малы і кволы, — Бо ён быў хлопец працавіты Ну, хвацкі хлопец і вясёлы. К-с.

**Хвіліна**, наз., ж. р. ◘ 1. Адзінка часу, роўная 60-й частцы гадзіны; складаецца з 60 секундаў; рус. минута. 2. Момант, імгненне; кароткі прамежак часу. Вольная хвіліна. Цяжкая хвіліна. 3. Пэўны, нечым прыкметны прамежак часу. З той хвіліны і стварылася сябрына. У. Д.

**Хвойнік**, наз., м. р., -у. ◘ Хваёвы лес. Ўгары над хвойнікам зялёным Снуюцца пчолкі з ціхім звонам. К-с.

**Хворасць**, наз., ж. р. ◘ Разм. Хвароба, недамаганне, хваравіты стан. Свіння, як хворая, стагнала, Хоць гэтай хворасці не знала, Яе такая ўжо натура: Стагнаць і лыч трымаць панура, Як бы ёй цяжка жыць на свеце. К-с.

**Хвоя**, наз., ж. р. ◘ Вечназялёнае дрэва з высокім прамым ствалом і доўгайігліцай; сасна. А хвоі, елкі векавыя Пад зыкі песень маладыя Маўчком стаялі ў нейкай думе, І ў іх ціхусенечкім шуме Няслось вячэрняе маленне Ўгару, святое аддаленне. К-с.

**Хеўра**, наз., ж. р. ◘ Пагард. Група людзей, аб'яднаных для разбою, злачынства; банда; рус. шайка. З сваёй хеўрай гаспадарыць Над бедным народам. К-а. На Ўкраіне пан Патоцкі, Пан з Канёва родам,

**Хіб**, наз., м. р., -а. ◘ Пярэдняя частка хрыбта некаторых жывёл (свінні, быка і лад.). Парсюк наставіў хіб, парсюк раз'юшан: — Цераз цябе я чырванець прымушан?! К. К.

**Хіба**[1], наз., ж. р. ◘ Памылка, промах, недахоп. Хібам нашым ёсць апраўданне, подласці апраўдання няма. А. В.

**Хіба і хіба**[2], часц. ◘ 1. Ужываецца ў пытальных сказах, якія выражаюць сумненне ў нечым, недавер да нечага, здзіўленне нечым; няўжо; можа быць. 2. Ужываецца ў рытарычным пытанні, якое заключав адмоўны адказ. А хіба ёсць, што забываюць выратавальніка свайго? А. В.

**Хіба**[3], злучн. ◘ Ужываецца для выражэння абмежавання ў значэнні: «акрамя тага, што ...»; «можа быць, толькі ...», а таксама для выражэння супрацьпастаўлення з адценнем умоўнасці ў значэнні: «калі не, ...», «калі толькі не ...». Ціщыня ў лесе, хіба толькі дзяцел застукав па дрэве. Абавязкова дапамагу, хіба толькі абставіны перашкодзяць.

**Хіжы**, прым. ◘ 1. Разм. Драпежны (пра жывёл, птушак); які ўласцівы такім жывёлам; рус. хищный. Хіжы звер. Хіжая пыса. 2. перан. Прагны, сквапны, жорсткі (пра чалавека); які ўласцівы такому чалавеку. Хіжы вораг. Хіжы погляд.

**Хітрун**, наз., м. р., -а. ◘ Хітры чалавек; махляр, круцель; рус. хитрец.

**Хлопец**, наз., м. р., -пца. ◘ 1. Малады чалавек, юнак; нежанаты мужчына; рус. парень. Мілавіцу хлопец просіць на сваю радзіму ў госці: — Хай пабачаць свет і людзі, Што такой няма й не будзе. У. Д. 2. Сын. Дзяцей, як тых снапкоў на току! — Сямейка, праўда, немалая: Чатыры хлопцы, тры дзяўчаці Ды бацька з дзядзькам, трэцця маці... К-с.

**Хлопчык**, наз., м. р., -а. ◘ Дзіця або падлетак мужчынскага полу; рус. мальчик. Не сядзіцца ў хаце Хлопчыку маломy, Кліча яго рэчка, Цягнуць санкі з дому. К-с.

**Хлусня**, наз., ж. р. ◘ Мана, няпраўда, падман; рус. ложь, вранье. Хлуснёй свет пройдзеш, ды назад не вернешся. Прык. Ад хлусні не мруць, толькі і веры болей не даюць. Прык. (рус. Кто вчера солгал, тому и завтра не поверят). Хлусня як алей — выйдзе наверх. Прык. (рус. Ложь не живуча, вранью короткий век).

**Хмара**, наз., ж. р. ◘ 1. Вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое прыносіць дождж, град, снег; рус. туча. Тут Хмара гутарку ўсчала: — А што з твайго таго святла? Закрыю неба пеляной, зямлю ўсю залію вадой. Над светам ноч устане ўдзень, святла не стане анідзе. У. Д. 2. Пра вельмі вялікую колькасць, мноства некага, нечага. Касцы ідуць то грамадою, То шнурам цягнуць, чарадою, То паасобку, то па пары; Ідуць касцы, ідуць, як хмары, І льецца смех іх разудалы, Як веснавыя перавалы. К-с. 3. перан. Пра змрочны стан, заклапочанасць, смутак, тугу; пра цяжкі лес. Чорныя хмары развеюцца, і ўсё пераменіцца да лепшага.

♦ Хмары навіслі (згусціліся, сабраліся) — пагроза небяспекі, бяды, няшчасця.

**Хмарны**, прым. ◘ 1. Пакрыты хмарамі; рус. облачный, пасмурный. Хмарная восень. 2. перан. Пануры, сумны. Хмарны настрой.

**Хмель**, наз., м. р, -ю. ◘ 1. Павойная расліна сямейства тутавых; суквецце гэтай расліны, насенне яе; выкарыстоўваецца ў піваварэнні. 2. Стан ап'янення, выкліканы трункамі. Хмель не вада — чалавеку бяда. Прык. (Пить да гулять — добра не видать).

**Хмурны**, прым. ◘ 1, Воблачны, змрочны; рус. пасмурный. Хмурны дзень. 2. перан. Сумны, пануры (пра чалавека); рус. мрачный, угрюмый. 3. Які выражае панурасць, суровасць, заклапочанасць. Хмурныя вочы.

**Хмызняк**, наз., м. р., -ў. ◘ Кусты, зараснікі дробных маладых дрэўцаў; рус. кустарник. Непралазны хмызняк.

**Ходзікі**, наз., адз. няма. ◘ Разм. Насценны гадзіннік простай канструкцыі з гірамі. Хутка ходзікі ходзяць, Калёсікі збоку відны. Ар. К.

**Ходнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Тое, што і тратуар. Ходнікі выкладзены пліткамі. 2. Вузкі доўгі дыванок з грубай тканіны, які рассцілаецца на падлозе; палавік. Выбіць ходнікі.

**Хорам**, наз., м. р., -а; мн. хорамы. ◘ Вялікі жылы будынак; палац; рус. дворец. Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму, Недаступны і грозны, як хорам. К-а.

**Хорт**, наз., м. р., харта. ◘ Паляўнічы сабака з доўгай вострай мордай, доўгімі тонкімі нагамі і гладкай поўсцю. Той самы чорт — хоць сабака, хоць хорт. Прык. (рус. Не мытьём, так катаньем).

**Храм**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Збудаванне для небажэнства і рэлігійных абрадаў; царква, касцёл, мячэць і пад. Храм Ефрасінні Полацкай у Мінску. 2. перан. Пра высокія духоўныя каштоўнасці. Шукаць дарогу да храма. Будаваць храм у сваёй душы. 3. перан. Месца, якое выклікае пашану, павагу. Храм навукі. Храм мастацтва. Храм паэзіі.

**Хрыпаты**, прым. ◘ Глухаваты, сіплы, нячыстага тону (пра гук); рус. хриплый. Хрыпаты голас.

**Хрысціны**, наз., адз. няма. ◘ Хрысціянскі абрад хрышчэння, а таксама ўрачысты абед з гэтай нагоды; хрэсьбіны; рус. крестины. Там два пярсцёнкі, крыжык медны, Здабыты сыну ў час хрысцін. К-с.

**Хрысціянства**, наз., н. р. ◘ Старажытная рэлігія, у аснове якой ляжыць вучэнне Ісуса Хрыста. Ефрасіння Полацкая, Кірыла і Лаўрэнцій Тураўскія, Афанасій Брэсцкі (Філіповіч), Сафія Слуцкая — падзвіжнікі хрысціянства і праваслаўя.

**Хрышчоны**, 1. дзеепрым. ад хрысціць. ◘ 2. у знач. прым. Той, каго хрысцілі паводле царкоўнага абраду, хто далучыўся да вернікаў хрысціянскай рэлігіі; рус. крещеный. Хрышчоны чалавек. 3. Які мае адносіны да абраду хрышчэння; рус. крестный. Хрышчоны бацька. -А дзе ж мая дачка хрышчона? — Спытала Зося. — Дзе Алёна? — Ваўчком Алёнка пазірае; Яе тут Зося абнімае, Гасцінцам дзеўчынку трактуе, Яе і песціць і цалуе… К-с.

**Хрушч**, наз., м. р., -а. ◘ Майскі жук. Вучоныя б'юць трывогу: паменшала хрушчоў, якія з'яўляюцца дакладным барометрам экалагічнага стану.

**Хустка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Кавалак тканіны, які завязваецца на галаву ці накідваецца на плечы; рус. платок.

**Хутар**, наз., м. р., -а. ◘ Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка. У час правядзення хутарызацыі сялян перасялялі з вёсак на хутары.

**Хутаранін**, наз., м. р., -а; мн. хутаране. ◘ Уладальнік хутара; хутаранец. У часы гвалтоўнай калектывізацыі і чырвонага тэрору

хутаране напакутаваліся найбольш: іх першымі аб'яўлялі кулакамі і рэпрэсоўвалі.

**Хуткі**, прым. ◘ 1. Які адбываецца з вялікай скорасцю; рус. быстрый. Хуткая хада. 2. Які імкліва перамяшчаецца ў прасторы; рус. скорый. Хуткі цягнік. 3. Актыўны ў сваіх рухах, дзеяннях, рашэннях; паспешлівы. Хуткі, нецярплівы чалавек. 4. Які адбываецца ці павінен адбыцца за кароткі прамежак часу. Эпоха Адраджэння вызначаецца хуткім развіццём літаратуры і мастацтва.

♦ У хуткім часе — неўзабаве, у блізкай будучыні.

**Хцівы**, прым. ◘ 1. Прагны да нажывы, скупы, карыслівы, пажадлівы; рус. жадный, скупой. 2. у знач. наз. хцівы. Хцівы хітруе, а чорт дзірку гатуе. Прык. (рус. Жадный копит, а черт мошну тачает).

**Хэнць**, наз., ж. р. Абл. ◘ Жаданне, ахвота. Будзьце пракпяты і вы, запрадаўцы, Волі і хэнці чужой халуі! Н. Г.

# Ц

**Цагельня**, наз., ж. р. ◘ Прадпрыемства, на якім вырабляецца цэгла; рус. кирпичный завод. Працаваць на цагельні.

**Цалкам**, прысп. ◘ 1.У поўным аб'ёме, ад пачатку да канца; не па частках; рус. целиком. Аддаць грошы цалкам. Маёнтак захаваўся цалкам. 2. Да канца, зусім. Цалкам аддавацца любімай справе.

**Цалкі**; наз., адз. няма. ◘ 1. Яечня, у якой жаўткі не змешваюцца з бялкамі. Тарэсяй звапась цётка гэта. Спячэ «цалкоў» на скавародцы, Яна так ветла сустракала І так, бывала, наясіся, І надта ж добра частавала: Што хоць на пупіку круціся... К-с. 2. Цэлая бульба, вараная ў лупінах; рус. в мундире. Цалкі карысней, чым ачышчаная вараная бульба. 3. Зерне нястоўчаных канапель. Канапляныя цалкі.

**Цаля**, наз., ж. р. ◘ Мера даўжыні, роўная 2,54 см; рус. дюйм. Міхал распісваў з жарам далей: — А чорны грунт — дванаццаць цалей! Жыта там родзяцца надзіва: Як едзеш між хлябоў вясною, V іх конь хаваецца з дугою! К-с.

**Цапстрыкі**, наз., адз. няма. Абл. ◘ Дробныя рэчы дамашняга скарбу. Апроч таго, тут абжыліся, На ногі трохі падняліся; Яшчэ б гадочак пажыць ціха, Але найгоршае тут ліха — Збірай зноў цапстрыкі, трасіся Па каранях з дабром, з сям'ёю... К-с.

**Царква**, наз., ж. р. ◘ 1. Аб'яднанне духавенства і вернікаў на аснове агульнасці веры, вучэння, Святога Пісання; рус. церковь. Праваслаўная царква. Каталіцкая царква. □ [Ісус Хрыстос:] — Я збудую

Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе. З Евангелля. Сям'я — першая Хрыстова Царква. З Евангелля. 2. Храм, у якім адбываецца праваслаўнае набажэнства. Праваслаўныя вернікі моляцца ў цэрквах, а католікі -у касцёлах. □ А званіцы перад святам У касцёл, царкву завуць, Каб «прад Богам і прад братам Віны ўсе свае пачуць». К-с.

**Цацка**, наз., ж. р., ДМ цаццы. ◘ 1. Прадмет, прызначаны для гульні дзецям; рус. игрушка. І дудку скруціць вам, і стрэлку, І нарысуе нават елку — Такую выштукуе цацку, А ў Свержань пойдзе - купіць пляцку... К-с. 2. перан. Той, кім распараджаюцца, як хочуць, дзеля пацехі. Бывае, чалавек Усе жыццё сваё, увесь век Нікчэмнай цацкай пражывае. У. К.

**Цвік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для замацавання нечага; рус. гвоздзь. 2. перан. Разм. Галоўнае, значнае ў нечым. • Слон — галоўная персона, Слон — заўсёды цвік сезона. Р. Б.

**Цвінтар**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Царкоўны двор. На цвінтары — мора народу. 2. Могілкі пры царкве; рус. погост. На цвінтары хавалі падзвіжнікаў хрысціянскай веры.

**Цвыркун**, наз., м. р., -а. ◘ Насякомае, якое трэннем крыл утварае строкат; рус. сверчок. Цвыркун цвыркае на добрае'надвор'е.

**Цвяліць**, цвяпю, цвёліш, цвёліць; незак. ◘ Дражніць, раздражняць; рус. дразнить. Дзеці асабліва балюча рэагуюць, капі іх нехта цвеліць.

**Цвярозы**, прым. ◘ 1. Які не ўжываў спіртнога; не п'яны; рус. трезвый. Што цвярозы думав, п'яны скажа. Прык. (рус. Что у трезвого на уме, то у пьяного на языке). 2. перан. Разважлівы, сур'ёзны, якому не ўласціва летуценнасць, мройнасць, фантазёрства. Цвярозая развага. Цвярозыя думкі. Цвярозыя рэалісты.

**Целяпей і целяпень**, наз., м. р., -я і -пня. ◘ Разм. Нязграбны, нехлямяжы чалавек; цяльпук; цюхцяй; кіжлай; пенцялей; рус. пентюх. Хоць які целяпей, але ўдваіх ляпей. Прык. (рус. Худ мой Устим, да лучше с ним).

**Цемра**, наз., ж. р. ◘ 1. Адсутнасць святла, густы змрок; цемрадзь; цемната; рус. мрак. Цемра, хоць вока выкалі. 2. перан. Увасабленне зла, пакут, невуцтва, цемрашальства; рус. тьма. 9 Мая — свята Перамогі святла над цемрай, дабра над злом, праўды над няпраўдай, жыцця над смерцю. □ Сонца ўзыдзе прыгожае, Цемра адхпыне варожая. А. П.

**Цецярук**, наз., м. р., цецерука. ◘ Птушка сямейства цецеруковых атрада курыных з чорным (у самак — стракатым) апярэннем; рус.

тетерев. У глыбі лясоў цецерукі Ўжо зачыналі свае токі, Усход віталі агнявокі, Віталі шчыра і натхненна. К-с.

**Цівун**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Службовая асоба ў Расіі X—XVII стст. 2. Наглядчык за працай сялян у часы прыгону. Жорсткі цівун.

**Цікавасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Павышаная пільная ўвага да некага, нечага; рус. интерес. Цікавасць да навукі. Слухаць з цікавасцю. 2. Жаданне даведацца пра некага, нешта; рус. любопытство. Брала цікавасць. Цікавасць задаволена.

**Цікаваць**, цікую, цікуеш, цікуе; незак. ◘ 1. Глядзець на некага, нешта з пэўнай мэтай; сачыць за некім, нечым; рус. следить. Цікаваць за дваром. Цікаваць за буслямі. 2. Выглядаць, падпільноўваць некага, нешта; рус. выслеживать. Цікаваць зайцоў.

**Цікавіцца**, цікаўлюся, цікавішся, цікавіцца; незак. ◘ 1. Імкнуцца атрымаць звесткі, даведацца пра некага, нешта; рус. интересоваться. Цікавіцца справамі бацькоў. 2. Захапляцца некім, нечым. Цікавіцца музыкай. Цікавіцца аднакласніцай.

**Цікавы**, прым. ◘ І.Які выклікае цікавасць, захапленне; рус. интересный. Цікавая кніга. 2. Які вызначаецца і вылучаецца нейкімі прыкметнымі рысамі. Цікавы чалавек. 3. Незвычайны, забаўны. Я сягоння вам хачу Расказаць пра сад дзіцячы, 4. Прыгожы. Цікавая жанчына. Што там добрага пачуў, Што цікавага пабачыў. А. Ал.

**Цікаўны**, прым. ◘ 1. Які імкнецца ўсё ўведаць, убачыць ва ўсіх падрабязнасцях; рус. любопытный. Здзівіўся ўвесь народ тады, Ніяк не дойдуць да прычын апанавала ім турбота: хоць і даведацца б цікава. чаму шкадуе пан вады, навошта гэткая работа? А жыў тады дзяцюк адзін, цікаўны дужа і рухавы. У. Д. Цікаўнай Амілі нос прышчамілі. Прык. Цікаўная Тэкля палезе і ў пекла. Прык. (рус. Любопытной Варваре нос оторвали). 2. Які пашырае свой кругагляд, папаўняе веды; дапытлівы; рус. любознательный. Цікаўны вучань.

**Ціхмяны**, прым. ◘ Паслухмяны, пакорлівы, логодны, рахманы; рус. тихий. Ціхмяны хлопчык.

**Цкаваць**, цкую, цкуеш, цкуе; незак. ◘ 1. Напускаць сабак на некага; нацкоўваць; рус. травить, науськивать. Цкаваць сабакамі. 2. перан. Не даваць спакою, мучыць нападкамі, праследаваць; рус. травить. Нельга цкаваць чалавека.

**Цмок**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У казках — пачвара ў вобразе змея, дракона. Асілак перамог цмока. 2. Вораг; крывасмок. Бяздушныя цмокі-прыгнятальнікі.

**Цнатлівасць**, наз., ж. р. ◘ Уласцівасць цнатлівага; рус. целомудренность. Ты сэрца мае ўсхвалявала, Як першая краска вясной, Цнатлівасцю мілай, зямной Ты сэрца мае ўсхвалявала. Н. Г.

**Цнатлівы**, прым. ◘ 1. Які не страціў нявіннасці; рус. девственный. Цнатлівая дзяўчына. 2. Маральна чысты; строгі ў маральных адносінах; сарамлівы, далікатны; рус. целомудренный.

**Цнота**, наз., ж. р., ДМ цноце. ◘ 1. Дзявочая нявіннасць; рус. девственность. 2. Маральная чысціня; строгасць у маральных адносінах; шанаванне сябе; рус. целомудрие.

**Цотны**, прым. ◘ Які дзеліцца на два без рэшты; рус. четный. Цягнік прыходзіць па цотных днях.

**Цуд**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Паводле рэлігійнага вучэння — незвычайная, надпрыродная з'ява; тое, што выклікана Боскай сілай; дзіва; рус. чудо. У 2004 годзе ў храме г. Дзяржынска быў засведчаны цуд: міраточылі іконы Прасвятой Багародзіцы і некаторых святых. □ Вялікія цуды Твае, Госпадзі! З Евангелля. 2. Нешта нечаканае, незвычайнае. І толькі ён прыйшоў туды, Па хвалях шпаркіх, па вадзе нагнуўся толькі над вадою, ішла дзівосная дзяўчына. як поверх гэтае вады пабачыў цуд перад сабою. Такой ніколі і нідзе не сустракаў яшчэ хлапчына. У. Д. 3. Пра тое, што выклікае захапленне, здзіўленне сваімі выдатнымі якасцямі, прыгажосцю і пад. - Не чакай братоў дарэмна, ні адзін з іх-я ў тым пэўны! - не прысніць аб гэткім цудзе, а здабыць — і не здабудзе. У. Д. 4. Пра ўзор дасканаласці ў нейкай галіне. Цуд мастацтва.

**Цудадзейны**, прым. ◘ Незвычайнай сілы ўздзеяння; чарадзейны; жыватворны; рус. чудодейственный. Цудадзейная сіла мастацтва.

**Цудатворац**, наз., м. р., -рца. ◘ Той, хто творыць, робіць цуды (у 1 знач.); рус. чудотворец. Вобраз святога Міколы-цудатворца асабліва шанаваны ў народзе.

**Цудатворны**, прым. ◘ Які творыць, робіць цуды ці нешта незвычайнае, такое, што выкпікае здзіўленне; рус. чудотворный. Цудатворная Мінская ікона Божай Маці, якую дзівосным чынам прынеслі ў нашу сталіцу воды Свіслачы, зберагаецца ў СвятаДухавым кафедральным саборы.

**Цукар**, наз., м. р., цукру. ◘ Пажыўны харчовы прадукт, белае крышталічнае рэчыва, салодкае на смак, якое выпрабляецца з цукровых буракоў або цукровага трыснягу; рус. сахар. Як пойдзе ён [бацька] у лес той зрання, Як цукар у вадзе растане. К-с.

**Цукат**, наз., м. р., -у. ◘ Зацукраваны плод. Зацукраваныя вішні, журавіны — цукаты.

**Цукерка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе пліткі, шарыка і пад.; рус. конфета.
- Ну, трасцу дам табе цукерку! Гулу падсуну ў табакерку! — Бубніць Антось ужо з сабою, Ідучы скораю хадою. К-с.

**Цурацца**, -аюся, -аешся, -аецца; незак. ◘ 1. Пазбягаць некага, нечага; ухіляцца ад зносін з некім, ад выканання нечага; рус. чураться. Не цурацца сваёй радні, свайго роду. Не цурацца ніякай работы. 2. Адракацца ад некага, нечага, выракацца некага, нечага; рус. отрекаться. Цурацца роднай мовы — здраджваць святому, руйнаваць мінулае, не мець будучыні. □ Ты, мой брат, каго зваць беларусам, роднай мовы сваёй не цурайся. Гарун.

**Цыбаты**, прым. ◘ Высокі і тонкі, звычайна даўганогі; рус. длинноногий; долговязый. Цыбаты бусел.

**Цыбуля**, наз., ж. р. ◘ Агароднінная расліна з ядомымі галоўкай і трубчастымі лістамі; рус. лук. Рэпчатая цыбуля.

**Цывілізаваны**, прым. ◘ Далучаны да цывілізацыі; які адказвае патрабаванням цывілізацыі; культурны, адукаваны. У цывілізаваным грамадстве самая першая ўвага і клопат — дзецям і састарэлым.

**Цывілізацыя**, наз., ж. р. ◘ Узровень грамадскага развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры; прагрэс, культура, асвета. За выратаванне цывілізацыі ад карычневай чумы Беларусь заплаціла дарагой цаной -жыццём кожнага трэцяга свайго жыхара.

**Цывільны**, прым. ◘ 1. Не ваенны, не вайсковы; грамадзянскі; рус. гражданский. Вайсковы люд і люд цывільны Вакзалы поўнілі сабой. К-с. 2. Які ўласцівы ці належыць невайсковым людзям. Цывільнае адзенне. На цывільнай службе.

**Цымбалы**, наз., адз. няма. ◘ Народны музычны струнны інструмент, на якім іграюць, ударfaючы драўлянымі малаточкамі па струнах. Танцаваліі спявалі пад вясёлы звон цымбалаў. У. Д. Ачнецца лес, звіняць прагалы, Як мнагаструнныя цымбалы,

**Цымус**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Салодкая страва з морквы. 2. Пра нешта вельмі смачнае. 3. Самае цікавае, істотнае; сутнасць некага, нечага. Увесь цымус не ў страве, а ў прыправё. І толькі пошчак той якоча, Пераліваецца, гагоча... К-с. □ Наўкол паперы той гара, і, пэўна, цымусу ў ёй многа: уважліва ў яе баран глядзеў, задраўшы ўгору ногі. У. Д.

**Цынізм**, наз., м. р., -у. ◘ Пагардлівыя адносіны да агульнапрынятых правілаў маралі, адмаўленне і зневажанне духоўных каштоўнасцяў; бессаромнасць, нахабства. Цынізм — страшная хвароба душы, асабліва небяспечная для маладых.

**Цынік**, наз., м. р., -а. ◘ Бессаромны, нахабны чалавек, які пагардпіва ставіцца да агульнапрынятых правілаў прыстойнасці, пазбаўлены духоўных каштоўнасцяў і адмаўляе іх існаванне наогул. [Іван:]-Нуі цынікжа ты, Ванька. Пра дзяўчат гаворыш, нібыта чаравікі купляеш — хоць дзесяць пар мерай, а брацць неабавязкова. С. Г.

**Цыраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ 1. Зашываць дзірку, не сцягваючы краі ў рубец, а пераплятаючы ніткі; рус. штопать. 2. у перан. ужыв. У смутку Марыля штоноч цыравала Нядоляй працёртыя дні. А. Ал.

**Цырата**, наз., ж. р., ДМ цыраце. ◘ Тканіна, пакрытая асобым саставам, які робіць яе непрамакальнай; рус. клеёнка. Заслаць стол цыратай.

**Цырульнік**, наз., м. р., -а. ◘ Майстар, які займаецца галеннем, стрыжкай, афарбоўкай і прычэсваннем валасоў; рус. парикмахер.

**Цырульня**, наз., ж. р. ◘ Памяшканне для стрыжкі, афарбоўкі, прычэсвання валасоў; рус. парикмахерская.

**Цытаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Прыводзіць аднекуль цытату, г.зн. даслоўную вытрымку з нейкага тэксту; рус. цитировать.

**Цытадэль**, наз., ж. р. ◘ 1. Гарадская крэпасць. Мужныя абаронцы Брэсцкай цытадэлі. 2. перан. Цвярдыня, апора, аплот. Лес партызанам — надзейная зброя, Пушча — мазутная іх цытадэль П. Г.

**Цэгла**, наз., ж. р. ◘ Штучны будаўнічы матэрыял у выглядзе прамавугольных брускоў з гліны і іншай мінеральнай сыравіны; рус. кирпич. Будынак з чырвонай цэглы.

**Цэп**, наз., м. р., -а. ◘ Ручная драўляная прылада для малацьбы збожжа, якая складаецца з цапільна (доўгай палкі) і прымацаванага да яго біча; рус. цеп. Брахаць — не цэпам махаць. Прык. (рус. Языком молоть — не дрова колоть. Хвастать — не колеса мазать). Ну, грымнем, хлопцы, каб звінела! — І пяць цапоў ідуць у дзела! Не малацьба, а бубнаў хоры! Здаецца б цэпам вадзіў хворы! Бічы кладуцца так рытмічна, Само гудзенне іх музычна. К-с.

**Цэпелін**, наз., м. р., -а. ◘ Дырыжабль з металічным каркасам, абцягнуты тканінай. Першы каркасны дырыжабль пабудаваў у 1900 г. нямецкі канструктар Ф. Цэпелін, таму і назва дырыжабля — цэпелін.

**Цягавіты**, прым. ◘ Здольны многа і цяжка працаваць; вынослівы, загартаваны ў працы; працавіты. Вол — цягавітая жывёліна: адзін за трое коней зробіць.

**Цягліца**, наз., ж. р. ◘ Тканка жывога арганізма, здольная скарачацца і забяспечваць рух цела; мышца; мускул. Цела, абвітае дужымі цягліцамі.

**Цягнік**, наз., м. р., -а. ◘ Счэпленыя паміж сабой чыгуначныя вагоны, якія цягне па рэйках паравоз; поезд. Пасажырскі цягнік.

**Цяжар**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Вага нечага; цяжкая ноша, груз вялікай вагі; рус. тяжесть. Пад цяжарам яблыкаў звіслі галіны. □ Цяжары падвозіць, Як волат нястомны, Наш «МАЗ» — грузавік Дваццаціпяцітонны. У. Н. 2. Абавязкі, павіннасці, цяжкасці, звязаныя з нечым адказным, непрыемным. Цяжар няволі. Цяжар турботы. 3. перан. Тое, што гняце, прыгнятае, выклікае сумны настрой. Кожны раз, як душа натоміцца, Я, каб скінуць з яе цяжар, Прыпадаю да Вашых томікаў — Вашых думак і Вашых мар. Р. Т.

**Цяжарнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Стан жанчыны ў перыяд развіцця плода ў яе ўлонні; рус. беременность. Водпуск па цяжарнасці. 2. Працэс, у выніку якога з аплодненай яйцаклеткі ў арганізме развіваецца плод.

**Цяжкасць**, наз., ж. р.◘ 1. Вага нечага; груз вялікай вагі; рус. тяжесть. Сталы згінаюцца пад цяжкасцю дароў. 2. звычайна мн. (цяжкасць -яў). Тое, што замінае, перашкаджае ў дасягненні мэты; перашкоды, складанасці; рус. трудности. Пераадолець усе цяжкасці.

**Цяльпук**, наз., м. р., цельпука. ◘ Л. Разм. Кароткі тоўсты кавалак дрэва; цурбан, калодка, цурка. Рассекчы цельпукі. 2. Пра нязграбнага, непаваротлівага чалавека.

**Цяля і цялё**, наз., н. р.; мн. цяляты. ◘ Дзіцяня каровы; рус. телёнок.

**Цялятка**, наз., н. р. ◘ Памянш.-ласк. да цяля, цялё; рус. телёночек. Якая карова, такое і цялятка; якая матка, такое і дзіцятка. Прык. (рус. Яблоко от яблони недалеко падает). Лісліва цялятка дзве маткі ссе. Прык.

**Цяміць**, -млю, -міш, -міць; незак. ◘ Разумець сэнс падзей, гаворкі і пад.; кеміць; рус. соображать. Міхал быў сам крыху пісьменны, І падлавіў ён раз Алеся: Ў Законе Божым, як у лесе, Не цяміў хлопец нічагутка... Два словы скажа і запнецца, Бы галава там чым заткнецца... К-с.

**Цяпельца**, наз., н. р. ◘ Невялікае вогнішча. Раскласці цяпельца.

**Цяплынь**, наз., ж. р. ◘ 1. Цёплае паветра ад нечага нагрэтага; цёплае асяроддзе; цёплае надвор'е; цёплы клімат; цеплыня; рус. тепло. Цяплынь печы. Цяплынь бабінага лета. 2. Дабрата, сардэчнасць; добрыя, шчырыя адносіны паміж людзьмі. Цяплынь людскіх узаемін.

**Цярпенне**, наз., н. р. ◘ 1. Здольнасць стойка пераносіць жыццёвыя нягоды, нястачу; рус. терпение.

**Цярпенне** — ўсё: яно — бязмежнасць! ...А ты маўчы, свяці вачамі Перад паўпанкамі, панамі І перад панскім розным збродам, Цярпеннем скованы, як лёдам. К-с. 2. Здольнасць доўгі час займацца нечым адным; вытрымка ў чаканні патрэбных вынікаў. Дзед меў да сецей нахіленне, А вудзіць — не: не меў цярпення І не любіў наогул вуды. К-с.

**Цярпімы**, лрым. ◘ 1, Такі, які можна цярпець, з якім можна мірыцца; рус. терпимый. Цярпімая загана. 2. Такі, які схільны мірыцца з нечым, некім; паблажлівы, памяркоўны, талерантны. З цярпімым чалавекам вельмі лёгка ладзіць узаеміны.

**Цярплівы**, прым. ◘ 1. Які мае цярпенне; здольны з цярпеннем пераносіць фізічныя і маральныя пакуты; рус. терпеливый. Цярплівы мужны наш народ. А. А. Хто цярплівы, той шчаслівы. Прык. (рус. Терпи, казак, — атаманом будешь). У народзе пра цярплівых людзей яшчэ кажуць: цярпён — спасён. 2. Здольны рабіць нешта доўга і настойліва; доўгі, упарты. Цярплівая гаспадыня. Цярплівая праца.

**Цясляр**, наз., м. р., цесляра. ◘ Рабочы, які займаецца апрацоўкай драўніны, узвядзеннем драўляных будынкаў, вырабам простай драўлянай мэблі; рус. плотник. // у перан. ужыв. [Паляшук:] — Мароз — кравец, цясляр, каваль. Без малатка, цвікоў і паль маеты праз ноч адну кладзе на самай шпаркай ён вадзе. У. Д.

# Ч

**Чабор**, наз., м. р., чабару. ◘ Травяністая духмяная расліна з дробным! ружова-ліловымі ці белымі кветкамі; рус. чабрец. Водар чабару. Гарбата з чабару.

□ Вам кожны ўзгорак адклікнецца песняю, Запахне ружовы духмяны чабор. Н. Т.

**Чад**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Удушлівы атрутны газ, які ўтвараецца пры няпоўным згаранні вугалю ва ўмовах недастатковага прытоку паветра; рус. угар. Калі юшку закрыць раней часу, то чадам можна атруціцца. 2. Едкі дым, які ўзнікае пры гарэнні нечага.
3. перан. Тое, што моцна ўздзейнічае на псіхіку і свядомасць чалавека. Фашысцкі нацыяналістычны чад. Пратэст супраць расізму і шавіністычнага чаду — шлях выратавання чалавецтва.

**Чакаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Разлічваць на прыход, з'яўленне нечага ці адбыццё нечага; рус. ждать. Чакаць цягніка. 2. Спадзявацца, разлічваць на нешта. Чакаць спагады і зычлівасці.

□ І бацька моўкне і чакае, Што скажа дзядзька або маці,
І ціха стала ўраз у хаце: Чутно, як муха пралятае. К-с.
Ніхто наперад не знае, што каго чакае. Прык. (рус. Человек предполагает, а Господь располагает). 3. Быць наканаваным камусьці, прадбачыцца. Нас чакаюць Вялікія справы ў жыцці, Трэба ўперад ісці, Толькі ўперад ісці. Ар. К.
4. Падпільноўваць. Злачынцу чакае справядлівая кара. ♦ Чакаць манны нябеснай — чакаць удачы, нечага нечаканага.

**Чалавечнасць**, наз., ж. р. ◘ Чуласць, гуманнасць, чалавекалюбства. Людзей ратуе толькі чалавечнасць. П. П.

**Чалавечны**, прым. ◘ Уважлівы, чулы, душэўны; гуманны; рус. человечный. Чалавечны ўчынак.

**Чалавечы**, прым. ◘ 1. Які належыць чалавеку; рус. человеческий. Пачуўся голас чалавечы, Аж узняліся ў дзядзькі плечы, Ды каб схаваць, што ён спужаўся, Спакойна дзядзька адазваўся... К-с. 2. Які складаецца з людзей. Чалавечае грамадства. 3. Які робіцца, здзяйсняецца чалавекам. Плён чалавечай працы. 4. Уласцівы чалавеку. Чалавечае шчасце. Чалавечая годнасць. Чалавечыя слабасці.
5. Гуманны, чалавечны. Не ведаю, што робіцца са мной: Ад дабраты я плачу чалавечай, Заўсёды плачу ад спагады нечай... Я. С.

**Чалеснікі**, наз., адз. няма. ◘ Уваходная выемка ў печы; рус. устье, чело. Задымленыя чалеснікі.

**Чамярыца**, наз., ж. р. ◘ Травяністая ядавітая лугавая расліна сямейства лілейных, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне; чэмер. Адзенне ад молі перасыпаюць чамярыцаю.

**Чапаць**, -аю; -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Дакранацца, датыкацца да некага, нечага; закранаць, турбаваць некага; крыўдзіць, хваляваць; рус. трогать. Хто каго кахае, той таго й чапае. Прык. (рус. Милые бранятся — только тешатся). 2. Браць нешта чужое без дазволу. Народная мудрасць вучыць: не чапай чужога і не бойся нікога.

**Чапля**, наз., ж. р. ◘ Балотная птушка з вялікай дзюбай і доўгай шыяй; рус. цапля. На адным канцы балота Была хата Жураўля, На другім канцы балота Чапля шэрая жыла. М. Т.

**Чапурыцца**, -руся, -рышся, -рыцца; незак. ◘ 1. Прыхарошвацца, адмыслова прыбірацца, прыводзіць сябе ў парадак. Дзедка пагаліўся, Стаў ён чапурыцца — Маладзей зрабіўсяТак гадкоў на трыццаць. Э. В. 2. Надзімацца, натапырвацца (пра птушак). Індык чапурыўся на двары.

**Чапяла**, наз., ж. р. ◘ Жалезны кручок з ручкай для падымання і пераносу патэльні; рус. сковородник. І ўжо пры печы з чапялою

Стаяла маці... Пад рукою Таўкліся дзеці, зміналі, Або смяяліся, спявалі. К-с.

**Чаравікі**, наз., адз. чаравік, м. р., -а. ◘ Невысокі скураны абутак на шнурках; рус. ботинки. Хоць і клопат быў вялікі, ўсё ж зрабіў ён чаравікі з пазлацістага пясочку на дзяўчыніны слядочкі... У. Д.

**Чарада**, наз., ж. р., ДМ чарадзё. ◘ 1. Рад аднародных прадметаў ці жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца адно за адным; рус. вереница. Бясконцай чарадой цягнуліся падводы, пешаходы. 2. Статак, гурт свойскай або дзікай жывёлы; рус. стадо; стая, Ішла з пашы чарада кароў. Чарада галодных ваўкоў. 3. Група жывёл, птушак аднаго віду, якія рухаюцца разам; рус. клин. Чарада жураўлёў ляцела высока ў небе. 4. Чарга; рус. черед, очередь. Падышла чарада пасвіць кароў.

**Чараўнік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У казках і павер'ях — той, хто можа чараваць; чарадзей; вядзьмар. У іх фантазіі дзяцінай, Затканай страху павуцінай, Ўстаюць начныя страхі, здані, 2. Знахар. І зыкі чуюцца пагані, Чараўніка і чараўніцы, І лопат крыллямі начніцы. К-с. Як хвор ды бедзен — сам бяруся Лячыць сябе: я чараўнік! Бо я без доктара лячуся, — Бо я мужык, дурны мужык. К-а. 3. Той, хто зачароўвае, захапляе нечым; рус. волшебник. Барадулін — чараўнік народнага слова. ... Найперш — чараўнік паэтычнай стыхіі, якая жыве ў ім, мабыць, з дня яго нараджэння і які сам жыве ў ёй, вольна і радасна, як жыве птушка ў палёце, рыба ў вадзе, самаадданая жанчына ў каханні. В. Б.

**Чараўніца**, наз., ж. р. ◘ 1. Жан. да чараўнік. 2. перан. Пра незвычайна прыгожую жанчыну; прыгажуня; рус. красавица. У багне неба ясна-сіняй Ступае сонца, як багіня, І стрэлы-косы раскідае, Як чараўніца маладая. К-с.

**Чарга**, наз., ж. р., ДМ чарзё. ◘ 1. Пэўны парадак, паслядоўнасць; рус. очередь. Устаноўлена чарга сачыць за паказаннямі прыбора. 2. Права некага дзейнічаць адпаведна вызначанай паслядоўнасці; месца ў гэтай паслядоўнасці. Адбыць чаргу за карову. 3. Група людзей, якія чакаюць атрымання нечага ў парадку чарговасці і размяшчаюцца звычайна адзін за адным. Чэргі ля пасольства.

**Чарка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ 1. Невялікая шкляная ці крышталёвая пасудзіна на ножцы для напояў; рус. рюмка. 2. Разм. Спіртное; выпіўка. Чорту душу аддаў, бо часта ў чарку заглядаў. Прык. Чарка і сварка да дабра не давядуць. Прык. (рус. Кто вино любит, тот сам себя губит).

♦ Заглядаць у чарку — часта выпіваць; быць схільным да спіртнога.

**Чарніцы**, наз., адз. чарніца, ж. р. ◘ Кустовая лясная ягадная расліна і чорна-сінія ягады гэтай расліны; рус. черника. Сакаўныя чарніцы.

**Чарот**, наз., м. р., -у. ◘ Высокая травяністая расліна сямейства асаковых, якая расце ў вадзе рэк, азёр, на балотах; зараснікі гэтай расліны; рус. камыш. Да Палесся так прыйшоў ён. Там дзівос усякіх поўна: і імшары, і балоты, і высокія чароты, У. Д.

**Чароўны**, прым. ◘ 1. Які мае магічную сілу; рус. волшебный. Чароўнае слова. 2. Незвычайны, казачны. Чароўныя гукі музыкі. 3. Незвычайнай, казачнай прыгажосці. Чароўнае хараство ночы.

**Чарэнь**, наз., ж. р. ◘ Т. Ляжанка на печы. 2. Паверхня ўнутры печы; под. Спечаныя на чарэні праснакі.

**Час**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Працягласць існавання ўсяго, што адбываецца і вымяраецца вякамі, гадамі, гадзінамі, хвілінамі і пад.; рус. время. Час не стаіць і не чакае. К-с. 2. Пэўны прамежак у паслядоўнай змене гадзін, дзён, гадоў, у які нешта адбываецца. Ёсць час наш і час даўнейшы, час залаты і час пракляты, час доўгі і час кароткі. К. К. А тыя граблі ці цапочкі! Ну, толькі цешыць імі вочкі! У рукі возьмеш — працы хочуць, У дзела пусціш — зарагочуць! А як наш дзядзька час там бавіць!.. Ён не працуе — імшу правіць! К-с. 3. Перыяд, эпоха. Сівая мінуўшына нагадвае нам і пра асабліва спрыяльны для Беларусі час, калі яна, паводле вобразнага выразу Ф. Багушэвіча, была ў магутнай дзяржаве, у Вялікім княстве Літоўскім, «як зерне ў гарэху», а беларуская мова была дзяржаўнай. 4. У граматыцы — форма дзеяслова, якая выражае адносіны дзеяння да моманту гутаркі ці іншага нейкага моманту. Цяперашні час. Прошлы час. Будучы час.

♦ Час ад часу — іншы раз.

♦ У добры час — пажаданне поспеху, удачы.

**Часіна**, наз., ж. р. ◘ 1.Час, пара; момант, які вызначаецца нечым адметным. Хвала табе, слаўная часіна наваселля, часіна спадзяванняў і мар! Мележ.

Ўсяго было тут вечарамі, Калі разыдуцца часамі!
На ўсё была свая прычына І адпаведная часіна. К-с.

2. Прамежак часу, які вызначаецца нейкай адметнасцю.

На паравозе без білета Чхаў да Баранавіч дасвета.
Відаць, у добрую часіну Збіраўся дзядзька ў пуцявіну. К-с.

**Часовы**, прым. ◘ 1. Які існуе ці з'яўляецца сапраўдным толькі пэўны перыяд; проціл. пастаянны; рус. временный. Часовая праца. Часовы прыстанак. 2. Непастаянны, які хутка мінае. Часовыя нягоды і цяжкасці.

**Часопіс**, наз., м. р., -а. ◘ Перыядычнае выданне ў выглядзе кніжкі; рус. журнал.
Тэлеграмы, важныя пакеты, На якіх сургучная пячаць, Свежыя часопісы, газеты Я прызначан людзям уручаць. Я. Н.

**Частаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ 1. Даваць або прапаноўваць паесці, папіць; карміць некага, выказваючы ўвагу, гасціннасць; рус. угощать. Для ўсіх ласкава і пачціва, І на ўсіх чыста вокам кіне, Як бы пад ветрам тая ніва, То сыр, то масла ім падносіць Гасцей частуе гаспадыня, І закусіць так шчыра просіць. К-с. 2. Рабіць некаму нешта прыемнае. Частавалі, чым мелі, весялілі, як умелі. Прык. (рус. Чем богаты, тем и рады). Не частуй ні піўцом, ні вінцом, а прывітай шчыранькім слаўцом. Прык. (рус. Дорог не обед, а привет. Не пиво диво, а честь дорога).

**Чацвер**, наз., м. р., чацвярга. ◘ Чацвёрты (пасля нядзелі) дзень тыдня; рус. четверг.

♦ Не цяпер, дык у чацвер — хутка, у бліжэйшай будучыні.

**Чвэрць**, наз., ж. р. ◘ 1. Чацвёртая частка нечага цэлага; рус. четверть. Чвэрць веку павінны былі адслужыць рэкруты ў царскім войску. 2. Адзін з чатырох перыядаў навучальнага года. 3. Старая мера даўжыні, роўная чацвёртай частцы аршына (17,775 см).
Бяру аршын і правяраю сам. Дык што ж вы думалі? Ну й жулікі! Ну й чэрці! Недахапіла ў мяне там Ні больш, ні менш — тры чвэрці! К. К. 4. Адна з чатырох фаз Месяца, вузкі серп Месяца ў першай (маладзік) ці апошняй (ветах) фазе.

**Човен**, наз., м. р., чоўна. ◘ Лёгкая лодка; рус. челн. Човен борзда ўдаль імкнецца, Зіхаціць пры ім вясельца. У. Д.

**Чорт**, наз., м. р., -а. ◘ Паводле міфаў — злы дух, які мае выгляд істоты, пакрытай чорнай поўсцю, з рагамі, капытамі і хвастом; д'ябал; рус. бес. Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў. Прык. (рус. Рыбак рыбака видит издалека). Усе чэрці адной шэрсці. Прык. (рус. Из одного теста).

♦ Як чорт крыжа — надта моцна баяцца некага, нечага.

**Чужацкі**, прым. ◘ 1. Які належыць чужаку, чужынцу, прышэльцу.
Мяне ўзялі ў салдаты, У чужацкі палон. К-а. 2. Які складаецца з чужынцаў. Чужацкія зграі.

**Чужынец**, наз., м. р., -нца. ◘ Чужы, нетутэйшы чалавек; іншаземны вораг, захопнік. Усе тут партызанамі былі, Не шкадавалі ворагу «гасцінца», На нашай роднай, вогненнай зямлі Страляў тут кожны кусціку чужынца. А. Р.

**Чуйны**, прым. ◘ 1. Здольны востра чуць, тонка адчуваць (органамі пачуццяў або пра органы пачуццяў); рус. чуткий. Чуйнае вуха.

Чуйны да прыгажосці чалавек. 2. Які асабліва востра адчувае, рэагуе, перажывае. Чуйнае мацярынскае сэрца.

**Чулы**, прым. ◘ 1. Уважлівы, спагадлівы; добразычлівы; рус. чуткий. Чулая настаўніца. 2. Які сведчыць пра ўважлівасць, спагадлівасць. Чулае слова лечыць душу. Чулыя адносіны. Чулы погляд. 3. Які хутка рэагуе на нешта, лёгка і востра ўспрымае. Чулая да людскога гора душа.

**Чыгун**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -у. Сплаў жалеза з вугляродам, які прымяняецца для пераапрацоўкі ў сталь і для вытворчасці літых вырабаў; рус. чугун. Другі [сын] кажа: — На заводзе Быць даўно хачу я, Дзе чыгун ракою льецца, Дзе звініць сталь звонам. К-а. 2. -а. Гаршчок з такога сплаву і аб'ём нечага, што ўваходзіць у такую пасудзіну; рус. горшок. Чыгун кашы.

**Чыгуначнік**, наз., м. р., -а. ◘ Работнік чыгуначнага транспарту; рус. железнодорожник.

**Чыгунка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Рэйкавая дарога, прызначаная для руху цягнікоў; рус. железная дорога. А там за возерам, як струнка, Пралегла роўненька чыгунка. Вось пераезд, даўно знаёмы; Правей вакзальныя харомы. К-с.

**Чыгунчык**, наз., м. р., -а. ◘ Памянш. да чыгун (у 2 знач.); невялікі чыгун; рус. горшочек. Дзяржыся, браце! І чуць толькі Ўзнялося булбатачак колькі, Дык дзядзька зараз стаў пакрышку Ў чыгунчык клёцкі кідаць з лыжкі... К-с.

**Чыніць**, чыню, чыніш, чыніць; незак. ◘ Рабіць, тварыць. Чаго не хочаш самому, не чыні другому. Прык. (рус. Чего сам не любишь, того и другому не желай).

**Чыноўнік**, наз., м. р., -а. ◘ Дзяржаўны службовец; дзяржаўны службовец у царскай Расіі. Чыноўнік лыпнуў зноў вачыма, Як бы на цёшчу ці айчыма, Зноў у паперы ён уткнуўся, А дзядзька наш не зварухнуўся. Злавацы чыноўнік пачынае, Што дзядзька вытрыманасць мае. К-с. 2. перан. Службовец, які выконвае сваю работу фармальна, раўнадушна.

**Чыноўніцкі**, прым. ◘ Які мае адносіны да чыноўніка, чыноўніцтва і ўласцівы ім. Ён [дзядзька] знаў чыноўніцкія сеці — Не дарма ж соваўся па свеце, Зямлі шукаючы з сябрамі, І добра знаўся з пісарамі. К-с.

**Чынш**, наз., м. р., -у. Гіст. ◘ На Беларусі і ў Літве ў XV-XIX стст. — грашовы аброк за карыстанне зямлёй, у тым ліку і спадчыннай.

**Чырвань**, наз., ж. р. ◘ Уласцівасць чырвонага; чырвоны колер; рус. багрец, багрянец. Дрэвы ў чырвані і золаце. 2. Чырвоныя плямы на целе,пачырваненне. 3. Румянец.

**Чысцец**, наз., м. р., чыстца. ◘ Паводле вучэння каталіцкай царквы — месца, у якім душы нябожчыкаў рознымі выпрабаваннямі ачышчаюцца ад грахоў, каб трапіць потым у рай; чысцілішча.

**Чысцець**, -ею, -ееш, -ее; незак. ◘ Станавіцца больш чыстым. Душой чысцеліў чысцінірасы. К. Кам.

**Чытальня**, наз., ж. р. ◘ Памяшканне ў бібліятэцы, клубе і пад. для чытання ці заняткаў; рус. читальный зал.

**Чытанка**, наз., ж. р., -нцы. ◘ Кніга, падручнік для практыкавання ў чытанні, набыцця навыкаў чытання; хрэстаматыя. Настаўніца бярэ беларускую чытанку «Родны край». Брыль.

**Чытач**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Той, хто чытае кнігі, для каго яны напісаны; рус. читатель. Мова і стыль — гэта тыя формы, у якіх падаецца чытачу думка твора. К. Ч. 2. Наведвальнік, абанент бібліятэкі, чытальні.

**Чытэльны**, прым. ◘ Які лёгка чытаецца; які можна прачытаць; рус. читабельный.

**Чэзлы**. ◘ 1. Які слаба расце, хілы (пра расліны); рус. чахлый. Чэзлы кусточак. 2. Хваравіты, слабы, хворы.

**Чэрава**, наз., н. р. ◘ Жывот; унутраная частка жывата чалавека, жывёлы; рус. чрево. Развіццё плода ў чэраве маці.

**Чэрвень**, наз., м. р., -я. ◘ Шосты месяц каляндарнага года; рус. июнь. У чэрвені ўбачыць спадар, што Бог дасць у дар. З нар. Чэрвень не гуляе — ураджай люляе. З нар. Чэрвень — пралецця скон, а лета — у гон. З нар.

**Чэсць**, наз., ж. р. ◘ 1. Сукупнасць маральных прынцыпаў, якімі чалавек кіруецца ў сваім жыцці; годнасць чалавека. Чэсць і сумленне даражэйшыя за ўсякае багацце. 2. Аўтарытэт, рэпутацыя, чэснае, добрае імя чалавека. Шанаваць сваю чэсць — шанаваць сябе. 3. Цнота, нявіннасць (пра жанчыну). Не такую, ясны пане, Бачыш прад сабою, Што захоча чэсць і славу Прадаваць з табою. К-а.

# Ш

**Шабас**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Паводле іудзейскай рэлігіі — суботняе свята. Шабас быў якраз, субота, — Грэх жа брацца за работу. К. К. 2. Тое, што і шабаш.

**Шабасаваць**, -сую, -суеш, -суе; незак. ◘ Святкаваць шабас. У суботу Меер шабасуе, і Міхалка без яго, як без рукі. З. Б.

**Шабаш**, наз., м. р., -у. ◘ 1. У павер'ях начное зборышча ведзьмакоў, ведзьмаў, якія ўчынялі шалёны разгул. 2. перан. Зверскі ўчынак; варожы разгул. Карнікі ўчынілі чарговы крывавы шабаш.

**Шабаш**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Разм. Перапынак для адпачынку. 2. Вокліч, каманда канчаць работу. «Шабаш!» — крыкнуў хлопец.

**Шавец**, наз., м. р., шаўца. ◘ Майстар, які шые і рамантуе абутак; рус. сапожник. Шаўцу заказчык боты заказаў І ў тэрмін да яго ў майстэрню завітаў. У. К. Ні шавец, ні кравец, ні каваль, ні стругаль. Прык. (рус. Ни швец, ни жнец, ни в дуду игрец). Шыць — з шаўцамі, а выць — з ваўкамі. Прык. (рус. С волками жить — по-волчьи выть).

**Шавінізм**, наз., м. р., -у. ◘ Ваяўнічы нацыяналізм, які прапаведуе выключнасць адной нацыі і пагарду да іншых, распальвае нацыянальную варожасць. Шавінізм — шлях у бездань.

**Шал**, наз., м. р.; -у. ◘ Псіхічны стан чалавека, ахопленага вялікім гневам, узбуджэннем; шаленства, раз'юшанасць; рус. озверение, остервенение.

**Шалёны**, прым. ◘ 1. Хворы на шаленства, на вадабоязь; рус. бешеный. Шалёны воўк. 2. у знач. наз. шалёны. Шалёнец, вар'ят; рус. безумец. 3. Які страціў развažлівасць, цвярозы розум; люты, нястрыманы, звар'яцелы; рус. оголтелый. 4. Нечаканы, незвычайны, неверагодны, непрадказальны; рус. сумасбродный. 5. перан. Вельмі інтэнсіўны, хуткі, моцны па сіле праяўлення; рус. неистовый, яростный, сумасшедший. Шапёны вецер. Шалёная хуткасць.

**Шалік**, наз., м. р., -а. ◘ Выраб з тканіны або звязаны з шарсцяных нітак для захутвання шыі; рус. шарф. Пуховы шапік.

**Шальмаваць**, -мую, -муеш, -муе; незак. ◘ 1. Ганьбаваць, знеслаўляць некага; рус. позорить. 2. Паводзіць сябе несумленна ў нейкай справе; хітрыць, ашукваць; рус. плутовать.

**Шаля**, наз., ж. р. ◘ 1. Кожны з дзвюх сіметрычных, замацаваных на падстаўцы або навешаных на восі частак вагаў у выглядзе талерак, на адной з якіх кладзецца груз для ўзважвання, на другой — гіры; рус. чаша. 2. толькі мн. шалі. Вагі, якія складаюцца з такіх частак; рус. чашечные весы. О, дзе знайсці такія шалі, Якія ўзважвалі б і сілы І ўраз задачы вырашалі. А. Л.

**Шаляніца**, наз., аг. р. ◘ 1. Безразважны чалавек; дзівак; рус. сумасброд. 2. Дураслівы, свавольны. А гэты Юзік-шаляніца, Малы яшчэ, зусім дурніца, Так пад нагамі і таўчэцца... К-с.

**Шанавацца**, -нуюся, -нуешся, -нуецца; незак. ◘ Быць асцярожным, берагчыся; паводзіць сябе прыстойна ў прысутнасці некага.

Шануйся замалада — не напаткае бяда. Прык. (рус. Береги платье снову, а честь смолоду).

**Шанаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; незак. ◘ 1. Берагчы некага, нешта, клапатліва засцерагаць; рус. беречь. Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе. Прык. 2. Адносіцца з пашанай, павагай да некага, нечага; рус. чтить, почитать; уважать. Шанаваць народныя традыцыі. □ Няхай агонь і жар пакуты Навекі спаліць здзек той люты, Які спрадвеку там пануе Над тым, хто родны скарб шануе І хто ўсім сэрцам і душою Астацца хоча сам сабою. К-с.

**Шаноўны**, прым. ◘ 1. Дастойны павагі, паважаны; рус. почтенный. Шаноўныя гады. 2. Які выклікае павагу; рус. почетный. □ Вы не знойдзіце нідзе Працы больш шаноўнае. Дзе ні вуліца, ні плящ, Як паглядзіш — мой палац. А. А.

**Шанцаваць**, -цуе; безас.; незак. ◘ Пра ўдачу, шанц у нечым; рус. везти. Шанцуе на добрых людзей. □ Але ж ізноў — зірнуць цікава, Як там з гары ўсё выглядае. І дзядзька стоража пытае: А колькі той білет каштуе? Ніяк у Вільні не шанцуе! К-с.

**Шапкаваць**, -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ 1. Зневажальна для сябе прасіць некага пра нешта. Не трэба шапкаваць, прыніжацца. 2. Рабалепстваваць, нізкапакпоннічаць. 3. Вітацца, знімаючы шапку. [Кацярына:] — Нашы вясковыя хамулы толькі шапкаваць будуць перад намі. К. К. 4. перан. Залішне слугаваць некаму; падхалімнічаць перад некім. Шапкаваць перад начальствам.

**Шарак**, наз., м. р., -а. ◘ Разм. 1. Шэры заяц. Шарак перабег дарогу. 2. Верхняе адзенне (кафтан) з шэрага сукна. Ён апрануў стары шарак, Абуў старыя лапці. А. Б.

**Шаршатка**, наз., ж. р., ДМ -тцы. ◘ Тоўстая і доўгая іголка. Шыць мяхі шаршаткай.

**Шаткаванка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. Разм. ◘ Шаткаваная капуста; рус. шинкованная капуста. У кастрычніку ставяць на зіму шатка-* ванку.

**Шаткаваць**, -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ Рэзаць тонкімі доўгімі палоскамі (звычайна капусту); рус. шинковать. Свайго засолу Добрая капуста — Вось так шаткуе Толькі маці ў нас. М. Х.

**Шаткаўніца і шаткоўня**, наз., ж. р. ◘ Прылада для шаткавання капусты; рус. шинковка. Ручная шаткаўніца.

**Шаты**, наз., адз. няма. ◘ 1. Пышнае дарагое адзенне. Як да шлюбу выпраўлялі, залатыя ўздзелі шаты. З дыяментаў даў каралі бацька, засмучоны стратай. У. Д. 2. перан. Покрыва (звычайна з лісця, снегу). Першы снег сець-бель мярэжыць, Сцеле шаты на дарогі. К-с.

**Шафа**, наз., ж. р. ◘ Прадмет мэблі ў выглядзе высокай стаячай скрынкі з дзверцамі, які служыць для захоўвання нечага; рус. шкаф. Шафер, наз., м. р., -а. ◘ Удзельнік вясельнага абраду, які ў час вянчання трымае вянец над галавой жаніха.

**Шаферка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Старшая дружка нявесты ў вясельным абрадзе.

**Швагер**, наз., м. р., швагра. ◘ Брат жонкі або муж сястры ці швагеркі. А падарожныя тым часам На двор да швагра заязджаюць, Ідуць у хату, ўсіх вітаюць. К-с.

**Швагерка**, наз., ж. р., ДМ -рцы. ◘ Жончына сястра.

**Швальня**, наз., ж. р. Уст. ◘ Кравецкая майстэрня. Швачка, наз., ж. р., ДМ -чцы. ◘ Жанчына, якая прафесійна займаецца шыццём; рус. швея.

**Шціва**, наз., н. р. ◘ Разм. Тое, што шыецца або пашыта; шытво; шыццё; рус. шитье. Шворыцца, -руся, -рышся, -рыцца; незак. Абл. ◘ Корпацца, поркацца. На скорым часе ранічкою Алесь у кепскім быў настроі: Хадзіў, бурчаў, не змоўчваў маме, Ўсё дагары вярнуў нагамі... — Чаго ты шворышся, мармотка ? — Ў пытанні маткі злосці нотка... К-с.

**Шкада**, безас. у знач. вык. ◘ 1. Пра пачуццё жалю, спагады да некага, нечага; рус. жалко. Маці шкада... Маці, маці, колькі слёз пралілі вашы вочы, колькі начэй недаспалі, калі вы, схіліўшыся над сынамі, адганялі ад іх бяду. І. С. 2. Пра нежаданне аддаць, страціць нешта. Кроў — не вада, разліць шкада. Прык. Якому . бацьку або маці не шкада свайго дзіцяці. З нар.

**Шкадаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; незак. ◘ 1. Адчуваць жаль, спагаду да некага; рус. жалеть. Сын шкадуе маці. 2. Берагчы, ашчаджаць; не даваць, скупіцца. [Гаспадыня:] — Ну закусеце ж, калі ласка! Вось проша сыру, проша мяска Ці кумпячка або каўбаскі, Ну, пірага хоць закаштуйце! Бярэце масла, не шкадуйце. К-с. 3. Смуткаваць, бедаваць з нейкай прычыны; рус. сожалеть. Не шкадую я аб згубленым, Рад таму, што знойдзена. А. З-к.

**Шкло**, наз., н. р. ◘ 1. Цвёрды празрысты матэрыял, які атрымліваецца шляхам плаўлення кварцавага пяску; рус. стекло. 2. Тонкі ліст ці выраб з гэтага матэрыялу. Аконнае шкло. Гісторыю, славу і сэрца народа Я ўбачыў і вызнаў на выстаўцы шкла! Н. Г.

**Шклянка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Шкляная пасудзіна цыліндрычнай формы, без ручкі, прызначаная для піцця; колькасць вадкасці або рэчыва, якая ўмяшчаецца ў такой пасудзіне; рус. стакан. Спыніўся дзядзька каля банка, Дзе ўсходы чыстыя, як шклянка... К-с.

**Шкляр**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Рабочы, які ўстаўляе шкло; рус. стекольщик. 2. Работнік гуты.

**Шкода**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Пашкоджанне, урон, страта; дрэнны, небяспечны ўчынак; рус. вред. Шкода здароўю ад тытуню. Міхал ідзе ды йдзе ў абходы, І не ўхілішся ад шкоды: То дуб ссякуць, бярозу звалиць, А там і лес табе падпаляць Або патравяць сенажаці, Пажнуць траву на корм цяляці. К-с.

**Шкодзіць**, -джу, -дзіш, -дзіцы, незак. ◘ Прыносіць шкоду, наносіць урон, страту; рус. вредить. Але на практыцы выходзіць, Што і цялятам часта шкодзіць Залішне многа малака. К. К.

**Шкоднік**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Жывёла, насякомае, якое прыносіць шкоду ў лясной, сельскай, складавай, а таксама хатняй гаспадарцы; рус. вредитель. Вожык прыносіць вялікую карысць чалавеку, бо знішчае ўсялякіх палявых шкоднікаў. 2. Небяспечны чалавек, вораг; ненавіснік.

**Шлюб**, наз., м. р., -у. ◘ Сямейны саюз мужчыны і жанчыны; сумеснае ўзаконенае іх жыццё; рус. брак.

♦ Шлюб шлюбаваць (рус. вступать в брак).

**Шлюбны**, прым. ◘ 1. Які мае адносіны да шлюбу; прызначаны для шлюбу. Шлюбны абрад. 2. у перан. ужыв. Ужо бо сонейка праменні Гатуюць шлюбныя адзенні І ткуць карону дарагую Вянчаць зямельку-маладую... Пара, зіма, табе складацца І ўпроч з кудзеляй выбірацца! К-с.

**Шляга**, наз., ж. р., ДМ шлязе. ◘ Прылада, ударамі якой трамбуюць ці ўшчыльняюць глебу, пясок, каменне і пад., а таксама выраўноўваюць паверхню; рус. трамбовка. Але б вы самі спрабавалі, Калі б у вочы вам плявалі І вас агіднаю знявагай Па сэрцы білі б, як той шлягай! К-с.

**Шлях**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Шырокая, прыстасаваная для руху транспарту дарога. 2. Прастора, на якой адбываецца перамяшчэнне некага, нечага; рус. путь. Паветраны шлях. □ Бяжыць вада каналамі, — Вялікі волжскі шлях... К-с. 3. Месца для праходу, праезду. Плацінай перагарадзілі шлях вадзе. 4. перан. Перыяд, этап развіцця. Наша краіна прайшла вялікі шлях у станаўленні дзяржаўнасці. 5. Напрамак, маршрут, дарога. А справа ўніз свабодным махам Лягла другая рэчка шляхам, Як бы сталёвая пружына; То Вілія, Літвы дзяціна, Няслася пышна між абрываў... К-с. 6. перан. Жыццё некага, дзейнасць; жыццёвы лес.

♦ Жыццёвы шлях — жыццё.

Душою і сэрцам вызнаў Я праўду сваёй Радзімы, З ёй шлях у мяне — адзіны! Н. Г. Справа будзе вораг, злева будуць сябры, — І як груганы б ні віслі, а ты ідзі, бо дораг табе твой шлях зямны. А. В.

**Шляхетнасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Прыналежнасць да дваранскага саслоўя. 2. Выхаванасць, уменне трымаць сябе ў людзях; вытанчанасць, высакароднасць; адпаведнасць існуючым нормам маралі. Садзяцца госці, ды не зразу, За стол не лезуць для паказу, Бо так шляхётнасць вымагае. К-с.

**Шляхетны**, прым. ◘ 1. Дваранскі, дваранскага паходжання. 2. Знешне вытанчаны, высакародны, з вялікім пачуццём гонару; які прытрымліваецца існуючых нормаў маралі; выхаваны, сумленны, высакародны; з пачуццём уласнай годнасці. Шляхетны той чалавек, які, жывучы на гэтым свеце, слухае адно загады Божыя. Ян Б.

**Шляхецкі**, прым. ◘ 1. Які мае адносіны да шляхецтва, шляхты, належыць ёй. Шляхецкае саслоўе. 2. Уласцівы шляхецтву. Ў паноў быў нават на прымеце, — Такі ўважны і шляхетны, Далёка ў воласці прыметны. Хоць не шляхецкага ён [Язэп] роду, Але прытрымліваў іх моду... К-с.

**Шляхціц**, наз., м. р., -а. ◘ Дробнапамесны дваранін; шляхцюк.

**Шляхцянка**, наз., ж. р., ДМ -нцы. ◘ Жан. да шляхціц. А гаспадыняй меў [Язэп] дваранку, Вельмі панадную шляхцянку. К-с.

**Шмалец**, наз., м. р., -льцу. ◘ Гусіны тлушч. Шмалец — выдатны сродак ад многіх екураных захворванняў, а таксама ад абмаражэння.

**Шманаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ У выразе: (і) не шманае — не звяртае ніякай увагі, не рэагуе на некага, нешта, захоўвае поўны спакой. І хоць мароз крапіць пякучы, Да ног даходзіць скрозь анучы І снегам вочы зашывае, — Мужык жыве і не шманае... ...Бяжыць, аб плечы б'е рукамі, Яшчэ й прытупвае нагамі, І так блазнее, тае дурэе, Аж покі лоб не замакрэе. К-с.

**Шмараваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Націраць, намазваць некага, нешта нечым; націраць маззю. Хто шмаруе, той і едзе. Прык. (рус. Не подмажешь — не поедешь). Шмат, прысл. ◘ У вялікай колькасці; многа. Шмат сцяжынак у лесе. □ Жыў мудры чалавек, які не меў ні сына, ні дачкі. Было ў яго багацця шмат, ды ён багаццю быў не рад. У. Д.

**Шматаваць**, -тую, -туеш, -туе; незак. ◘ Рваць ці імкнуцца парваць на шматы, кавалкі; шкуматаць. Бура шматавала дрэвы. □ Абодва [Васіль і Яўхім] качаліся па пожні, па свежай раллі, крывянілі адзін аднаму твары, шматавалі сарочкі. Мележ.

**Шпак**, наз., м. р., -а. ◘ Пералётная пеўчая птушка атрада вераб'іных з чорным апярэннем; рус. скворец. — Подожди, Дмитрий, ты опять неправильно говоришь. Надо говорить не бусел, а аист, не гай, а роща, не жито, а рожь, не шпак, а скворец. М. Е.

**Шпакоўня**, наз., ж. р. ◘ Жыллё для шпакоў у выглядзе будачкі, якая прымацоўваецца на доўгай жэрдцы або дрэве каля жылля чалавека. Змайстраваць шпакоўню.

**Шпалеры**, наз., толькі мн. ◘ 1. Рулонная ўзорыстая папера для абклейвання сцен, столі; рус. обои. Сшытак спісаны, шпалеры — Будзе новая папера. Л. Д. 2. толькі мн. Рады, шарэнгі салдат, якія стаяць па абодва бакі руху некага, нечага; рус. шпалеры. У чаканні імператара сапдаты стаялі шпалерамі.

**Шпацыраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Хадзіць па свежым паветры, адпачываючы; прагульвацца; хадзіць не спяшаючыся, узад і ўперад.

**Шпіталь**, наз., м. р., -я. ◘ Лячэбная ўстанова або бальніца, звычайна вайсковая; рус. госпиталь. Ваенны шпіталь.

**Шпурляць**, -яю, -яеш, -яе; незак. ◘ 1.3 сілай кідаць нешта; рус. швырять. Шпурляць каменне ў кузаў. 2. Моцна качаць, трэсці, тузаць, прымушаючы некага, нешта рабіць рэзкія рухі. [Прыпяць] нявесла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі. К-с. 3. перан. Без карысці, марна траціць нешта. Шпурляць грошы на вецер.

**Шрот**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Дробныя свінцовыя шарыкі, якія разам з порахам служаць зарадам для паляўнічых стрэльбаў; рус. дробь. 2. перан. Пра ўсё, што сваім выглядам і ўласцівасцямі нагадвае такія шарыкі. Гоад біў шротам. Вадзяны шрот. 3. зб. Спец. Адходы пасля выціскання алею з насення алейных раслін, якія ідуць на корм жывёле; рус. жмых.

**Шруба**, наз., ж. р. ◘ Шпень са спіральнай нарэзкай; вінт.

**Шрубка**, наз., ж. р., ДМ -бцы. ◘ Памянш. да шруба; невялікая шруба. — Ото, гара, якпеч, крутая! І вось чаму дарожка тая, Бы шрубка, ўецца па-над бокам: Узлезь, папробуй, простым крокам! К-с.

**Штандар**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Уст. Сцяг адпаведнага колеру, часта з вышываным гербам, як знак дзяржавы, вайсковай часці. На штандарах крыжакоў — малюнкі чорных арлоў, ваўкоў, мядзведзяў, крыжоў, мячоў. 2. Паэт. Сцяг. Чырванню шаўковай Зашумяць штандары. К-а.

**Штандары**, наз., адз. штандара, ж. р. Разм. ◘ Укапаныя ў зямлю калоды, на якія кладуць падрубы, г.зн. ніжнія бярвёны зруба. Дрэва — дуб — для штандараў бацька нагледзеў загадзя. І. Ч.

**Штовечар**, прысл. ◘ Кожны вечар, кожным вечарам; з вечара ў вечар. У клубе штовечар збіраецца моладзь.

**Штогод**, прысл. ◘ Кожны год; з году ў год; рус. ежегодно. Штогод з усёй краіны Ішлі сюды ўсе кветкі... У. Д.

**Штодзень** і штодня, прысл. ◘ Кожны дзень; з дня ў дзень; рус. ежедневно. Дождж, я верыў, дабрадзей, І чакаў яго штодзень. М. К.

**Штолета**, прысл. ◘ Кожнае лета, кожным летам. Штолета ўнукі жывуць у бабулі ў вёсцы.

**Штомесяц**, прысл. ◘ Кожны месяц; рус. ежемесячно. Сын штомесяц высылаў маці грошы.

**Штоноч і штоночы**, прысл. ◘ Кожную ноч, кожнай ночы. З аэрадрома штоноч паднімаліся самалёты.

**Штораз**, прысл. ◘ 1. Кожны раз; раз ад разу; з кожным разам. Дым штораз уздымаецца вышэй. 2. Вельмі часта; вельмі хутка. Штораз слабелі сілы.

**Штораніцы**, прысл. ◘ Кожную раніцу, кожнай раніцай. Чысціць зубы штораніцы.

**Штотыдзень**, прысл. ◘ Кожны тыдзень, на кожным тыдні; рус. еженедельно. Газета выходзіць штотыдзень.

**Штотыднёвік**, наз., м. р., -а. ◘ Перыядычнае выданне, якое выходзіць раз на тыдзень; рус. еженедельник. Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».

**Штукар**, наз., м. р., -а. ◘ 1. Артыст, які паказвае фокусы. 2. Той, хто вырабляе розныя складаныя, мудрагелістыя рэчы; майстар, вынаходца; рус. изобретатель. / ўсё выразна гаварыла, Што ён не толькі гаспадар, Але й прыроджаны штукар, Якіх на свеце не так многа. За дзядзьку людзі просяць Бога... К-с. 3. Выдумшчык, жартаўнік.

**Штучка**, наз., ж. р., ДМ -чцы. Памянш.-ласк. да штука. ◘ 1 .Разм. Нейкая рэч, з'ява, акалічнасць, якасцб, выпадак, здарэнне. 2. Нешта нечаканае, складанае, незвычайнае; фокус, мудрагелісты рух. -Я сам такую штучку знаю, Што без памылкі адгадаю, Як хто стаіць, ну, хоць бы ў сенях: Ці на нагах, ці на каленях, Ці ён там стане, ці ён ляжа! Вось гэта штучка! — бацька кажа. К-с.

**Штучны**[1], прым. ◘ 1. Ненатуральны, зроблены накшталт сапраўднага, прыроднага; рус. искусственный. Штучнае валакно. 2. Прытворны, няшчыры; рус. деланный. Штучная ветлівасць.

**Штучны**[2], прым. ◘ Які ўяўляе сабой асобную рэч, прадмет; які не ўзважваецца і не адмяраецца. Штучны тавар. Штучны аддзел магазіна.

**Шугалея**, наз., ж. р. ◘ Вялікая лодка, выдзеўбаная з цэлага кавалка дрэва. У чоўнах, віцінах і шугалеях, да апошняй душагубкі, папрасякалі днішчы. У. Карат.

**Шукаць**, -аю, -аеш, -ае; незак. ◘ 1. Старацца знайсці, выявіць нешта схаванае, згубленае, даведацца пра месцазнаходжанне, наяўнасць нечага; рус. искать. Шукаць сцежку. Шукаць кватэру. 2. Дабівацца, патрабаваць нечага, старацца атрымаць нешта. Прасіце, і вам дасца; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам, бо кожны, хто просіць, атрымае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць. З Евангелля. Праз хлеб хлеба шукаць не трэба. Прык. (рус. От добра добра не ищут).

♦ Шукаць гуза — нарывацца на непрыемнасці.

♦ Шукаць лёгкага хлеба — пазбягаць цяжкасцяў, старацца ўсё рабіць, не прыкладаючы намаганняў.

♦ Шукаць пятлі на шыю — лезці ў небяспечныя, рызыкоўныя справы.

**Шуляк**, наз., м. р., -а. ◘ Тое, што і кар**шу**н.

**Шурпаты**, прым. ◘ 1. Які мае нягладкую паверхню; рус. шероховатый. Шурпатыя дошкі. 2. Агрубелы (пра скуру, цела, пакрытае такой скурай); шорсткі; рус. шероховатый. Шурпатыя, мазолістыя рукі. 3. перан. Недапрацаваны, з хібамі, недахопамі; рус. шероховатый. Шурпаты стыль. Напісана шурпатай мовай.

**Шуткаваць**, -кую, -куеш, -куе; незак. ◘ Тое, што і жартаваць; рус. шутить.

**Шуфель**, наз.; м. р., шуфля. ◘ Шырокая, глыбокая рыдлёўка, прызначаная для перасыпання сыпкіх рэчываў; рус. совковая лопата. Сыпаць шуфлем жыта ў засек.

**Шуфляваць**, -люю, -люеш, -люе; незак. ◘ 1.Зграбаць, сыпаць, перасыпаць, счышчаць і пад. нешта шуфлем. Шуфляваць вугаль у ваганеткі. 2. у перан. ужыв. А снег станоўка і заложна Так і шуфлюе. Лес набожна Стаіць, маўчыць і ўсё святлее, Як бы, здаецца, весялее. К-с.

**Шуфляда**, наз., ж. р., ДМ -дзе. ◘ Скрынка ў стале, шафе з невысокімі сценкамі для захоўвання нейкіх рэчаў; рус. выдвижной ящик. Дастаць з шуфляды паперы.

**Шчадраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Святкаваць пярэдадзень Новага года. Калядным вечарам моладзь шчадравала, пела шчадроўкі.

**Шчадроўкі**, наз., адз. няма. ◘ 1. Даўні звычай адзначаць вечар напярэдадні Новага года; сам тэты вечар; шчадрэц. 2. Песня, якая спяваецца ў гэты вечар. Спяваць шчадроўкі.

**Шчаня і шчанё**, наз., н. р.; мн. шчаняты; памянш.-ласк. шчанятка. ◘ Дзіцяня сабакі; рус. щенок. Першае цялятка — шчанятка. Прык. (рус. Первый блин комом).

**Шчасны**, прым. ◘ 1. Якому дадзена шчасце (у 1 знач.), які мае, адчувае шчасце, радасць, захапленне; шчаслівы; рус. счастливый. Не радзіся красны, а радзіся шчасны. Прык. (рус. Не родись красивым, а родись счастливым). 2, Які прыносіць, дае радасць, шчасце, дабрабыт і пад. Шчасная доля.

**Шчасце**, наз., н. р. ◘ 1. Стан поўнай задаволенасці жыццём, пачуццё найвялікшай радасці і задавальнення ад нечага; рус. счастье. У воду войдзеш — шчасце раю, Я шчасця большага не знаю, Ці знаць яго ўжо не прыйшлося, Як толькі тут на сенакосе. К-с. 2. Удача, поспех у нечым; шчаслівы выпадак, шанц. Нам выпала шчасце не зведаць вайны, голаду. 3. Лес, доля. Як Бог красу дзяліў — спала, як Бог шчасце дзяліў - устала. Прык. (рус. Не родись красивой, а родись счастливой). Не шукай ты шчасця, долі На чужым далёкім полі. К-а.

**Шчупак**, наз., м. р., -а. ◘ Драпежная прэснаводная прамысловая рыба з доўгім тулавам, вялікай сплюснутай галавой; рус. щука. Раптам шчупак, як віхор, мільгануў тут, рыбкі і зніклі ў тую ж мінуту — усе паўцякалі ад страшнае згубы, не дасталіся драпежніку ў зубы. У. Д.

**Шчур**, наз., м. р., -а. ◘ Млекакормячая жывёліна сямейства мышападобных, пераважна з шэрай поўсцю і доўгім хвастом; пацук; рус. крыса. Паставіць пастку на шчура. □ Скуль жа стук той патаемны? Ці прабег дзе проста шчур? К-с.

**Шчыльны**, прым. ◘ 1. Такі, у якім цесна нешта складзена; які змяшчае вялікую колькасць у малым аб'ёме; рус. плотный. Шчыльны слой пылу. Шчыльны снег. 2. Густы, праз які не пранікае святло; непранікальны. Шчыльная заслона дыму. Шчыльная чарната. 3. Які складаецца з блізка размешчаных адзін ля другога асоб, прадметаў; часты. Шчыльны строй. Шчыльны плот.

**Шчыраваць**, -рую, -руеш, -руе; незак. ◘ Дбайна, старанна, рупна рабіць нешта; завіхацца каля, вакол нечага; рус. усердствовать. Гаспадыня шчыравала каля гасцей. Шчыраваць на духоўнай ніве.

**Шчыры**, прым. ◘ 1. Праўдзівы, чыстасардэчны, адкрыты; рус. искренний. Шчыры сябар. □ Усё ж надумаў гаспадар дазнацца, наколькі шчырыя яны [сябры] сапраўды. Пачаў пра тое-сёе ў іх пытацца, маўляў, з адказаў праўду адгадаў бы. У. Д. 2. Які выражае сапраўдныя, непадробныя пачуцці. Шчыры смех. Шчырая сляза. 3. Задушэўны; інтымны. Шчырая размова. 4.

Сардэчны, душэўны. Шчыры, добры чалавек. 5. Старанны. Шчырая праца. 6. Заўзяты, заядлы. Шчыры следапыт.

**Шыба**, наз., ж. р. ◘ Шкло, устаўленае ў аконную раму. На шыбе ўсё: снапкі ржаныя, Чароты хвацкія, буйныя, І розных красак, траў нямала. У душу летам патыхала... К-с.

**Шыбаваць**, -бую, -буеш, -буе; незак. ◘ Хутка, жвава, імкліва рухацца, ісці, ляцець і пад. Шыбуюць гусі ў край далёкі І жураўлі ў той самы край. Бывай жа, лецейка, бывай! Бывайце, родныя волокі! К-с.

**Шыбеніца**, наз., ж. р. ◘ Прылада для пакарання смерцю, зробленая з двух слупоў з перакладзінай; рус. виселица. Не капай на друга свайго ямы, Сам у яе ўвалішся. Не стаў, Амане, Мардахею шыбеніцу, Сам на ёй павіснеш. Ф. С.

**Шыкоўны**, прым. ◘ І.Раскошны, багаты, пышны; шыкозны; рус. шикарный. Шыкоўны палац. Шыкоўнае ўбранне. Шыкоўнае вяселле. 2. Які мае элегантны, фарсісты выгляд (пра людзей). Шыкоўны кавалер.

□ Бліскучы і шыкоўны хлопец гэты.
Ды што з таго? — Лайдак адпеты. У. К.

**Шыпшына**, наз., ж. р. ◘ 1. Расліна сямейства ружакветных, з прос-тым!, не махровымі кветкамі і са сцяблом з калючкамі; дзікая ружа; рус. шиповник.

Урэшце да спакою паклікаў ясны голас. Чарговым старшынёю быў сёння Гладыёлус. Няма яшчэ Стакроткі, Чабору і Шыпшыны, але наш час кароткі, пачаць без іх павінны. У. Д.

2. Плады гэтай ягады. Настой з шыпшыны.

**Шыпшыннік**, наз., м. р., -у. ◘ Кусты, зараснік шыпшыны. Краса тайгі — шыпшыннік дзікі — Пялёсткамі ўсцілае шлях. А. З-к.

**Шэльма**, наз., аг. р. Д -у, Т -ам, М -е -м. р.; ДМ -е, Т -ай (-аю) — ж. р. ◘ Махляр, несумленны чапавек; нягоднік, паганец; хітрун, кру-цель. — Ну, мерайце, — кажу, — ды рэжце! — Куляецца аршын, маланкай ходзяць рукі — Так спрытна шэльма мерае. К. К.

**Шэрань**, наз., ж. р. ◘ 1. Белыя рыхлыя крышталікі, падобныя на сняжынкі, якія нарастаюць пры марозе і тумане на галінах дрэў, дроце і пад.; рус. иней. Ляжыць зямля ў адзенні белым, І дрэвы ў шэрані стаяць. К-с. 2. Туман з халодным дробным, у выглядзе пылу, дажджу; імжа, імгла; рус. мгла. 3. Змрок, цемра. Перадвячэрняя шэрань. 4. Шэрая афарбоўка нечага; шэрасць; рус. серость. Саламяная шэрань стрэх.

**Шэсце**, наз., н. р. ◘ Рух, паход некуды з нагоды нейкай урачыстасці, свята; рус. шествие. Рады фізкультурнікаў замыкалі святочнае шэсце.

# Э

**Эвакуацыя**, наз., ж. р. ◘ Арганізаваны вываз насельніцтва, установ, прамысловых аб'ектаў з небяспечнай мясцовасці, якой пагражаюць ваенныя дзеянні ці стыхійнае бедства; жыццё ва ўмовах вымушанага ад'езду. У час вайны многія беларусы жылі ў эвакуацыі ў Сібіры, на Далёкім Усходзе.

**Эвалюцыя**, наз., ж. р. ◘ 1. Развіццё, працэс павольнага, паступовага змянення ў прыродзе і грамадстве ў адрозненне ад рэвалюцыі. Эвалюцыя відаў расліннага і жывёльнага свету. 2. Наогул працэс змянення некага, нечага. Эвалюцыя светапогляду. Эвалюцыя ў душы чалавека, адраджэнне, уваскрэсенне душы пачынаецца з усведамлення чалавекам сваіх грахоў і памылак, шчырага раскаяния за ранейшыя ўчынкі.

**Эгаіст**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, які кіруецца толькі сваімі інтарэсамі, ігнаруе інтарэсы іншых людзей; сябелюб; рус. себялюб.

Хіба марам спажыўца І звычкам эгаіста

Знаёмы шчырасць пачуцця, Парывак думак чыстых?! А. З-к.

**Эдэм**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Паводле біблейскага падання — месца, дзе жылі Адам і Ева да іх грэхападзення; рай. 2. перан. Прыгожая мясцовасць; месца, дзе можна жыць шчасліва. У марах кожнага чалавека — свой эдэм.

**Эквівалент**, наз., м. р., -у. ◘ Нешта раўназначнае, раўнацэннае, раўнасільнае нечаму, здольнае поўнасцю замяніць яго; адпаведнік. У беларускай мове ёсць шэраг слоў, якія ў рускамоўным дачыненні не маюць аднаслоўнага эквіваленту, пераклад якіх патрабуе словазлучэнняў, а часам і апісальных выразаў рускай мовы. □ Такія словы вызначаюцца навуковым паняццем «безэквівалентныя», г.зн., «якія не маюць эквиваленту», і. Шк.

**Экскурс**, наз., м. р., -у. ◘ Адхіленне, адступленне ад галоўнай тэмы з мэтай падрабязней высветліць пабочнае пытанне, якое важна для глыбокага разумения галоўнай тэмы. Экскурс у гісторыю з мэтай асвятліць сучаснае.

**Эксперымент**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Навукова пастаўлены дослед. Вучоныя правялі эксперымент. 2. Спроба ажыццявіць нешта нейкім чынам. Нельга праводзіць эксперымент на людзях.

**Экспромт**, наз., м. р., -а. ◘ Верш, музычны твор і пад., створаныя адразу, без папярэдняй падрыхтоўкі; прамова, трапны адказ, сказаныя без папярэдняга абдумвання. М. Лужанін успамінаў,

што Якуб Колас здзіўляў усіх сваімі дасціпнымі жартамі і экспромтамі.

**Экспрэс**, наз., м. р., -а. ◘ Поезд, параход, аўтобус і пад., які ідзе з найбольшай хуткасцю і робіць прыпынкі толькі на галоўных станцыях.

**Экспрэсія**, наз., ж. р. ◘ Выразнасць; сіла праяўлення, выражэння пачуццяў, перажыванняў, думак. Беларускія прыказкі здзіўляюць і экспрэсіяй слова, і выразнай эпічнасцю, і рыфмай, і рытмам.

**Экстра**, нескл. прым. ◘ Самы лепшы, найвышэйшы (пра якасць, гатунак тавару). Масла экстра. Соль экстра.

**Экстэрнам**, прысл. ◘ У выразе: здаваць (здаць) экстэрнам — здаваць (здаць) экзамены без папярэдняга навучання ў адпаведнай навучальнай установе.

**Элегія**, наз., ж. р. ◘ 1. Лірычны верш, прасякнуты пачуццём смутку, журбы, роздуму. Элегіі М. Багдановіча напоўнены глыбокім філасофскім зместам. 2. Сум, журба, летуценнасць, мройнасць.

**Эліта**, наз., ж. р., ДМ эліце. ◘ 1. Лепшае, адборнае насенне; расліны або жывёлы, атрыманыя ў выніку селекцыі і прызначаныя для далейшага развядзення. Эліта бульбы. 2. Лепшыя прадстаўнікі грамадства або нейкай яго часткі. Эліта моладзі.

**Эмоцыя**, наз., ж. р. ◘ Пачуццё, перажыванне чалавека; знешняе праяўленне пачуццяў, перажыванняў. Гармонія разваг і эмоцый. Чалавек не стрымаўся — эмоцыі ўзялі верх. Валодаць сваімі эмоцыямі.

**Энтузіяст**, наз., м. р., -а. ◘ Чалавек, ахоплены натхненнем, захапленнем нечым; які ўсе свае сілы аддае нейкай справе, шчыры прыхільнік нечага. Энтузіяст навукі. Энергію энтузіястаў трэба скіраваць на карысць агульнай справы.

**Энцыклапедыя**, наз., ж. р. ◘ Навуковае даведачнае выданне ў выглядзе слоўніка, дзе звычайна даюцца асноўныя звесткі па ўсіх або асобных галінах ведаў. Энцыклапедыя юнага біёлага. □ Не, такога яшчэ мы не ведалі! Гэта свята без пышных прамоў: Беларуская энцыклапедыя, Радасць першых вішнёвых тамоў. Тут усё: наша праца, гісторыя, Геральдычныя знакі вякоў, І Сафія, ізамак Баторыя... П. П.

♦ Хадзячая энцыклапедыя — пра адукаванага чалавека, які валодае самымі разнастайнымі ведамі.

**Эпас**, наз., м. р., -у. ◘ 1. Апавядальны род мастацкай літаратуры (у адрозненне ад драмы і лірыкі). 2. Сукупнасць народных песень, паданняў, паэм, аб'яднаных агульнай тэмай, храналогіяй і пад. Былінны эпас.

**Эпатаж,** наз., м. р., -у. ◘ Скандальныя выхадкі, абуральныя паводзіны. Ёсць людзі, схільныя да эпатажу.

**Эпаціраваць**, -рую, -руеш, -руе; зак. і незак. ◘ Уразіць (уражваць), здзівіць (здзіўляць) некага незвычайнымі паводзінамі, скандальным! выхадкамі, парушэннем агульнапрынятых нормаў і правілаў. Некаторыя артысты кампенсуюць недахоп таленту тым, што эпаціруюць публіку, аднак гэта не мае нічога агульнага з сапраўдным мастацтвам.

**Эпіграф**, наз., м. р., -а. ◘ Выслоўе, кароткая цытата, якая змяшчаецца ў пачатку твора ці яго частак і з'яўляецца своеасаблівым аўтарскім тлумачэннем асноўнай ідэі твора. Эпіграфамі да абедзвюх кніг рамана «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіч абраў радкі з Евангелля.

**Эпічны**, прым. ◘ Які мае адносіны да эпасу, уласцівы эпасу. Рамантычная паэма Я. Купалы «Бандароўна» — эпічны сюжэтны твор.

**Эскадра**, наз., ж. р. ◘ Буйное злучэнне ваенных караблёў ці самалётаў. Эскадра мінаносцаў.

**Эскадрон**, наз., м. р., -а. ◘ Падраздзяленне ў кавалерыі (конніцы), якое адпавядае пяхотнай роце. Уланскі эскадрон.

**Эскадрылля**, наз., ж. р. ◘ Падраздзяленне ваеннай авіяцыі, якое складаецца з некалькіх звенняў самалётаў, а таксама група лётчыкаў, якія ўваходзяць у склад такога падраздзялення. Слаўная гісторыя эскадрыллі «Нармандыя — Неман» — яскравае сведчанне паспяховай інтэрнацыянальнай барацьбы з фашызмам.

**Эскіз**, наз., м. р., -а. ◘ Першы папярэдні накід малюнка, карціны; першапачатковае афармленне скульптурнага твора, звычайна ў зменшаных памерах; накід, план літаратурнага ці музычнага твора. Эскізы творцаў уяўляюць вялікую каштоўнасць і з'яўляюцца адной з крыніц даследаванняў іх творчасці.

**Эскорт**, наз., м. р., -у. ◘ Канвой, ахова, якая суправаджае некага, нешта. Ганаровы эскорт каралевы Вялікабрытаніі.

**Эстэтыка**, наз., ж. р., -тыцы. ◘ 1. Вучэнне, прысвечанае даследаванню сутнасці і формаў прыгожага ў мастацтве, прыродзе і ў жыцці; сістэма поглядаў на мастацтва, якой нехта прытрымліваецца. Эстэтыка Ф. Скарыны. Эстэтыка аўтара паэмы «Тарас на Парнасе» выяўляецца найперш праз вобраз галоўнага героя. 2. Прыгажосць, мастацкасць нечага. Эстэтыка скульптуры. Эстэтыка вобраза дзядзькі Антося ў паэме «Новая зямля».

**Эсэ**, наз., нескл. ◘ Нарыс, які трактуе літаратурныя, філасофскія, сацыяльныя і інш. праблемы не ў навуковай, а ў вольнай форме, адпаведна эстэтыцы і светапогляду аўтара.

**Этнаграфія**, наз., ж. р. ◘ 1. Навука пра матэрыяльную і духоўную культуру народаў, асаблівасці быту, культуры, звычаяў якога-небудзь народа, народнасці, мясцовасці і пад. Энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі».

**Этыка**, наз., ж. р., ДМ этыцы. ◘ 1. Вучэнне пра мараль, яе сутнасць, законы яе развіцця і ролю ў грамадскім жыцці. 2. Сукупнасць нормаў паводзін; мараль пэўнай супольнасці людзей.

**Этыкет**, наз., м. р., -у. ◘ Устаноўлены парадак паводзін у пэўным асяроддзі, грамадстве.

**Эўрыка**, у знач. выкл. ◘ Вокліч, які выражае задавальненне, радасць пры знойдзеным рашэнні, пры ўзнікненні ўдалай думкі, ідэі. [Ад грэч. heureka — я знайшоў; паводле падання, так усклікнуў Архімед, калі адкрыў названы яго імем закон.]

**Эўрыстычны**, прым. ◘ Які мае адносіны да метадаў, што выкарыстоўваюцца пры адкрыцці новага ці навучанні, разлічаным на тое, каб навучэнцы з дапамогай арыенціраў, сістэмы пытанняў самі вырашалі акрэсленыя задачы і праблемы. Эўрыстычныя прыёмы навучання спрыяюць развіццю творчага мыслення асобы.

**Эфектны**, прым. ◘ Які стварае ўражанне, прыцягвае ўвагу; разлічаны на тое, каб стварыць уражанне. Эфектны жэст. Эфектная сцэна.

**Эфектыўны**, прым. ◘ Які прыводзіць да патрэбных вынікаў; дзейсны; найбольш дасканалы, прадукцыйны, Эфектыўныя метады навучання. Эфектыўная машына.

# Ю

**Юдоль**, наз., ж. р. Уст. ◘ Пра месца, дзе пакутуюць, церпяць мукі; жыццё з яго нягодамі; марнасцямі, смуткам. Зямная юдоль. □ О зямля, святая калодніца, Гора, мужнасці, смерці юдоль! У. Карат.

**Юзам**, прысл. ◘ 1. Цягнучы, сунучы па зямлі або насціле. Перацягнуць кантэйнер юзам. 2. Слізгаючыся, сунучыся па зямлі, рэйках і пад. Колы ішлі юзам.

**Юнак**, наз., м. р., -а. ◘ Малады чалавек, які не дасягнуў сталасці; рус. юноша. Наш юнак зусім сумеўся: Уцякаць ад іх [русалак] ён меўся, тут не страх, а спасцярога. паглядаць стаў на дарогу. У. Д.

**Юнацтва**, наз., н. р. ◘ 1. Перыяд жыцця пасля маленства да сталасці; ранняя маладосць; рус. юность. Дзяцінства і юнацтва Янкі Купалы было азмрочана многімі нягодамі, няшчасцямі, галоўнае з якіх — смерць блізкіх і дарагіх людзей. 2. Маладыя людзі абодвух полаў. Юнацтва планеты.

**Юнга**, наз., м. р. ◘ Падлетак на судне, які рыхтуецца стаць матросам; малодшы матрос.

**ЮНЕСКА**, наз., м. р. ◘ Установа Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры. Паводле рашэння ЮНЕСКА (1970), Францыск Скарына поруч з М. Ламаносавым, А. Пуціным і інш. быў назначены ў спісе «Выдатных дзеячаў славянскай культуры», юбілеі якіх знамянальна адзначаюць ва ўсім свеце, а 1990 год быў аб'яўлены Міжнародным годам Францыска Скарыны.

**Юніёр**, наз., м. р., -а. ◘ Малады спартсмен, дасягненні якога ацэньваюцца па асобым узроставым разрадзе. У нашай краіне вельмі моцны састаў юніёраў.

**Юнкер**, наз., м. р., -а. ◘ 1. У царскай Расіі — выхаванец ваеннага вучылішча, якое рыхтавала афіцэраў. 2. У рускай арміі і флоце — унтэр-афіцэр з дваран, які, праслужыўшы пэўны тэрмін і вытрымаўшы экзамен, мог стаць афіцэрам.

**Юннат**, наз., м. р., -а. ◘ Юны натураліст; удзельнік гуртка па вывучэнні прыроды. У мяне старэйшы брат Тры гады ўжо юннат; Што пасее ў агародзе, У яго заўсёды ўродзіць. І. Ш-о.

**Юхт**, наз., м. р., -у. ◘ Гатунак скуры са спецыяльна апрацаваных конскіх, каровіных і свіных шкур. Боты з юхту.

**Юшка**[1], наз., ж. р., ДМ юшцы. ◘ Чыгунная засланка ў коміне, якою закрываюць адтуліну, каб не выходзіла цяпло.

**Юшка**[2], наз., ж. р., ДМ юшцы. ◘ 1. Страва са свежай рыбы з прыправамі; рыбны адвар; рус. уха. 2. Жыжка ва ўсякай страве. 3. перан. Разм. Кроў.

♦ Пусціць юшку — ударыць да крыві.

# Я

**Явар**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Дрэва сямейства кляновых з вялікімі пяцілопасцевымі лістамі; белы клён. Каля сцежкі пахіліўся Явар да каліны. М. Б. 2. -у. Драўніна гэтага дрэва. Паркет з явару.

**Ягамосць**, наз., -я м. р. і -і ж. р. ◘ 1. Форма ветлівага звароту да некага; пан, васпан.

-Дык вось чаму я, ягамосці,
Мае вы міленькія госці,
І прадаю сваю пасаду, -
Казаў Хадыка ўсё да ладу. К-с.

Дарогу ж мы знаем
Да вас, ягамосці,
Да вас будзем ездзіць
Мы часта ў госці. А. Р.

2. Пра незнаёмага чалавека. Колькі ўсіх людзей у вёсцы — і маленькіх і вялікіх — паглядзець на ягамосця ўсе прыйшлі, як хто іх склікаў. У. Д.

**Ядваб**, наз., м. р., -у. Уст. і паэт. ◘ Шоўк. Абрус з ядвабу.

**Яднаць**, -аю, -аеш, -яе; незак. ◘ 1. Злучаць, звязваць; рус. соединять.

**Ядналі** мы воды: з ракою раку, І мора да мора цягнула руку. Т. К. 2. Аб'ядноўваць, згуртоўваць; ствараць паміж некім сяброўскія адносіны; рус. объединять. Згода і дружба яднаюць людзей.

**Ядомы**, прым. ◘ Прыгодны для спажывання, для скарыстання ў ежу; рус. съедобный. Ядомыя грыбы. □ Дома і салома ядома, на чужыне і гарачы тук стыне. Прык. (рус. Свое хозяйство милее чужого царства).

**Яечня і яешня**, наз., ж. р. ◘ Ежа з разбітых і запечаных у тлушчы яец; рус. яичница.

**Язмін**, наз., м. р., -у. ◘ Дэкаратыўны куст з белымі пахучымі кветкамі, сабранымі ў гронкі; рус. жасмин. Зноў пахне у руках тваіх язмін — Майго юнацтва весняга ўспамін. А. Л.

**Язычніцтва**, наз., н. р. ◘ Агульная назва старадаўніх формаў рэлігіі, якая вызначалася мнагабожжам; ідалапаклонства.

**Якасць**, наз., ж. р. ◘ 1. Характэрная адзнака, істотная ўласцівасць, якая адрознівае адзін прадмет ад другога; рус. качество. Гэты чалавек дзіўным чынам спалучаў у сабе многія якасці, самыя супрацьлеглыя. І. Ш. 2. Ступень прыгоднасці, вартасці нечага. Якасць прадукта.

**Якраз**, прысл. ◘ 1.У гэты час, у гэты момант; рус. как раз. Тут якраз і дождж паліўся. У. Д. 2. Дакладна, у поўнай адпаведнасці з нечым; як на мяне (яго, яе). Хата стаяла якраз насупраць хаты. Туфлікі якраз па назе. 3. Іменна, менавіта. Чалавек імкнецца выбраць тую сферу дзейнасці, дзе якраз і рэалізуюцца яго талент і лепшыя якасці.

**Ялавічына**, наз., ж. р. ◘ Мяса каровы як ежа; рус: говядина. Каўбаса з ялавічыны.

**Ялей**, наз., м. р., -ю. ◘ Аліўкавы алей, які выкарыстоўваецца ў царкоўным ужытку. Пах ялею.

**Яліна**, наз., ж. р. ◘ Высокая елка. Старыя хвоі і яліны, Высока кінуўшы галіны, Гпядзелі хораша, любоўна. К-с.

**Япрук**, наз., м. р., -а. Разм. ◘ Кабан. Дзікі япрук.

**Ярчэць**, -эю, -эеш, -эе; незак. ◘ 1. Станавіцца больш яркім, зіхатлівым. Святло набліжалася і ярчэла. 2. Станавіцца больш выразным, адчувальным, бачным. Людскія рукі ў працы нылі, А зрокярчэў ад шчасця жыць. М. Х.

**Ясакар**, наз., м. р., -а і -у. ◘ 1. -а. Чорная таполя. 2. -у. Драўніна гэтага дрэва. Мэбля з ясакару.

**Яскравы**, прым. ◘ 1-Выразны, ясны, яркі. Яскравае сонца. 2. перан. Пераканаўчы; яркі. Яскравы прыклад. Яскравае сведчанне.

**Ятвягі**, наз. ◘ Адно з старажытных заходнябалцкіх плямён, якое да XIII ст. насяляла тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі ракі Нараў.

**Ятка**, наз., ж. р., ДМ ятцы. Уст. ◘ Мясная лаўка, прылавак. Сярод натоўпу стаяла вялізная ятка, крытая ядвабам. У. Карат.

**Ятроўка**, наз., ж. р., ДМ -ўцы. ◘ Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата.

**Яць**, наз., м. р., -я. ◘ Назва літары «і» у царкоўнаславянскім і дарэвалюцыйным рускім алфавіце, якая пазней у беларускай мове супала з «е». Думаеце, сапраўдная грамата такая лёгкая. Не, ты спачатку папацей, патлумі сабе галаву, каб у яе ўвайшло, дзе дрэба «яць» паставіць, дзе «фіту». І. Н.

♦ На яць — пра некага, нешта, якія выдатныя па сваіх якасцях, вельмі добрыя, а таксама пра нешта вельмі добра, беззаганна зробленае. Адэліна радасна паведаміла матулі, што «экзамен здала на яць».

**Малы беларуска-рускі слоўнік прыказак**

1. Або рабое. — Два сапога пара.
2. Ад астрогу няма перасцярогу. — От тюрьмы да от сумы не зарекайся.
3. Ад хлусні не мруць, толькі і веры болей не даюць. — Кто вчера солгал, тому и завтра не поверят.
4. Антось ды Тадора — што лапаць ды абора. — Муж и жена — одна сатана.
5. Бабка спіць, а гусей пасе. — Солдат спит, а служба идет.
6. Байка з камара вырасце на вала. — Делать из мухи слона.
7. Банкет на ўвесь свет. — Пир на весь мир.
8. Бачылі вочы, што бралі (куплялі) — а цяпер ешце, хоць павылазьце. — Гпаза видали, что покупали.
9. Бачыў Бог, што не даў свінні рог. — Бодливой корове Бог рог не дает.
10. Бачыць вока, ды ляжыць далека. — Видит око, да зуб неймет.
11. Бачыць котка лой, ды не ёй. — Хорош кус, да не для наших уст.
12. Благая птушка свайго гнязда не пільнуе. — Сколько волка ни корми, а все равно в лес смотрит.
13. Благой благаце дрэнна і на куце. — На урода всё неугода.
14. Бог не цяля, бачыць круцяля. — Бог видит, кто кого обидит.
15. Божа, памажы, а ты, дурню, падбяжы. — На Бога надейся и сам не плошай.
16. Брахаць — не цэпам махаць. — Языком молоть — не дрова колоть. = Хвастать — не колеса мазать.
17. Будзе, тата, і на нашай вуліцы свята. — Будет и на нашей улице праздник.
18. Бяда ды мука — тая ж навука. — Беда всему научит.
19. Вуснамі мёд разлівае, а за пазухай камень трымае. — Мягко стелет, да жестко спать.
20. Галеча ды голад пагонянь на холад. — Беда всему научит.
21. Гні галінку, пакуль маладзенькая. — Куй железо, пока горячо.
22. Голад не дзядзіна — з'ясі і ўкрадзена. — Голод не тетка, пирожка не поднесет.
23. Гультай за работу — мазоль за руку. — Лентяй за дело — мозоль за тело.
24. Да пары збан ваду носіць: вушка адарвецца і збан паб'ецца. — Сколько веревочке ни виться, а конец будет.
25. Дарма і каза цераз плот не скача. — Даром бывает только сыр в мышеловке.

26. Дарма нічога на свеце няма. — Из спасиба шапки не сошьешь.
27. Дарэмна і каза не спела. — Даром и чирей не сядет, а все прежде почешется.
28. Дзе багата гаспадыняў, там хата нямеценая. — У семи нянек дитя без глаза.
29. Дзе вялікія выборы, там пасталы і аборы. — Много выбирать — женатым не бывать.
30. Дзе гаспадар мучыцца, там жывёла ручыцца. — Доход не * живет без хлопот.
31. Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш. — Из спасиба шапки не сошьешь.
32. Добрая жонка — дома рай, благая — хоць ты цягу дай. — Хорошая жена — веселье, а худая — злое зелье.
33. Дома і салома ядома, на чужыне і гарачы тук стыне. — Свое хозяйство милее любого царства.
34. З мілым па душы — рай і ў шалашы. — С милым рай и в шалаше.
35. Здарыцца на вяку і па спіне і па баку. — Век долог — всем полон.
36. Злазь з даху — не псуй гонту. — Не в свои сани не садись.
37. Каваль без сякеры, а шавец без ботаў. — Сапожник без сапог.
38. Кажуць, што і масла хлебам мажуць. — Говорят, что кур доят.
39. Кажы — стрыжана, а ён — голена. — Я про Фому, а он про Ерему.
40. Каза ваўку дарма не скача. — Даром бывает только сыр в мышеловке.
41. Казалі-гаварылі, што ходзіць Базыль да Марылі. — Говорят, что кур доят.
42. Кожнай сястрыцы па завушніцы. — Всем сестрам по серьгам.
43. Кожнаму брату па дукату. — Всем сестрам по серьгам.
44. Колас, што зярнят не мае, угару лоб задзірае. — Пустую бочку слышнее, чем полную.
45. Круці жорны пільна, то й тут будзе Вільня. — Терпенье и труд все перетрут.
46. Ладзь калёсы зімою, а сані летам. — Готовь сани летом, а телегу зимой.
47. Ласы на чужыя каўбасы. — Берут завидки на чужие пожитки.
48. Лепей жабраваць, чым красці. — Лучше по миру собирать, чем чужое брать.
49. Лепей з разумным згубіць, чым з дурным знайсці. — Услужливый дурак опаснее врага.

374 *

50. Лепей сем разоў змарыцца, як адзін раз пасварыцца. — Худой мир лучше доброй ссоры.

51. Лепш папрасі, а так не нясі. — Лучше по миру собирать, чем чужое брать.
52. Ліха без дабра не бывае. — Нет худа без добра.
53. Ліхі сабака спадцішка кусае. — Речами тих, да сердцем лих.
54. Ліхое ніколі не ўтоіцца. — Шило в мешке не утаишь.
55. Мазалёваю працай не набудзеш палацаў. — От трудов праведных не наживешь палат каменных.
56. Маўчы, як жаба ў кармы. — Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами.
57. Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. — Язык мой — враг мой.
58. Муж і жонка — найлепшая суполка. — Муж и жена — одна сатана.
59. На аднаго мужыка злыдняў талака. — Один с сошкой, а семеро с ложкой.
60. На Бога спадзявайся, але і сам старайся. — На Бога надейся и сам не плошай.
61. На вуснах мёд, а на сэрцы лёд. — Мягко стелет, да жестко спать.
62. На чужы каравай вачэй не парывай. — Чужой обед сладок, да непрочен.
63. Навука хоць намучыць, але жыць навучыць. — Гоамоте учиться — всегда пригодится.
64. Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а шукай у агародзе. — С лица воду не пить.
65. Не гані Бога ў лес, калі ён табе за пазуху залез. — Не гневи Бога.
66. Не ганьбуй старым ботам, пакуль новага не пашыў. — Новых друзей набывай, но и старых не забывай.
67. Не ганьбуючы, не купіш, не хвалячы, не прадасі. — Всякий купец свой товар хвалит.
68. Не гняві Бога, не жадай чужога. — На чужой каравай рот не разевай.
69. Не зыч ліха другому, каб не давялося самому. — Не смейся чужой беде, своя нагряде.
70. Не плюй у крыніцу: прыйдзеш па вадзіцу. — Не плюй в колодец — пригодится воды напиться.
71. Не радзіся красны, а радзіся шчасны. — Не родись красивым, а родись счастливым.
72. Не тады студню капаць, як трэба смагу прагнаць. — Не тогда собак кормить, как на охоту идти.
73. Не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца. — Человек предполагает, а Господь распопагает.

74. Не чакай падзякі ад прыблуднага сабакі. — Сколько волка ни кормй, все равно в лес смотрит.
75. Не частуй ні піўцом, ні вінцом, а прывітай шчыранькім слаўцом. — Дорог не обед, а привет. = Не пиво диво, а честь дорога.
76. Ні шавец, ні кравец, ні каваль, ні стругаль. — Ни швец, ни жнец, ни в дуду игрец.
77. Ніхто наперад не знае, што каго чакае. — Человек предполагает, а Господь располагает.
78. Няма грошай — не бяда, як сяброў грамада. — Не имей сто рублей, а имей сто друзей.
79. Няма роду без выроду. — В семье не без урода.
80. Па кропельцы — рэчка, па травінцы — копка, а па копцы — стог. — Копейка рубль бережет.
81. Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам. — Нашла коса на камень.
82. Пазычай — як умееш, аддавай — хораша. — Долг платежом красен.
83. Пакуль жаніцца, загаіцца. — До свадьбы заживет.
84. Памажы, Божа, але й ты не ляжы, нябожа. — На Бога надейся и * сам не плошай.
85. Пан над самім сабою і над сваёй душою. — Своя рука владыка. = Сам себе хозяин.
86. Панадзіўся журавель да нашых канапель — паспытае аглабель. — Повадился кувшин по воду ходить — там ему и голову сломить.
87. Першае цялятка — шчанятка. — Первый блин комом..
88. Пільнуй гаспадаркі — будуць у гаршку скваркі. — Доход не живет без хлопот.
89. Праз хлеб хлеба шукаць не трэба. — От добра добра не ищут.
90. Працуем і смак чуем. — Умелые руки не знают скуки.
91. Прыгажэйшае — даражэйшае, а што заганнае, тое таннае. — Дорого, да мило, дешево, да гнило.
92. Ранняя птушка дзюбу калупае, а позняя вочкі прадзірае. — Ранняя птичка носок прочищает, а поздняя глазки продирает.
93. Розум прыходзе па шкодзе. — Задним.умом крепок.
94. Рыззём трасе, а пятак на гарэлку нясе. — Пьяница так сведет домок, что не нужен и замок.
95. Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой. — Готовь летом сани, а & зимой телегу.
96. Свая сярмяжка нікому не цяжка. — Своя ноша не тянет.
97. Свой над вірам патрасе, але ў вір не панясе. — Свои люди — • сочтемся.

98. Сівізна ў бараду, а чорт у галаву. — Седина в бороду — бес в ребро.
99. Сквапны двойчы плоціць, а дурны двойчы ходзіць. — Скупой платит дважды. = Бестолковая голова ногам покоя не дает.
100. Скнарыца і за трэску пасварыцца. — Скупой из блохи голенище кроит.
101. Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. — Смерть за воротами не ждет.
102. Сорам не воран — вочы не выдзеўбе. — Стыд не дым, глаза не выест.
103. Спроба — не хвароба. — Попытка не пытка, а спрос не беда.
104. Старцу пажар не страшны. — Голому разбой не страшен.
105. Сухоты ў кішэнь упалі. — Болеть карманной чахоткой. = В кармане — вошь на аркане.
106. Сядзіць як сыч і думае, што паніч. — Шишка на ровном месте.
107. Сярмяга — не знявага, а жупан — не вялікі пан. — Бедность — не порок.
108. Талер маленькі, а даражэнькі. — Мал золотник, да дорог.
109. Там Бог раюе, дзе жонка мужа шануе. — Хорошая жена — веселье, а худая — злое зелье.
110. Той самы чорт — хоць сабака, хоць хорт. — Не мытьём, так катаньем.
111. Трапіў, дзедку, у клетку. — Попался, который кусался.
112. Трапіцца на вяку варыць капусту ў гляку. — Век долог — всем полон.
113. Трымай язык на прывязі. — Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами.
114. Трэба жыць, як набяжыць. — Плыви, мой челн, по воле волн.
115. Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца. — Без труда не вынешь и рыбку из пруда.
116. Тыдзень з алеем, а тыдзень галеем. — Перебиваться с хлеба на квас.
117. У вочы з мільм тварам, а за вочы — крутым варам. — Мягко стелет, да жестко спать.
118. У каго адвага, у таго й перавага. — Смелость города берет.
119. У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца. — Богатому черти деньги куют.
120. У крыніцу не носяць вадзіцу. — В гости со своим самоваром не ходят.
121. У недарэкі рукі калекі. — Лентяй за дело — мозоль за тело.

122. У роднай старонцы самі мелюць жаронцы. — У нас на Рязани и свинья в сарафане.
123. У студню вады не льюць, а ў лес дроў не вязуць. — В гости со своим самоваром не ходят.
124. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. — Назвался груздем — полезай в кузов.
125. Унадзілася свінка ў ніўку: ці ніўку сажні, ці свінку забі. — Повадился кувшин по воду ходить — там ему и голову сломить.
126. Упартая каза ваўку на карысць. — Упрямый, что лукавый: ни Богу свечка, ни черту кочерга.
127. Усе чэрці адной шэрсці. — Из одного теста.
128. Усяе талакі — свае дзве рукі. — Один-одинёшенек.
129. Уцякаў ад пана, а папаў да войта. — Из огня да в полымя.
130. Хвалілася Ганна, што выйдзе за пана. — Хвасталась овца, что у нее хвост, как у жеребца.
131. Хваліцца — не касіць, рука не забаліць. — Хвастать — не колеса мазать.
132. Хваробы бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся. — От тюрьмы да от сумы не зарекайся.
133. Хлуслівага лягчэй злавіць, чым кульгавага. — Ложь не живуща, вранью короткий век.
134. Хлуснёй свет пройдзеш, ды назад не вернешся. — Кто вчера солгал, тому и завтра не поверят.
135. Хлусня як алей — выйдзе наверх. — Ложь не живуща, вранью короткий век.
136. Хмель не вада — чалавеку бяда. — Пить да гулять — добра не видать.
137. Хоць які целяпей, але ўдваіх ляпей. — Худ мой Устим, да лучше с ним.
138. Хто дбае, той і мае. — Кто спит весной, плачет зимой.
139. Хто зашмат жадае, той нічога не мае. — За двумя зайцами погонишьсяни одного не поймаешь. = Много желать — добра не видать.
140. Хто каго кахае, той таго й чапае. — Милые бранятся — только тешатся.
141. Хто лісліві, той кусліві. — Речами тих, да сердцем лих.
142. Хто моцна жадае, той і мае. — Кто ищет, тот найдет.
143. Хто полю годзіць, у таго жыта родзіць. — Доход не живет без хлопот.
144. Хто сам сябе сцеражэ, таго й Бог беражэ. — Береженого Бог бережет.

145. Хто сябе хваліць, няхай таго пярун спаліць. — Кто сам себя хвалит, в том пути не бывает.
146. Хто цярплівы, той шчаслівы. — Терпи, казак, атаманом будешь.
147. Хто шмаруе, той і едзе. — Не подмажешь — не поедешь.
148. Хціўы хітруе, а чорт дзірку гатуе. — Жадный копит, а черт мошну тачает.
149. Цікаўнай Амілі нос прышчамілі. — Любопытной Варваре нос оторвали.
150. Цікаўная Тэкля палезе і ў пекла. — Любопытной Варваре нос оторвали.
151. Ціхая вада грэблю рве. — В тихом омуте черти водятся.
152. Цюк дзяцюк. — Легок на помине.
153. Цяжка ўздыханне — далека каханне. — Не мил свет, когда милого нет.
154. Цяпер нас катуеш, можа калі і сам патанцуеш. — Отольются кошке мышкины слезки.
155. Чаго не хочаш самому, не чыні другому. — Чего сам не любишь, того и другому не желай.
156. Чарка і сварка да дабра не вядуць. — Кто вино любит, тот себя губит.
157. Частавалі, чым мелі, весялілі, як умелі. — Чем богаты, тем и рады.
158. Чорт кадуку — родны брат. — Два сапога пара.
159. Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў. — Рыбак рыбака видит издалека.
160. Чорту душу аддаў, бо часта ў чарку заглядаў. — Кто вино любит, тот себя губит.
161. Чужы роцік не каўнерык — яго не зашпіліш. — На чужой роток не накинешь платок.
162. Шануйся замалада — не напаткае бяда. — Береги платье снову, а честь смолоду.
163. Што ні край, то свой звычай. — Что город, то и норов, что деревня, то и обычай.
164. Што цвярозы думае, п'яны скажа. — Что у трезвого на уме, то у пьяного на языке.
165. Шыць — з шаўцамі, а выць — з ваўкамі. — С волками жить — поволчьи выть.
166. Я яму пра рэч, а ён мне пра печ. — Я про Фому, а он про Ерему.
167. Як Бог красу дзяліў — спала, як Бог шчасце дзяліў — устала. — Не родись красивой, а родись счастливой.

168. Як з пана пан, то аддасць валы, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы. — Из грязи да в князи.
169. Як не стала хлеба, дык і нож не трэба. — Снявши голову, по волосам не плачут.
170. Як ні ары, абы чорным дагары. — Не мытьем, так катаньем.
171. Як пайшоў у сварку, то не шкадуй карку. — Пустился в драку — головы не жалей.
172. Як пойдзеш нацянькі, то праходзіш тры дзянькі. — Не зная броду, не суйся в воду.
173. Якая карова, такое і цялятка; якая матка, такое і дзіцятка. — Яблоко от яблони недалеко падает.
174. Якая справа, такая і слава. — По труду и честь.
175. Які млын, такі і ставок, які бацька, такі і сынок. — Яблоко от яблони недалеко падает.
176. Які пан, такі і жупан. — Каков Дема, таково у него и дома.
177. Які Рыгорка, такая пра яго гаворка. — Какова пава, такова ей и слава.
178. Які чорт да лазні, такі і пасля лазні. — Черного кобеля не отмоешь добела.
179. Якое карэнне, такое і насенне. — Каково семя, таково и племя.
180. Яму — пра абразы, а ён — пра гарбузы. — Я про Фому, а он про Ерему.

## ІНШЫЯ УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

А. А. Анатоль Астрэйка
А. Ал. Андрэй Александровіч
А. Ас. Алесь Асіпенка
А. Аст. Алесь Астапенка
А. Б. Антон Бялевіч
А. Б-а Алесь Бачыла
А. Б-аў Андрэй Бітаў
А. Б-о Алесь Бажко
А. В. Анатоль Вярцінскі
А. Вас. Алена Васілевіч
А. В-і Артур Вольскі
А. Вял. Анатоль Вялюгін
А. Г. Алесь Гурло
А. Гр. Анатоль Грачаннікаў
А. Дз. Авяр'ян Дзеружынскі
А. З. Аляксей Зарыцкі
А. З-к Алесь Звонак
А. К. Аляксей Карпюк
А. Кул. Аляксей Кулакоўскі
А. Л. Алег Лойка
А. М. Аркадзь Марціновіч
А. Макар А. Макарэвіч
А. П. Алесь Пісьмянкоў
А. Паг. А. Пагоскі
А. Пал. Алесь Пальчэўскі
А. Р. Адам Русак
А. С. Алесь Савіцкі
А. Ст. Алесь Ставер
А. Ф. Андрэй Федарэнка
А. Ч. Аркадзь Чарнышэвіч
А. Я. Алесь Якімовіч
Ар. К. Аркадзь Куляшоў
Б. С. Барыс Сачанка
БелЭн Беларуская энцыклапедыя
Бітэль Пятро Бітэль
Брыль Янка Брыль
Бяг. Ядвіга Бяганская
В. Б. Васіль Быкаў
В. В. Васіль Вітка
В. В-І Віталь Вольскі
В. Кус. Валерыя Кустава
Лозка Аляксандр Лозка
М. А. Мікола Аўрамчык
М. Ал. Мікалай Алексютовіч
М. Ар. Мікола Арочка
М. Б. Максім Багдановіч
М. В. Міхась Васілёк
М. Вад. Мікола Ваданосаў
М. Г. Мікола Гусоўскі
В. М. Васіль Матэвушаў
В. Х. Васіль Хомчанка
В. Ш. Віктар Шымук
Вярба Вера Вярба
Г. Б. Генадзь Бураўкін
Г. Ш. Георгій Шыловіч
Гамолка Мікола Гамолка
Гарун Алесь Гарун
Гаўрусёў Сцяпан Гаўрусёў
Граніт Пятрусь Граніт
Даль Уладзімір Даль
Е. Л. Еўдакія Лось
З. А. Змітрок Астапенка
З. Б. Змітрок Бядуля
З. Ж. Зоя Жукоўская
З. М. Зміцер Марозаў
І. А. Ігар Афанасьеў
І. Г. Ілья Гурскі
І. К. Іван Кудраўцаў
І. К-к Іван Калеснік
І. М. Іван Муравейка
І. Н. Іван Навуменка
І. С. Іван Сяркоў
І. С-оў іван Сіўцоў
І. Ч. Іван Чыгрынаў
І. Ш. Іван Шамякін
І. Шк. Ірына Шкраба
І. Ш-о Іван Шуцько
К. Б. Канстанцыя Буйло
К. К. Кандрат Крапіва
К. Кам. Казімір Камейша
К, Кір. Кастусь Кірэенка
К. Ч. Кузьма Чорны
К-а Янка Купала
Клышка Анатоль Клышка
К-с Якуб Колас
Л. А. Лідзія Арабей
Л. Г. Ларыса Геніюш
Л. Г-н Леанід Гаўрылкін
Л.Д. Леанід Дайнека
Л. С. Леў Сапега
Л. Ш. Леў Шакун
М. Гар. Максім Гарэцкі
М.Д. Міхась Даніленка
М. Е. Мікола Ермаловіч
М. З. Міхась Зарэцкі
М. К. Міхась Калачынскі
М. Кап. Мікола Капыловіч
М. Л. Міхась Лынькоў
М. Л-н Мікола Лобан

| | |
|---|---|
| М. Луж. | Максім Лужанін |
| М. М. | Міхась Машара |
| М. Р. | Мікола Ракітны |
| М. С. | Марк Смагаровіч |
| М. Ст. | Міхась Стральцоў |
| М. Т. | Максім Танк |
| М.Тк. | Мікола Ткачоў |
| М. Х. | Мікола Хведаровіч |
| М. Ч. | Міхась Чарот |
| Маўзон | Аркадзь Маўзон |
| Мележ | Іван Мележ |
| Мень | Аляксандр Мень |
| Н. Г. | Ніл Гілевіч |
| Н. Г-я | Ніна Галіноўская |
| Н. П. | Навум Перкін |
| Н.Т. | Ніна Тарас |
| Н. Ч. | Нічьпар Чарнушэвіч |
| П. Б. | Пятрусь Броўка |
| П. Г. | Пятро Глебка |
| П. Гал. | Платон Галавач |
| П. Гр. | Пятрусь Граніт |
| П. м. | Пятрусь Макаль |
| П. М-о | Павел Місько |
| П. П. | Пімен Панчанка |
| П. Пр. | Паўлюк Пранузa |
| П. Пр-а | Пятро Прыходзька |
| П. Т. | Паўлюк Трус |
| Пысін | Аляксей Пысін |
| Р. Б. | Рыгор Барадулін |
| Р. Н. | Рыгор Няхай |
| Р. С. | Раман Сабаленка |
| Р. Т. | Раман Тармола |
| Р. Ш. | Рыгор Шкраба |
| С. А. | Сцяпан Александровіч |
| С. Г. | Сяргей Грахоўскі |
| С.Дз. | Сяргей Дзяргай |
| С. З. | Сяргей Законнікаў |
| Т. К. | Тодар Кляшторны |
| Т. Х. | Тарас Хадкевіч |
| У. А. | Уладзімір Арлоў |
| У. Дадз. | Уладзімір Дадзіёмаў |
| у. д. | Уладзімір Дубоўка |
| У. К. | Уладзімір Корбан |
| У. Кар. | Уладзімір Карпаў |
| У. Карат. | Уладзімір Караткевіч |
| У. К-к | Уладзімір Калеснік |
| У. Кр. | Усевалад Краўчанка |
| У. М. | Уладзімір Мехаў |
| У. Н. | Уладзіслаў Нядзведскі |
| У. С. | Уладзімір Скарынкін |
| У. Ш. | Уладзімір Шахавец |
| У. Ю. | Уладзімір Юрэвіч |
| Ф. Б. | Францішак Багушэвіч |
| Ф. С. | Францыск Скарына |
| Ф. Я. | Фёдар Янкоўскі |
| Х. Ж. | Хведар Жычка |
| Ц. Г. | Цішка Гартны |
| Шушк. | Станіслаў Шушкевіч |
| Э. В. | Эдуард Валасевіч |
| Э. С. | Эдуард Самуйлёнак |
| Ю. Л. | Юрка Лявонны |
| Ю. С. | Юрась Свірка * |
| Я. Е. | Якуб Ермаловіч |
| Я. Ж. | Янка Журба |
| Я. К. | Янка Казека |
| Я. М. | Янка Маўр |
| Я. Н. | Янка Непачаловіч |
| Я. П. | Язэп Пушча |
| Я. С. | Янка Сіпакоў |
| Я. Ш. | Ядвігін Ш. |
| Ян Б. | Ян Баршчэўскі |